# НАРОДНЫЯ СКАРБЫ



Дыялекталагічны зборнік

да 80-годдзя А.А. Крывіцкага

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы

# НАРОДНЫЯ СКАРБЫ

**Дыялекталагічны зборнік**

**Да 80-годдзя А.А. Крывіцкага**

Мінск
ВТАА "Права і эканоміка"
2008

УДК 808.26-3
ББК 83.3.
Н30

Рэдактар:
кандыдат філалагічных навук
Л.П. Кунцэвіч

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук Г.Ф. Вештарт
кандыдат філалагічных навук Н.В. Паляшчук

Н30 **Народныя** скарбы: Дыялекталагічны зборнік (Да 80-годдзя А.А. Крывіцкага) / рэд. Л.П. Кунцэвіч; Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 388 с. – ISBN 978-985-442-543-6.

Кніга змяшчае падборкі дыялектных слоў з розных рэгіёнаў Беларусі. Кожны артыкул афармлены ў выглядзе невялікага слоўнічка, да кожнага слова падаецца багаты ілюстрацыйны матэрыял. У раздзеле "Навуковыя даследаванні" змешчаны артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах, падрыхтаваныя на дыялектным матэрыяле. Завяршае кнігу раздзел "Тэксты".

Разлічана на моваведаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.

**УДК 808.26-3**
**ББК 83.3**



**ISBN 978-985-442-543-6**

# ПРАДМОВА

16 жніўня 2007 года споўнілася 80 год з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўцы кандыдата філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксандра Антонавіча Крывіцкага. З яго імем звязана станаўленне і развіццё дыялекталагічных даследаванняў у другой палове XX-га стагоддзя ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі і наогул у рэспубліцы. Пераважная большасць навуковых прац А.А. Крывіцкага звязана з пытаннямі беларускай дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі і падрыхтавана на аснове дыялектных матэрыялаў, сабраных ім самім у час шматлікіх дыялекталагічных экпедыцый.

Дыялекталагічны зборнік “Народныя скарбы” паслядоўнікі і вучні Аляксандра Антонавіча Крывіцкага прысвячаюць юбілею вядомага вучонага. Гэта кніга з’яўляецца працягам публікацый васьмі дыялекталагічных зборнікаў[1], падрыхтаваных супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, у якіх асвятляюцца важнейшыя пытанні дыялектнай лексікаграфіі, лексікалогіі, фразеалогіі, анамасіялогіі і інш.

Матэрыялы ў зборніку размеркаваны па чатырох раздзелах. Раздзел 1 “З лексікі народных гаворак” складаюць пераважна слоўнічкі, падборкі дыялектнай лексікі, якая запісана ў розных рэгіёнах Беларусі і адлюстроўвае сучасны стан беларускіх народных гаворак. Словы, змешчаныя ў гэтых падборках, з’яўляюцца дыфэрэнцыяльнымі ў адносінах да слоўніка беларускай літаратурнай мовы. Лексіка размешчана ў алфавітным парадку, пры кожным слове падаецца ілюстрацыя. У раздзеле 2 “Фразеалогія” падаюцца фразеалагізмы гаворак Беларусі. У трэці раздзел “Навуковыя даследаванні” ўключаны навуковыя артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах, падрыхтаваныя на дыялектным матэрыяле. Чацвёрты раздзел “Тэксты беларускіх гаворак” змяшчае ўзоры дыялектнага маўлення мясцовых жыхароў з розных куткоў Беларусі (запісы зроблены пераважна ў час дыялекталагічных экспедыцый супрацоўнікамі аддзела). У канцы кнігі падаецца агульны алфавітны індэкс усіх дыялектных слоў, змешчаных у падборках лексікі, з указаннем старонкі, на якой ужыта слова.

Зборнік будзе карысным не толькі для мовазнаўцаў, але і для этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў і ўсіх аматараў роднага слова.

---

[1] З народнага слоўніка. – Мінск, 1975; Народнае слова. – Мінск, 1976; Народная лексіка. – Мінск, 1977; Народная словатворчасць. – Мінск, 1979; Жывое народнае слова. – Мінск, 1992; Гавораць чарнобыльцы. – Мінск, 1994; Жывое наша слова. – Мінск, 2001; Скарбы народнай мовы. – Мінск, 2005.

*В.М. Курцова*

# АЛЯКСАНДР АНТОНАВІЧ КРЫВІЦКІ — ГОНАР І СЛАВА СЛАВЯНСКАЙ ДЫЯЛЕКТАЛОГІІ

Сярод тых навукоўцаў, працы каго прэзентуюць узровень стану развіцця і дасягненняў сучаснай дыялекталагічнай навукі ў Беларусі, першае месца належыць, без перабольшвання, Аляксандру Антонавічу Крывіцкаму. Ягоныя публікацыі — узор сапраўднай навуковасці, лагічнай выверанасці і канцэптуальнай завершанасці. Гэта выяўляецца ў кожнай навуковай працы, да стварэння якой ён спрычыніўся, — ад артыкула да манаграфіі, ад лексікаграфічнага слоўніка да лінгвагеаграфічнага атласа, ад калектыўнага тэарэтычнага даследавання да дыялекталагічнага зборніка. У асэнсаванні любой моўнай з'явы, вывучэннем якой бы ні займаўся А.А. Крывіцкі, адчуваецца глыбіня ў пошуках ісціны, раскрыццё якой грунтуецца на яе ўсебаковым аналізе. У апошнім — веліч розуму бліскучага даследчыка і ў гэтым прыцягальнасць яго навуковых даследаванняў. Час не прытушвае іх важнасці, а ўзровень верыфікацыйнасці матэрыялу дазваляе ўспрымаць устаноўленыя факты як бясспрэчныя.

А.А. Крывіцкі нарадзіўся 15 жніўня 1927 г. у в. Залессе Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў родзе майстравітых мясцовых людзей. У сям'і тых беларусаў, якія не толькі займаліся традыцыйным земляробствам, а якія яшчэ і сябравалі з тыповым сельскім рамяством: выконвалі цяслярскія работы, ладавалі бондарскае начынне — бочкі, кублы, дзежкі і інш., даглядалі пчол. Малы Алесь і падрослы Саша, як і амаль кожнае вясковае дзіця, меў свае абавязкі па гаспадарцы і дапамагаў па дзіцячых сілах бацькам. Пасталеў надзвычай рана. Вайна зрабіла юнака дарослым. На фронт А.А. Крывіцкі трапіў папросту падлеткам. Гэта адбылося ў 1944 годзе. Ён ваяваў у войсках 2-га Украінскага фронта. У складзе апошняга прайшоў Аўстрыю, Венгрыю, Чэхаславакію. Пасля заканчэння вайны вучыўся ў Магілёўскім дзяржаўным настаўніцкім інстытуце на аддзяленні мовы і літаратуры (1947-1952). Атрымаўшы кваліфікацыю настаўніка, А.А. Крывіцкі накіраўся на працу ў мястэчка Карэлічы. Аднак на пасадзе настаўніка мовы і літаратуры затрымаўся ненадоўга, працаваў у школе з 1951 па 1952 гг. З гэтага ж года ён звязаў сваю жыццёвую дарогу з Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. На адным месцы навуковец адпрацаваў больш паўстагоддзя — з 1952 па 2007 гг. Зайздросны працоўны шлях! Пачаў аспірантам і закончыў кар'еру вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

Жыццё ў навуцы было прысвечана вывучэнню традыцыйных мясцовых гаворак, з апорай на якія быў укладзены новы варыянт маладой па часе функцыянавання беларускай літаратурнай мовы. Удасканальванне нормазабяспечвальных сродкаў агульнанацыянальнай мовы вымагала няспыннага глыбокага і рознабаковага даследавання яе базы — дыялектнага маўлення. Відаць таму тэма беларуская дыялекталогія стала дамінантнай і вызначальнай у розных па характары напісання працах А.А. Крывіцкага, а прыярытэтная метадалогія, пры дапамозе якой ажыццяўляліся яго лінгвістычныя даследаванні, была і застанецца

лінгвагеаграфічная. На ёй грунтуецца пераважная большасць навуковых публікацый вядомага моваведа, якраз з апорай на яе А.А. Крывіцкім былі растлумачаны шматлікія моўныя з'явы ў беларускім маўленні. Таму невыпадкова, што вельмі многае ў творчых занятках лінгвіста аддадзена непасрэдна стварэнню базавых, зыходных для наступных аналітычных росшукаў лінгвагеаграфічных выданняў ці інтэрпрэтацыі атрыманых звестак. Зрэшты, да слова сказаць, менавіта з лінгвагеаграфічнай метадалогіяй асабіста А.А. Крывіцкі звязвае перспектыўныя напрамкі развіцця нацыянальнай дыялекталогіі па вызначэнні характару складвання беларускага лінгваландшафту ў яго рознаструктурных сродках.

Кропкай адліку ў мэтанакіраваных занятках па вывучэнні А.А. Крывіцкім беларускай дыялектнай мовы ў прасторы яе пашырэння, пачаткам ва ўстанаўленні тэрытарыяльных адносін паміж рознымі групамі беларускіх гаворак у іх ўзаемадзеянні паміж сабой можна лічыць ягоную кандыдацкую дысертацыю "Формы асабовых і зваротнага займеннікаў сучаснай беларускай мовы ў іх гісторыі", абароненую ў 1959 г. пад кіраўніцтвам вядомага расійскага даследчыка Р.І. Аванесава.

Час прыходу А.А. Крывіцкага ў навуку лінгвістыку быў перыядам, калі ўсходнеславянскае мовазнаўства пачало актыўна займацца лінгвістычнай геаграфіяй. У беларускім мовазнаўстве таксама запанаваў прыярытэт лінгвагеаграфіі перад лексікаграфічнымі навуковымі, метадалагічна падрыхтаванымі даследаваннямі і традыцыйнымі дыялекталагічнымі параўнальна-гістарычнымі і апісальнымі працамі. З'яўленне "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" ў пасляваенны перыяд (1963) — гэта не што іншае, як час трыумфу нацыянальнай дыялекталагічнай навукі ў Беларусі. На картах лінгвагеаграфічнага атласа вусная народна-дыялектная мова знайшла сваё панарамнае адлюстраванне ў прасторы яе пашырэння. Тым самым у навуковы ўжытак была ўведзена фундаментальная база навуковых, храналагічна суадносных звестак аб гаворках беларускай мовы ў межах нацыянальнага дыялектнага ландшафту. Адначасова комплексны ландшафтны здымак беларускай мовы як найбагацейшай крыніцы звестак аб адметных з'явах у гаворках дазваляў беларускім даследчыкам тэарэтычна асэнсаваць інфармацыю, адлюстраваную на картах. Тым самым з'явілася магчымасць адказаць на пытанне, што ўяўляе сабой беларуская мова як сістэма структурных сродкаў у іх тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі і ўзаемадзеянні паміж сабой. Вынікам асэнсавання матэрыялаў, змешчаных на лінгвагеаграфічных картах атласа стала серыя публікацый, падрыхтаваных у аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі НАН Беларусі. Гэта: "Нарысы па беларускай дыялекталогіі" (1964), "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" (1962), "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (1968 - 1969). Разам з ДАБМ яны склалі адметны комплекс навукова-даследчых прац, якія ўпэўнена можна назваць навуковым капіталам нацыянальнага мовазнаўства. У стварэнні ўсіх пералічаных выданняў самы чынны ўдзел браў А.А. Крывіцкі. Дзяржава высока ацаніла яго асабісты ўклад. А.А. Крывіцкі стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР за 1971 г.

Няспыннай часткай даследаванняў у лінгвагеаграфічным кірунку і іх натуральным працягам (пасля публікацыі ДАБМ) у навуковай дзейнасці вядомага

навукоўца з'яўлялася праца над пяцітомным "Лексічным атласам беларускіх народных гаворак" (1993 - 1998). Працуючы над дадзеным праектам, А.А. Крывіцкі разам з іншымі супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі пад кіраўніцтвам яго загадчыка Ю.Ф. Мацкевіч прымаў удзел літаральна ва ўсіх этапах па яго рэалізацыі. Так, займаўся складаннем і рэдагаваннем "Інструкцыі па збіранню матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускай мовы" (1971), для якой падрыхтаваў тэму "Рыбы і рыбалоўства", рыхтаваў да публікацыі праект "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак", распрацоўваў пытанні метадалогіі картграфавання матэрыялаў, нарэшце ўкладаў лінгвістычныя карты. Ён таксама ўваходзіў у склад рэдкалегіі 1—5 тамоў атласа. Праца над ЛАБНГ памножыла яго славу бліскучага лінгвагеографа Беларусі, аднаго з галоўных спецыялістаў у дадзенай галіне нацыянальнай навукі. Аднак глыбіня разумення лінгвагеаграфічнай метадалогіі, уменне сістэмна падыходзіць да яе выкарыстання асабліва паслядоўна была ўвасоблена А.А. Крывіцкім у час працы па стварэнні буйнейшых міжнародных лінгвагеаграфічных праектаў — "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа" і "Лінгвістычнага атласа Еўропы". Членам рэдкалегіі гэтых выданняў, складальнікам карт ён быў і застаецца. Акрамя таго, даследчык стаў непасрэдным распрацоўшчыкам канцэпцыі карты як ілюстрацыйнага комплексу ўзаемаабумоўленых моўных звестак, пададзеных праз сістэму графічных знакаў. Такое "бачанне" лінвагеаграфічнай карты якраз характэрна для выдання "Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Минск, 2000".

Лінгвагеаграфічную серыю ў навуковых даследаваннях А.А. Крывіцкага дапаўняюць публікацыі па тэарэтычнаму асвятленню пытання, што ўяўляе сабой лінгвагеаграфія як асаблівая галіна лінгвістыкі. Спробай асэнсаваць яе была спачатку навукова-папулярная брашура "Што такое лінгвагеаграфія" (1986). Тэарэтычнай даследчай распрацоўкай, дзе лінгвагеограф памкнуўся раскрыць набыткі нацыянальнай лінгвагеаграфіі згодна гісторыі яе развіцця, з'явілася манаграфія "Лінгвістычная геаграфія беларускай мовы" (у сааўтарстве, не апублікавана).

Вывучэнне народных гаворак, якім прысвяціў сваё творчае жыццё ў навуцы А.А. Крывіцкі, з'явілася штуршком і стала падставай для адлюстравання дыялектнай спецыфікі ў шматлікіх падручніках і вучэбна-метадычных дапаможніках па беларускай літаратурнай мове, адрасаваных студэнтам і проста аматарам роднага слова. Сярод толькі спецыяльных кніжных выданняў: "Беларуская мова для небеларусаў" (1973, 1978), "Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску" (1990), "Белорусский язык для говорящих по-русски" (1990), "Учебник белорусского языка для самообразования" (1994), а таксама дапаможнік "Фанетыка беларускай мовы" (1984) і не менш сур'ёзны па зместу падручнік "Практыкум па фанетыцы беларускай мовы" (1989) і інш. Гэтыя падручнікі, дапаможнікі напісаны ў сааўтарстве, але многія іх раздзелы, якія былі падрыхтаваны асабіста А.А. Крывіцкім, вызначаюцца арыгінальнасцю ў падачы і інтэрпрэтацыі матэрыялу, інфарматыўнай насычанасцю.

Велізарная любоў да беларускага слова, шчыраванне на ніве свайго галоўнага прадмета навуковых росшукаў — у галіне дыялекталогіі — праз раскрыццё таямніц мясцовых гаворак беларускай мовы выключна для ўсіх, але толькі на важкім

тэарэтычным грунце, асабліва выразна адчуваецца ў такіх публікацыях даследчыка, як: нарысы "Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі" (1961), "Наша родная мова" (1964, 3-е выд. 1973), "У рытме з развіццём мовы" (1976). Да ліку асаблівых і адметных тэарэтычных прац, у якіх вызначаецца стан беларускага народнага маўлення на мяжы XX-га і XXI-га стст. і выяўляецца дынаміка перспектыўнага развіцця мясцовых гаворак належыць даследаванне "Гаворкі беларускай мовы, пасляваенная моўная сітуацыя і дынаміка маўлення ў Беларусі" (1998).

Лагічным завяршэннем у асэнсаванні шляхоў развіцця беларускай дыялекталагічнай навукі на працягу ўсёй гісторыі яе функцыянавання стала асабістая манаграфія А.А. Крывіцкага "Дыялекталогія беларускай мовы" (2003). Хоць гэта выданне ўяўляе сабой дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў і забяспечана адпаведным навукова-метадалагічным апаратам, якога вымагае характар публікацыі, яно з такім жа поспехам можа быць захапляльнай навукова-пазнаваўчай кнігай у вандроўцы па моўных абсягах беларускіх гаворак. Кніга "Дыялекталогія беларускай мовы" — гэта адметнае аўтарскае бачанне выкладання дыялекталогіі як асобнага прадмета ў сістэме падрыхтоўкі філолагаў. У манаграфіі А.А. Крывіцкі даў характарыстыку мовазабяспечвальных сродкаў дыялектнай гаворкі як комплексу асаблівасцей двухузроўневага тыпу — уласнадыялектных, ці этнагенетычных, і культурна-гістарычных, або фактаў маўлення. Аўтар дапаможніка паказаў асаблівасці кожнай са структурных сістэм сродкаў маўлення ў іх тэрытарыяльным пашырэнні, а таксама раскрыў спецыфіку іх развіцця. Тым самым шматлікія моўныя з'явы ў даследчыка атрымалі тэарэтычнае абгрунтаванне і тлумачэнне.

Неад'емнай часткай у навуковай дзейнасці А.А. Крывіцкага з'яўляюцца таксама яго актыўныя заняткі дыялектнай лексікаграфіяй. І тут зроблена нямала. Але самым значным набыткам з'яўляецца, бадай, "Тураўскі слоўнік" (т. 1—2, 1982; т.3 — 1984; т.4 — 1985; т.5 — 1987). Не менш арыгінальныя па структуры і характары падачы матэрыялу даведнікі дыялектнай лексікі "Жывёльны свет. Тэматычны слоўнік" (1999), "Раслінны свет. Тэматычны слоўнік" (2001), "Чалавек. Тэматычны слоўнік" (2006). Яны першыя ў запланаванай серыі тэматычных слоўнікаў аб мовазабяспечвальных лексічных сродках беларускіх гаворак. Ідэя іх стварэння, распрацоўка канцэпцыі належаць А.А. Крывіцкаму. Яго ўсведамленне каштоўнасці народных моўных багаццяў, разуменне неабходнасці іх сістэматызаванага, упарадкаванага захавання сталі штуршком для стварэння заяўленага лексікаграфічнага даведачнага збору.

Такім чынам, лексікаграфічны напрамак навуковых пошукаў, актыўнай творчай працы аказаўся такім жа багатым і плённым, як і ўсе астатнія. Хоць з усяго, што рабілася аўтарам разам з калегамі, каб даць любому слоўніку жыццё, тут канстатаваўся толькі факт наяўнасці лексікаграфічнай крыніцы. Іншае, складанне, рэдагаванне, сістэматызацыя матэрыялу і г.д., пад увагу не бралася: рэч ў такой працы неабходная, і таму, натуральна, зразумелая.

Здавалася, ёсць выдатныя дасягненні ў мовазнаўстве ў розных яго галінах і напрамках, можна супакоіцца і трымацца абраных кірункаў у наступных навуковых пошуках. Але эўрыстычнае мысленне А.А. Крывіцкага, аналітычны погляд на ўжо

назапашаныя лексікаграфічныя і, галоўнае, лінгвагеаграфічныя багацці беларускіх народных гаворак прывялі яго да думкі аб неабходнасці пачаць новы этап у асэнсаванні слоўных набыткаў беларускай мовы. Таленавіты даследчык выступіў з ініцыятывай стварэння інтэрпрэтацыйнага атласа мясцовайназватворчасці ў гаворках беларускай мовы. Гэта прапанова не стала пустым выказваннем. Пачалася актыўная работа па распрацоўцы інавацыйнага для славянскіх моў напрамку даследаванняў у галіне дыялекталогіі. Яно унікальнае па сваёй сутнасці, паколькі дазволіць праз скарыстанне лінгвагеаграфічнай метадалогіі і грунтуючыся на ёй, шляхам супастаўляльнага аналізу раскрыць шматлікія таямніцы ў складванні нацыянальнага лінгваландшафту, асэнсаваць гісторыю развіцця беларускай мовы ў паступальнай дынаміцы яе станаўлення. Піянерам ў гэтай справе, як і пры стварэнні ДАБМ, выступілі беларускія дыялектолагі. Ініцыятарам, ідэолагам, натхніцелем і непасрэдным распрацоўшчыкам навуковай канцэпцыі новага нацыянальнага лінгвістычнага праекта з'яўляецца А.А. Крывіцкі — адзін з самых вядомых на сёння дыялектолагаў Беларусі, гонар і слава нацыянальнай дыялекталагічнай навукі. Толькі шырыня дыяпазону і глыбіня навуковага мыслення дазволілі моваведу замахнуцца на такую надзвычай складаную навуковую працу. І талент А.А. Крывіцкага. Ён бясспрэчны і асаблівы.

Значнасць А.А. Крывіцкага як Асобы не толькі ў навуковых дасягненнях. Гэта чалавек энцыклапедычнай дасведчанасці аб беларускай прыродзе, яе раслінным і жывёльным свеце, ён і мастак-аматар, і адмысловы разьбяр па дрэве. Гэта папросту творчы чалавек, які любіць і ўмее захапляцца жыццём, яго радасцямі і дарыць, аддаваць свае веды, сваю шчаслівую любоў усім, з кім ідзе па жыцці ў працы, навукова-творчых пошуках і адкрыццях.

Азіраешся на зробленае А.А. Крывіцкім, радуешся створанаму ім і верыцца: наперадзе яшчэ новыя выданні ў галіне дыялекталогіі. А значыць проста апантаная, шчырая праца на ніве роднага слова, служэнне яму. І так на працягу ўсёй навуковай лінгвістычнай дзейнасці. За гэта служэнне матчынаму слову, беларускай мове ў 2001 г. таленавіты лінгвіст, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа А.А. Крывіцкі быў ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Гэта не проста падзяка дзяржавы навукоўцу за самаахвярную, бескарыслівую працу. Гэта найперш усенароднае прызнанне і ўхвала таленту вучонага.

А аб тым, колькі зроблена, сведчыць спіс яго публікацый.

## ХРАНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ПРАЦ ВЯДУЧАГА НАВУКОВАГА СУПРАЦОЎНІКА А.А. КРЫВІЦКАГА

**1954**

1. Падрыхтоўка Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы // ЛіМ. 1954. 3 ліпеня.

**1956**

2. Атлас гаворак беларускай мовы // Беларусь. 1956. № 5. С. 82.

**1957**

3. Аб аканні ў гаворках Лагойскага раёна Мінскай вобласці // Працы Інстытута мовазнаўства АН. 1957. Вып. 3. С. 159 – 164.
4. Чаму мы так гаворым // Беларусь. 1957. № 6. С. 32.
5. Формы асабовых займеннікаў трэцяй асобы ў беларускай мове // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1957. № 1. С. 111 - 118.

**1958**

6. Формы асабовых і зваротнага займеннікаў беларускай мовы ў іх гісторыі // Уч. зап. (Мозыр. гос. пед. ин-т). 1958. Вып. I. С. 183 - 214.
7. Формы личных и возвратного местоимений современного белорусского языка в их истории: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Минск, 1958. 24 с.
8. Прасцейшыя элементы гукавой абалонкі мовы // Материалы конференции молодых ученых АН БССР. Мінск, 1958. С. 49 - 52.

**1959**

9. Фанетычныя асаблівасці адной з гаворак поўдня Беларусі // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. 1959. Вып. 6. С. 98 - 104.
10. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. I. Мінск: Друкарня АН БССР, 1959 (у сааўтарстве).

**1960**

11. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. II. Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1960 (у сааўтарстве).

**1961**

12. Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі. Мінск, 1961. 40 с.

13. Я.Ф.Карскі — выдатны беларускі вучоны: Да 100-годдзя з дня нараджэння // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1961. № 1. С. 5 - 14.

**1962**

14. Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1962. 350 с. (у сааўтарстве).
15. [Рэцэнзія] Не толькі для лінгвістаў // ЛіМ, 1962. 26 кастрычніка.
16. [Рэцэнзія] Невычэрпная крыніца // ЛіМ. 1962. 21 снежня.

**1963**

17 Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / Пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы і Ю.Ф. Мацкевіч. Карты №№ 49 - 63, 132 - 142, 186 - 187, 205, 219, 227 і каментарыі да іх. Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1963.

**1964**

18. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мінск: Навука і тэхніка, 1964. 416 с. (у сааўтарстве).
19. Наша родная мова: Навукова-папулярны нарыс. Мінск: Народная асвета, 1964. 158 с.
20. [Рэцэнзія] Летапіс мовы // Беларусь. 1964. № 8. С. 27.
21. [Рэцэнзія] Каштоўнае даследаванне // Беларусь. 1964. № II. С. 26.
22. Значэнне і абазначэнне ў марфемах // Методы различения и отождествления единиц языка. Мінск, 1964.

**1966**

23. [Рэцэнзія] Падарожжа ў краіну імёнаў // Маладосць. 1966. № 8. С. 132 - 134.
24. Беларуская мова, яе родзічы і блізкія // Бярозка. 1966. № 12. С. 15.

**1967**

25. Наша родная мова: Навукова-папулярны нарыс. Выданне 2-е, перапрац. і дапоўн. Мінск: Народная асвета, 1967. 182 с.

**1968**

26. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. 318 с. (у сааўтарстве).
27. Территориальные группы белорусских названий фронтона и их относительная хронология // Совещание по общеславянскому лингвистическому атласу (Саратов, 1968). Москва: Наука, 1968. С. 23 - 27.

28. Из словаря полесских рыболовов // Полесье: Лингвистика. Археология. Топонимика. Москва: Наука, 1968. С. 162 - 174.
29. Лексика городенских гончаров // Полесье: Лингвистика. Археология. Топонимика. Москва: Наука, 1968. С. 175 - 192 (у сааўтарстве).
30. Залатыя россыпы слоў // Маладосць. 1968. № 12. С. 130 - 136.
31. Прадмова // Лінгвістычныя даследаванні. Мінск, 1968. С. 5 - 7.

**1969**

32. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Карты №№ 35 - 44, 46 - 51, 65 - 68. Мінск: Навука і тэхніка, 1969 [карты].
33. Ад рэдактара // Юрчанка Г.Ф. Народная сінаніміка. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. С. 5 – 7.

**1970**

34. Аб падрыхтоўцы слоўніка да выдання // Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1970. С. 13 – 15 (у сааўтарстве).
35. [Рэцэнзія] З гісторыі нашых прозвішчаў // Полымя. 1970. № 8. С. 232 - 237.
36. Міждыялектнае гібрыднае ўтварэнне лексем са значэннем *латаць* і *латка* ў беларускіх гаворках // Актуальные проблемы лексикологии: Тезисы докладов и сообщений Всесоюзной научной конференции (17 - 20 июня 1970). Мінск, 1970. С. 116.

**1971**

37. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для лексічнага атласа беларускай мовы. Мінск: Навука і тэхніка, 1971. 164 с. (у сааўтарстве).
38. Дыялект // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1971. С. 340.
39. Дыялекталогія // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1971. С. 340 - 341.
40. Атлас белорусских говоров // Сельская газета. 1971. 24 ноября (у сааўтарстве).
41. Рэгіянальная дыялектаграфія і дыялекталагічная праца ў ВНУ // Беларуская мова і літаратура ў ВНУ: Тэзісы дакладаў навукова-метадычнай канферэнцыі. Брэст, 1971. С. 186 - 190 (у сааўтарстве).

**1972**

42. Клічная форма // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 6. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1972. С. 30.
43. Корань слова // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 6. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1972. С. 74.

44. Атлас беларускіх мовы // Настаўніцкая газета. 1972. 5 студзеня (у сааўтарстве).
45. Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Беларуская лінгвістыка. 1972. Вып. I. С. 84 - 85.
46. Міжнародная нарада па агульнаславянскаму лінгвістычнаму атласу // Беларуская лінгвістыка. 1972. Вып. 2. С. 78 - 79 (у сааўтарстве).
47. Лингвистическая география и группировка белорусских говоров: Реферат // Научно-реферативный бюллетень. Мінск, 1972. № I. С. 24 - 43.
48. [Рэцэнзія] Спроба лінгвагеалогіі Палесся // Полымя. 1972. № 11. С. 245 - 248 (у сааўтарстве).
49. Тыпы і ўжыванне назваў рыбы ў адной гаворцы Палесся // Беларускае і славянскае моваазнаўства. Мінск: Навука і тэхніка, 1972. С. 197 - 207.

**1973**

50. Наша родная мова: Навукова-папулярны нарыс. Выд. 3-е, дапрац. Мінск: Народная асвета, 1973. 192 с.
51. Белорусский язык для небелорусов. Мінск: Вышэйшая школа, 1973. 272 с. (у сааўтарстве).
52. "Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны" І.К. Бялькевіча: Рэферат // Научно-реферативный бюллетень. Мінск, 1973. № 6 - 7. С. 97 - 102.
53. Скланенне // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 9. Мінск, 1973. С. 558.
54. Склон // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 9. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1973. С. 559.
55. Беларускія занальныя назвы франтона і паходжанне шчыта: Да методыкі храналагічнай інтэрпрэтацыі лінгвагеаграфічных адносін // Беларуская лінгвістыка. 1973. Вып. 3. С. 38 - 49.

**1974**

56. Мікратапаніміка Беларусі: Матэрыялы. Мінск: Навука і тэхніка, 1974. 326 с. (у сааўтарстве).
57. Спражэнне // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 10. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1974. С. 25.
58. Беларуская нацыянальная мова і моваазнаўства // Голас Радзімы. 1974. №№ 34 - 38.

**1975**

59. У слоўнік Мсціслаўшчыны // З народнага слоўніка. Мінск: Навука і тэхніка, 1975. С. 119 – 134.
60. Тры этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі // З народнага слоўніка. Мінск: Навука і тэхніка, 1975. С. 15 - 29.
61. О лексическом членении одной семантической микроструктуры и ее типах в диалектах славянских языков // Совещание по общеславянскому

лингвистическому атласу (Гомель, 1975). Москва, 1975. С. 264 - 266 (у сааўтарстве).
62. Глаголы, обозначающие в диалектах славянских языков перемещение ползком, и их семантическая классификация // Совещание по общеславянскому лингвистическому атласу (Гомель, 1975). Москва, 1975. С. 267 - 269 (у сааўтарстве).
63. Беларуская мова і мовазнаўства на сучасным этапе // Голас Радзімы. 1975. №№ 30 - 35.

**1976**

64. У рытме з развіццём мовы. Мінск: Бібліятэчка газеты "Голас Радзімы", 1976. 80 с.
65. Моўныя старажытнасці Тураўшчыны // Голас Радзімы. 1976. 22 ліпеня (у сааўтарстве).
66. Панарама славянскіх моў // Голас Радзімы. 1976. 28 кастрычніка.
67. З лексічных рэгіяналізмаў Віцебшчыны // Народнае слова. Мінск: Навука і тэхніка, 1976. С. 92 - 110.
68. Пра слоўнік Тураўшчыны // Народнае слова. Мінск: Навука і тэхніка, 1976. С. 288 – 307 (у сааўтарстве).
69. [Рэцэнзія]: Falińska Barbara. Polskie słownictwo tkackie na tle słowianskim. T. I. Słownik polskich gwarowych nazw tkackich. Wyd. PAN. Ossolenium. 1974. 416 s. // Беларуская лінгвістыка. 1976. Вып. 10. С. 75 - 77.

**1977**

70. Прадмова // Народная лексіка. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 3 - 4.
71. Рэгіянальная лексіка з паўночнай Віцебшчыны // Народная лексіка. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 31 - 38.
72. Лингвогеографическая статья в белорусском лексическом атласе // Совещание по общим вопросам диалектологии и истории языка: Тезисы докладов и сообщений (Нальчик 21 – 24 сентября 1977). Москва, 1977. С. 32 - 34.
73. Традыцыйны сельскі моўны ландшафт Беларусі // Akademija nauka i umjetnosti Bosne i Hercegovine. Posebna izdanja. Zbornik radova povodom 70 god. života akad. Jovana Vukoviča. Kn. 6. Saraevo, 1977. S. 185 - 197.
74. Тыпалогія рэпрэзентацыйных адрозненняў у сінтаксісе беларускіх гаворак // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур: Тэзісы дакладаў III Рэспубліканскай канферэнцыі. Ч.2. Мінск, 1977. С 187 - 188.

**1978**

75. Белорусский язык для небелорусов. Изд. 2-е, исправл. и дополн. Минск: Вышэйшая школа, 1978. 352 с. (у сааўтарстве).
76. Апытальнік лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны. Мінск, 1978. 30 с. (у сааўтарстве).

77. [Рэцэнзія] Говорки української мови. Збірник текстів / Укл. А.М. Залеські. Київ, 1977. 592 с. // Беларуская лінгвістыка. 1978. Вып. 14. С. 74 - 75.
78. Ад рэдактара // Яўсееў Рыгор. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мінск: Навука і тэхніка, 1978. С. 3 - 4.
79. Да генезісу назваў бясхвостых земнаводных у дыялектах усходніх славян // Проблеми дослідження діалектної лексики і фразеології української мови. Тези доп. Ужгород. 1978. С. 33 – 34 (у сааўтарстве).

**1979**

80. Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР / АН БССР Ін-т мовазнаўства. Мінск: Навука і тэхніка, 1979. 95 с. (у сааўтарстве).
81. Лінгвагеаграфічнае вывучэнне Тураўшчыны // Народная словатворчасць: Зб. арт. Мінск: Навука і тэхніка, 1979. С. 301- 303 (у сааўтарстве).
82. З гаворкі вёскі Яскавічы Салігорскага раёна: Слоўнік і некаторыя асаблівасці будовы слоў // Народная словатворчасць: Зб. арт. Мінск: Навука і тэхніка, 1979. С. 104 – 112.
83. Образование междиалектной границы белорусского языка // Совещание по общим вопросам диалектологии и истории языка. Москва, 1979. С. 110 – 111.

**1980**

84. Сучасная беларуская дыялектная лексікаграфія: Стан і перспектывы // Македонски јазик. Скопје. 1980. Година XXXI. С. 105 - 111.
85. Аб адным мерыдыяльным лексічным супрацьпастаўленні ў беларускай дыялектнай мове // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратуры і фальклоры. Тэзісы дакладаў 2-ой Рэспубліканскай канферэнцыі. 24 – 25 верасня 1980. Гомель. 1980. С. 23 - 24.

**1981**

86. Дыялект // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 232 - 234.
87. Дыялекталогія // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 234.
88. Еканне // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 239.
89. Оканне // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 419.
90. Скланенне // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 531 - 532.
91. Лингвогеографическая статья в белорусском лексическом атласе // Лингвистическая география и проблемы истории языка: Материалы 6-го Всесоюзного совещания. Ч.І. Нальчик. 1981. С. 16 - 21.

92. Міжнародная канферэнцыя па АЛА ў ГДР // Беларуская лінгвістыка. 1981. Вып. 19. С. 75 - 76 (у сааўтарстве).

**1982**

93. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 1. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. 254 с. (у сааўтарстве).
94. Тураўшчына і слоўнік яе гаворкі // Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 1. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. С. 5 - 23.
95. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 2. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. 271 с. (у сааўтарстве).
96. Ад рэдактара // Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 2. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. С. 5.
97. Обозначение перемещения ползком в славянских диалектах: По материалам ОЛА // Общеславянский лингвистический атлас. Материалы и исследования. 1980. Москва: Наука, 1982. С. 23 - 35 (у сааўтарстве).
98. Спадчына Я.Ф. Карскага па беларускай дыялекталогіі // Беларуская лінгвістыка. 1982. Вып. 21. С. 18 - 24.
99. Рабочая нарада па ЛАЕ ў Маскве // Беларуская лінгвістыка. 1982. Вып. 21. С. 78 - 79 (у сааўтарстве).

**1983**

100. Полесские говоры Белоруссии и современный белорусский диалектный язык // Полесье и этногенезис славян: Предварительные материалы и тезисы конференции. Москва, 1983. С. 50 - 52.
101. Лінгвістычны атлас Еўропы // Беларуская лінгвістыка. 1983. Вып. 24. С. 70 - 71 (у сааўтарстве).

**1984**

102. Фанетыка беларускай мовы: Вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ. Мінск: Вышэйшая школа, 1984. 268 с. (у сааўтарстве).
103. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 3. Мінск: Навука і тэхніка, 1984. 311 с. (у сааўтарстве).
104. Ад рэдактара // Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 3. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. С. 5 – 6.
105. Беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа // Народная асвета. 1984. № 8. С. 49 - 51.

**1985**

106. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т.4. Мінск: Навука і тэхніка, 1985. 360 с. (у сааўтарстве).

107. Ад рэдактара // Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т.4. Мінск: Навука і тэхніка, 1985. С. 5.
108. Дыялект // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 2. Мінск: БелСЭ, 1985. С. 395.
109. Дыялекталогія // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 2. Мінск: БелСЭ, 1985. С. 395 - 396.
110. Дыялектная мова // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 2. Мінск: БелСЭ, 1985. С. 396 - 397.

**1986**

111. Што такое лінгвагеаграфія. Мінск: Народная асвета, 1986. 72 с.
112. Лінгвагеаграфія: новы этап у развіцці метадалогіі: Аб першым выпуску ЛАЕ // Беларуская лінгвістыка. 1986. Вып. 29. С. 70 - 74 (у сааўтарстве).
113. [Рэцэнзія]: Atlas slovenského jazyka. IV. Lexika. Bratislava: Wyd-vo SAV, 1984 // Беларуская лінгвістыка. 1986. Вып. 30. С. 62 - 64.

**1987**

114. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 5. Мінск: Навука і тэхніка, 1987. 432 с. (у сааўтарстве).
115. Апошні том слоўніка // Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 5. Мінск: Навука і тэхніка, 1987. С. 5 - 7.
116. Аб фарміраванні дыялектнай наменклатуры земнаводных родаў Rana і Bufo ў заходнеславянскай зоне і іх намінацыі // Беларуская лінгвістыка. 1987. Вып. 32. С. 62 - 69.
117. Паўднёва-заходні дыялект // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1987. С. 218 - 219.
118. Паўночна-ўсходні дыялект // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1987. С. 225 - 226.
119. Сярэднебеларускія гаворкі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 4. Мінск: БелСЭ, 1987. С. 221.
120. Рэферат на кнігу: Крывіцкі А.А. Што такое лінгвагеаграфія. Мінск, 1986. 72 с. // Научно-реферативный бюллетень. Отечественная литература. Ч. 1. Литературоведение и языкознание. Мінск, 1987. С. 110 - 114.

**1988**

121. Полесские говоры в составе белорусского и украинского языков // Полесье: Материальная культура. Киев, 1988. С. 56 - 64 (у сааўтарстве).
122. О названиях *ели* в славянских языках // Общеславянский лингвистический атлас. Материалы и исследования. 1983. Москва: Наука, 1988. С. 61 - 79 (у сааўтарстве).
123. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 1. Животный мир. Карта № 8. Хорёк (со сводным

индексом диалектных форм и комментариями на с. 124); карта № 31. Лягушка (со сводным индексом диалектных форм и комментариями на с. 128 (у сааўтарстве)); карта № 32. Жаба (со сводным индексом диалектных форм и комментариями на с. 128 (у сааўтарстве)); карта № 34. Улитка с раковиной (со сводным индексом диалектных форм и комментариями на с. 129 (у сааўтарстве)); карта № 35. Улитка без раковины (со сводным индексом диалектных форм и комментариями на с. 129 (у сааўтарстве)). Москва: Наука, 1988.
124. Рэферат на кнігу: Тураўскі слоўнік. Т. 5. Мінск, 1987. 423 с. // Научно-реферативный бюллетень. Отечественная литература. Литературоведение и языкознание. Мінск, 1988. № 87 - 88. С. 118 - 120.
125. З глыбінь роднай гаворкі // Юрчанка Г.Ф. Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1988. С. 3 - 4.

**1989**

126. Практыкум па фанетыцы беларускай мовы: Для ВНУ. Мінск: Вышэйшая школа, 1989. 221 с. (у сааўтарстве).
127. Атлас лінгвістычны // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1989. С. 40 - 41.
128. Дыялекталогія // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1989. С. 187.
129. Дыялектная мова // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1989. С. 187 - 190.

**1990**

130. Белорусский язык для говорящих по-русски. 3-е изд., перераб. Минск: Вышэйшая школа, 1990. 368 с. (у сааўтарстве).
131. Беларуская мова для ўсіх. Урок 11. Будова назоўнікаў // Вячэрні Мінск, 1990. 20 сакавіка.
132. Урок 12. Змяненне назоўнікаў // Вячэрні Мінск. 1990. 17 красавіка.
133. Урок 13. Змяненне назоўнікаў // Вячэрні Мінск. 1990. 14 мая.
134. Урок 14. Будова і змяненне прыметнікаў // Вячэрні Мінск. 1990. 11 чэрвеня.
135. Урок 15. Займеннік // Вячэрні Мінск. 1990. 1 кастрычніка.
136. Урок 16. Скланенне лічэбнікаў // Вячэрні Мінск. 1990. 15 кастрычніка.
137. Урок 17. Аб лексічнай разнастайнасці дзеясловаў // Вячэрні Мінск. 1990. 29 кастрычніка.
138. Урок 18. Значэнне разнавіднасцей дзеясловаў і іх будова // Вячэрні Мінск. 1990. 19 лістапада.
139. Урок 19. Граматычныя формы дзеяслова // Вячэрні Мінск. 1990. 4 снежня.
140. Урок 20. Прыслоўі // Вячэрні Мінск. 1990. 17 снежня.

**1992**

141. Дыялекты і культура мовы // Навіны Акадэміі навук Беларусі. 1992. 3 студзеня.
142. Адкуль з'явіўся *шчупак* у беларускай мове // Między Wschodem a Zachodem. Cz. IV: Zjawiska językowe na pograniczu polsko-ruskem // Dzieje Lubielszczyzny. T. VI. Lublin, 1992. S. 225 - 232.

**1993**

143. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. У 5 т. Т. I. Жывёльны свет. Карты №№ 320 - 339, 345 - 348, 353 - 355, 362, 365 і каментарыі да іх на стар. 128 - 136, 138 - 139, 341 - 342. Мінск: Мінская картфабрыка Белгеадэзіі, 1993.
144. Адкуль з'явіўся шчупак у беларускай мове // Беларуская лінгвістыка. 1993. Вып. 43. С. 26 - 32.
145. Нацыянальная моватворчасць і мясцовыя гаворкі // Беларусь: шляхі аднаўлення і развіцця: Матэрыялы навуковай сесіі Аддзялення гуманітарных навук 3 - 4 лістапада 1993 года. Мінск, 1993. С. 263 - 269.
146. А імя яму Тураў // Новае Палессе (Мазыр). 1993. №№ 41 - 44 (у сааўтарстве).

**1994**

147. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Т. 2. Сельская гаспадарка. Карты №№ 51, 58, 64, 65, 69, 72 - 74, 80, 343 - 345, 347, 348, 352 і каментарыі і індэксы да іх на стар. 40, 44, 46, 47 - 49, 51, 128, 129, 130. Мінск: Мінская картаграфічная фабрыка, 1994.
148. Учебник белорусского языка: Для самообразования. Минск: Высшая школа, 1994. 349 с. (у сааўтарстве).
149. З паездак да жыхароў Чарнобыльскай зоны // Гаворань чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі). Мінск: ЦНБ АН РБ, 1994. С. 3 - 7.
150. Усходнеславянская гаворка наваколля Мазыра // Гаворань чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі). Мінск: ЦНБ АН РБ, 1994. С. 37 - 88 (у сааўтарстве).
151. Асноўны масіў беларускіх гаворак; карта: групоўка гаворак на тэрыторыі Беларусі // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 54 - 59.
152. Дыялекталогія // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 188 - 189.
153. Дыялектная мова // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 192 - 193.
154. Лінгвагеаграфія // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 309 - 311.
155. Паўднёва-заходні дыялект // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 415 - 417.

156. Паўночна-ўсходні дыялект // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 418 - 420.
157. Сярэднебеларускія гаворкі // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 550.
158. А імя яму Тураў // Спадчына. 1994. № 2. С. 28 - 34 (у сааўтарстве; перадрук).
159. Праца, якая аб'ядноўвае ўсіх // Навіны Акадэміі навук Беларусі. 1994. 3 чэрвеня.
160. Аб гаворцы Турава // Беларуская думка. 1994. № 1. С. 18 - 19.

**1995**

161. Народныя назвы відаў рыбы // Лексічныя ландшафты Беларусі: Жывёльны свет. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. С. 93 - 136.
162. Беларуская вясёлка і македонскі појас: родныя ці сваякі? // Македонски језик. Година XL – XLI. 1989 – 1990. Скопје, 1995. С. 291 – 300.

**1996**

163. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Т. 3. Чалавек. Карты №№ 50 - 54, 56 - 59, 76 (сумесна), 86 - 89, 100 - 102, 196, 208, 283 і каментарыі і індэксы да іх на стар. 39, 40, 41, 46, 47, 49, 50, 54, 78, 81, 102. Мінск: Мінская картаграфічная фабрыка, 1996.
164. Рэгіянальныя моўныя з'явы і іх лінгвагеаграфічная стратыфікацыя // Беларуская лінгвістыка. 1996. Вып. 46. С. 3 - 6.
165. Аканне // Беларуская энцыклапедыя ў 18 т. Т. 1. Мінск: БелЭн, 1996. С. 184.

**1997**

166. Назва Палессе — свая ці чужая? // Роднае слова. 1997. № 8. С. 35 - 43.

**1998**

167. Гаворкі беларускай мовы, пасляваенная сітуацыя і дынаміка маўлення ў Беларусі // Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków slowiańskich. — Opole, 1998. С. 55 - 104.

**1999**

168. Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 1999. 239 с. (у сааўтарстве).
169. Прадмова // Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 1999. С. 3 - 6 (у сааўтарстве).

## 2000

170. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 2. Животноводство. Карта № 58. Ухаживать за скотом (со сводным индексом диалектных форм и комментариями) // Waszawa, 2000.
171. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Предисловие к выпуску с резюме на французском, английском и белорусском языках. Минск, 2000. С. 9 - 15.
172. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Карта № 20. Ель (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве); карта № 21. Еловый лес (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве); карта № 22. Древесина ели (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве); карта № 33. Лиственница (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве) // Минск, 2000.
173. Славянские зональные диалектные различия в номинативной реализации *Bufo* и *Rana* и их формирование // Общеславянский лингвистический атлас. Материалы и исследования. 1994 - 1996. Москва: Индрик, 2000. С. 25 - 50.
174. Тураўская гаворка і яе слоўнік // Тураўшчына: Мінулае, сучаснае, будучыня. Вып. 1. Тураў – Мінск, 2000. С. 47 - 52.
175. Словаскладанне і правапіс // Беларуская мова і мовазнаўства: Зб. навук. прац да 70-годдзя акадэміка М.В. Бірылы. Мінск: Аналітычны цэнтр НАН Беларусі, 2000. С. 201 - 206.

## 2001

176. Раслінны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 2001. 656 с. (у сааўтарстве).

## 2002

177. Такая далікатная назва суніцы // Роднае слова. 2002. № 8. С. 39 - 42.

## 2003

178. Дыялекталогія беларускай мовы: Дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей ВНУ. Мінск: Вышэйшая школа, 2003. 294 с.
179. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Профессия и общественная жизнь. Вып. 8. Карта № 10. Человек, который работает в кузнице (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве); карта № 12. Сын кузнеца (со сводным индексом диалектных форм и комментариями; у сааўтарстве) // Warszawa, 2003.

180. Асноўныя напрамкі анамасіялагічнага вывучэння лексіка-фразеалагічнай назватворчасці ў гаворках беларускай мовы // Беларуская лінгвістыка. 2003. Вып. 53. С. 3 - 12.
181. Займеннік *гэны*, яго лінгвагеаграфія і паходжанне // Pogranicza języków. Pogranicza kultur. Studia ofiarowane Elżbiece Smułkowej. Waszawa, 2003. S. 103 - 111.

**2004**

182. Тураўская гаворка // Тураў. Тураўскае евангелле. Мінск, 2004. С. 290 - 293.
183. А імя Тураў яму // Тураў. Тураўскае евангелле. Мінск, 2004. С. 58 - 66 (у сааўтарстве).

**2005**

184. Сярэдняя (цэнтральная) дыялектная зона беларускай мовы і нацыянальная моватворчасць // Весці НАНБ. Серыя гуманітарных навук. 2005. № 4. С. 110 - 117.
185. Вялікая літара ў праекце новай рэдакцыі правапісу // Настаўніцкая газета 18 студзеня 2005.

**2006**

186. Чалавек. Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 2006. 573 с. (у сааўтарстве).
187. Намінацыйная словатворчасць і базавая аб'ектывацыя словаўтваральнай асновы // Беларуская лінгвістыка. 2006. Вып. 57. С. 22 - 31.
188. Паклонімся бульбе // Роднае слова. 2006. № 3. С. 24 26.
189. Поруч з Кандратам Крапівой // Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі "Сучасны стан і дынаміка норм беларускай мовы" (24 - 25 кастрычніка 2006 г., г. Мінск). Мінск: ВТАА "Права і эканоміка", 2006. С. 187 - 189.
190. Да праекта інтэрпрэтацыйнага, або тлумачальнага атласа мясцовай назватворчасці ў гаворках Беларусі // Беларуская лінгвістыка. 2006. Вып. 58. С. 23 – 29.

## НАВУКОВАЕ РЭДАГАВАННЕ

А.А. Крывіцкі — кіраўнік групы ЛАЕ Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, якая была арганізавана пры аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі для ажыццяўлення міжнароднага навуковага праекта "Лінгвістычны атлас Еўропы". Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле распрацаваны неабходныя тыпы апытальнікаў і сабраны запатрабаваныя Навуковай радай ЛАЕ беларускія матэрыялы. Акрамя таго, асабіста ім прарэдагаваны беларускія лексічныя матэрыялы для ўсіх надрукаваных выпускаў ЛАЕ.

А.А. Крывіцкім таксама выканана наступная праца як рэдактара ці рэдактара і складальніка розных лінгвістычных выданняў.

**1966**

1. Юрчанка Г.Ф. Дыялектны слоўнік: З гаворак Мсціслаўшчыны. Мн.: Навука і тэхніка, 1966. 227 с.

**1969**

2. Юрчанка Г.Ф. Народная сінаніміка. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. 280 с.

**1970**

3. Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1970. 512 с.

**1972**

4. Юрчанка Г.Ф. І коціцца і валіцца: Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1972. 288 с.

**1974**

5. Юрчанка Г.Ф. І сячэ і паліць: Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1974. 296 с.

**1975**

6. З народнага слоўніка. Мінск: Навука і тэхніка, 1975. 352 с.

**1976**

7. Юрчанка Г.Ф. Слова за слова: Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1976. 270 с.

**1977**

8. Народная лексіка: Зб. арт. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. 287 с.

**1978**

9. Яўсееў Рыгор. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мінск: Навука і тэхніка, 1978. 112 с.

**1979**

10. Народная словатворчасць: Зб. арт. Мінск: Навука і тэхніка, 1979. 336 с. (і складанне).

**1981**

11. Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. А – Л. Мінск: Навука і тэхніка, 1981. 280 с.
12. Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1981. 128 с.

**1982**

13. Тураўскі слоўнік. У 5 т. Т.І. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. 254 с.
14. Тураўскі слоўнік. У 5 т. Т.2. Мінск: Навука і тэхніка, 1982. 274 с.
15. Янкова Т.С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны Мінск: Навука і тэхніка, 1982. 432 с.

**1983**

16. Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. М – Р. Мінск: Навука і тэхніка, 1983. 304 с.

**1984**

17. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т.3. Мінск: Навука і тэхніка, 1984. 311 с.

**1985**

18. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т.4. Мінск: Навука і тэхніка, 1985. 360 с.
19. Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р – Я. Мінск: Навука і тэхніка, 1985. 336 с.

**1987**

20. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 5. Мінск: Навука і тэхніка, 1987. 432 с.

**1988**

21. Юрчанка Г.Ф. Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Мінск: Навука і тэхніка, 1988. 256 с.

**1993**

22. Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны. А — Н. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. 304 с.

**1994**

23. Гаворань чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі). Мінск: ЦНБ АН РБ, 1994. 220 с.

**1996**

24. Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Н — П. Мінск: Беларуская навука, 1996. 304 с.

**1998**

25. Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р — Я. Мінск: Беларуская навука, 1998. 351 с.

**1999**

26. Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 1999. 239 с.

**2000**

27. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Минск, 2000. 162 с. (адказны рэдактар і складальнік).

**2001**

28. Раслінны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 2001. 656 с.

**2002**

29. Юрчанка Г.Ф. Народнае мудраслоўе. Мінск: Беларуская навука, 2002. 319 с.

**2006**

30. Чалавек. Тэматычны слоўнік. Мінск: Беларуская навука, 2006. 573 с.

## ЛІТАРАТУРА пра А.А. КРЫВІЦКАГА


**1972**

1. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 6. Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1972. С. 132.

**1978**

2. Юрчанка Г. У родную мову ўлюблёны // Святло Кастрычніка (Мсціслаў). 1978. 4 ліпеня.
3. Яшкін І.Я. Аляксандр Антонавіч Крывіцкі: Да 50-годдзя з дня нараджэння // Беларуская лінгвістыка. 1978. Вып. 12. С. 75 - 76.

**1981**

4. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч — беларускі мовазнавец // Беларуская ССР: Кароткая энцыклапедыя. Т. 5. Мінск: БелСЭ, 1981. С. 330 - 331.

**1986**

5. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч, беларускі савецкі мовазнавец // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мінск: БелСЭ, 1986. Т. 3. С. 133.

**1987**

6. Міхайлаў П.А. Аляксандр Антонавіч Крывіцкі: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Беларуская лінгвістыка. 1987. Вып. 32. С. 76 - 78.

**1994**

7. Саламевіч І.А. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1994. С. 272 - 273.

**1997**

8. Курцова В.М. Аляксандр Антонавіч Крывіцкі: Да 70-годдзя з дня нараджэння // Беларуская лінгвістыка. 1997. Вып. 47. С. 93 - 94.
9. Германовіч І.К. Нястомны даследчык роднай мовы: да 70-годдзя з дня нараджэння А.А. Крывіцкага // Беларуская мова і літаратура. 1997. № 8. С. 124 - 128.
10. Крыўко М. Вывучэнню роднай мовы прысвечана яго жыццё: Да 70-годдзя з дня нараджэння // Навіны АН Беларусі. 1997. 15 жніўня.
11. Крыўко М. Правафланговы мовазнаўства: Да 70-годдзя з дня нараджэння А.А. Крывіцкага // Настаўніцкая газета. 1997. 20 жніўня.

12. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч / Хто ёсць хто ў сучаснай беларускай лінгвістыцы. Мінск, 1997. С. 53.

**1999**

13. Германовіч І.К. Крывіцкі Аляксандр Антонавіч // Беларуская энцыклапедыя. Мінск: БелЭн, 1999. Т. 8. С. 496.

**2000**

14. Курцова В.М. А.А.Крывіцкі. Да 70-годдзя з дня нараджэння // Тураўшчына: Мінулае, сучаснасць, будучыня. Вып. 1. Мінск, 2000. С. 100.

**2003**

15. Курцова В.М. Да 75-годдзя з дня нараджэння А.А. Крывіцкага // Беларуская лінгвістыка. 2003. Вып. 53. С. 124 - 128.

*Э.Д. Блінава, Н.В. Гаўрош*

# НОВАЯ СТАРОНКА Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНАЙ НАВУЦЫ

Імя выдатнага беларускага лінгвіста Аляксандра Антонавіча Крывіцкага вядома і ў айчынным і ў замежным славістычным навуковым свеце. На ніве беларускай лінгвістыкі вучоны-дыялектолаг працуе больш за паўстагоддзя. Яго навуковыя даследаванні прысвечаны актуальным праблемам беларускага мовазнаўства: фарміраванню, развіццю і ўзаемадзеянню літаратурнай і дыялектнай мовы, пытанням моўнай культуры ў розныя перыяды нацыянальнай гісторыі, лексікаграфіі, лінгвагеаграфіі і інш.

У Беларусі Аляксандр Антонавіч вядомы як зберагальнік, захавальнік ад беззваротнага знікнення жывога народнага слова, як буйны спецыяліст у галіне беларускай дыялекталогіі, які стаяў ля вытокаў вывучэння дыялектнай мовы. Працы вучонага (а іх больш за 200) створаны на аснове дакладнага, праверанага фактычнага матэрыялу жывой народнай мовы. Ураджэнец Мсціслаўшчыны, ён дасканала ведае гаворкі роднай Магілёўшчыны, якія яшчэ на пачатку даследчай працы зацікавілі яго сваёй незвычайнай глыбінёй зместу, вобразна-эмацыйнай напоўненасцю, асаблівасцю выкарыстання ў жывой гаворцы, межамі іх распаўсюджання. Пазней, працуючы ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, даследчык у складзе дыялекталагічных экспедыцый у палявых умовах грунтоўна вывучыў гаворкі іншых рэгіёнаў краіны – ад Віцебшчыны да Палесся. Неацэнны ўклад яго ў стварэнне такіх фундаментальных унікальных даследаванняў, як “Дыялекталагічны атлас беларускай мовы”, “Тураўскі слоўнік”, “Лексічныя ландшафты Беларусі”, пяцітомны “Лексічны атлас беларускіх народных гаворак”, а таксама ў падрыхтоўку і выданне лексікаграфічных зборнікаў “З народнага слова”, “Жывое слова”, “Народная словатворчасць” і інш.

Вартасць і значнасць кожнага вучонага акрэсліваецца не толькі яго тэарэтычнымі фундаментальнымі працамі, а і тымі навучальнымі дапаможнікамі, якія даюць глыбокія звесткі маладому пакаленню – студэнтам ВНУ, навучэнцам ліцэяў і каледжаў – пра культуру роднай зямлі, пра мову яе насельнікаў, прывіваюць ім любоў да неўвядальнага матчынага слова. Выхад у свет дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ А.А. Крывіцкага “Дыялекталогія беларускай мовы” (2003 г.) стаў добрай падзеяй, якую станоўча прынялі і вучоныя-лінгвісты, і настаўнікі школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Да таго ж праца актуальная і запатрабаваная ў навучальным працэсе: папярэднія дапаможнікі па дыялекталогіі выйшлі на пачатку 90-ых гг. Больш за дванаццаць гадоў не было новага вучэбнага дапаможніка па беларускай дыялекталогіі. Тым часам з’явіліся даследаванні, прысвечаныя вывучэнню дыялектнай мовы, дыялектныя слоўнікі, атласы. Натуральная і зразумелая актуальнасць і надзённасць працы А.А. Крывіцкага.

Кніга створана на багатым фактычным матэрыяле, на высокім навуковым узроўні, з улікам новых дасягненняў у беларускім і рускім мовазнаўстве. Аўтар падае структурна-тэрытарыяльную групоўку гаворак ў складзе сучаснай беларускай мовы, характарызуе асаблівасці дыялектаў, якія разглядае комплексна – як адзіную складаную сістэму, раскрывае значэнне гаворак у станаўленні і развіцці сучаснай беларускай мовы, іх сувязь з гісторыяй мовы. Гэтыя пытанні праграмныя ў вучэбным курсе дыялекталогіі для студэнтаў, прычым яны раскрываюцца аўтарам шырока і грунтоўна.

Звесткі і матэрыялы, звязаныя з этапамі станаўлення беларускай дыялектнай мовы, перыядамі яе развіцця, у такім аб'ёме і такой сістэматызацыі не падаваліся ў ранейшых навучальных дапаможніках па дыялекталогіі, таму іх з поспехам выкрыстоўваюць лінгвісты, аспіранты, студэнты-філолагі пры стварэнні сваіх навуковых даследаванняў.

Кніга А.А. Крывіцкага не паўтарае ранейшых навучальных дапаможнікаў: у ёй новы падыход да некаторых дыялектных з'яў, да паказу этна-гістарычнай адметнасці беларускага народа; у дапаможніку ставяцца і вырашаюцца праблемы беларускай дыялекталогіі на больш высокай навуковай ступені. Пры сучаснай шматузроўневай падрыхтоўцы спецыялістаў у Рэспубліцы матэрыялы дапаможніка выкарыстоўваюцца ў асвятленні пытанняў дыялекталогіі і агульнага мовазнаўства пры падрыхтоўцы магістраў і аспірантаў-філолагаў.

У працы значнае месца адведзена тэарэтычнай распрацоўцы праблем беларускай дыялекталогіі. У параўнанні з папярэднімі дапаможнікамі "Дыялекталогія беларускай мовы" А.А. Крывіцкага іншая і зместам і кампазіцыйнай структурай. Ва ўводзінах разглядаюцца пытанні моўнай сістэмы, паказана месца гаворкі і дыялекта ў гэтай сістэме, індывідуальна-псіхалагічнай, сацыяльна-вытворчай і гісторыка-псіхалагічнай дыферэнцыяцыі мовы, двухбаковасць структуры мясцовых гаворак, асвятляецца спецыфіка гаворкі з розных пунктаў гледжання; акрэслены раздзелы дыялекталогіі, падаецца лінгвагеаграфічнае вывучэнне гаворак. Для напісання гэтай часткі працы аўтар выкарыстаў багатую навуковую літаратуру, якую прыводзіць асобна. Дарэчы, спісы навуковых дасдедаванняў аўтар змяшчае ў канцы кожнага раздзела, што дае магчымасць выкарыстаць яе пры падрыхтоўцы таго або іншага пытання дыялекталогіі.

У раздзеле "Гаворкі беларускай мовы" разглядаюцца этапы станаўлення беларускай дыялекталогіі – этнаграфічны, дыялекталагічны і лінгвагеаграфічны. На вялікім фактычным матэрыяле аўтар пераканальна паказвае, як на этнаграфічным этапе назапашваліся звесткі пра мясцовыя гаворкі ў працах З. Даленгі-Ходкоўскага, І. Шыдлоўскага, Я. Чачота, П. Шэйна, Е. Раманава, І. Насовіча, У. Дабравольскага, М. Янчука, М. Федароўскага і інш.

На дыялекталагічным этапе асаблівая ўвага аддаецца дасягненням Я.Ф. Карскага ў вывучэнні беларускіх гаворак, аналізуецца дзейнасць Маскоўскай дыялекталагічнай камісіі, працы па дыялекталогіі ў Інбелкульце.

Апісанне лінгвістычнага этапу пачынаецца з дзейнасці П.А. Бузука і яго "Спробы лінгвістычнае геаграфіі Беларусі". Вялікая ўвага адводзіцца стварэнню "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" і яго ролі ў лінгвагеаграфічным даследаванні беларускіх гаворак. На лінгвагеаграфічным узроўні разглядаецца

групоўка гаворак беларускай дыялектнай мовы, вылучаюцца дыялекты і іх групы. Матэрыял раздзела скурпулёзна сабраны, грунтоўна апісаны і ў такім аб'ёме падаецца ўпершыню.

У раздзеле "Дыялектная групоўка гаворак, іх галоўныя віды і масівы" вызначаюцца асаблівасці паўночна-ўсходняга, паўднёва-заходняга дыялектаў, сярэднебеларускіх і палескіх гаворак. Паказваюцца асноўныя рысы, якімі адрозніваюцца дыялекты і іх групы. Упершыню ў вучэбным дапаможніку падрабязна разглядаюцца заходнепалескія гаворкі, іх групоўка, тэрытарыяльнае пашырэнне, дыялектныя адрозненні. Выкарыстаная навуковая літаратура па гэтым пытанні і ўласныя назіранні аўтара, зробленыя ў палявых умовах, далі магчымасць не толькі апісаць самі гаворкі, а і вызначыць іх групы і падгрупы.

На сучасным лінгвагеаграфічным этапе выяўленне ў дыялектнай мове занальнай групоўкі – адно з дасягненняў беларускай дыялекталагічнай навукі, якое дае магчымасць устанавіць асноўныя дыялектныя зоны, што мае навукова-пазнавальнае, тэарэтычнае і практычнае значэнне. Гэтае пытанне аўтар шырока разглядае ў раздзеле "Занальная групоўка гаворак і асноўныя дыялектныя зоны беларускай мовы", дзе вылучае пяць дыялектных зон – паўночна-заходнюю, паўднёва-ўсходнюю, заходнюю, усходнюю і цэнтральную, – якія маюць адрозненні ў слоўнікавым складзе, а таксама ў некаторых выпадках і ў фанетычным ладзе. Тэарэтычныя палажэнні, фактычны матэрыял пра асноўныя дыялектныя зоны суправаджаецца нагляднасцю – картамі, схемамі, – што значна паляпшае яго разуменне і засваенне. Аўтар выказвае арыгінальную думку: станаўленне нормаў беларускай літаратурнай мовы звязана не з дыялектамі, як гэта трактуецца традыцыйна, а з дыялектнымі зонамі.

Кніга А.А. Крывіцкага – гэта новая старонка ў беларускай дыялекталогіі. Гэта не проста вучэбны дапаможнік: многія пытанні, якія закрануў і развіў аўтар, уносяць адпаведны ўклад у тэарэтычную распрацоўку праблем беларускай дыялекталогіі, што ў значнай ступені пашырае і пераўзыходзіць рамкі навучальнага дапаможніка. Каштоўнасць працы і ў тым, што ў ёй гаворкі разглядаюцца як этна-генетычныя і прасторавыя разнавіднасці беларускай мовы, закранаюцца актуальныя праблемы сувязі дыялекталогіі з асветай і моўнай культурай, падымаюцца пытанні аб перспектывах далейшага вывучэння не толькі беларускай дыялектнай мовы, але і іншых славянскіх моў.

*В.М. Босак, А.А. Босак*

# З ЛЕКСІКІ РОДНАЙ ВЁСКІ
## (вёска Смаляніца Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці)

Трапная народная лексіка дапамагае найбольш якрава перадаць навакольныя прадметы і з'явы. Не выключэнне і лексіка вёскі Смаляніца, якая размешчана на беразе ракі Ясельда на Пружаншчыне на сумежжы заходнепалескіх і гродзенска-баранавіцкіх гаворак. Гаворка в.Смаляніца адносіцца да верхняясельдскіх гаворак, якія ўтвараюць вызначаныя арэалы ў Пружанскім і Бярозаўскім раёнах Берасцейшчыны [1, 3, 4]. Разам з тым, многія лексемы маюць значнае адрозненне як з беларускай літаратурнай мовай, так і з гаворкамі іншых населеных пунктаў Верхняга Над'ясельдзя [2].

| *Лексіка в. Смаляніца* | *Літаратурны адпаведнік* | *Лексіка в.Смаляніца* | *Літаратурны адпаведнік* |
|---|---|---|---|
| багно́ | дрыгва | мо́рахі | мурашкі |
| багно́вік | махавік | му́ля | бруд на дарозе |
| бацве́нне | лісце буракоў | муця́р | манюка |
| бацва́н | праснак | мы́длік | пральны парашок |
| боб | фасоля | нагаві́цы | штаны |
| бо́д$^3$яхі, бодкі́ | сасновая ігліца | наўга́дні | благі, кепскі |
| боса́к | багор | о́жог | чаранок для памяла |
| булёве́нне | лісце бульбы | ожы́на | ажыны |
| бу́льва | бульба | олёс | балоцісты лес |
| бэрэзня́к, ба́бка | падбярозавік | опусцэ́ | манжэты |
| во́ўчые грыбы́ | неядомыя грыбы | о́рко | неахайны чалавек |
| гарабэ́й | верабей | плот | агароджа |
| гор, мус | абавязкова | плю́скі | хованкі |
| го́рын | мулінэ | подпове́ць | невялікая павець |
| грыбы́ | баравікі | по́жня | іржышча |
| гу́ба | сыраежка | поко́т | столь |
| двор | падворак | поко́т | гара (гарышча) |
| драбі́на | лесвіца | по́разок | пасак з тканіны |
| дэ́рэво | стрэмка | пра́чык | апалонік |
| жураўлі́ны | журавіны | пту́ха | птушка |
| злека́ціса | спалохацца | пэдэ́рко | божая кароўка |
| ка́па | крамнае пакрывала | пэ́лена | падол |
| капова́ці | keміць | пэрэ́хмарок | невялікая хмара |

| | | | |
|---|---|---|---|
| каптан | пінжак | рад$^{з}$юга | грубае пакрывала |
| каўдунік | крамны ручнік | радно | тонкае пакрывала |
| квашэліна | студзень (халадзец) | сачэўка | сачавіца |
| квэліці | крыўдзіць | скопэц | капец бульбы |
| кішка | крывяная каўбаса | слепак | дзьмухавец |
| клуня | гумно | согоні | сёння |
| клыкаці | глытаць | столкі | козлы для дроў |
| козякі | ядомыя грыбы | такмань | толькі што |
| колейка | гурт кароў | тая хата | святліца |
| колодэзь | студня | тоўканіца | таўчоная бульба |
| копашка | невялікая рыдлёўка | трыб | дарога-прасека |
| копіца | капа сена | ужышчэ | тоўстая вяроўка |
| котух | куратнік | ушаток | дзежка для жывёлы |
| коцуба | качарга | ціпэня | кураня |
| крамух | крэмень | цэрква | царква |
| красноголовік | падасінавік | чэбрэц | чабор |
| кулеш | крупнік | швідка | кофта |
| кутаці | мыць бялізну | шопля | шуфель |
| лапіці | рамантаваць адзенне | шуляк | каршак |
| лапшаны | боб | шчавэй | шчаўе |
| лохачэ | буякі | шчур | пацук |
| мамэньт | хутка | шыць | скураны пасак |
| матылка | матылёк | ясёнка | асенняе паліто |
| мгла | дробны дождж | | |

**Літаратура**


1. Босак А.А. Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над'ясельдзя. – Дыс. … канд. філ. навук: 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі, 2006. – 257 с.

2. Босак А.А., Босак В.М. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Лексіка. – Мн., 2006. – 124 с.

3. Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. – Мн.: Навука і тэхніка, 1983. – 127 с.

4. Леванцэвіч Л.В. Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна. – Дыс. … канд. філ. навук: 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства АН Беларусі, 1996. – 291 с.

*Н.М. Бунько, Ю.В. Маліцкі, А.І. Шаблоўскі*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК ГАРАДОЦКАГА РАЁНА

Лексіка, якая падаецца ў падборцы, запісана аўтарамі ў ліпені 2006 г. ад карэнных жыхароў вёсак Звягі, Рамні, Галоўчыцы, Вархі. Інфарматары: Сіўцова Вольга Захараўна (1924 г.н.), Качанава Валянціна Антонаўна (1932 г.н.), Прахарэнка Людміла Пятроўна (1938 г.н.), Аляксеева Галіна Міхайлаўна (1954 г.н.).

**АБЕСПІЧА́ЦЬ** *незак.* Забяспечваць. *Драва́м усю́дых тапі́лі для ската́, на фе́рме, свіннафе́рме – усё драва́м абеспіча́лі* (в. Звягі).

**АБМО́ТАК** *м.* Палоска тканіны з салдацкай парцянкі. *Се́на так стагава́лі: абмо́ткам салда́цкім навя́жам біре́ма, адзі́н аднаму́ падама́ім і нісём* (в. Звягі).

**АДГУЛЯ́ЦЦА** *зак.* Адбыць, вырасці. *Ма́ма мне, по́мню, пінжа́к ці ку́ртачку пашы́ла з шыне́лі, я ў ёй і адгуля́лася* (в. Звягі).

**АДДА́ЦЬ** зак. Патраціць уласны час. *Тра́ктар там прае́дзіць – поўчаса́ адда́сць, а яму́ на́да пійся́т ты́сяч* (в. Вархі).

**АДЗІ́Н: АДЗІ́Н АДНЫ́М** *прысл.* Зусім адзін. *Пулямёччык так і пашо́ў адзі́н адны́м* (в. Звягі).

**АДСКО́КВАЦЬ** *незак.* Аддзяляцца ад сываратк (пра тварог). *Тво́раг адско́чыць – уве́рх падымі́цца, тады́ салле́ш е́ту сы́раватку і – у ма́рлевы паке́цік падве́сіш і́лі пад ка́мень-груз* (в. Звягі)

**АТВА́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Выпрамляць спіну і адхіляцца крыху назад. *І так ро́ўна кашу́, ішчэ́ бо́льшы, што атва́льваешся наза́д, дык так ле́гчэ* (в. Звягі).

**АТСЕ́ДА** *прысл.* З гэтага боку. *Атсе́да не́мцы ніка́к ня мо́жуць узя́ць, а атту́да адзі́н не́міц зае́хаў збо́ку і ўбі́ў таго́ парціза́на* (в. Звягі).

**АТСЮ́ЛЯ** *прысл.* Адсюль. *У пляну́ былі́ ў Ве́трыне. Нас атсю́ля загна́лі ў Ве́трына* (в. Галоўчыцы).

**БА́БКА** *ж.* Укладка сцяблоў жыта. *Калі́ жнеш се́рпам уручну́ю, тады́ ў ба́бкі е́та зно́сіш* (в. Звягі).

**БАРКА́Н** *м.* Плот. *Каро́ў і са́начкі свае́, хутулі́ пакіда́лі кала́, як я заву́, барка́н ці згаро́да* (в. Звягі).

**БЕ́СТАЛАЧ** *м.* Чалавек, які нічога не разумее. *Ён п'я́ны там разбіра́ецца, каке́й тот цвет ці зялёны, ці кра́сны, како́е там паня́цце было́, калі́ ўжэ бе́сталач така́я* (в. Звягі).

**БІЗАБРА́ЗНЫ** *прым.* Непаслухмяны. *Мальчы́шкі такі́я бізабра́зныя: узя́лі лягушча́т налаві́лі ды ў кані́стру з вадо́й для не́мцаў напіха́лі* (в. Звягі).

**БІРЕ́МА** *н.* Бярэма. *Біре́ма – е́та ко́лькі се́на на чалаве́ка, штоб хва́ціць і пане́сь* (в. Звягі).

**БІ́ТАМ: БІ́ТАМ НАБІ́ТА** *экспр.* Вельмі многа і шчыльна накладзена чаго-небудзь. *У нас тут во бярёзавых па́лак бі́там набі́та, но мы не спалі́лі* (в. Звягі).

**БО́ЛЬША НЕТ КАК ЕСЦЬ**. Адсутнічае збольшага, у большасці выпадкаў. *Мужыка́ у яе́ нет. Ну зна́іця цяпе́р как: бо́льша нет как есць* (в. Галоўчыцы).

**БРА́ЦЦА: АТКУ́ДА БРА́ЦЦА**. З’явіцца знянацку. *Атку́да бра́ўся салда́т з пулямётам, ішо́ў ён па лясу́* (в. Звягі).

**БУ́РКІ** *мн.* Абутак, пашыты з тканіны. *Бу́ркі шыў ба́цька – таке́й ма́сцер быў – з пала́так німе́цкіх, шы́лі і з шыне́лі* (в. Звягі).

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Катаць валёнкі. *Аве́чак і сабе́ ре́залі, і шу́бу пашы́еш, і ва́ленкі валілі* (в. Звягі).

**ВЕК** *прысл.* У выразе: *век бы не...* Ніколі. *Век бы сыро́га яічка куплёнага ні вы́піла – здае́цца, вот апсы́пь міня́ зо́латам* (в. Звягі).

**ВУ́ХА: СВАІ́М ВУШО́М ЧУЦЬ**. Чуць уласнымі вушамі. *Сваі́м вушо́м чу́ла, як е́та было́, як во́шы ло́палі на адзе́жы ў парціза́н* (в. Вархі).

**ВЫ́ВУЧАНЫ** *дзеепрым.* Адукаваны. *І ўну́кі ёсь і пра́ўнукі – усе вы́вучаныя* (в. Вархі).

**ВЫ́КЛАСЦІСЯ** *зак.* Знясціся. *Вот ку́ріцы сідзя́ць пака́ вы́кладуцца – яічкі пало́жуць* (в. Звягі).

**ВЫ́ХАДЗІЦЬ** *зак.* Дамагчыся. *Па́спарта ні было́ ў дачкі́. Ба́цька ёй вы́хадзіў па́спарт* (в. Вархі).

**ВЫХАДНЫ́: НІ ВЫХАДНО́ГА НІ ПРАХАДНО́ГА**. Працаваць без адпачынку. *Рабо́талі на не́мцаў так, што ні выхадно́га ні прахадно́га* (в. Вархі).

**ВЫХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Атрымлівацца. *Мне не выхо́дзіць куре́й дзяржа́ць на дваре́* (в. Звягі).

**ГАРО́Х: СЫ́ПАЦЬ КАК ГАРО́ХАМ** *экспр.* Распачаць моцную стральбу. *То́лька падні́мемся ды пабягём, а не́мцы і так стреля́юць, і так сы́плюць как гаро́хам – кала́ са́мых вуш свішчы́ць е́та пу́ля* (в. Звягі).

**ГЛАЗА́: ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ГЛАЗА́ ВЫ́ГАЛІЎШЫ**. Вытарашчыць вочы. *Как не́міц вылі́ваў ваду́ з каністры, мо́жа ско́лькі лігушча́т ускочыла ў кацёл, а адна́ бальша́я лігу́шка застря́ла – то́лька глаза́ вы́галіўшы глядзі́ць* (в. Звягі).

**ГНАЦЬ: ГНАЦЬ БАРАЗНУ́**. Баразніць. *Тра́ктар е́дзіць – пяць аку́чнікаў у яго́ – і сра́зу пяць баразён го́ніць* (в. Вархі).

**ГРА́НКА** *ж.* Вузкая градка. *Гра́нкі – е́та дзе со́дзяць прімерна свяклу́, марко́ўку* (в. Звягі).

**ДАБРО́: ПАДСЫ́ПАЦЬ ДАБРА́** *іран.* Адлупцаваць моцна. *Не́мцы злаві́лі е́тых ма́льцаў ды как падсы́палі ім дабра́* (в. Звягі).

**ДАВА́ЦЬ** *незак. безас.* Быць прычынай хваравітых адчуванняў, балець. *Ясі́ тро́шку, дык мне лёхка. А чуць што там яко́е, жы́рнае ці кі́слае – нільзя́. Адра́зу дае́ць* (в. Галоўчыцы).

**ДАРАГІ́: У СТО ДАРАГО́Ў ДАРО́ЖА** *экспр.* Вельмі дорага. *У сусе́дзяў купілі парасёнка – у сто дараго́ў даро́жа* (в. Вархі).

**ДЫ́БАЦЬ** *незак.* Ісці (пра пеўня). *Гаварю́: "Пе́ценька, хадзі! Хадзі́ са мной!". І ён за мной, дыб-дыб, ды́баіць, бяго́м-бяго́м ззаду бягі́ць* (в. Звягі).

**ЗАБІВА́ЦЦА** *незак. экспр.* Моцна стамляцца. *У жару́, как се́на вазі́ць, жа́рка – конь ні стаі́ць, забіва́ецца: тру́дна з ім абрашча́цца* (в. Звягі).

**ЗАДРА́ЦЬ: ГАЛАВУ́ ЗАДРА́ЦЬ**. Быць няўважлівым, рассеяным. *Ідзём па полі, галовы пазадзіраўшы, знаіш, бабы* (в. Галоўчыцы).

**ЗА́ІЦ: ЗА́ІЦ НАПУГА́НЫ**. Той, хто моцна баіцца, спужаўся. *А нам жа страшна было, знаіце, заіц напуганы* (в. Галоўчыцы).

**ЗАМАРО́КА** *ж.* Марока. *Прымерна с этай стараны рысуеш, што табе нада, і с этай стараны шыеш. Але ўсё роўна эта замарока* (в. Галоўчыцы).

**ЗАПЛЯНІ́ЦЬ** *зак.* Заплесці поўнасцю. *Хмель цвіціць кісцёй такей как вінаград, а тады – цёмна-кафейныя шышачкі. Расценіе ўюшчае – ужэ заборчык весь запляніла* (в. Звягі).

**ЗАРО́Б** *м.* Заработак, пенсія. *Дык які там зароб, якая тая пенсія, а ўсім нада даць* (в. Вархі).

**ЗАЦЯ́ГАВАЦЬ** *незак.* Завешваць. *Я ўзяла пакравала і зацягаваю дзверь у курятнік – на гвоздзях павешаю яго* (в. Звягі).

**ЗВА́ЖВАЦЬ** *незак.* Звозіць. *Как сталі с поля ўбіраць каменьня, зважвалі ў вір – місечка на речкі было нічогае, і завалілі етат вір увесь* (в. Звягі).

**ЗВЯГЛІ́ВЫ** *прым.* Бесталковы. *Чаго ета дзіреўня – Звягі? Людзі звяглівыя былі – такія бесталковыя* (в. Звягі).

**ЗГАРО́ДА** *ж.* Тое, што і баркан (в. Звягі).

**ЗНА́ЦЦА** *незак.* Ведаць адзін аднаго, сябраваць. *Мы зналіся: жылі ў той дзярэўні* (в. Галоўчыцы).

**ЗНЯ́ХАЦЦА** *зак. эм.-ац.* Знайсці паразуменне, дамовіцца, спадабацца, "знюхацца". *І з гэтай ужо зняхаўся, узяў у жоны* (в. Галоўчыцы).

**КАЗА́ЦЬ: ЯК ТОЙ КАЗА́Ў**. Так бы мовіць. *Зналі, што ні ў рай жа гонят нас, а, як той казаў, у пекла* (в. Галоўчыцы).

**КАЛАКО́Л: КАК КАЛАКО́Л** *экспр.* Вельмі новы. *Сена – цэлы сенавал забіт і хлеў как калакол – новенькі-новенькі* (в. Звягі).

**КАМБІКО́РМ** *м.* Корм для свойскай жывёлы. *Бывала прівязуць свінням кармы – камбікормы, а выгружаць людзей не хватала* (в. Звягі).

**КАПЦЮ́ШКА** *ж.* Лучына. *Бывала, прыду с фермы, а ішчэ сьвету ні было, капцюшку якую пастаўлю і сяжу: то праду, то шыю* (в. Галоўчыцы).

**КАРКАЛЕ́СНІК** *м.* Блін з тварагом. *Бліны начынённыя – каркалеснікі завуць: тонінькія пікеш, тады тварагу туды свайго і – канвертам* (в. Звягі).

**КАСА́** *ж.* 1. Сельскагаспадарчая прылада, якая служыць для зразання (скошвання) травы, збожжа. 2. Доўгае загнутае лязо, прызначанае для зразання травы, збожжа (в. Звягі).

**КАСАВІ́ШЧА** *н.* Драўляная ручка ў касе, дзяржальна, касільна. *У касе ёсь каса, касавішча, палец* (в. Звягі).

**КІ́НУЦЬ** *зак.* Пакінуць. *Два пітуха нільзя дзіржаць – яны тады дзіруцца сільна, адзін аднаго абіжаюць. А было так, што кінула два* (в. Звягі).

**КРАЙ** *м.* Канец сяла. *Немцы ўжэ пад'ехалі ў наш край, а мы туды дальшы-дальшы за касцёл былі* (в. Звягі).

**КРЕ́ПКА: ЖЫЦЬ КРЕ́ПКА**. Жыць заможна, багата. *Яны крепка жывуць – пяцёрку не шчытаюць за дзеньгі* (в. Вархі).

**КРІВО́ЦЦЕ** *н. зборн.* Сагнутыя веткі кустарніка. *Адна́ жэншчына, тут ря́дышкам кусты́, узя́ла там не́йкага крівоцця – але́шніку е́тага – адсе́кла і жардзі́ну прібі́ла – і штра́фу да́лі* (в. Звягі).

**КРОЛЬ** *м.* Кролік. *Мно́га кралей дзяржа́ла, па се́мдзесят штук і бо́льшы было́ – тушо́нка ўку́сная сільна* (в. Звягі).

**КУКУ́ШКІ** мн. Мучная страва з талакном. *Талакно́ разво́дзім – е́та авёс па́раны, мука́ така́я, а тады́ – вады́, со́лі ці са́хару, узбаўта́іш і куку́шкі такія дзе́лалі* (в. Звягі).

**КУ́МПАЛ** *м.* Купал. *А не́мцы пріе́халі к касцёлу ў Ре́мнях і дава́й па ку́мпалу ў касцёле біць-стреля́ць* (в. Звягі).

**КУ́ЧКА** ж. Укладка кармоў. *Кармы́ ў ку́чку кладзе́ш* (в. Звягі).

**ЛА́ДНАЕ** *прысл.* Доўга. *Ла́днага не́мцы ў Ре́мнях нахадзіліся, ла́днага* (в. Звягі).

**ЛІ́НІЯ** *ж.* Чыгунка. *У нас дзе лі́нія, парцiза́ны іду́ць і падрыва́юць паязды́* (в. Вархі).

**ЛІСІ́ЧЧЫ** *прым.* Лісіны. *У ле́се лісі́ччыі но́ры ёсь, лісі́цы жыву́ць і лісі́чкі-грібы́ расту́ць* (в. Звягі).

**ЛЯ́ХА** *ж.* Шырокая градка. *Ле́хі есь, ля́ха – е́та шыро́кая для лу́ка, агурцо́ў* (в. Звягі).

**МА́ЛЕЦ** *м.* Хлопчык, хлопец. *Там чаты́ры ма́льцы, чаты́ры дзе́ўкі* (в. Галоўчыцы).

**МАХНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Моцна ўдарыць токам. *У не́мцаў было́ так, е́слі ты датро́нісся да про́вада, цібе́ як махне́ць* (в. Вархі).

**МЯТЛА́: ПАД МЯТЛУ́**. Усіх да адзінага. *Не́мцы ўсіх пад мятлу́ страля́лі* (в. Вархі).

**МЯШО́К: БЫЦЬ У МЯШКУ́.** Быць незаўважным, схаваным. *Чарно́быль пачці́ што па ўсіму́ све́ту пашо́ў. А дзе ён дзе́ўся? Ці ён у мяшку́ той Чарно́быль* (в. Галоўчыцы).

**НАЛЯПІ́ЦЬ** *зак. эм.-ац.* Нажыць дзяцей у сям'і. *З тэй жыў ні было́ дзіце́й, а з гэ́тай ужо́ і шэсць штук наляпі́ў* (в. Галоўчыцы).

**НАРЕ́ЗАЦЦА** *зак. экспр.* Многа зарэзаць, забіць. *Сніма́лі кры́шы і карміі́лі скот гнілэ́й е́тай сало́май: сільна скот падыха́ў, пада́ў, сто́лькі ціля́т павысахла – ну і наре́заліся е́тага ската́* (в. Звягі).

**НЕ́СЦІ** *незак.* Падымаць або несці што-н. цяжкае. *Не́сці мне нільзя́. У мяне́ і даўле́нне, і пе́чань бальна́я* (в. Галоўчыцы).

**НЕ́ЧА** *займ.* Нечага. *Наве́рна ду́малі, што мо́жа йі́хнае пра́ва бу́дзіць німе́цкае. Яны́ жылі́ на свае́й зямлі́ і ім не́ча баяцца* (в. Галоўчыцы).

**НЯДРУ́ЖНЫ: НЯДРУ́ЖНЫЯ ЎСХО́ДЫ**. Розныя па часе прарастання ўзыходы (пра бульбу). *Сёліта нядру́жныя ўсхо́ды – адна́ бо́льшы, адна́ ме́ньшы, адна́ ўсхо́дзіць* (в. Вархі).

**ПАВЫ́КРАСІЦЬ** *зак.* Якасна і прыгожа пафарбаваць. *У е́тым касцёле не́мцы січа́с жа ўсё павыкрасюць, павыдзелаюць, туале́ты свае́ падзе́лаюць – усё культу́рна, чыстапло́тна* (в. Звягі).

**ПАВЫ́РІЗАЦЬ** *зак.* Вырубіць. *Ціпе́рь лясо́ў такі́х нет, штоб лес – куста́рнік круго́м-круго́м – усё павы́резалі, павы́везлі* (в. Звягі).

**ПАВЫ́САХНУЦЬ** *зак.* Схуднець, змарнець. *Панялі́: е́та ён дзе́лаў наро́шна, што ўнічто́жыў сто́лькі ціля́т, сто́лькі ската́ павы́сахла* (в. Звягі).

**ПАГАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пачакаць. *Ду́маю, у апре́лі ніхто́ агурцы́ ня со́дзіць. Ду́мала, пагажу́, бу́ду садзі́ць у ма́і, а ў ма́і ста́ла хо́ладна – апяць на́да пагадзі́ць* (в. Звягі).

**ПАГА́НЫ** *прым.* Дрэнны, неўрадлівы (пра зямлю). *Зімля́ ў нас пага́ная – усё перігара́іць, ніч́ога ня ро́дзіць* (в. Вархі).

**ПАЛАЖЫ́ЦЬ** зак. Забіць. *Паліца́і былі́ – іх палажы́лі парцізаны мно́га* (в. Вархі).

**ПА́ЛЕЦ** *м.* Драўляная ручка на дзяржальне. *У касе́ для міне́ па́лец ні́зенька – е́та я ціпе́рь сагну́тая, а тады́ ж была́ прямая, так сагну́ла жызь* (в. Звягі).

**ПА́ЛКА** *ж.* Палена. *Бярёзавае – е́та ж гаря́чае: пало́жыш па́лачку ілі дзве – і ўжэ слы́шна, што бярёзавая была́ па́лка* (в. Звягі).

**ПАЛЯ́НКА** *ж.* Дзялянка ў лесе пад вырубку. *Выпі́сваюць у саўхо́зе паля́нку – хто сто кубаме́траў, хто ско́лька. Леснікі́ атме́ряюць па дзерявінам і начына́юць вырезаць, тады́ до́лжэн усё ўбраць чы́ста, харашо́* (в. Звягі).

**ПАПРІСЦІ́** *зак.* Прыйсці, вярнуцца. *Скот сам папрішо́ў-папрішо́ў – ужэ́ цёмна было́, свет запалі́лі – каро́вы папрішлі́ ўсі-ўсі дамо́й* (в. Звягі).

**ПАПЭ́МКАЦЬ** *зак. эм.-ац.* Крыху пастраляць. *Ой-ё-ёй, ско́лькі там пало́жына людзе́й. А ў нас тро́ху папэмкалі-папэмкалі – заме́цілі парціза́н тут у Ре́мнях* (в. Звягі).

**ПАЎРЯМЁНАЧКА** *ж.* Летні домік. *Паўрямёначка – ле́тні до́мік, есь і пе́чачка, і я́блыкі как уво́сень туды́ кладзём, зака́ткі, і свяклу́, і карто́шку, тут і падва́л здзе́лан* (в. Звягі).

**ПІЛІ́ЦЬ** *незак. эм.-ац.* Іграць на музычным інструменце. *Ку́пюць яму́ буты́лачку ма́льцы сабра́ўшыся, і ён ужэ́ нам уве́сь ве́чар на гармо́шцы пі́ліць* (в. Звягі).

**ПІ́ПЧЫЦЬ: ПІ́ПЧЫЦЬ У ПІ́ПКУ**. Курыць люльку. *Сядзі́ць Пётар Лукі́ч і ку́ріць – пі́пчыць у пі́пку* (в. Звягі).

**ПІ́ЦЬКІ: ЗАХАЦЕ́ЦЬ ПІ́ЦЬКІ**. Захацець піць. *Астанаві́лісь парціза́ны кала́ наша́га кало́дзіся, іх ко́ні пі́цькі захаце́лі, а тут не́мцы е́дуць па даро́ге* (в. Звягі).

**ПЛУ́ГА** *ж.* Плуг. *А я ціга́ла плу́гу* (в. Звягі).

**ПРАХ: ПАЙСЦІ́ ПРА́ХАМ**. Знікнуць, згубіцца; стаць несапраўдным. *Рубле́й тры́ста-чаты́рыста зьбярэ́ш і на кні́шку пало́жыш... Кні́шкі ты́я пашлі́ пра́хам* (в. Галоўчыцы).

**ПРЫДАВА́ЦЦА** *незак.* Здавацца, трызніцца. *Нам прыдало́ся, што е́та не́мцы* (в. Вархі).

**ПРЫТРАВІ́ЦЬ** *зак.* Стравіць пасевы. *Прытраві́ў аграно́м траву́, штоб лён быў чы́сты – я́ду ўнёс* (в. Вархі).

**ПУ́ЛЬМАН** *м.* Вагон з грузам. *Пу́льман прі́йшоў – ваго́н зна́чыць, на́да е́хаць разгружа́ць муку́* (в. Звягі).

**РАЗБАМБІ́ЦЬ** *зак. экспр.* Збіць надзвычай моцна. *Не́мцы бі́лі То́ліка-парціза́на ўжэ ўбі́тага, іздзева́ліся, бі́лі-бі́лі – разбамбі́лі ўсяго́* (в. Звягі).

**РАСПУША́ЦЬ** *незак.* Рабіць пушыстым адзін бок снапа. *Снапкі́ віза́лі, ба́бкі лажылі, а тады́ наве́рьх яшчо́ снапкі́ распуша́ць, каб дошч не прамыва́ў* (в. Вархі).

**РЕ́ЗАЦЬ** *незак.* Круціць на мясарубцы. *Тваро́г гато́вы з ма́рлевага мяшо́чка – на машы́нку, на місару́бку паре́жаш* (в. Звягі).

**РУБЕ́Ц: ЕЛЕ́НІН РУБЕ́Ц.** Рыса, якая выдзяляе гранёную частку шклянкі. *Шыро́кі такі́ рубе́ц зве́рьху. Стака́н дзве́сці піддзіся́т грам па еле́нін рубе́ц. Вы́піў – і до* (в. Звягі).

**РУЛО́Н** *м.* Лён скручаны ў трубкі механічным спосабам. *Бальшэ́й сно́п – руло́н, пяцьсо́ткілаграмовы. Машыны кру́цяць – і на льнозаво́д у Гарадо́к*(в. Вархі).

**СВІДЗЕ́ЦІЛЬ: ПАЙСЦІ́ НА СВІДЗЕ́ЦІЛЯ.** Стаць сведкай. *Нача́льства яшчо́ аднаго́ падгавары́ла, тако́га алкаго́ліка, і ён пашо́ў на свідзе́циля* (в. Звягі).

**СІЙЧА́С** *прысл.* Адразу, у той жа момант. *Еслі але́шннік палі́ць, ён жа сійча́с згары́ць* (в. Звягі).

**СКАВАРО́ДА** *ж.* Патэльня. *Е́тат хазя́ін-сасе́д к е́таму сасе́ду-не́мцу зайшо́ў, узя́ў скаваро́ду бальшу́ю і несе́ць дамо́й і з я́ічніцай* (в. Звягі).

**СКАРАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Баранаваць. *Снача́ла на́шы ма́мы на каро́вах скарадзі́лі, а тады́ нас узялі́. Я іду́ і каро́ва кала́ міне́ ідзе́ць цягніць бара́ну – і скарадзілі так: жэншчыны паха́лі на жэншчынах* (в. Звягі).

**СКРОЗЬ** *прысл.* Наскрозь. *Ніжній ка́мень жо́рен скрозь з ды́рачкай* (в. Звягі).

**СО́ТКА** *ж.* Сто, сотня. *Была́ фе́рма бальша́я, свіннафе́рма была́, каро́ў было́ мно́га, мо́жа, пяць со́так гало́ў, ціля́т мно́га было́* (в. Звягі).

**СПО́РНЫ: СПО́РНЫЯ ДЗЕ́НЬГІ.** Грошы, патрачаныя на карысную рэч. *Ра́ньша ма́ла палуча́лі, но ўсё раўно́ былі спарне́йшыя дзе́ньгі* (в. Галоўчыцы).

**ССЕЧ** *зак.* Збіць. *Как білі не́мцы, как стрілялі – усё хаце́лі ку́мпал е́тат ссеч* (в. Звягі).

**СТАКА́Н З РУБЦО́М.** Стакан ёмістасцю дзвесці пяцьдзесят грамаў. *Стака́н з рубцо́м – у е́тым стака́не дзве́сці піддзіся́т грам* (в. Звягі).

**СТАРІ́НУШКА** *ж.* Даўніна. *Дзіре́ўня Ремні́ – е́та так ішчэ́ са старі́нушкі называ́ецца, яна́ длінная как ріме́нь* (в. Звягі).

**СТО́ІЦЬ: НІЧО́ГА НЯ СТО́ІЦЬ.** Быць няякасным, непаўнавартасным. *Зяць схваці́ў сто́пачку перва́ча, ду́маў, што е́та нічо́га ня сто́іць – і гла́зы пад лоб* (в. Звягі).

**СТО́ПКА ГАРНЁНАЯ.** Стакан ёмістасцю сто грамаў. *Гранёная сто́пка – е́та стограмо́ўка: і гаре́лку п'ём, і соль насыпа́ім* (в. Звягі).

**СТРАХ: БЕРАГЧЫ́, ШТО СТРАХ** *экспр.* Вельмі моцна дбаць. *Плоха здзе́лаць – нехарашо́, а харашо́ здзе́лаць – тра́ктар пацара́паіш (у яе́ ў гаро́дзе яблынь мно́га), бу́дзіць аржаве́ць: бярёг тра́ктар, што страх* (в. Звягі).

**СТРО́ІЦЬ** *незак.* Рамантаваць. *Хазя́ін мой любі́ў сі́льна це́хніку, так бярёг і сам усё стро́іў, сваі́м рука́м* (в. Звягі).

**СЫ́ПАЦЬ: УЗЯ́ЦЦА СЫ́ПАЦЬ** *экспр.* Распачаць моцную стральбу. *Ён расста́віў на но́жках пулямёт, і как узя́ўся сы́пацць па не́мцам, так яны́ скот кі́нулі і ўе́халі* (в. Звягі).

**СЬМЕХ: ГЭТА Ш НІ СЬМЕХ.** Пра нешта істотнае, значнае, вялікае. *А пасьледнія ўрэмя дык і пяшком хадзілі рабяты. Кілометраў сем ці восем. Гэта ш ні сьмех* (в. Галоўчыцы).

**ТАПАРНІК: ЗДЗЕЛАЦЬ ТАПАРНІК.** Зарубіць тапаром. *Прішлі пакалолі нашых усіх кур, прівіўкі здзелалі. Тады хто павывіў курей – ні захацеў цігацца – пасеклі ды паелі. Как гаворяць: здзелаць курям тапарнік, пад тапор* (в. Звягі).

**ТОРНУЦЬ** *зак. эм.-ац.* Аддаць грошы (калі пэўная сума траціцца на дробязі). *Туды, туды, туды торнеш, паглядзіш і грошай етых і ні хватае* (в. Галоўчыцы).

**ТУТАКА** *прысл.* Тут. *Прыехала, а тутака ўміраюць з голаду* (в. Галоўчыцы).

**УБІЦЬ: УЗЯЦЬ ДЫ ЎБІЦЬ.** Забіць наўмысна. *Дзядзька етат паліцай пад'ехаў, а Толік-парцізан, племяннік яго, узяў ды ўбіў етага дзядзьку – выстраліў* (в. Звягі).

**УЗЯЦЬ: НЯ ДОЛЖЭН УЗЯЦЬ.** Не маеш права браць. *У немцаў хаты не замыкаюцца, у іх ня должэн ты нічога ўзяць, а ўзяў і нісеш дамой – ты ўкраў. За ета яны ўбівалі* (в. Звягі).

**УМЕСНЫ** *прым.* Сумесны, аб'яднаны. *Свадзьба была на сто чалавек, умесная – явоная і мая, усе ўмясціліся* (в. Звягі).

**УМЕСТА** *прысл.* Разам. *Абмоткі салдацкіі нескалькі штук – яна мяхкая такая, длінная – з етых дзве ўместа ці трі, штоб хваціць і панесь бірема* (в. Звягі).

**УПЕРЦІСЯ** зак. эм.-ац. Апярэдзіўшы іншых, паспець уладкавацца куды-н. *Хто на ферму ўпёрся, той і работае, а хто – не, таму работы нет* (в. Галоўчыцы).

**ХАДЗІЦЬ: ХАДЗІЦЬ НА БУРАКІ (БУЛЬБУ, ЛЁН І Г.Д.).** Выконваць дзеянні па доглядзе пасеваў, працаваць у полі. *Раньша ш мы работалі, і пеньсіянеры, і на буракі хадзілі, і палолі, і садзілі, і рвалі* (в. Галоўчыцы).

**ХЛЕБНІК** *м.* Чалавек, які возіць прадукты харчавання па вёсках. *Возіць у нас хлебнік усякіе прадукты, і памідоры, і агурцы* (в. Звягі).

**ХУТУЛІ** *мн.* Пажыткі, лахманы. *Нейкія хутулі ў нас былі, і мы іх на карову павешалі, а ета капрізнічаець* (в. Звягі).

**ЦЁПЛІНЬКІ: УЗЯЦЬ ЦЁПЛІНЬКІМ.** Схапіць, арыштаваць знянацку. *На тот дзень мы не пашлі ў лес: узялі нас немцы ў хаці цёплінькімі* (в. Вархі).

**ЦЕРЦІ** *незак.* Мяць, таўчы (таўкачом). *Раньшэ ўручную таўклі: патруць-патруць талкачком* (в. Звягі)

**ЦІМУС** *м.* Матэрыяльны інтарэс, магчымасць заработаць. *Тут у Максімаўке ўвесь цімус – і на маслазаводзе работаюць, і ў бальніцы, і ўчыцеля, усе рабочые тут* (в. Звягі).

**ЦЭП: ІСЦІ ЦЭПАМ.** Ісці адзін поруч з другім. *Немцы цэпам ішлі – акружылі поўнасцю, нідзе ні дзенісся* (в. Вархі).

**ЧАШЧА** *ж.* Лапкі хвоі. *Карове чашчу секлі, і яна ела ету чашчу – ельнік, ат ельніка лапкі такія* (в. Звягі).

**ЧОРТ: ДА ЧО́РТА** *экспр.* Вельмі многа. *Ра́ньшэ, е́та шчэ ў пяцідзіся́тыі, шасцідзіся́тыі, усё было́ ма́ла рук, не хвата́ла рабо́чых. Хоць і было́ іх да чо́рта, а ўсё раўно́ ма́ла* (в. Звягі).

**ШУМЕ́ЦЬ** *незак.* Шалясцець. *У міне́ ю́бка з пала́ткі німе́цкай была́ пашы́та , то́лька шумі́ць, как ідзе́ш* (в. Звягі).

**ШЫ́БКА** *прысл.* Хутка. *Да ле́са дайці́ – саўсі́м-саўсі́м нямно́га, а ребя́та мы ж бе́галі шы́бка* (в. Звягі).

**ЯЗЫ́К: ПЛІСА́ЦЬ ПАД ЯЗЫ́К.** Танцаваць без музыкі. *Дзе пад язы́к пліса́лі, а хто і на гармо́шкі пі́ліць, на цамба́лы ігра́іць, на балала́йку, на скры́пку* (в. Звягі).

*І. А. Гапоненка, В. П. Трайкоўская*

# НАЗВЫ ЛЕКАВЫХ РАСЛІН У ГАВОРКАХ ВЁСКІ СТАРЫ СВЕРЖАНЬ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА

Лексіка народнай медыцыны ў аснове сваёй вельмі старажытная, пры гэтым склад яе папаўняецца на працягу ўсёй гісторыі мовы, у першую чаргу за кошт актыўных словаўтваральных працэсаў і засваення запазычанняў. Народная (нетрадыцыйная) медыцына і гамеапатыя ўвесь час знаходзяць сваіх прыхільнікаў і суіснуюць паралельна з адпаведнымі галінамі афіцыйнай навукі.

У нашай падборцы змешчаны словы, якія абазначаюць палявыя, лугавыя, лясныя, балотныя, дэкаратыўныя і інш. лекавыя расліны вёскі Стары Свержань і адсутнічаюць у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (1977-1984 гг.). Зафіксаваныя лексемы разнастайныя ў семантычных, лексіка-граматычных, словаўтваральных і акцэнталагічных адносінах.

Лексічны матэрыял запісаны аўтарамі ў 2001 годзе ад мясцовых жыхароў Кізевіч Ю. С. (1922 г. н.), Слабейка Л. С. (1926 г. н.).

Вёска Стары Свержань знаходзіцца ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці, з'яўляецца цэнтрам калгаса "Нёман", размяшчаецца на паўднёвым захадзе на аўтамабільнай дарозе Стоўбцы – Івацэвічы.

Па сваіх важнейшых моўных асаблівасцях, гаворка дадзенай вёскі адносіцца да паўднёва-заходняга дыялекту.

**АДАНІ́С** м. Адоніс. *Засушваюць толькі кветкі аданіса. Адвар іспользуюць калі праступда, кашаль, лёхкія запаліліся.*

**АСО́КА** ж. Асака. *Асока очынь харошая лякарства ад нерваў. Расце ў нас на пясках каля рэчкі.*

**АЛЬВА́С** м. Альяс. *Альвас лячнічы. Яго трэба пацерці, дабавіць мёду, настаяць і піць пры асме.*

**БА́БА, БА́ПКА** ж. Трыпутнік. *Лісткі бапкі прыкладваюць да ўшыбленага месца.*

**БАГАРО́ЦКІ: БАГАРО́ЦКАЯ ТРАВА́**. Чабор. *Настой багароцкай травы здымая кашаль. Можна заварваць і чаёк.*

**БАГО́Н** м. Багульнік. *Багон расце на забалочаных, тарфяных месцах. Настойку з багона добра прымаць ад кашля.*

**БАЛО́ТНІ: БАЛО́ТНІ АКО́ПНІК.** Травяністая расліна сямейства бурачнікавых. *Корні балотняга акопніка настойваюць на гарэлцы і даюць ад жывата.*

**БАРАВЫ́: БАРАВЫ́ ГАЛАДО́К**. Шматгадовая травяністая расліна сямейства гваздзіковых. *Баравы галадок расце кучкамі на сухіх месцах, лугах. Лісткі заварваюць і п'юць ад галавы.*

**БРАТКІ́** мн. Бра́ткі. *Браткі заварваюць і купаюць дзяцей у гэтай вадзе.*

**ВАЛЕРЫЯ́НКА, ВАЛЯР'Я́НКА** ж. Валяр'ян. *Трэба сушыць сам корань валерыянкі, а потым стаўчы і заварваць у банацы.*

**ГЛУХІ́: ГЛУХА́Я КРАПІВА́.** Шматгадовая травяністая расліна сямейства крапіўных. *У глухой крапівы лісткі мяккія, не такія пякучыя, як у жыгаўкі. Іх заварваюць ад сэрца.*

**ГО́РКІ: ГО́РКАЯ ТРАВА́.** Зуброўка. *Горкую траву настойваюць на гарэлцы і п'юць ад прастуды.*

**ДЗІ́КІ: ДЗІ́КАЯ РАБІ́НКА.** Піжма. *Заварваюць дзікую рабінку і даюць дзецям ад глістоў.*

**ДЗЯТКІ́** мн. Лопух. *Корані дзяткоў высушваюць, потым заварваюць і параць ногі ў гэтым адвары.*

**ДЗЯ́ТЛІНА** ж. Дзяцеліна. *Гэта такія маленькія белянькія кветачкі. Настойка з дзятліны супакойвая нервы.*

**ДРАБІ́НКА** ж. Гусялапка. *Драбінку настойваюць на гарэлцы. Гэтым настоям праціраюць раны, парэзы.*

**ДУШНІ́ЦА** ж. Мята. *Летам душніцу сушым і ў чай кідаям, зімой на сон п'ём, палошчам рот.*

**ЖАВАКО́СТ** м. Жывакост. *З жавакоста робяць мась і прыкладаюць да вывіхаў.*

**ЖЫВАСІ́Л** м. Дзівасіл. *Жывасіл цалебны. Яго кораням лечаць усе хваробы жывата.*

**ЖЫ́ГАЎКА** ж. Пякучая крапіва з дробным лісцем. *Адварам з лістоў жыгаўкі добра валасы прамываць. Яна ўсюды расце.*

**ЗАВАЛУ́ХА** ж. Макрыца. *Называюць завалухай, бо як заваліць гарот, не абярэсся ад яе. З завалухі робяць настойку і п'юць ад раматызму.*

**ЗА́ЯЧЫ: ЗАЯЧА ТРА́ЎКА.** Кісліца звычайная. *Заяча траўка расце на мокрых месцах. Яна палезна, бо ў ёй многа вітамінаў.*

**І́РНЫ: І́РНЫ КО́РАНЬ.** Аер. *Адварам ірнага кораня можна мыць валасы, кап раслі лепш.*

**КАЛЯ́ДНІК** м. Пакаёвая расліна, якая зацвітае на Каляды. *Каляднік лічыцца святым вазонам, бо цвіце на нараджэння Хрыстова і дае здароўе.*

**КАПЫ́ЦЕНЬ** м. Падалешнік. *Капыцень расце ў лясох. Ён ад усіх хвароп і ад сэрца, і ад галавы, і ад нерваў.*

**КІСЛІ́ЦА** ж. Шчаўе. *Настоям кісліцы палошчуць рот пры ангіне.*

**КО́ЗЛІКІ** мн. Казялец. *Пры пячонцы п'юць адвар с козлікаў. Робяць мась с кветачак і свежага тлушчу, а потым, калі моцна прастылі, націраюць грудзі.*

**КУРЫ́НЫ: КУРЫ́НЫЯ ЛА́ПКІ.** Кураслеп. *Настойку с курыных лапак п'юць, як баляць косці, калені.*

**ЛО́ТАСЬ** ж. Лотаць. *Лотась цвіце ў начале мая на балоці, у канавах. Гэта першая дапамога пры кашлі.*

**ЛУЦО́ЎКА** ж. Люцэрна. *Луцоўка расце ля дарогі. Яе іспользуюць пры сахарнай хваробе.*

**ЛЯБЕ́ДНІК** м. Лебяда. *Свежыя патоўчаныя лісткі лябедніку выцягваюць стромкі.*

**ЛЯСНЫ́: ЛЯСНА́Я КРАСА́ЎКА**. Сон-трава. *Адвар лясной красаўкі іспользуюць калі праступа, кашаль, лёхкія запаліліся. Можна і вочы праціраць адварам з гэтых кветачак.*

**МА́ТАШНІК** м. Падбел. *Некалі заварвалі маташнік з мёдам і так лячылі бяркулёс.*

**МЯЖАВІ́ЦА** ж. Травяністая расліна сямейства злакавых з доўгімі, тонкімі і жылістымі лістамі. *Мяжавіца расце на грудках, цвіце светлым цветам. Яе лісткамі змазваюць балячкі.*

**МЯТЛЯ́К** м. Метлюжок. *Ёсць такая трава – мятляк. Унізе лісточкі, потым сцябло, а на самай вярхушцы шышачкі, падобныя на мяцёлку. Яна лячнічая.*

**ПАТТЫ́ННІК** м. Травяністая расліна сямейства макавых з жоўтымі кветкамі. *Сарваць паттыннік і сокам памазаць барадаўкі, яны прападуць.*

**ПЫ́Р'Е** н. Пырэй. *Пыр'е заварваюць і п'юць, каб вывясці солі з арганізму.*

**РАЗЕ́ДА** ж. Аднагадовая травяністая расліна. *Кветкі разеды пацерці і прыкладаць да выпухлага месца.*

**РАПЕ́Й** м. Тое, што і дзяткі. *З рапею робяць мась і мажуць галаву, кап не было перхаці.*

**СВІТА́ННІК** м. Зверабой. *У юлі збіраям і сушым гэты світаннік, а тады добра піць для жалудка.*

**СКРЫПУ́Н** м. Тое, што і хвашчоўнік. *Да скрыпуна як датронься, пацяры ў руках, дак ён скрыпіць. Свежым сокам мажуць раны, парэзы.*

**СО́НЦАВЫ: СО́НЦАВА КВЕ́ТКА**. Тое, што і дзікая рабінка. *Сонцавай кветкай называюць, бо вельмі ж падобная, яе цвяткі заварваюць і п'юць пры болях жывата.*

**СТАРАДУ́ПКА** ж. Тое, што і аданіс. *Адварам старадупкі нервы супакойваюць.*

**СТВО́ЛЬНІК** м. Меданосная расліна сямейства парасонавых. *Кветкі ствольніка пахнуць мёдам. Іх сушаць і кідаюць у чай.*

**СТРАГО́Н** м. Палын. *Страгон вельмі горкі. Яго заварваюць для апеціту і калі жывот баліць.*

**СЦЯГУ́Н** м. Тое, што і баба, бапка. *Называецца сцягун, бо як лістком прыкладзеш да раны, то быстра сцягваецца і загойваецца.*

**ХВАШЧО́ЎНІК** м. Хвошч палявы. *Хвашчоўнік расце боляй на такіх сырых, мокрых месцах. Яго запарваюць і п'юць калі баляць ногі.*

**ЧАБРЭ́Ц** м. Чабор. *Чабрэц расце ў сухіх сасновых лясах, пчолкі яго любяць, бо хораша пахня. Калі прастыняш, дак чай з яго гатуяш.*

**ЧАПАЛО́ЦЬ** ж. Тое, што і горкая трава. *Чапалоць мае добры пах, яе запарваюць і п'юць у грып.*

**ЧАРНО́БЫЛЬНІК** м. Палын горкі. *Чарнобыльнік лічыцца проціглісным. Добра і старым піць, і дзецям.*

**ЧО́РТАВЫ: ЧО́РТАВА БАРАДА́**. Травяністая расліна сямейства злакавых. *Расце чортава барада на лузі ці дрэннай пашы, цвіце бледнымі жоўтымі кветкамі.*

**ЧЫСЦЯ́К** м. Чыстацел. *Чысцяк заварваюць і п'юць па паўшклянкі. Ён боляй ачышчая кроў.*

**ШЧАВЕ́Й** м. Шчаўе. *Шчавей адварваюць і праціраюць дзёсны, калі васпаляюцца і баляць.*

**ШЧЫТО́ЎНІК** м. Папараць. *Корань шчытоўніку заварваюць і даюць дзецям ад глістоў.*

**Я́ВАР** м. Тое, што і ірны корань. *Лісткі явару кідаюць па двары на Сёмуху, а корані заварваюць і п'юць для апеціту.*

*Т.А. Грачыха*

# ЛЕКСІКА ВЁСКІ КАСЦЮКІ БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

Вёска Касцюкі знаходзіцца на поўдні Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Гаворкі гэтага раёна ўваходзяць у склад заходнепалескай дыялектнай групы. Паводле вылучаных Л.В.Леванцэвіч груп гаворак Бярозаўшчыны, гаворка вёскі Касцюкі адносіцца да паўночназагародскіх[1]. Для яе характэрна оканне: *ворóўчына, колу́дкі, одлы́га, половы́нне, посáдка*; дыфтонгі [уо], [ыэ]: *муоля, куодаса, пуокуть, пуоўня, руок, чырыэня, шквуорка, сокыэра*; вымаўленне пад націскам [і] на месцы былога [ѣ]: *вік, лі́тнік, тінь, кві́тка*; цвёрдасць зычных перад [е], [і]: *быскрáй, бызрукáўка, здыхавы́на, кубэ́лэц, мóглыцы, нэ́бо, рубэ́ль, сажáлныкі, сі́ны, скорлу́пына, сыло́*; галосны [у] на месцы *о: *лухачы́, лу́жок. ослу́н, пудпіччэ, кут*; адсутнасць дзекання і цекання, вымаўленне мяккіх [д'] і [т'] або цвёрдых [д], [т]: *тінь, ді́жка, котюбá, дывы́тысь, цыды́лок, молодычóк, работы́нне*; форма інфінітыва на *-ты* пасля галосных: *бáчыты, вспомынáты* і інш.

**БУ́СЭНЬ** *м*. Бусел. *Бу́сьні збырáлыся ў ку́чы і готóвылыся одлытáты.*

**БЫЗРУКА́ЎКА** *ж*. Безрукаўка, вопратка без рукавоў. *Бызрукáўку Мары́на пошы́ла за стáрэі дытя́чыі шу́бы.*

**БЫСКРА́Й** *м*. Свет, сусвет. *Мі́халь пропáў у быскрáі і ныхтó ны ві́даў, дэ вун жыў.*

**ВІК** *м*. Стагоддзе, век. *Наступы́ў нóвы двáцэть пэ́ршы вік.*

**ВОРО́ЎЧЫНА** *ж*. Вяроўка. *Ворóўчына булá старáя і лóпнула.*

**ВУН** *займ*. Ён. *Змі́і збырáюцца ў лі́сы, вуны́ кáтяцца клубкáмі, ліпш гэ́того ны бáчыты.*

**ВЫЭШКІ** *мн*. Столь у хляве. *На выэшках дóбрэ сóхла цыбу́ля.*

**ГА́ЧКА** *ж*. Матыка. *Гáчкою дóбрэ полóты горóд.*

**ГІ́ЧКА** *ж*. Бацвінне. *Натáша ху́тко нарвáла гі́чкі, і мáма булá довóльна éі пóмошчы.*

**ГОВЭ́ЧКА** *ж*. Авечка. *У горóд забі́глы говэ́чкі і наробы́лы мнóго шкóды.*

**ГО́ЙДАЛКА** *ж*. Арэлі, гушкалка. *Алéська муцно любы́ла гóйдалку і качáлася на юй часáмы.*

**ГО́КО** *н*. Вока. *Гóкі ў ді́да булы́ тя́жкі і ны хоты́лі открыватысь.*

**ГО́СЭНЬ** *ж*. Восень. *Гóсэнь у гэ́тум рóцы булá вэ́льмо богáта.*

**ДІ́ЖКА** *ж*. Дзежка, драўляны посуд для заквашвання цеста. *Ті́ста зробы́лося пóўна ді́жка, і ёгó росклáлы ў фóрмы.*

**ДЫВЫ́ТЫСЬ** *незак*. Глядзець. *Повсылá зобрáлось дывы́тысь на свáрку п'яных мужыку́в.*

---

[1] Леванцэвіч Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Лексіка. Брэст, 2001. С. 36.

**ДЮРО́К** *м*. Струмень. *Малы́ ны ві́даў, шо робы́ты, бо дюро́к бу́льшаў і бу́льшаў.*

**ЗА́СЛУНКА** *ж*. Засланка для закрывання топкі печы. *Ма́ма закры́ла за́слунку, і еда́ оста́лася тёплыю на вэсь дэнь.*

**ЗДЫ́ХАВЫНА** *ж*. Сонечнае спляценне. *Од уда́ру пуд зды́хавыну Мі́шка сомлі́ў і ўпа́ў.*

**КАДУ͡ОШКА** *ж*. Кадушка для захавання мукі. *Усі́ кадуо͡шкі булы́ по́ўны мукі́.*

**КАЛБАСО́Н** *м*. Каўбаса з вантробаў. *Калбасо́н буў сма́чны, у мі́ру посо́ляны.*

**КАРТО́ПЛЯ** *ж*. Бульба. *У гэ́тум ро́цы карто́пля була́ слаба́я.*

**КВІ́ТКА** *ж*. Канец пабудовы хаты. *На кві́тку Га́нна поклы́кала родню́ і сусі́дов і була́ вэ́льмо ра́да.*

**КОЛІ́ЙКА** *ж*. Чарга пасвіць кароў. *Колі́йка вы́пала на субо́ту, і гвороцкі́е помоглы́ отпа́свыты кору́в.*

**КОЛУ́ДКА** *ж*. Распілаванае на часткі ўпоперак дрэва, калода. *Лыжа́ла цы́ла ку́ча колу́док і бу́льшых, і мэ́ншых.*

**КОТЮБА́** *ж*. Прылада, якой выграбаюць жар і попел з печы. *У кутку́ стоя́ла котюба́.*

**КРУЖУ͡ОК** *м*. Дошка для рэзкі прадуктаў. *Кружуо͡к буў дубо́вы і всігда́ выгляда́ў но́вым.*

**КУБЭ́ЛЭЦ** м. Кубел, дзежка з векам для захоўвання сала, мяса. *У кубэ́льцы оста́лося зусі́м ма́ло са́ла.*

**КУ͡ОДАСА** *ж*. Мяцеліца. *Куо͡даса ны дыва́ла открыты гочэ́й.*

**КУТ** *м*. Кот. *Кут попросы́вся на двур.*

**ЛІ́ТНІК** *м*. Частка хаты, дзе жывуць летам. *У лі́тніку до́брэ одпочыва́лося.*

**ЛУ́ЖОК** *м*. Ложак. *Тро́е су́ток Стыпа́н проваля́вся ў лу́жку.*

**ЛУХАЧЫ́** *мн*. Дурніцы, буякі. *Мы пошлы́ ў ліс і назбыра́лы мну́го лухачу́в.*

**ЛЮБО́ШЧЫ** *мн*. Каханне. *Ірына ві́дала мно́го пі́сен про любо́шчы.*

**ЛЯНДРЫ́НКІ** *мн*. Прысмакі. *Ма́шка росла́ на ляндры́нках і юй було́ тя́жко пырыстро́ітысь до другі́і жы́зні.*

**МО́ГЛЫЦЫ** *мн*. Могілкі. *Доро́га до мо́глыц була́ зусі́м розлі́зла.*

**МОЛОДЫЧО́К** *м*. Маладзік. *Як молодычо́к, трэ́ба ўспі́ты з усі́мы загото́ўкамі на зы́му.*

**МУ͡ОЛЯ** *ж*. Гразь, размяклая глеба. *По муо͡лі було́ тя́жко іты́.*

**НЭ́БО** *н*. Неба. *На нэ́бі ны було́ ны о́блачка.*

**ОДЛЫ́ГА** *ж*. Адліга. *Моро́з одпусты́ў і почала́ся одлы́га.*

**О́ЗЭРО** *н*. Возера. *О́зэро так і тяну́ло до сыбэ́ ў гэ́ты гара́чы і сухі́і дні.*

**ОСЛУ́Н** *м*. Невялікая лава. *На двур вынæслі ослу́н, і ўсім хопы́ло мі́сьця.*

**ПАПІ́Р** *м*. Каляровая гафрыраваная папера. *Папі́р був усякі́х цвіту́в, і ёго́ було́ вэ́льмо мно́го.*

**ПОЛОВЫ́ННЕ** *н*. Апілкі, пілавінне. *Іва́н прыню́с два мышкі́ половы́ння.*

**ПОПА́Р** *м*. Поле, якое ніколі не апрацоўвалася. *По попа́ры бі́галы ді́ты, ходы́лы гу́сы і ка́чкі.*

**ПОСА́ДКА** *ж.* Маладыя дрэўцы. *У поса́дцы вы́росло мно́го маслякýв, хоті́лося іх збыра́ты.*

**ПОЧТА́РКА** *ж.* Паштальён. *Почта́рка прынысла́ газе́ты, іх трэ́ба прочыта́ты.*

**ПРЫСА́ДЫ** *мн.* Дрэвы каля хаты. *За прыса́дамы ны було́ выдно́ ха́ты.*

**ПУДПІ́ЧЧЭ** *н.* Падполле, маленькі падвал у хаце пад падлогай, пад печчу. *Мі́ша залі́з у пудпі́ччэ і набыра́ў карто́плю.*

**ПУ͡ОКУТЬ** *ж.* Месца для абразоў. *Уся́ пу͡окуть була́ обві́шана іко́намы.*

**ПУ͡ОЎНЯ** *ж.* Поўня. *Ме́сяц буў у пу͡оўні, і шынкава́ць копу́сту було́ ны мы́жна, бо бу́дэ мя́кка.*

**ПЫКО́ТА** *ж.* Спякота, спёка. *Була́ така́я пыко́та, шо ны було́ чым ды́хаты.*

**ПЫТЭ́ЛЬНЯ** *ж.* Патэльня. *На пытэ́льні жа́рыліся я́йца.*

**РАБОТЫ́ННЕ** *н. зборн.* Рабацінне, вяснушкі. *На́сточка була́ ў работы́нні, алэ гэ́то еі́ одно́ кра́сыло.*

**РАДЮ́ЖКА** *ж.* Пакрывала на ложак. *На хва́йную радю́жку лёг поспа́ты кут.*

**РО́ВЭР** *м.* Веласіпед. *На но́вум ро́вэры вэ́льмо ху́тко е́халося.*

**РУБЭ́ЛЬ** *м.* Рубель, жэрдка, што замацоўвае груз на возе. *Іва́н забу́ўся ўзя́ты рубэ́ль, і мно́го сі́на нымо́жна було́ положы́ты на вуз.*

**РУ͡ОК** *м.* Год. *Всі ждáлы на другі́й ру͡ок змін до лі́пшого.*

**САГА́Н** *м.* Чыгун. *У но́вум сага́не вары́лыся шкву͡оркі.*

**САЖА́ЛНЫКІ** *мн.* Тыя, хто садзіць бульбу. *Сажа́лныкув назбыра́лося мно́го.*

**СІ́НЫ** *мн.* Сені. *У сі́нях було́ тёмно, і Ю́рка ныя́к ны муг найты́ двэ́ры ў ку́хню.*

**СКОРЛУ́ПЫНА** *ж.* Шалупайка, шкарлупіна. *Скорлу́пына була́ то́нынька, погэ́тому кура́м трэ́ба було́ да́ты ме́лу.*

**СКУПЫРДЯ́Й** *м.* Скупы чалавек, скнара. *Фома́ на ўсю окру́гу слыў скупырдя́ем.*

**СОКЫ͡ЭРА** *ж.* Сякера. *Сокы͡эра лыжа́ла на по́лцы, а Мыхась ны муге́і ныя́к найты́.*

**СЫДЫ́БА** *ж.* Сядзіба. *Сыды́ба ковaля́ була́ пры са́мум лі́сы.*

**СЫЛО́** *н.* Сяло, вёска. *У гэ́тум сылі́ жыло́ мно́го печныку́в.*

**ТОЎКЕ́НЯ** *ж.* Таўчоная бульба, засмажаная салам і цыбуляй. *Тоўке́ня па́хла на всю ха́ту, і вэ́льмі хоці́лося і́сты.*

**ТРА́ВЭНЬ** *м.* Май. *Наступы́ў тра́вэнь, і кору́в вы́гналы на па́шу.*

**ТРЫ́БА** *ж.* Участак лесу для вырубкі. *Тры́ба була́ нывылі́ка, і за дны тры дід ду́маў з е́ю спра́вытысь.*

**ТЫ́НЬ** *м.* Тын, плот. *Ліса́ вы́скочыла чы́рыс тынь і дала́ся ў по́лэ.*

**УХУ͡ОДЫ** *мн.* Работа па гаспадарцы. *Уху͡оды забыра́лы мно́го ча́су, а помогчы́ ны було́ кому́.*

**ХВА́ЙНЫ** *прым.* Прыгожы. *Му́цно хва́йны був гэ́ты хло́пэц, і Мары́ні вун зра́зу понара́вывся.*

**ХВА́РБА** *н.* Фарба. *Трэ́ба купы́ты цвітну́ю хва́рбу для покра́скі вэлыко́дных яі́ц.*

**ЦО́ГЛА** *ж.* Цэгла. *Сусі́ды обложы́лы ха́ту цо́глыю.*

**ЦЫДЫ́ЛОК** *м.* Цадзілка. *Аню́та була́ акура́тна, і цыды́лок у е́і всігда́ буў чы́сты.*

**ЧЫРЫ͡ЭНЯ** *ж.* Чарэнь, ляжанка на печы. *Дытя́ посады́лі на чыры͡эню одогрыва́тыся.*

**ШКВУ͡ОРКА** *ж.* Скварка, падсмажанае сала з мясам. *Шкву͡оркі па́хлы на всю ха́ту.*

**ШЫ́БЫНА** *ж.* Шыба, шыбіна. *Шы́бына росколо́лася і трэ́ба робы́ты дру́гу.*

*Я.І. Казачок*

# ГАРАДЗЕНСКІ ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

Словы запісаны ў мястэчку Гарадная Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Гаворцы Гарадной і некаторых суседніх населеных пунктаў характэрна паўмяккае вымаўленне зычных перад галоснымі [е], [і], а таксама наяўнасць «закрытых» галосных [ê], [ô]. У нашых матэрыялах адзначаныя рысы спецыяльна не абазначаны.

Аўтар удзячны вучням і настаўнікам Гараднянскай СШ за дапамогу ў зборы і апрацоўцы матэрыялу.

**АБІ́ШЧО БА́ЯТЫ** *незак.* Гаварыць бязглуздзіцу. *Твоі дыты учора бушовалі, да абішчо баялі. Роспуста а нэ дэтюкі.*

**АГА́ БРА** *выкл.* Выказванне згоды. *Ідэш дохаты? Ага бра.*

**АЛЮ́ШКІ** *выкл.* Вокліч, якім праганяюць жывёлу.

**АНЦІ́ХРОСТ** *м. зневаж.* 1. Бязбожнік. 2. Неакуратны чалавек. *Зашчепіса, а то ходыш, шо той анціхрост.*

**АПЕ́ЛЬКА** *ж.* Пятля ў вопратцы. *Зашый апельку, бо росчіпваецца куртка.*

**АФЁЛОК** *м.* Чалавек які робіць яўнае глупства. *Гэто тые афёлкі понажіраліса да понаробляли.*

**БА́БА** *ж* 1. Старая жанчына, бабуля. *По ягоды одны бабы ходять, молодых мало.* 2. *перан.* Бязвольны мужчына. *Шо то за чоловік, ріхтык бі баба.*

**БАБЗНО́** *н.* і *ж.*, *зневаж.* Няўклюдная, грубая жанчына. *Гэта молодыца гэ ныяке бабзно.*

**БА́БКА** *ж.* 1. Камякі з таўчонай бульбы. *Твоя бабка уже здубенела стоячы.* 2. Бабка для кляпання касы. *Е бабкі гострыі і плоскії.* 3. Абабак, падбярозавік. *Як пойдэш по грібы, шоб бабок нэ браў.* 4. *памянш.* да "бабуля". *Ныяка бабка невелічка пріносыла*!

**БА́БОЧКА** *ж.* Матылёк. *Ныякіх бабочок поналетало, зкуль воны взяліса*?

**БАГО́Н** *м.* Багульнік. *Вона чаю з багну наробіла.*

**БАГУ́К** *м.* Свіны страўнік напоўнены мясам з прыправамі. *Як выкопалі бульбу, то тая молодыца багука прынэсла.*

**БАЛАГА́Н** *м.* Непарадак, шум, верхал. *Шчо ві тут за балаган розвелі. А ну марш отсюда!*

**БАЛАМУ́Т** *м.* Чалавек які путае і каверкае інфармацыю, ўносіць сумяціцу. *Гэто той баламут ёго надоумів, бо вун сам ніколі нэ догадавса б.*

**БАЛЕ́Я** *ж.* Ванначка для мыцця бялізны. *Коб до обіда наносыв поўну балею воды.*

**БА́ЛО** *прысл.* Бывала. *Тож бало і мі дурныцу всяку плескалі языкамі, а тэпер на дэтэй крычымо.*

**БАРЫ́ЛО** *н.* Драўляная пасудзіна для захавання алкагольных напояў, 5-10 л. *Коб ты подывіўса на его з ранку: голова шо тэе барыло.*

**БА́ТЮШКО** *н.* Святы айцец. *Батюшко казаў, шоб на службу шлі.*

**БА́ЧЫШ** *выкл.* Вокліч чалавека, які вельмі уражаны і абураны. *Бачыш, шо робіцца, всю бульбу потопталі!*

**БА́ЯТЫ** *незак.* Размаўляць. *Як прійдэш, тоды і побаемо.*

**БЕЗУГА́ЛУ** *прысл.* Бесперапынна. *Нашлі крохі ягод і безугалу до вечора бралі.*

**БЕЗУРО́КУ** *прысл.* Няўрокам. *Абі безуроку обішлосо.*

**БЕ́ЛЕНЬ** *м.* Блёкат. *Скрывіўса так бі беленю об'еўса.*

**БЕ́ЛЬМА** *мн. зневаж.* Вялікія вочы. *Годы уже бельмамі плюскаты, іды робі давай.*

**БЕРЕ́МЬЕ** *н.* Бярэмак. *Наберi поўнэ берэмье дроў і іды топі баню.*

**БЕСТЫ́ДОК** *м.* Бессаромны. *Коб ты побачыла, шо тые бестыдкі там наробілі.*

**БІ** *злучн.* Быццам. *Ты бі на весэлле вырадывса.*

**БОЎТУ́Н** *м.* Ненайгранае яйка, якое сапсавалася. *У тому кублі усы яйца боўтуны.*

**БРЕХУНЕ́Ц** *м.* Від гаршка. *Орсень одных брехунцов наробіў.*

**БРОХА́НЫТЫ** *зак.* Наліваць што-небудзь многа. *Взяў да наброханыў поўнэе ведро гэтой отруты.*

**БУГА́Й** *м.* Бык. *Забегала моя коровка да до бугая веду.*

**БУ́ДКА** *ж.* 1. Сабачая будка. *Нэ гаўкай, марш у будку!* 2. Крыты грузавік. *Унё, машына з будкою поехала.*

**БУЛЬБЯНЫ́І МЛІНЦЫ́** *мн.* Дранікі. *Шоб тэпер на вечэру бульбяных млінцов наробіла.*

**БУ́МКАЛО** *н.* Балбатун. *Ходыў, бумкаў, бумкаў той бумкало – надоеў шо гурка рэдька.*

**БУ́РКАЛО** *м., ж., н.* 1. Сварлівы чалавек. 2. Чалавек невысокага росту, які вельмі важна сябе паводзіць. *Ходыў там важны, шо тэе буркало.*

**БУ́РКІ** мн. Ватнія валёнкі. *Муй стары за зыму всы буркі стоптав.*

**БУ́СЬКО** *м.* Бусел. *Зноў бусько по городу ходыть.*

**БУ́СЯТЫ** *незак. дзіцяч.* Цалаваць. *Ходы сюда побусяю да перестане.*

**БУШОВІ́ЛО** м Гарэза. *Той хлопчіско, ге ныяке бушовіло. Ны мінуты не посэдыть.*

**БЭ́ЙЛА** *ж. зневаж.* У выразе: ШЧО ТАЯ БЭЙЛА. Пра вельмі п'янага чалавека. *Напіўса, шчо тая бэйла!*

**ВА́ЎКА** *ж. дзіцяч.* Рана, нарыў, загнаенне. *Полез пальцамі да всы ваўкі пороздыраў.*

**ВЕЛІКДУ́Р** *м., зневаж.* Падлетак высокага росту. *І гэтой велікдур з дэтьмі звязавса.*

**ВЕЛІ́КОННЕ** *н.* Вялікдзень. *После велікoння позбіраюцца дыты, то хоть бульбу посадым.*

**ВЕ́ПРІК** *м.* Кабан. *Заўтра заб'ем весняного вепріка і напхаем тобі трібуха.*

**ВЕ́ЧКО** *н.* Накрыўка на слоік. *Позрывало всы-всы вечкі з банок.*

**ВІГЛІТАТЫ** *зак. зневаж.* Хутка выпіць. *Это той чорны котыско всэ молоко віглітав.*

**ВІЛКІ** *толькі мн.* Вілы. *Возьмі вілкі і поможеш сыно на вішкі укінуты.*

**ВІРОДОК** *м.* і *ж.* Дзіця, якое адрозніваецца сваімі паводзінамі ад другіх дзяцей. *Усы дыты бі дыты, а гэто някі віродок!*

**ВІТЫ** *незак.* 1. Матаць ніткі. 2. Выць (пра ваўкоў, сабак). *Учора так собакі вілі і так страшно, да шчі уночі.*

**ВІШКІ** *толькі мн.* Гарышча у хляве. *На вішках добре сыно трамбуй.*

**ВІШЧЭРКА** *ж.* Вышчарка. *Хватыть уже скалівса, вішчэрка!*

**ВОЗДВІЖЕННЕ** *н. рэліг.* Крыжа Гасподня Ўзвіжанне. *Казалі шо после воздвіження поедуть.*

**ВОНА́** *ж.* Яна. *Дэ баба? Вона бульбу пошла полоты!*

**ВСЫ** *займ.* Усе. *Всы пошлі по ягоды.*

**ВСЭ** *займ.* Усё. *Всэ жіто забірай.*

**ВУЖ** *м.* Раменная частка хамута.

**ВУН** *займ.* Ён. *Вун пойшов по дрова.*

**ВУЧЫ́ТЭЛЬ** *м.* Настаўнік. *Як зайдэш у клас, то з вучытэлём поздоровайса.*

**ВУША́Й** *м.* Чалавек з вялікімі вушамі. *Глянь, вунь той вушай пошов.*

**ВУША́ТЫ** *прым.* Чалавек з вялікімі вушамі; гл. ВУША́Й

**ВЫ́ВАРКА** *ж.* Ёмкасць на 30-40л. *Потоўчы свінням выварку бульбы!*

**ВЫДЕ́ЛВАЦЦА** *незак. нов.* Сваімі паводзінамі ставіць сябе вышэй за іншых. *Прыходыў кум і так уже выделваўса, шо куда твое дыло.*

**ВЫКОБЕ́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Задавацца. *Годы выкобельваўса, іды робіты лепш!*

**ВЫ́ЛУПІЦЦА** *зак. зневаж.* Утаропіцца. *Кажу ёму, шоб збірав свої манаткі і уматваў до своёй матэры – а вун як вылупівса , шо і слова нэ сказав.*

**ВЫ́ШКА** *ж.* Тэлевізійная антэна. *Мої хлопці як поставілі вышку, то Україна стала показваты.*

**ГА** *выкл.* Просьба паўтарыць што-небудзь. *Ты уже наеўса? Га!?*

**ГАЛАШОВА́ТЫ** *прым.* Непаседлівы. *Сядь посэды – галашоваты!*

**ГАЛУШКІ́** *мн.* Клёцкі. *На обед шоб галушкі булі!*

**ГА́МАТЫ** *незак. дзіцяч.* Есці. *Ну пошлі гаматы – потом пограешса.*

**ГАРАБЕ́Й** *м.* Варабей. *Гараб'і поклёвалі всэ насенне.*

**ГАРА́ПА** *ж.* Бізун з разной ручкай. *Муй як корові погнаў то і гарапу узяў. Бо мошкі да нэслухаюцца.*

**ГАРЦОВА́ТЫ** *незак.* Бушаваць. *Годы гарцовалі, марш спаты.*

**ГЕ́НДЭЛЬ** *м.* Сумніўная справа. *Пошлі мі на тую роботу. А то нэ робота а нэйкі гендэль.*

**ГІ́ДКІ** *прым.* Брыдкі. *Гэтой хлопчіско такі гідкі зробівса.*

**Ґ́ІЗУНТЫ** *толькі мн.* 1. Унутранасці чалавека. 2. Здароўе; нервы. *Ты мнэ всы ґізунты вымотаў.*

**ГЛУ́ШМАН** *м. зневаж.* Чалавек, які мае праблемы са слыхам. *Сходы по воду – глушман.*

**ГО́ДЫ** *прысл.* Хопіць; дастаткова; спыніся. *Годы гарцовалі, марш спаты! Годы робілі уже пора і перекуріты. Годы уже ехаў – пріехалі! Годы броханыў – уже і так поўнэе ведро.*

**ГО́ЗЕРО** *н.* Возера. *Хлопці на гозеро пошлі купатыса і рыбу ловіты.*

**ГО́ЛКА** *ж.* Іголка. *Я голкую уколоўса.*

**ГОЛОВОСЫ́К** *м. рэліг.* Свята: Адсячэнне галавы Іана Хрысціцеля. *Тэпер головосык! Святкуй а нэ робі.*

**ГОРЕ́ЛЫ** *прым.* Аранжавы (колер). *Поехав горелы автобус з лесныкамі.*

**ГО́РОН** *м.* Печ для абпалу гаршкоў. *Это нэ пожар, а з горона дым валіть.*

**ГРУ́БА** *ж.* Грубка. *А грубу уже так натопіў, шо аж лапно потрескало.*

**ГУЗ** м. Гузік. Як уже так можна ходыты – всы гузы поодпандэжваў.

**ГУЗА́КА** *ж.* Насякомае. *А ныякіх гузак поўну комнату напускаў.*

**ГЭ́ПНУЦЦА** *зак. экспр.* Моцна ўдарыцца пры падзенні. *Учора так гэпнувса, шо і зарэ нога боліть.*

**ДАВ ДУ́БА** *фраз.* Памёр. *Учора поехалі по дрова і ў лесы вун і дав дуба.*

**ДОПІ́РУ** *прысл.* Толькі што. *Допіру буў, а куда подавса хто ёго знае.*

**ДРУК** м. Кій. Зараз як возьму друка, то ты у менэ дысятому закажеш!

**ДУ́ЛЬКА** *ж.* Груша (Плод і дрэва). *Кажуть твоі дулькі смачны! Дай покоштоваты?*

**ДУ́РБАЛКО** *м.* Праставаты, няхітры чалавек. *Гэто ж вун просто так сказав – дурбалко!*

**ДЫВІ́ЦЦА** *незак.* Глядзець. *Учора ходылі весэлле дывіцца.*

**ДЫ́ЛО** *н.* Справа. *Твое дыло – языком ляпаты абі-шчо.*

**ДЫІ́ЎКА** *ж.* Дзяўчына. *Дэўкі на танцы не пошлі, одны хлопці.*

**ДЭ** *прысл.* Дзе. Дэ ты ходыв?

**ДЭВУ́ЛЯ** *ж. зневаж.* Дзяўчына з дрэннымі паводзінамі. *А гэты дэвулі унь шо там учверілі.*

**ДЭТЮ́К** *м.* Малады хлопец. *Той дэтюк тобі свуй?*

**ДЯ́ДЫНА** *ж.* Дзядзькава жонка. *Кошульку дядына дала.*

**ДЖЫ́ГНУТЫ** *зак.* 1. Уджаліць. *Пчола джыгнула. Да так, шчо ўся морда опухла.* 2. Уцячы. *Покрутывса крохі, а потом так джыгнуў, шо і слід простыв.*

**Е** Ёсць. *Як грошы е, то беры!*

**ЖА́БОР** *м.* Забруджаная стаячая вада. *Нэ йды туда купацца, там жабор!*

**ЖАЛЕЗНЯ́К** *м.* Штыкавая лапата. *Коб узяў жалезняка і позасыпаў всы ровi, шо понакопваў.*

**ЖЕ́РТЫ** *незак., зневаж.* Есці. *Хватыть жерты – ходы помогаты!*

**ЖУПА́Н** *м.* Верхняе адзенне, паліто. *Бері жупана да пошлі уже.*

**ЖЫ́ЖА** *ж. дзіцяч.* Агонь. *Нэ лезь у грубу а то жыжа укусыть.*

**ЗАЛЕ́ЗНЫ** *прым.* Жалезны. *Сходы до Жірака, хай тобі залезны зробіть.*

**ЗАЛЕЗНЯ́К** *м.* (Гл. Жалезня́к).

**ЗАЛЕ́ЗО** *н.* Жалеза.

**ЗА́МЕЖОК** *м.* Частка неўзаранай зямлі каля агароджы. *Пойду замежкі поскосьваю.*

**ЗАПО́ЙЫНЫ** *толькі мн.* Заручыны. *У Мэдведя запойыны заўтра.*

**ЗАТО́ЎКА** *ж.* Тлушч, які знаходзіцца ў брушной поласці свінні. *Котыска усю затоўку погідылі.*

**ЗГІ́ДЫТЫ** *н.* Сапсаваць. *Всю градку згідыў.*

**ЗДА́ТНЫ** *м.* Здольны. *Гэтой до всёго здатны.*

**ЗДО́ХЛЯ** *м., ж., н. зневаж.* 1. Вельмі худы. 2. Хваравіты. *І тая здохля шы бітыса лезэ.*

**ЗДУБЕ́НЫТЫ** *зак.* Замёрзнуць. *Учора, як був у дорозы, добре здубеныў.*

**ЗЕЛЮНЫ́ЦЫ** *мн.*, **ЗЕЛЮНЫ́ЦА** *ж.* Зялёнка, радоўка жоўта-зялёная. *Нэма зелюныц у погоні.*

**ЗЛІВА́Ч** *м.* Від гаршка. *Скажі Орсэню хай злівачов наробіть.*

**ЗЛЯКА́ЦЦА** *зак.* Спужацца. *Муй хлопец злякавса вельмі.*

**ЗЭ́ЛЛЕ** *н.* Пустазелле. *Усёй город зэллем зарос – а вона одны ягоды правіть.*

**ЗЮ́ЗЯ** *ж. дзіцяч.* Холад. *Зюзя на дворы.*

**ІРОД** *м. лаянк.* Чалавек, які сваімі паводзінамі падобны да біблейскага персанажа. *Ірод – ты уже всы гізунты достаў!*

**КАГА́ЛО** *н.* Адасоблены людскі род. *А гэты усым кагалом по ягоды пошлі.*

**КАЛАМУ́ТЫТЫ** *незак.* Нудзіць. *Нэ пойду на прічіну, а то нэшчо каламутыть.*

**КАЛІ́ТКА** *ж.* Палявая сумка. *Дай калітку, заўтра в лес пойду.*

**КАЛІ́ТЫ** *незак.* Бяліць. *Учора печ каліла да нэ було колі прыйты.*

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужына. *Знов по калюгам ходыў!*

**КА́ПА** *ж.* Пакрывала.

**КА́ПЛЮ** *прысл.* Крыху. *Каплю подожды!*

**КАРАЧУ́Н** *м.* Чалавек з крывымі нагамі. *Той мужчіна і хороші, але ныякі карачун.*

**КА́РТОЧКА** *ж.* Фотаздымак. *А карточкі будэтэ робіты?*

**КАЧА́ЛО** *н.* Прыстасаванне качаць бялізну, качалка. *Зарэз як возьму качало то ты у мэнэ поскачэш!*

**КВАЧ** *м.* Мокрая ануча. *Вымокла ў ягодюх, шо той квач.*

**КІЛЁ** *н.* Кілаграм. *Іды купі кілё сахару.*

**КІРДУ́ПЕЛЬ** *м.* Малая вопратка. *Нэ накладай гэтэ пальто, воно уже кірдупель.*

**КІШКОЕ́Д** *м.* Карэнны жыхар горада Століна. *У, кішкоед, сало нэ есть, но ковбасу давай!*

**КЛЕНДА́ТЫ** *прым. зневаж.* Чалавек з крывымі нагамі і нязграбнай паходкай. *Твуй чоловік бі ныякі клендаты ходыть.*

**КЛУ́НЯ** *ж.* Свіран. *Поносыш бульбу у клуню.*

**КНУР** *м.* Племянны кабан. *Прыды завтра кнура вылешаем.*

**КОВТУНЫ́** *мн.* 1. Валасы з вялікай колькасцю віхроў. 2. Недагледжаныя валасы. *Возьмі росчоску да ковтуны свої пріглaдь.*

**КО́ДЛО** *н.*, **КО́ДЛА** *ж.* Род. *Там вся іхняя кодла була.*

**КОЗЛЯКІ́** *мн.* Усе ядомыя грыбы. *Трэба пойты крохі козляков на борщ назбіраты.*

**КО́ЛЕНШЧЫНА** *ж.* Белая тканіна, на якой рабілі вышыўкі. *Возьмі тую коленшчіну, а гэтую нэ чэпай.*

**КО́ЛЕСНЫ** *прым.* Даўні. *Шо ты мны неякого колесного піджака прынесла.*

**КОЛІ́ВАНКА** *ж.* Арэлі. *Дайтэ уже і гэтым коліванку.*

**КОЛКІ́** *мн.* Агароджа са штыкетніку. *Од вуліцы погнылі мої колкі.*

**КОПАНЬІ́ЦА** *ж.* Матыка капаніца. *Копаныцу в рукі і марш бульбу копаты!*

**КОПІ́ЦА** *ж.* Невялікі стог. *Унё трі копіцы сына – наші!*

**КО́РКІ** *мн.* Абцасы. *Учора так гуляла, шо всы коркі подлеталі.*

**КО́СЫ** *мн.* Валасы. *Нэшчо твої косы зусым поредэлі.*

**КОТЫ́СКО** *м.* 1. Вялікі кот. 2. Шкадлівы кот. *Это твой котыско мої цыплюкі подушыв!*

**КО́ЎЗАНКА** *ж.* Каток. *Зноў на коўзанцы буў і дохаты нэ шов!*

**КОЦ** *м.* Шарсцяная коўдра. *Одного коца мало будэ, дайтэ два.*

**КОШТОВА́ТЫ** *незак.* Каштаваць, спрабаваць страву. *Дай покоштоваты!*

**КОШЭ́ЛЬ** *м.* Ёмкасць для збору ягад, кош. *Нэма ныц ягод, оно два кошэлі ледь набралі.*

**КРАМ** *м.* Рознакаляровая тканіна. *У лавку такі файны крам прывезлі.*

**КРАСНОГОЛО́ВЕЦ** *м.* Падасінавік. *Два ведра красноголовцов у Зайцовых набрала!*

**КУЛЁВІ́К** *м.* Мех, які ўмяшчае 50 кг. *Прівёз з заработкув 20 кулёвікув зерна.*

**КУХА́ЙКА** *ж.* Фуфайка. *Знов новую кухайку помарав.*

**КУ́ХЛІК** *м.* Збанок. *Возьмі того кухліка і сходы по молоко.*

**ЛА́ВОШНІЦА** *ж.* Прадавец. *Лавошніца нэ правільно здачу дала.*

**ЛА́ПНО** *н.* Мел, няпаленая вапна. *Прынэсы лапно, хату каліты будэм.*

**ЛЕ́ШКА** *ж.* Градка. *Две лешкі докопаю і пріду.*

**ЛО́ДЫР** *м.* Гультай. *А гэты нэ пошов. От лодыр упіроваты!*

**ЛОХАЧІ́** *мн.* Буякі. *Набралі кошыль лохачов.*

**ЛУ́ПЕНЬ** *м.* Лупцоўка. *Як зловім на своёй вуліцы, то доброго лупеня получіш!*

**МАКО́ТРА** *ж.* 1. Вялікая гліняная міска, у якой цёрлі мак і каноплі. 2. Галава. *Коб ты шы на свою макотру наложів!*

**МАКО́Ш** *м.* Від гаршка. *Невелічкі, бі макош.*

**МАМЗЭ́ЛЬ** *м.* Гаршок ёмкасцю 0.5 – 0.7 л. *Купі два мамзэліка на кашу.*

**МАНЬКОВЕ́Ц** *м.* 1. Вулічная мянушка. 2. Жыхар вёскі Манькавічы. *Маньковец тепер багато бульбі накопаў.*

**МАРА́** *ж. зневаж.* 1. Фантастычная істота, якая мае непрыглядны выгляд. 2. Надакучлівы чалавек. *Одчэпіса од менэ, а то прістав, шо тая мара!*

**МАЦЫЯ́ ВЭЛІ́КА** *м.* і *ж.* Чалавек, які крыўдзіцца з-за нейкай дробязі. *От, подумаеш -- мацыя веліка!*

**МА́ЧУХА** *ж.* Мачаха. *Это не ёго маты, а мачуха.*

**МЕДВІ́ДЬ** *м.* 1. Мядзведзь. 2. Вулічная мянушка. *Это Мэдвідёвы курі ходять.*

**МЕРЕ́Ц** *м.* Нябожчык. *Учора мерец прыснывса, шо і зарэз коліна трасуцца.*

**МЕ́СТО** *н.* Цэнтр вёскі. *Збірайса на место сходым.*

**МІШУГІ́Н** *м.* 1. Недалёкі чалавек. 2. Дурань. *Шо ты наробів? Ну ты і мішугін!*

**МО́ГЛІЦА** *толькі мн.* Могілкі. *Заўтра тра пойты на могліца попрібіраты крохі.*

**МОЛОДЫ́ЦА** *ж.* Маладая замужняя жанчына. *От тая файна молодыца пріходыла.*

**МО́РДА** *ж.* Шчака. *Глянь, усю морду вымазаў.*

**МО́НЯТЫ** *незак.* Рабіць што-небудзь вельмі павольна. *Нешчо моняв, моняв, але так і не взяў.*

**МУ́РЗА** *ж.* Чалавек з нямытым тварам. *Іды морду умый а то шо тая мурза ходыш.*

**МУ́СЫТЬ** *прысл.* Мабыць. *Мусыть будэ дождж.*

**МУТЮ́Н** *м.*, **МУТЮНЫ́СКО** *м.* Падманшчык. *Ну ты і мутюныско.*

**МУТЫ́ТЫ** *незак.* Хлусіць. *Довго ты будэш мутыты, колі ты уже правду скажешь.*

**МЛІНЦЫ́** *мн.* Бліны. *От тэпер смачны млінцы получіліса.*

**МІШАРЫ́** *мн.*, **МІША́Р** м. Махавік жоўта-руды, імшарнік. *Ны, я по мішары ходыв, бо белых нэма.*

**МЭ́ТЭР** *м.* Кубічны метр; цэнтнер. *Выпісалі усёго метэр дров, да шчо хоч робі цэлу зыму.*

**НАЛІ́СНІК** *м.* Тонкі блін з тварожнай начынкай. *Налісныкі после боршчу получітэ.*

**НАЛІ́ХО** *прысл.* Нашто гэта табе патрэбны. *Наліхо ты гэто собі шукаеш.*

**НАРЕ́ЗАЦЦА** *незак.* Ужыць многа алкаголю; напіцца. *Нарезаўса, шо свіння.*

**НАХА́БІЦЦА** ж м. Стаць, зрабіцца нахабным. *Так нахабівса, чуть біцца нэ лез.*

**НЁНДЭ** *прысл.* Тут. *Нёндэ положітэ.*

**НЁНДЭЧКІ** *прысл.* Тут. *Нёндэчкі положітэ.*

**НЭ ЗАЙМА́ЦЦА** *незак.* Не чапаць. *Нэ займайса з дытятэм!*

**НЭБО́Ж** *м.* Пляменнік. *Нэбож, ты будэш слухацца, чы як?*

**НЭГОДЯ́ШЧІ** *прым.* Нягодны. *Кінь гэтого мешка, вун негодяшчі.*

**НЭХОРУ́ЗНЫ** *прым.* Непрыгожы. *Гэтой хлопчіско такі нэхорузны.*

**ОБЕ́ДЫШЧЭ** *н.* Памінальны стол. *А вун хоть пріишов на обедышчэ.*

**ОБІХО́ДОК** *м.* Паўсядённая патрэба. *Назбірала грібов, да здала, шоб хоть на обіходкі копейчіна була.*

**ОБО́РА** *ж.* 1. Абора. 2. Кароўнік. *На Шобашці обору перекрівалі.*

**О́ГЕР** *м.* 1. Жарабец. 2. Ганарлівы і задзірысты чалавек. 3. Істота з вельмі вальяжнай і самаўпэўненай паходкай. *Глянь, наш півень, шо той огер ходыть.*

**ОДПЕ́РЫТЫ** *зак.* Адлупцаваць. *Ох і одпірыў, шо тую сідорову козу.*

**ОНО́Ж** *займ.* Толькі. *Оноже нэ йды туда.*

**ОПЦЭ́НЬКІ** *мн.* Абцугі. *Отвёрткою нэ вікрутыш, опцэнькі возьмі!*

**ОСЕЛЕ́НЕЦ** *м.* Селядзец. *Пошлі в лавку оселенцов наберем.*

**ОСТКІ́** *мн.* Сухая ігліца. *Нагребі осткув на подстюл.*

**ОСТУПІ́ЦЦА** *зак.* Адысці. *Оступіса – дай пройты.*

**О ТО́Ж** *прысл.* 1. Поўнасцю з табой згодзен. 2. Згода. *О тож так і було.*

**ОТО́ЧІНА** *ж.* Таплёнае сала. *До вечора одна оточіна осталаса.*

**ПАЗЮРЫ́** *мн.* Пазногці. *Хоть пазюры свої пообрезвай.*

**ПАКОВА́ТЫ** *незак.* Вельмі хутка і са смакам есці. *Усю коўбасу кот згідыў. Прыходю а вун уже пакуе.*

**ПА́СКА** *ж.* Лінія. *Проведы паску да одреж рувно.*

**ПЕЛЮ́ТКА** *ж.* Палавінка гарбуза або капусты.

**ПЕЛЮ́ТКОВЫ** *прым.* Пра тое, што складаецца з палавінак чаго-н. *Сходы в лёх наберi пелютковой капусты.*

**ПЕ́РВІ** *лічэбн.* Першы. *Мі з ягődь первi прiшлi.*

**ПЕРЕПО́Й** *м.* Момант даравання на вяселлі. *До перепою побула а потом пошла до хаты.*

**ПЕ́ЦЯВА** *ж.* Гразь. *Такая пецява зробiласа, шо не пройты не проехаты.*

**ПІТА́ННЕ** *н.* Гальванічны элемент, батарэя. *Поедэш у Столiн пiтанне у батарейку купiш.*

**ПЛОТ** *м.* Агароджа. *Буду городытыса, а то уже усёй плот погныв.*

**ПЛІ́ГАТЫ** *незак.* Скакаць. *Хорош уже плiгаты, а то стыны трасуцца.*

**ПЛЯ́МКА** *ж.* Дзвярны засоў. *Як двера зашчiпляны будуть то подёргай за плямку.*

**ПОВОДО́К** *м.* Повад, павадок. *Возьмi поводка да зводым корову до бугая.*

**ПОГО́НЯ** *ж.* Густы, непраходны лес. *Нэма его дома у погоню по дрова поехав.*

**ПОДЧЕРЕ́ВІНА** *ж.* Ніжняя частка жывата свінні. *Возьмi занэсы подчеревiну да осторожно у кров нэ помарайса.*

**ПОКО́Т** *м.* Гарышча. *Это мусыть ныякi чужi кут дравса з нашiм на покоты.*

**ПОРОШКІ́** *мн.* Таблеткі. *Сходю в аптэку порошкув од головi наберу.*

**ПОСА́ДКА** *ж.* Малады лес. *Сходы у посадку по козлякi, а то сэдыш шо той лодэр.*

**ПОСТЭРО́НКІ** *м.* Пастронак. *Гэты твоi постэронкi ныякi нэгодяшчi – плуг косо iдэ.*

**ПОСТОЛЫ́** *мн.* Лапці. *Додумайса шчi гэты черевiкi порваты, то у постолах будэш ходыты.*

**ПОСЭДЮ́НКІ** *толькі мн.* Вячоркі. *Ходыла до Любi на посэдюнкi.*

**ПОТА́ПЦІ** *мн.* Памінальная страва. *Зразу потапцi а потом чарка.*

**ПРА́СЛО** *н.* Частка агароджы паміж двумя слупамі. *Як дрова вёз, то трактором всэ прасло повалiв.*

**ПУ́ТО** *н. зневаж.* Чалавек з павольнай рэакцыяй. *Гэтой хлопчiско шо тэе путо ходыть.*

**ПУ́ХЛЯ** *ж.* Лаянкавае слова. *Iды з пухляю да одчепi душу!*

**ПУХЛЯТЫ́НА** *ж.* Лаянкавае слова.

**РА́ДІВО** *н.* Радыё. *В 6 часов радiво заграе тоды i встанем.*

**РАДНО́** *н.* Коўдра з саматканага палатна; пакрывала. *Сядь на радно а то у спiну натягнэ.*

**РАДЮ́ГА** *ж.* Дзяруга. *Осткi у радюзы прынэсэш.*

**РО́ВЕР** *м.* Веласіпед. *Беры ровера i едь ў магазiн.*

**РОЗДВО́** *н.* Каляды. *Это уже ныколi после роздва будэ.*

**РОСЧУ́ХАЦЦА** *зак.* Прачнуцца. *Як росчухаешса, то прiдэш на поле.*

**РОПА́** *ж.* Моцны раствор солі. *Наробі ропі і повымочвай стёгна.*

**РО́ХЛЯ** *м.* Бесхарактарны, падатлівы чалавек *Нэ мужчіна а ныяка рохля.*

**РУБЕ́ЛЬ** *м.* Жардзіна для ўціскання сена на возе. *Поехалі по сыно да рубля забулі.*

**РЫ́ХТЫК** *у знач. прысл.* Праўда. *Рыхтык вона ему поверіть.*

**РЭ́ЙДАТЫ** *незак.* Прыгожа пісаць. *Годы рэйдаў, сходы у лаўку.*

**РЭ́МЗАТЫ** *незак.* Плакаць. *Хватыть ужэ рэмзаты, тобі ж нэ боліть.*

**САЛІ́НА** *ж.* Кусочак сала. *Возьмі саліну яку да йды скорэй.*

**СА́ПА** *ж.* Прылада для праполкі.

**СА́ПАТЫ** *незак.* Матычыць. *Пошлі жонкі буракі сапаты.*

**СВЕ́ДЭР** *м.* Світэр. *О той файны сведэр, тэплі.*

**СВІТ** *м. у знач. прысл.* Вельмі многа. *У мэнэ роботы світ.*

**СЕМІРО́ГІ** *мн.* Від ядомых грыбоў: вожычнік караляваты. *Мой одных семірогов назбірав.*

**СІТРО́** *н.* Ліманад. *Муй натрубівса сітра.*

**СКО́КАНКА** *ж.* Дзіцячая гульня. *Нэ крутытэса тут, ідытэ у скоканку пограйтэ.*

**СОБАРНО́** *н.* і *м.* 1. Вялікі сабака. 2. Шкадлівы сабака. *Ныякі собарно хлопца перелякав.*

**СОКІ́РА** *ж.* Сякера. *Возьму сокіру і пойду дрова секты.*

**СО́ПУХА** *ж.* Сажа. *Як гэто ты у сопуху выробівса, шо тая мара.*

**СОША́** *ж.* Асфальтаваная дарога. *Лісцянкі – гэто аж там, за сошэю.*

**СПО́ЁК** *м.* 1. Нікчэмны чалавек. 2. Алкаголік. *Нэ йды туда, там одні спойкі позбіраліса.*

**СТА́ЛЬКА** *ж.* Кавалачак каўбасы. *Одрыж стальку ковбасы.*

**СТА́РЕЦ** *м.* Жабрак. *Опраныса а то ходыш, шо той старец.*

**СТУ́ЙНО** *выкл.* Затрымайся на хвіліну. *Стуйно, нышчо попітаю.*

**СТЭГНО́** *н.* Бядро. *Як уже так упасты можна було, всэ стэгно роспандэжыв.*

**СТЭ́ЖКА** *ж.* Сцяжынка. *Війдэш на стэжку і іды по ёй.*

**СЛОН** *м.* Услон. *Ну, хлопці, выносьтэ мебель да ставляйтэ слоны.*

**СМАКО́ТТЕ** *н.* Дэлікатэсы. *Пойдэш на весэлле – наесыса смакоття.*

**СМЕ́ТНЫК** *м.* Месца, куды выкідваюць смецце, сметнік. *Пора уже твого мотоцікла на сметнык выкідаты.*

**СТРАМІ́НЫ** *толькі мн.* Лесвіца. *Гэтож упаў з страмінэй да так побівса.*

**СТУ́ЛЯ** *прысл.* Адтуль. *Вун стуля шов.*

**СЭКА́Ч** *м.* 1. Прыстасаванне для драблення карняплодаў. 2. Дзікі кабан. *Пошоў у лес, а там сэкач як выскочіть, ледь утюк.*

**СЭЧКА́РНЯ** *ж.* Механізм для наразання саломы альбо сена.

**ТАБУРЕ́ТКА** *ж.* Табурэт. *Бері табуретку і сядай до нас.*

**ТА́МЕЧКІ** *прасл.* Там, тамака (далёка). *Я тамечкі нэ був ныколі.*

**ТОБОЙТО́** *прысл.* 1. Поўнасцю з табою згодзен. 2. Згода. *Поедэш у город? Тобойто!*

**ТРУ́ЙНЫК** *м.* Лекавая расліна, якая расце на балоце. *Як будуть труйнык браты то нышо крохі заробім.*

**ТРЫБУ́Х** *м.* Тое ж, што і БАГУ́К.

**ТУ́ХЛІ** *мн.* Туфлі. *Купів тухлі, да нышчо жмуть.*

**ТЫ́ЖДЭНЬ** *м.* Тыдзень. *Будэ дождж цэлы тыждень.*

**УЛА́ДЫТЫ** *зак. экспр.* Зламаць, знішчыць. *Ну шчо уладыв ровера, майстэр!*

**УПІ́Р** *м.* Упарты чалавек. *Нэ послухав упіроваты хлопчіско.*

**УСЬ** *выкл.* Адмаўленне чаго-небудзь. *Усь. Пойдэ вун туды.*

**УТЫ́ХНУТЫ** *зак.* Замоўкнуць. *Утыхны, а то зарэ схопіш.*

**ФА́ЙНО** *прысл.* 1. Вельмі добра. 2. Прыгожа. *Учора на весэлле ходыў, так файно всэ було.*

**ХАЙ ТОБІ́ КА́ЗАНО.** *фраз.* Падкрэсліванне дадатных або адмоўных якасцей чалавека. *Поехав на шабашку і добре заробів. Хай ёму казано.*

**ХЕ́ЎРА** *ж.* Вулічная кампанія, якая складаецца з некалькіх чалавек, аб'яднаных авантурнымі мэтамі. *Нэдаўно проходіла хеўра по вуліцы, але твого з імі нэ було.*

**ХОДЫ́ТЫ** *незак.* 1. Хадзіць. 2. Заляцацца да дзяўчыны. *Вун з ёю доўго ходыв, але нышчо розышліса.*

**ХОРОШІ́ТЫ** *незак.* Чысціць бульбу. *Нахороші на вечеру бульбі.*

**ХОРОШЭ́** *прысл.* Вельмі добра, прыгожа. *Клячік хорошэ хату выладыв.*

**ХРЭНЧ** *м.*, **ХРЭНДЖ** *м.* Пінжак. *Хрэнджа наложі, бо холодно уже.*

**ХРЫШЧО́НА** *ж.* Хросная маці. *Твоя хрышчона пріедэ.*

**ХРЫШЧО́НЫ** *м.* Хросны бацька. *Тобі хрышчоны подарка прівёз.*

**ЦЫБУ́ЛЬНІЦА** *ж.* Раствор для фарбавання велікодных яек. *Добрая [illegible]ато яец покрасыть.*

**ЦЭ́РКОЎ** *ж.* Царква. *У нэдылю пойдэмо у цэркоў.*

**ЧАПЛЕ́Я** *ж.* 1. Чапяла. 2. *зневаж.* Вельмі высокая і нязграбная дзяўчына. *Тая дэвуля шо чаплея коло іх.*

**ЧЕ́РЕВО** *н.* Жывот. *У твоёй невесткі уже веліке черево. Мо уже скоро родыть?*

**ЧОЛОВІ́К** *м.* 1. Чалавек. *Неякі чоловік пойшов твоім городом.* 2. Муж. *Еі чоловік гарэлку нэ п'е.*

**ЧО́РНЫ Я́ГОДЫ** *мн.* Чарніцы. *Заўтра по чорны ягоды ідэмо.*

**ЧОЎПТЫ́** *незак.* Чаўпці. *Шо ты ёй зробіў? Бо чоўпла всёй ранок.*

[illegible] *[illegible] з роботы да [illegible]айдана [illegible]бііў.*

[illegible] *[illegible]ть чухавса, мыцца больш трэба.*

**ЧЫРВО́НЫ Я́ГОДЫ** *мн.* Журавіны. *Унь люды сколькі ягод чырвоных понаносылі.*

**ЧЭРУ́Н** *м.* 1. Верхняя частка печы, на якой сушаць абутак, гаршкі і іншыя рэчы. *Покладэш на гарачы чэрон воны і высохнуть.* 2. Мноства грыбоў, якія вырaслі на адной палянцы.

**ШАРІ́ХВОСТ** *м.* Вельмі жвавы, рухавы чалавек. *Муй там носывса, шо той шаріхвост.*

**ШВА́ГЕР** *м.* Жончын брат. *Пойду пляшку возьму, бо заўтра швагер пріедэ.*

**ШВАГЕ́РКА** *ж.* Жончына сястра. *Твоя швагерка така хороша молодыца.*

**ШВЭ́НДАТЫ** *незак.* Хадзіць без толку. *Швэндавса тут, а куда потом пойшов, Бог ёго знае.*

**ШЕЛЕКСТА́ТЫ** *незак.* Казытаць. *Нэ шэлекчі дытя на ноч.*

**ШО́ПА** *ж.* Памяшканне для сушкі дроў. *Понавозыў дроў шо і в шопу нэ повлазять.*

**ШУЛЯ́К** *м.* Каршун. *Шуляк всы цыплюкі побіў.*

**ШУ́ХЛЯ** *ж.* Ліхаманка. *Шоб тэбе шохля взяла.*

**ШЧОДРОВА́ТЫ** *незак.* Шчадраваць, хадзіць па дварах. *У том году добре нашчодровалі.*

**ШЫ́БКА** *ж.* Шыба. *Муй віродок очора зноў шібку распандэжыў мячіком.*

**Ю́СТРО** *н.* Люстэрка. *Хватыть коло юстра крутыласа, іды вечераты.*

**ЯТРО́ВКА** *ж.* Братава жонка. *Это моя ятровка навучіла так закатьваты.*

Радавыя прозвішчы: Бараба́н, Басы́ло, Бе́кало, Боб, Боя́рін, Бу́бка, Бу́лка, Бу́рыш, Велесні́цкі, Вере́мша, Веро́хо, Верэме́й, Вечо́рко, Во́йтыха, Гаврі́льчік, Гембі́цкі, Гмір, Гміро́вец, Гордэ́й, Городо́к, Го́тяло, Гу́мало, Джан, Дзед, Ёвме́н, За́ец, Зэ́лік, Ільче́ўчкій, Кісы́ль, Кля́чік, Кова́лько, Ковтуны́ха, Козачо́к, Козёл, Коле́чко, Копе́ц, Коре́ец, Косю́к, Крыша́н, Ку́ва, Купе́ц, Куры́сь, Ку́фа, Ле́мах, Ле́ўко, Лешко́, Літві́нчік, Лі́чэвскі, Лось, Маге́ра, Мако́ш, Маньково́ец, Масе́йко, Матве́й, Медвэ́дь, Мироно́віч, Мічу́рін, Му́рко, Огре́б, Пе́тлах, Пе́шко, Пого́да, Поле́шко, Поло́ха, Попко́, Поры́ваны, Ро́берт, Са́вка, Соко́л, Соло́дкі, Спо́соб, Стэпане́ц, Сэ́крэт, Тарапу́ша, Тарела́, Тёркін, Філю́к, Цыбу́ля, Чы́жык, Шваб, Швы́дрік, Шква́рка, Шпак, Шпудэ́йко, Шуля́к, Шчу́ка, Шэ́лест, Шэ́мка, Юсты́нь, Яро́міч.

*М.Н. Крыўко, С.С. Панізнік*

# З ГАВОРАК ПАЎНОЧНАЙ МЁРШЧЫНЫ

Народныя словы, пададзеныя ў гэтым артыкуле, падслуханы і запісаны ў гаворках на поўначы Мёрскага раёна, у вёсках Бабышкі, Латышы, Дубавыя, Лявонпаль і некаторых іншых. Першыя запісы былі зроблены яшчэ ў 50-я гады мінулага стагоддзя ад мясцовых жыхароў, працаўнікоў зямельнай нівы паўночнага прыдзвінскага краю.

**АББА́ЧЫЦЬ** *зак.* У выразе: і святых не аббачыш – пра непрадбачанае. *Гэты злодзей скора з табой разбярэцца – і святых не аббачыш.*

**АБЖАРГА́ЦЬ** *зак.* Асядлаць нагамі. *Абжаргаў зэдлік і соўгаіцца, як на кані.*

**АДЖА́РЫЦЬ** *зак.* Моцна набіць, зрабіць што-небудзь непрыстойнае або выканаць што-небудзь вельмі хутка. *Аджару яму палкай! Во аджаруў, дык аджаруў. Польку аджаруў, толькі – пыл стаўбом ішоў.*

**АДЧУРЫ́ЦЦА** *зак.* Адчапіцца, адасобіцца, пазбавіцца. *Так-сяк адчурылася ат п'янай кампаніі, а то прыстаюць да мяне і прыстаюць выпіць.*

**АЛА́-АЛА́** *выкл., у знач. вык.* Выражае пустыя размовы. *Ай, толькі ала-ала. Яны там сідзяць ды толькі ала-ала.*

**АПРЫ́Ч** *прысл.* Асобна, адасоблена. *Аднэй сям'ёй жывуць, а ядуць апрыч.*

**БАСЛУ́Й** *м., пагард.* Пра тупога, дурнаватага чалавека. *Што з яго хацець, гэта ж баслуй. Баслуй дурны!*

**БЛУД** *м.* Звычайна ў выразе: даць блуду – заблудзіцца. *Як жа гэта вы не далі блуду у такой далёкай дарозі?*

**БУ́ЛЬКА** *ж.* Бурбалка. *Булькі пашлі па вадзе. Прапашчы, як булька на вадзе* (прымаўка).

**ВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Нараджаць. *Ейная матка усё рабят вадзіла, було болі як дзісяцёра.*

**ВЕ́СЦІ** *незак.* У выразе: весці курню – мурлыкаць. *Вядзець курню каток, цёпла яму тут пры нас.*

**ВЫ́ВЕРНУЦЬ** *зак.* У выразе: вывернуць кажух на другі бок – паказаць свой сапраўдны воблік. *Во ён і вывернуў кажух на другі бок, і ні нада думаць, ці хітрун, ці не.*

**ВЫРАНДЖА́ЦЦА** *незак., асудж.* Недарэчна паводзіць сябе, рабіць непрыстойныя рухі, крыўляцца. *Не выранджайся, вядзі сябе прыстойна, пірад чужымі ж людзьмі гэдак нікрасіва.*

**ВЯСЁЛАШЧЫ** *мн.* Вясёлыя хвіліны, вясёлае правядзенне, баўленне часу. *Вясёлашчаў вам, дарагії. Вясёлашчаў усей радні!*

**ВЯ́ТКА** *ж.* Натоўп, гурт, чарада. *Рабяты вяткамі ходзюць. Што вы ўсё збіраіцісі вяткамі?*

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* У выразе: ганяць па зубах – абгаворваць. *Толькі здзелай што ні так – будуць ганяць па зубах, абгаварываць, здзікацца.*

**ГАРШКА́** *прысл.* На карку (насіць дзіця). *А я ж цібе, унучок, калі ты быў малым, гаршка насіла.*

**ГНІБЕ́ЦЬ** *незак., неадабр.* Пакутаваць у безвыходнасці. *А паслухаў бы матку родную, не гнібеў бы там каторы год.*

**ДУ́КРЫЦЬ** *незак.* Разумець, кеміць. *Малы, малы, алі і ён ужо нешта дукрыць.*

**ДУНДЗЕ́ЦЬ** *незак., асудж.* Гаварыць гучна, але неразборліва і надакучліва. *Што ты мне над вухам дундзіш, надаела.*

**ЖЭ́БРЫ** *мн.* Жабраванне, папрашайніцтва. *Дажыліся тады, што дзеці ў жэбры пашлі; тыя паходзяць, паходзяць па хатах і толькі якую какорыну прынясуць.*

**ЗА́ВАД** *м.* Развод. *Кінала насёна на завад.*

**ЗБРО́ДЗІЦЬ** *зак.* Знасіць, стаптаць. *Вярнуўся ні з чым, толькі боты збродзіў.*

**ЗБЭ́РСАЦЬ** *зак.* Перакруціць, зблытаць (ніткі і інш.). *От, жэўжык, збэрсаў мае ніткі, не разабраць цяпер йіх.*

**З'Е́ДКІ** *мн.* Ежа. *Глянулі на стол, а там і спіткі, і з'едкі, усё – да паследкі. Хоць шаром пакаці.*

**ЗЛАГО́ДДЗЕ** *н.* Згода, злагада. *У сям'і, буваіць, німа злагоддзя: то апрыч ядуць, то вяроўкай хлеб рэжуць.*

**ЗМЯНІ́ЦЬ** *зак.* У выразе: змяніць стан – зрабіць перамены ў побыце, жыцці. *Нада змяніць стан, што так жыць далі.*

**ІГРА́ЦЬ** *незак.* У выразе: у ім косці іграюць – пра вельмі худога чалавека. *Ну й схудзеў, у йім жа косці іграюць.*

**КАЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* У выразе: калаціць вераб'я – мерзнуць. *Вышуў без адзежыны; йішчэ пакалоціць вераб'я.*

**КАРАПУ́ЖЫЦЦА** *незак., неадабр.* Надзімацца, выказваць нязгоду. *Што карапузісся, робіць ня хочыш, што сказана?!*

**КЛЁК** *м.* Разуменне, стан развагі, кемлівасць. *І не стары йішчэ дзед, а клёк згубіў; не даходзіць ужо яму, што да чаго.*

**КРУЦІ́ЦЬ** *незак.* У выразе: круціць мітулямі – хітраваць, выкручвацца. *Ты не круці мітулямі, а ўсю праўду скажы, не хавайся.*

**КУЛО́ГАЦЬ** *незак.* Мыць, паласкаць. *Досыць ужо кулогаць гэтага рабянёнка; йішчэ прастудзіш.*

**КУ́МЕЛЛЮ** *прысл.* Хутка; стрымгалоў. *Кумеллю выкаціўся з хаты. Кумеллю паляцеў, каб хамут на карак ня ўздзелі.*

**ЛЁЗНА** *прысл.* Ветліва, культурна. *Ты ж з чужым чалавекам лёзна гукай.*

**ЛЮ́БКІ** *мн.* Згода, паразуменне. *Нада ісці на любкі з чалавекам.*

**ЛЯВІ́ЦА** *ж.* Левая рука. *Ня ведаіць лявіца, што робіць правіца* (пра непастаяннага і непрадказальнага ў сваіх дзеяннях і паводзінах чалавека).

**МЯСЦЮ́РЫЦЬ** *незак.* Укладаць, змяшчаць. *Мясцюр ужо малога у зыбку, ніхай спіць.*

**НАВЯ́ЛІЦЦА** *зак., неадабр.* Наваліцца, прычапіцца, прыстаць. *Усёй гамарнёй навяліліся на мяне: скажы праўду.*

**НАЙСЦІ́СЯ** *зак.* Нарадзіцца. *Як нойдзіцца рабёнак, тады і мірка ў сям'і: усё да ладу.*

**НА́ПУСТА** *прысл.* Ні з чым. *З'ездзіў туды, а вярнуўся дамоў напуста.*

**НАСМЫ́ГАЦЬ** *зак.* Нашморгаць, назрываць. *Прашу цябе, насмыгай вішнёвага лісця – агуркі саліць будзем.*

**НЭ́МНУЦЬ** *зак., экспр.* Ударыць. *Толькі скажы яму неўнараў – можыць і нэмнуць так, што пакоцісся.*

**НЯДО́ТЫКІ** *мн.* У выразе: святкаваць нядотыкі – гультайнічаць, не працаваць, ухіляцца ад працы. *Згультаеў чалавек, нядотыкі толькі святкуіць.*

**ПАВА́ДЗІЦЦА** *зак.* Панадзіцца, прывыкнуць што-небудзь рабіць. *Павадзіўся хадзіць на панадворак чужы галодны кот, а не прагоніш.*

**ПАДЖУЛЯБА́ЦЬ** *зак.* Перакусіць. *Пайду паджулябаю троху.*

**ПАЛ** *м.* У выразе: адным палам – адно і тое ж (гаварыць, рабіць).

**ПЕРАЦЯ́ЖКІ** *мн.* У выразе: пайсці на перацяжкі – пачаць дужацца, спаборнічаць у чым-небудзь. *Зіма прыснежваецца, алі ж мы багаты наробак маем. Самы раз на перацяжкі пайсці, падужацца на галалёдных прымаразках з чарговым насланнём. Мы з ім пойдзім на перацяжкі, хто каго.*

**ПРАВІ́ЦА** *ж.* Правая рука. *Ня ведаіць лявіца, што робіць правіца.*

**ПРА́ТАЦЬ** *незак.* Біць, мучыць, не сціхаць (пра кашаль). *Мяне сягоння кашаль пратуў усю ноч.*

**РАЗБЭ́РСАЦЬ** *зак., асудж.* Раскідаць. *Разбэрсаў свае цацкі, цяпер вот збірай.*

**РАЗЖАГЕ́РЫЦЦА** *зак.* Шырока расставіць ногі. *Ну й разжагерыўся тут, аж прайсці няможна.*

**РАСПА́СЦІЦЬ** *зак.* У выразе: распасціць пуза – растаўсцець, адгадаваць жывот. *Пуза распасціў на дармавым хлебе – і штаны ўжо ня лезуць.*

**РАСПЛО́Х** *м.* Разлад. *У йіхняй сям'і палучыўся расплох.*

**СМУ́ТКІ** *мн.* У выразе: а смуткі іх знаюць – невядома, невядомы, невядомыя. *А смуткі йіх знаюць, што за яны.*

**СМЫ́ГАЦЬ** *незак.* Зрываць, шмаргаць. *Буду смыгаць лісця з вішэнніку, нада агуркоў троху памачыць.*

**СО́БСКІ** *прым.* Уласны, свой. *Дзеду спраўдзілі дакумант на пяць дзесяцін собскай зямлі.*

**СПАЖЫ́Ў** *м.* Спажыванне, ужыванне. *На добры спажыў вам гэта ўсё.*

**СПІ́ТКІ** *мн.* Напіткі, тое, што п'юць. *Глянулі на свой стол, а там і спіткі, і з'едкі, усё – да паследкі.*

**СТАХО́ЛІЦЬ** *зак., неадабр.* Змарнаваць, прапіць. *Ня ўспеў матку пахаваць, а ўжо ўсе спаткі стахоліў.*

**СУ́БІНА** *ж.* Палавіна (звычайна кола) счыненай дамашняй каўбасы. *Палучай сваю субіну кілбасы.*

**СЯК** *прысл.* Так, без прычыны, без патрэбы. *Суседка прышла сяк, каб пасядзець, пагукаць.*

**ТА́ХНУЦЬ** *незак.* Марнець. *Сядзіш, тахніш бяз дзела.*

**ТУ́ХМАЛКА** *ж.* Твар. *Табе за гэта толькі ў тухмалку даць.*

**УВАВУ́ЛІЦЬ** *зак.* Украсці. *Нехта ш увавуліў маю вешч, во ўжо й нет.*

**УЁДЫВАЦЬ** *незак., экспр.* Есці са смакам, заўзята. *Галодны быў, паставіла місу, як пачаў уёдываць, аж міла було глядзець.*

**УЛО́ГАМ** *прысл.* Доўга, не варушачыся (сядзець). *Улогам сядзіць калі цілівізара, не атарваць.*

**УМРО́ІЦЦА** *зак.* Прыйсці ў галаву. *Вот умроілася мне гэта, і ўсё думаю і думаю.*

**УПА́СЦІ** *зак.* У выразе: пакуль раса на корч не ўпала – пра доўгую, зацятую працу. *Работай, пакуль раса на корч ні ўпала.*

**УРАБЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Змярцвець, анямець (ад жаху, моцнай збянтэжанасці). *Я аш урабеў, такоя пачуўшы.* 2. Разгубіцца. *Ён ні ўрабеіць, выдзіць добра з любога здарэння, разберыцца у любым жызнінным дзелі.*

**УРА́ГЛІВЫ** *прым.* Знерваваны, капрызны. *Які ураглівы рабёнак.*

**УТО́ПЫВАЦЬ** *незак.* Даглядаць, дагаджаць. *Жонка утопывала каля хворага, даглідала яго, як магла.*

**ХАБАРЫ́ЦЦА** *незак., асудж.* Трохі задавацца, важнічаць, выкручвацца перад кім-небудзь. *Не хабарыся, дзеўка, не выкручывайся перад гэтым мальцам.*

**ЦЫ́РЛЫ** *толькі мн.* У выразе: на цырлах хадзіць – фанабэрыцца, важнічаць, выказваць пагарду да каго-, чаго-небудзь. *А гэтат усё на цырлах ходзіць, усё да ўсіх з пагардай.*

**ЦЯЦЬ** *зак.* Ухапіць. *Толькі што ліжаў на стале кавал сала – і нету: як кот цяў.*

**ЧАЛЕ́Ц**, -льца́ *м.* Член сям'і, калектыву. *Клямку ні падзялілі ў хаці, алі ні ўрабелі кемныі чальцы сям'і.*

**ЮДЗІ́ЦЬ** *незак., неадабр.* Падманваць, гаварыць няпраўду. *Не юдзі, чалавеча, кажы, як там усё было, чыстую праўду вылажы.*

*П.І. Кулік*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ ГАЛОЎЧЫЦЫ

Прыводзяцца словы, запісаныя ў вёсцы Галоўчыцы (мясц. Голо́вчычы) Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Вёска знаходзіцца ў 20 км на паўднёвы захад ад. г. Драгічына і ў 10 км на паўднёвы ўсход ад гарадскога пасёлка Антопаля.

Літарай [ї] аўтар абазначае спалучэнне [йі], а таксама галосны [і] пасля цвёрдых зычных.

**БЛО́ТНІК** *м.* Прыстасаванне ў веласіпедзе, якое ахоўвае кола ад бруду. *І ек По́пын хлопыць успів одрізаты кусок ґумы од блотніка?*

**БО́ДНЯ** *ж.* Бочка з накрыўкай для адзення ці збожжа. *Ек загналы в колхоз, то бодню выкынулы з коморы, кыб ны займала місьце.*

**БРУ́КАЛО** *н.* Дзіцячая цацка з косткі на нітцы ці матузку. *Сыділы хлопцы і гралыся брукалом.*

**БУКРЫ́Е** *прысл.* Хай Бог бароніць. Пажаданне пазбаўлення ад чаго-небудзь непрыемнага. *Алы жывэ Лукір'я бідно. Хай букрые.*

**БЫ́ЦЯ** *ж. дзіцяч.* Карова, цяля. *Утыкай, а то быця нызнэ рогамы.*

**ВО́ЛО** *н.* Валляк. *Кыб моя курыця нысла такыї ейця, ек у її воло.*

**ВОЛОЧЭ́ДНО** *н.* Вялікоднае яйка. *Маня, почысць цыбулю і звары волочэдны ейця.*

**ВЫ́РАЧКЫ** мн. Вялікія лупатыя вочы. *Шо ты вывалыв свої вырачкы, ек баран ейця.*

**ВЫ́ТРЫШКЫ** мн. Экспр. Вочы. *Поніс грошы на кіно, вытрышкы пушов куплеты.*

**ВЫ́ТУХНУТЫ** *зак.* Моцна прагаладацца. *Ек ны дам їсты, то вытухныш ты у мынэ.*

**ГА́РТУ ДА́ТЫ**. Даць рады. *По́пыны діты обырвалы у нас усі еблыка. Ну, ныекого гарту ны даты.*

**ГЛАБЫ́НА** *ж.* Драбіны. *Гріша! Пудныmы глабыну, то будэ лёкшій гнїй выкыдаты з воза.*

**ГРЫЗЬ** *м.* Хвароба суставу. *Шось міні в руку грызь ухопывся. Трэба кыб хтось погрыз. Можэ полёкшае.*

**ГЫ́НДЭ** *часц.* Вунь там. *Петя! Куды ты свого собаку подів? Гындэ заїць побіг, можэ догнав бы.*

**ДЗЮБА́К** *м.* Дзюба. *Кынула собацы голову півня, то собака її навіть з дзюбаком здзів.*

**ДРЕ́ПАТЫ** *незак.* Драпаць. *І кілько ж тыбэ просыты ны гратысь з котом, а так добрэ подрепав.*

**ДРОВА́ЛЬНІК** *м.* Хлеў для дроў. *У дровальныку булы смолысты сосновы колоды, з їх робылы лучыну.*

**ДРЫЃАВКА** *ж.* Дарога з ухабамі. *Сынывычы – гэто такая дрыґавка, ка́лу по коліна там.*

**ДРОНЃА́ЛЬ** *м.* Высокі і худы (пра жывёліну). *Хотіла купыты поросе у Насьці Ярошчыковыї, а воно – дронґаль, то і ны купыла.*

**ДЫЛЬ** *м.* Дыля. *Лыжелы батьковы дылі, думалы, шо Петя Самоховец будэ хату робыты, алы ж так і згнылы дылі.*

**ДРЫСТЫЛЫ́ННЕ** Рэч дрэннай якасці. *Купылы в Гантопі́ллі матерію шось пошыты, алы ж бачу, шо ны матерія, а дрыстылынне.*

**Е́ДУХА** *ж.* і *м.* Дыхавічны чалавек. *Ек Петя Самоховец закурыть, то кашляе, ек едуха.*

**ЁНДЫ́ТЫСЬ** *незак.* Круціцца. *Гріша міцно ёндывся на запыку, шо я ны міг ныек заснуты.*

**ЗА́СТОРОНОК** *м.* Бакавая частка гумна. *Діма. Ек прывызэш сіно, то зложы його з Іваном у засторонок.*

**КАВГНУ́ТЫ** *зак.* 1. Хутка праглынуць. 2. Вельмі хутка з'есці. *Він їцэ кавгнув, ек за сыбэ закынув.*

**КАЛА́Ч** *м.* Палявая расліна, лічыцца пустазеллем, яго плады (падобныя на мініяцюрны калач) часам ужывалі ў ежу. *Трэба пычы хліб, алы шось мало мукы. Трэба добавыты в тісто малых калачів.*

**КАМЫТУ́ХА** *ж.* Махала. *Прышов до мынэ Радывін. Сыдыть і сыдыть. Хоч ты його камытухію выганяй.*

**КЛУ́НЯ** *ж.* Гумно. *Іванко. Дэсь курыця згубылася. Сходы в клуню, пошукай її там.*

**КО́ВЗАТЫСЬ** *незак.* Слізгацца на лёдзе. *Іван Макарык так ковзався, шо на бурках калошы порвав.*

**КО́СЯ** *ж. дзіцяч.* Конь, жараб'ё. *Сірожа. Дай косі травы і почухры її каля вуха.*

**КОТЯХЫ́** *мн.* Суквецці вольхі, бярозы. *Трэба будэ з бырэзыны віныкув наробыты, ек котяхы поопадають.*

**КОЦЮ́БНЫК** *м.* Месца каля печы для качаргі, віл. *Дэ вінык? Можэ в коцюбныку валеїця.*

**КЫ́ЛА** *ж.* Грыжа. *Ны пуднымай сам воза. Хочыш кылу заробыты?*

**ЛОПА́ТА** *ж.* Хлебная лапата. *Трэба вжэ в піч хліб сажеты, а моя лопата дэсь поділась з коцюбныка.*

**ЛЮ́ГАВКА** *ж.* Панос. *Кыб мій хлопыць ны осцыкався, я йому пудсахашарыла сподыньку, алы ж у його була міцна люгавка.*

**ЛЮ́ШНЯ** *ж.* Касяк у возе для яго ўмацавання, каб не паламаліся заднія ручкі. *Гріша. Бырысь за люшню. Давай пырывэрным воза.*

**МУХІ́Р** *м.* Мачавы пузыр. Мамо. *Ек будымо колоты поросе, оддай міні мухыре: я з його зроблю мяче.*

**МЫША́НЫЦЬ** *м.* Дзіця ад бацькоў розных нацыянальнасцей. *Поїхала Нэля на зарібкы і родыла мышанца.*

**НА́ПУСЬЦЬ** *м.* Бяда, няшчасце. *Шо за напусьць на мынэ напала. Ек заболіло сэрцэ, шо болыть і ны пырыстае.*

**НЭ́НДЗА** *ж.* і *м.* Дзіця, якое дрэнна расце. *Матруна, ты кажыш, шо старшый сын у Суёпы добрый. Шэ нэндза, а вжэ у нас жылізо вкрав.*

**НЭ́ТРА** *ж.* і *м.* Жартаўліва-сварлівае слова на дзяцей. *Нэтра дытеча! Прыв'язалы собацы сіно до хвоста, пудпалылы і пустылы. Собака побіг до возыра і пудпалыв траву.*

**ОБЛІ́ЧКО** *н.* Абечак у сіце. *Петя Галушка грався з облічком, алы ж міцный вітёр його пудхватыв і докотыв аж до Осыповыч.*

**ОБРІ́ЗУВАТЫ** *незак.* Абіраць (бульбу). *Кыб добрэ обрізуваты картопля, трэба його дыржеты чытырма пальцямы.*

**ОБЫЗВІ́ЧЫТЫ** *зак., экпр.* Пакалечыць. *Ты, Гандрій, ны дурій, а то обызвічу чым-ныбудь.*

**ОГЛАВУ́ШЫТЫ** *зак.* Аглушыць. *Насьця Брыжова колола поросе. Ны попалы швайкію в сэрцэ. Прышлось поросе оглавушыты обухом.*

**ОКО́НЫЧНЫЦЫ** *мн.* Аканіцы. *Ек міцный вітёр подуе, то оконычныцы браскотеть, шо ны заснуты.*

**О́ПАЛ** *м.* Нечаканасць. *Кірогаз мій так розбухтовався, шо я з опалу одупліла і бухнула на його выдро воды.*

**ОПЦЭ́НЬКЫ** *мн.* Абцугі. *Попа крав у нас жылізо, то навіть опцэнькы забрав.*

**ОСКО́БЛЫЙ** *прым.* Абскубаны. *Шурум - Бурум так напывся, шо стоев каля плота, ек півінь оскоблый.*

**ОСЫЛЭ́НЫЦЬ** *м.* Селядзец. *Був я на высіллі, алэ ж ны було осылэнців.*

**ОСЭ́НЫЦЯ** *ж.* Вусень. *Ны було колы обтрасты осэныць з еблык: воны об'їлы увэсь цвіт.*

**ОХАМЫНУ́ТЫСЬ** *зак.* Апамятацца. *Кузма Мынтузів чуть ны одгорав мэжу, покы я ны охамынулася і накрычела на його, шчоб ны одгорував собі мого города.*

**ОЧО́МАТЫСЬ** *зак.* Ачуняць. *На мое горэ зусім закрыла люхту в групцы. Угоріла, алы ж екось очомалась.*

**ПАҐУ́РОК** *м.* Узвышаная мясціна, узгорак. *Гріша. Вынось сіно на паґурок, а то в болоты стоїть вода.*

**ПАЛЁШКА** *ж.* Скавароднік. *Діты плачуть, їсты хочуть. Спычу я їм палёшку.*

**ПА́ЛІК** *м.* Межавы слупок. *Одрізалы мыні города пуд кукурузу. Шэ й паліка забылы.*

**ПАЛЮ́ТЫНА** ж. Ачышчаная галоўка капусты. Клалі ў бочку з шаткаванай капустай. *Шось смокчэ пуд грудьмы. Можэ квашаныйі капусты поїсты. Маня, прынысы капусты з палютыныю.*

**ПАРАҐО́НЫТЫ** *незак.* Пра моцны дождж. *Дошч параґоныў цілый дэнь, а мій хлопіць пасэ корів і ныма чым накрытыся.*

**ПІДЇ́Д** *м.* Мядзведка. *У мынэ на городы под'їды всэ корінне здзілы у гурків.*

**ПЛЕ́ҐА** *ж.* Знак на целе ад удараў. *Брытан так быв коне бычем, шо вся спына була в плеґах.*

**ПЛЫ́ГАТЫ** *незак.* Скакаць. *Діты плыгалы на запыку і його зламалы, хоч і лозына торчела на шапы.*

**ПОВІ́СМО** *н.* Жменя ільновалакна. *Хватыть тобі, мамо, лён трыпаты. Клады повісмо і дай міні шось поїсты.*

**ПОЛУ́ПЫШОК** *м.* Кош у возе; плялі з лазы. *Іван. Клады полупышкы на воза, поїдымо на полэ і прывызэм буракы.*

**ПО́ТАК** *м.* Прыстасаванне сукаць ніткі на цэўкі. *Трэба сходыты до Мар'ї позычыты потака, а то цывкы ныма чым сукаты.*

**ПОТЫРУ́ХА** *ж.* 1. Пацяруха. 2. Дробны дожджык. *Ны дош ідэ, а потыруха сыплыця.*

**ПРЫ́ПЫК** *м.* Прыпек. *Ны хочыця свынюм варыты їжу в пычі, звару в плыті на прыпыку.*

**ПРЫСТУ́ПА** *м.* Прымак. *До Люды Мынтузовії прышов мужык у прыступу, а він шэ й міцно п'е.*

**ПЫРЫБРОЇ́ТЫ** *зак.* Перабоўтаць і выбраць лепшае. *Оставыла дітюм їжу на цілый дэнь. Алы ж воны всэ пырыброїлы. Кілько змарновалы добра.*

**ПУДПОЛО́НЫК** *м.* Скавароднік. *Мамо! До капусты хліба хочыця. Спычы хоч пудполоныка.*

**ПШЫЧЕ́ТЫ** *незак.* Шыпець. *Маня! Ны лый гаречу воду на сковороду, а то пшычыть.*

**ПЭ́РЫТЫ** *незак.* Пра моцны дождж. *Пэрыв міцный дошч. То добрэ, шо був мышок у мынэ. Я їм і накрывся.*

**ПЭ́ТРЫТЫ** *незак.* Цяміць. *Сцёпа Муха ны вэльмэ пэтрыть у школы. Одны троякы.*

**РАДЮ́ШКА** *ж.* Посцілка, дзяруга. *Гралысь діты на радюшцы. І ек воны її порізалы, духу святый?*

**РЕ́ХВА** *ж.* Металічны абручык, які надзяюць на калодку ў коле. *Петя Галушка цілый дэнь тілько й знае, шо катае рехву по дворі.*

**РЕ́ШКА** *ж.* Драўляны посуд для сала, ражка. *Поросе було мызэрнэ. Сала було тілько решка. Моя долынька.*

**РІ́ЗНЫК** *м.* Скрылік бульбы. *Маня. Звары квасу, тілько ны ріж картоплы вылікымы різныкамы.*

**РОЗВІ́ДНЯТЫ** *зак.* Развіднецца. *Покы доїла корову, то вжэ й добрэ розвідняло.*

**РОЗҐЫҐЭ́НЯНЫЙ, РОЗҐЫҐЯ́НЯНЫЙ** *дзеепрым.* Расчынены насцеж. *Маня! Якого смутку вокна розґыґяняны? Мухы ж налізуть, а посля ны даты рады їх выганеты.*

**РОЗҐЫРЭ́ЙДА** *ж.* і *м.* Не кемлівы, бесталковы чалавек. *Ну й розґырэйда старый Понталь: калу по коліна, а у його ныма чобутів.*

**РОЗБАДЗЫ́РАНЫЙ** прым. Распешчаны. *Пудкынулы міні Вовіка з Мінска. Такый розбадзыраный! Усё просыть пычэню. То дэ ж я її возьму.*

**РОЗДЗЕ́ВА** *ж.* і *м.* Раззява. *Ну й роздзева старая Рыкля! Полізла в ямы, дэ копалы торф. Чуть ны утопылася.*

**РОСПЛЯНТОВА́ТЫ** *зак.* Разраўнаваць. *Діма. Росплянтуй каля хаты пысок, а то пройты ныма ек.*

**РОСТРОШЧЫ́ТЫ** *зак.* Моцна разламаць. *Бонька возыв цёглу і рострошчыв усёго воза.*

**РОСХРЕ́СТАНЫЙ** *прым.* Расшпілены. *Пріщчын Суёпа ходыть росхрестаный, ек Ванька-брыгадір.*

**РОСШЛЁМАТЫ** *зак.* Зразумець, скеміць. *Дала Івану Макарыку цюкэрка. Малое рошлёмало, шчо смачно.*

**РОШЧЫПІ́РЫТЫ** зак. Расставіць (ногі). *Йшов я по гулыцы вночі. Тэмно, хоч у вочы совгыны. Коля плота рошчыпірыв ногы, кыб ны впасты.*

**РЫ́ЖЫЦЬ** *м.* Пясок аранжавага колеру. *Пітюх копав ему і докопався аж до рыжыцю.*

**РЫЗА́К** *м.* 1. батанічнае. Разак. 2. Прылада капаць торф уручную. *Трэба копаты торф, а рызака ныма дэ взеты. Можэ Антон Муха дасьць.*

**РЫЗЫКОВА́ТЫ** незак. Рызыкаваць. *Міцно я рызыковаў, колы косыв каля возыра. Міг бы і провалытыся.*

**РЫ́ХТЫҐ** *прысл.* Зусім, якраз як, кропля ў кроплю. *Купыла собі кухвайку за вісім рублів, рыхтыґ такую, ек у Шнайдыра Васі.*

**САҐА́НЧЫК** *м.* Чыгунок. *Мамо, міні трэба йты в школу. Звары в саґанчыкові каплуна.*

**СМЫНДЮ́ХА** *м.* Расліна з зялёнымі саладкаватымі ягадамі, расце ў агародзе, лічыцца пустазеллем. *Чого ны зробыш з голоду. Навіть смындюху їлы, шо росла в городы.*

**СПРАВЫДЛЫ́ВІЙ ГРЫБ** *м.* Баравік. *Тату. Дывысь, я знайшов справыдлывого грыба.*

**СОЛОМІ́ЦЦЮ** *прысл.* Сілаю, нахабна. *Мыколка, можэ, і вучывся б у школы, алы ж учітіля соломіццю ёго зго́вталы.*

**СТРАХАПУ́Д** *м.* і *ж.* 1. Пудзіла ў агародзе. 2. Чалавек неахайна апрануты. *І чого Волька Радывонова прышла на высілле. Вона була у кухвайцы і шароварах, ек страхопуд.*

**СТРЫМЫҐА́** *прысл.* Імкліва, хутка. *Брыгадір Тожык йдэ. Трэба стрымыґа хаватыся, кыб ны выгнав на роботу.*

**СУХО́ПАРКОМ** *прысл.* Сухама, усухамятку. *Ны їж кубасу сухопарком. Возьмы хліба.*

**СЯКА́ТЫ** *незак.* Смаркацца. *Ны сякай на пудлогу, а то можна поковзнутыся, нысучы чыгуна з їжыю.*

**ТАЛАХА́ТЫ** *незак.* Боўтаць. *Маня! Ек мыїш чыгуна, то трэба трохы поталахаты пырыд тым, ек вылыты воду.*

**ТАНАБІ́Л** *м.* Аўтамабіль. *Ох, духу Святый! Выхожу с хаты і бачу, шо по бычовныку їдэ віз быз кобылы. Хтось казав, шо гэто танабіл.*

**ТОВКА́Ч** *м.* Галоўка чароту. *На возыры у Пырывісному ростуть товкачі. Алы ж ек до їх добратыся?*

**ТО́ВСТА** *ж.* Цяжарная. *Феня Мынтузова шэ ны успіла выйты замуж за Юрка, а вжэ товста.*

**ТХНУ́ТЫ** *незак.* Непрыемна пахнуць, смярдзець. *Наталля! Дэ ты свое сало дыржела? Воно у тыбэ чымся тхнэ.*

**УТЕ́ТЫ** зак. Укусіць, адкусіць. *Учора я зарізала старого півня, варыла ёго дьві годыны. Мнесо було такое тэврдэ, ныек ны утеты.*

**ХАНДО́ЖЫТЫ** *незак.* Траціць, растрачваць (грошы). *Галя Самоховец хандожыть грошы так, шо, можэ, дохаты прыходыть быз грошій.*

**ХРЕ́СТАТЫ** *незак. экспр.* Есці. *Ек Каплавухій вып'е, то він тобі й солому будэ хрестаты за малынину.*

**ХРЫБТЇ́Й** *м.* Моцны, здаровы чалавек. *Такый хрыбтій ек Даныло, то він на дэнь і гіктар выкосэ.*

**ЦІ́ВКА** *ж.* Цэўка. *У Брыжа росла добра малына. Том я різав, шоб наробыты цівок.*

**ЦІ́ХА** *ж.* Радно. *Ярына Пырдэлёва пошыла собі одіяло з ваты, а ціхыю накрываїця.*

**ЦЫГА́НЧЫК** *м.* Нож з драўлянай ручкай. *Быз огне згорів мій цыганчык. І шо тыпэр робыты?*

**ЦЫДЫ́ЛОК** *м.* Цадзілка. *Ек кампора здзіла цыдылка. Хоч робы нового, алы ж на його марлі ныма.*

**ЦЫ́ТРА** *м.* і *ж.* Хітры чалавек. *Ну і цытра наш брыгадір Петя Антонюк. Обішчав даты коне прывызты торф і ны дав.*

**ЦЬМО́РКНУТЫ** *зак.* Цмокнуць. *Цьморкнула мынэ мама в лоб, і пушов я до Татарновіч на усэ літо пасты корів.*

**ЦЭ́БАХ** *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *Петя! Нашчыпай цыбулі знызу. Цэбахы тілько ны рвы: трэба ж маты насінне.*

**ЧАПЫЛІ́ТЫ** *незак. экспр.* Прысутнічаць. *Ек дэ высілле, то діты збыгаюця, кыб почапыліты: а можэ дадуть пырога.*

**ЧАПІ́ТЫ** незак. Ледзь жыць. *Стыпан Каплавухій ны жывэ, а чапыть после інфаркту.*

**ЧЫ́НЫ** *мн.* Планачкі ў кроснах каля ніту, каб пража ішла роўна. *Давала Ганны Мытузовыї кросна ткаты, а чыны вона забула оддаты.*

**ЧЫРІ́НЬ** *ж.* Чарэнь. *Чырінь – ліпшэ лікарство, ек захворіїш. Альбо зымою добрэ спаты.*

**ЧУХРЫ́ТЫ** *незак.* Чухаць. *Вошы зусім заїлы. Чухрытыся трэба увісь час.*

**ЧЭ́МЖЫК** *м. экспр.* Хлапчук. *У нас чэмжыкы з усэї гулыцы гралы у стукана.*

**ШАЛАПУ́ТА** *ж.* і *м., зб.* Лёгкадумны чалавек, лёгкадумныя людзі. *Ны діты у Сцёпы Шнайдыра, а шалапута. Шэ ныма дэсыть років, а вжэ матюкаюця.*

**ШАНАЛІ́ВКА** *ж.* Шаўковая квяцістая хустка. *Пашка із Корсынь такую хорошу шаналівку купыла. Мусыть, купыла з-пуд полы.*

**ША́ПА** *ж.* Навясная шафка для посуду. *Трэба на шапу зробыты занавескы, а то ныхорошэ екось.*

**ШАРВА́РОК** *м.* Павіннасць па ўпарадкаванню дарог. *Робылы нову дорогу до Етловыч, то выганелы одроблеты шарварок.*

**ША́РЫТЫ** *незак.* Старанна шукаць. *После войны стілько валелось жыліза, шо ны трэба було шарыты, кыб знайты шчо-нэбудь.*

**ШВО́РАБ** *м.* Верабей. *Підым вэчуром пуд стріхыю наловым шворабів і выпусным на вычорках.*

**ШКАРАЛЮ́ШЧА** *ж.* Шалупайка (з яйца). *Трэба моеї курыцы даты глынкы, а то ны успіе знысты їцэ, дзюбаком розбывае і їсьць шкаралюшчу.*

**ШЛЕ́ҐА** *ж.* Прылада ў выглядзе вялікага драўлянага молата. *Дімка. Збыры з Іваном кросна. Возьмітэ шлеґу, а то молотком дэрво поколытэ.*

**ШМА́РА** *ж.* Мазут. *Віз пышчыть, шо можэ россыпатысь. Змажмо, Іван, ёго шмарыю, покы ны од'їхалы од колхозного двора.*

**ШМУЛЯ́ТЫ** *незак.* Моцна забрудзіць, занасіць. *Вася Опцызнык так зашмуляв свою кухвайку, шо він її тілько выбывае кыём.*

**ШПА́РЫ** *мн.* Боль у пальцах ад марозу. *Мамо! Шо робыты? Шпары у пальцы зайшлы. – Опусты їх у холодну воду, сынок.*

**ШПРЫ́ХА** *ж.* Веласіпедная спіца. *Раз купыв до ровыра чырвоны опоны, то трэба і шпрыхы пудтягнуты.*

**ШТЫ́РХАТЫ** *незак.* Штурхаць. *Діты зусім ны хочуть вучытыся, гальтають цілый дэнь на гулыцы. Штырхаю, штырхаю і ныма рады.*

**ШТУ́ҐЛО** *н.* Экспр. Кулак. *Гріша так дав Тані штуґлом пуд рэбра, шо дівчынка упала, Вона ёму гэтого до самыї ёго смэрты ны простыла.*

**ШТЫХ** *м.* Пласт торфу, які здымаецца "рызаком" за адзін заход на даўжыню кавалка торфу. *Радывін колысь казав, шо у Трыповынныках копалы торф аж на вісім штыхів.*

**ШУ́ШЛЫТЫ** *незак.* Абдорваць. Шушлыла я мныго, кыб Петя з Манію жылы, а він усё дывыця вдыч.

**ШЧІ́ПТЫ** *мн.* Дробка. *Просыла позычыты мукы у Калэныка Ярошчыка. А він дав шчіпты, одчэпного.*

**ШЧЫБЫРЭ́ЦЬ** *м.* Чабор. *На Грудку такый хорошій ростэ шчыбырэць.*

**ШЧЫ́ПАВКА** *ж.* Насякомае даўганосік. *Мамо. А шчыпавка кусае чы не?*

**ШЫЛЭ́ПА** *ж.* Балотная расліна з шырокімі лісцямі, кветкі жоўтыя. *Петя. Ны косы шылэпу, бо коровы її ны їдеть.*

**ШЫПТІ́ТЫ** незак. Пеніцца. *Тісто зашыптіло. Трэба пычы хліб і пудполоныкы.*

**ШЫЛЮ́ПЫНА** *ж.* Кажура з частачкі вотруб'я. *Вчора пудмыла я свою бодню, навіть шылюпыны ны осталося.*

**ШЫ́ТЫК** *м.* Папруга. *У Попы такыї розбадзыраны діты, шо воны вжэ і шытыка ны боецця.*

**ШЫША́К** *м.* Кучка. *Покы ны було хлорофоса, блускы на стінах сыділы шышакамы.*

**ЯГОЛІ́ТЫ** *незак.* Прасіць з плачам, упрошваць, патрабаваць. *Мій сын яголів, просыв купыты ёму рубашку. Грошій ныма. А шчо я ёму з коліна їх выламню. Шэстыро дытэй і всім дай.*

**ЯНТОВА́ТЫ** *незак.* Плакаць з крыкам. *Чого ты янтуїш? Еблыка крав? Тыпэр сыды на прокывы.*

*Л.П. Кунцэвіч*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

У артыкуле падаецца падборка лексікі, звязанай з сельскай гаспадаркай. Лексіка запісана ў 2006-2007 гадах ад Марціновіч Алены Ігнатаўны 1925 года нараджэння, карэннай жыхаркі в. Рухава, адукацыя – 4 класы.

**АБГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Акучваць. *Сёні трэба абагнаць кардоплі, бо перарастуць.*

**АБГРЭ́БЦІ** *незак.* Граблямі падраўняць стог сена. *Трэба цяпер абгрэ́бці с усіх бакоў стог і лішняе сено падбі́ць пад стог, каб вецер ні разнёс.*

**АБСЕ́Ў** *м.* Кавалачак зямлі на полі, які застаўся незасеяным. *По́сьле твайго се́яння абсе́ваў бага́то, трэба іці́ папраўля́ць, бо будзе пустава́ць.*

**АГРЭ́Х** *м.* Прапушчаная пры ворыве або сяўбе лапіна зямлі на полі. *Араты ў мяне быў нікудышны, агрэ́хоў нарабіў, матыкаю трэба дзень маты́чыць.*

**АГАРО́Д** *м.* Кавалак зямлі каля дома для вырошчвання гародніны. *Агарот мой зарос з-за калхознае работы, пудвячо́ркамі цяпер хапа́ю, каб ачысьціць трохі, бо буракі пасьцяка́юць і морка прападзе́.*

**АГАРО́ЧЧЫК** *м.* Палісаднік. *У агаро́ччыку дзяўкі́ насадзілі ўсякіх цвятоў: жоўтых, сірэ́нявых, красных вяргі́нёў, касачо́ў, цюльпа́ноў.*

**АДАРА́ЦЬ** *зак.* Аддзяліць кавалак зямлі пры ворыве. *Ат таго заго́на трэба было адара́ць на гра́ды, пакі́нуць нісе́янае.*

**АДЗЁНАК** *м.* Прыстасаванне пад стог. *Перш, чым везці сено ў двор, трэба адзёнак зрабіць, ето ж ні міню́тняе дзело.*

**АДРАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Адплаціць работай. *Касцо́ў мама найма́ла, а тады хадзіла ім адрабля́ць, бо гро́шэй жэ ні было, каб заплаці́ць за работу.*

**АЗІ́МІНА** *ж.* Азімае жыта. *Азі́міна, здэцца, добрэ ўзышла. Ні відаць пляшо́ў, каб дзе вы́макло ці вы́прало.*

**АМЕ́ЦІ** *мн.* Ачысткі пасля малацьбы. *Даўно аме́ці ўсе пазбіраюць, да запа́рваюць і зіму скаціну кормяць, а цяпер валяюцца дзе папа́ло. Нікому ні трэба, німа гаспадара́.*

**АНДРЫ́НА** *ж.* Пуня. *У нас у канцы гаро́да стаяла вялі́зна андры́на, усю збажыну́ туды звозілі, то ету андрыну перад вайною ў калгас забралі, там яна ў во́йну й згарэла.*

**АРА́ННЕ** *н. Дзеянне паводле дзеяслова* араць. *Такое ара́нне мне ні трэба, увесь гной наве́рсе і баро́зны ву́зкіе.*

**АРА́ЦЬ** *незак.* Апрацоўваць зямлю плугам. *Е́ты гаро́т ужэ ўвосень ара́лі, як кардо́плі перавo´рвалі, то цяпер будзе м'якко.*

**АРХАВА́ЦЬ** *незак.* Ачышчаць зерне ад мякіны з дапамогай арфы. *Жыто архава́лі ў тры зьме́ны, папакі́даеш, бывало, ноч лапа́таю, а ўра́нні трэба дома ўпра́віцца і зноў іці́ ў калгас на работу.*

**АТА́ВА** *ж.* Трава другога ўкосу. *Лето сухое, то сена ні накасілі, хіба ата́вы нарасьце, ато хоць карову здавай.*

**АЎЁС** *м.* Авёс. *Аўёс скорэ трэба жаць, пасьпеў ужэ, сёлята добры ўрадзіў, каня дзяржым, то сеём для корму.*

**БА́БКА** *ж.* Дзесяць снапоў, састаўленых у кучку і накрытых зверху снопам. *Колісь жэ ўсе ўручную жалі, да вечара наставіш бабак – ні злічыць.*

**БАРАБО́ЛЯ** *ж.* Дробная бульба. *Бараболі етай накапалі поўну стопку, а аскрэбці німа чаго, лето было засушлівае, от і ні ўрадзіла.*

**БАРАЗНА́** *ж.* Канаўка, зробленая плугам ці сошкай. *У мяне тых кардопель усяго мо дзесяць баразён, але і ля іх цэлае лето таўкуса.*

**БАРАНА́** *ж.* Барана. *Барана свая была, то ўладзілі абы каму даваўшы, а цяпер самім трэба йці к Барысу на паклон.*

**БАРАНАВА́ЦЬ** *незак.* Разрыхляць зямлю бараной. *Сусед двараз баранаваў кардоплі, то і зелля менш, а мой раз працягнуў бараною, то лето пляжыла матыкаю.*

**БАЦВІ́ННЕ** *н.* Лісце буракоў. *Буракі добрые парасьлі, лето бацьвінне свінням рвала, і на зіму насыпалі засек, будзе чым карову і парасят карміць.*

**БОБ** *м.* Боб. *Твая пакойна баба ўсягда боб садзіла, вам малым давала як гасцінец шчэ ў струках, а зімою парыла і тожэ вы любілі яго.*

**БРАЦЬ** *незак.* Вырываць з коранем (пра лён). *Папабрала я ільну, і дзяцей вучыла браць, і самого вадзіла ў поле, як вялікі ўчастак быў. І што зарабіла? Толькі рукі пакалечыла, ні знаю цяпер, куды прыкласці, як лягу спаць.*

**БУ́ЛЬМА** *ж.* Бручка. *Бацько ў войну ў лагеры быў, то казаў , што доўго аннэю бульмаю кармілі, сырую грызлі, і мы раней садзілі, а цяпер нешто нічого ні хочацца.*

**БУРАКІ́** *мн.* Буракі. *Цяпер якіх толькі буракоў ні панасаджваюць: і сахарные, і кармавые, і сталовые, і нейкіе доўгіе, цаліндры называюцца, і кругленькіе, як рэпка.*

**ВАРО́ЧАЦЬ** *незак.* Варушыць, пераварочваць сена пры сушцы. *Варочаць сено трэба, скарэй высахне, ато зарадзяць дажджэ, то згніе, як летась.*

**ВЕ́ЯЦЬ** *незак.* Ачышчаць збожжа ад мякіны. *Раней уручную веялі збажыну, а цяпер веялкі есь, палёгка людзям.*

**ВЫ́ПЛЫСЦІ** *зак.* Пусціць колас. *Жыто выплыло ўжэ, закаласавало, калі будуць дожджыкі праходзіць, то будом с хлебом.*

**ГАЛАЎКІ́** *мн.* Шарападобнае суквецце некаторых раслін. *Галаўкі ў ільне харошые, высьпелі ўжэ, скорэ будом браць лён.*

**ГАРБУ́З** *м.* Гарбуз. *Гарбузы саджу кожны гот: гарбузікоў мех насушу, а лупы свінням і карове аддаю, сама іншы раз кашу вару.*

**ГІЧ, ГІЧНІ́К** *м.* Націнне бульбы. *Гіч у пояс парос, хаця б ні збуялі кардоплі, гною багато наклалі, шчэ й удабрэння патсыпалі, то мо заўрадзіло.*

**ГНОЙ** *м.* Угнаенне. *Гной с-пат каровы трэба выкінуць, бо карова скорэ цяліцца будзе, то трэба, кап сухо было ў хляве.*

**ГРАБІ́ЛЬНА** *н.* Ручка ў граблях. *Грабільно, грабучы сено, зламалі, наступіў нехто, ні бачыў. Такое лоўкае было грабільно, ні аднаго сучка, гладзенькае.*

**ГРА́БЛІ** *мн.* Граблі. *Грабе́ль усякіх хвата́е: і жалезные , і дзяраўя́ные, і дажэ пластма́савые, але сено грэ́бці канешне ж лепш дзяраўя́нымі, яны лёгенькіе, добрэ грабуць, калі грабе́ц добры.*

**ГРАДА́** *ж.* Вузкая паласа зямлі, ускапаная пад пасадку гародніны. *Град нарабілі німаве́дамо колькі, цэлае лето трэба будзе пало́ць і палівацъ.*

**ГРЭ́БЦІ** *незак.* Зграбаць граблямі. *Сёні бу́дом сено грэ́бці і вазі́ць, то трэба абеду нагатава́ць, ця́шка е́то работа, прасіць у людзе́й трэба по́мачы.*

**ГУРО́К** *м.*, **ГУРКІ́** *мн.* Агурок, агуркі. *Гурко́ў нарасло́ бага́то, то і назака́твалі, і ў дзе́шку насы́палі салі́ць, а вялі́кіе то і свіння́м аддава́лі.*

**ГУРО́ЧНІК** *м.* Націнне агуркоў. *Гурочнік шчэ зялёны, то гуркі́ будуць пакуль і кардо́плі капа́ць начно́м.*

**ДАЖЫ́НКІ** *мн.* Завяршэнне ўборкі зернавых. *Цяпер тожэ хо́рашэ дажы́нкі пра́вяць: і сабра́нне было, дзе пада́ркі перадавіка́м давалі, і канцэрт у клуб прыво́зілі з раёну.*

**ДАКО́ПКІ** *мн.* Завяршэнне ўборкі бульбы. *Заў́трэ ўжэ мо бу́дом дако́пкі пра́віць, дзеці папрыяжджа́лі, то ку́чаю скорэ скапа́лі, перабра́лі і ў стопку ўне́слі, трошкі за хлямво́м асталосо.*

**ДРА́ПКІ** *мн.* Ручная прылада для рыхлення глебы. *Дож упляска́ў гра́ды, то прышло́со дра́пкамі трохі падрыхлі́ць цыбу́лю да мо́рку, ато будуць ко́лом сядзець.*

**ЖАЛЯЗНЯ́К** *м.* Металічная лапата. *Усе́ згарэ́ло, ні было дажэ жалезняка́ граду́ ўскапаць, у людзей прасілі.*

**ЖО́РНА** *мн.* Ручны млын. *Быва́ло ссу́шаць трошкі зерня, зме́люць у жо́рнах і спякуць першы хлеб з новай мукі, дзецям ужэ ўво́ль дадуць нае́сціса.*

**ЖЫ́ТНІШЧЭ** *н.* Поле, з якога сабралі жыта. *Жытнішчэ трэба пераараць на зіму.*

**ЖЫ́ТО** *н.* Жыта. *Жы́то ле́тась ве́льмо до́брае ўдало́со, зе́рне вялікае, харо́шае было, а сёлята нейкае сплюшчанае, дробнае, німа чаго і на насенне пакіда́ць*

**ЗАВЯ́ЗВАЦЦА** *незак.* *Холадно, то гуркі́ шчэ й ні завя́зваліса, цвет асыпа́ецца, трэ́бло плёнкаю накрыць, то мо б што і вырасло, а так...*

**ЗАВЯРШЫ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць верх стога. *Засталосо толькі завяршы́ць стог, прыці́снуць зве́рху, каб вецер не разнёс і дож ні замачы́ў.*

**ЗАГО́Н** *м.* Участак ворнай зямлі. *Два заго́ны пшані́цаю засе́ялі, ато кура́м ні набра́цца, сыпаць трэба па тры раз на дзень.*

**ЗАЖЫ́НКІ** *мн.* Пачатак жніва. *Учорэ ў калгасе зажы́нкі былі, пе́ршы сноп цьвята́мі ўкра́сілі і старшыні́ аддалі́, у кабіне́це паста́віў. Зажыналі сярпо́м, як і раней, а жаць то будуць камбайны.*

**ЗЯРНО́** *н.* Зерне. *За работу ў калгасе у той гот палучы́лі тону зярна́, хапіло і кура́м, і свіння́м намалолі.*

**КАБАЧКІ́** *мн.* Кабачкі. *Кабачко́ў раней мы ні садзілі, ні ведалі, што такіе есь, ето цяпер усякіх сарто́ў навыдумля́лі, і жоўтых, і зялёных, а раней мы толькі гарбузы садзілі.*

**КАКСАГЫ́З** *м.* Адуванчык кок-сагыз. *Вы ўжэ цяпер ні знаеце, што ето за каксагыз, а ты ж бачыш , якіе пасці ўсе бабы пакалечаные ў сяле, ето ж той самы каксагыз садзілі ў халоднум мокрум балоце, пазастывалі ногі і пакрывелі.*

**КАЛАСАВА́ЦЬ** *незак. Жыто ўжэ каласуе, наліваецца зерне, пагода спрыяе.*

**КА́ЛІВО** *н.* Каліва, адна расліна. *Памідоры нешто ні растуць, адно каліво большае, а другое ат зямлі ні атрасло, мо каб паткарміў чым.*

**КАЛЯСНІ́К** *м.* Воз сена. *Добры каляснік сена прывезлі, пакуль у хлеў уцягнулі, то ўмоклі ўсе, але да дажджу пасьпелі.*

**КАНО́ПЛІ** *мн.* Каноплі. *С канапель ткалі грубае палатно, шылі з яго мяшкі, дзяружкі, а цяпер, кажуць, іх саўсім запрасцілі садзіць, ні відаць, каб дзе раслі.*

**КАПА́** *ж.* Сена, снапы, складзеныя конусам. *Дзьве капе сена наклалі да дажджу, а астальное намокло, прыдзецца перасушваць.*

**КАПУ́СТА** *ж.* Капуста. *У капусты качаны сёлята як каменне, наклала вяліку дзежку і ў банкі накрышыла, добры гот быў для капусты, і вусеню ні вельмі было, мо раз толькі палівала атраваю.*

**КАРДАПЛЯ́НІК** *м.* Націнне бульбы. *Кардаплянік даўней жалі ў снапкі, сушылі, да карову зімою кармілі, сена скупо было, то прыходзіласо прамышляць, шукаць кармоў.*

**КАРДО́ПЕЛЬ** *м.*, **КАРДО́ПЛІ** *мн.* Бульбіна, бульба. *Каторы кардопель жоўцянькі, як ачысціш, той і смашны, а калі белы, то як сліва зробіцца, ні разварваецца, трэба шукаць харошага семяна.*

**КАСА́** *ж.* Каса. *Сам нічого ні ўмее рабіць, касу і тую просіць суседа, каб пабіў, памянташыць і то добрэ ні ўмее.*

**КАССЁ** *н.* Ручка касы. *Кассё зрабіў новае, але нейкае цяжкае, німожно пацягнуць тае касы.*

**КАСІ́ЦЬ** *незак.* Касіць. *Касіць прыдзецца наймаць людзей, бо вялікі ўчастак вельмо, адзін Пятро ні скосіць, ні тая ўжэ сіла.*

**КАЧА́Н** *м.* Качан. *Ідзі зрэж качан капусты, ранні ўжэ гатова, качаны трэскацца пачалі, трэба зразаць, да забірайце.*

**КВАСО́ЛЯ** *ж.* Фасоля. *Кваслі насадзіла і белае, і жоўтае, але дзеці ні любяць, шчэ пазалеташня стаіць, ні хочуць браць.*

**КІ́ДАЦЬ** *незак.* Складаць у стог. *Дзень цэлы кідаў сено ў стагі, то ні чую рук.*

**КІЛАВА́ТЫ** *прым.* Кілаваты. *Тая капуста, што пазней пасадзіла, то кілавата нейка палавіну, нічого з яе ні будзе, трэба павырываць, да павыкідаць з грады.*

**КО́ЛАС** *м.* Колас. *Колас у пшаніцы цяжкі, аж нахіліўса, во-во будзе гатовы*

**КРАСАВА́ЦЬ** *незак.* Цвісці (пра злакавыя). *Жыта красуе і васількі па жыце сінеюць.*

**ЛЁН** *м.* Лён. *Ільну на сваіх сотках цяпер ні сеюць, а даўней жэ ў кожнаго палоса ільну была, бо ўсю адзежу шылі з льняного палатна.*

**МАТЫ́КА** *ж.* Ручная прылада для апрацоўкі зямлі. *Матыку, трэ́ба прасіць, каб навайстыў Коля, ато німожно ў землю ўбіць, рукі паўрыва́ла матычыўшы, а сама ж ні навайстру́.*

**МАТЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Рыхліць зямлю матыкай. *Маты́чыць думаеш лёгко, як папаматы́чыш з ранку да вечара калхозные буракі ці кукурузу, то ні чуеш рук к вечару, ето цяпер усе машыны робяць.*

**МЛІН** *м.* Млын. *Млін то быў у суседнім сяле, але там усягда́ вельмо заво́зно было, можно было дзень прасто́яць і ні змалоць.*

**МО́РКА** *ж.* Морква. *Мо́рка кожны гот з лета і вельмо расьце, а тады муха нападзе́, папсуе́, і ўво́сень уся згніе́, выкідай вон.*

**МЯЖА́** *ж.* Вузкая палоска неўзаранай зямлі паміж участкамі. *На мяжу́ кі́дай зе́лле, тады павыно́сім, як падсо́хне трохі, бо вельмо ж ця́жкае.*

**МЯКІ́НА** *ж.* Адходы, якія застаюцца пасля абмалоту. *Жыто ў калхозе палучылі за работу, то нічыышчанае, палавіну мякі́ны, але свіння́м зме́лецца.*

**НАЛІВА́ЦЦА** *незак.* Рабіцца поўным (пра зерне). *Зерне і ў жыце, і ў ячмені наліло́со, скорэ дасьпе́е, калі якая не́пагадзь ні прыдзе.*

**НАПЕРАВО́РВАЦЬ** *зак.* Наараць пасля капання (пра бульбу). *Напераво́рвалі кардо́плёў сем мяхо́ў, ето такіе капа́ннікі былі, абы зьверху трохі сабра́ць.*

**ПАЛЕ́ГЛІЦА** *ж.* Збажына, палеглая пасля моцнага дажджу. *Дзе жыто стая́чае, то камбайны добрэ жжа́лі, а дзе пале́гліца, то прышло́со сярпа́мі жаць, камбайны не ўзялі́.*

**ПАЛО́ЦЬ** *незак.* Ачышчаць ад пустазелля. *Гра́ды трэба ўжэ пало́ць, хоць шчэ зелле і малое, але тады як запу́сціш, то ні выкараніш ету касьцеругу́ і пырнік.*

**ПАМІДО́РА** *ж.* Памідор. *Паглядзі на граду́, адна паміда́ра жоўта, другая – кра́сна, есь маленькіе, як вінаград, а есь, што і ў банку ні ўлезе, разных сартоў насадзіла, а лето цёплае, то і растуць добрэ.*

**ПЕРААРА́ЦЬ** *зак.* Узараць занава пасля збору ураджаю. *Ячмень мы ўжэ жжа́лі і прыбра́лі с поля, цяпер трэба думаць, як ячме́нішчэ перааpа́ць.*

**ПЕРАВЯ́СЛО** *н.* Саламяны жгут для звязвання снапоў. *Мама як ішла жаць, то і нас бра́ла, мы перавя́сла скру́чвалі і ёй падава́лі снапы звязваць.*

**ПЛУГ** *м.* Сельскагаспадарчая прылада для арання зямлі. *Плуг наш вельмо добры, то ўсе сяло прыходзіць прасі́ць, ну як ты ні дасі, але як зло́мяць, то думаеш, што настрояць, строіць самім прыдзецца.*

**ПО́ЖНЯ** *ж.* Зжатае хлебнае поле. *Ужэ некалькі дзён кароў на по́жні пасу́ць, вельмо траўна́я, то каровы малака прыба́вілі.*

**ПРАРЫВА́ЦЬ** *незак.* Зрабіць радзейшым, вырваўшы частку раслін. *Бураќі гу́сто ні садзі, бо тады прарыва́ць вельмо мару́дно, і шкода рваць, і німа як пакіда́ць, бо ні парасту́ць.*

**ПРО́СО** *н.* Проса. *Про́са цяпер ні ў калга́се, ні на сваіх пале́тках ніхто ў нас ні сее, а колісь жэ сеялі, самі абмало́чвалі яго, у сту́пе таўклі́.*

**ПЯРЭ́БІР** *м.* Ахапак сена, перабраны граблямі. *Мушчы́ны сено сахара́мі насілі, а я пярэбірамі, колькі магла пане́сці, але ўсе ж не́йка по́мач.*

**РАЗО́РА** *ж.* Доўгая канаўка на паверхні зямлі, праведзеная плугам. *Такі лівень ліў, што поўные разо́ры паналіва́ло вады, калі ні суні́мецца, то ўсе пагніе, папрапада́е.*

**РАЛЛЯ́** *ж.* Узаранае поле. *Па све́жуй раллі́ птушкі бе́гаюць, чарвей шука́юць, і куры ўсе высыпалі з двара, грабу́цца.*

**РАСА́ДА** *ж.* Расліны, прызначаныя для перасадкі на градкі. *Капу́сну раса́ду сёлята рано пасадзі́ла, накры́ла плёнкаю, то харо́ша ўжэ, праз колькі дзён можно ўжэ будзе рассаджваць, якраз пара́ добра, ні гнілая.*

**САЛО́МА** *ж.* Салома. *Саломы тожэ багато ў хазяйстве трэба: і скапец прыкла́сці, і скаціну падаслаць.*

**САХО́Р** *м.* Вілы. *Сусед браў сахо́р гной выкіда́ць, то зламаў і прынёс зло́маны, а цяпер сама думай, каго прасіць, каб параманці́раваў.*

**САШНІ́К** *м.* Частка сахі ці плуга. *Бралі ўсе плуг і вясною, і ўвосень, то сашні́к сара́ўся саўсім, зяць сказаў трэба новы вытачыць.*

**СЕМЯНО́** *н.* Насенне. *Ско́рэ ўжэ й сеяць бу́дом, дачка ўся́кага семяна́ наве́зла: і гуркоў, і памідор, і рэдзькі, і нейкіх патасо́ноў, а кардоплі на семяно́ шчэ з во́сяні атабра́лі, у скапцы закопаные.*

**СЕ́ЯЦЬ** *незак.* Раскідваць насенне на падрыхтаваную для сяўбы глебу. *Суседка ўжэ кардо́плёў мало са́дзіць, будуць се́янку сёні се́яць, яны карову дзяржа́ць, то сено трэба.*

**СКЛАД** *м. Еты заго́н у склад ары́, бо ўро́скідку як узарэ́ш, то ў мокры гот павымакае ўсе, тут нізкае место.*

**СКАПЕ́Ц** *м.* Бурт. *Вельмо ўрадзі́лі кармавы́е буракі, суседка навярну́ла два скапцы́, шчэ й у сто́пку нанасі́ла.*

**СНОП** *м.* Сноп. *Першы сноп усягда́ даруча́лі нажа́ць до́бруй жняі́, на паказ яго астаўля́лі, стаяў да новаго ўража́ю.*

**СО́ШКА** *ж.* Саха. *Кардо́плі мелко пасадзілі, то трохі со́шкаю папаро́лі, дай хай растуць, бо плугом павыво́рваюцца.*

**СТАГАВА́ЦЬ** *незак.* Складаць у стагі сена, салому. *Салому зра́зу звозяць у ку́чы, а тады стагу́юць, ето мушчы́нска работа, а ў войну ш усе́ ба́бы рабілі, і сцягвалі ў кучы, і стагавалі.*

**СТОГ** *м.* Стог. *Стог скла́сці ні кожны ўмее, у нас на е́то ве́льмо спецыялі́ст Манін Раман, як складзе, то ні замо́кне, ні ветром ні разнясе́.*

**СУ́ШНЯ** *ж.* Будынак для сушкі ільну. *Сушня́ ў нас ля канавы ста́яла, спецыя́льно рабілі ля вады, каб атушы́ць, еслі загары́цца, бо моцно напа́львалі печ, каб скарэй лён сох, але нек уно́чы загарэласа і згарэла разом з ільном, не атушылі.*

**СКІ́РДА** *ж.* Сціpта. *Салому ў скі́рды пасклада́лі, зімо́ю бу́дуць вазі́ць на по́дсціл каровам і коням.*

**ТОК** *м.* Пляцоўка для абмалоту збожжа. *У андры́не быў ток, на якім і малацілі снапы жыта, ячменю, пшаніцы.*

**ТРАПА́ЦЬ** *незак.* Ачышчаць валакно ад кастрыцы. *Трапа́лі лён спецыя́льнай трапа́чкаю (трапло́м), выбівалі кайстрыцу з яго пасля церніцы.*

**ТУРНЭ́ПС** *м.* Кармавая рэпа. *Турнэ́псу колісь багато садзілі, самі трохі елі ( як нічого больш ні было), а то карову кармілі, а цяпер надбо́льш буракі садзяць, турнэ́пс ні ў модзе.*

**УГНАІ́ЦЬ** *зак.* Унесці ўгнаенне ў глебу. *Добрэ ўгно́іш зе́млю, то і вы́расце на ёй усе, што паса́дзіш, а пустая зямля радзі́ць ні будзе.*

**УПЯРО́ЧКА** *ж.* Папярочная баразна. *На ўпяро́чцы кардо́плі ні садзіце, я гарбузоў насаджу́, свінне шчэ лепш іх ядзяць.*

**ХРА́ПКА** *ж.* Ствол качана капусты без лістоў. *Капуста харо́ша ўрадзі́ла, качаны́ тугі́е, белые, дажэ хра́пкі ні го́ркіе, дзеці грызуць, як рэжу.*

**ЦАЛІНА́** *ж.* Неўзараная зямля, якая даўно не засявалася. *Нашто табе ета цаліна́, хаця б ты абрабі́ла той кусок, што летась сеялі.*

**ЦЕ́РНІЦА** *ж.* Прылада, якой труць лён. *Це́рніца ў кожнаго свая́ была, мая шчэ й сёні нейдзе на гары́ валя́ецца.*

**ЦЭП** *м.* Прылада для абмалоту збожжа ўручную. *Цяпер камбайны і жнуць, і малоцяць, а колісь зі́му махалі цапа́мі, пакуль памалоцяць, адзін аднаму́ памагалі, бо ето ця́шка работа.*

*К.М. Панюціч*

# З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК УШАЧЧЫНЫ

Гэтая падборка дыялектнай лексікі – працяг публікацыі, змешчанай у зборніках “Жывое наша слова” (2001) і “Скарбы народнай мовы” (2005). Запісы зроблены ў гаворках Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

Прынятыя скарачэнні назваў вёсак: Арэх. – Арэхаўна, Астр. – Астраўляны, В.Д. – Вялікія Дольцы, Кубл. – Кублішчана, Маж. – Мажэйшчына, Міх. – Міхалкаўшчына, Навас. – Наваселле, Слаб. – Слабада, Стар. – Старына, Судз. – Судзілавічы, Чэр. – Чэрсвя, Шчарб. – Шчарбёнкі.

**МА́ЗАНКА** *ж.* Клейкая каша. *Як калі́ зада́сца: бува́йіць ка́ша рассы́пістая, а бува́йіць ма́занка.* В.Д. *Пае́ш ма́занкі.* Арэх.

**МА́ЗКА** *ж.* Мазь. *Гало́ўка разрыва́йіцца, да́йці яко́й ма́скі.* Маж. *Ста́лі мае́ кале́ні бале́ць, хоць ты рату́нку крычы́, дакто́рка ма́скі не́йкай дала́.* Навас.

**МАЗЮ́КА** *м.* Дажджавы чарвяк. *Мазю́каў капа́йіш? На ры́бу зьбірайісся?* Арэх. *Пасьля́ дажджу́ павыла́зілі мазю́кі, по́ўна йіх.* Слаб.

**МАКА́НКА** *ж.* Мачанка, мачанне. *Ко́стачак натушу́, каўба́скі, мукі́ паткалачу́ – во й мака́нка.* В.Д. *Ба́цька твой ду́жа любі́ў мака́нку.* Судз.

**МАЛАДЗЁН** *м.* Жаніх, малады. *Маладзён наезны, здалёку, а маладу́ха на́ша.* Судз. *З маладзёнам е́дуць дру́шкі, сваты́, музыка́нты.* Арэх.

**МАЛАДУ́ХА** *ж.* Маладая, нявеста. *І маладзёна палядзе́лі, і маладу́ху, ла́дныя або́два.* Стар.

**МА́ЛЕЦ** *м.* 1. Хлопец. *Ідзі́ за яго́: ма́ліц ён харо́шы, спако́йны.* Слаб. 2. Сын. *Яе́ ма́ліц быўране́й пат слухо́м, а цяпе́р стаў агрыза́цца.* Стар.

**МАЛІМО́НКА** *ж. асудж.* Спешчаная, раздураная дзяўчынка. *Ме́ншая дачка́ ў йіх малімо́нка, даліктў́ха, абы-чаго́ ня е́сь.* Арэх. *Малімо́нка! Біз ма́ткі ніку́ды, як хвост, ціга́йіцца.* Кубл.

**МАЛІМО́НЧЫК** *м.* Тое ж пра хлопчыка. *Іш ты, малімо́нчык: заці́рку ня хо́чыць е́сьці!* Навас.

**МАЛО́ЧНІК**[1] *м.* Страўнік цяляці. *У каро́вы трыбу́х, а ў цялёнка – мало́чнік.* В.Д.

**МАЛО́ЧНІК**[2] *м.* 1. Той, хто працуе на малочнай. *Мало́чнікам ро́біў тры гады́, прыма́ў у людзей малако́.* В.Д. 2. Той, хто любіць малако і малочныя стравы. *Ён у нас мало́чнік, па йім мя́са хай і ня бу́дзіць, абы́ малако́.* Арэх.

**МАЛО́ЧНІК**[3] *м. бат.* Малачай. *Нарва́ла сьвіння́м мало́чніку.* Астр. *У гаро́дзе мало́чнік расьцецць.* Маж.

**МАЛЬЧУ́К** *м.* Хлапчук, падлетак. *Сабярэ́ць мальчуко́ў і ўся́кую ўсячы́ну йім сазво́дзіць, здумля́йіць.* Слаб. *Хай ба ш мальчу́к ваш наказа́ў нам, мы прые́халі п.* Арэх.

**МАНІЦЦА** *незак.* Збірацца, абяцаць зрабіць што-н. *Маніўся зяць прыехаць, бульбу паганяць, ды нешта ні чуваць.* Арэх. *Цешча манілася прыехаць у госьці.* В.Д.

**МАНІЯ** *ж.* У выразах: бадай цябе манія! хай цябе манія! Выказванне незадавальнення. *Бадай цябе манія! Забылася капусту пасаліць!* Арэх. *А хай цябе манія! Ня ўздумаю, куды ўторкнула йіголку.* Стар.

**МАРМЫЛЬ** *м. асудж.* Вельмі маўклівы, негаваркі, замкнуты чалавек, маўчун. *У яго й гаворкі німа, словы два пыкніць-мыкніць, вы гэткі мармыль!* Міх. *Мармыля прыслалі аднекуль.* В.Д.

**МАСІЯШ** *м.* Хуткі, непаседлівы, няўрымслівы чалавек. *Цэлы дзень гэны масіяш бегайіць, німа яму ўходу.* Арэх.

**МАСЛЯНКА** *ж.* Маслёнка. *Німа малака, папі во масьлянкі, такая кісьлявінькая.* Арэх.

**МАТЫЛІ** *мн.* Хвароба авечак і коз; матыліца. *Ні дай бох, матылі ў авечак!* В.Д.

**МАХЛАК** *м. асудж.* Грубы, некультурны чалавек; вахлак. *Махлакі вы! Кала дзевак нада далікатна ўхаджываць.* Арэх.

**МАШАРНІК** *м.* Махавік. *Машарнікоў поўная вядро прынісла.* Арэх. *Машарнікі на моху растуць, на баравінках.* Судз.

**МЕННЕ** *н.* Імя. *Добрая меньня мальчыку далі.* Судз.

**МІЖДЫ, МІЖЫ** *прыназ.* Паміж. *Міжды пальцаў сабака ўкусіў, цяпер вопух на ўсю нагу.* Навас. *Міжы намі гаворка была, ніхто болі ня чуў.* Арэх.

**МІТАЦЦА** *незак.* Бегаць, мітусіцца, снаваць. *Даўней мітылася пу хазяйству, а цяпер свабодная.* Арэх. *Мітыўся па дзярэўні нейкі чужы чалавек.* Кубл.

**МІРОЦЦЕ** *н.* Лад, спакой, мір. *Прыехала к сыну, а ў йіх німа міроцця ў хаці.* Судз. *Якоя там міроцця! Нявестка сварыцца са свякроўкай.* Стар.

**МУХАНЯТКА** *н.* Худзенькае, кволае дзіця. *Дзеці мае мухуняткі былі, у горы пасьля вайны жылі.* Судз. *Муханяткі, а лепі за ўсіх вучыліся.* Стар.

**МЭНЧЫЦЦА** *незак.* Мучыцца. *Такі дошч сягоння, бацька наш мэнчыцца на пасьці.* Слаб.

**МЭНЧЫЦЬ** *незак.* Мучыць. *Ня мэнчыці ката, ідзіці на вуліцу!* Арэх.

**МЯДОЎКА** *ж.* Невялікая дзежка на мёд. *У дзеда нашага была дзіравянная мядоўка зь векам.* Арэх.

**МЯЗДРА** *ж.* Мязга; мякаць гарбуза. *Семічкі выбіру, а мяздру для скаціны звару.* Арэх. *У гарбузе мяздра.* Шчарб.

**МЯКНУЦЬ** *зак.* Зваліцца, гопнуцца. *Глядзі малога, а то, ні дай бох, мякніць сь печы.* Слаб.

**МЯЛІННЕ** *н.* Кастрыца. *Лён мнём, а мяління ляціць.* В.Д. *Насыпалі на хату мяління.* Чэр.

**МЯЛІЦА** *ж.* 1. Церніца. *Даўней усю зіму ляпаюць мяліцы, мнуць лён.* В.Д. 2. *перан. зневаж.* Рот. *Ужо раскрылі сваё мяліцы, на чым сьвет сваруцца.* Арэх.

**МЯРЛОГ** *м.* 1. Бярлог. *Паднялі зімой мядзьведзя зь мярлогу.* Арэх. *Два мядзьведзі ў адным мярлозі ні жывуць (прыказ.).* Судз. 2. Свіное логава. *Сьвіння*

*зробіла сабе мярлох.* Чэр. 3. *перан.* Беспарадак. *У йіх у хаці вечна мярлох, німа паратку.* Слаб.

**МЯЧКА** *ж.* Жанчына, якая трэ лён. *Мяць лён разам зьбіраліся, у мяне, помню, пяць мячак было.* В.Д.

**МЯЦЬ** *незак.* Церці (лён). *Зімой мялі лён.* Маж.

**НАБІВАЦЦА** *незак.* Навязвацца, заляцацца. *Сама набівайіцца, бегайіць за мальцам, а ён і ня бліска.* В.Д.

**НАБОЙ** *м.* Заляцанне, прыставанне. *Няго ён возьміць яе? Сама ходзіць за мальцам, а набой дзяшова стойіць!* Судз.

**НАБОРНЫ** *прым.* Заразны. *Ня бойся, хадзі бліжэй, мая хвароба ні наборная.* Судз.

**НАБУХТОРЫЦЬ** *зак.* Наліць празмерна, да самых краёў; набухаць. *Набухторыць бочку вады, прас край ліецца.* Арэх. *Набухторыла міску халадніку.* Судз.

**НАВЕСЦІ** *зак.* Распаўсюдзіць плёткі, навыдумляць. *У вочы лісьціўвы, а за вочы навядзець на цябе чаго хочаш.* Арэх.

**НАВІДАКУ** *прысл.* Навідавоку. *Нош навідаку, а ты ніяк ня знойдзіш!* Арэх.

**НАВОДНЫ** *прым.* 1. Прыведзены з іншага статку (пра жывёлу). *Наводная карова ня хочыць у стадзі хадзіць, пакуль прывыкніць.* Астр. 2. *перан.* Чужы, прышлы, з іншай мясцовасці (пра чалавека). *Прыехаў ён с-пат Смаленска, наводны чалавек, нічога нашага ні знайіць.* Навас.

**НАВЯЛІЦЦА** *зак.* Накінуцца, прыстаць, настойліва дамагацца чаго-н. *Чаго ты навяліўся на дзяцёнка! Як выходзіць у яго, так і вучыцца.* Судз.

**НАГЛЫ** *прым.* Раптоўны, нечаканы. *Лёх спаць, а назаўтра ні ўстаў – наглая сьмерць.* В.Д.

**НАДКОСНІК** *м.* Шафер. *Ад маладой два наткосьнікі былі, вянок над галавой дзіржалі, касу выкуплялі.* Навас.

**НАДОВЕНЬ** *прысл.* Надоечы, нядаўна. *Казаў Ляксей надовінь, што дроў прывязець нам.* Судз.

**НАДОЗІРКУ** *прысл.* На віду, на вачах. *Каровы надозірку ходзяць.* Арэх. *Надозірку йішоў за йімі.* Слаб.

**НАДУКРЫЦЬ** *зак.* Падгаварыць, настроіць, падбіць. *Ні знаю, хто нашага сына надукрыў паехаць у Наваполацак на завот.* Чэр.

**НАДУЦЬКА** *м.* і *ж.* Надуты, непрыветлівы, крыўдлівы чалавек. *Ня буць ты, Вася, надуцька, ні крыўдуй на сястру.* Слаб. *Ваша дзевачка такая надуцька, вечна нідавольная.* Арэх.

**НАЕЗНЫ** *прым.* Прыезджы, не тутэйшы. *Старшыном пасьля вайны нейкі наезны быў, ні атсюль.* Судз.

**НАЗАЎТРАШНЯГА** *прысл.* Назаўтра. *Думала, што назаўтрашніга пайду ў госьці, алі занядужыла.* Навас.

**НАЗАЎТРАЯ** *прысл.* Тое ж. *Такая вея на вуліцы, можыць назаўтрая ні пайсьці аўтобус.* Астр.

**НАЗВОДЗІЦЬ** *зак.* Наманіць, навыдумляць. *Назводзіў ён дзеўцы, а тая й паверыла.* Кубл.

**НАЗО́ЛЛІВЫ** *прым.* Дакучлівы, назойлівы. *Такі́ назо́лліва ма́ліц, галаву́ нам адурыў за ве́чар, пра ўсё пата́ўся.* Судз.

**НАЗЫ́ВІШЧА** *н.* Назва, імя. *Гэ́та ні назы́вішча, а насьмі́шка адна́. Хто ш так дзяце́й называ́йіць?* В.Д. *А яко́е назы́вішча той мясьці́ны?* Кубл.

**НА́ЙМІТКА** *ж.* Наймічка. *Та́та памёр, сёстры ў на́йміткі пайшлі́.* Судз.

**НА́КАЛЬНІК** *м.* Неслух, свавольнік (пра дзяцей, падлеткаў). *Каб ён хоць ба́цьку слу́хаў, гэ́ты на́кальнік.* Навас.

**НА́КАЛЬНІЦА** *ж.* Жан. да накальнік. *На лес гля́дзя дзяўчы́нка расьце́ць, на́кальніца.* Астр.

**НА́КАЛЬНЫ** *прым.* Непаслухмяны, свавольны, упарты. *На́кальны стаў, у чужы́я я́блыкі ла́зіць.* Арэх. *Сын спако́йны быў, а чаго́ ўнук такі́ на́кальны?* Судз.

**НАКАШАЛІ́ЦЬ** *зак.* Нагаварыць абы-чаго, навыдумляць. *Накашалі́ў цэ́лны воз і пайшо́ў сабе́.* Чэр.

**НАКЛЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Націскаць, нашкуматаць. *Пры́дзіць, наклы́чыць гэ́тага мало́га – віда́ць, лю́біць дзяце́й.* Міх. *Дзе́ці наклы́чылі газе́т.* Шчарб.

**НАКРЫПА́ЦЬ** *зак.* Начыніць фаршам. *Накрыпа́ла кілба́с.* Арэх.

**НАЛАМІ́ЦЦА** *зак.* Прывыкнуць, прызвычаіцца. *Як малы́ нало́міцца, так і пасья́ бу́дзіць гавары́ць.* Стар.

**НАЛЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Вылечыць. *Адзін бок мне нале́чылі, а другі́ скале́чылі, агнём гары́ць.* Судз.

**НАЛІ́** *злучн.* Але. *Ні хаце́ла йсьці за яго́, налі́ ж бацькі́ заста́вілі.* Слаб. *Нікары́сьнінькая жо́нка, налі́ ш – хоць і крыва́я бярэ́зіна, абы́ ш чужо́га бо́ку прыве́зіна.* Судз.

**НАЛІВА́ХА** *ж.* 1. Каўбаса, начыненая дранай бульбай. *Надзяро́м бу́льбы – і ў кі́шкі, сква́рак даба́вім, вот і наліва́ха.* Маж. 2. *перан.* Поўны чалавек. *Ло́ўкая дзе́вачка, наліва́ха, по́ўнінькая, ру́чкі як піравя́заныя.* Шчарб.

**НА́МАРЖНІ** *мн.* Намарзні. *У саня́х на капылы́ набіва́юць на́маржні.* В.Д.

**НАМІ́ТУСЬ** *прысл.* Галовамі ў розныя бакі, “валетам”. *Ні было́ друго́й крава́ці, ляглі́ з дачко́й намі́тусь.* Чэр.

**НАНІ́ЧЧА** *прысл.* Навыварат, наніц, на горшы бок. *Лайно́ нані́чча надзе́ла, лю́дзі засьмяю́ць, адзе́нь наліцо́.* Судз.

**НАПРАМІКІ́, НАЎПРАМКІ́** *прысл.* Напрасткі. *Як напрамікі́, то кіламе́траў дзе́віць бу́дзіць.* Навас. *Пагна́ла каро́ву наўпрамкі́, па ле́сі.* Шчарб.

**НАПУ́ЦІЦЬ** *зак.* Навесці на правільны шлях, падказаць. *Бісталко́вы ма́ліц, алі́ дзя́цька яго́ напу́ціў, насвары́ўся.* Судз.

**НАРАВЕ́Ц** *м.* Капрызны, упарты, наравісты чалавек. *Німа́ шча́сьця, пупа́ўся ей наравец, ніяк ні ўгадзі́ць яму́.* Арэх.

**НАРАВІ́СЦІК** *м.* Тое ж. *Ні на́да дуры́ць дзяце́й, дык ня бу́дуць нараві́сьцікі.* Нас.

**НАРА́ВІЦЬ** *незак.* Любіць. *Ні нара́ўлю цяпе́рашняй мо́ды.* В.Д. *Нара́ўлю я́гады з малако́м.* Судз.

**НАРА́ЎНЫ** *прым.* Які даспадобы, якога любяць. *Нара́ўную дзе́ўку ўзяў.* Судз.

**НАРО́Ў** *м.* 1. Характар. *Дрэ́ннага наро́ву дзяцю́к, ня йдзі за яго́.* Судз. 2. Упартасць, капрызы. *Німа́ чаго́ тут свой наро́ў пака́зваць!* Арэх.

**НАРУ́ГА** *ж.* Упартасць, непаслухмянасць. *Як мне твая́ нару́га надае́ла, сам ніко́лі ня зро́біць, напаміна́ць на́да.* Міх.

**НАРУГА́НЫ** *прым.* Непаслухмяны, упарты. *Ме́ншы ўнук такі́ наруга́ны: усе́рдзіўся, пувалі́ўся на зямлю́, крычы́ць!* Міх.

**НАРУГА́ЦЦА** *незак.* 1. Не слухацца, рабіць назло, насуперак. *Ні наруга́йся, ма́ліц, злаўлю́ – крапі́вай атсьціба́ю.* Арэх. 2. Дражніцца, насміхацца. *Ду́жа ня любіць, калі́ ей Іванам наруга́юцца, жаніхо́м заву́ць.* Шчарб.

**НАРУГЛІ́ВЫ** *прым.* Тое ж, што і наруга́ны. *Ніко́га ня слу́хайіць, наруглі́вы расьце́ць.* Чэр.

**НАРУГНУ́ЦЦА** *зак.* Зрабіць назло, насуперак. *Мужы́к е́йны до́бры: каб ён калі́ наругну́ўся ці сло́ва благо́я сказа́ў.* Стар.

**НАРУ́ЖНІК, НАРУЖО́НІК** *м.* Непаслухмяны, упарты (звычайна пра дзяцей). *Ска́жам яму́, дык наўро́шні ня по́йдзіць, нару́жнік!* Навас. *Мно́га цяпе́р такіх наружо́нікаў, што наста́ўнікаў ня слу́хаюць.* Чэр.

**НАСА́ТКА** *ж.* Насавая хустачка, насоўка. *Дзяву́лля, а наса́ткі ні ма́йіць.* Арэх. *Вы́трыся наса́ткай!* Міх.

**НАСЕ́ННІК** *м.* Насенны агурок. *Жо́ўтыя агуркі́ сабра́ла, насе́ннікі.* Астр.

**НА́СКІ** *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *На́ськія мы лю́дзі, ні наво́дныя, спрадве́ку тут жывём.* Арэх.

**НАСКІПА́ЦЬ** *зак.* Нашчапаць. *Наськіпа́ў лучы́ны на ўсю́ зіму́, на расто́пку бу́дзіць.* Кубл.

**НАСМАРГА́ЦЬ** *зак.* Нашморгаць. *Насмарга́ла вядзёрка брусьні́ц.* Арэх.

**НАСПА́РЫЦЦА** *зак.* Назбірацца, набіцца. *Дзьве́ры ча́ста аччынялі, вот мух і наспа́рылася.* Арэх.

**НАСУКРЫ́ЦЦА** *зак.* Навіць (валасы), завіцца. *Насукры́лася, як сімна́ццатка, на вічары́нку по́йдзіць.* Судз.

**НАСУКРЫ́ЦЬ** *зак.* Навіць, завіць (валасы). *Вісяць гэ́ты ко́смы, хоць бы насукры́ла.* Судз.

**НАЎПРАМІ́К, НАЎПРАМІКА́** *прысл.* Напрасткі. *Наўпрамі́к ня по́йдзіш, кла́ткі зьнясло́.* Маж. *Наўпраміка́ тут нідалёка.* Судз.

**НАЎПРО́К** *прысл.* Насуперак, наперакор. *Наўпро́к усё ро́біць, наруга́йіцца, ня слу́хайіць.* Судз.

**НАЎПРО́ЦІ** 1. *прысл.* Насупраць. *Стань наўпро́ці, пагляджу́ на цябе́.* Арэх. 2. *прыназ.* Насупраць, у параўнанні з. *Та́я маладзіца наўпро́ці Со́ нькі про́ста чу́чала.* Судз.

**НАХАПУ́** *прысл.* Наспех, спяшаючыся. *Нахапу́ ўсё ро́білі, к вяселлю ла́дзіліся.* Арэх.

**НАЧНІ́ЦЫ** *мн.* Паводле павер'я, хвароба дзяцей ад злых духаў. *Ня сьпіць дзяцёнак, кіда́йіцца, начніцы напа́лі.* Слаб.

**НАШАШЭ́РЫЦЦА** *зак.* Натапырыцца, паставіць поўсць дыбам. *На́шы каты́ як загуля́юцца, нашашэ́руцца, аш стра́шныя ста́нуць.* В.Д.

**НЕВЫЗО́РНЫ** *прым.* 1. Непаглядны, непрыгожы. *Нівызо́рная дзе́ўка бала́, а тако́га дзіцюка́ знайшла́ сабе́!* Чэр. 2. Неганаровы, не аўтарытэтны. *Нівызо́рная яе рабо́та: убо́ршчыцай у канто́ры.* Навас.

**НЕДУШНЫ́** *прым.* У якім не душна, лёгкі. *На дварэ́ цёпла, нідушну́ю ку́ртку адзе́нь.* Судз.

**НЕЗАБО́ТНЫ** *прым.* Бесклапотны, нядбайны. *Яму́ так: до́бра ёсь, до́бра й німа́, нізабо́тны.* Арэх.

**НЕЗАДА́ЧНЫ** *прым.* Няўдалы. *Нізада́чны вы́йшаў хлеп, аце́сьлівы.* Кубл.

**НЕЗМІРО́НЫ** *прым.* Бязмерны, незлічоны. *Людзе́й цьма нізьміро́ная там была́.* Судз. *У і́іх бага́цця нізміро́ная, і мне, бывае, адзе́жыну піракі́нуць.* Стар.

**НЕ́КАЛІСЬ** *прысл.* Калісьці, даўно. *Не́калісь бе́дна мы жылі́, зямлі́ сваé ні было́, па наймах хадзі́лі.* Арэх.

**НЕКАРЫ́СНЫ** *прым.* 1. Дрэнны, малавартасны, непрыдатны, ад якога мала карысці. *Сёліта нікары́сная бу́льба, дажджо́ў было́ ма́ла.* Судз. *Нікары́сныя ні́ткі рву́цца.* Арэх. 2. *перан.* Непрыглядны, няспрытны (пра чалавека). *Нікары́сную жо́нку ён прывёс: ма́лінькая, дро́бнінькая, німа́ на што глядзе́ць* В.Д. *Нікары́сны е́йны мужы́к, не́йкі ціляпе́нь.* Судз.

**НЕНАСПАДЗЕ́ЎКІ** *прысл.* Нечакана, неспадзявана. *Учо́ра ў Вуша́чы нінаспадзе́ўкі сва́та сустрэ́ў.* Астр.

**НЕРУШЫ́МЫ** *прым.* Нерухомы. *Стаі́іць, як слуп, нірушы́мы, няшу́стры, ду́жа спако́йны ма́ліц.* Судз.

**НЕСУВІРУТНІ́К** *м. асудж.* Нягоднік, нялюдскі чалавек. *Мужы́к яé быў ду́жа акая́нны, несувірутні́к.* Арэх.

**НЕСУВІРУ́ТНЫ** *прым. асудж.* Несусветны (у адмоўных ацэнках). *Гульта́йка нісувіру́тная, дзяце́й ні глядзі́ць, у ха́ці біспара́дак.* Судз. *Што ўду́майіць – ні пірыйна́чыш, ду́рань нісувіру́тны.* В.Д.

**НЕСУСВЕ́ТНІЦА** *ж.* Бязглуздзіца, выдумка. *Нісусьве́тніцу нясе́ць, німа́ ла́ду ў гаво́рцы.* Чэр.

**НЕСЦЯРО́ГА** *ж.* Неасцярожнасць, недагляд. *Ніхто́ ні віна́ваты, што ён зьмёрс, свая́ нісьцяро́га.* Арэх.

**НЕЎВАРО́ТНЫ** *прым.* Няспрытны, непаваротлівы. *Усé даўно́ ко́нчылі склада́ць се́на, а ён капа́йіцца, не́йкі неўваро́тны, ніхлімя́жы.* Маж.

**НЕЎСТУПА́ХА** *м.* і *ж.* Упарты, незгаворлівы чалавек. *Сабра́ліся: адзі́н задзіра́ха, а другі́ ніўступа́ха, вот і пабі́ліся.* Арэх. *Ніўступа́ха ня змо́ўчыць мужыку́.* В.Д.

**НЕЎСХАДЗІ́МЫ** *прым.* Вялікі, непраходны. *Даўне́й тут лясы́ былі́ ніўсхадзі́мыя.* Арэх.

**НЕХАДЖА́ЛЫ** *прым.* Які рэдка прыходзіць куды-н., не бывае дзе-н. *Сваé, а гады́ ў рады́ быва́юць, ніхаджа́лыя яны́ ў нас.* Чэр.

**НЕ́ЦЕЛАК** *м.* Цёлка. *Ле́тась не́цілка прада́лі, а сёліта каро́ву.* Арэх.

**НЕ́ЦЕЛЬ** *ж.* Тое ж. *Не́ціль купі́лі, бу́дзім гадава́ць.* В.Д. *Не́ціль, яшчэ́ не цялі́лася.* Судз.

**НІ́КАЦЬ** *незак.* Хадзіць туды-сюды, шукаючы чаго-н. *Като́к ніка́йіць, хоць малачка́ да́йці яму́.* Кубл. *До́сіць табé нікаць па сялé, пумажы́ во агуро́чкі палі́ць.* Судз.

**НІЧО́ГІ** *прым.* Нядрэнны, нішто сабе. *Каб ня піў, то й ніч́огі быў бы.* Судз. *Нічо́гая няве́стка, ла́дзіць са сьвякро́ўкай.* В.Д.

**НО́ЧЧЫ** *прысл.* Ноччу. *Куды́ вы но́ччы по́йдзіці, пірыначу́йіці ў нас!* Арэх. *Но́ччы маро́с прыкінуўся.* Стар.

**НЫ́ЦЬКА** *м.* і *ж.* Ныцік. *Ня буць ты ны́цькам, чаго́ нюні распуска́еш!* Арэх. *Така́я ны́цька ад ро́ду.* Судз.

**НЯГА́ЗНЫ** *прым.* Прыгожы, спрытны. *Дзе́ўка ніга́зная, няго́ршая за яго́.* Судз.

**НЯГО́** *часц.* Няўжо. *Няго́ йіна́ пае́дзіць зь йім аш у Сібі́р?* Судз.

**НЯЕ́ШЧЫ** *прым.* Пераборлівы ў ежы. *Парсючо́к пупа́ўся няе́шчы, таму́ й худы́.* В.Д.

**НЯІ́МКІ** *прым.* Тупы. *Саўсі́м няйі́мкі нош, хоць бы ты яго́ пайстры́ў.* Судз.

**НЯЗМЕ́РНА** *прысл.* Многа, незлічона. *Людзе́й было́ на аўто́бус нязьме́рна, ду́малі, ня ўле́зім.* Судз.

**НЯМТУ́Р** *м.* Нямко. *Брат яго́ быў нямту́р, нічо́га ня чу́ў і не гавары́ў.* Арэх.

**НЯПЕ́ЎНЫ** *прым.* Неаплоднены (пра яйка). *На со́нца глідзя́ць – пе́ўная я́йка ці няпе́ўная, вывідзі́цца пісклёнак ці не.* Чэр. *Здава́лася, ні было́ няпе́ўных я́йік, а вы́йшла пяць баўтуно́ў.* Арэх.

**НЯПО́ШЛІЦА** *ж.* Слабасць, хвароба. *Каб вас няпо́шліца ўзіла́! Набло́цілі вядро́ дуль.* Чэр. *На каро́ву не́йкая няпо́шліца напа́ла, ня е́сь нічо́га.* Слаб.

**НЯПО́ШЛЫ** *прым.* 1. Слабы, нямоглы, кволы. *Каб йіка́я няпо́шлая, даўно́ б захліпну́лася.* Міх. *Ці йіна́ каро́ву прако́рміць – стара́я, няпо́шлая?* Стар. 2. Худы. *Як прывёз жо́нку, няпо́шлая была́, а цяпе́р растаўсьце́ла.* В.Д.

**НЯЎЗО́РЫШЧА** *м.* і *ж. асудж.* Непрыхільны, непрыязны чалавек. *Ідзе́ць, галаву́ набо́к, на людзе́й ні глядзі́ць, ніпрыве́тная дзе́ўка, няўзо́рышча.* Навас. *Зь лю́дзьмі ні загаво́рыць, такі́ няўзо́рышча.* Слаб.

**НЯЎЛА́Д** *прысл.* Не даспадобы. *І малачка́ занясу́, і агуро́чкаў, а хво́рай усё няўлат.* Арэх.

**ПАБАДЗЯ́ЦЦА** *зак.* Забрудзіцца. *Пабадзя́лася хусцінка́, панясу́ мыць.* Кубл.

**ПАБАДЗЯ́ЦЬ** *зак.* Забрудзіць. *То́лькі што купі́лі ўну́цці вязёначку, а ўжо пабадзя́ла.* Судз.

**ПАБРЫГА́ЦЬ** *зак.* Пабрызгаць (пра дождж). *Які́ гэ́та дошч, то́лькі пабры́гаў.* Арэх.

**ПАБУНТАВА́ЦЬ** *зак.* Паблытаць. *Пабунтава́ла ніткі, цяпе́р разьбіра́й.* Кубл.

**ПАБУШНЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Разлапушыцца (пра агародніну). *Пабушне́лі бурачкі́ пасьля́ дажджу́.* 2. *перан.* Папраўіцца, паспраўнець. *Была́ ху́дзінькая, а цяпе́р пабушне́ла.* Навас.

**ПАБЭ́НЬЧЫЦЬ** *зак.* Пабіць, збіць. *Ня ўсьсі́лю закі́нуць се́на на гару́, а на двара́ яго́ ку́ры пабэ́ньчуць.* Астр.

**ПАВО́ДЧЫК** *м.* Той, хто водзіць каня. *Пабу́дзіш тры дні паво́ччыкам, ба́цьку памо́жаш.* В.Д. *Паво́ччык во́дзіць за по́ват каня́.* Шчарб.

**ПАВУЧЫ́ННЕ** *н.* Павуцінне. *Ужо́ й павучы́ння лётайіць, во́сінь ско́ра.* Маж.

**ПАВЫТЛУ́МЛІВАЦЬ** *зак. безас.* Выбіць з галавы. *Мне ўжо ўсё павытлу́млівала, ня помню́ тых да́ўных пе́сінь.* Навас.

**ПАГА́ЛІЦЦА** *зак.* Паквапіцца, пажадаць займець. *Пага́лілася на бага́цця, а цяпе́р му́чыцца с такі́м мужыко́м.* Арэх. *Пага́ліўся на зямлю́, нінара́ўную ўзяў за́муш.* Судз.

**ПАГА́РЫШЧА** *н.* Пажарышча. *Прыйшлі́ мы з ле́су, а яшчэ́ дымі́лася на пага́рышчы.* Арэх.

**ПАГУКА́ЦЬ** *зак.* Пагаварыць. *Пасядзі́, маладзі́чка, у нас, пагука́й са мной.* Арэх. *Пагука́лі пра дачо́к пра свайі́х.* Маж.

**ПАГУ́РАК** *м.* Узгорак. *На па́гурку до́брая траві́чка, гані́ гусе́й туды́.* Судз.

**ПАДАРО́ЖКА** *ж.* Падарожнік. *Як у грудзёх балі́ць, выпіва́юць падаро́шку. Падаро́шка дро́бнінькая, лі даро́гі расьце́ць, шшы́ўшыся кургана́мі.* В.Д.

**ПАДАРЭ́ШНІК** *м.* Грыб-мачонік. *Прыні́сла ба́бак, машарніко́ў, падарэ́шнікаў.* Арэх. *Намачы́ла кастру́лю падарэ́шнікаў.* Кубл.

**ПАДБАРА́ДАВІК, ПАДБАРА́ДАВІЧ** *м.* Падбародак. *Здаро́вы бы́ў, крэ́пкі, падбара́давік во такі́!* Судз. *На ка́ртаццы ні спазна́ць яго́, падбара́давіч вісі́ць.* Стар.

**ПАДБІРА́НКА** *ж.* Тонкая посцілка, перабіранка. *Вы́ткала тры падбіра́нкі, то́нінькія, прыго́жыя.* В.Д.

**ПАДГА́РКА** *ж.* Прыгарка. *Люблю́ бу́льбу с падга́ркамі.* Арэх.

**ПАДГА́РЫСТЫ** *прым.* 1. Падгарэлы. *Ка́ша падга́рыстая.* Арэх. 2. *перан.* Рудаваты. *Падга́рыстую ша́пачку даццы́ купі́ла.* Судз.

**ПАДГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Загуляць. *Ні́ з дабра́ яны́ разьвялі́ся: ён любі́ў падгуля́ць.* Арэх. 2. Змарыць, знясіліць. *Сьві́нка пана́дзілася ганя́ць курэ́й, адну́ да сьме́рці загу́ляла, а другу́ю падгуля́ла, чуць хо́дзіць.* Міх.

**ПАДГУ́ЦНУЦЬ** *зак.* Падкінуць уверх. *Падгу́цні ты гэ́тага цільпучка́!* Арэх.

**ПАДЖЫ́ЛЫ** *прым.* Пажылы. *Сястру́ былі́ адда́лі за паджы́лага.* Слаб.

**ПАДКАЛЫ́ПА** *м.* і *ж. асудж.* Насмешнік; той, хто любіць сказаць непрыемнае, падкалупнуць. *І ба́цька, і сын – або́два паткалы́пы, сьмяю́цца зь людзе́й.* Арэх. *Век паткалы́па была́.* Маж.

**ПАДКРУ́П'Е** *н.* Малыя крупы. *Паткру́п'я сьвіння́м зварыла.* В.Д. *Малы́я кру́пы – паткру́п'я.* Арэх.

**ПАДЛАВІ́ЦЬ** *зак.* 1. Злавіць, затрымаць. *Дзе вы падлаві́лі гэ́нага зло́дзю?* Арэх. 2. Знянацку застаць. *Хаце́ў яго́ падлаві́ць, ды ня выйшла́.* Шчарб. 3. Украсці, сцягнуць. *Нях́ітрыя мы лю́дзі, у нас скарэ́й што падло́вюць, чым мы ў каго́.* Арэх. *Ніпрыча́сна я к яе́ йіспо́ткам, а хто падлаві́ў – ні зна́ю.* Кубл.

**ПАДЛАВУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Схапіць, сцягнуць. *Хто мае́ бо́ты падлаву́дзіў?* Арэх. *Не́хта падлаву́дзіў гра́блі.* Маж.

**ПАДМАЛАДЗЕ́НЕЦ** *м.* Шафер. *За падмаладзе́нцаў то́лькі кавале́раў з радні́ бра́лі, а жана́тых нямо́жна.* Маж. *У Яго́ра падмаладзе́нцам на вясе́ллі стрые́чны брат бы́ў.* Слаб.

**ПАДМЫ́ШША** *н.* Падпашкі. *За падмы́шша ба́бу бяры́, мо́жа й завядзём як у ба́ню, хай папа́рыцца, кі́ніць хваро́бу на ве́цір.* Судз.

**ПАДНАДО́ЛАК** *м.* Подбіўка. *Паднадо́лак сама́ не падру́біць, а бяжы́ць на віча́рынку.* Арэх.

**ПАДНО́ЖНІК** *м.* Палавік. *Падно́жнікі ў пало́ску ня го́ры за кра́мныя.* Судз. *Шэсь падно́жнікаў выткала сёліта.* В.Д.

**ПАДНУ́КАЦЬ** *зак.* Падагнаць. *Мог бы часце́й маццы́ яку́ю капе́йчыну прысыла́ць, а то напаміна́ць яму́ на́да: ні падну́каў – ні пае́дзіш.* Міх.

**ПАДТО́ПКА** *ж.* Падпал. *Гэ́тыя дро́вы біс патто́пкі ні распа́ліш.* Арэх.

**ПАДУЗО́РНІК** *м.* Прасціна з прышытымі ўнізе карункамі. *Пасла́ла падузо́рнік, а наве́рх пакрыва́ла.* В.Д.

**ПАДУ́ЧКА** *ж.* Эпілепсія. *Паду́чка ў яго́ была́: брык! – і заваліўся ў пясо́к.* Арэх. *С паду́чкі памёр.* Чэр.

**ПАДЦЁЛАК** *м.* Невялікая цялушка, парэзімак. *На фе́рмі трыццаць патцёлкаў.* Арэх.

**ПАД'ЯЛДЫ́КА** *м.* і *ж.* Той, хто любіць насміхацца, кпіць з іншых. *Схава́й свой язы́к, пад'ялды́ка!* Арэх.

**ПАЗАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Змёрзнуць, азалець. *Цэ́лы дзень дошч, пазале́лі мы на па́сьці.* Арэх. *Ру́кі пазале́лі, ні магу́ ху́стку разьвіза́ць.* В.Д.

**ПАЗАЦІНА́ЦЬ** *зак. безас.* Пазбавіць магчымасці. *На віча́рынцы ма́льцы пабілі́ся, а цяпе́р на суд йіх вызыва́юць, дык бая́цца, аш е́сьці йім пазаціна́ла.* Судз.

**ПАЗЕ́МКІ** *мн. бат.* Суніцы. *Хадзіла ў я́гады, назьбіра́ла гарну́шак азе́мак.* Арэх. *Пазе́мкі пасьпе́лі.* Судз.

**ПАЗО́РНЫ** *прым.* 1. Відны, прыгожы. *Пазо́рная дзе́ўка, усе́ ма́льцы за ей.* Арэх. *Дачка́ на́ша пазо́рная, сукры́стая, ла́дная.* Слаб. 2. Аўтарытэтны. *Ня ду́жа пазо́рная яе́ рабо́та: вучы́цца ні паступіла, по́шту но́сіць.*Арэх.

**ПА́ЙКА** *ж.* Выдзелены ўчастак сенажаці. *Па́йка ля ста́рыцы, до́брая трава́, с клівярко́м.* Судз.

**ПАКАТО́** *н.* Кола. *Пакато́ ў во́зі злама́лася.* Арэх. *Каці́лася пакато́, жаніўся, ма́льцы, харашо́ ( песні).* Чэр.

**ПАКО́ЛАК** *м.* Невялікая палка. *Запусьціў па куры́цы пако́лкам.* Арэх. *Пазьбіра́й на двары́ пако́лкі.* Судз.

**ПАКО́МКАНЫ** *дзеепрым.* Змяты, пакамечаны. *Адзе́жа пако́мканая, на́да пагла́дзіць.* Арэх. *Ня йдзі ў пако́мканай спадні́цы.* Судз.

**ПАКО́МКАЦЬ** *зак.* Змяць, пакамечыць. *То́лькі пако́мкаць уме́йіш, а гла́дзіць ня хо́чыш.* Стар. *Ху́стку пако́мкала.* Слаб.

**ПАЛЕ́ПШАЦЬ** *зак.* 1. Стаць лепшым. *Тро́хі пале́пшаў яе́ мужы́к, ня п'ець, як ране́й.* 2. Ачуняць, выздаравець. *Захварэ́ць лёхка, а пале́пшаць цяжэ́й.*Судз. *Ні пале́пшала сьвякро́ўка, усё хварэ́йіць.* Астр.

**ПАЛЯВІ́К** *м.* Палявод. *Ня ро́біла я на фе́рмі, усё палявіко́м была́.* Навас. *Шта́тнікі ў нас бо́лі зарабля́юць, чым палявікі.* Слаб.

**ПАЛЯГЧЫ́ЦЦА** *зак.* Зняць верхняе адзенне, распрануцца. *Паляхчы́ціся, го́сьцікі, во́ сюды́ по́льты ве́шайці.* Судз.

**ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Паля́дзі ўну́каў.* Арэх. *Ні палядзе́ў на нас, пабе́х.* Астр.

**ПАМАСНІ́ЦА** *ж.* Дошка падлогі. *Памасьні́ца згніла́.* Судз.

**ПАМЯША́ННЕ** *н.* Страта розуму. *У галаве́ ў яе́, му́сіць, паміша́ння: у сва́та была́, а к нам і не зайшла́ся.* Судз. *Не́йкая паміша́ння ў ба́бы: гэта ні па яе́, то́я ні па яе́.* В.Д.

**ПАНАРА́ВІЦЬ** *зак.* Упадабаць. *Так ён на́шу дачку́ панара́віў, свато́ў прысла́ў.* Арэх. *Панара́віла гэтага ма́льца.* Судз.

**ПАНАРУГА́ЦЦА** *зак.* Доўгі час рабіць насуперак, назло. *І мой мужы́к лю́біць панаруга́цца, ня ле́пі за твайго!* Арэх. *Панаруга́йся мне! Дзя́гі да́м!* Шчарб.

**ПАПЕ́РВАСЦІ** *прысл.* Спачатку. *Папе́рвасьці ду́малі ў Міха́лкаўшчыні ста́віць ха́ту, а по́сьлі рашы́лі ў До́льцах: малы́м бліжэ́й у шко́лу.* В.Д. *Папе́рвасьці ні хаце́ла ча́ю піць, а тады́ прывы́кла.* Судз.

**ПАПІХА́ШКА** *м.* і *ж. зневаж.* Бездапаможны, бязвольны чалавек, якім панукаюць, якога ўсюды "піхаюць"; папіхач. *Які́ гэ́та брыгадзі́р, папіха́шка не́йкая: што старшына́ ска́жыць – то́лькі то́я й ро́біць.* Слаб. *Кама́ндувайіць мужыко́м, а ён – як папіха́шка: на пахаду́шках у яе́, усю́дых яго́ ганя́йіць.* Маж.

**ПАПУ́ТНІК** *м.* Спадарожнік. *Папу́тнік найшо́ўся ей, да са́мага ме́ста давёс, ні прапа́ла ў сьве́ці.* Слаб.

**ПАРА́ДАШНЫ** *прым.* Даволі вялікі. *Ужо́ пара́дашная дачка́, у пя́тым кла́сі.* Арэх.

**ПАСА́ГА** *ж.* Пасаг. *Мне ў паса́гу ба́цька даў гро́шы й цялу́шку.* Маж. *Быва́ла, апасьледнія ў паса́гу аддава́лі.* Навас.

**ПАСАСІ́ЦЬ** *зак.* Пакарміць дзіця грудзьмі. *Пасо́сіць ма́льчыка, і ён сьпіць, спако́йны дзяцёнак.* Судз.

**ПАСКІПА́ЦЬ** *зак.* Пашчапаць. *Паскіпа́й гэ́ны дро́вы.* Маж. *Паскіпа́ла пале́на на лучы́ну.* Арэх.

**ПАСПАСІ́БАВАЦЬ** *зак.* Падзякаваць. *Паспасі́буй, уну́чка, за ду́лінку.* Арэх. *Ці паспасі́бавалі Мі́шку, што прывёз вас?* Судз.

**ПАСПО́РАВАЦЬ** *зак.* Паспрачацца. *Паспо́рывалі, хто пе́ршы ско́сіць сваю́ па́йку се́на.* Арэх. *Паспо́рывалі і ня мі́рацца нія́к.* Астр.

**ПАСПРАЎНЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Стаць больш спраўным, пакруглець. *Паспраўне́ла яе́ няве́стка, а была ш така́я ху́дзінькая.* Судз. 2. Ачуняць пасля хваробы, паздаравець. *Пабы́ў у бальніцы і паспраўне́ў Пятро́к, вы́лечылі яго́.* Арэх.

**ПАСТАЦЯ́НКА** *ж.* Жняя, якая займае постаць – палоску збожыны. *На́шы пастаця́нкі да ве́чара жнуць.* Арэх. *Пастаця́нкі стамі́ліся.* Маж.

**ПАСЯЛЕ́НЬ** *м.* і *ж. асудж.* Той, хто без справы ходзіць па сяле. *Як зіма́ – так і пайшлі́ па сялу́: хай йіна́, ба́ба, а то й Ахрэм ні атстае́ць, до́бры й ён пасяле́нь.* В.Д. *Ці ў яе́ до́ма рабо́тачкі німа́, хо́дзіць па ха́тах, пасяле́нь ба́ба.* Арэх.

**ПАСЯЛУ́ХА** *ж.* Тое ж. *Мно́га такі́х пасялу́х.* Кубл.

**ПАСЯЛЬНЫ́** *м.* і *ж.* Тое ж. *Во, ужо́ пайшо́ў пасяльны́, цяпе́р то́лькі к ве́чару ве́рніцца.* Арэх. *Мне не́калі, а гэта пасільна́я сядзі́ць і сядзі́ць!* Стар. *На тым пасёлку – адны́ пасяльны́я: цiга́юцца па ха́тах, плёткі зьбіра́юць.* В.Д.

**ПАСЯЛЬНІ́ЦА** *ж.* Тое ж. *У людзе́й то́лькі й сядзі́ць пасяльні́ца гэ́та.* Астр.

**ПАСЯЛЬНІЧЫ** *м.* і *ж.* Тое ж. *Гультай, пасяльнічая, ходзіць бязь дзела, а ячмень стаіць.* Маж. *Я гэтым пасяльнічым скора есьці ня буду даваць.* Арэх. *Дзе ходзіць той пасяльнічы?* Шчарб.

**ПАСЯЛЬНЯ** *ж.* Тое ж. *Пасільня знайшлася! Лепі б дома ўсё глядзела.* Міх. *Ты, пасільня, цэлы вечар на сяле праседзіла, а што б звізаць сабе вязёначку?* Судз.

**ПАТРУДЗІЦЦА** *зак.* Памучыцца. *Патрудзілася маладзіца, улогам ліжала.* Арэх. *Ваш дзет патрудзіўся, ні дай бох такая хвароба.* Астр.

**ПАТРУДЗІЦЬ** *зак.* Памучыць. *Хваліўся Ляксей: я яе патруджу, а цяпер сам трудзіцца, што за другога замуш пайшла.* Міх.

**ПАЎДЗЁН** *м.* Поўдзень. *У паўдзён панясу малако здаваць.* Арэх. *Кароў у паўдзён прыганяюць.* Судз.

**ПАЎХІР** *м.* 1. Пухір. *На руцэ паўхіры паўскоквалі.* Астр. 2. *перан.* Слабое, хваравітое дзіця. *Нідалужны дзяцёнак, худзінькі, слабінькі, паўхір.* Маж.

**ПАЎЦАГЕЛАК** *м.* Палавіна цагліны. *Чаго тут паўцагелак валяйіцца?* Шчарб. *Зьбяры паўцагелкі.* Стар.

**ПАЎШАБЭЛАК** *м.* *зневаж.* Падлетак, нясталы, несамастойны. *Ужо парадашны, рослы, а розум дзяціны, паўшабэлак яшчэ, а ні маліц.* Навас. *Ні самастаяцільны ён, паўшабэлак, ні дарос да мальца.* Кубл.

**ПАЧАССЕ** *н.* 1. Рэшткі, адыходы пры часанні лёну. *Другі рас чэшуць, выходзіць пачасся.* 2. Палатно з пачасся. *С пачасся сінікі шылі, с хужэйшага палатна.* В.Д.

**ПАЧАСЬ** *ж.* Тое ж. *Пачась на сянік йішла.* В.Д.

**ПАЧОПКА** *ж.* Вяровачка, за якую чапляюць што-н.; почапка. *Пачопка слабая, кашолка можыць атарвацца.* Арэх. *Зьнімай пальто, пачопка парвалася.* Чэр.

**ПАЧОТНЫ** *прым.* Паважаны, аўтарытэтны. *Даўней якую дзеўку бацькі прывязуць мальцу, тую й бярэць, а цяпер глідзяць, ці красівая, ці пачотная.* Арэх. *Уся сім'я пачотная: сыны выўчыліся, настаўнікамі робяць, дачка-бугалцір.* Судз.

**ПАЧУНЕЦЬ** *зак.* Паправіцца, папаўнець. *Казалі, лоўкую дзяўчынку Прося радзіла, і сама пачунела, а то дужа худая была.* Судз.

**ПАШЛЯПЕНЬ** *м.* і *ж.* *неадабр.* Маруда. *Усё шлёпайісся ты, пашляпень, усе ўжо даўно на рабоці.* Кубл. *Нейкі пашляпень.* Арэх.

**ПЕНЬ**[1] *м.* Пень. *Павыразалі дубы, адны пні асталіся.* Арэх. 2. *перан.* Неразумны чалавек. *Пень ён, нічога ні даходзіць да яго.* Судз.

**ПЕНЬ**[2] *м.* Адростак пяра пасля лінькі птушкі. *Вясной у курэй адны пні тырчаць, пер'я німа.* Арэх.

**ПЕРАБАРАЗНІЦЬ** *зак.* Перашкодзіць, перапыніць. *Во перабаразьніў нам гаворку.* Арэх. *Перабаразьнілі яму, ні паехаў у горат.* Стар.

**ПЕРАБОЙКА** *ж.* Перагародка. *Пірабойку ў хаці зробілі з дошак.* Арэх. *Дачка сьпіць за пірабойкай.* Маж.

**ПЕРАДОМ** *прысл., прыназ.* Уперадзе, паперадзе. *Пірадом пайшоў, усіх абагнаў.* Судз. *Такі рыхлы, бяжыць пірадом усіх.* Слаб.

**ПЕРАЖАРГНУЦЬ** *зак.* Пераступіць праз што-н. *Пiражаргнуў крапіву і пайшоў.* Арэх.

**ПЕ́РАК** *прысл., прыназ.* Упоперак. *Стаў яму́ пе́рак даро́гі.* Стар. *Пе́рак забаранава́лі.* Арэх. *Пе́рак га́нка па́лка ліжа́ла.* Шчарб.

**ПЕРАЛІЦКАВА́ЦЬ** *зак.* Перашыць, перавярнуўшы тканіну на другі бок. *Кап тваё пальто́ пераліцкава́ў, было́ п і к нале́ццю до́бра.* Арэх.

**ПЕРАНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Сустрэць. *Калі дзе́ці ні вялі́ся, то каго́ на даро́зі піраймýць, таго́ й бра́лі за ма́тку хро́сную.* Арэх. *Бяжы́ ма́мку піраймі́, ву́ньдзіка йдзе́ць!* Кубл. 2. Забегчы наперад, спыніць. *Піраймі ко́ній, а то ў авёс уско́чуць.* Арэх. 3. Засвоіць, запомніць што-н. *Уну́к усё піраня́ў, што мы гаварылі, ву́чыцца сам гавары́ць.* Стар.

**ПЕРАСПО́РАВАЦЬ** *зак.* Перамагчы ў спрэчцы. *Завяліся былі́, дык Андрэй пераспо́рываў усі́х, па яго́ вы́йшла.* Арэх.

**ПЕРАТРУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Змучыцца, спакутаваць. *Пературудзі́лася дзяўчы́нка, агнём гарэ́ла ўся.* Стар.

**ПЕ́ЎНЫ** *прым.* Аплоднены (пра яйка). *Яйцо́ пе́ўная, зь яго́ вы́відзіцца ціплёнак.* Чэр. *На со́нца глідзя́ць: пе́ўная яйцо́ ці няпе́ўная, а тады́ кладу́ць пат куры́цу.* Слаб. *Здава́лася, што ўсе я́йкі пе́ўныя, а было́ пяць баўтуно́ў.* Навас.

**ПЕЧЫВО́** *н.* Печава. *У нас сваё півацо́, у магазіне хлеп ні бяро́м.* Судз. *Мо́жа ва́ша ба́пка сваё пічаво́ лю́біць? Дык мы прынясём.* В.Д.

*К.Ф. Руц*

# З ЛЕКСІКІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ БЕРАЖНОЕ СТОЛІНСКАГА РАЁНА

Вёска Беражное Столінскага раёна Брэсцкай вобласці размешчана за 14 км ад раённага цэнтра, амаль у цэнтры беларускага Палесся. Першае ўпамінанне пра вёску адносіцца да XVI стагоддзя. Яна належала дынастыі паноў Алешаў (знаходзіцца сядзібна-паркавы ансамбль з маёнткам паноў, а таксама помнікам). Вёску заснавалі перасяленцы з-пад Брэста. Мясцовыя жыхары называюць сваю вёску "Б·эрэжнэ". Маўленне жыхароў адносіцца да брэсцка-пінскіх гаворак і вылучаецца як беражкоўскі тып гаворкі. Для абазначэння паўмяккасці ўжываецца знак [·] пасля зычнага.

**БЛЯ́ХА** *ж.* Жалезная пасудзіна для выпечкі пірагоў, пячэння і інш. *Шоб получывса хвайны пірог, трэба, п·ерш-нап·ерш, бляху добрэ маслом намазать.*

**БОХІ́КАТЬ** *незак.* Моцна кашляць. *То ты вжэ, хлопчэ, бохікать начав, н·эді вжэ подхват·ыв хворобу.*

**БРА́НКА** *ж.* Цёплая зімовая кофта. *Будеш іті, бранку под кожуха одевай: на вуліцы мороз градусоў двацցать.*

**БРО́МА** *ж.* Вялікія вароты. *Ось летося каля хаты загороділіс дэй брому новую поставілі.*

**БРО́ХНУТЬ** *зак.* Праваліцца пад лёд. *Ехаў Васё на коньках, да як брохне под лёд!*

**БУ́НЬКА** *ж.* Пухір. *На днях дотронуўса до гарочоі трубы, а сёння зранку бунька на руцэ вылезла.*

**БУ́СЬКО** *м.* Бусел. *От, гледіш, вжэ й бусько полетеў. Зарэ вжэ й зіма прыде.*

**БЭГО́М** *прысл.* Бягом. – *Йді батьку поможы.* – *Зарэ ось.* – *Бэгом – я сказала!*

**ВІЛКІ́** *мн.* Вілы. *Трэп з'ездіць ў лес тронка на вілкі погледеть.*

**ВОДВЕ́ТКІ** *мн.* Адведкі. *У Марыі в водветках була, дітя ўсе на батька похожэ.*

**ВЫ́ШКА** *мн.* Насціл пад страхой з бярвенняў. *Сена на вышка можэ тры тоны наложылі, аж і на той год хватіть.*

**ГОРА́** *ж.* Гарышча. *На горэ ў старой хаті я в·эрэтяно нашоў.*

**ГРУ́БА** *ж.* Грубка. *От потеплее да трэба буде грубы порозб·івать да почыстіть от сажы.*

**ГЭ́ТТЫ** *прысл.* Тут. *Гэтты, коле староі бані будуть соткі ў нас ў гэтом году.*

**ДЕДІ́СЬКО** *м.* Малады хлопец, які забаўляецца з дзецьмі. *Ух, гэты дедісько! А вон з детьмі малымі грае!*

**ДЖУР** *м.* Жур. *Поеўшы джуру, попіўшы кіселю, можна було і соломіну з-под скатерті тянуть.*

**ДРАБІ́НЫ** *мн.* Драбіна. *Корову продалі – і драбіны на вышка погнілі.*

**ДУРЭ́ТЬ** *незак.* Дурэць, балавацца. *Годі дурэть, зарэ пойду Коля з рэмнём позову.*

**ЖОНО́ЧЫНА** *н.* Жанчына. *Ў нас у селе одна оно жоночына добрэ од зляку шэпчэ.*

**ЗА́ЗУБЭЦ** *м.* Рыбалоўны кручок. *Сежу ўпотемках. Чую – як дёўбане. Я до себэ оп – і зазубца н·эма.*

**ЗАПЫТА́ТЬ** *зак.* Паспытаць. *Дайте, пожалуста, запытать вашой капусточкі, бо мою ўсю дошч замочыў.*

**КАДО́ЎБ** *м.* Выдаўбаная бочка. *Ну, на следуюшчы год буде хвайны ўрожай: поўные кадоўба зерна лежыть у хлевах.*

**КЛЕ́ЧКО** *м.* Бусел. *Зарэ вжэ й зіма прыде, клечко полетеў.*

**КІЁК** *м.* Палка. *Зьмі кійка да розгрэб·і вуглі, мо ўжэ бульба спэкласа.*

**КОЖУ́ШОК** *м.* Шчупак. *Ходіў на Струмэнь, спінінгом кідаў, толькі тры кожушкі злов·ыв.*

**КО́ЛІСЬ** *прысл.* Калісьці, даўно. *Зарэ вжэ сено тюкують, не так як колісь: трэба було самому грэбті.*

**КОЛО́ДЕЗЬ** *м.* Калодзеж. *После моцных дожджоў у юлі ў колодесі вода несмачная стала.*

**КОЦ** *ж.* Коўдра. *Ноччу жарко ж було, а я забыласа покрывало достать да такі проспала ўсю ноч под коцу. А ўрано проснуласа, то аж сем потоў зышло.*

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Бульбяны суп. *Сашо, ходем есці, бо крышаны похолодае.*

**ЛЁНДРЫК** *м.* Макацёр. *Як захочэш есці, то там на полцы возьмі пару пам·ідороў, пару гуркоў, пару бульбін з лёндрыка, сало ў холодільніку і молока поп'еш.*

**ЛЮ́ДЕНЬКІ** *мн., памянш.* Людзі. *Люденькі-люденькі! На кого вон похожы!*

**МЛІНЕ́Ц** *м.* Блін. *Млінцы з маслом ці з варэннем – о гэто смакота!*

**НАБРО́ХАЦЦА** *зак.* Намачыцца. *Бач ты на яго: пошоў на бэрэх, наброхаўса – і прышоў.*

**НЕЎЖЭ́Ш** *прысл.* Няўжо. – *А чого ты? – Бо неўжэш, у вочы аж лезе!*

**ОБО́РА** *ж.* Вялікі хлеў. *Учора на нарадi прэдседатель казаў, шо обору нову буде строіть.*

**ОДМАНТІ́ТІ** *зак.* Намянташыць. *М·ыкола косу так одмантіў, шо лезвіе рэжэ.*

**ПА́ТЕЖ** *ж.* Прамывіна ў лёдзе на стрыжні ракі. *На Румі* (частка ракі Гарыні) *багато патежей.*

**ПЛЯ́ШКА** *ж.* Бутэлька. *Будеш на в·эчоркі йті, возьмі пляшку молока прынесі.*

**ПОКАЛЯ́ТЬ** *зак.* Забрудзіць, запэцкаць. *Гэто ш колі после дождджу гэтой вуліцой пойдеш, то ўсе ногі по колена покалять можна.*

**ПУ́ЛЯ-ПУ́ЛЯ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць куранят. *Пуля-пуля, пулечкі. Йдіте есці.*

**СВІ́НТУС** *м.* Неахайны чалавек. *Ух, гэты свінтус, і за столом нормально поседеть не можэ.*

**СВЯТО́К** *м.* Свята. *До святка трэ було вжэ і капусту ў лёх сховать.*

**СЕДРО́** *н.* Задняя частка штаноў. *Ув·эчэры одеў новые штаны, сеў на лаўку – і седро об гвоздзік порваў.*

**СКО́ПЭЦ** *м.* Капец. *Летось у скопцы ўся бульба пом·эрзла.*

**СТЫДО́ТЬТЕ** *н.* Вялікі сорам. *Екэ стыдотьте! Шо ш ты наробыв·!*

**СЦЁПКА** *ж.* Кладоўка. *Трэба ш пойті да сцёпку наноч закрыть, бо шэ хто ўлезе.*

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *– Гэта хата тутака. – Де? – Ось тут де батюшко жыў.*

**УТЕРЭ́Б·ІЦЦА** *зак.* Узлесці, застацца. *Як гэто мне ўтерэб·іцца на воз, я ш така стара.*

**ХОЛОД·Э́Ц** *м.* Студзень. *На святок холодцу зроблю, котлетоў нажару, колбасы куплю – і ўсе.*

**ЦЫМБА́ЛКА** *ж.* Самаробная цыгарка. *Ось Фэдор узяў цымбалку ў губы й некуды выйшоў.*

**ШВЭД** *м.* Доўгая палоска сала. *На ранок еешні со швэдамі поелі.*

**ШО: ШО РУБЛЁМ ПРЫВЯЗАНЫ.** Моцна замацаваны. *Гэтэ сено й топтать не трэп, воно і так шо рублём прывязанэ.*

**ШЫТЬ: НЕ ШЫЕ ТО ПОРЭ.** Пра непаседу. *Гэты ж Сережа такі врэдны. Усе врэмя не шые то порэ.*

**ЮЛЬ** *м.* Ліпень. *У юлі начынаецца другі покос сена.*

*І.Ю. Смірнова*

# ТКАЦТВА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЭТНАДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

У апошнія гады ў свет выйшла багата слоўнікаў, падрыхтаваных даследчыкамі традыцыйнай народнай культуры, прысвечаных розным аспектам народнай традыцыі: мове фальклора, міфалагічнымм персанажам, народнаму календару, абрадам і вераванням і да т.п. Высока адзначаны і добра вядомы даследчыкам найбольш значныя беларускія слоўнікі, такія як тэматычны слоўнік "Жывёльны свет" і дыялектны "Тураўскі слоўнік".

Слоўнік з'яўляецца найбольш эфектыўным і кампактным спосабам сістэматызацыі атрыманых даных аб прадмеце вывучэння, у дадзеным выпадку аб ткацтве Гродзеншчыны. У прапануемым матэрыяле абагульнены вынікі этнаграфічных даследаванняў лабараторыі традыцыйнага мастацтва БелДІПК 1999 – 2003 гг., якія праводзіліся ў рамках даследчай тэмы "Сучасны стан традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў. Гродзенскае Панямонне" [1] . Матэрыял не прэтэндуе на поўнае раскрыццё азначанай тэмы. Мэтай складання слоўніка з'яўляецца паданне найбольш поўных звестак аб асаблівасцях тэхналагічнага і творчага працэсу вырабу тканін, іх класіфікацыі. Разам з тым сродкам дасягнення мэты з'яўляецца шырокае выкарыстанне ўзораў з жывой моўнай практыкі носьбітаў традыцый, што адлюстроўвае лінгвістычны аспект слоўніка. Такім чынам, прапануемы слоўнік можна вызначыць як этналінгвістычны. Комплексная падача матэрыялу як лінгвістычнага, так і этнаграфічнага, з'яўляецца сродкам найбольш выразнага і поўнага асвятлення тэмы ткацтва.

Артыкулы размешчаны па прадметна-тэматычнам прынцыпе. У кожным з тэматычных блокаў артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку.

## I. АПРАЦОЎКА СЫРАВІНЫ І ПРАДЗЕННЕ

### 1. Лён

Назвы працэсаў апрацоўкі льнянога валакна: браць (рваць) лён, слаць лён, церці лен, трапаць, часаць, прасці.

**ВАЛ** – льняное валакно дрэннага гатунку. (Зэльвенскі р-н, 6).

**ЗРЭ́Б'Е, ЗРЭ́БНІНКА, ЗРЭ́М'Е, ЗРЭ́МНІНА,** – самы нізкі гатунак льнянога валакна, ніткі і тканіна з іх, З. валакно атрымлівалі пры першым часанні, прадзенае З. выкарыстоўвалі для ткацтва вельмі грубага палатна, віцця вяровак. "Зрэбнае" палатно фарбавалі ў цёмны колер (з натуральных фарбавальнікаў выкарыстоўвалі шалупінне цыбулі, валошкі, дубовую і асінавую

[1] Для слоўніка выкарыстаны матэрыялы, сабраныя аўтарам артыкула, архіў БелДІПК.

кару), шылі паўсядзённыя спадніцы і мужчынскія штаны. "*Зрэмніна*" (Ваўкавыскі р-н, 2); "*Зрэбнінка – гэта ўжо танчэйшыя, мяшкі і штаны пад-іспод мужчынам шылі з зрэбнінкі*" (Ваўкавыскі р-н 4); "*Называлі "на мяхі", зрэб'е*" (Смаргонскі р-н, 3); "*Лён мнём, тады чэшам на жалезны грэбень – зрэб'е" (Смаргонскі р-н, 3); "І сяннікі рабілі, зрэбніна зверху*". (Ашмянскі р-н, 5); "*Нужна каб было тых простыняў хоць анна ці дзве, то ж былі самадзельныя, зрэбныя, бо то з клоча*" (Ваўкавыскі р-н, 5); "*Перш ткалі зрэб'е, затым лён, а потым воўну*" (Дзятлаўскі р-н, 10); "*Кужаль – тонкае, грубее – зрэбій, на мяшкі, мешкавіна*" (Свіслацкі р-н, 1).

**КАРОСТА** – льняное валакно дрэннага гатунку, яго пралі, ткалі грубае палатно (на ўціральнікі, посцілкі, на мяхі). (Зэльвенскі р-н, 5).

**КАСТРА, КАСТРЫЦА** – цвёрдая частка льняной сцяблінь. "*Лён чэшуць, а самыя атходы, горшае, с кастрыцаю – эта называлася радняніца, вал*" (Свіслацкі р-н, 1).

**КЛОЧЧА –** ачосы льна, самае грубае. З "клочча" пралі самыя грубыя ніткі, ткалі "чынаваціну", палатно на мяхі. "*А што часалі лён – эта ўжо горшае, клочча. Клочча – самае грубае, ткалі чынаваціну, мяшкі ткалі, картошку сыпаць гэдак*" (Ваўкавыскі р-н, 4); "*Нужна каб было тых простыняў хоць анна ці дзве, то ж былі самадзельныя, зрэбныя, бо то з клоча*" (Ваўкавыскі р-н, 1);"*Расчасалі, лен адабралі, ткуць кужаль, а тую пакуль, эта клочча, прынялі ў кудзелі, і ўжо пралі, і ткалі таўшчэйшае, і што–нібудь горша і шылі ганавіцы, наверх, да работы*" (Мастоўскі р-н, 7).

**КУДЗЕЛЯ** – вычасанае льняное валакно, а таксама валакно ніжэйшага, чым кужаль, гатунку. "*Кудзеля бывае – я яшчэ вытрасала з яго кастру, і прялі, і ткалі з яе мяшкі, і дарожкі ткалі, гэта – з-пад грэбеня*" (Смаргонскі р-н, 1); "*Двенаццаць–трынаццаць лет было, далі кудзелі, такое валакно харошае. І такі ж быў розум, нада ж табе эта спрасці, а ў мяне была такая падруга, што мы як вечар, вынясем эту кудзелю і выкінем, не хацелі (прасць)*" (Смаргонскі р-н, 4).

**КУЖАЛЬ, КУЖЭЛЬНЫЯ, КУЖОЛЬНЫЯ**– льняное валакно, тонкія льняныя ніткі і палатно з іх. "*А гэта тоненькае, ткалі тоненька – на настольнікі, на палаценца. Гэта кужэльнае палатно*"(*Смаргонскі р-н, 1); «А тады часалі на шчэтку, тут ручка такая засмаленая. Эта кужаль» (Смаргонскі р-н, 3); "Лён-та ўжо бальшанство пралі на сарочкі, танчэйшае, часалі – шчоткі такія былі, адна гушчэйшая. А кужаль – гэта ўжо на сарочкі*" (Ваўкавыскі р-н, 4); "*Ручнікі свае работы былі, – кужолныя, танчэйшыя, ткалася ўжо ў ёлачку, у 4 нічальніцы – як уціраціа, а як то і ў пяць (нічальніц)*" (Ваўкавыскі р-н, 4); "*Як ішла замуж дзяўчына, гэта на маёй памяці, так падаркі давалі – усё гэтыя кужолныя ляны*" (Зэльвенскі р-н).

**ЛЁН** – расліна і сыравіна на розных этапах апрацоўкі. "*Лён сеялі мужчыны, канечне. Была такая сявенка через плячо. А бабы ірвалі яго, і слалі, мачылі, і цёрлі, трапалі, часалі лён, чаго толькі не рабілі! Дзякуй Богу, што няма цяперака*" (Мастоўскі р-н, 7); "*Лён вырвуць, ён выляжыцца на сцелішчы, затым сушаць трасту, труць, чэшуць і затым зімой прадуць і цэлую зіму прадуць. Пралі на вячорках дзяўчаты, а вясною пачыналі ткаць*" (Дзятлаўскі р-н, 2); "*Мы самі сеялі свой лён, абівалі, расцілалі, он вылежываўся, патом у баню, сушыць, мяць,*

*трапа́ць носяць"* (Ашмянскі р-н, 4); *"З лену гэта найбольшая работа была. Трэба было яго і сабраць, і паслаць, потым падабра́ць і высушыць, і памяць і атрапа́ць, і спрасці. І тады ткаць"* (Ашмянскі р-н, 8); *"А лен часалі на грэбень дзеравянны, тады часалі на жалезны, тады на шчотку"* (Ашмянскі р-н, 7).

**ЛЁН, апрацоўка** – *"Лён усё палолі, патом рва́лі, вяза́лі ў неба́льшэнькія снапочкі, ста́вілі, тады сла́лі рядамі, ляжыць, гле́дзячы, якая раса́ – як сухія раніцы, нада каб даўжэй. Бралі яго і глядзелі, цёрлі – як кастра́ атсыпа́ецца, так снімаць пара – у баню, сушылі. Мя́лі ў мя́ліцы ў бані, як пагода – на вуліцы. Трапа́чкай яго білі, выбіва́лі кастру́. Тады на грэбень часалі"* (Смаргонскі р-н, 1); *"Лён сеялі, рвалі, патом слалі, штоб он вылежываўся, мялі такімі мяліцамі, трапалі кастру, патом часалі, і цэлую зіму пралі, а патом вясной ужэ ткалі"* (Смаргонскі р-н, 4).

**МЯ́ЛІЦА** – прыстасаванне для апрацоўкі льну. *"Мя́лі ў мя́ліцы лён, у бані, як пагода – на ву́ліцы. Як стануць мяць бабы – так пылішча!!!"* (Смаргонскі р-н, 1); *"Лён мя́лі мя́ліцаю"* (Смаргонскі р-н, 3).

**ПА́КУЛЬ, ПА́КЛЯ** – грубае льняное валакно. Пралі, выкарыстоўвалі для вязання, ткацтва грубага палатна. *"Наскі, з шэрсці (вязалі), а ў каго няма – з пакуля, з пакулаў, з лёну..."* (Мастоўскі р-н, 6); "Паку́ль" (Зэльвенскі р-н).

**ПА́КУЛЫ** – грубае льняное валакно, ніткі і палатно. *"Анучы з пакулаў якіх. З пакулаў ткалі воркі, тоўстую, на мяшкі, на анучы"* (Ашмянскі р-н, 2); *"А мяне па́кулы садзілі прасць, гадоў у сем, яшчэ ў школу не хадзіла. Дала мне мама пакулы, а я расцягваю-расцягваю, а тэй калаўрот круціцца, а я не ўпраўляюся, і такая, знаеце, нероўная нітка палучаецца"* (Ашмянскі р-н, 2); *"А на воркі пралі па́кулы. Пакулы пралі, і з этых нітак ткалі на воркі"* (Ашмянскі р-н, 7); *"Пашыць пінжак, як на зіму, то трэба каб пад сподам пакулы, як цяпер куфа́йка. Па́кулы падклада́лі "* (Ашмянскі р-н, 10); *"Як паглядзі́ць, што я праду́ э́та ху́дшае, па́кля, так ён пале́зе на чарда́к: "Што ты дала́, каб дзіця́ ру́кі прыпрада́ло!"* (Свіслацкі р-н, 1).

**ПА́ЧЭСІ** – тонкае льняное валакно, тое самае, што "кужаль". *"Лён мнём, тады чэ́шам на жалезны грэбень, тады на другі – гэта па́чэсі, мякенькае і тоненькае"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Пачэсі"* (Зэльвенскі р-н, 5); *"Можна тонкія выпрасці нітачкі, як ткалі, то патыкалі імі"* (Ашмянскі р-н, 2).

**РАДНЯ́НІЦА, ВАЛ** – грубае льняное валакно, ніткі і палатно. *"Радня́ніца называлі, вал – это самое худшее, атходы. Лён чэ́шуць, а самыя атходы, го́ршае, с кастры́цаю – эта называлася радня́ніца, вал. Дажа не на мешкі, а на дарожкі"* (Свіслацкі р-н, 1).

**ТРАПА́ЧКА** – прыстасаванне для трапання льну. *"Трапа́чкі – трапа́чкай лён білі, выбіва́лі кастру́. А лен трапалі трапа́чкай, тады часалі на грэбень дзеравянны"* (Ашмянскі р-н, 7).

**ШЧО́ТКА** – прылада для расчэсвання льняной кудзелі, шчотка са свінной шчаціны. (Смаргонскі р-н, 1).

**2. Воўна**

Этапы апрацоўкі воўны: стрыгчы, мыць, драць, часаць, прасці.

**ШЭРСЦЬ** – воўна. “*Вясення воўна – так яна доўга, з яе ўсё, што хацелі, а асеннюю – ужо нейкія былі, што білі гэтыя валёнкі*” (Ваўкавыскі р-н, 5); “*Шэрсць абычно ўсё самі пралі. Калісці я ўмела, але тако я не напраду тёнко*” (Ваўкавыскі р-н, 7).

**ВАЛІЦЬ ВОЎНУ** – “*А мужыкі самі змочвалі. Мама яшчэ змоча вадой, і тады валком, качалкой качае, на стале, валок зрабіўшы, і качалі, зьбівалі, папырскаюць гарачай вадой*” (Ашмянскі р-н, 1).

**ВАЛЬЦЫ** – сукнавальня. “*Аддавалі. Не знаю, дзе ў нас вальцы былі. На бурносы гэтыя, на марынаркі, на пінжакі гэтыя шарсцяныя*” (Ашмянскі р-н, 1).

**ВАЛЮШ** – сукнавальня. “*Снавалі шэрсцю і ткалі, а патом аддавалі вырабатываць, валюшназываўся, у Смаргонь*” (*Смаргонскі р-н,* 4); “*Ткалі, а тады вазілі ў Смаргонь, валюш называлі, валілі, і тады прывозілі – ужэ сукно*” (Смаргонскі р-н, 3); “*Валіць аддавалі ў ва Ашмяны. Валюш называўся*” (Ашмянскі р-н, 9).

**ВОЎНА** – “*Веснавая воўна – хавалі і пралі после, а асенняя... Неяк различалі – адна ішла на гайнакі, адна на сукно. Асенняя, навернае, длінная, шла на сукно, а кароткая – на валенкі. Гэту даўжэйшую лепей прасць – после лета. У Мур-Ашмянке была свая ваўначоска, была, во дажа пазапрошлы год часалі. Сукно самі валілі, той, што заведваў ваўначоскай, той ужо рабіў – заварывалі неяк*” (Ашмянскі р-н, 2); “*Воўна называлась вясенняя. Яе можна прасці, мыць.. ана не звальвецца. А вот асенняя, усадзіце яе ў гарачую ваду – яна сступаецца, становіцца грубая, не такая. На андаракі – што вясной стрыглі. А тую, хужэ, восеньскую – на мужскія штаны...*” (Мастоўскі р-н, 4).

**ЛОСК, ЛАСКАВАЦЬ** – валіць даматканае сукно. Аддавалі “у лоск” на сукнавальні, а ў хатніх умовах клалі на сукно гарачы хлеб. “*...I самі ласкавалі. Хлеб з печы дастануць, тагда той мацерьял, што на андарак, ложаць пад гарачы хлеб. Ён там прэе і робіцца такі гладкі. Гэта на касцюмы і на андаракі*” (Мастоўскі р-н, 5); “*У лоск лажылі. Там, дзе шыў, і дарага браў за эту юбку. Два злотых за юбку – пуд жыта можна было купіць*” (Мастоўскі р-н, 6); “*У лоск, лоск рабілі... Сукно спрышчым цёпленькаю (вадой), шчоткаю, тады на качалку качалі і клалі на печ, і яно, знаеце, гладкое, як прасавана*” (Мастоўскі р-н, 6).

**ПАЛАСКУЕЦЦА** – ад слова лоск, набудзе лоск, зробіцца гладкае “*Як памыеш бяльё наша, і патом яно падсыхае, так валак такі, не прасавалі, але як выкачаем яго, так паласкуецца прама, такое харошае*” (Мастоўскі р-н, 6).

**ПРЫВАЛЕНЫ** – злёгку валенае сукно. “*У бацько, помню, што касцюм быў з шэрсці вытканы, цёмны, гладкая... Вытканы, яшчэ прывалены*” (Свіслацкі р-н, 1).

### 3. Выраб пражы. Прылады працы

**ВЕРАЦЯНО** – прыстасаванне для прадзення. “*Яшчэ і сейчас где-то два верацяна ляжыць у мяне*”. (Свіслацкі р-н, 1).

**ГРЭБЕНЬ** – прыстасаванне для часання льна. Былі некалькіх відаў – з драўлянымі і металічнымі зубцамі. “*Тады на грэбень часалі. Такія зубы крупные,*

*гэта як першы раз часа́лі, а тады такія ж, жалезныя, гусце́йшыя, тоненькія. Другі раз як часалі, так кудзе́ля мякчэ́йшая"* (Смаргонскі р-н, 1).

**КО́ЗАЧКА** – сапапрадка. *"Козачка была. Не такі́ во калаўро́дак высокі, а такі длі́нненькі. Кудзе́ля на пра́сніцы, і пра́ла на ту козачку"* (Свіслацкі р-н, 1).

**КАЛАЎРО́Т, КАЛАЎРО́ДАК** – самапрадка. *"Мама пра́ла на калаўрот, на верецяно не прала. І я прывы́кшы, тожа так"* (Смаргонскі р-н, 1); *"Як я, так па тры шпу́лі напрядала на калаўродак. На веряцяно не прала. Тры шпу́лі, але зрэб'я. А ку́жалю – шпулю (за вечар)"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Былі авечкі ў нас і пралі эту шэрсць. Пралі, былі калаўро́дкі"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Пралі на калаўротах, некаторыя напрадалі за вечар з таўшчэйшай ніткі шпулю, а з лёну – меней"* (Дзятлаўскі р-н, 1); *"Быў маленькі калаўроцік такі, така прасніца была, так харошэ́"* (Ашмянскі р-н, 2).

**КАТУ́ШКА** – дэталь самапрадкі, а таксама мера напрадзеных нітак. *"І днем, і вечарам пралі. Еслі то́нко – то напрадзе́ш меньш, напрада́лі кату́шку, а як гру́бае, то 2–3 – ко́жна хазяйка па-своему"* (Свіслацкі р-н, 1).

**ПАДВІТАК** – мера напрадзеных нітак, поўнае верацяно. *"Падвіток, верацяно"* (Карэліцкі р-н, 2).

**ПА́ВЕСМА, ПАВЕ́СМО** – мера льняной кудзелі, жменя. *"Прынясе́ мне льна па́весму. Як у ру́ку ўзя́ць"* (Свіслацкі р-н, 1).

**ПРА́СНІЦА** – драўлянае прыстасаванне для мацавання кудзелі. *"Я снача́ла пра́ла на верацяно. Пра́сніца і верацяно́"* (Свіслацкі р-н, 1); *"С пра́сніцамі, с калаўротамі пойдзем на вячоркі. Я калаўрот нясу, пра́сніцу гэтую з лёнам"* (Смаргонскі р-н, 1).

**САМАПРА́ДКА** – *"Былі́ і самапра́дкі, но я снача́ла пра́ла на верацяно́"* (Свіслацкі р-н, 1).

**ПРА́ЖА** – спрадзеныя ніткі, таксама працэс прадзення. *"Як мяне ж, кажу, не дапускалі да пражы, нават не умею прасць. Праду, але нітка не адзінакавая. А лёну не прала"* (Ашмянскі р-н, 1).

**ПРА́ННЕ** – прадзенне. *"...што это за пранне такое..."* (Ашмянскі р-н, 2)

**ПРА́СЦІ** – *"Зімой пралі, после Каляд, а после ўжо ткалі дома, вясной. Вясной ужо, як напрадзём, так у Вялікім посце, і пасля посту яшчэ"* (Ашмянскі р-н, 2); *"Дома пра́лі, быва́е, сабіра́ліся ве́чарам, бо як адзін дома, так спаць хочацца. А як сабяро́мся, то так доўга прадзе́м, да по́ўначы"*. (Ашмянскі р-н, 4)

**ШПУ́ЛЯ** – дэталь самапрадкі, а таксама мера напрадзеных нітак. *"Пралі на калаўротах, некаторыя напрадалі за вечар з таўшчэйшай ніткі шпулю, а з лёну – меней"* (Дзятлаўскі р-н, 1); *"За вячор павінна напрасці шпулю"*(Дзятлаўскі р-н,).

## 4. Назвы нітак прамысловай вытворчасці

**БА́ВАЛЬНІЦА** – баваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці. *"З горані снавалі, да бавальніцу куплялі"* (Мастоўскі р-н, 6); *"Бавальніцы не было купіць"* (Ваўкавыскі р-н, 2); *"Бавальні́цу куплялі, была такая, што снавалі"* (Зэльвенскі р-н, 1).

**БАВЭ́ЛНА, БАВО́ЛНА** – баваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці. *"Аснова – калісьці пралі лён, а это ўжо купленае, бавóлна – аснова, а шэрсцю патыкáл"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Бавэлна была, то даўней..."* (Зэльвенскі р-н, 3).

**БЕЛЬ** – баваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці белага колеру. *"Куплялі ніці – бель называлоса. Гэто як шпульковая нітачка, нейкая мякчэйшая"* (Ваўкавыскі р-н, 4).

**ГА́РУС, ГАРУСО́ВЫЯ** – тонкія ваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці. "Гарусовыя" – тканыя з гарусу. *"Спадніцы былі гарусовы. Гарус – ніткі, але яны былі дарагія, іх мало хто купляў"* (Зэльвенскі р-н, 1); *"Цётка с Амерыкі прыслала гарус, а мы ткалі, эта гэдакія ніткі бліщчастыя нейкія, шарсцяныя"* (Зэльвенскі р-н, 3); *"Гарусовыя юбкі ткалі. І свае, с воўны ткалі, але катора прадзена, эта ўжэ не такая, сусім інакш"*(Зэльвенскі р-н, 5); *"Спаніцы гарусовы былі тонкія"* (Зэльвенскі р-н, 6).

**ГО́РАНЬ, ГОР** – баваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці (белыя, чорныя, чырвоныя і інш. колераў). " *Дываны, скацерці, з горані ткалі, такія красівыя, что сказаць не магу, з горані юбкі карычневыя, сінія, чорныя"* (Мастоўскі р-н, 6); *"Горань – ніткі шпульковыя, ён быў тоненькі-тоненькі, ткалі касцьмы мужчынам. Горань – і белаго, і жоўтага, і зялёнага (колеру). Па горані тожа ткалі, усялякага цвету, які каму трэба быў"* ( Мастоўскі р-н, 7).

**КАМЭ́ЛЯ** – ваўняныя ніткі розных колераў прамысловай вытворчасці. (Мастоўскі р-н).

**МІТКА́ЛЬ** – баваўняная тканіна прамысловай вытворчасці. (Мастоўскі р-н).

**ПАРКА́ЛЬ, ПАРКАЛЁВАЕ** – баваўняная тканіна прамысловай вытворчасці. (Ашмянскі р-н).

## II. ТКАЦТВА

### 1. Снаванне

**АСНО́ВА, АСНО́ЎКА** – падрыхтаваныя да ткання (аснаваныя) ніткі. *"Эта ўжо бралі катушкі нітак, іли ў матках былі чорныя ніткі, і па асноўцы ткалі, называлі асноўка"* (Зэльвенскі р-н, 3).

**АДБІВА́ННЕ АСНОВЫ** – падрыхтоўка да навівання. На Гродзеншчыне зафіксавана тры спосабы падрыхтоўкі асновы, якія суправаджаліся адбіване нітак асновы пранікам: замочванне ў вадзе, у адвары льнянога семені, у завараным дравесным попеле.

*1. "Памочыш і адбіваеш для асновы, каб яна была плотная, прочная, бо яе ж не аснуеш і не патчэш, еслі не адаб'еш, казалі – ат/д/пярыць"* (Ашмянскі р-н, 1); *"Аснову адбіваць трэба, мачыць, абдіваць пранікам. Мачылі ў ваде абыкнавеннвай, таўклі таўкачом у ступе, каб не растаўчы, так далікатно ўжо мусіць, тады ўжо сушылі эту аснову, а тады ўжо* (снавалі) (Ашмянскі р-н, 2).

2. *"Мачылі, льняным семенем змазывалі, варылі (семя) і таўклі ў ступе (аснову)"* (Смаргонскі р-н, 1); *"Як толькі здоймеш яе, так мачылі, адбівалі аснову. Заварывалі сямéня ллянае, што б нітка была слізкая, і тады памочыш, і*

*тады пранікамі адбівалі, і нітка робіцца такая штыбная такая, ткаць харашо"* (Ашмянскі р-н, 8).

3. *"Тады яшчэ як ткаць, заварывалі лух, попел, слізкі, добры. Залівалі ў цабэрак, пастаіць, тады вынялі, клалі на зэдаль, і – пранікам білі, білі, адбівалі. Тады ужо сушылі, высушілі, тады як высушылі – кросны вілі" (Смаргонскі р-н, 3);*

**ВЫПІРЫЦЬ** – адбіць пранікам аснову. *"Льняное палатно трэба было вымыць, потым выпірыць пранікам, каб сышла чорная вада"* (Дзятлаўскі р-н, 4).

**АТ/Д/ПЯРЫЦЬ** – адбіць пранікам аснову (Ашмянскі р-н, 1).

**ВІТУШКА** – прыстасаванне для пераматвання нітак. *«Вот на яе навіваецца лён прадзены. Са шпуль, с калаўрота на эту вітушку навіваецца»* (Смаргонскі р-н, 1).

**ВІЦЬ КРОСНЫ** – запраўляць кросны, навіваць аснову на навоі. *"Тады як высушылі аснову – кросны вілі."* (Смаргонскі р-н, 3).

**КАЛОК** – прыстасаванне для снавання на сцяне, невялікі драўляныя колышкі, убіныя на супрацьлеглых канцах сцяны. *"Была снуйня, а не, так на сцяне можна снаваць. Убіць такія калкі, з тога боку, з тога"* (Ашмянскі р-н, 10).

**МАТАВІДЛА** – матавіла. *"Былі такія снуйкі зробленыя, і снавалі ... і пяць сцен, і даже і 10 сцен. Роўненька, красіва. Матавідла, а яшчэ былі такія 4 палачкі, во так во і ніткі накручвалі (матавідла бало такое – круцілі у руках), а эта во такое, на снуйкі, з гэтага бралі, круцілі, – вітушка – 4 колышка, і як пад ёлку наваґоднюю крэст тут, крэст тут і дырачка, і як прадзеш, то на гэтай вітушке наматваецца, а патом з гэтых вітушак снуецца. На гэтых снуйках было зазначана – колькі сцен"* (Ашмянскі р-н, 2).

**ПЛЁТКА, КАСА** – сплеценая аснова. *"І тады аснову здымаеш рукой – і ў плётку, як каса"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Аснову збіралі так, як ланцуг во"* (Ашмянскі р-н, 2).

**СНУЙКА** – прыстасаванне для снавання. *"У нас была снуйка"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Эта была такая снуйка, яшчэ у нас стаіць за хлявом, то мой бацька быў зрабіў. У нас была кружылаcа гэдак во, і на сценцы снавалі"* (Мастоўскі р-н, 7).

**СНУЛЬНІЦА** – прыстасаванне для снавання. *"Была снульніца..."* (Мастоўскі р-н, 6).

**СНУЙНІЦА** – прыстасаванне для снавання. *"Умела, і цяпер, каб былі снуйніцы, то аснавала б. У хаце крэставіна, і тут такія чатыры палкі, і стаіш, матаеш"* (Свіслацкі р-н, 1).

**СНАВАЦЬ** – *"Мне мама аснавала – чорненькая пасачка, і сіненькая, тады красненькая, тады жоўценькая"* (Смаргонскі р-н, 3); *"На сценцы снавалі"* (Зэльвенскі р-н).

**СНАВАЦЬ, прыкметы** – *"Гэта як мне гаварылі, у каторы дзень памёршы бацька ілі матка, нельзя сноваць. У пятніцу і ў панядзелак не начыналі, не пралі – нешчаслівы дзень. У хаце снавалі. А калі ў чужой хаце, то прымерна, то тады аснову гэту, як снімеш са снуйкі, бярэш замок і замыкаеш замком. Эта, гаворань, каб пераносіць, нада што б ана была замкнёна. Але ж гэта я помню, як снавалі і замком замыкалі. І ключом закрывалі"* (Смаргонскі р-н, 1); *"Снавалі з якога гэта*

*дня? Кажуць – во, на Вало́сся (на св. Уласія) ужэ аснава́ла. Як снуюць, хто прыйдзе, кажа – Памагай Бог!"*(Ваўкавыскі р-н, 4).

**2. Назвы ткацкага станка і яго частак**

**БЕ́РДО** – дэталь ткацкага станка. *"Бе́рдо было – і ў шасна́сце, і ў двана́сце бе́рдо"* (Смаргонскі р-н, 2); *"А тады бе́рдо называлася, кі́далі ў бе́рдо, зра́зу ў бе́рдо, тады ў ніты́.* (Смаргонскі р-н, 3*).*

**БЁРДА –** дэталь ткацкага станка (Свіслацкі р-н, 1; Смаргонскі р-н,1).

**ВАРШТА́Т, ВАРШТА́ЦІК** – ткацкі станок. (Ваўкавыскі р-н, 2).

**ВЕРСТА́ЦЬ** – варштат, ткацкі станок (Дзятлаўскі р-н, 6).

**ДРАТЫ́** – прыстсаванні для пераборнага ўзорнага ткацтва, палачкі, кавалкі дроту, вяровачкі. *"І на трыста дратоў, і на двесці, і на двесці пядзесят, разныя ткала"* (Ашмянскі р-н, 9).

**КРО́СНА, КРО́СНЫ** – ткацкі станок. *"Яшчэ́ ў брацы́хі ўсё гэта начы́нне ёсць. І кро́сна, і бёрда, і ні́чальніцы"* (Свіслацкі р-н, 1); *"Ставілі кро́сны на тры сям'і, напрыклад, і ткалі, вясной"* (Дзятлаўскі р-н, 1); *"Тады ўжо вя́сной і осенню як ужо з поля зробяць ўсё, збяруць. У нас кросны вісяць яшчэ ў свірне, ёсць"* (Ашмянскі р-н, 1); *"А кросны і цяпер стаяць, і бе́рды стаяць"* (Ашмянскі р-н, 10); *"І ў гумне на таку, то ведаю, што ставілі кросны. І ткалі яшчэ после празніка (Вялікадня)"* (Ваўкавыскі р-н, 4); *"Мама сядзе́ла за красна́мі, а яна красівая была, косы ў яе такія былі, яна ткала кросны"* (Смаргонскі р-н, 3).

**ЛА́ВАЧКА** – лаўка ў ткацкім станку (Смаргонскі р-н, 1).

**ЛУК** – палачка з ядлоўцу, на якую набіралі ніткі пры стварэнні ўзора (Зэльвенскі р-н, 1).

**НАВО́Й, НАВО́ЙЧЫК** – пад ніткі і пад палатно. *"Дзе будзе палатно, тако́й навойчык"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Да дзесяць гу́біц ткалі – накру́чвалі адра́зу на наво́й"* (Свіслацкі р-н, 1).

**НА́БІЛЬНІЦЫ –** набілкі (Смаргонскі р-н, 1).

**НІТЫ́** – прыстасаванне для запраўкі нітак асновы. *"А гэта простыні льняныя у восем нітоў"* (Смаргонскі р-н, 2).

**НІ́ЧАЛЬНІЦЫ –** тое, што "ніты", прыстасаванне для запраўкі нітак асновы. *"І ў восем нічальніц так ткала харашо..."* (Мастоўскі р-н, 6); *"У чатыры, восем нічальніц ткалі, усяля́к, у чатыры – усё гладко будзе, просто, але будуць только радочкі ісці. Кі́далі ў нічальніцы"* (Зэльвенскі р-н, 8).

**ПАНАЖЫ́** – прыстасаванне для змены зева ў аснове. *"Ткаць тка́ла, як за кро́сны дала́ ра́ды зале́зьці, даста́ну да панажо́ў"* (Свіслацкі р-н, 1); *"Кі́далі ў чатыры нічальніцы і ткалі па адном понажы"* (Мастоўскі р-н, 6); *"Пяць панажэй"* (Смаргонскі р-н, 2).

**ПЛАН** – малюнак ткацтва пераборных ("перабіраных") дываноў. *"План рабілі – спісваеш на бумагу такі план і перабіраеш"* (Ваўкавыскі р-н, 2).

**ПРУДО́К, ПРУТКІ́** – палачкі ці ніткі, на якія падвязвалі, набіралі ўзоры пры ткацтве. *"Дываны на шаснаццаць, сто трыццаць, сто пяцьдзесят пруткоў"*( Ваўкавыскі р-н, 2)

**СТАВЫ́** – асноўныя, апорныя часткі ткацкага станка (Смаргонскі р-н, 1).

**САБА́ЧКІ** – частка ткацкага станка, з дапамогай якіх мацавалі ніты (Смаргонскі р-н, 1).

**ЦЭ́ЎКА** – невялікая палачка з адтулінай, на якую наматвалі ніткі для утка. *"А тады сукáлі цэ́ўкі"* (Смаргонскі р-н, 3).

**ЧАЎНО́К** – ткацкая прылада ў выглядзе чоўніка, для пракідвання нітак утка. *"А тады бéрдо называлася, кі́далі ў бéрдо, зрáзу ў бéрдо, тады ў ніты́, завя́звалі ўсё гэта і тады ўжо чаўнок запускáлі"* (Смаргонскі р-н, 3).

**АДРАСЫ́** – схемы запраўкі асновы ў ніты. *"Я думала, адрасы́ найду, па каторым уводзіць. Нада такія бумажкі"* (Смаргонскі р-н, 2).

**ЗАТКА́ЦЬ** – пачаць ткаць. *"Мама заткáла, дашла да наво́йчыка..."* (Свіслацкі р-н, 1).

**КІ́ДАЦЬ** – запраўляць аснову ў ніты. *"Тады ніт я рабіла, і кі́далі – ой, кідаць цяжка, па парах, па першых парах, на другіх, і трэба, каб кветка вышла"* (Смаргонскі р-н, 3).

**НАВАДЗІ́ЦЬ** – запраўляць аснову ў ніты. *"Гэта пасцілка ў чатыры ніты, гэта маміна, яна ўчыла навадзіць. Тады ў бéрда, нада харашо ўвадзіць, інáчай не вы́тчэш нізашто..."* (Смаргонскі р-н, 2).

**ПА́РКІ** – найдрабнейшы элемент ткацтва, з якога складаўся малюнак. *"І закладáеш – бярэш там тры пáркі, чатыры, дзве, пяць, шэсць. І что палучаецца, цвяток, глядзіш, а тады мяняеш паркі, ідзеш назад"* (Ашмянскі р-н, 9).

**ПА́САЧКІ** – вузкія тканыя палоскі (Зэльвенскі р-н, 2).

**ПАТЫКА́ЦЬ** – ткаць, ператыкаць, пракідываць ніткі утка. *"А тыя, што мы перабірáлі, былі шэрсцяны́я, аснова – льняная, а патыкáлі шэрсцю"* (Ашмянскі р-н, 4); *"На аснову бялілі ніткі, і патыкáць, каб бялéйшэ было. А хто меў грошы, пакупаў горань і тымі маткáмі патыкáў"* (Мастоўскі р-н, 7); *"І тады патыкáлі кветкі"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Снавалі лён, пакрашаны, а патыкáлі крашенымі чорнымі, большынство цёмныя – красные і чорныя"* (Ашмянскі р-н, 3).

**ПЕРАТЫКА́ЦЬ** – ткаць, пературыкаць. *"Лёнам паснуюць, а для празніка шэрсцю патыкáлі"* (Ваўкавыскі р-н, 4).

**САСТАЎЛЯ́ЦЬ** – снаваць і запраўляць аснову для узорнага ткацтва. *"Гэта я памагала ткаць, а мама састаўля́ла"* (Смаргонскі р-н, 2).

**ТКАЦЬ** – *"Тады ўжо ткалі вясной, аж да вясны ткалі"* (Ашмянскі р-н, 2);

**УВО́ДЗІЦЬ** – запраўляць ніткі асновы ў ніты *"Уводзіць знаю. Трэба ж знаць, як увéсці, укі́нуць"* (Смаргонскі р-н, 2).

### 3. Назвы тканіны і тканых вырабаў

**АСЬМЯРЫ́К** – тканіна, вытканая ў восем нітоў.

**ВОСЕМНІ́Т, ВАСЬМІНІТО́ВАЕ** – тканіна, вытканая ў восем нітоў. *"Восемні́т – у восем нітоў, палацéнца ткалі – хрушчáткамі"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Саткалі плацце клетачкамі – у восемніт, васьмініто́выя, такія ў клетачку, красівыя"* (Ашмянскі р-н, 4); *"Двуніт, восемніт, чвараніт ткала"* (Ашмянскі р-н, 9).

**ВЫБІРА́НКА** – тканіна, вытканая ў тэхніцы шматнітовага пераборнага ткацтва. *"Я, напрымер, ткала ў чатыры ніты – "дымка" называлась. Калі больш нітоў – то я ўже не ткала выбіранкаў. На восем нітоў – дываны, выбіранкі"* (Ашмянскі р-н, 2).

**ДВУНІ́Т** – тканіна, вытканая простым палатняным перапляценнем. *"Кужаль – у дзве нічальніцы –двуніт"* (Ашмянскі р-н, 2); *"Двуніт, восемніт, чвараніт ткала"* (Ашмянскі р-н, 9).

**ДЫВАНЫ́** – посцілкі са складаным малюнкам, выкананым у тэхніцы шматнітовага пераборнага ткацтва. *"Дываны васьмінітовыя ткалі, набіралі"* (Смаргонскі р-н, 1); *"У пташкі дываны, у кветкі. Паласатыя дываны – "у пасачкі"* (Ашмянскі р-н, 1); *"Я, напрымер, ткала ў чатыры ніты"* (Ашмянскі р-н, 2).

**ДЫВАНЫ́ НАБІРА́НЫЯ** – вытканыя ў тэхніцы шматнітовага пераборнага ткацтва. *"Дываны набіраныя – с цветамі, узоры дзе ўвіжу – нарысую. Набіраны на пейсят пруткоў"* (Смаргонскі р-н, 2).

**ДЫВА́Н ЖАЛО́БНЫ** – вытканы чорнымі і белымі ніткамі. Жалобным дыванам пакрываюць труну, ставяць на яго труну, расцілаюць у хаце ў дзень, калі памерлі асабліва блізкія.*"А гэта жалобны дыван. Пад труну на лаву клалі, труну ставілі. Як мама, тата памёр, так я засцілаю (у гэты дзень, у хаце). І труну пакрываюць – во ў магілку апусцілі, пакрываюць дыванам, тады толькі зямлёй сыпяць..."* (Смаргонскі р-н, 2).

**ДЫ́МКА, ДЫМКО́ВЫ** – тканіна, вытканая чатыры чатыры ніты, а таксама узор, які атрымліваўся пры ткацтве. *"Я, напрымер, ткала ў чытыры ніты – дымка называлась, я ткала сама, зводзіла – і абрусы, і посцілкі – у чатыры панажы. Ручнікі дымковыя, абрусы дымковыя, посцілкі дымковыя я ткала."* (Ашмянскі р-н, 2).

**ІВА́НЧЫК** – грубае льняное ці змешанае палатно. *"Аснуюць льном, а сукном паткуць – называецца шарачок ці іванчык, з яго шылі порткі, мартнаркі"* (Дзятлаўскі р-н, 7).

**КАМЭ́ЛЯ, КАМЛЁВЫ** – тонкія ваўняныя ніткі прамысловай вытворчасці і тканіна, вытканая такімі ніткамі (Гродзенскі р-н, 1).

**КІЛІ́М** – паласаты дыван. *"Я маю паласатых (посцілак), кілімы называлі"* (Ашмянскі р-н, 9).

**КУ́ЖАЛЬ, КУЖЭ́ЛЬНАЕ** – тонкія льняныя ніткі і палатно з іх. *"Кужаль у дваццаць пасм"* (Мастоўскі р-н, 3); *"Далеко яшчэ палатно ткала кужолно"* (Мастоўскі р-н, 4); *"Кужолна сарочка"* (Мастоўскі р-н, 5); *"Я ж кажу – кужэльнае было палатно, што і цяпер куплёнаму закажа"*(Мастоўскі р-н, 6); *"Як ішла замуж дзеўчына, гэта пры маёй памяці, так падаркі давалі – усё гэтыя кужолныя ляны, чтэры мэтры кусок, падарак давалі"* (Мастоўскі р-н, 7).

**ЛЁН** – льняная пража лепшага гатунку і палатно з яе. *"Перш ткалі зрэб'е, затым лён..."* (Дзятлаўскі р-н, 10).

**МАХРА́Ч, МАХРАЧЫ́** – уціральнікі. *"Як ткалі палатно, адрезалі ад навоя, пакідалі ніткі, і гэтыя усё плялі у косы. Называлася махрачы"* (Смаргонскі р-н, 3).

**НАДЕ́ЖНІК** – ручнік-накідка, якой накрывалі дзяжу. “*А тады былі наде́жнікі*” (Смаргонскі р-н, 3).

**ПАЛАТНО́** – льняная тканіна, вытканая ў два ці чатыры ніты, тое, што і “кужаль”. “*Гэта зрэб’е, на мяшкі, а эта палатно тоненькае, я палатна́ не ма́ю*” (Ашмянскі р-н, 6).

**ПАЛАЦЕ́ННАЕ** – льняное, кужэльнае палатно. “*У пялёнку палаценную укруцім...*” (Ашмянскі р-н, 6); “*Палатно ткалі на лёне, у мяне і цяпер лён ёсь*” (Астравецкі, 1).

**ПАРЦЯНЫ́, ПАРЦЁНЫ, ПАРЦЯНО́Е ПАЛАТНО́** – льняныя палотны. “*Як палаце́нныя, (льняныя), парцяны́я, на шарсцяную, і парцёную. краску куплялі, усякаю*”. (Мастоўскі р-н, 7);

**ПАСЯ́К, ПАСЯКІ́** – паласатыя дываны. (Ваўкавыскі р-н, Свіслацкі р-н).

**ПАПЯРО́ЧКА** – паласатая тканіна на андарак, спадніцу. Ткалі звычайна баваўнянымі ніткамі, ператыкалі воўнай, фарбаванай у розныя колеры. (Мастоўскі р-н). “*Ткалі папярочкі,... аснова была чорная*” (Дзятлаўскі р-н, 11).

**ПЕРАБІРА́НКІ** – дываны, выкананыя ў тэхніцы шматнітовага пераборнага ткацтва. “*Нада ж было каб пакрыва́лы яшчэ былі, ткалі такія перабіранкі ў цьвяты*” (Ашмянскі р-н, 4); “*Былі яшчэ дываны перабіраныя з узорамі*” (Ваўкавыскі р-н, 2); “*Пасцілкі цвятамі перабіра́лі, драты зацягвалі, дратоў шмат, перабіра́нкі называлісь*” (Смаргонскі р-н, 3).

**ПЕРКА́ЛЬ** – тонкая баваўняная тканіна фабрычнай вытворчасці. (Ваўкавыскі р-н).

**ПЕЦЯРЫ́К** – палатно, вытканае ў пяць нітоў. “*Называўся пецяры́к той матэрья́л*” (Ашмянскі р-н, 1); “*У пяць нітоў было, гэта і я ткала, знаю, пяцерыкі́*” (Смаргонскі р-н, 2).

**ПЛАЦЕ́НКА, ПЛАЦЕ́НКО** – даматканае льняное палатно, у палоскі ці дробныя клеткі, ткалі з нітак, пафарбаваных у розныя колеры. З П. рабілі падкладкі для верхняга адзення, мужчынскія штаны, падшывалі падол спадніц, у пасляваенны час шылі мужчынскія сарочкі, жаночыя блузкі і сукенкі. “*Плаце́нко – это касцюмчыкі шылі, юпачкі. Клетачкамі ўсялякімі – і зялёненькімі, беленькімі, і красненькімі, льняное, красілі, саматканае*” (Мастоўскі р-н, 7); “*Яшчэ плаце́нко быва́е – такое цьвятно́е ткалі, плаценко – у палосачку, у клетачку, як хто прыду́мае*”(Ваўкавыскі р-н, 7); “*Спадніца з чорнага плаценка*” (Гродзенскі р-н, 2); “*Плаценко ткалі, белая клетка, сіняя клетка*” (Зэльвенскі р-н, 5); “*Плаценко ткалі ў 2 колеры, лён сіні ці бардовы, і белы*” (Зэльвенскі р-н, 6,); “*Плаце́нка называецца, эта усё лён. Ткалі сабе на пла́цця, на жаке́ткі, у чатыры ніта. А гэта тожа плаце́нка, толькі ў два ніта. З гэтага спадніцы шылі, фартухі, каля пе́чы, і плацця. Это тоненькая, у восем нітоў. Штаны пашыла, спадніцу такую*” (Смаргонскі р-н, 2). “*Кашулі жаночыя былі ў палоску ці клетачку – плацянковыя*” (Дзятлаўскі р-н, 9).

**ПОЛСУКЕ́НАК, ПАЎСУКЕ́НАК** – даматканае палатно з нітак рознага гатунку: аснова – лен, бавоўна, уток – воўна. “*Пралі самі, гэта счытаўся полсуке́нак*” (Ашмянскі р-н, 1); “*Мужчынам касцюмы шылі, выхадныя – паўсуке́нкі. Паўсукенак ткалі*” (Ашмянскі р-н, 2); “*Спадніцы насілі цеплыя, з шэрсці тканыя, называлі поўсуке́нак. Эта аснова была лляна́я, а патыкалі*

*шэрсцю"* (Ашмянскі р-н, 7); *"Гэта спаднічка была паўсукенкавая: на лянай аснове ткалі сукном. Воўна белая, як натчом у ёлачку"* (Астравецкі р-н, 1).

**РУДЯ́К** – льняная тканіна, вытканая ў чатыры ніты, у палоску, клетачку, і г.д. *Выкарыстоўвалі для падкладкі, падшывалі ніжні край спадніц, падшывалі знізу каўнярны.* (Зэльвенскі р-н, 2).

**РУЧНІ́К** – *"Такім рукі выціралі – ручнік, вешалі на гвоздзь, на крук. І вышытыя вешалі – на сцяну, перад празнікам". "У нас такі абычай – ручнік вешалі, як нябожчыка вязлі да касцёла, на крыж палаценца, а тады эта палаценца аддавалі ў касцёл"* (Смаргонскі р-н, 1); *"І рушнікі былі, тканыя, выціраліся імі. Называліся васьмінітовыя, у чашачкі такія"* (Смаргонскі р-н, 4).

**САМАТКА́НКА, САМАТКА́НЫ, САМАТКА́НЫЯ** – *"Саматканка – льняная (тканіна), у клеткі, у палоскі, саматканыя, і неяк інакш ткалі – неяк паверху нітачкі ішлі"* (Ашмянскі р-н, 3).

**СЕМЯРЫ́К** – тканіна, вытканая ў сем нітоў (Ашмянскі р-н, 2).

**СУКНО́** – тканіна, у якой аснова і уток – воўна. *"Бывало, што шэрсцяная аснова, і шэрсцю патыкалі. То прываліць, і ўжо не знаць, што оні тканы. Гэдако валёно сукно обычно мужчынам на фрэнчы, на курткі"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Сукно была аснова і сукно было ўток. Гэта ўжэ шылі там такіе пінжакі, як называлі даўней бурносы, такія армякі. Мужчыны шылі. Едуць у дарогу — адзяюць на шубу"* (Ашмянскі р-н, 1).

**СУРАВІ́ЗНА** – нябеленае льняное палатно. *"Суравізна. Ткалі на суравом крамнымі ніткамі"* (Ашмянскі р-н, 3).

**СЫРАВЫ́Я** – суровыя, з небеленых нітак. *"Сыравыя ткалі настольніцы"* (Мастоўскі р-н, 7).

**ТАВА́Р** – тканіна прамысловай вытворчасці. *"На свята стараліся купіць тавару і пашыць у краўца святочную сукенку ці спадніцу"* (Дзятлаўскі р-н, 6).

**ТРЫЦЦА́ТКА** – палатно, вытканае ў трыццаць пасм, тонкае. *"Найперш ткалі лён, тонкае палатно, называлася трыццатка"* (Дзятлаўскі р-н, 9).

**УЦІРА́ЛЬНІКІ** – льняныя ручнікі *"...уціральнікі – рукі выціраць..."* (Смаргонскі р-н, 2); *"Уціральнікі, такія ўжо длінейшыя"* (Мастоўскі р-н, 7).

**ХАЛСЦІ́НА** – суровае, небеленае льняное палатно. *"І звалася эта халсціна"* (Смаргонскі р-н, 1).

**ЧВАРАНІ́Т** – тканіна, вытканая у чатыры ніты. *"Двуніт, восемніт, чваранiт ткала"* (Ашмянскі р-н, 9).

**ШАРА́К, ШАРА́ЧАК** – грубае льняное ці паўваўнянае палатно для пашыву будзённага адзення, ткалі ў чатыры ніты. *"Спадніца шарачковая, льняная "шарачка." Цёмны шарак – пафарбуеш этыя ніткі, каторыя ужо закідаеш (уток), а аснову тожа можна фарбаваць, аснова шаравая была"* (Дзятлаўскі р-н, 5); *"Мне ў школу пашылі з шарачка торбачку"* (Ашмянскі р-н, 2); *"Ткалі – шарачак называўся. Сновалі бавэлнай, ткалі шэрсцю. Это ўжо для мужчын, на касцюм"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Аснуюць льном, а сукном паткуць – называецца шарачок ці іванчык, з яго шылі порткі, мартнаткі"* (Дзятлаўскі р-н, 7).

**4. Меры палатна, асновы**

**ГУ́БІЦА** – мера палатна і асновы. Звычайна 4–5 метраў, раней – даўжыня сцяны, на якой снавалі. *"Колькі гу́біц табе трэба, на колькі ў цябе нітак хваціць. Гу́біца – эта чатыры метра".* (Свіслацкі р-н, 1); *"А мы былі шчэ небальшыя, ды – гу́біца ўсё называлі – да наснавалі 10 гу́біцаў, да наснава́лі па бе́лі ўсё... Але было ад мамы – было па 6 кругоў, як называюць – губіц, самадзе́льнаго, ку́жалю"* (Ваўкавыскі р-н, 5); *"Снова́лі на сну́йніцу. Чаты́ры ме́тры аднаго круга́. Гу́біца, сновалі і восем, і четы́ре гу́біцы"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Аднае губіцы хватае на два андаракі"* (Дзятлаўскі р-н, 9).

**ГІ́БА** – мера палатна і асновы. *"...гі́бы называлісь, гібы – эта па хаце снавалі. На калочкі снава́лі, у каго многа поля было, многа лёну, 12 гэтага кужалю гіб"* (Мастоўскі р-н, 4); *"Бывало – 12 гіб тчэ́цца тонка, а 12 гіб – таўшчэ́й"* (Мастоўскі р-н, 6); *"Пяць локцяў, пяць гібаў – просціна на кравать"* (Зэльвенскі р-н, 5).

**ПА́СМА, ПА́СМО** – мера нітак асновы - 30 (60) нітак. *"А тады перакладалася нітачка – па́сма называлася, тоўстая такая нітка. Сную́ – раз, перавяжу́ – пасма, яшчэ перавяжу, колькі там па́сам, восем, чатыры..."* (Смаргонскі р-н, 3); *"Колькі пасм там трэба, па 60 нітак у пасме, ніткай перавязвалі"* (Ваўкавыскі р-н, 4); *"Па́сма – трыццаць нітак. Абычно – семнаццаць –васемнаццаць пасм на бе́рдо, еслі тоненько, шаснаццаць – это ўжо такая таўшчэйшая ткань"* (Ваўкавыскі р-н, 7); *"Зрэб'е – трына́сце пасмаў, а ку́жаль – гэна было на седэмна́сце, на васемна́сце, це́ненькае, бо тоненькае, а гэто ўжо на воркі было"* (Ашмянскі р-н, 6); *"Дзяўчына павінна была напрасці за вечар дзве шпулькі – трыццаць пасма́ў"* (Дзятлаўскі р-н, 9); *"Да, дзевятнаццаць пасм – ку́жаль, грубе́йша – семнаццаць, шаснаццаць"* (Мастоўскі р-н, 6); *"Пасмо – трыццаць нітак. А як у васемнаццаць, дваццаць адно па́смо сновалі – ку́жаль. Трыццаць нітак трэба было у па́смо"* (Мастоўскі р-н, 7); *"Снавалі кужаль, ткалі ў дванаццаць пасм"* (Зэльвенскі р-н, 5); *"Васемнаццаць, дваццаць пасм – кужаль і плаценко. Ёсць каторае толстыя ніці, то будзе ў дванаццаць па́сам, а як гэдакія – то ў дваццаць"*(Зэльвенскі р-н, 8).

**СУВО́Й** – мера палатна, світае палатно, звычайна 5–8 "губак, губіц". *"У нас было с'вояў палатна, то як прасушывалі, то не было дзе раскатваць"* (Мастоўскі р-н, 6); *"І трэба каб было самадзельнаго хоць с/у/вояў пяць"* (Ваўкавыскі р-н, 5);*"Сувой, сувой скручывалі. Мы счыталі найболей тры сцяны – сувой"* (Ашмянскі р-н, 6); *"Выбеленае палатно скручывалі у сувой"* (Дзятлаўскі р-н, 9).

**СЦЯНА́** – мера даўжыні палатна і асновы – 3–4 м. *"Але болей не рабілі (на юбкі) як дзве сцяны́. У мяне яшчэ тры сцяны на гары́ небе́лена"* (Ашмянскі р-н, 1); *"Мэтры ў тры, а можа, і больш, да пяці, хто як"* (Ашмянскі р-н, 2); *"Наснавала чатыры сцяны. Сновалі кужэльнога – тры–чатыры сцяны, на спадніцы паўтары – дзве сцяны, на ручнікі – тры сцяны, на мяшкі – чатыры-пяць сцен"* (Ашмянскі р-н, 4); *"Вот тры сцяны, эта мы называлі, тры раза такая снуйка па чатыры мэтры, кругом так"* (Ашмянскі р-н, 6); *"А як добра і́дзе, то за дзень, сцяну вытчэш"* (Ашмянскі р-н, 8); *"Напрымер, чатыры сцяны́ наснава́лі. А сцяна эта метра́ў, можа, восем"*. (Смаргонскі р-н, 3).

**ТРУБА́** – мера гатовага палатна, прыкладна 6–8 м, скачанае палатно. *"Палатно ў тру́бы круцілі Панясе́ш на рэчку, пра́нікам вы́пярыш, тады ужо ў тру́бы скача́еш"* (Смаргонскі р-н, 3); *"Колькі то ку́жалю ткалі? Як хто змог,*

*тры, чатыры трубкі мае, кужалю многа – то ужо багатая нявеста. Труба – дзве-тры сцяны, труба бальшая, харашо выбелена, скручана...”* (Ашмянскі р-н, 4).

### 5. Адбельванне палатна

**АДБЕ́ЛЬВАЦЬ (НА СОНЦЫ)** – адбельванне льнянога палатна. *“Вясной якое тонкае, с харошага льна, так адбелівалі возле рэчкі, вадой палівалі”* (Смаргонскі р-н, 4); *“Бялілі на сонцы. У нас равок быў, там вада. Во халсціну намочыш, высахне – апяць намочыш. І на расе ноччу пакідалі”* (Смаргонскі р-н, 1); *“Як вытчам, знімем з красён, тады беляць, сарочка ж каб бела была, каб хароша. У воду усадзіш, у рэчку, гэты кужаль, і на балота, Усё балота засцелім – беліш палатно”* (Мастоўскі р-н, 6); *“Адбельвалі летам. Раскладалі на траве, сонца бяліла”* (Дзятлаўскі р-н, 1); *“А бялілі лян – на балоце слалі, і мачылі, вясною. Наткуць, насцелюць дзе на грудку, дзе вада. Паляжыць у вадзе, а тады сцелюць яго на балоцечко”* (Мастоўскі р-н, 7).

**АДБЕ́ЛЬВАЦЬ (ЛУГАМ)** – адбельванне льнянога палатна “лугам, у лузе”. *“Рабілі луг і замочвалі ў цэбры палатно на суткі, трэба было вымыць, потым выпірыць пранікам, каб сышла чорная вада, заслаць на траву і сушыць”* (Дзятлаўскі р-н, 4); *“Навараць чыгун бальшы, туды кусок палатна, і кіпяцццa. Выкяпіціў, папаласкаў, павешаў, абратна туды так во (несколько разоў)”* (Ашмянскі р-н, 1).

**АДХО́Д РУДЫ́** – працэс адбельвання льнянога палатна, таксама і “выбяліць руду” (Дзятлаўскі р-н, 8).

**ВЫ́БЕЛІЦЬ ПАЛАТНО́** – адбяліць. *“І як выбеліцца кашулька — хоць у вуха лажы, мяканькая, такая прыятная, беленькая-беленькая”* (Астравецкі р-н, 1).

**ЛУГ, ЛУХ** – адвар дравеснага попелу, попел, заварaны кіпенем. Выкарыстоўвалі для адбельвання палатна, мыцця бялізны, прамывання валасоў. *“Даўней не было ні шампуняў, ні мыла, рабілі луг, з бярозавай залы, бярозавы луг. Лажылі на кадушка трапку палатняную, тады – вядро, ці поўвядра залы, а тады – кіпятку. І там праз эту залу яна прерацякае. Вот сягоння баня ў нас будзець, нясём у баню. І ўсе спрашываюць – У цябе лух/г ёсць? – Ёсць! – Дасі мне галаву памыць? І гэтым вядром дзеляцца і усе галаву мыюць. Гэтым лугам ... жанчыны бяллё мылі. Замачывалі ў гэты луг. Тады – пранікам, мачаюць, варочаюць і бьюць, і так вымывалі бяллё”* (Смаргонскі р-н, 1); *“Луг самы лепшы альшыновы, бярозавы”* (Зэльвенскі р-н, 5); *“Вада, тады попел усыпеш, залы, і быў луг, намачыш (палатно) у гэты луг. Абвяжам якую пасуду, тады засцелім саломкі троха, тады попелу пасыпем і тады заліваем кіпятком, так эта палатно так харашо мылася, так будзь здароў”* (Ашмянскі р-н, 6).

**ПАЛАТА́ЦЬ** – выпаласківаць бялізну. *“Варылі залу, попел Заварывалі, і гэту вадічку сцэджвалі, і тады лажылі маткі (нітак), у печ пхалі і тады насілі палатаць, і на мароз выкідалі”* (Мастоўскі р-н, 7).

**ВА́ЛАК, ВА́ЛОК, КАЧА́ЛКА** – прыстасаванне для качання бялізны. *“Такую белага палатна сарочку, не уцюгом, а качалкай, валак такой – як дасць, як дасць – мяккая, белая, як сцякло”* (Смаргонскі р-н, 1); “Качалі валком” (Ваўкавыскі р-н, 8).

**ПРА́НІК** – драўлянае прыстасаванне для мыцця бялізны, аббівання галовак льна і інш. *“Панясеш на рэчку, пранікам выпярыш”* (Смаргонскі р-н, 3).

**Ашмянскі раён**

1. в. Беняны. Талочка Ніна Іосіфаўна, 1934 г.н., Пашніковіч Ядзьвіга Вікенцьеўна, 1931 г.н., Пячкоўская Ядзвіга Францаўна, 1919 г.н. (Ашмянскі р-н, 1);
2. в. Мураваная Ашмянка. (Ашмянскі р-н, 2);
3. в. Ордевічы. Жабінская Станіслава Балеславаўна, 1925 г.н. (Ашмянскі р-н, 3);
4. в. Ордевічы. Жабінская Яўгенія Міхайлаўна, 1911 г.н. (Ашмянскі р-н, 4);
5. в. Трасечаняты. Грынькевіч Ніна Усцінаўна, 1917 г.н. (Ашмянскі р-н, 5);
6. в. Валовікі. Янкоўская Ядзвіга Станіславаўна, 1927 г.н., Збароўская Ірэна Іванаўна, 1930 г.н. (Ашмянскі р-н,6);
7. в. Кальчу́ны. Ковалевская Регіна Констанцінаўна, 1929 г.н. (Ашмянскі р-н, 7)
8. в. Кальчу́ны. Маркевіч Марыя Францаўна, 1923 г.н. (Ашмянскі р-н, 8);
9. в. Граўжышкі. група жанчын (Ашмянскі р-н, 9);
10. в. Кляўіца. Субач Стэфанія Уладзіславаўна, 1915 г.н. (Ашмянскі р-н, 10).

**Ваўкавыскі раён**

1. в. Навасёлкі. Ошмяна́. Броніслава Августіновна, 1932 г.н., Барташэвіч Вячэслава Віктараўна, 1939 г.н., Се́рык Браніслава Болеславовна, 1931 г.н. (Ваўкавыскі р-н 1);
2. хутар Талькаўцы. Вілесік Леанарда Антонаўна, 1922 г.н. (Ваўкавыскі р-н, 2);
3. в. Ганасаўцы. Рыбалка Валянціна Аляксееўна, 1928 г.н. (родам з в. Тупічаны Ваўкавыскага р-на) (Ваўкавыскі р-н, 3);
4. в. Міштуны. Рэнцэль Серафіна Арсеньеўна, 1928 г.н. (родам з в. Міканаўцы Ваўкавыскага р-на.У в. Міштуны пайшла замуж у 1954 г. (Ваўкавыскі р-н, 4);
5. в. Міштуны. Рэйцаль Софья Іосіфовна, 1919 г.н. (Ваўкавыскі р-н, 5);
6. в. Талькоўцы. Велесік Ганна Іванаўна, 1910 г.н., Паўтарак Марыя Антонаўна, 1910 г.н. (Ваўкавыскі р-н, 6);
7. в. Рупейкі. Яцкевіч Юзэфа Іосіфаўна, 1929 г.н. (Ваўкавыскі р-н, 7);
8. в. Хоружава Юшкевіч Магдалена Іосіфаўна, 1928 г.н. (Ваўкавыскі р-н, 8);
9. в. Раднікі (Ваўкавыскі р-н, 9).

**Дзятлаўскі раён**

1. в. Ахонава. Кашко Надзея Трафімаўна, 1915 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 1);
2. в. Лапушна. Лашкоўская Марыя Лук'янаўна, 1918 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 2)
3. в. Лапушна. Сарока Клаўдзія Пятроўна, 1930 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 3);
4. в. Хрольчыцы, в. Ліжэйкі. Котава Тамара Мікалаеўна, 1938 г.н., Цізоўская Кацярына Уладзіміраўна, 1925 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 4);
5. в. Погіры. Шыдла Анастасія Іванаўна, 1920 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 5);
6. в. Дзянісава. Дарафейчык Ніна Аляксандраўна, 1917 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 6);
7. .в. Студзераўшчына Жылінская В.Д., 1924 г.н., Лямцэвіч А.В., 1927 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 7);
8. в. Дукрава. Венская Ніна Андрэеўна, 1933 г.н. зап. Венская С. Р. (Дзятлаўскі р-н, 8);
9. в. Руда-Яварская. Купрыяновіч Надзея Фёдараўна, 1928 г.н. (Дзятлаўскі, 9);

10.в. Алёхнавічы. Юг Дар'я Ігнатаўна, 1935 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 10);
11.в. Войневічы. Болцік Юзэфа Вікенцьеўна, 1930 г.н. (Дзятлаўскі р-н, 11).

**Зэльвенскі р-н**

1. в. Холстава. Сачёк Адэля Осіпаўна, 1915 г.н. (Зэльвенскі р-н, 1);
2. в. Дабрасельцы. Каляда Вольга Лявонцьеўна, 1931 г.н. (Зэльвенскі р-н, 2);
3. в. Крывічы. Лойка Алена Сцяпанаўна, 1920 г.н. (Зэльвенскі р-н, 3);
4. в. Крывічы. Ламака Соф'я Іванаўна, 1930 г.н. (Зэльвенскі р-н, 4);
5. в. Алексічы. Ткачук Марыя Аляксееўна, 1934 г.н., Юрага Марыя Іванаўна, 1929 г.н., Фядзеня Ганна Аляксееўна, 1913 г.н. (Зэльвенскі р-н, 5);
6. в. Угрынь. Тарасік Надзея Ільінічна, 1913 г.н. (Зэльвенскі р-н, 6):
7. в. Снежная. Марыя Васільеўна Савосік, 1928 г.н., Савосік Лідзія Сцяпанаўна, 1925 г.н. (Зэльвенскі р-н, 7);
8. в. Падбалоцце. Кузьміч Станіслава Мацьвееўна, 1917 г.н. (Зэльвенскі р-н, 8).

**Мастоўскі р-н**

1. в. Струбніца. Ла́нец Вера Кліментьеўна, 1948 г.н. (Мастоўскі р-н, 1);
2. в. Струбніца. Шаламава Алена Адамаўна, 1911 г.н. (Мастоўскі р-н, 2);
3. в. Рагозніца. Чарнец Казіміра Казіміраўна, 1923 г.н. (Мастоўскі р-н, 3);
4. в. Курылавічы Таўкун Ніна Васільеўна, 1934 г.н., Бароўская Галіна Мікалаеўна, 1938 г.н., Сіручь Марыя Уладзіміраўна, 1938 г.н. (Мастоўскі р-н, 4);
5. в. Сухінічы. Верабей Соф'я Лукінічна, 1925 г.н., Крывец Кацярына Еўстаф'еўна, 1924 г.н., Крывец Марыя Рыгораўна, 1935 г.н., Жука Зінаіда Сільверстаўна, 1930 г.н. (Мастоўскі р-н, 5);
6. в. Каўшова. Лысевіч Анастасія Максімаўна, 1922 г.н., Дзенісеўская Вера Васільеўна, 1908 г.н. (Мастоўскі р-н, 6);
7. в. Кульшычы. Дімешчык Ніна Аляксееўна, 1925 г.н. (Мастоўскі р-н, 7).

**Смаргонскі р-н**

1. в. Лылойці. Плоская Соф'я Іосіфаўна, 1945 г.н. Дамуць Алена Іванаўна, 1944 г.н. (Смаргонскі р-н, 1);
2. в. Лылойці, Драгун Яўгенія Міхайлаўна, 1928 г.н. (Смаргонскі р-н, 2);
3. Казакевічаў хутар. Казакевіч Валянціна Андрэеўна, 1925 г.н. (Смаргонскі р-н, 3);
4. г. Смаргонь, Савіцкая Яніна Іванаўна, 1930 г.н. Родам з в. Белая (Смаргонскі р-н, 4).

**Свіслацкі раён**

1. в. Новы Двор. Курыловіч Ніна Фядосаўна, 1937 г.н. (Свіслацкі р-н, 1);
2. в. Плюскалаўцы. Марцуль Вольга Барысаўна, 1926 г.н. (Свіслацкі р-н, 2).

**Астравецкі р-н**

в. Альхоўка. Міхновіч Марыя Іосіфаўна, 1927 г. н. (Астравецкі, 1).

### Гродзенскі р-н

1 в. Гліняны. (Гродзенскі, 1);
2 в. Квасоўка (Гродзенскі. 2).

### Іўеўскі р-н

в. Лацеўка. (Іўеўскі, 1).

### Карэліцкі р-н

1. в. Медзвядка. Кідрон. Я.Ф. (Карэліцкі, 1);
2. в. Беражна (Карэліцкі, 2).

### Лідскі р-н

в. Бая́ры Смалу́цкія (Лідскі, 1).

*Т.М. Трухан*

## ЛЕКСІКА ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

**АБДО́ЛЕЦЬ** *зак.* Адóлець. *Як абдоляе сон, то тады паспіць маці, а так звечара ніяк ні можэ заснуць.*

**АБО́РВАЦЬ** *незак.* Абворваць. *Пачаў жнеўнік араць, аборваць еты стажок, ён стаяў нідалеко ат хлявушніка.*

**АДНАЛЕ́ТАЧКА** *ж.* Пра галінку дрэва, якая расла адзін год. *Куцік нарэзаў жменю адналетачак да ў сябе шчапляў.*

**АПЕ́ШАЦЬ** *зак.* Стаміцца ад работы. *Рас, што гарэлка, ва-фтарых, што ён як самашэдшы гарцаў, мабіць, ужэ апешаў, хадзіўшы за канём.*

**АПІНА́ЦЬ** *незак.* Абапяць. *Парнікі нейкіе садзіць летам, відаць, апінае плёнкаю, што добрэ ўсе расце.*

**АПТАКА́РША** *ж.* Аптэкарка. *Аптакарша сказала, што на Урэччы таблеткі бацькі есь.*

**АШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Адшчапіць. *Раз неяк ашчэпваў вароццы, да ніяк не мог ашчапіць, так і ўпаў каля іх.*

**БАБА́К** *м.* Вялікая крапінка на матэрыі. *Я ў бабакі панабірала і ўсякіх, і белых пададзіяльнікаў.*

**БАЛЬШАВА́ТЫ** *прым.* Не вельмі вялікі. *У іх там бальшавата хата і ўсім места хапало.*

**БЛЯШНЯ́ВЫ** *прым.* Неяркі. *Бабы панабіралі хусток, але бляшнявые, а гетые – больш празрыстые цвяткі.*

**БО́БАЧАК** *м.* Круглая крапінка на хустцы і матэрыі. *Беражок пачці незаметны ў хусцы і бобачэк па ўсёй.*

**ВАДВЕ́ДКІ** *мн.* Адведкі. *Як маладзейшые былі, то хадзілі ўсё ўрэм'е ў ватветкі.*

**ВАЛКАВА́ТЫ** *прым.* Сыраваты. *Валкаваты яшчэ палавік быў, а ты зняла, не дала дасохнуць.*

**ВАРЫ́ЎШЫ** *дзеепрысл. Я кашу варыўшы паспытала – гэта не мая каша – вельмо гарчыць.*

**ВО́ЖАГ** *м.* Дзяржальна вілак і качаргі. *Зрабіўса, страшно пазіраць, як той вожах у кіёх.*

**ВО́ПТАМ** *прысл.* Оптам. *Яны мо дзе бяруць гетые платочкі воптам, а бабуляк гетых абманьваюць.*

**ВЫ́БРАЦЦА** *зак.* Знайсці магчымасць зрабіць. *Цэлэ лето ў вотпуску, а ні выбраліса і дранікаў зрабіць.*

**ВЫ́МАТНІЦА** *зак.* Выпрацавацца. *Столькі выматніцца ў калхозе, а колькі дома? Як тое серцэ яшчэ і трывае.*

**ВЫСАКО́** *прысл.* Высока. *Высако нясесса, да ніско сядзеш – ні ад дурного прыкаска.*

**ВЫ́САДКІ** *мн.* Летняя гароднiна, пасаджаная для насення вясной. *Трэба на вачах садзiць высаткi, што як iдзеш, каб i бачыў.*

**ВЫ́СВІСТАЦЬ** *зак.* Высушыць. *Як пагода з ранку, то вецер высвiстае жыто.*

**ВЯЛІ́КО** *прысл.* Многа. *Гаспадар харошы i нерваў нi страцiла з iм наша Надзя вялiко.*

**ГА́ДКА** *прысл.* Дрэнна. *Крапiла проці ветру, дак гадко было, але дзе ты дзенесса. Лiчы, як чатыры разы картошку перабрала.*

**ГАРЭ́ТНЫ** *прым.* Гаротны. *Гарэтные былi скрозь дзецi.*

**ДВО́ЯЧКО** *мн.* Двайняты. *Я мо ездзiла ў ватветкi к Мiшы, двоячко як адно, а вочкi чорные-чорные, а воласы белянькiе-белянькiе.*

**ДЗЕСЯЦЬ** *лiч.* Дзесяць разоў. *У дзесяцёх вадах просо перамыла, нейкае чорнае зямлi шмат, нейдзе на тарфу расло.*

**ДО́ЛЯ** *ж.* Лёс. *Дзе сем, там i доля ўсем, а дзе адна, там i долi жадна́ – я як малая была, тымi гадамi гаманiлi.*

**ЖУКАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Добра гарэць, палаць (пра дровы). *Так напалiла печ на патрашанкi, што вада ў чагане клякочэ, а так дровы жукацелi.*

**ЗАБО́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Псавацца. *У часнаку чорные месцiнкi, я шчытаю, што ён будзе забольваць.*

**ЗА́МАЛАДЗЬ** *прысл.* У маладыя гады. *Нi кайся рано ўстаўшы i замаладзь замуж выйшаўшы* (прык.).

**ЗАРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Адчуць востры, калючы боль. *Падняла мусар i зразу зарэзаласа вока, я думала, мо што папало ў глаз, а, мабiць, што мусар цяшкi паднiмала.*

**ЗАСЦІЛА́ЦЦА** *незак.* Пакрыцца зверху смятанкай. *Вяршок, што засцiлаецца, як у банку нацадзi малака, Надзя, мабiць, нi здымае.*

**ЗА́СУХА** *прысл.* У сухое надвор'е. *Нi на свеце, як засухо картоплi выбраць, дай цёпло, дай добрэ.*

**ЗАЎСЯГДА́** *прысл.* Заўсёды. *Заўсягда ж жыто раней i не жалi, як да Іспаса, бывае ж дажджы перарываюць.*

**ЗА́ЦЯПЛО** *прысл.* Цёпла. *Старые поркаюцца ў дварох, пакуль засухо i зацяпло.*

**ЗБА́БЕЦЬ** *зак.* Струхнець. *Хай збабее бяроза, да сама пакоцiцца, той на дрова не будзе.*

**ЗВІХ** *м.* Зрушэнне касцей у суставе. *У мяне нейкi звiх быў у правум плячу, ат пляча наростае на грудзi.*

**ЗДАРО́ЎКАЦЦА** *незак.* Вiтацца. *Ён здароўкаецца са мною, гамонiць.*

**Е́ТЫ** *займ.* Гэты. *Етые ча́сы i нi бачыла Алёшку, дало i iм па хвасту.*

**КА́ЛЬВАЧАК** *м.* Асобна ўзятая расліна, калiва. *Па дном кальвачку разарвала маркоўку, яна мо ўзышла патом яшчэ.*

**КАРА́ВЫ** *прым.* Вельмi брудны. *Прыехала з бальнiцы, то толькi мiскi каравые былi, а ў тумбачцэ нi трусня, нi лусня.*

**КЕ́ШКАЦЦА** *незак.* Марудна рабiць. *Што ён кешкаецца ля машыны, хай iдзе павячэрае.*

**КО́ЎЦІК** *м.* Глыток. *Я толькi адзiн коўцiк вады халоднае выпiла.*

**ЛАПУШЫ́ЦЬ** *незак.* Прагна есці. *Толькі лапушыць бацько цыбулю с картошкаю, як нажару цэлу скавараду глыбоку.*

**ЛА́ЎКІ** *мн.* Вокладка ў кнізе, сшытку і г. д. *Лаўкі сабе ўзяла, трэба атрэзаць і зрабіць сабе блакноцік.*

**ЛАХМАЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Стары, паношаны, падраны. *Адна бялейша гардзіна, но, мабіць, лахмацейша.*

**ЛАХМАЧЭ́ЙШЫ** *прым.* Вельмі лахматы. *Прынясі ватнікі, каторые лахмачэйшые, пад ногі, добрэ на колянцах картоплі перабіраць.*

**ЛЕ́ТА: ЛЕ́ТО ЛЕ́ЦКЕ**. Усё лета. *Лето лецке ні купляем чаркі малака – носяць Гараськавых.*

**ЛЕ́ТАЧКА** *н. памянш.* да лета. *Усе летачко добрэ курэй карміла, дак і нясліса.*

**ЛЕ́ЦЯЧКА** *н. памянш.* да лета. *Ні на свеце як лецечко: і цёпло, і добрэ.*

**МАКАНУ́ЦЬ** *зак.* Апусціць ў што-небудзь вадкае. *Прыбягуць свінье, рас макануць і пашлі дрыстаць, а цяпер, як сталі есці – аш пабялелі.*

**МАРАЗІ́ЛАЎКА** *ж.* Маразілка. *Добрэ ў маразілаўку таркаваць маркоўку на цэлу зіму, суп вары дай кідай. Яшчэ ў банацыэ тая, трэба выкінуць, каб месца ні займала.*

**МАЎЧЛІ́ВЫ** *прым.* Маўклівы. *Фенін Андрэй ўвесь бацько, ён маўклівы да злосны.*

**МАХНУ́ЦЦА** *зак.* Прайсці побач. *Накурыцца, што як махнецца, то дыхаць німа чым.*

**МІНАВА́ЦЦА** *незак.* Праходзіць міма. *Будзе мінавацца с табою і ні абзавецца, будто і не знае цябе.*

**НАДРАБІ́ЦЬ** *зак.* Дробна насячы. *Надраблю, надраблю сякеркаю курам травы – добрэ.*

**НАПО́РА** *ж.* Напор. *Адна рука лічы: ні памыць, ні зварыць – нічого на свеце. Усе ш больша напора на правую руку.*

**НАПІВА́ЦЦА** *незак.* Наліваццa. *Напіваецца жыто, а якраз суша была, то жыта цяпер ні будзе.*

**НАСТОЙЧЛІВЫ** *прым.* Настойлівы. *Як скажа, то як тапаром атрубіць, яна настойчліва.*

**НАЎЛЁТ** *м.* Навылет. *Мы наўлёт і абагналі ўсе рады, роўно палучыласа.*

**НЕЎРАЛО́Г** *м.* Неўролаг. *Я ў неўралога была, дак ён мне назначыў добрые таблеткі.*

**НІВА́РТНЫ** *прым.* Вельмі слабы. *Ведае, што я нівартна, то кожны рас пазвоніць.*

**НІГО́ДЗІН** *займ.* Ніводны. *Як ён расказвае, як трэба жыць, то так нігодзін ні выдзяржыць.*

**НІНАДЗЕ́ВАТЫ** *прым.* Новы (пра адзенне). *Узяла с сабою тую, што нінадзевату сарочку вяліку.*

**НІЎВЯРО́ДА** *ж.* Прысл. Няцяжка. *Ідзі засцялі пасцель мужыку, ніўвярода табе.*

**НІЧАВО́** *прысл.* Нічога. *Ізразу ні брала есці нічаво, штоб ні давалі, а далей дзянёк за дзянёк і з'ела кусочак м'яса.*

**ПААБМАКА́ЦЬ** *зак.* Вымакнуць. *Дак вы ждалі і датузаліса там, пакуль паабмакалі, што рубца не было сухого.*

**ПААПШМО́РГВАЦЬ** *зак.* Сашморгаць. *З маркоўкі лапачкі паапшморгваю, што вырываю, і ўсе сякеркаю перасяку, і курам.*

**ПАВЫВАРО́ЧВАЦЬ** *зак.* Вывернуць унутранай часткай наверх. *Бацько ўзяў напільнік да вялізных дзірак панарабляў, навыварочваў іх, а Куцік добрую тарку зрабіў.*

**ПАВЫКУПО́ЎВАЦЬ** *зак.* Выкупіць. *Павыкупоўваюць цяпер і дачы, і землі.*

**ПАДДА́ЦЦА** *зак.* Паменшыць. *Так паддаецца сало, калі і с сабою ўзяць, і дома есці.*

**ПАДКРЭ́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Пакрапіць з усіх бакоў. *Я етым насосам дак трошкі знізу і зверху лісты паткрэпліваю.*

**ПАДО́ЛЯЦЬ** *зак.* Здолець. *Я ўжэ і ні падолела гетаго лісціка піць таблеткі.*

**ПАДРА́Д** *прысл.* Без разбору. *Бацько есць ўсе падрат.*

**ПАДРУ́ЧНЫ** *прым.* Вельмі зручны. *Падручная была каструля: я ў ёй кісель варыла і кампот.*

**ПАЛЕ́МЗАЦЬ** *зак.* Нехаця паесці. *Палемзаў кабанчык трошкі і пайшоў.*

**ПАНАВО́ЖВАЦЬ** *зак.* Шмат навезці. *Яны зімачку гной цягаюць, штаблі панавожваюць.*

**ПАПАДПО́РВАЦЬ** *зак.* Падпароць знізу. *У мяне такая палачка востра, я папатпорваю ўсе, перамяшаю, пайду камбікорму вазьму патсыплю.*

**ПАПАДРАСТА́ЦЬ** *зак.* Падрасці. *У Тамары хлопцы ўжэ пападрасталі, дак яны памагалі сянаш вазіць.*

**ПАПЕРАСЦІ́РВАЦЬ** *зак.* Перамыць. *Я палаценцэ пасцірала, кажэ Феня, а нявестка ўсе паперасцірвала.*

**ПАПРЫБІРА́ЦЦА** *зак.* Прыбраць збажыну с поля. *Улетку мышы большу часць на полі, а як папрыбіраецца с поля пашня – тады ў будынак.*

**ПАПРЫГАТАЎЛЯ́ЦЬ** *зак.* Падрыхтаваць. *Я папрыгатаўляла ўсе: і плёнку гэту жыто жаць.*

**ПАРУШО́К** *м.* Парушынка. *Цяпер я папрэбувала парушок выняць з глаза, мо сілы німа варочаць языком кругом вока ў Каці.*

**ПАСЛЕ́ДНІ** *прым.* Апошні. *Мы с табою дзелімса с паследнім, а ты прынесла хлеб і схавала – мама на нявестку гаманіла.*

**ПАТО́ЛЯ:** дава́ць пато́лю. Даваць вольнасць. *Прынясе і ён кашэль картошкі, німа чаго патолю даваць.*

**ПАЎДЫХА́ЦЬ** *зак.* Паздыхаць. *Паўдыхалі вельмі быстро пацукі ад серай атравы.*

**ПАЎСХВА́ТВАЦЦА** *зак.* Тэрмінова ўзыйсці. *Мо за трое сутак і паўсхватваласа маркоўка, я воду палівала і ў латочкі.*

**ПАХО́ЖЫ** *прым.* Падобны. *Толя даўней ні быў так пахожы на брата, а счас выліты брат: і нос такі, як у брата, толькі глаза святлейшые.*

**ПАЧУЖА́ЦЦА** *зак.* Стаць чужымі. *Пачужаліся пляменнікі, а раней былі, як мае дзеці, асобянно Міша.*

**ПЕРАМЯНЯ́ЦЬ** *незак.* Пераступаць. *Перамяняць ногі не магу, толькі што суну.*

**ПІСАНІ́НА** *ж.* Тое, што напісана. *Дзень на нагах, дай пісаніны хапае.*

**ПО́ДЛЕТАК** *м.* Падлетак. *Яшчэ подлеткам была – к цёццэ Ганне хадзіла.*

**ПРАЗАДЗЕ́ВАТЫ** *прым.* Разадзеты. *Празадзеватые былі ўсе на свадзьбе і ўсе начальство.*

**ПРАЛАТКАВА́ЦЬ** *зак.* Нарабіць радкоў. *Я села на калені і драпачыкамі, як там атходзіла ета Жэнька, дзе картопельку перасадзіць, а дзе ні рассадзіць, а я драпачыкамі пралаткавала, села на калені, знайду картопельку, адграбу, тады садзіла етые радкі.*

**ПРО́ЦЯГ** *м.* Працяг. *Гэтые бацюшкі расказваюць, дак ва ўсіх голас с процягам.*

**ПРЫВЯДЗЁНАК** *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Так бы як і з дзіцем бярэ, то прывядзёнак кажуць.*

**ПРЫ́ЛЯГА** *ж.* Сырасць. *Прылягаю нясе, як скрыню адчыніла с адзежаю.*

**ПРЫДУМО́ЎВАЦЦА** *незак.* Прыдумвацца. *Я ўжэ думала пра буракі сто разоў, прыдумоўваласа.*

**ПРЫТЫХА́ЦЦА** *незак.* Псавацца (пра прадукты). *Прытыхаецца яйцо, доўго ні дзяржы, хоць яно і варанэ.*

**ПРЫХО́ДЖВАЦЦА** *незак.* Спатрэбіцца. *Усе ў скрыню паўкідаюць да ляжыць, мо яшчэ прыходжваецца.*

**ПУ́ПАНАЧКА** *ж.* Пупышка. *Ізразу пашлі пупаначкі, як пачала кусты паліваць.*

**ПУСЦІЦЬ: НІ ПУСЦІЦЬ РЭЧЫ**. Нічога не сказаць. *Адно за пазычкі грошай, я нідзе нікому ні пусціла рэчы.*

**ПЫНІ́ЦЬ** *незак.* Рабіць усё неабходнае па гаспадарцы. *Сястра ўсё ля хазяйства, яна ўсё хазяйство пыніла ў іх.*

**ПЯЦЬСО́ТКА** *ж.* Пяцьсот рублёў. *Пяцьсотка была і там ужэ мелач у кішэні.*

**РАБАЦЯ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі працавіты. *Тутачка там тожэ адна была, дак етаго тканаго ў яе да ўсяго, тая рабацяшчая была, дак яна такая была.*

**РАДЗІ** *прысл.* Дзеля. *Я радзе дзяцей каня дзяржу, а так бы я то і ні дзяржаў.*

**СА́ДЗІЦЬ** *незак.* Садніць, шчымець. *Сёдне ў разінавых башмачках была, дак пальцы і цяпер са́дзяюць.*

**СКАВАРО́ДКА** *ж.* Невялікая скаварада. *Начаваў у нас жыд (анучнік) і мне алюміневу скаваротку даў: снедаў, вячэраў.*

**СКІНУЦЬ: ЯК ВО́КАМ СКІНУЦЬ** Пра вялікую прастору. *Машын столька ў горадзе, як вокам скінуць.*

**СЛАБО́ДНЫ** *прым.* Вольны. *Ён прывязе коням паўвоза саломы, падсцеле і ён слабодны. У гэту слабодну хату прынялі яе з дзіцям.*

**СЛЕПАВА́ЦЕНЬКІ** *прым.* Не зыркі (пра хустку). *Цяткі на хусцэ слепаваценькіе, ні такіе, штоб яркіе.*

**СМО́ЛЬНА** *прысл.* Уважліва, старанна. *І кажацца, так смально і памаленьку хадзіла, і так прыглядаласа, а лічынкі есь.*

**СПРАКЦІКАВА́ЦЦА** *зак.* Праверыць. *Я сягоння спракцікуюса за колькі я заеду с Пагоста.*

**СПУ́СЦІСТА** *прысл.* З нахілам. *Трэба заліць гэту разорку, штоб спусцісто было, а то Аляксей ішоў і паваліўса.*

**СТАРА́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* Старанны. *Той малы, а старацельны, усе на свеце, як мятлою мяце.*

**СТРУГА́ЦЬ** *незак.* Ляскаць зубамі. *Адно парася дак стругало зубамі, просто жывот балеў, мабыць.*

**СЦЕ́РЦІ** *зак.* З'есці. *Бацько ўсё сцёр, ён на яду лёхкі, трэ і ўсё.*

**СЯМЯ́НАЧКА** *ж.* Насенная бульба. *Невялікіе картошачкі, як сямяначкі.*

**ТРА́НТЫ** *мн.* Старое, паношанае адзенне. *Кабат на кабат адзяе, усе транты пазбірае. Клятчаты плашч наверх адзела да ў ботах, як зімою.*

**ТРОХСЦЕ́НЕК** *м.* Прыбудова з трох сценак. *Там жэ хацінка і сенцы, і тады трохсценек прыкінуты, як хлявец.*

**ТРУДЗЯ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі працавіты. *Тамара агонь на работу, вельмо трудзяшча.*

**ТУ́ГА** *прысл.* Цяжка. *Падняць вядро вады на заслон мне ўжэ туго.*

**УВЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Знявечыць. *Піла, піла таблеткі, пакуль серцэ ўвечыла.*

**УДЗВЕ́ЙГУ** *прысл.* У дзве столкі. *Хустачка сырая будзе, удзвейгу павесіла.*

**УДЗВЁХ** *прысл.* Удзвюх. *Добрэ ўдзвёх сабраць картоплі, як араць, а зямля, што камень, дош спляскаў.*

**УЗБУЦІ́ЦЬ** *зак.* Узбунтаваць, ускруціць. *Нічыста сіла ўскруціла, ўзбуціла яго, задавіцца дзе яшчэ.*

**УПЕ́РАД** *прысл.* Раней. *Ён уперат казаў, што у масле, да ў смятане купаюцца.*

**УСЯГДА́** *прысл.* Заўсёды. *У мяне карыто ўсягда сухое нанач. Глаўна, што б ні закісало нічого, каждаму нада догляд.*

**УХОД** *м.* Уваход. *Два ўходы ў дом: з вуліцы дарошка і атсюль, як у хлёў.*

**ХА́ЦІНКА** *ж.* Невялікая хата. *Купілі тую хацінку, а я ні ведаю, хто там жыў і што было ў той хацінцэ.*

**ЦВЕ́РДЗЯ** *ж.* Цвёрдая паверхня зямлі. *Бач, якая цвердзя, а гетэ зелле лезе і лезе і сямян з яго свет.*

**ЧЭ́РАДА** *ж.* Чарада. *Пагнала карову ў калхозну чэраду, да стало нядобрэ, а яна ж здаравяцка, дарма што кашчава.*

**ШАМАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Утвараць лёгкі шум. *Рукавіцы панадзяюць і шамечаць ў рукавіцах.*

**ШАПТАНУ́ЦЬ** *зак.* Шапнуць. *Ніна прышла да шаптанула ёй, і яны пабеглі.*

**ШВІ́ДКІ** *прым.* Увішны, хуткі. *Яна сухая, а швітка, лятае на аборы, што пятнаццаць гадоў.*

**ШУГАНУ́ЦЬ** *зак.* Праляцець. *Годы, што тые птушкі, птушачка шугане і года нету.*

**ШЧЭ́ПАЧКА** *ж. перан.* Вельмі малая таблетка. *Шчэпачкі, такіе таблеткі піла.*

*Г. Юрчанка*

## ТРАПНАСЦЬ НАРОДНАГА СЛОВА

Скарбы народнай мовы без пераўвелічэння невычэрпныя. Народ знаходзіць самыя трапныя, самыя дакладныя і выразныя азначэнні асобы, прадмета, з'явы, якасці. У ёй выразна праяўляюцца словатворчыя законы. Народная мова пастаянна служыла і працягвае служыць глыбокай, надзейнай і ўдзячнай крыніцай папаўнення мовы літаратурнай. У гэтай падборцы змешчана лексіка, якую ў паўсядзённым жыцці выкарыстоўваюць жыхары Мсціслаўшчыны.

**АБАРА́ЧЫВАННІК** *м.* Той, хто перакульвае (часцей воз). *Ні знаюць абыра́чывыннікі, што нада пірядок пывярнуць к сабе, а абыра́чывыць ну другей бок.*

**АБАРО́Т** *м.* і *ж. перан.* Пярэварацень. *Ты мне ні рысказывый, я сыма хырашо знаю, якей Кургузёнык абарот.*

**АБВА́Р** *м.* Аблітае кіпенем месца на целе. *Астарожнінька нясі чугунок, а то лінеш ны нагу – абва́р дужа балючый.*

**АБЗЫВА́ЦЕЛЬНА** *прысл.* Крыўдна. *А Міша ны мяне гаворіць абзыва́цільна.*

**АБЗЫВА́ЦЕЛЬНЫЙ** *прым.* Крыўдны (пра называнне). *Пеця ўсякія абзыва́цельныя словы знаіць і на ўсіх гаворіць.*

**АБЛЁТЫВАЦЬ** *незак. перан.* Асыпацца. *Што ж вы хочыця, позныя ўремя, лісьця пычына́іць аблётывыць.*

**АБЛО́ЖЫЦЦА** *незак.* Ператварацца ў аблогу. *Пырядышна зямлі абложыцца, і ла́дныя зямлі, можна б пыхаць, дык ні пашуць.*

**АБРАБО́Т** *м.* Апрацоўка. *Усякыя зімля абработ любіць, як вы́дзілыіш, і іна адзьдзя́чыць.*

**АБРО́ЦЦЕ** *н. зб.* Аброць. *Кучу аброцьця накі́дылі, як тут сваю найці́ць, ні пріду́мыіш.*

**АБСАЛАМО́НІВАНІЕ** *н. іран.* Абгаворванне. *Іхнія апсыламонівыньня ўсім ныдаела як горькыя редзька.*

**АБСЯВА́ЦЦА** *незак. метаф.* Заводзіць шмат (дзяцей). *Што яны сабе думыюць, апсіва́юцца мальгвою, за імі глядзець ды глядзець нада.*

**АХЛАМО́НІЯ** *ж.* Неарганізаваная кампанія. *Як сыбярецца ахламонія, зь іх толька людзі нысьмяю́цца.*

**АШМУ́Р** *м.*, **АШМУРЭ́НІЕ** *н.* Ачмурэнне. *Ны цябе нейкій ашму́р ываліўся, што ты ніяк ні рызьбяресься, куды ехыць. Усё дно як ашмуренія найшло на етыга чылавека, нічога яму ні ўталку́іш.*

**БА́БІШЧА** *ж., павеліч.* Мажная жанчына. *Прівёз ба́бішчу за ўсю акругу, тута некыму зь ёю рыўня́цца.*

**БАЛАЧЫ́НІНА** *ж.* Асобнае воблака. *Зра́ньня дужа пагодзілыся, а цяперя былачы́ніны ныця́гывыюцца.*

**БАНДЗЁЖ** *м.* і *ж.* Бандытызм. *Узноў бандзёж пашоў, людзі рызбалывыліся, некыму зы пырядкым глядзець. Помніш, ікая тады баньдзёж пычылася, с хаты страшна було рухнуцца.*

**БА́НЧЫНА** *ж. зніж.* Лазня. *Ікая ні ба́нчына, дык свыя, ні нада нікога прасіць, нікому кла́ніцца.*

**БАСЯЧКА́, БАСЯЧКО́М** *прысл.* Басанож. *Пы лажку́ бысічка́ прыбіжыцё січас цёпла, толька рыса. Ета цяперя ўсё ў вобуві, а мы і ў горыд бысячком бегылі.*

**БЕСПАШЧА́ДНА** *прысл.* Моцна (балець, пахнуць). *Гываріла, жалудык біспышча́дна баліць. На двор ні ўзыйціць, біспышча́дна прутухлеў.*

**БЕСПРЫЮ́ЦЦЕ** *н.* Беспрытулле. *Ныдаела яму ў горыдзі біспрію́цьця, сыгласін у дзяреўню вярнуцца, а жонка ні ў якыю.*

**БЕСПЯРЭ́ЧА** *прысл.* Без пярэчанняў. *Кузьмовічу толька прікінь слова, ён бісьпяреча падойдзіць і паможыць.*

**БЕ́СТАЛАЧ** *ж.* Бесталкоўшчына. *Ай, у іх усігда бе́стылыч тварі́лыся, некыму пырядык навесьць.*

**БІЛЯБЕ́НІЦЦА** *незак.* Балбатаць. *Кылы Дзямі́дывых сядзелі кучыю, пра нешта доўга білябеніліся.*

**БЛЫТЫКА́ННЕ** *н.* Швэнданне. *Мой сьвёкыр дужа ні любіў блытыка́ньня, ны Мацьвея глядзеў і ўсё лаіўся.*

**БО́НДАЧКА** *ж. гумар.* Таўстуха. *Тыкая бондычка зьдзелылыся Кацька, паспробый абыйдзі яе.*

**БРУЗЛАВА́ТЫЙ** *прым.* Крыху распаўнелы. *Брюзлава́тый стаў Аўхімёнык, ходзіць і пыхціць, чуць здышыцца.*

**БРЭ́ЙНА** *ж.* Лёс. *Наша брэйна – усё сядзі і сядзі кылы двыра, куды ты ста́рысьцю дужа вы́пыўзіш.*

**БУГРАВІ́СТЫЙ** *прым.* Бугрысты. *Айдзе бугрявістый луг, там касіць дренна: глядзі, усодзіш касу і злумаіш.*

**БУКА́ЦІК** *м.* Таўстунок (звыч. пра жывёлу). *Рыскармі́лі, бука́цік бычок стаў, к свадзьбі зьбіраюцца резыць.*

**БУКІРА́ЦЬ, БУКІРА́ЦЦА** *незак.* Класціся. *А чаго ім ні букіря́ць, ці ў іх коз воз. Ета яшчэ панскыя пародзьдзя, букіря́юцца посьлі абеда.*

**БУРДЫ́КАННЕ** *н.* Паданне, перакульванне. *І бурды́кыньня пыка́зываіць, што яго здароўя ні к чорту годна.*

**БУРДЫ́ЛЬ** *м. перан. іран.* Маленькая пабудова. *Стыяў у яго бурды́ль – гніленькыя ха́цінка аршын на сем.*

**БЯЗДЗВІ́ЖНА** *прысл.* Нерухома. *Ікая зь яе была жы́цілка: бязьдзьвіжна шэсьць гадоў атлежыла, ён яе дыглідаў.*

**ВА́ДЗЕННЕ** *н.* Мулянне, перашкода. *Любому б ныдаела такоя ва́дзіньня, усігда помніш пры калю́чкі.*

**ВАЕ́НШЧЫНА** *ж.* Вайсковая служба. *Мой адбува́ў ваеншчыну дужа далёка, у гыря́чый пустыні, за сьветым.*

**ВАЗГРЫ́ВА** *прысл.* Брудна, напэцкана. *Як жа ня будзіць вазгріва, калі адны рукі ны такоя хызя́йства!*

**ВАЛЬТАНУ́ТЫЙ** *дзеепрым.* Адурманены. *Залоўка яе ходзіць нейкыя выльтану́тыя, як сьвет пыціря́ўшы.*

**ВАЛЬТАНУ́ЦЬ** *зак.* Адурманіць. *Вас етыя вічарінкі саўсім выльтану́лі, другога зыня́ція ні находзіця.*

**ВАРТО́ВЫЙ** *прым.* Добры. *Ей пупаўся вартовый мужык, прыжыла́ за ім, як зы ка́мінныю гарою.*

**ВАРЫ́ГАННЕ** *н.* Няўклюдная хада. *З маім вары́гыньнім ні ны свадзьбу іціць, а ў якоя-небу́дзь балота.*

**ВАСЦЯВЫ́Й** *прым.* Асцюковы. *Ічмяні́ ўсе высьцявы́я, пышаніцы ні такея, ну троху і ў іх восьці ёсьць.*

**ВЫЛАПЛЯ́СТЫЙ** *прым.* Лупаты. *Ішоў Кындрацёнык сы сваім зяцім с косымі, тэй вылуплястый-вылупля́стый.*

**ВЫ́ЛЯДЗЕЦЬ** *зак.* Паправіцца. *Зы прайшоўшыю нядзелю Асташонык вы́лідзей, ходзіць пы хаці.*

**ВЫ́ПУСТАШЫЦЬ** *зак.* Зрабіць пустым. *Тэй раз дужа злэй пыжар ува́ліўся і вы́пустышыў дзяреўню.*

**ВЫ́СЕЛАХНЫЙ** *прым.* Выселены. *Тама была цэлыя дзяреўня вы́сілыхных, яе дычка зы такога і замуж выйшла.*

**ВЫЧЫШЧА́ННЕ** *н. перан.* Выключэнне з калгаса. *А што, тады вычышча́ньня быяліся: вы́чысьцюць, за ка́рык і пагонюць.*

**ВЫЯЗДЖА́ЦЬ** *незак. перан.* Высоўвацца. *Нешта твае кылячкі́ ня хочуць дзіржа́цца, усё ўремя выіжджа́юць.*

**ВЯРТУ́Н** *м.* Непаседа. *Ах, якей ты вярту́н, пысядзі ціха хуць адну мінутычку.*

**ГАДЗЮ́КА** *м.* і *ж.* Шкадлівая істота. *Што зы гадзю́ка кот, ён табе ўсе гаршкі, усе міскі абла́зіць, хочыш – гырла́ч ські́ніць.*

**ГА́КАЦЦА** *незак.* Падаць, ударацца. *Ні раз яны га́кыліся зь дзеріў, насы паб'юць, абатру́цца і ўзноў кыра́бкыюцца.*

**ГАЛАВА́ТЫЙ** *прым.* Разумны. *Аніс быў гылыва́тый мушчына, прайці́ць яго нікому ні ўдыва́лыся.*

**ГАЛАДУ́ХА, ГАЛАДО́ЎЛЯ** *ж.* Голад. *На Віцібшчыні тыкая была гыладу́ха, мы тама́ чуць жывэя пыастыва́ліся. А мы, думаіш, меншы гыладо́ўлі нацерьпіліся, хваці́ла і з нас усяго.*

**ГА́ЛАЧКА** *ж.* Цэлая звараная бульбіна. *Ну пылажы адну га́лычку, я есьць дужа ні хачу, як ішоў сюда, троху пірікусі́ў.*

**ГАЛУ́ЗАВАННІК** *м.* Свавольнік. *Добрыга слова галу́зывыньнік ні пыніма́іць, ну поймiць рімушок.*

**ГАЛУ́ЗІЦЬ, ГАЛУ́ЗНІЧАЦЬ** *незак.* Сваволіць. *Што-што, а галу́зіць яны ўмеюць луччы некуды. Калі вы ні піріста́ніця галу́зьнічыць, будзіць вам крепкыя пручуха́нка.*

**ГА́МНУЦЬ** *зак. жарт.* З'есці. *Садзі́сь-ка, садзісь рядым, січас мы га́мнім куляшу.*

**ДЗЯ́ДЗІШЧА** *м.* Вялікі мужчына. *Ішла Дані́ліна Ве́рка сы сваім мужуком, – во ета дзя́дзішча: са́жня пуўтыра́ ростым і ў плічах са́жынь.*

**ДРАБНЮ́ТКА** *ж.* Дробная істота. *Драбню́ткі пырыся́ткі, ім ба яшчэ пару нядзель нада пыц цыцкою пабыць.*

**ДРУ́ЖНЫЙ** *прым.* Кампанейскі. *Іхімёнык быў дру́жный старік, любіў пысядзець, пыгывconfigure і ач ча́ркі ні атка́зывыўся.*

**ДРЫ́НКАТ** *м.* Бязладнае бразганне. *Нейкій дры́нкыт я чула на вуліцы, ну ў вакно ні глядзела.*

**ДУХАВЫ́Й** *прым.* Араматны. *Ліцо мыць я ўсігда купляю духавы́й брусочык, ім прія́тна мыць.*

**ДЫ́БКАЦЬ** *незак.* Ісці няўклюдна. *Маімі ныгамі ды́бкыць – адно горя, лёг ба і ліжаў ні пыдніма́ючыся.*

**ЗАБУРЧА́ЦЬ** *зак. перан.* Упасці з шумам. *Сядзела, сядзела, клюва́ла носым, а тады як зубурчы́ць сы скамейкі!*

**ЗАВА́Л** *м. перан.* Вялікая колькасць (пра працу). *Калі я ў тоя Бялі́шчына вы́біруся, у мяне кажный дзень зыва́л работы.*

**ЗАГРО́БА** *м.* і *ж.* Хапуга. *Во зыдыла́ся загрёба, усё б хвыта́ла, цягну́ла, ніяк яе жы́льля ні нысыта́іцца.*

**ЗАГРЫ́БЧЫЦЬ** *зак. жарт.* Злавіць. *Ніяк Лыўрінок ні пацэліцца загрі́бчыць цябе, ну калі-небудзь ты пупадзесься.*

**ЗАЙГРА́ЦЬ** *зак. метаф.* Паехаць. *Мы думылі, яны пыстыя́ць мінутычку, а яны ў машыну і зыйгра́лі к Сяльцу.*

**ЗАКАЗЫРКА́ЦЬ** *зак.* Пачаць дагаджаць. *Быў зыкызырка́ў пірід Кісялём, а тады відзіць, што нічога ні пулуча́іцца, пірістаў.*

**ЗАКАМЫ́РНІК** *м.* Ганарлівец. *Ні люблю я зыкамы́рнікаў, яны нясуць сябе дужа вісока.*

**ЗАКРЫВАНО́ЖЫЦЬ** *зак. гумар.* Пайсці (пра крываногага). *Твой старэй зыкріваножыў пуц Сутокі, – што яму там нада.*

**ЗАКУСТО́ЎНІК** *м. асудж.* Каханак. *Ета вешный быў зукустоўнік, ну ныхадзі́ліся дры́нды, што цігаліся зь ім.*

**ЗА́ЛЕСЦЬ** *ж.* Рэдкі лес. *Тэй кусочык доўга ні пыха́лі, дык засела за́лісьць, большы бярезьнічык.*

**КАВАЛЕРЫ́СТЫЙ** *прым.* Ганарлівы. *Хлыпца́мі яны былі дужа кывалерістыя, пірядзь дзеўкымі вун як нясьлі́ся.*

**КАЖЭ́ЎНЯ** *м.* Майстэрня па апрацоўцы скур. *Не-а, мы ў кажэўню нічога ні здыва́лі, аўчы́ны вазілі за Сож.*

**КА́КАЦЕНЬ** *м.* Сукаваты кавалак дрэва. *Такей кыхацень нада яшчэ раз пініпіліць, цэлый яго ні рызаб'еш.*

**КАКО́РА** *м.* і *ж.* Друзлая асоба. *Зы пасьледнія ўремя Луцэіна дычка́ стала какора, як бочка.*

**КАЛІ́-КАЛІ́** *прысл.* Некалі. *Калі-калі́ і я дыбяруся ды Бізручонкывых, пыталку́ім пра жызьню.*

**КАМЭ́ДНЫЙ** *прым.* Дзівакаваты. *Хадоска была камэдныя стыра́я: прінясець палычку з дарогі: "Глядзі́ ж, глядзі́, дзетка, укінь у печ!"*

**КАРТА́ВЕЦ** *м.* Картавы чалавек. *Як ста́ніць турлы́чыць Просін кырта́віц, нічога ні рызьбяру.*

**КАРЧАМЯ́КА** *ж.* Корч. *Ага, такую кырчымя́ку паспробый рыскалí, німáла сілы пыкладзеш.*

**КАСТРАВА́ЦЬ** *незак.* Складваць (дровы). *Пысядзелі і хвáціць, пойдзім дровы куструвáць, нада к вечыру кончыць.*

**КАЧУ́ЛКА** *ж. метаф. жарт.* Поўная дзяўчына. *Тыкая качу́лка разьдзелылыся Сашкіна дычка, толька пыдывай жыніхоў.*

**КАШЫ́РАННЕ** *н.* Займанне пэўнай тэрыторыі. *Ці відзіш, якоя кашы́рiньня ў Мікіты: пылавіну Ганьніныя усáдзьбы атхвапіў.*

**КО́БЛА** *н. асудж.* Кодла. *У іх сваё кобла, адзін зы аднаго уго як ця́гнуць, скажы-ка проця каторыга слова.*

**КРА́ЕМ** *прысл.* Абавязкова. *Крáім ідзі ў горыд, солі ні шчэпця ні астáлыся, будзіш нясоліныя есьць.*

**КРАПЯ́К** *м.* Фізічна моцны чалавек. *Кріпя́к пыдрыстáіць у Кыныстрáціхі, увесь у дзеда пашоў.*

**КРАСІВУ́ШЧЫЙ** *прым.* Вельмі прыгожы. *Ета крысіву́шчыя былі хлопцы. Крысіву́шчую хату пыставілі.*

**КРАСНЯ́ВЫЙ** *прым.* Чырванаваты. *У Кірея ўсігда ліцо було крысьня́выя, мы яго хырашо помнім.*

**КРАХАТУ́ЛЯ** *м.* і *ж. гумар.* Дробная асоба. *Як жа яго крыхату́ля, ці пымыгáіць што сьвякрові?*

**КРЫВАБРУ́ХІЙ** *прым. абразл.* Тоўсты, нязграбны. *Мне ваш крівабрю́хій жаніх саўсім ні нада, я аб яго дайжа ногі вы́цірць ні хачу.*

**КРЫВАРО́Т** *м.* Чалавек з крывым ротам, са скрыўленым тварам. *Лáдзін ёй будзіць і кріварот, сыма іна ны каго паходжа?*

**КУКАРО́КА** *м.* і *ж.* Нязгрэба. *Нейкыга кукарёку ёй пыкáзывалі ны бызáрі. Ён гатоў і кукарёку свáтыць.*

**КУЛАПЭ́ЗІСТЫЙ** *прым.* Такі, які вычварае. *Мысяёнык тожа быў кулапэзістый, зь яго німала чаго тварíлыся.*

**КУЛДО́БІСТАСЦЬ** *ж.* Каляіністасць. *Машыны рызьмясíлі, тыкая кулдобістысць, глядзі, калёсы піряверну́цца.*

**КУРАПЭ́ЧАННЕ** *н.* Капрыз. *А што яму Сашкіна курапэчыньня, ён ны яе ня дужа і глядзіць.*

**КУРДУ́ПЕЛЬ** *м.* Нізкарослы чалавек. *Сахвеін курду́піль цэлыя раньня рыспысьцірáўся на пункці зу трудадні́.*

**ЛАЖБІ́НКА** *ж. памянш.* Лог. *Каб выкысіў тую лажбі́нку, што к лугу, тама ядомыя трыва.*

**ЛАЛА́** *ж. неадабр.* Балбатня. *Дай толька сыйціцца, як пычанецца іхнія лылá, няскора кончыцца.*

**ЛАПЫ́РЫЦЬ** *незак. асудж.* Гультаяваць, красці. *Год лапыріў тута, у цёткі сядзеў, а посьлі некуды з'ехыў.*

**ЛЕМЯНТО́ВА** *прысл.* Добра. *Ныўряд ці палучыцца ў яго лімянтова шкáпчык прідзелыць.*

**ЛЮДЗЕ́ЦЦА** *незак.* Рабіцца культурным, выхаваным. *Як паезьдзіў па сьвету, стаў людзецца, у дваре стырікáм пымыгáіць.*

**МАЗУ́РЫК** *м.* Злодзей, ашуканец. *А разьві меншый мазу́рік быў твой пляменьнік, на ім жа шкура гарела.*

**МАЙСТРЫ́ЦЦА** *незак.* Ладкавацца. *Курей нехта нупужаў у пу́нькі, дык мыйстря́цца ны я́блынкі нучува́ць.*

**МНАГАВА́ЦІСТА** *прысл.* Мнагавата. *Мнугува́ціста ён зы свайго сіньнічка́ просіць, зы такея грошы можна лу́ччыю каро́ўку купіць.*

**МЫ́МРЫК** *м.* Мымра. *К нам ны вічарі́нку часта прібіга́ў мы́мрік зырічáнскій.*

**МЯЖДЖУ́РАННІК** *м.* Той, хто прагна есць. *Якей жа Цітанок мяжджу́ріньнік, есьць і ніяк ні нысыта́іцца.*

**МЯМЛЕ́ННЕ** *н.* Невыразная гаворка. *У Міці ўсігда такоя мя́млiньня, двух слоў ні зьвяжыць як нада.*

**НААКАЛЯВА́ЦЦА** *зак.* Доўга памерзнуць. *Як ныакыліва́іціся ладна, тады будзіця знаць, ці нада надзіва́цца.*

**НААХЛАМО́НІЦЬ** *зак.* Зрабіць неакуратна, няўмела. *Папомніш маё слова, што і Шыўчанкі ня меншы ныахламонюць.*

**НААЧУМЛЯ́ЦЬ** *зак.* Моцна атлуміць. *Ныачумля́лі вы бабу дык ныачумля́лі, а ну вас г богу!*

**НАБАБУ́ХАВАЦЬ** *незак.* Накладаць звыш меры. *Нашто було столька ў я́сьлі ныбабу́хывыць, карова пылаві́ну мордыю вы́вірнула.*

**НАБАРАЗНІ́ЦЬ** *зак.* Нагаварыць нібы ў непрытомнасці. *Пры Кыныстрацёнка ім нечыга Аўрамыў сын ныбыразьні́ў.*

**НАБАРАХО́ЛІЦЬ** *зак. неадабр.* Напляпузгаць, напляткарыць. *Такей пустадом можыць любэя лухты ныбырахоліць.*

**НАБЛЮ́СЦЬ** *зак.* Наберагчы. *Многа іна нублюла́ сваe капейкі, трі разы́ змыха́лыся ў горыд і німа кароўкі.*

**НАБРУ́ХАЦЦА** *зак.* Шмат выпіць. *Набрю́хыліся халодныя вады пряма зь відра лі калодзіжа, як у іх горлы ні зыбыля́ць!*

**НАБРЫГАДЗІ́РНІЧАЦЬ** *зак.* Папрацаваць брыгадзірам. *Сколька твой Мікіта ныбрыгадзі́рнічыў, са ўсёю дзяреўнію апасты́ліўся.*

**НАБУ́СІЦЬ** *зак. жарт.* Нацалаваць. *Ніяк ні набу́сііць Каця свайго дырагенькыга.*

**НА БЯГУ** *прысл.* Бегучы. *Калі тама було рызгыва́рівыць, ныбягу́ два словы скызала і скарей ны калёсы.*

**НАВАЛХВІ́ЦЬ** *зак.* Напялегаваць. *Столька нывалхвілі ету сваю ніныгля́дныю, што ні пріду́мыць.*

**НЕЦЯРПЯ́ЧКА** *ж.* Нясцерпнасць. *Нейкыя ніцірьпя́чка ны цябе нывалі́лыся, цэлый дзень рызьбіра́іць.*

**НІКУДЫ́ШНА** *прысл.* Дрэнна, нікуды не варта. *Нікуды́шна зрубліна ла́зьня, дзірькі сьвіця́цца.*

**НЯЗНА́ТНЫЙ** *прым.* Непрыкметны. *Тута нізна́тныя пя́тнушкі, калі ні знаіш, што былі, дык і ні замеціш.*

**НЯМІ́РНЫЙ** *прым.* Незвычайны. *Тэя гады сьнягі былі нямі́рныя, ціряс крышы езьдзілі.*

**НЯСЦЕ́РП** *м.* Нецярпенне. *Пысядзі, пысядзі спакойна, дужа цябе нясьцерп рызьбіра́іць.*

**НЯЎДО́БСТВА** *н.* Нязручнасць. *Із-за таго няўдобства, што ты ніяк лесьвічку ні пачы́ніш.*

**НЯЎКЛЮ́ДНІК** *м.* Няўклюда. *Сірьгяёнкыў зяць няўклю́днік-няўклю́днік, ні знаіць, як зы тапор узяцца.*

**НЯЎРО́МІСТА** *прысл.* Неакуратна. *Ты ўсігда дзелыіш няўрёміста, ніяк цябе к пырядку ні прівý чыш.*

**ПААБЧЫКРЫ́ЖЫВАЦЦА** *зак. жарт.* Паабразацца, абстрыгчыся. *Як пыапчыкры́жывыліся, так і ла́дна, хуць лахмоцьця ні вісіць ныд вычáмі.*

**ПАБАМБІ́ЗІЦЬ** *зак.* Паблукаць у бяздзейнасці. *У харошыга бацькі ні пыбамбі́зілі б столька ўремя.*

**ПА-БРЫГАДЗІ́РАВАМУ** *прысл.* Так, як лічыць брыгадзір. *Стыршына скызаў, каб було пы-брігадзі́рывыму, ён харошый хызяін.*

**ПАГА́ЛІЦЦА** *зак.* Выявіць жаданне. *Быў пыга́ліўся іціць сь цёткыю, а тады не, ні пайду, – і ні пашаў.*

**ПАДА́ГАЦЬ** *зак.* Пабегаць з тупатам. *Пыда́гылі пад вокнымі як коні, а посьлі ні знаю, айдзе дзеліся.*

**ПАДПУ́ЖЫВАННЕ** *н.* Палоханне. *Ні́кыга патпу́жывыньня яны ні быяцца, скарей самі путпужа́юць каго хочыш.*

**ПАДСАЛАМО́НІВАННЕ** *н.* Нагаворванне. *Піліпу яшчэ большы пыпсыламонівыньня ныдаела.*

**ПАДСКРАБА́НЕЦ** *м. іран.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Рызба́лывыўся Мархвін пыцскріба́ніц, нікога ў рязон ні бярець.*

**СУРА́ДЖЫВАЦЬ** *незак.* Рыхтаваць, збіраць. *Як пычалі яго суря́джывыць, дык пыд абеды чуць кончылі.*

**СЧАХА́ЦЬ** *незак.* Худзець, мізарнець. *Шчыха́юць бедныя дзеці біз мылыка́, матка ніпуцёвыя, ра́зьві нілізя́ кыравёнку дзіржаць?*

**ТАПТУ́Н** *м. гумар.* Няўмелы танцор. *Туптуны́ выйшлі на круг, дайпя ім наскыка́цца.*

**ТАРАДЭ́ІЦЬ** *незак. неадабр.* Весці пустыя размовы. *Нешта Сашкіна кума тырадэіла пры Высілёнка, ну яе, я ня слухыў, пашоў.*

**ТАРА́НЧЫЦЬ** *незак.* Балбатаць. *Доўга тыра́нчылі кылы Дывыдзёнкывых, усё ўспымін́али ста́рыга Шулюка.*

**ТРОП** *м.* Балбатня. *Мы мінутку паслухылі іхній трёп ды пашлі скарей двору.*

**УБО́ЙНІК** *м.* Неслух. *Чаго етый ма́ліп такей убойнік, каплі нікога ня слухыіць.*

**УДА́РЫВАЦЬ** *незак. метаф.* Заляцацца. *Твой Жэнік ці ні ўда́рівыіць зы піря́днінскыю Анюткыю.*

**УКА́СЫВАННІК** *м.* Той, хто ўмешваецца. *Воць Сірьгяёнкывыму ука́сывыньніку ні нада було б у тую кашу міша́цца.*

**УЛА́МЫВАЦЬ** *незак. метаф.* Угаворваць. *Доўга ім прішлося ўла́мывыць Максіма, ён як зыкапы́ліць грібы́ – а ні поцступу.*

**ХАПУ́Н** *м. перан.* Стары звычай: раз у год у пэўны дзень хапаць дзяўчыну для любоўных пацех. *Рыска́зывалі, што быў нейкій хапу́н, хвыта́лі дзевык, ну ета було раньшы, я ня помню.*

**ХІТРУ́ННІК** *м.* Хітрэц. *Я знаю, якей ты хітру́ньнік, усігда што-небудзь сьхітру́іш.*

**ХЛЫ́НКАЛА** *звыч. м.* Бадзяка. *Не, сколька вы ня жджы́ця, дык ат хлы́нкылы работы ні дыжджыцёся.*

**ЦЁЛКА** *ж. перан. гумар.* Дзяўчына. *Нугудува́лі цёлык, толька жыніхоў пыдыва́й.*

**ЧАБУРДЭ́ХАЦЬ** *незак.* Ліць адразу. *Усё раньня чубурдэхылі ваду із аднае ямкі ў другую.*

**ЧАМАДУ́РЫЦЬ** *незак.* Праяўляць тупасць, упартасць. *Нечыга чумаду́ріць, кляпі касу ды касіць пойдзіш са ўсімі.*

**ЧУХВА́ЛЬЧЫНА** *ж.* Накідка. *Вун чухва́льчыну ўські́нуў на плечы і ладна, ікая табе крысыта́ нада.*

**ЧЫКА́НІЦЬ** *незак.* Есці, грызці. *Кырма́н быра́нік накладзець і пабег на вуліцу, там чыка́ніць.*

**ЧЫНЕ́ННІК** *м.* Той, хто начыняе каўбасы. *Пат поўныч вазіўся чыненьнік, ну ўсё мяса пычыні́ў.*

**ШАБУЛДЫ́ХАННІК** *м.* Той, хто з шумам кідаецца ў ваду. *Даўно пабеглі шубулды́хыньнікі, іх ат речкі ні атыгнаць.*

**ШЛЁНКА** *ж.* Авечка сілезскай пароды. *Я тожа думыю завесьць сабе шлёнык, яны на воўну нічога.*

**ШНА́РАННІК** *м.* Той, хто шукае таемна. *І што Аўгінкіныму шна́ріньніку нада ну чужом дваре, ой, рызба́лывыўся хлопіц!*

**ШТУРХА́Ч** *м.* Той, хто штурхаецца. *Уніме́сь-ка, штурьха́ч, а то табе нійдзе места ні находзіцца.*

**ШУГАВЕ́Й** *м.* і *ж.* Разявака. *Шугавей ты, шугавей, ты ж ба перша падумыў, чым лухту́ верзьць.*

**ШУГНУ́ЦЬ** *зак.* Парывіста падзьмуць. *Ета ж веціp так шугну́ў у комін, поўныя хата дыму ат ветру.*

**ШУР** *м.* Ганянне. *Ня дужа яны твайго шу́ру спужа́ліся, распу́сьнікі.*

**ШУРА́ННІК** *м.* Той, хто ганяе. *Ну што етый шуря́ньнік дзелыіць, нашто яму ку́ры!*

**ШУРАНУ́ЦЬ** *зак.* Рашуча пагнаць, прагнаць. *Калі ня ў ду́хі, зь ім трудна рызгыва́рівыць: можыць шуряну́ць, што пя́ткі зыдрынча́ць.*

**ШУРСЛІ́ВЫЙ** *прым.* Шурпаты. *Цаўё пулучы́лыся шурсьлі́выя, ты яго сьцякельцым пачы́сьці.*

**ШУХВА́Л** *м.* Рызман. *Такей шухва́л нікуды ні надзеніш, яго дайжа тря́пышнік ці возьміць.*

**ШЧЫПЦІ́ННІК** *м.* Шыпшына. *Во ты шукаў шчыпці́ньніку, тут бальшэй куст сядзіць, а вун другей.*

**ЯРУНДО́ВІСТА** *прысл.* Дрэнна. *Ірундовіста яму хату зрубі́лі, ета халодныя плотнікі.*

*М.А. Даніловіч*

## З ДЫЯЛЕКТНАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У падборку ўключаны фразеалагізмы, запісаныя ў 2000 – 2006 гг. пераважна ад сельскіх жыхароў розных раёнаў Гродзенскай вобласці. Фактычны матэрыял здабыты аўтарам метадам назірання, а таксама ў працэсе непасрэднай гутаркі з інфармантамі. Часткова выкарыстаны запісы, зробленыя пад нашым кіраўніцтвам студэнтамі ў час дыялекталагічных практык. Асноўны крытэрый адбору фразеалагізмаў і фразеалагічных варыянтаў – адсутнасць іх у слоўніках літаратурнай мовы. Звярталася ўвага таксама і на тое, каб у падборку не трапілі фразеалагізмы, адзначаныя ў нашым “Слоўніку дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны” (Гродна, 2000).

**АБЛУПІЦЬ ЯК АСІНКУ** к а г о. Поўнасцю, начыста абрабаваць, абабраць, абчысціць каго-н. *Ні ўсьпеў ад’ехаць раней, то аблупілі яго як асінку, раскулачылі.* Пілкі Маст.

**А БОЖАЧКІ МАЕ.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Аднаму пагадала – і ўсё праўда, другому – праўда. А Божачкі ж мае, так кожну картачку і перазнала.* Лаздуны Іўеў.

**АБЫ ДЗІСЬ ДЗЕНЬ** у к а г о. *Неадабр.* Ніякага клопату пра будучыню. *У Адама абы дзісь дзень, а заўтра як Бох дасьць. Ні думая, каб надалей было.* Пеляса Воран.

**АБЫ З РУК ВОН**. Вельмі нядбала, недабраякасна (зрабіць што-н.). *Ніколі па-люцку ні зробіць – абы з рук вон.* Эймінаўцы Бераст.

**АВЕЧКА З МЯСТЭЧКА.** *Асудж.* Някемлівы, няўважлівы чалавек. *От авечка зь мястэчка! Глядзі пільней!* Малі Астр.

**АДЗІН ПЕНЬ ГАРЭЎ ДРУГІ ЗУБЫ ГРЭЎ.** Далёкая радня. *Аляксандар даводзіцца ёй ці дваюрадным, ці траюрадным братам, адным словам, адзін пень гарэў другі зубы грэў.* Ёдкі Лід.

**АДНАЕ СУКІ ДЗЕЦІ.** *Асудж.* Такія самыя, аднолькавыя. *Вой, які Стась ціпер стаў. Сьпіўся – страх. Падабнюткі да Анэлі. А чаго ш ты хочаш – аднае су́кі дзеці.* Амбілеўцы Шчуч.

**АДНАМУ ПАНУ БОГУ ВЯДОМА.** Няясна, невядома. *Прагрэс ідзе, але ш да чаго дойдуць, аднаму пану Богу вядома.* Вялікая Бераставіца Бераст.

**АДНЫМ РАЗАМ.** Вельмі хутка (зрабіць што-н.). *Наліла кубак малака, то адным разам выпіў.* Дукойні Ашм.

**АДНЭЙ ХАЛЕРЫ** к а м у. Не мае значэння, усё роўна каму-н. *Яму ўжэ аднэй халеры, ці жыць, ці паміраць.* Пракопавічы Гродз.

**АДНЫ ЧАРЫ ЗАСТАЛІСЯ** а д к а г о. Хто-н. вельмі схуднеў, зблажэў. *Паеш вазьмі, ат цябе адны чары засталіся.* Куцэвічы Карэл.

**АДУРА НА ГОЛАЎ.** Што-н. вельмі клопатнае, надакучлівае. *Ужэ старая, сама ні можа, патрэбна ёй гэта аду́ра на голаў.* Самуйлавічы Маст.

**АД СЦЯМНА ДА СЦЯМНА.** Цэлы светавы дзень. *Хоць было мало зямлі, але біс хлеба ні былі дзеці, ні галадалі і самі, хватало ўсяго, рабілі ат сьцямна да сьцямна, як біс працы німа каляцы.* Мацвееўцы Ваўк.

**АЖ ОЧЫ НАВЕРХ ПАЛЕЗЛІ** ў к а г о. Хто-н. вельмі моцна спалохаўся. *Як увідзяў яго, у міне аш очы наверх палезьлі.* Слабада Астр.

**АЖ ПЯТЫ ЗАБРАШЧАЛІ.** Вельмі хутка (пайшоў, пабег). *Як далі яму, та пайшоў аш пяты забрашчалі.* Падлабенне Гродз.

**АНДАРАК У ЗУБЫ.** Сабрацца (і...). *Гэта Ганулья андарак у зубы і бяжыць бягом да дарогі, думае, мо што зрабілася ў хаці.* Замасцяны Шчуч.

**АРШЫНАМ МЕРАЦЬ** к а г о. Біць, лупцаваць каго-н. *Сваю жонку чуць ні кожны дзень аршынам мерая, і як яна церпіць.* Зэльва Зэльв.

**БЕЗ АГНЮ АЛАДКІ ЖАРЫЦЬ.** Рабіць што-н. без неабходных умоў, сродкаў, прыладаў працы. *Ну й выбраўся ў поля, матычкі нават ні ўзяў, будзя біз агню алаткі жарыць.* Крэва Смарг.

**БЕЗ НОГ.** Вельмі стомленым, ледзь (прыйсці). *Бяс нох прышла дахаты з грыбоў, так зацягалася за дзень.* Пеляса Воран.

**БЕЗ ХВІГІ НЕ ПАДЫДЗЕШ** д а к а г о. *Іран.* Хто-н. ганарысты, фанабэрысты, задавака, зазнайка. *Гэта такі начальнік, да яго біс хвігі ні падыдзяш.* Гарадзішча Воран.

**БЕЛЬМАКІ НА ЛОБ ВЫЛЕЗЛІ** ў к а г о. *Груб.* Хто-н. вельмі моцна здзівіўся. *Такоя ўбачыў, што аш бяльмакі на лоп вылязьлі.* Поразава Свісл.

**БІЗЮКІ ВЫЛУПІЦЬ.** *Груб. Сама вінавата, ты ш ні дала ні слова ўставіць, наляцела, як шалёна, бізю́кі вылупіла, страх пагляцуць было. А тэрас я вінавата.* Амбілеўцы Шчуч.

**БІНДЫКІ МАЯЦЬ.** *Асудж.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *А ён тылько бі́ндыкі мая, нічого ні хоча рабіць.* Эймінаўцы Бераст.

**БОЖА Ш МОЙ БОЖА.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Калі ехалі да шлюба, вос чуць ні перавярнуўся, куфар мой аткрыўся – гэта ні павязе, значыцца, маладым. Ну й што, так і жыла, як выходзіла. Аж Божа ш мой Божа, хто ведаў, як лепяй.* Дубаўцы Ваўк.

**БОЖА ШЧЭЖ.** *Выкл.* Выказванне засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Ніхто ні ведая, як там што было, але назаўтра найшлі ўсіх гэтых Вайцюлёў парэзаных, Божа шчэж, крыві поўхаты, хоць рандэлькам вычэрпвай.* Шутавічы Смарг.

**БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) НА ГРУДЗІ.** Піць, выпіваць (спіртное). *Мы й так, і гэтак, а ён ніяк ні́ бярэ на грудзі, кажа, ні пю; Ой учора ўзялі на грудзі, хай яго халера, яшчэ й ціпер ні магу прысьці да сібе.* Новая Руда Гродз.

**БРОНЬ (БРУНІ, БРЫНЬ) БОЖА.** *Выкл.* Выказванне перасцярогі ад чаго-н. непажаданага. *У тваёй мацяры, маё ты дзіцятко, адзінаццаць было, а ўсе і дагледжаныя, і ніхто благого слова, бронь Божа, ні скажа.* Райца Карэл. *Там паролі трэскай, каб Божа бронь, якое балота.* Гродзі Ашм. *На сталох зафша, дзеткі мае, хватала ядзеня. А ведаяце вы, чаму, бо ўсе смагла і добра працавалі на сваёй зямельцы. І не пілі людзі. Бруні Божа, як тэрас.* Енчы Воран. *Цяшка было адной дзяцей гадаваць. А брынь Божа вас, дзеткі, ат такой долі.* Гнезна Ваўк. *Сала, жыру брынь Божа ні елі ў пост.* Званкі Свісл.

**БРУХ МАРМОЧА** ў к а г о. Каму-н. вельмі хочацца есці. *У міне ўжо брух мармоча, бо з раня нічогі ні еў.* Пеляса Воран.

**БУРКАЛЫ ВЫРАЧЫЦЬ.** *Груб.* Глядзець здзіўлена шырока адкрытымі вачыма. *Што бу́ркалы вырачыў?! Ні бачыў хворага чалавека, то паўзірайся!* Дзешкаўцы Свісл.

**ВАЗІЦЬ ЖЫДОЎ.** Седзячы, матляць спушчанымі ўніз нагамі. *Ні вазі жыдоў, сядзі спакойна, а то толькі вецяр па хаці ганяяш.* Бародзічы Зэльв.

**ВАРУШЫ БАТОНАМІ.** *Фам. Ідзі хутчэй. Варушы батонамі, а то наступлю на пяты!* Лелюкі Іўеў.

**ВАРУШЫЦЬ ПАРШНЯМІ.** Спяшацца ісці. *Трэба быстрэй, бо без нас пачнуць. Варушы паршнямі!* Навасады Свісл.

**ВЕЦЕР ПАД ШАПКАЙ ГУЛЯЕ** ў к а г о. *Неадабр.* Хто-н. неразумны, някемлівы, бесталковы. *Знайшлі каго слухаць, у яго яшчэ вецяр пат шапкай гуляя.* Алекшыцы Бераст.

**ВОЙ ЛЮДЗЯЧКІ.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў: здзіўлення, захаплення, абурэння і інш. *Штосяка прыехалі гэтыя тоўстыя кіньдзюкі з раёна і пазабіралі ўсё, што было: гоўца, каровы, курэй, гусей. Я, кажа, прасілася – не рушце нічога, а яны не ўслухаліся. Вой людзячкі! А што-то, скажытыся, нарабілася.* Забагонне Зэльв.

**ВОЧЫ З АРБІТЫ ВЫЛЕЗЛІ** ў к а г о. Хто-н. вельмі моцна здзівіўся. *Калі ўбачыла міне с хлопцам, у яе вочы з арбіты вылязьлі.* Жытомля Гродз.

**ВОШ ПУСЦІ ТО ЗНОЙДЗЕШ.** Вельмі рэдкая трава, усходы і пад. *Дзе табе будзя тоя малако, калі гэта паша – вош пусьці то знойдзеш.* Пеляса Воран.

**ВУЖАКА НА ЯЗЫКУ НЕ ЎСЕДЗІЦЬ** у к а г о. Хто-н. вельмі гаваркі, дасціпны. *У маёй цёткі вужака на языку ні ўседзіць, любому дасьць здачы.* Воўпа Ваўк.

**ВЫВЕСЦІ ДА ЛЮДЗЕЙ.** Дапамагчы каму-н. заняць трывалае або высокае становішча ў жыцці. *І от пражылі ўсё жыце, і дзетак вывелі да людзей.* Ціхаволя Свісл.

**ВУГЛЫ АБСІКАЦЬ.** *Абразл.* Не прымаць актыўнага ўдзелу ў чым-н. (звычайна ў танцах). *Чаго ты ходзіш у той клуп? Ты ш ні танцуяш нават, адно вуглэ апсікаяш.* Райца Карэл.

**ГАВАРЭЦ МЕЛЯШОЎСКІ.** *Неадабр.* Чалавек, які гаворыць павольна, расцягнута. *Гэты гаварэц меляшоўскі як пачне цягнуць, от нудна слухаць.* Ваўкаўцы Лід.

**ГАРБУНКА ЗДЫМАЕ** к а г о. *Неадабр.* Хто-н. моцна крычыць. *Чо це гарбу́нка здымая, чаго ты крычыш немым голасам?!* Ліцвінкі Гродз.

**ДАВАЦЬ ГАНЬБУ.** Адмаўляць каму-н. пры сватанні. *Васілько гэта мне й кажа, што запытаў у бацькі дазволу браць мяне ў жанке. Бацька так яму сказаў: да Мані ганьбы не даю, алешака яна малы пасаг мае.* Васілевічы Сл.

**ДАВАЦЬ НА ЗАПАВЕДЗЬ.** Рэгістравацца ў царкве ці касцёле для ўступлення ў шлюб. *На другую суботу паехалі, далі на запавецъ і згулялі васэля.* Попішкі Астр.

**ДАВЕСЦІ ДА ЛЮДУ** к а г о. Дапамагчы каму-н. заняць трывалае ці высокае становішча ў жыцці. *Выгадавала дзетак, давяла да люду, цяпер на пеньсі, гадую ўнукаў і праўнукаў.* Малыя Сцяпанішкі Маст.

**ДАЙ БОЖА РАДЫ.** Вельмі многа. *Рабілі дай Божа рады.* Гальшаны Ашм.

**ДА ХАЛЕРЫ.** 1. Вельмі шмат. *Верачка і Зойка ўсё каля міне. Памагалі гарот палоць, да халеры цыбулі мы кожны гот садзілі.* Дубна Маст. 2. Вельмі. *А Сьцяпан быў хлопцам красівым, да халеры красівым.* Бярозаўка Лід.

**ДАЦЬ ДРАПУ.** Уцячы. *Зразу даў драпу, як убачыў дзяцьку.* Куляшы Шчуч.

**ДАЦЬ СВЕНТЫ СПОКУЙ** к а м у. Адчапіцца ад каго-н., не назаляць каму-н. *Дзеці, дайця мне сьвенты спокуй, і без вас кругам галава йдзе.* Кадыш Гродз.

**ДАЦЬ У ГРЫЗЛЫ** к а м у. Пабіць, пакараць каго-н. *Так даў Васілю ў гры́злы, што той лець ачуняў.* Падольцы Астр.

**ДЗЕНЬКУЯ БОГУ.** Вельмі добра. *А Тадзюк нават на ровар быў забыўшыся, успомніў пра яго ночай дый думаіць: "Дзенькуя Богу, што ногі ўвалок, а то магло быць і горай".* Падольцы Астр.

**ДРОТ ЗАВЯСЦІ** д з і к у, д з і к а м. *Жарт.* Застрэліць. – *Дзікі ў бульбу ходзяць, рады німа. – Трэба ім дрот завясьці. Ні знаяш, што рабіць. Вазьмі стрэльбу, патпілнуй, і больш хадзіць ні будуць.* Бабіна Гродз.

**ДУСІЦЬ КАМАРА.** *Гумар.* Спаць. Дзеда ні відаць, таму што дусіць камара ат абеда. Канвелішкі Воран.

**ДУШУ СТРАВІЦЬ.** Расхваляваць, растрывожыць. *Прыйшла тут, душу стравіла, што хочаш, то і рабі.* Ганчары Лід.

**Ё-МАЁ.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *О ё-маё, сколькі траціць на мяне грошай гасударства.* Жытомля Гродз.

**ЗА ДАЛЁКІ СВЕТ.** Далёка. *Я, як маладою была, то хадзіла, кап навучыцца крою да адной удавы. Хаця й далекавата яна жыла, але ш і хадзіла за далёкі сьвет.* Равіны Карэл.

**ЗА ДЗЕНЬ НЕ АБЫДЗЕШ** к а г о. *Іран.* Хто-н. вельмі тоўсты. *Гэта баба, як гара, яе за дзень ні абыдзяш.* Карэлічы Карэл.

**ЗАДРАЦЬ ХЛЮБАЎКУ.** *Асудж.* Важнічаць, несці сябе высока. *Такі ўжэ ганаровы, задраў хлю́баўку і ходзіць, як пятух.* Масаляны Бераст.

**ЗА КАЖДЫМ РАЗАМ.** Рэгулярна, кожны раз. *Часто ў яе зьбіраліся бабы сь сяла. Глаўно, набіралі с сабой работы, сьпіцамі плёнтаць, вышываць, маткі матаць. Дзяўчаткі мае за каждым разам бегалі.* Сурынка Сл.

**ЗАКРЫЦЬ СВОЙ ВАФЕЛЬНІК.** *Груб.* Замоўкнуць. *Закрый свой вафельнік, халера старая, усюды табе дзело!* Скідзель Гродз.

**ЗАЛІЦЬ ЗЕГРЫ (ЗРЫНЫ).** *Груб.* Напіцца спіртнога. *А ціпер сьпіўся мужык. Бывая, што нядзелямі п'яны ў дыміну. Зальє зегра і тады ляжыць логма.* Дубна Маст. *Ніхто гэтых жадных шэйгаў ні знаў – пастануць і дрыгаюцца. Што тут за красата? Гэта маладзёш зрыны пазалівая. Не, некалі так не рабілі.* Лаздуны Іўеў.

**ЗАЛІЦЬ КІРЗАЧЫ.** *Асудж.* Напіцца спіртнога, знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення. *Што, зноў кірзачы заліў, нічога ні бачыш!?* Заполле Шчуч.

**ЗА МІЛЫ БОГ.** Вельмі настойліва (прасіць). *Я цібе за мілы Бох прашу, ні кажы толькі нікому пра гэта.* Алекшыцы Бераст.

**ЗА НЕМЦАМ (ЗА НЕМЦАМІ).** У час нямецкай акупацыі, у перыяд з 1941 па 1945 гады. *Я за немцам і замуш вышла, але маяго мужыка на вайну сразу забралі.* Гарнастаевічы Свісл. *За немцамі людзі страдалі. Да вайны мелі кусок на калёнях, і лепяй было рабіць, уражай быў лепшы.* Старынкі Шчуч.

**ЗА ПЕНКНЭ ВОЧЫ.** Бескарысліва, дарэмна, выяўляючы толкі сімпатыі да каго-н. *Ні за пенкнэ вочы ён яе ў жонкі хацеў браць.* Поразава Свісл.

**ЗА ПОЛЬСКІМ (ЗА ПОЛЬСКІМІ, ЗА ПАЛЯКАМІ).** У часы польскай улады, у перыяд з 1921 па 1939 гады. *Раскажу, як за польскім жылі, якія гаспадаркі былі.* Петрымаўшчына Іўеў. *А я за польскім пацалавала старосту ў ногі, то ўзяў у гаспадарчую школу.* Галубы Маст. *Помню, у школу хадзілі. Чатыры закончыла. У першы клас пашла за польскімі, перашла ў другі за польскімі.* Кордзікі Бераст. *Помню, як у школу пашоў, пашоў я за палякамі, а кончыў пры саветах.* Бердзікі Ваўк.

**ЗА СЕМ ДУРНЫХ.** Вельмі напружана, высільваючыся (працаваць). *Рабіў за сем дурных. Двоя коней, і арэ – пара верня.* Уселюб Навагр.

**ЗГРАКАМ ЛЯЦЕЦЬ** н а к а г о. Нападаць на каго-н., сварыцца з кім-н. *Са сьвякрухай жылі– усё згра́кам на міне ляцела. Пат старасьць памякчэла. Памярла яна, пуста ў хаці стала.* Красулі Шчуч.

**ЗГРАЧОМ У ВОЧЫ ЛЕЗЦІ.** Назойліва прыставаць, дакучаць. *Зграчом у вочы лезя, ні адбіцца ад яго.* Ашмянцы Шчуч.

**З МАЛОГА.** З маленства. *Вучыла маці ўсё рабіць з малого, кап пасьля ўсё ўмелі.* Казловічы Зэльв.

**З МУНДУРАМІ.** Звараная ў лупінах (бульба). *Варылі бульбу з мундура́мі, тады ставілі саладуху, ну такую рабілі мы і елі с халадніком.* Лаздуны Іўеў.

**З СВАІХ ПЯЦІ ПАЛЬЦАЎ.** Сваімі сіламі, з працы сваіх рук. *Замуш вышла тожа за сірату, жыў пры мачасі, памахчы ні было каму, усё с сваіх пяці пальцаў нажывалі.* Навасёлкі Сл.

**З СЯДЗЯЧАГА КАТА** в ы р а с ц і. *Насмешл.* Невысокім, нізкарослым. *Вырас сь сядзячага ката, а да дзевак, глядзі, паткі.* Дзевяткаўцы Ваўк.

**З ЦЕМНА СВЕТУ.** З самага ранку. *Іду на работу сь це́мна сьвету, і так кожны дзень.* Барацін Карэл.

**ІДЗЬ ДА ДУПЫ СПЕВАЦЬ.** *Выкл. Груб.* Вказванне злосці на каго-н., незадаволенасці кім-н. *Атхіліса ты ад маёй галавы! Слухаць цібе ні хачу, іць да дупы сьпе́ваць!* Бабіна Гродз.

**І З БОГАМ НА ТЫ.** Дасужы, разваротлівы, прабіўны хто-н. *Кап жыць, трэба хітрэйшым быць. Во, Валючыха, яна і з Богам на ты.* Ашмяны Ашм.

**ІКОТА ЯГО БЯРЫ.** Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. *А ікота яго бяры, ні прышоў, то хай як хоча сабе.* Алекшыцы Бераст.

**КАБ ПЕРУНОМ ЗАЙШОЎСЯ.** *Выкл. Груб.* Выказванне незадавальнення кім-н., кепскага пажадання каму-н. *Каб ён ужо перуном зайшоўся! Колькі ён мне нерваў перапаліў, гадасьць гэта!* Каркуцяны Воран.

**КАБ ЯГО.** *Выкл.* Выказванне адмоўных адносін да каго-, чаго-н. *Калісь добра было, і не сварыліся, ніхто ні гаварыў, што бедна, а ціпер усё адно трэба за багацтва, кап яго.* Ражкі Свісл.

**КАЛХОЗНАЯ ПРАЎДА.** *Іран.* Той, хто ведае ўсе мясцовыя навіны. *От жа калхозная праўда, нічога ад яе ні ўтоіш.* Малі Астр.

**КІНЬ ДУРНОЕ.** Супакойся, не хвалюйся, не гавары глупства. *Кінь дурноя, будзім жыць, нешта будзіць.* Яцыны Астр.

**КІШКІ МАРШ ТРУБЯЦЬ** у к а г о. Каму-н. вельмі хочацца есці. *Кажды дзень давай табе есьці. Сёньня ні дам, кішкі марш хай трубяць.* Зачэпічы Шчуч.

**ЛАЖЫЦЬ У ЗЯМЕЛЬКУ** к а г о. Хаваць, адпраўляць у апошні шлях каго-н. *Сама срашна дзетак сваіх лажыць у зямельку. Ні дай Бох каму перажыць такоя!* Янапаль Воран.

**ЛЕДВА ШОРЫ ЦЯГАЦЬ.** Быць слабым, знясіленым. *Нарабілася за дзень, што ледва шоры цягаю.* Бібікі Зэльв.

**ЛЕЗЦІ НА РАЖНО.** Рабіць што-н. рызыкоўнае, не думаючы пра вынікі. *Не лесь на ражно, ні заядайся з гэтым п'яніцам, ён жа ўдарыць можа.* Кулёўшчына Маст.

**ЛІХО ЯМУ (ЁЙ, ІМ).** *Выкл.* Выказванне незадавальнення, абурэння, злосці і пад. *А калі немцы прыяжджалі ўначы, то ўсе ўцякалі, бо баяліся, што будуць рэзаць. А яны, ліхо ім, культурныя былі.* Калядзічы Ваўк.

**МАЕШ БЯДУ.** Не хвалюйся, не перажывай, няма падстаў для хвалявання, перажывання. *От, маяш бяду, ні ўтопіцца, умея плаваць.* Пеляса Воран.

**МАЕЮ РУКОЮ.** Моцна, не шкадуючы (біць каго-н.). *Хай у вас пагадуяцца, а як шкоду зробіць, та ні шкадуйця, беця мае́ю рукою.* Бабіна Гродз.

**МАЗГОЎ ШТО Ў КУРЫЦЫ** ў к а г о. *Зневаж.* Хто-н. неразумны, бесталковы. *У яго мазгоў што ў курыцы.* Верцялішкі Гродз.

**МАТКА АПУСЦІЛАСЯ** ў к а г о. Хто-н. вельмі разгубіўся, спалохаўся. *Як пачуў я ад яго гэту навасьць, та ў міне й матка апусьцілася, думаю, канец мне прышоў.* Новая Руда Гродз.

**МЕЦЬ МОДУ.** Быць схільным рабіць што-н. *Мама вельмі перажывала, кап нас немцы за якую шкоду ні пазабівалі, бо ім што ні так зробіш, то ўсё мелі моду растрэльваць.* Алекшыцы Бераст.

**МЕЦЬ ПАВАДЗЭННЕ.** Карыстацца поспехам у каго-н., увагай з боку каго-н. *А Бладысь наш ідны быў, меў павадзэньне ў дзяўчат.* Лаздуны Іўеў. *Хлопцаў ту дужа мела, ладная была, на кожнай вечарыне павадзэне мела.* Навасады Воран.

**МОРДУ КЛІНАМ НОС ТРАМПЛІНАМ.** *Груб.* Заганарыцца, зафанабэрыцца, зазлаваць. *Я ёй сказала, што так нельга рабіць, а яна морду клінам нос трамплінам і пайшла.* Гродзі Ашм.

**НАДУЦЬ ПЫЦУ.** Пакрыўдзіцца, надзьмуцца. *Ну чаго ты ўжэ надула пыцу, што я такоя сказала?* Зэльва Зэльв.

**НА КАНЯХ.** Вельмі злосны, раз'юшаны. *З начальствам пасварылася, то зноў прыйшла на канях.* Зэльва Зэльв.

**НА НАЖЫ ІСЦІ.** Вельмі моцна, рэзка, бескампрамісна сварыцца. *Так пачалі вадзіцца – ні разьняць, на нажы ішлі.* Бялужышкі Воран.

**НА САБАКУ ВЫЙСЦІ.** *Асудж.* Распусціцца, разбэсціцца. *Толку зь яго ўжо мала, ён ужо на сабаку вышаў.* Падольцы Астр.

**НА НЕТ.** Зусім, поўнасцю, дашчэнту. *Дзяўчына якая ладнейша, то цэлы вечар танцуя. Здояць яе хлопцы на нет.* Ціхаволя Свісл.

**НА НОГІ ЎПАСЦІ.** Не магчы хадзіць з-за хваробы ног. *Я кап ні асьлёпла, та яшчэ рабіла п, а дзет зусім ужэ на ногі ўпаў.* Мардасы Шчуч.

**НА ПАМЯЦЬ НАСТАЦЬ.** Успомніцца. *Чаму Усялюп называюць? На памяць настало, людзі казалі: Усялюп – усе любяць тоё мейсцо, таму Усялюп.* Уселюб Навагр.

**НА САБАЧЫЯ ГАЛАСЫ.** Вельмі позна, несвоечасова (пасеяць, пасадзіць што-н.). *Дзіва што малыя буракі, яны вырасьці ні ўсьпелі, бо пасеялі на сабачыя галасы. Пеляса* Воран.

**НА СЁМЫЯ (НА ДЗЕСЯТЫЯ) СУТКІ** д а х о д з і ц ь. *Неадабр.* Не адразу, са спазненнем, з цяжкасцю (усведамляецца кім-н. што-н.). *Да яго даходзіць як да уткі – на сёмыя суткі.* Бародзічы Зэльв. *Ты такі тупы, што да цібе як да вуткі даходзіць на дзісятыя суткі.* Краснасельскі Ваўк.

**НА ТОЙ РАЗ.** Часова. *Анно потым быў перагаворшчык, аўстрыец, ат нас тут быў, вельмі ў немцаў прасіў і атстояў, што людзі добрыя, што німа тут парцізанаў. І гэто нас атпусьцілі на той рас.* Малыя Азёркі Маст.

**НЕ ВУЧЫ СТАРОГА КАТА СМЯТАНУ ЗЛІЗВАЦЬ.** *Незадав.* Не лезь са сваімі парадамі, павучаннямі. *Каму ты гаворыш? Мне, як рабіць? Ні вучы старога ката сьмятану зьлізваць.* Суботнікі Іўеў.

**НЕ ІДУЦЬ РУКІ.** Не хочацца рабіць што-н. *Ні йдуць рукі бураке палоць.* Уселюб Навагр.

**НЕ ПЯРЭЛІЎКІ.** Справы сур'ёзныя ці небяспечныя. *Яны хацелі паплысьці пад мост, ужо відаць, што тут ні пярэліўкі.* Голдава Лід.

**НЕ Ў ДОЎГІ ЧАС.** Хутка. *Так і гадаваліса ўсе разам, калі горш, калі лепей, а ні ў доўгі час бацько таксамо адышоў на той сьвет.* Адэльск Гродз.

**НЕХ ЯГО ПЁРУН.** *Выкл.* Выказванне незадавальнення ці адмаўлення чаго-н. *Нех яго пёрун, як мы досталі. Тата нас пагнаў уперадзе сябе, а мы нясьлі гуркі.* Кямелішкі Астр.

**НЕХ ЯГО ХАЛЕРАЧКА.** *Выкл.* Выказванне незадавальнення ці адмаўлення чаго-н. *Нех яго халерачка з маім жыцям, успамінаць ні хочацца.* Вялікія Масушыны Свісл.

**НІ ГАЎ НІ КУКАРЭКУ.** Ніякой жывёлы (не мець, не трымаць, не гадаваць). *Нашыя настаўнікі ніякай жывіны ні маюць, ні гаў ні кукарэку.* Галубы Маст.

**НІ РУБІНКІ.** Зусім нічога. *Як памерла мама, то мне ні рубінкі ні далі.* Тракелі Воран.

**НІ СЯК НІ ТАК.** *Неадабр.* Недарэчны, несур'ёзны, няварты. *Тады пашла ўжэ на той замуш, той замуш мой некі ні сяк ні так.* Зарудаўе Маст.

**НІЦ САБЕ.** Неблагі, нядрэнны, даволі добры. *Я была дзеўка так, ніц сабе, можно сказаць, нарасхват.* Сухінічы Маст.

**НОГІ АДПУСЦІЦЬ.** Адпачнуць. *Зайшла ў хату ногі атпусьціць, кап потым зноў пайсьці на дзялку.* Руда Яварская Дзятл.

**НЯХАЙ ЯНО ПРАВАЛІЦЦА.** *Выкл.* Выказванне незадавальнення, адмаўлення. *Сем, праўда, многія паканчалі, а больш рэтка хто вучыўся. Удома трэ було рабіць. Ат, няхай яно праваліцца такоя жыця.* Мастаўляны Лід.

**ПАВАРОТ ДА ВАРОТ.** Катэгарычную адмову (даць). *Галава ягоная сусем нічога не варыць. І дала маладая яму паварот да варот.* Хадзявічы Сл.

**ПАД ІГОЛАЧКУ.** Выдатна, найлепшым чынам (падагнаць, дапасаваць). *Я свой паношаны сарафан так падагнала пад іголачку – стаў усё роўна як новы.* Пеляса Воран.

**ПАД ПАЛЯКАМІ.** У часы польскай улады, у перыяд з 1921 па 1939 гады. *Пад палякамі я была, канешно, то я дваццаць чацьвёртага года, а вайна стала ў трыццаць дзевятум.* Вялікія Сцяпанішкі Маст.

**ПАД ХАЛЕРУ.** *Выкл.* Выказванне адмоўных адносін да чаго-н. *Гэта ш Сашык так далёка ягону цэп прыляпіў пат халеру, трэба п было каля дзьверы.* Скідзель Гродз.

**ПАЙСЦІ ПАД ВЯНЕЦ.** Зарэгістраваць шлюб, выйсці замуж. *Рана я замуш выскачыла. Толькі сямнаццаць гаткоў стукнула, як пайшла пад вянец.* Гнезна Ваўк.

**ПАПАСЦІ ПАЛЬЦАМ У СРАЧКУ.** *Груб.* Гаварыць ці рабіць што-н. неўпапад, недарэчна. *Ага, угадала... Папала пальцам у срачку... Ты ш, мусі, як стоўп у гэтай мацімаціцы.* Зэльва Зэльв.

**ПЛЮНЬ ДЫК ЗАШЫПІЦЬ.** Хто-н. вельмі раззлаваны, раздражнёны. *Зь ім ні пагаворыш. Раве, крычыць. Плюнь на яго дык зашыпіць.* Навасёлкі Ашм.

**ПЛЯСКАЦЬ ГУБАМІ.** *Асудж.* Гаварыць пустое, балбатаць. *Што ў яе за работа – пляская губамі з ранку да вечара.* Навасады Свісл.

**ПЕРАЦЯГНУЦЬ ПРАЗ ВОЧЫ.** Ударыць каго-н. чым-н. *Зарас во як перацягну праз вочы гэтым ручніком, то скора ты мне тут апсядзяш.* Косцевічы Астр.

**ПРАЙСЦІ ПРАЗ МЕДНЫЯ ТРУБЫ.** Многа зведаць у жыцці, пабываць у розных цяжкіх абставінах. *Я вялікая мучаніца, прайшла праз медныя трубы, папала мне грэлянка ў губы; спасі, Госпадзі, міне.* Заполічы Свісл.

**ПРЫ ПОЛЬШЧЫ.** У часы польскай улады, у перыяд з 1921 па 1939 гады. *Раскажу вам, дзеткі, як жылі пры Польшчы. Булкі і цукерак ніколі ні ела. У сем гадоў трэбало ў школу хадзіць і каровы пасьвіць.* Галубы Маст. *Так вот, гэта завіўка пры Польшчы натто дораго стоіла: два злотыя.* Андрэевічы Ваўк.

**ПРЫ САВЕТАХ.** У часы савецкай улады. *Калі вучыліся пры саветах, то тых, хто меў два – чытыры класы, атсаджвалі назад.* Залацеева Зэльв.

**РАБАКІ ТОЧАЦЬ** к а г о. *Неадабр.* Хто-н у пастаянным руху, не можа ўседзець на адным месцы. *Ні аднае мінуты ні можаш пасядзець – то туды, то сюды. Цібе што рабакі точаць?* Амбілеўцы Шчуч.

**РАЗЯВІЦЬ РОТ.** Пачаць спяваць. *Весяло было – уся маладзёш па кампанях, весь сьвет ат песьняў дрыжаў, а ціпер нідзе ніхто рота ні разьзявіць, анно цілівізары, больш ніякай вясёласьці няма.* Малыя Азёркі Маст.

**РВАЦЬ НА СВАЁЙ ГАЛАВЕ ВАЛАСЫ.** Адчайвацца, вельмі моцна перажываць. *А праз два гады аж валасы на сваёй галаве рваў, чаму я так мучыў сваю сям'ю, бо як прышлі саветы, то ўсю зямлю панскую раздалі на Пуцэвічы і Кміцянку.* Пуцавічы Навагр.

**САМ ПРАЗ СЯБЕ.** Самастойна, без чыёй-н. дапамогі. *Бацька твой у Куцю радзіўся, таму ён такі шчасьлівы, у школу хадзіў, пайдзеш, ту выхваляны ад усіх учыцялёў, і тут на мейсцу, і ў цехніцы, і ў акадэміі. Многія і самыя прас сібе падабіваліся.* Поліпніца Воран.

**СВЕНТЫ ПЭНДЗАЛЬ.** *Іран.* Чалавек, які прыкідваецца набожным. *На гэтага сьвентага пэндзаля глядзець ні магу. У касьцелі ўжэ ш такі набожны, а выйшаў с касьцёлу – мат на мацi.* Амбілеўцы Шчуч.

**СТО РУБЛЁЎ УБЫТКУ.** *Неадабр.* Той, з каго няма ніякой карысці, а толькі адны непрыемнасці. *З ім няможна што-нібуць рабіць, толькі мяшая, ні чалавек, а сто рублёў убытку.* Каркуцяны Воран.

**СТЫДЛІВЫ НОСЭК.** Від пакаёвай расліны. *А які быў вазон у пана – курчык, стыдлівы носэк называўся, як даткнешся, так ён скурчыцца, а як адыдзеш, ізноў распусьціцца.* Новая Спуша Шчуч.

**СУКАНУЦЬ ВІЛЫ Ў БОК.** Наслаць на каго-н. чары, праклён. *Нешто ні палучаяцца, як нехто сукануў вілы ў бок.* Мачуліна Ваўк.

**СЦЕРАБІЦЬ ПРАЗ ЛЭБ.** Ударыць чым-н. каго-н. *Адыдзіся ад мяне, бо як сьцераблю праз лэп, то больш ні захочаш.* Каркуцяны Воран.

**ТАКОЕ БЕДЫ.** Няхай будзе так. *Я гаварыўшака, чаго прыехаў сюды, а гэты дзет усё слухаў, па кабінеце пачаў хадзіць туды-сюды, а потамака сказаў мне: "Едзь дахаты. Такое беды! Усё ў цябе добра будзя".* Забагонне Зэльв.

**ТАЧЫЦЬ МУРКУ.** *Асудж.* Гаварыць абы-што, несусвеціцу. *Што ты мне тут мурку точыш, слухаць ужэ ні магу!* Райца Карэл.

**У ДЫМІНУ.** *Асудж.* Вельмі (п'яны). *А ціпер сьпіўся мужык. Бывая, што нядзелямі п'яны ў дыміну.* Дубна Маст.

**У ЗАПАЛЫ.** У нешта спрэчнае, рызыкоўнае, небяспечнае (палезці). *Нагаварыў чаго ні трэба, посьля толькі паняў, што дарма палез у запалы.* Руда Яварская Дзятл.

Б у л ь б а **У МУНДЗЯРАХ.** Звараная ў лупінах. *У аўторак елі бліны (хто ш чым) і па блінах ну й яшчэ там што – крупы; у сераду была бульба ў муньдзярах.* Вялікія Яцыны Астр.

**У ПЕРШАЙ УСТРЭЧЫ.** Стрыечны. *А мой брат у першуй устрэчы ў парцізаны пашоў.* Рутка II Навагр.

**У САМЫМ РОЗУМЕ.** Своечасова, у прыдадтным для гэтага ўзросце (ажаніцца, выйсці замуж). *Маладзец хлопяц, у самым розуме ажаніўся, і добро жывуць.* Кашалева Навагр.

**УСЁ НУТРО ВЫЕСЦІ** к а м у. *Асудж.* Страшэнна надакучыць каму-н. чым-н. *Ён мне за цэлы гот усё нутро выяў сваімі просьбамі.* Райца Карэл.

**ФЭЛЯ ЗАРУБСКАЯ.** *Асудж.* Нерастаропная, разяватая жанчына. *Чаго стаіш рот разявіўшы, Фэля ты зарупска, памагай во курыцу лавіць!* Індура Гродз.

**ХАЙ БОГ (БУГ) БАРОНІЦЬ (КРЫЕ, КРЭЯ, КРЫЕ-РАТУЕ).** *Выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, непрыемнага. *Завядуць на ток, разьдзенуць наголо і бізунуюць. Скінуць штаны, скінуць сарочку, усё скідай і лажыса на ток. А там только як цапамі якімі, ашніможно гаварыць, хай Бог бароніць як.* Сухары Гродз. *Усё было і ўсё прайшло. Цяпер толькі п'яніцы валяюцца. Перавярнулася ўсё на сьвеце. Хай Бох крыя!* Старынцы Бераст. *А матку яе забралі і забілі. Хай Бох крые.* Лявонавічы Дзятл. *Хай Бух крэя, як жылі. Пасьля вайны была бяднота, адналічно жылі.* Вострава Зэльв. *Што было ў каго намалочано, забралі ўсё да крышкі. Усё пражылося, хай Бух крэя. А ціпер, ля, голу землю прадаюць.* Шурычы Свісл. *Ні ведаю, чаму гэта ў ксёншках ці ун па цілівізару так страшна, а хай Бох крыя-ратуя, пра немцаў гавораць.* Янапаль Воран.

**ХАЙ ЯГО (ЯНО).** *Выкл.* Выказванне адмаўлення чаго-н. *Сначала было трудна, хай яго, было работы.* Мількаўшчына Гродз. *Я гавару, не хачу; выпісаў, та знаю, а прасіцца упражы ў Марціна, хай яно.* Амбілеўцы Шчуч.

**ХАЙ ЯГО (ІХ) ХАЛЕРА <ВОЗЬМЕ>.** *Выкл.* Выказванне незадавальнення, нязгоды, адмаўлення. *Хай яго халера с такой жызьню, нацярпеліся людзі гора ў вайну.* Вялікая Бераставіца Бераст. *А што песьні цяпер сьпяваюць, та хай іх халера. Ужо ўнук з Гронна як прыедзе, як уключыць свой махнітахон, та хоць ты с хаты цякай.* Пагранічны Бераст. *Цяшко было ваяваць с немцам, хай яго халера возьме.* Кордзікі Бераст.

**ХОЦЬ ВОКА КАЛІ.** Вельмі (цёмна). *Раз ноч была на двары. Цёмна было хоць вока калі.* Альхоўка Астр.

**ХОЦЬ ЗУБАМІ КАПАЙ.** Вельмі цвёрдая (зямля). *Чуць накапала кошык бульбы, зямля хоць зубамі капай.* Шадзюны Астр.

**ХОЦЬ З ХЛЕБАМ ЕШ.** *Адабр.* Вельмі добры, лагодны, з мяккім характарам. *І ні думай, выхоць замуш, хлопяц – хоць с хлебам еш.* Рудаўка Сл.

**ХОЦЬ НА КАРТАЧКУ ЗДЫМАЙ.** *Адабр.* Вельмі прыгожы, прывабны. *Унучка прыехала, намалёваная, убраная, хоць на картачку здымай.* Яманты Лід.

**ХОЦЬ НА КУЛАК СЛЁЗЫ ВІ.** Выказванне адчаю з-за цяжкага, безвыходнага становішча. *Цяшкая доля жаночая, хоць на кулак сьлёзы ві.* Хвінявічы Дзятл.

**ХОЦЬ ПЭНКНІ.** Абавязкова, нягледзячы ні на якія абставіны. *Усё сама. Ён едзе ў Мікшавічы, калоды вязе, а я зь дзецьмі хоць пэнкні.* Пераганцы Воран.

**ХОЦЬ ТАНЦУЙ.** Вольна, прасторна, шмат месца дзе-н. *Дастроілі ганак, то месца хваціць, хоць танцуй.* Пеляса Воран.

**ЦАП-ЛАП.** Пашукаць, абмацаць, абшарыць што-н. *Туды-сюды цап-лап – а нідзе німа ножнаў.* Ёдкі Лід.

**ЦОПАМ-ЛОПАМ.** Абы-як, спяшаючыся (зрабіць што-н.). *Убярэцца ў доктара, ходзя, людзей хеліць, жартуя, байкі розныя пляце. Мая Вікця цопам-лопам, дзела справіла галопам.* Дайлідкі Астр.

**ЧЫСТА Ў АДНЫЯ ДЗВЕРЫ ЎВАЙШОЎ ПРАЗ ДРУГІЯ ВЫЙШАЎ.** Непрыкметна хутка (пражыць жыццё). *Праляцелі годы, як адзін міх. Ні дзіво, што старэйшыя ўсе гавораць: пражыў чысто ў адныя дзьверы ўвайшоў прас другія вышаў.* Каменка Бераст.

**ЧЭРАЗ ПЕНЬ КАЛОДУ.** *Неадабр.* Абы-што (гаварыць). *Досіць ужо плявузгаць чэрас пень калоду, усё адно цябе ніхто ні слухая.* Падольцы Астр.

**ЧЭРАП НЯПРАВІЛЬНЫ** ч ы й. *Груб.* Хто-н. неразумны, дурань. *Што ш ты нарабіў, чэрап твой ніправільны! Такого сабаку змаршчыў!* Новая Руда Гродз.

**ЧЭРЦІ ПАДШТУРХОЎВАЮЦЬ** к а г о. Хто-н. пачынае паводзіць сябе нядобра. *Пачаў біць яе муш, як толькі прыйдзе дамоў, дык яго чэрці патштурхоўваюць, і ён фанабэры строіць, на жонцы злосьць спаганяе.* Пасека Дварчаны Воран.

**ШПАКА ЗАПУСЦІЦЬ.** Падгледзець, зазірнуць куды-н. *А ён так і стараяцца дзе што вывядаць, куды свайго шпака запусьціць.* Елка Зэльв.

**ШТО СІЛЫ СТАЕ.** Вельмі моцна (крычаць, галасіць). *Жаніх павінен прыехаць, а я галашу што сілы стае.* Лылойці Смарг.

**ШТО-ТА Я.** Ганарысты, фанабэрысты, нясе сябе высока. *На танцах і з Зыгмусям пазнаёмілася. Тады ўцякла ад яго, а ён дагнаў сядно. А што ш, кавалер! З войска прышоў, вучоны, усё па-руску закладвая, паказвая, што-та я. Так і замуш пашла.* Красулі Шчуч.

**ШУРАМ-БУРАМ.** Хутка і абы-як (зрабіць што-н.). *Мы пашлі, шурам-бурам у мяхе, у кучу* [нагарнулі зерня]. Амбілеўцы Шчуч.

**ЯЗЫКІ ПАПРАГЛЫКАЦЬ.** Перастаць гаварыць, замоўкнуць. *Ну вы не маўчыця, гаварыця што, а то вы языкі папраглыкалі.* Студзянец Ваўк.

**ЯЗЫК МЫЛАМ ПРАМЫЦЬ** к а м у. Прымусіць замаўчаць каго-н. *Табе што, можа язык мылам прамыць? А то многа пляцеш бес толку.* Шадзюны Астр.

**ЯЗЫК ШТО ЦЭП ЛІТОЎСКІ** ў к а г о. Рудзішкі Ашм. Хто-н. не ў меру балбатлівы.

**ЯК АПЛОЦІНАЙ ПА ВАДЗЕ** к а м у. *Неадабр.* Нічога не дзейнічае на каго-н. *І прасіў, і маліў, а яму як аплоцінай па вадзе.* Ваўкавічы Навагр.

**ЯК АДНОЙ КОСЦІ.** *Неадабр.* Вельмі марудна, павольна (хадзіць, рабіць што-н.). *Ходзіш як адной косьці, памярці можна, чакаючы вады, пакуль прынясеш.* Пеляса Воран.

**ЯК АДЫМАЧКА.** *Асудж.* Вельмі брудны хто-н., вельмі бруднае што-н. *У яго швэда як адымачка, мусі, жонка ніраха.* Лелюкі Іўеў.

**ЯК БЛУДНАЯ АЎЦА.** Зусім (адзін). *Маю сямнацаць праўнукаў і дзесяць унукаў, усіх памагала гадаваць, а ціпер адна як блудна аўца. Жыву ў сваім доме, трымаю кватэранку, якая мне і дапамагае.* Улезлы Ваўк.

**ЯК БОТ БЕЗ ХАЛЯВЫ.** *Неадабр.* Вельмі, надзвычай (дурны). *Дурата ты, як бот бес халявы.* Засецце Дзятл.

**ЯК БУСЕЛ ЖАБ.** Спехам, на скорую руку (нахапацца, наесціся). *Нахватаўся як бусял жап, то ціпер жывот баліць.* Ураджайная Навагр.

А ж э н і ц ц а **ЯК БЫК АЦЕЛІЦЦА.** *Іран.* Невядома калі або ніколі. *Ага, чакай – не дачакаяш, ён тады ажэніцца як бык ацеліцца.* Рутка II Навагр.

**ЯК ВАДА Ў РЭКУ.** Добра, спрыяльна (пайсці). *Жылі ні натто, а як абвянчаліся, і жызьня іх пайшла як вада ў рэку.* Ціхаволя Свісл.

**ЯК ВІХУРАТКА.** Несупынна (бегаць, лётаць). *Дзе ізноў падзелася гэтая шантрапа, усё лётая як віхуратка.* Яцыны Астр.

**ЯК ВОКАМ СЦЯЦЬ.** На вялікай прасторы ў наваколлі. *Балота, глухоя балота. Як вокам сьцяць густы лес шуміць.* Хадзілоні Шчуч.

К р у ц і ц ц а **ЯК ВОШ НА ГРЭБНІ.** *Неадабр.* Пастаянна, несупынна. *Ні круціся ты як вош на грэбні! Што, чэрві ў с... завяліся?!* Навіцкія Лід.

**ЯК ГЭНЫ КАЗАЎ.** *Пабочн.* Як прынята гаварыць. *А ў вёсцы жыў у нас дурачок Хурма. Не ведаю, аткуль ён узяўся, а толькі ні кала ні двара, як гэны казаў, а сыты.* Будзёнаўка Ашм.

**ЯК ДВА ПАЛЬЦЫ АБ АСФАЛЬТ.** Вельмі лёгка, запраста, без якіх-н. намаганняў (зрабіць што-н.). *Мне гэта зрабіць як два пальцы аб асвальт.* Райца Карэл.

**ЯК ДВУМ БАБАМ НА КУХНІ.** Вельмі (цесна). *Тут мы с табой ні разьвернямся, тут так цесна, як двум бабам на кухні.* Кямелішкі Астр.

П р ы ч а п і ц ц а **ЯК Д'ЯБАЛ ДА СВЯТОГА МІХАЛА.** *Неадабр.* Неадчэпна, назойліва, дакучліва. *Што ты прычапіўся да міне як д'ябал да святога Міхала.* Гарачкі Гродз.

**ЯК ЖЫД НА БАСІНЕ.** Моцна (дрыжаць, трэсціся). *Чаго дрыжыш як жыт на басіне? Хіба так холадна?* Пеляса Воран.

**ЯК ЗАЯЦ КАБЫЛЕ ВОЗ ПАДЦЯГНУЦЬ.** *Іран.* Зусім не (дапамагчы). *Аля ш ты і памох прыбраць у хаці, як заяц кабылі вос пацьцягнуць.* Пеляса Ворван.

**ЯК З БОГАМ ПАГАВАРЫЎ.** *Адабр.* Адчуў фізічную ці маральную палёгку, задавальненне. – *Ну ці памагла табе гэта замова? – Ой, як з Богам пагаварыў, нідзе нічого ні баліць.* Зэльва Зэльв.

**ЯК ЗВАРАНЫ.** Разамлелы. *Рукі ныюць, сам на сонцы цэлы дзень як зварaны.* Нёўда Навагр.

**ЯК З ЯГНЯЦІ ВОЎНЫ.** *Неадабр.* Вельмі мала (карысці). *Што зь яго возьмяш, зь яго карысьці як зь ягняці воўны.* Данцы Маст.

**ЯК КАНДЗЕР У КАДУШКУ.** *Неадабр.* Вельмі моцна (храпці). *З боку на бок варочалася, заснуць ні магла, бо дзет хроп як кандзер у кадушку.* Шылавічы Сл.

**ЯК КАНЮ ПАЗЁМКА.** Вельмі малы, вельмі мала. *Што яму гэта адна порцыя, як каню пазёмка.* Галавічполе Шчуч.

Л ю б і ц ь **ЯК КАШУ З МАСЛАМ.** *Гумар.* Вельмі. *Хто табе сказаў, што я цібе ні люблю. Ніпраўда. Я люблю цібе як кашу з маслам.* Віганцы Воран.

**ЯК КЕРАНСКІ СА ЗБАНОЧКАМ.** *Неадабр.* Без мэты, без справы (хадзіць і пад.). *Круцяцца тут як Керанскі са збаночкам, мусі, работы ім ніякай німа.* Воўкаўцы Лід.

П р а п а с ц і **ЯК КУРАНЯ Ў ЗЕЛЛІ.** Зусім, бясследна. *Учора ў тапках хадзіў, а сёння ўжэ німа, прапалі як кураня ў зелі.* Яманты Лід.

**ЯК МАЕ МОЦ.** Вельмі моцна. *Бох веда, якая гарачыня стаіць. Слонца смаля як мая моц.* Волькавічы Ашм.

**ЯК МЫШ У НАРЫ.** Ціха, спалохана, непрыкметна (сядзець). *Сяджу як мыш у нарэ.* Жытомля Гродз.

**ЯК НАКРУЧАНЫ.** Увесь час, бесперапынна і напружана (рухацца, бегаць і пад.). *Цэлы дзень ані сесьці, ані стаць пастаяць, столькі работы. Як устаў зраніцы, і лётай як накручаны: то карова, то сьвіня, то куры.* Амбілеўцы Шчуч.

**ЯК НА САБАЦЦЫ ПРАЕХАЦЬ.** Вельмі дрэнна, няўдала (пражыць). *Маладосьць наша прайшла, як сказаць аткрыта, пражылі як на сабаццы праехалі мы.* Нацкава Маст.

**ЯК НА СТЭЛЬМАКУ ВІСЕЦЬ.** Знаходзіцца ў стане няпэўнасці, няведання. *Зарас калхос ня ўсім дае сена, і мы як на стэльмаку вісім, ці нам дадуць.* Кулёўшчына Маст.

**ЯКОГА ТЫПУСА.** *Груб.* Чаму, для чаго, з якой мэтай. *Якога тыпуса ты палезяш туды. Заб'юць як камара.* Эймінаўцы Бераст.

**ЯК САБАКА ХВОСТ ПАДЖАЎШЫ.** *Асудж.* Спалохана, прыгнечана (хадзіць). *Стыдно стало, то пайшоў як сабака хвост паджаўшы.* Куцавічы Карэл.

**ЯК СВІННЯ Ў КАПУСЦЕ.** *Неадабр.* Зусім не (разбірацца). *Што ты яго пытаяш, ён у гэтых матацыклах разьбіраяцца як сьвіня ў капусьці.* Лунна Маст.

С я д з е ц ь **ЯК СВЯТЫ ТУРЭЦКІ (ЯК СВЕНТА ТУРЭЦКА).** Без справы, без клопату. *Усе стараюцца, робяць нешто, а ён сядзіць як сьвяты турэцкі.* Бабіна Гродз. *Чаго ты, Марыся, сядзіш як сьвента турэцка, хоць слово якоё скажы.* Кодзеўцы Гродз.

**ЯК СЕНА САБАЦЦЫ.** Зусім не (патрэбны). *Мне твая любоў як сена сабаццы.* Вялікія Эйсманты Бераст.

**ЯК СЕРАДА НА ПЁНТАК.** Нядобразычліва, насуплена (глядзець на каго-н.). *Што глядзіш на мяне як серада на пёнтак?* Больцінікі Воран.

**ЯК СТОЎБ.** Нерухома (стаяць). *А ён нават добро ні ведаў, дзе яны, ну ля, пірапалохаўся, стаў як стоўп і стаяў, яго зь месца ні маглі зварушыць.* Косцевічы Ваўк. *Баран станя як стоўп і нияк у хлеў ні ідзе, хоць ты яго за рогі валачы.* Зэльва Зэльв.

**ЯК СТУПА.** Вельмі поўная, тоўстая (пра жанчыну). *Людвіна як ступа, от цяжка такому чалавеку.* Яцыны Астр.

**ЯК СЫЧ НА ПЛОЦЕ.** Надзьмуўшыся, пакрыўдзіўшыся (сядзець). *Сядзіць як сыч на плоце з самага ранку, ні гаворыць.* Лозкі Дзятл.

**ЯК СЯГОННЯ.** Вельмі добра (помніць). *А як жа ш паедзіш – порткі парваныя. Ну што ш, давай мы, помню як сягоньня, сь сястрой зашылі гэтыя порткі.* Альхоўка Астр.

**ЯК ТАЯ ТАДОРА ТО ШЫЕ ТО ПОРА.** Які перарабляе сваю работу. *А што на яе крычаць, яна ніколі адразу ні зробіць, кажды рас перарабляя, як тая Тадора то шыя то пора.* Зарачаны Свісл.

**ЯК ТРУЦЕНЬ У КАЛОДЗЕ.** *Неадабр.* Які не хоча працаваць, гультай, абібок. *Малады мушчына, а як труцянь у калодзі, толькі ляжыш і ляжыш.* Радзюкі Навагр.

**ЯК У ВАДУ СЮКНУЦЬ.** *Іран.* Абы-што, недарэчы (сказаць). *Ну ты й сказаў, як у ваду сюкнуў. Дзе ш ты відзяў, кап у вжэсьні сьнех пашоў.* Яцыны Астр.

**ЯК У ДУРНОГА ФАНЦІКАЎ.** *Неадабр.* Вельмі многа чаго-н. у каго-н. *Ні прыбядняйся, у цібе грошай як у дурнога фаньцікаў.* Індура Гродз.

**ЯК У ПЕНЬ.** Вельмі ахвочы (рабіць што-н. кепскае). *Вось ужо гэтыя Дамчуры, як вып'юць, дак біцца як у пень. З гэтым сваім лапіндарам старэйшым чуць свадзьбу не разагналі.* Крэва Смарг.

**ЯК У ТОГА ВОЎКА.** Вельмі (многа работы). *Работы каля яго як у того воўка.* Казловічы Зэльв.

**ЯКУЮ ХАЛЕРУ.** *Незадав.* Што. *А ён прыяжджая с кароўніка, с канём прыяжджая і кажа: "А якую тут халеру робіця?" А маці кажа: "А во мыям паперу".* Верцялішкі Гродз.

**ЯК ФЕЙ.** *Іран.* Паглыбіўшыся ў свае думкі, як зачараваны (стаяць, хадзіць, сядзець і пад.). *Што ты як фей стаіш? Хоць бы што сказаў.* Чуркі Ашм.

**ЯК ФЭЛЬКА З ПАЛЕСТЫНЫ.** *Неадабр.* Неахайна апрануты. *Ходзіш як Фэлька с Палястыны, ні можаш лепяй адзецца.* Баляненты Гродз.

**ЯК ЧОРТ ВАДЫ СВЯНЦОНАЙ.** Вельмі моцна (баяцца). *А Ленка яго так баіцца, як чорт вады сьвянцонай.* Занкі Свісл.

**ЯК ШАРШОН.** Вельмі злосны хто-н. *Выпаўс неяк на дарогу і папоўс дахаты ён, ні падымяцца на ногі, злы, надуты як шаршон.* Голдава Лід.

**ЯК ШЧАНЮК ДА РОКУ.** *Груб.* Зусім (дурны). *Дурны ты як шчанюк да року.* Каркуцяны Воран.

*Скарачэнні*

*Экспрэсіўныя паметы: Абразл.* – абразлівы, *Адабр.* – адабральны, *Асудж.* – асуджальны, *Выкл.* – выклічнікавы, *Груб.* – грубы, *Гумар.* – гумарыстычны, *Жарт.* – жартоўны, *Зневаж.* – зневажальны, *Іран.* – іранічны, *Насм.* – насмешлівы, *Неадабр.* – неадабральны, *Незадав.* – выражае незадавальненне, *Пабочн.* – пабочная канструкцыя, *Фам.* – фамільярны; *назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнаў: Астр.* – Астравецкі, *Ашм.* – Ашмянскі, *Бераст.* – Бераставіцкі, *Ваўк.* – Ваўкавыскі, *Воран.* – Воранаўскі, *Гродз.* – Гродзенскі, *Дзятл.* – Дзятлаўскі, *Зэльв.* – Зэльвенскі, *Іўеў.* – Іўеўскі, *Карэл.* – Карэліцкі, *Лід.* – Лідскі, *Маст.* – Мастоўскі, *Навагр.* – Навагрудскі, *Свісл.* – Свіслацкі, *Сл.* – Слонімскі, *Смарг.* – Смаргонскі, *Шчуч.* – Шчучынскі.

*М.Н. Крыўко, С.С. Панізнік*

## З НАРОДНЫХ ВЫСЛОЎЯЎ МЁРШЧЫНЫ

Акрамя народнай лексікі, для вырашэння лінгвістычных і фалькларыстычных праблем важнае значэнне маюць рознага роду выслоўі – прыгаворкі, прымаўкі, прыказкі, вобразныя выказванні, жартоўныя пажаданні і зычэнні, параўнанні і інш.

Тут падаюцца народныя выслоўі, запісаныя аўтарамі ў мёрскіх гаворках на поўначы Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Па сваёй прыродзе гэтыя выразы семантычна празрыстыя, і таму пераважная большасць іх не патрабуе тлумачэння. Толькі ў рэдкіх выпадках такія тлумачэнні прыводзяцца. Тут пададзена каля сотні вобразных выслоўяў.Многія з іх аўтарамі былі занатаваны яшчэ ў канцы 50-х гадоў XX стагоддзя ад мясцовых жыхароў старэйшага пакалення. Гэту публікацыю таму неабходна разглядаць як прысвячэнне жыхарам мёрскага краю – носьбітам жывых мёрскіх гаворак 50 – 80-х гадоў мінулага стагоддзя.

Адбярэць Божа сорам – будзіць і корам.

Адбярэць Божа стыд – будзеш сыт.

Атараў дзядзька быкам.

Бедны гаруіць, што не ўкіруіць, а багаты тужыць, што ня служыць.

Бог ведаіць, што хто робіць і хто як абедаіць.

Бог даў і перадаў.

Была благая пуга, ды й тая абарвалася.

Была дзеўка – на ўсю вуліцу, а стала баба – на ўсю печ.

Вісіць [адзежына], як на забітым чорце.

Вольнаму воля, багатаму рай.

Воўк і лічаных бярэць.

Вяроўкай хлеб рэзаць (гаворыцца пры характарыстыцы негаспадарлівага, нядбалага чалавека).

Гаршчок гаршку ганьбу даець, ды абадвы дзіравыя.

Грэх у мех і сам наверх.

Да гатовага пня і агонь добра класці.

Дай волю – трапіш у няволю.

Да хлеба што хочаш найдзіш.

Дрэнная рада, алі жыць нада.

Дурны грошы копіць, а хітры мяшок шыіць.

Еш, пакуль рот свеж.

Жаронцамі церці (віляць клубамі, задам).

Ждаў, ждаў і жданкі паеў.

Жыць – не мяшок шыць.

Закінь назад – наперадзе знайдзіш.

Зацягнула на чортавы віры каго.

За чужое лычка раменьчыкам плоцюць.

З галавой не дагаварыўся – і да ног ня сунься.

З калена выламаць (выдумаць, прыдумаць).

З кулька ў дзяружку.

Золатам дарога пасцелена каму (добра шанцуе ў жыцці каму-небудзь, спадарожнічаюць поспехі).

З печы ў боты скокнуць (пра вельмі спрытнага, лоўкага ў справах чалавека).

З сынам сварыся – на печ кладзіся, а з зяцем сварыся – за клямку бярыся (або дзяржыся).

Зэдлік лаве падчыняіцца.

Каб ня клін, каб ня мох, то і цісляр бы здох.

Каждая зязюлька пра сваё кукуіць.

Калі зімой не перамерзнеш, то й летам не сагрэешся.

Калі салам абмазаць, то за ноч кот з'есць.

Калі так, ператакаваць ня будзем.

Калі шанцуіць, то й Халімон танцуіць.

Кій на кій завадзіць, абед на абед – не.

Кісляк лытку памачыў (пра пракіслую яду, часцей пра суп).

Круціць мітулямі (паводзіць сябе няшчыра, абманваць).

Лезці на лес (асмельвацца пярэчыць каму-небудзь).

Лепі не даеўшы, ды спакойна пасядзеўшы.

Лягла не клята, устала не мята, устрахнулася і пашла.

Ляцець на нож (ісці на рызыку ў чым-небудзь).

Матчыны рукі заўсягды мяккія.

Мех ячменю палкай малоцяць усемярых.

Мёдам на душу! (пажаданне смачна і з карысцю з'есці, выпіць што-небудзь).

Мыслі за морам, а смерць за плячмі.

На ім косці іграюць.

На пешага арла і сарока з колам.

На сонца пальцам не паказывай.

Наступіць на яе ступеньку (спадабацца ёй).

На ціхага вецер навеіць, а радзівы сам набяжыць.

Не кайся, рана ўстаўшы, маладым жаніўшыся.

Не маніся, а Богу маліся.

Не рабі другому, што ня люба самому.

Не так страшна смерць, як яе прылады.

Не ўгаворыш дзіця жыватом.

Ні вусоў, ні барады – як чорт малады.

Ні за хны.

Новае сітца – пакуль навісіцца, а старое пад печай валяецца.

Ну і нос: чорт семярым нёс.

Ну й мужыкі пашлі: усемярых аднаго петуха біць будуць.

Ня думай, як думаецца, а думай, як давядзецца.

Нялёгка з печы ў боты скокнуць.

Ня тут гукана.

Пакідай слова на дабрыдзень.

Папраў казе хвост.

Пасудзіўшы, і бацьку ў лоб можна стукнуць.

Плакам, плакам – усё аднакам.
Плячысты на жывот.
Прапашчы, як булька на вадзе.
Прарваўся грэх на смех.
Проці ночы сам сабе ня вер.
Прычыну і канём не аб'едзеш.
Радзіўся ў роўную пару.
Распусціўся, як старэцкая пуга.
Саракі гоняць снег да ракі.
Свая рука ня сука – у рот нясець.
Слова нада дзіржаць на дабрыні.
Тое ня ўстыд, што дадзена, а тое ўстыд, што крадзена.
Трапілася чарвяку на вяку.
Трон закончыўся чый (перастала шанцаваць каму-небудзь, перасталі спадарожнічаць удачы каму-небудзь у жыцці).
Трубіць у кулак (галець, бяднець).
У каждай хаце па печы.
У сваей маці добра і ў пасцелі паляжаці.
У старога жарабка скура і на плоце гагочыць.
Фінтос пад нос.
Хто міняіць, на тым хамут гуляіць.
Хто ня гневаецца, таму дарога золатам пасцелена.
Цераз галаву і конь не скачыць.
Чорт босым тут ня пройдзіць.
Чорт па левай руцэ ідзець, анёл – па правай.
Чым благога мужыка ў хаце мець, то лепі добры тапор.
Шлюб пад плотам, вяселле потым.
Шляя пад хвост папала (або трапіла).
Што стары з'еў, тое прапала.
Яго і ў мяшку ня зловіш (пра вельмі хітрага, лоўкага, пранырлівага чалавека).
Яго толькі пахвалі, то ён і дадому ня вернецца.
Як з хваста сарваць.
Як казліныя рогі ў мяшку (пра тое, што выдаецца, вытыркаецца адкуль-небудзь).
Як рукамі развесці (пра малы зямельны надзел).
Як трывога, тады (то й) да Бога.
Як хто хочыць, так па сваім бацьку плачыць.
Як хто хочыць, так свайго бацьку лаіць.

*П.А. Міхайлаў, І.С. Трунова*

# У ФРАЗЕАЛАГІЧНУЮ СКАРБОНКУ БРЭСТЧЫНЫ

Прыведзены матэрыял сабраны ў в. Забараўцы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці ў 1997 – 2000 гг. Гаворка мясцовых жыхароў характарызуецца тыповымі заходнепалескімі (загародскімі) рысамі з оканнем, адсутнасцю дзекання і цекання. Запісы зроблены ад мясцовай жыхаркі Казак Вольгі Якімаўны, 1925 г.н.

**БЫ ВОШ НА ГРЭБЭНЦІ.** Пра ганарыстага чалавека. *Маня, як прыіхала з Москвы, до сэдыть на прызбы, бы вош на грэбэнці.*

**БЫ ГАД НА СКОВОРОДІ.** Пра непаседлівага чалавека. *Ой, ну супокойса трохы, а ты сэдыш рыхтык, бы гад на сковороді.*

**БЫ ЖАБЫ ТОПЧЭ.** Пра чалавека, які непрыгожа ходзіць. *На мого сусіда бэз сміху нэ дывытымэсса: ідэ, бы жабы топчэ.*

**БЫ КОРОВА ЗДОХЛА.** Пра сумнага, заклапочанага, нечым прыгнечанага чалавека. – *Чого ты ўжэ другы дэнь ходыш, бы ў тэбэ корова здохла? – А чому радоватыса? Трэба копаты картоплі, а сылы нэма.*

**БЫ КОРОВА ЗЛІЗАЛА.** Хутка знікнуць. *Як зачалі хлопцы тузатыса коло клуба, того Максыма бы корова злізала.*

**БЫ КУРА НА СМІТНЫКУ.** Пра чалавека, які неахайна выконвае працу. *Нэ ўміе ваша нэвістка робыты, вона і сіно грэбэ бы кура на смітныку.*

**БЫ МЫЛА З'ІЎШЫ.** Быць зняслаўленым, зганьбаваным. *Пошла вона од сусідкы бы мыла з'іўшы.*

**БЫ НЭ СОБІ.** Рабіць нешта без задавальнення. *Чого ягоды збыраеш бы нэ собі? Гныса ж трошкы!*

**БЫ ПІР'ЕМ ПОНАТЫКАНА.** Пра ганарыстага чалавека. *Учітелька по сэлу ходыть бы пір'ем понатыкана.*

**БЫ СВЫННЯ ЗОРЫ.** Нічога не бачыць. *Вун ягоды ў лісы бачыть бы свыння зоры.*

**БЫ СВЫННЯ Ў ЗОРАХ.** Зусім не разбірацца. *Муй сусід у конях розбыраецца бы свыння ў зорах.*

**БЫ СОБАКА Ў ПЛОТЫ (У КОНОПЛЯХ).** Пра чалавека, які дрэнна спявае. *Посэды моўчкы, бо выеш бы собака ў коноплях*

**ВОШЫ ГОВОРАТЬ**. *Пра вельмі ганарлівага чалавека. Васыль вжэ як зробыть шчо, то на ім тыждэнь вошы говорать.*

**ВЫСПАЦЦА НА 12 КАНТУЎ.** Добра выспацца. *Мыхал, як прыйшоў од сіна, выспаўса на 12 кантуў.*

**ГОЧЫ ПРОДРАТЫ.** Прачнуцца. *Ужэ люды сіно погрэблі, а вун оно гочы продраў!*

**ГУЛЬТЯЯ ЖЭНЫТЫ.** Лайдачыць. *Во ўсіх діты як діты, оно мое цілы дэнь гультяя жэныть.*

**ДО БОГА ДУШОЮ.** Пра шчырага праўдзівага чалавека. *Ему можно вірыты, бо вун до Бога душою.*

**ДУЛЯ З МАКОМ.** Анічога. *Заробыш там оно дулю з маком.*

**ДУБА ЎРЫЗАТЫ.** Памерці. *Як нэ будэш бэрэгті сэбэ, дуба ўрыжэш.*

**ЖЭНЯЦЦА КОЛО (ЧАГО-НЕБУДЗЬ).** Збірацца кампаніяй каля чаго-небудзь. *Годэ ўжэ жэнытыса коло хлева, ідітэ спаты.*

**ДЭ ТВОЯ ГОЛОВА БУЛА?** Пра неабдуманае рашэнне, учынак. *Пузно, сынок, сварытыса. Дэ твоя голова була, колі жэныўса?*

**ЗАГНАТЫ Ў ДОШКЫ.** Давесці да смерці. *Бачылі, як Маню скрутыло, як еі сына забралі. Ой, зажэнэ вун еі ў дошкы.*

**ЗАГНУЎ, ШТО КОВАЛЬ НЭ ОДЫГНЭ.** Груба, непрыстойна вылаяцца. *Нэ можно тэбэ слухаты, бо як загнэш, шчо і коваль нэ одыгнэ. Мусыть, баяты нэ ўмієш по-людску.*

**ЗА СЛЁЗМЫ СВІТУ НЭ БАЧЫТЫ.** Горка плакаць. *Галя ўсю жызнь за слёзмы світу нэ бачыть з гэтым п'яныцэю.*

**ЗА ТРЫ ВЭРСТЫ.** Далёка. *Чого ходыты за тры вэрсты, колі і гэтта ягоды е?*

**ЗГЛУМЫТЫ НА ГРАЗЬ.** Моцна пабіць. *Нашы хлопцы ўчора пучынца зглумылі на гразь з-за нашоі діўкы.*

**З-ПУД СУЧКЫ ЯЙЦА ДОСТАНЭ.** Пра вельмі спрытнага і хітрага чалавека. *От і ўродыцца такы чоловік: нычого нэ боіцца, куды хоч улізэ, з-пуд сучкы яйца достанэ.*

**З РОТА ХОЛЯВУ НЭ ЗРОБЛЮ.** Стрымаць дадзенае абяцанне. *Васыль як сказаў, так і будэ, вун з рота холяву нэ зробыть.*

**І ЖУК І ЖАБА.** Усе, любы. *У ягоды зарэ ходять і жук і жаба.*

**ІСТЫ ПЭЧОНУ РЭДЬКУ.** Пра дрэнны вынік справы. *Нэ ідь туды, ныц нэ продасы, оно наесыса рэдькы пэчоноі.*

**ІТІ НА СПРАВУНКЫ.** Сварыцца. *Пошла Ганна до Гутарыхы на справункы, попокрычать ужэ.*

**І Ў ХВУСТ І Ў ГРЫВУ.** Моцна пакараць. *Згубыш коня – дам і ў хвуст і ў грыву.*

**КАЗАТЫ Ў ГОЧЫ.** Гаварыць шчыра, праўдзіва. *Я ўжэ ёму нэ раз у гочы казала, шчо ёго Валерко кручаны, бы чорт.*

**КВАС ДІТЫ ПОІЎ.** Пра тое, што нельга знайсці вінаватага. *Розбылі горшка, і выноватого нэма. Пэўно, квас діты поіў.*

**КОРОНА НЭ ЗВАЛІЦЦА.** Не ўбудзе, не зменшыцца. *Поідь, допоможы матэры, корона нэ зваліцца!*

**КОПЫЦА-ГНЫЛІЦА.** Непаваротлівы чалавек. *Покынь вылкы, копыца-гныліца, бо яно сіно зглумыш.*

**КРЫШКЫ́ ПОЗБЫРАТЫ.** Быць надта падобным. *Сын у батька ўсі крышкы позбыраў.*

**КУРЫ НОЧ РОЗОБРАЛІ.** Пра ранішнія летнія світанкі. *Спы, бо хутко куры ноч розбэруть.*

**КЫШКА КЫШЦЫ ДУЛІ КРУТЫТЬ.** Пра моцнае адчуванне голаду. *Закрутыліся мы ў лісы, згубылі дорогу. Доўго ходылі, стомыліса, а тут шчы кышка кышцы дулі крутыть.*

**КЫШКА МАРШ ГРАЕ.** Пра моцнае адчуванне голаду. *Нэ ўсэдыш на роботы, як кышка марш грае.*

**МІСЦЯ ЖЫВОГО НЭМА.** Пра моцна збітага чалавека. *Так хлопца побылі, шчо місця жывого на ёму нэма.*

**МОВУ ЗАНЯТЫ.** Раптоўна змоўкнуць. *Угледыў воўка, ажны мову заняло, так злякаўса.*

**МУРАШКЫ (ПО ТІЛУ) БІГАЮТЬ.** Пра адчуванне паколвання па целе. *Пэрэсэдыў ногу, ажны мурашкы забігалі.*

**НА ВОДУ ГАЎКАТЫ.** Моцна хацець піць. *Наїўса кыслоі капусты і цілы дэнь на воду гаўкаў.*

**НАДОІЎ БЫ ГУРКА РЭДЬКА.** Пра дакучлівага, надаедлівага чалавека. *Нэ можу на ёго дывытыса, надоіў бы гурка рэдька.*

**НАЙШОЎ СОКІРКУ ПУД ЛАЎКОЮ.** Узяць падрыхтаванае кімсьці. *Я собі зранку поставыла кошэля і ножа положыла, коб по грыбы йті, а вун найшоў бы сокірку пуд лаўкаю: схопыў его і побіг.*

**НОГЫ ГУДУТЬ.** Баляць ногі. *Находылася я по лісы, ажны ногы гудуць.*

**НЫДЭ НЭ ЗАДАВЫЦЦА.** Усё роўна давядзецца выканаць справу. *Поідэш до Пінска, ныдэ нэ задавысса.*

**НЫ МЫЧЫТЬ НЫ ТЭЛІЦЦА.** Пра нерашучага, нясмелага чалавека. *Усі хлопцы з дэўкамы ў клубы гуляють, а гэты ны мычыть ны тэліцца.*

**НЫ СОБІ НЫ ЛЮДЯМ.** Пра абыякавага, запаволенага чалавека. *Батько й маты ў еі шустрыі і робять хутко, а дочка ўродыласа ны собі ны людям.*

**НЫ ТІНЮ НЫ ПАХУ.** Не выносіць чаго-небудзь. *Я грыбоў нэ люблю ны тіню ны паху.*

**НЫ ЧОРТУ КОЧЭРГА НЫ БОГУ СВІЧКА**. Пра няздатнага чалавека. *Поставылі брыгадіра – ны чорту кочэрга ны Богу свічка – нэ можэ навэть бумагу выпысаты.*

**НЫ ШЛО НЫ ІХАЛО.** Не да месца. *Тэе вэсілле вэсною ны шло ны іхало.*

**НЫ ШЛЫК НЫ КОЎПАК.** Пра няўдаліцу. *Трэба вучытыса, бо выростэш ны шлык ны коўпак.*

**НЫ ШЭНЬ НЫ ПЭНЬ.** Пра непаваротлівага чалавека. *Гледы, як сэстра робыть хутко, а ты ны шэнь ны пэнь.*

**НЭ ЎСПОМЫНАТЫ Ў ДОБРЫ ДЭНЬ.** Пра дрэннага чалавека. *Цыгануў ліпш нэ ўспомынаты ў добры дэнь, натэрпілосо сэло од іх за тыждэнь.*

**ОБЫШОЎ БЫ ХОНЯ І ВУЛЬКУ, І ШЫМОЛОЎКУ.** Прайсці вялікую адлегласць. *Я ўчора, як шукаў тэлушку, обышоў бы Хоня і Вульку, і Шымолоўку.*

**ОД ГОЛОВЫ ОДЫЙГІ.** Звар'яцець. *От такоі бэды од головы можно одыйті.*

**ОД РУК ОДБЫТЫСА.** Выйсці з-пад кантролю. *За літо діты од рук одбыліса, зусім слухаты нэ хочуть.*

**ПАДАТЫ ОД РОБОТЫ.** Моцна стаміцца. *Маруся, як прыдэ з болота додому, то ажны падае од роботы.*

**ПОЙТІ НА ВЫХТОРОВУ ГОРУ.** Памерці. **Выхторова гора** – урочышча, дзе ў Забараўцах знаходзяцца могілкі. *Мусыть час і мні пойті на Выхторову гору, чую, шчо нэдоўго мні осталосо.*

**ПОРОХНО СЫПЛЕЦЦА.** Пра старога чалавека. *Якыі тобі танцы, з тэбэ ўжэ порохно сыплецца.*

**ПРАНЦЫ З'ІЛІ.** Пра смерць чалавека ад цяжкай хваробы. *Чуў, шчо Мышарын помэр, пранцы з'ілі, і дохтур нэ помуг.*

**ПУПА НАПНУТЫ.** Напружыцца, натужыцца. *Як нэ хочэш пупа напнуты і скосыты жыто, то будэш зваты жонок, коб сэрпамі жалі.*

**П'ЯНЫ З КОПЫТ.** Моцна п'яны. *Прышоў додому з вэсілля п'яны з копыт.*

**РОТА РОЗЗЯВЫТЫ.** Моцна здзівіцца. *Сусід аж рота роззявыў, як мої гарбузы побачыў.*

**РУКЫ НЭ З ТОГО МІСЦЯ РОСТУЦЬ.** Пра няўмелага, нядольнага да працы чалавека. *Ныц сам зробыты нэ можэ, мусыть, рукы нэ з того місця ростуть.*

**СВІТ НЭ БАЧЫТЫ.** Пра нешта дзіўнае. *Володя ў нас гультяй, шчо світ нэ бачыў.*

**СВЫННЮ СЦАТЫ.** Пра мурзатага чалавека. *Іды помыйса, бо ўмурзаўса, як свынню сцаў.*

**СВЫНЫ ТАТКО.** Пра мурзатага чалавека. *Прыйшоў раз до нас дядько піч ладыты. Так умурзаўса, бы свыны татко.*

**СВЯТЭЕ ДІЛО.** Тое, што абавязкова трэба зрабіць. *Прыіхаты од сіна і помытыса – святэ діло.*

**СОБАКАМЫ НЭ ДОГНАТЫ.** Вельмі хутка бегчы. *Скочыў з плота і побіг, шчо собакамы нэ дожэнэш.*

**СОБАЧА МАТЫ.** Пра чалавека, які вельмі любіць сабак. *Гледы, прыіхала ўжэ собача маты, то й нэ спускае Ласку з рук.*

**СОБАЧЭ ВЭСІЛЛЕ.** Дрэнны гурт людзей; што звычайна характарызуецца амаральнымі паводзінамі. *Жонка с хаты, а чоловік собачэ вэсілле ў хаты зробыў.*

**ТІМЭЧКО ПРОДЗЁЎБАТЫ.** Надакучыць. *Ты мні со своім конём тімэчко продзёўбэш. Ныдэ вун нэ лунэ, прыдэ додому.*

**ТО Ў ЛІСЫ, ТО Ў СТРЫСЫ.** Немаведама дзе. *Прэдсэдателя зарэ нэ зловыш: вун то ў лісы, то ў стрысы.*

**ТЭТЭРА ГЛУХАЯ.** Пра глухога чалавека. *Нэ кажы ныц, нэ пныса, нэ почуе вона, бо тэтэра глухая.*

**У ГОЧЫ ЛІЗТЫ.** Надакучаць, назаляць каму-небудзь. *Чого ў гочы лізэш? Нэ бачыш, нэма мні колі з тобою баяты.*

**У ЛЮДЫ ВЫБЫТЫСА.** Дасягнуць пэўных поспехаў у жыцці. *Іваноў сын у люды выбыўса, зарэ ў Мінску жывэ.*

**УТРЫСКАТЫСА, ЭБЫ ЧОРТ У КОЛЯВУ ГРУШУ.** Вельмі закахацца. *Ныц доброго нэма ў гэтуй дійцы, а вун, бач, утрыскаўса ў еі, эбы чорт у коляву грушу.*

**ХАЙ ТОБІ І КУШ І РЫБА.** Пажаданне дабра. *Хай тобі і куш і рыба, чоловічэ, добрэ, шчо подвюз мэнэ.*

**ХВАЛІ МЭНЭ, МОЯ ГУБОНЬКА, ТО ДО ЎХА РОЗОРВУ.** Пра чалавека, які вельмі любіць выхваляцца. *– Я такэ добрэ плаття собі з Пінска прывэзла! А на мні як хорошэ дывяцца. – Ой, Оля, хвалі мэнэ, моя губонька, то до ўха розорву.*

**ХВОСТА ЗАДЫРАТЫ.** Моцна ганарыцца. *Нэма чого хвоста задыраты, колі сам ныц людне́го зробыты нэ можэш.*

**ХУТЧЭЙ РАК НА ГОРЫ СВЫСНЭ.** Пра нешта неверагоднае. *Хутчэй рак на горы свыснэ, чым Ялоха жэныцца.*

**ХОТЬ БЫ ХНЫ.** Пра абыякавасць, няўважлівасць. *Ну й хозяін! У його колесо од воза лопнуло, а ёму хоть бы хны.*

**ХОТЬ ДО РАНЫ ПРЫКЛАДВАЙ.** Пра спакойнага, добрага, пяшчотнага чалавека. *Муй малы шкодыть вэльмы, але ж бывае і спокуйным, хоть до раны прыкладвай.*

**ЧОРНА СТЭЖКА.** Сцежка, па якой часта ходзяць людзі. *Чого ўжэ зарэ ў ліс іті, колі там чорна стэжка.*

**ЧОРТ ДІТЫ КОЛІШЭ.** Моцна шанцуе. *У Мыколы штогод уроджай добры і прыплод ў свынэй, ёму, мусыть, чорт діты колішэ.*

**ЧОРТ НЭ ВОЗЬМЭ.** Нічога не здарыцца. *Нэ пэрэжывай так муцно, забэрэш тую солому, чорт еі нэ возьмэ.*

**ШЧО СТУПІНЬ, ТО Й КУСІНЬ.** Вельмі часта есці. *Вун оттого і тоўсты такы, бо шчо ступінь, то й кусінь.*

**ШЧЭ Й КУНЬ НЭ ВАЛЯЎСА.** Пра непачатую справу. *Люды ўжэ картоплю посадылі, а ў мэнэ ў городы шчэ й кунь нэ валяўса.*

**ШЫБЭНЬЦЫ ШУКАТЫ.** Пра чалавека, які часта ўмешваецца ў небяспечныя справы. *Ой, боюса за свого хлопца, бо, дэ нэ ходыть, шыбэныцы шукае.*

**ЯК БУЛАВА.** Пра гультая. даўней ў калгасе быў надта лянівы конь па мянушцы Булава. *Чого стоіш як Булава? Поможы людям дрова рызаты, бач, якые ўжэ мокрые.*

**ЯК ДО НЭБА.** Вельмі далёка. *До твого Мінска як до нэба.*

**ЯК ДУРНОМУ БЫТЫСА.** Вельмі хацець. *Хочэцца танцоваты як дурному бытыса, оно музыкы нэма.*

**ЯЗЫК НЭ ПОВЭРНЭЦЦА.** Не адважыцца сказаць. *У мэнэ язык нэ повэрнэцца всэ росказаты.*

**ЯК МЭРТВОМУ КАДЫЛО ПОМОЖЭ.** Пра бездапаможну сітуацыю. *Твоя отрава поможэ як мэртвому кадыло, всё ровно жук картоплі з'іў.*

**ЯК НА ДЭДЫ НАІСТЫСА.** Дабра наесціся. *Наіўса як на дэды і спаты люг.*

**ЯК ПЛАКСА ЖЫДУЎСКА РЭЎСТЫ.** Моцна плакаць. *Чого рэвэш як плакса жыдуўска?*

**ЯК ПОП З КАДЫЛОМ НОСЫТЫСА.** Пра апантаннага чалавека. *Як получыла тые пісьмо, то і носыцца з ім як поп з кадылом.*

**ЯК ЧОРТ ЛАДАНА БОЯТЫСА.** Вельмі баяцца каго-небудзь. *Мы нашого старосту ры Польшчы бояліса як чорт ладана: такы поганы буў.*

*М.П. Антропаў*

# ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНЫЯ НАЗІРАННІ НАД ЛЕКСІКАЙ НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА МАЗЫРСКА-ПРЫПЯЦКАГА ПАЛЕССЯ

Сярод надзвычай вялікай колькасці палескіх хранонімаў (больш за 1100), апісаных і сістэматызаваных у фундаментальным "Палескім народным календары" С.М. Талстой [2, с. 30–274] звяртаюць на сябе ўвагу як бы "напаўхранонімы" кшталту *бацька*, *дзяды*, *бабы*; *градавыя*, *сухія*, *крывыя дні*, замацаванасць якіх да пэўных каляндарных дат мае выразна вібрацыйны характар. Такія хранонімы, матываваныя шэрагам семантычных мадэляў і апазіцый тыпу мужчынскі/жаночы, сухі/мокры, "чысты"/грэшны, небяспечны, "крывы" і да т.п. займаюць істотнае месца таксама ў лексіцы традыцыйнай духоўнай культуры Мазырска-Прыпяцкага Палесся, дыялекталагічнаму даследаванню якога Аляксандр Антонавіч Крывіцкі прысвяціў колькі год сваёй навуковай кадэнцыі.

Своеасаблівай рэалізацыяй адной з адзначаных вышэй апазіцый з'яўляецца семантычная мадэль роднасці, «у рамках якой святы і дні календара аказваюцца ў адносінах адзін да аднаго "сваякамі": бацькам ці маці, братам, пляменніцай і да т.п.» [2, с. 385–386]. Назапашаны да цяперашняга часу матэрыял дазваляе, на думку С.М. Талстой, з упэненасцю канстатаваць асаблівую частотнасць у сістэме палескіх хранонімаў "вертыкальнай мадэлі роднасці", г.зн. трактоўцы свят як дзяцей і бацькоў, прычым звычайным атрыбутывам для двухслоўных найменняў з'яўляецца бацька/батько – эпітэт, які вызначае дачыненне некаторых свят да бліжэйшага папярэдняга ці наступнага свята або дня. Аднак гэта прадуктыўная семантычная мадэль уласцівая, перш за ўсё, заходнепалескім хранонімам (*Васілёў*, *Грамнічны*, *Пятроў*, *Пакроўны*, *Стрычанскі бацька*); у мазырска-прыпяцкім жа рэгіёне, згодна з архіўнымі запісамі, фіксуецца адзінкавы хранонім такога тыпу, звязаны з вясеннім Міколам – 9/22 мая:

Мико́лін батько 'дзень, які папярэднічае Міколаву дню, г.зн. 8/21 мая': *Міколін батько – перад Міколою* (Барбароў Мазыр.)[1].

Семантычнай кандэнсацыяй страчанага словаспалучэння можна тлумачыць найменні гэтага ж дня Міко́льнік (Кочышча Ельск.) і Міку́льнік (Дзякавічы Жытк.), прычым другасная дэмінутыўнасць, якую народная свядомасць прыпісвае апошняй назве, адлюстроўваецца ў зваротнай , г.зн. "сынавай"

[1] Фактычны матэрыял, які прадстаўлены (з нязначнай карэкцыяй) ў артыкуле, выбраны са згаданай працы С.М. Талстой.

семантыцы храноніма: *Малэньке свято вперод: Ушоснік – Ушэстье, Мікульнік – Мікола. У ка́жного Міколы свой Мікульнік, свой сін.*

Кантамінацыяй наймення пярэдадня Міколы і дня Іаана Багаслова, які таксама прыпадае на 8/21 мая (асабліва адзначанага ў народным сельскагаспадарчым календары як спрыяльнага для пасадкі агуркоў), з'яўляюцца фактычна дэсемантызаваныя хранонімы-словаспалучэнні *Іван Міко́льный* (Дубровіца Хойн.), *Міко́лный Іван* (Камаровічы Петрык.), *Міко́льскій Іван* (Кіраў Нараўл., Дубровіца Хойн.), *Міку́лін Іван* (Тонеж Лельч.), *Іван Міку́льны(й)* (Жахавічы Мазыр., Кочышча Ельск.), *Міку́лны Іван* (Замошша, Стадолічы Лельч.).

Іншая – гарызантальная – сямейна-родавая семантычная мадэль рэалізуецца ў хранонімах, якія маніфестуюць апазіцыю мужчынскі/жаночы, менавіта *дзяды/бабы* пры значнай разнастайнасці і семантычнай нагружанасці найменняў, што тычацца першага элемента, і адназначнасці другога, чыя варыятыўнасць мае фанетычны характар, напрыклад:

*ба́бы*□, мн. 'дзень, наступны за кожным з гадавых памінальных дзён, якія называюцца *дзяды*': *Багато на году е дзедо́ў, не одные – трое ці чэцьверо. То ўвечэрі по́снэе готуюць кушаць – з грібцамі, з рыбою, і кашу, і гру́шкы, і пекуць палю*□*шкы – толькі із олеямі іли з маком, а назаутрэй ужэ это называюцца бабу́. То ўжэ ж дзеды тые самые, ну ужэ называюць бабу́, ужэ готуюць скоромну еду, ужэ яічніцу, сало, молочнэ ўжэ. А ўвечэры обязательно посну. Дзеды не ў абу́які дзень, а ў пьятніцу, а ужэ назаутрэй, у суботу – это ужэ шчытаюць бабу́* (Стадолічы Лельч.); *На первуй дзень дзеды ў вечэрі, а на другі дзень, кажуць, это ужэ Ба́бу. На сьнеданне, кажуць, што это ужэ не дзяды прідуць, а ба́бу* (Жахавічы Мазыр.).

Карэлятыўнасць хранонімаў *дзяды/бабы* па прыкмеце полу абумоўлівае такую ж дыферэнцыяцыю памерлых продкаў замест звычайнай, г.зн. уласна пазаполавай, але пераважна звязанай з *дзяды* (параўн., аднак, аморфнае ў дачыненні да полу мясцовае *родітелі* ў гэтым жа семантычным кантэксце), і значна шырэй распаўсюджанай недыфірынцыраванай мадэлі, што ўскосна сведчыць аб другаснасці (у адносінах да *дзяды*) і дыялектнасці найменняў, якія працягваюць *бабы*. Таксама звяртаюць на сябе ўвагу «семантычныя адпаведнасці "мужчынскага" карэлята станоўчаму вектару хрысціянскіх каштоўнасцяў, а "жаночага" – адмоўнаму» [2, с. 386], што праяўляецца, у прыватнасці, у станоўчай/адмоўнай ацэнцы дзён тыдня (пятніца/субота) і звязаным з ёй кулінарным кодам памінальнай стравы. У сувязі з гэтым *дзяды* святкуюцца ў пятніцу, г.зн. у посны, станоўчы ў палескай этнакультуры дзень, а *бабы* – ў скаромную суботу.

Значна больш істотная семантычная варыятыўнасць (яе класіфікацыю прапанавала С.М. Талстая [2, с. 76–80]), спалучаная з дэрывацыйнай разнастайнасцю (уласна з варыятыўнасцю відавога эпітэта пры родавым найменні), адзначаецца ў намінацыях, якія працягваюць *дзяды*.

1) 'Памерлыя продкі': *Як обідзіш дзедо́в, як не наваріш чого трэба, то зробяць оні врэд* (Дзякавічы Житк.).

2) ‘Каляндарна замацаваныя памінальныя дні, прысвечаныя продкам наогул (у адрозненне ад каляндарных памінак з адлікам ад дня смерці, г.зн. *траціны, дзевяціны, саракавіны, год* і г.д.)’: *Дзеды за умірýшчіх, шо даўно пауміралі* (Камаровічы Петрык.).

Часцей за усё *дзяды* спраўляліся два дні: альбо ў пятніцу і суботу, альбо ў чацвер і пятніцу; радзей – тры дні (чацвер, пятніца, субота) ці толькі адзін: у пятніцу або суботу. Як адзначалася вышэй, у Мазырска-Прыпяцкім Палессі памінкі ў пятніцу посныя і маюць назву *дзяды*, скаромныя суботнія называюцца *бабы*. Адзначана, аднак, і інверсійная мадэль, у прыватнасці, у Дзякавічах Жытк., дзе памінкі спраўляюцца тры дні, і кожны з іх прысвечаны адпаведна дзяцям, мужчынам і жанчынам: *Дзеды троецкіе, восенніе і на Веліконе. Ў четверх децкіе – скоромные, ў пьятніцу – мушчінскіе посные і ў суботу бабскіе – богатые*.

Толькі *дзяды* перад Радаўніцай, якія спраўляюцца далёка не паўсюдна, адзначаюцца ў нядзелю пасля Вялікадня ці ў панядзелак Фаміногa тыдня (іншы раз нават у суботу тыдня велікоднага): *Дзéды обязацельно ў пьятніцу, не ў абýякі дзень, а ў пьятніцу, любые дзéды ў пьятніцу, а ужэ назаўтрэй, у суботу это ужэ шчытають бабу, то ужэ готують скоромну еду. Это тулькі одные дзéды скоромные – перед Радоўніцой* (Стадолічы Лельч.).

*Дзяды* часцей за ўсё адзначаюцца:

а) напрыканцы памінальнага (*дзедавага*) тыдня мясаеду перад Вялікім постам, г.зн. у пятніцу-суботу перад сырапусным (масляным) тыднем: “*Дзяды на маслянай* ці *перад Вялікім постам* ці *перад Помінáўной недзелей у мясаед*” (петрык.: [4, с. 211]); *Зімніе деды* (Дзякавічы Жытк.), *Мясаедные дзяды* (Жахавічы, Скрыгалава Мазыр.), *перед Постом* (Навінкі Калінк., Стадолічы Лельч);

б) пасля Вялікадня перад Радаўніцай (Праводзінамі), звычайна ў панядзелак Фаміногa тыдня альбо напярэдадні, у нядзелю ці нават у суботу – у залежнасці ад дня, калі адзначаецца Радаўніца (Праводзіны): *Рáдасные дзеды* (Жахавічы Мазыр.), *Рáдоніцкіе, Рáдонішные деды* (Залатуха Калінк.), *Рáдонічные* (Дзякавічы Жытк.), *Рáдоўнічные дзеды* (петрык.: [4, с. 211]), *Рáдоўшные деды* (Дзякавічы Жытк.), *Рáдунічны дяды* (Чалюшчавічы Петрык., Балажэвічы Мазыр.), *Рáдужные деды* (Вялікі Бор Хойн.), *Рáдучные деды* (Дзякавічы Жытк.), *Рáдушные деды* (Касцюковічы Мазыр.), *перэд Рáдоўніцой* (Стадолічы Лельч.), *Велікодные дзеды* (Жахавічы Мазыр.), *на Веліконе* (Дзякавічы Жытк.);

в) у суботу, пятніцу ці ў чацвер-пятніцу-суботу перад Сёмухай (Тройцай): *Сёмушные деды* (Дубровіца Хойн.), *Срэдні дяды* (Навінкі Калінк.), *Траецкіе деды* (Дзякавічы Жытк.), *Троéчные деды* (Замошша Лельч., Касцюковічы Мазыр., петрык.: [4, с. 211]), *Трóечные, Трóешные, Трóйцэвые деды* (Залатуха Калінк.), *Трóйчаны деды* (Чалюшчавічы Петрык., Лутаўё Жытк.), *Трóйчатые дзéды* (Жахавічы Мазыр.), *Трýйчаные дзеды* (Дзякавічы Жытк.), *перед Трóйцой, пырыд Трíйцою* (Стадолічы Лельч.);

г) ў пятніцу-суботу перад Міхайлам (8/21.XI): *на Міхайлавай неділі деды* (Дзякавічы Жытк.), *перад Міхайлам* (Дубровіца Хойн., Жахавічы Мазыр., петрык.: [4, с. 211]), *Міхайловскіе деды* (Замошша Лельч., Дубровіца Хойн.,

петрык.: [4, с. 211]), *Міхальскіе Деды* (Галубіца Петрык.), *Осенніе деды* (Дзякавічы Жытк., Жахавічы Мазыр., Петрык.: [4, с. 211]).

Акрамя таго, у Дзякавічах Жытк. *дзяды* адзначаюць у суботу напярэдадні Каляд ці Новага года. Зафіксаваны адзіны выпадак, калі ў сяле, менавіта ў Залатухе Калінк., адзначаюцца свае, адрозныя ад іншых – *Сівакóўскіе деды*. Назва звязана з прозвішчам, распаўсюджаным сярод жыхароў сяла, таму памінкі спраўляюць усе, хто мае гэта прозвішча; такім чынам, адбываецца нешта накшталт родавых памінак: *Осенью Сівакóўскіе деды: каго Сіваковы хвамілія, те празнують*. Там жа зафіксаваныя таксама адзінкавыя *Стрэчэнскіе деды* – 13 лютага, г.зн. за два дні да Стрэчання (Грамніц), якое адзначаецца 2/15.II.

З пералічаных чатырох дат, на якія ў Мазырска-Прыпяцкім Палессі часцей за ўсё прыходзяцца *дзяды*, у кожнай лакальнай традыцыі (адзін ці некалькі суседніх населеных пунктаў) яны могуць адзначацца тры-чатыры разы на год, параўн., напр., запіс, зроблены ў свой час Казімірам Машыньскім: "У Мазырскім павеце ў вёсках Галубіцы, Дарашэвічах, Брынёве і Дзякавічах спраўляюць дзяды чатыры разы на год, менавіта – адзін раз восенню (перад св. Міхаілам, г.зн. перад 8.XI ст. ст.) і тры разы вясной (перад Вялікім постам, пасля Вялікадня і перад Сёмухай)" [4, с. 211]. Двое *дзядоў* святкуецца ў Барбарове Мазыр.: *Дядоў двое. Деды перад масленаю, на дедавóй неделі ў пятніцу. Чісла яны не глядять. Всéрадна, а патом дедавáя, а тады мáслена. А ў суботу бабý: пякуть бліны і на вокны ложать – дядам ужэ, што дяды прыдýть. А другіе деды перад Тройцаю і тожа тыждэнь да Троіцы за два дні: ў пятніцу ў вечарі дяды, а ў суботу ужэ... Перад Троіцай ужэ нема бабý. Бабý адін раз толькі*.

Самымі вядомымі ў Палессі, на думку С.М. Талстой [2, с. 80], наогул трэба лічыць *дзяды* а) перад сырапусным (масляным) тыднем, б) перад Сёмухай і в) асеннія, звычайна *Міхайлаўскія дзяды*. Варыятыўная разгалінаванасць, а таксама асаблівая значнасць восеньскія *дзядоў* з'яўляецца характэрнай рысай усходняга Палесся, у тым ліку, зразумела, мазырска-прыпяцкага этнакультурнага рэгіёна, а таксама Чарнігаўшчыны. Насуперак гэтаму, ў заходняй частцы Палесся восеньскія *дзяды* ладзяцца толькі адзін раз. Нярэдка адні з шанаваных у вёсцы *дзядоў* лічацца галоўнымі, гэта часцей за ўсё – пярэдадні Сёмухі і Радаўніцы, параўн.: *Дзеды□ў багато, блудяшчые дзеды□. Самые справедлівые дзеды□ на Рáдоўніцу* (Жахавічы Мазыр.).

3) 'Памінальная вячэра': *Вот не наварыш дедоў, аны* [дзяды] *і сьняца, дачі□ха* [дачка] *раз не наваріла дедоў* (Дзякавічы Жытк.).

Разам з шырока распаўсюджанымі дзеясловамі тыпу *правіть, робіть, ставіть, строіть* у значэнні 'ладзіць (памінальную вячэру)' у словаспалучэннях з апорным субстантывам *дзяды* толькі ў Дзякавічах Жытк. і Жахавічах Мазыр. зафіксаваны яго дзеяслоўны карэлят *дзедавáць* 'ладзіць памінальныя вячэру ці абед у дні каляндарных памінак, якія называюцца *дзяды*': *Дзедýем мы. Мéсечно на вуліцэ було. А к нам баба прішла с беллём, штоп покачаць. І кажэ, вы будзеце вечераць, а я буду качаць. А я говору: колі дзеды не обідзяца, то і мы не обідзімса. А на дворе мéсечно, хоць іголкі собірай. Покачала она тое беллё, собраласа, пошла. Её мужык пріходзіць і кажэ: што наробілі моей жýнке? А мы кажэм: што такое? Кажэ, прішла, всё ліцо побітое. А она об ушáк побіласа, і*

*відно ж было, што её направіло на тэй ушак* (Дзякавічы); *С таёй поўсьці, што пад красні□ма* [кроснамі], *на тую нітку вўткаць. Да на дзёды, як дзядўюць, да пачапі на шыю да сядзь на шы□йцы* [печі] *да дзёды будуць іці да будзеш бачыць. Толькі ні с кем ні гаварі* (Жахавічы).

"Метэаралагічная" семантыка адлюстравана ў выключна значных для народнай храананіміі найменнях, звязаных з засцярогамі ад летняга градабою і засухі, так званых *градавых* і *сухіх днях*.

Згодна з традыцыйнымі ўяўленнямі градабой мог спрычыніцца ад парушэння шматлікіх забарон, сярод якіх найбольш істотнай з'яўляецца забарона на працу, асабліва ў полі, у вызначаныя *градавыя дні*, звычайна ў *Градавую сераду*, якая, як правіла, папярэднічала Сёмусе ці першую пасля яе, але таксама ў першую пасля Вялікадня [1, с. 356]. У Мазырска-Прыпяцкім Палессі вядомыя ўсе гэтыя значэнні, а таксама значна больш пашыранае, якое, па сутнасці, іх аб'ядноўвае/паглынае:

1) 'серада перад Сёмухай': *І ёсека пёрэд Тройцэю Градова, кажуць, середа. Ужэ ж, кажуць, треба ахраняца, штоб град не пабіў. Не рабіць. На землі не тре рабіць. Землі не тре варушыць* (Стадолічы Лельч.); "*Градова серэда.* Серада перад Тройцай. *Цепер не трэ полоць, цепер градова серэда*" (Сямурадцы Жытк. [3, с. 226]);

2) 'серада пасля Сёмухі': *Градова серада на Троіцу, ў сёраду. Эта ж яе треба сільна сьвяткаваць, каб град не йшоў. Як яе не сьвяткуеш, дак град рабіцьме ў сялі вреда, збівае дабро. У полі не работалі, коб град не збівал* (Жахавічы Мазыр.); *После Труйцы Градова серэда. В огороде ніззя нічогó делать, шоб град не побіў* (Кочышча Ельск.); *Это после Труйцы трі дне, это неделя, понеділок, ўторок, потом Градова серада і Сухі чэтвэр. Градова серада – сяткують, а то град побье огород. Сухі чэтвэр сяткують, шоб не було сушы* (Сімонічі Лельч.);

3) 'серада на велікодным тыдні' (Дзякавічы Жытк., Вялікі Бор Хойн.);

4) 'кожная серада ў перыяд паміж Вялікаднем і Ўшэсцем': *Ат самае Паскі і да самага Ушэсьтя кóжда серада – спецыальна ад града: нічаго не делають* [не кранаюць ні зямлю, ні ваду]. *Градавая серада* [кожная з гэтых сярэд] – *сьято варавітэе. Землі трогать не нада* (Камаровічы Петрык.). Апошняе значэнне, нідзе пакуль больш не зафіксаванае, паказвае на зусім асобы – надзвычай высокі – статус *Градавой серады* ў лакальнай традыцыі асобнага сяла.

Безумоўна, з'яўляюцца вытворнымі ад асноўнага і хранонімы, якія яму спадарожнічаюць, з адпаведнай семантыкай, пашыранай за кошт другога кораня -*бой-* у атрыбутыве:

*Градобóйная середа* 'тое ж, што *градавая серада* (у розных значэннях)': *Есьць Градова середа, ена послі Велікодня, не доходя Троіцы, Градобойна середа ешчэ называецца. Хто робіць на гéтэ сьвето, то его половіну посевоў вубье, а тому, хто не робіў, – нічого* (Кіраў Нараўл.); *Середа Градобойна, не тре робіть* (Галубіца Петрык.);

*Градобóй* 'верагодна, серада пасля Сёмухі, калі засцярагаліся працаваць у полі, каб не было граду': *Градобой на Троіцу, на Гранóй* [Граны□м тыдні] (Залатуха Калінк.).

Апошняя намінацыя з'яўляецца, безумоўна, вынікам семантычнай кандэнсацыі папярэдняга словаспалучэння, але адначасова ўяўляе з сябе амонім да вядомага ў гаворках *градабо́й* 'град' са схаванай (часавай) семай.

У Малых Аўцюках Калінк. зафіксавана *Гра(о)зовая середа* з далейшым развіццём семантыкі: *Середа́ гразова́я между Ўшэстя і Троіцы. Середа гразава́я – каб не бы□лі бу́ры, града, каб не наўрэділо. Трэба гулять, каб не рабілі.*

Добра вядомыя ў Палессі ў цэлым хранонімы з атрыбутывам *сухі*: *сухая середа, сухая неделя, сухій тыждень, сухій день, сухій четверг, сухій Іван* і пад. (больш падрабязна гл.: [2, с. 242 – 245]) – дні, у якія засцерагаліся працаваць (у агародзе, полі, гарадзіць агароджы, здольныя "загарадзіць" дождж і да т.п.), каб пазбегнуць засухі (таксама і іншых пагодных катаклізмаў, у прыватнасці, навальніц, граду, буры і пад. накшталт высыхання пасеянага), у мазырска-прыпяцкім этнакультурным рэгіёне распаўсюджаны менш шырока і маніфестуюцца фактычна толькі *сухім чацвяргом* з шэрагам значэнняў альбо ў сувязі з ім, параўн.:

*Сухі□ чацвер*:

1) 'чацвер на сёмушным (траецкім) тыдні': *Сразу после Троіцы – Сухі чэтвэ□р. Соблюдаем, штоб не засушыло, а Градовая серэда – это от града. На полі не работалі. І теперь соблюдают люде* (Галубіца Петрык..); *Улетку нашi людзі празнуюць Сухі чацьвер. У еты дзень не трэба нічога дзелаць. А я була согрэшыла раз. Недапо́ланы у мяне картоплі булі□, дык травы багато було, ну, я і пошла полоть у Сухі чацьвер. Сполола, а яны ўсе повысыхалі* (Вербавічы Нараўл.); *Сухі чэцьве́р у тэ вре́мне, тогды, як і Троіца, потому что по́люць. Да кажуць, іменно не треба ў Сухі чэцьве́р полоць – посохне* (Стадолічы Лельч.); *Сухі чацьвер – пасля Троіцы. Хто знае дак не по́ле. Як капаеш картоплі* [у гэты дзень], *дак яна* [бульба] *такая і астанецца* [болей не вырасце]; *Таго, што цвете́, навек не тарка́лі у тэй дзень* (Жахавічы Мазыр.); *Сухі чэтве́р после Тру́йцы, в огороде нізя нічого делать, шоб не посохло* (Кочышча Ельск.);

2) 'чацвер перад Сёмухай': *Сухій четьве́р – пэрэд Троіцэй. Не сеялі: не сей, бо сегодня Сухій чэтьве́р; не пашы, бо сегодня Сухій чэтьве́р – засуха буде* (Барбароў Мазыр.);

3) 'чацвер велікоднага тыдня': *На Пастку Сухі чятве́р* (Дзякавічы Жытк.);

*Сухая середа* 'серада пасля Сёмухі, пярэдадзень *сухога чацвярга*': *Серэда́ после Троіцы – сухой день. Кажуть так: Сухая серэда́* (Залатуха Калінк.).

Хаця хранонім *сухі дзень* у рэгіёне асобна не зафіксаваны, у Брагінскім р-не (сёлы Піркі і Верхнія Жары) адзначаны безумоўна звязаныя з ім сцягнутыя формы:

*Сухі□ндень* 'аўторак сёмушнага (русальнага) ці наступнага за сёмушным тыдня': *Водят русалку целый тыждень, а потом, во вто́рок – Сухі□ндень, кажуть* (Піркі);

*Сухі□нды*, мн. 'тое самае': *Сухі□нды – на йіх грэчкі не сеялі* (Верхніе Жары);

*Сухі□ндый* 'тое самае': *Сухі□ндый на трое́цком тыжні, так не шлі ні ў лён,* [не] *пололі, ні ў огород, нічого не робілі. На трое́цком тыжні Сухі□ндый. Як ужэ проводять русалок, ужэ Сухі□ндый* (Піркі).

Яскравым адметным прызнакам гэтых найменняў з'яўляецца, бясспрэчна, дэсемантызацыя, таму што сема 'сухі' у іх непасрэдна не прысутнічае, яна рэдукаваная, адсунутая на перыферыю семантычнай сферы номена і, такім чынам, выяўляецца толькі апасродкавана: грэчкі не сеялі, не палолі, у полі і агародзе нічога не рабілі → Ø [таму што пасохне].

Другая асаблівасць гэтых найменняў звязана з наяўным павелічэннем у іх семантычнай структуры ступені "хрананімізацыі": *Сухі дзень* → *Сухі□ндень* → *Сухі□нды* → *Сухі□ндый*, – прычым апошняя лексема, практычна поўнасцю страціўшая анамасіялагічныя сувязі са словаспалучэннем, ад якога ўтварылася, набыла несумненныя фармальныя прызнакі тыповага хранnetwork – адантрапанімічнага апелятыва на *-і/ій* (*-ы/ый*)/*-эй* тыпу *Антоні*(*й*), *Рыгоры*(*й*), *Ку́прый* (-э□*й*) і пад.

Найменей прадстаўленымі ў сістэме хронімаў Мазырска-Прыпяцкага Палесся з'яўляюцца назвы з атрыбутывам *крывы□* (*крівы□й*), больш таго, іх семантычнае напаўненне падаецца, на першы погляд, незразумелым, параўн.:

*Крывы чацвер*:

1) 'чацвер на масляным тыдні': *То на Маслену четве́р крывы□й буў* (Тонеж Лельч.);

2) 'чацвер на велікодным тыдні': *Криву́й чэтьве́р* (Камаровічы Петрык.).

Безумоўна, рэканструкцыя гэтых значэнняў цалкам магчымая: першага, калі ўзяць пад ўвагу вядомыя забароны на шытво і прадзіва, звязаныя са святкаваннем Уласа (*Улассе*), які прыходзіцца на гэты дзень, а другога ў сувязі з "вялікаднем мёртвых" (*Наўскі вялікдзень*), г.зн. памінальным днём у чацвер на Светлым тыдні. Такім чынам, *крывы* ў абодвух выпадках мае вядомую семантыку – 'небяспечны' (параўн. шырока распаўсюджаныя *крывыя вечары* падчас Каляд).

Коратка абагульняючы выкладзены матэрыял, варта яшчэ раз падкрэсліць асаблівую каштоўнасць этналінгвістычнай методыкі, якая аперыруе разнастайнымі этнакультурнымі данымі, для семантычнай рэканструкцыі базавых для традыцыйнай народнай культуры груп лексікі; узорныя прыклады такой рэканструкцы пададзены ў шматлікіх артыкулах паважанага Юбіляра Аляксандра Антонавіча Крывіцкага.

## Спіс выкарыстаных крыніц


1. Антропаў М.П. Град // Беларускі фальклор: Энцыклапедыя. Т. 1. Мн.: Беларуская Энцыклапедыя, 2005. – С. 356–357.
2. Толстая С.М. Полесский народный календарь. – М.: Индрик, 2005. – 600 с.
3. Тураўскі слоўнік. Том 1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 255 с.
4. Moszyński K. Polesie Wschodnie. Materiały etnograficzne z wschodniej części pow. Mozyrskiego oraz pow. Rzecyckiego. – Warszawa, 1928. – VI, 328 S.

*А.А. Босак*

# МАТЫВАЦЫЙНАЯ ВАРЫЯНТНАСЦЬ У ГАВОРКАХ ВЕРХНЯГА НАД'ЯСЕЛЬДЗЯ

Тэрыторыя Верхняга Над'ясельдзя (Пружанскі раён Брэсцкай вобласці і яго сумежжа) уяўляе сабой адзін са своеасаблівых рэгіёнаў Беларусі ў плане міждыялектных кантактаў і дыялектных узаемаўплываў, дзе пашырана сукупнасць моўных з'яў фанетычнага, марфалагічнага і лексічнага характару, якія характарызуюцца пэўнай спецыфікай [1, 6-10].

Па выніках праведзеных даследаванняў на тэрыторыі Верхняга Над'ясельдзя выдзелены наступныя групы гаворак: гродзенска-баранавіцкія – на поўначы, паўночнабрэсцкія акаючыя – на захадзе, паўночнабрэсцкія окаючыя – у цэнтры, верхняясельдскія – у цэнтры, на ўсходзе і паўднёвым усходзе, малецкія – на паўднёвым усходзе, паўночназагародскія – на паўднёвым захадзе, сярэднезагародскія – на поўдні даследуемага рэгіёна (карта) [2-5].




Лінгвагеаграфічнае даследаванне лексікі гаворак Верхняга Над'ясельдзя паказала, што ў складзе намінацый побач з фанетычнай (*са́чэўка – сачо́ўка – сачу́вка – сачы́ўка – сачі́вка* 'сачавіца'; *пе́лена – пэ́лена – пы́лена – па́лена – пе́ляна* 'падол' і інш.), марфалагічнай (*ажы́на – ажы́ны* 'ажыны'; *маты́ль – маты́лка* 'матылёк'; *гачо́к – га́чка* 'матыка' і інш.), словаўтваральнай (*цыбу́ля – цыбуле́нне* 'лісце

цыбулі'; *павéць – падпавéць* 'невялікая павець'; *хмáрка – пэрэ́хмарок* 'невялікая хмара' і інш.) і акцэнтнай (*мурáшкі – мурашкí* 'мурашкі'; *скопэ́ц – скóпэц* 'капец бульбы'; *муля́ – мýля* 'бруд на дарозе' і інш.) варыянтнасцямі шырока прадстаўлена матывацыйная варыянтнасць [3-4].

У гаворках Верхянга Над'ясельдзя вылучаюцца наступныя групы намінацый, матываваныя рознымі прыкметамі:

1) матывацыйная прыкмета па афарбоўцы: *чóрныя я́гады /чóрные я́годы/* 'чарніцы', *красноголóвік /краснагалóвік, красноголóвэц, краснюк/* 'падасінавік', *чóрная каўбасá* 'крывяная каўбаса';

2) матывацыйная прыкмета па вонкавым падабенстве прадмета (акрамя афарбоўкі) да іншых рэалій складае аснову метафарычна ўтвораных назваў у выніку іх пераасэнсавання па вонкавым выглядзе: *пéр'е /пíр'е/* 'лісце цыбулі', *калóда* 'божая кароўка', *шоўк* 'мулінэ', *дрыгвá* 'студзень(халадзец)';

3) матывацыйная прыкмета на аснове асаблівасцей знешніх характарыстык рэаліі: *зáроснік, зáросэль, гушчэ́р* 'балоцісты лес', *тычкóвы боб* 'боб', *пухлáй, пухля́к, апýхлік* 'падбярозавік', *сіня́к /сыня́к/* 'махавік', *галавáч, галавáсцік /головáсты$^{і}$к/* 'апалонік', *кíшка* 'крывяная каўбаса', *вéлькая хáта /вэлíка хáта/* 'святліца', *жэлéзнік /жалязня́к/* 'рыдлёўка';

4) матывацыйная прыкмета на аснове функцыянальных характарыстык рэаліі: *налíванка /налíвачка, налíвайка/* 'крывяная каўбаса', *шчыпéр /шчыпёр, шчып'ёр/* 'лісце цыбулі', *таўканíца /тоўканíца, тоўканí$^{ы}$ца, товканы́ца, товканы́ця/* 'таўчоная бульба (пюрэ)', *чарпáк /чэрпáк, чэ$^{е}$рпáк/* 'апалонік', *сявéнька /сявэнька, севéнька, севэ́нька, сэвэ́нька, сывэ́нька/* 'прыстасаванне для сяўбы', *носíлка /носы́$^{і}$лка/* 'капа сена';

5) матывацыйная прыкмета па месцы распаўсюджання: *падбярóзавік /бэрэзня́к, бырызня́к, бэрóзовік, подбэрóзовік, подборóзовы$^{і}$к, пудбэрóзовы$^{і}$к, падбярэ́знік, подбэрэ́зны$^{і}$к, подбэрэзня́к, пудбэрóзны$^{і}$к/* 'падбярозавік', *подосы́$^{і}$ннык* 'падасінавік', *моховíк, багнóвік, багню́к* 'махавік';

6) матывацыйная прыкмета паводле складу рэаліі: *крупэ́ня, крывя́нка* 'крывяная каўбаса', *крýпнік /крýпні$^{ы}$к, крýпнык/* 'крупнік';

7) ацэначная матывацыя: *слепáк /сліпáк/, слепатá /слепотá, сліпотá/* 'дзьмухавец', *праўдзíвікі /праўдзíвыя, праўдзíвые, праўды́вые, правды́вые/, справэдлíвые, спрáвэдные* 'баравікі', *свíйскі біб* 'боб'.

Такім чынам, на даследуемай тэрыторыі сустракаюцца намінацыі, якія ў розных гаворках матывуюцца неаднолькава. Так, найменне 'крывяная каўбаса' матывуецца ***на аснове асаблівасцей знешніх характарыстык*** у цэнтры і на паўднёвым усходзе: *кíшка*. Матывацыйная прыкмета паводле ***складу рэаліі*** характэрна для гаворак паўднёвага захаду: *крупэ́ня* (у склад стравы ўваходзіць крупа); на поўначы (усходняя яе частка) назва мае такую ж матывацыйную

прыкмету, але з іншым планам выражэння: *крывя́нка* (у склад стравы ўваходзіць кроў). Матывацыйная прыкмета ***на аснове функцыянальных характарыстык*** адзначана на поўначы і, спарадычна, у цэнтры: *налі́ванка /налі́вачка, налі́вайка/*. Як адзінкавая, зафіксавана назва ***паводле афарбоўкі*** рэаліі: *чо́рная каўбаса́*.

Найменне 'боб' мае матывацыйную прыкмету паводле ***знешніх характарыстык*** толькі ва ўсходняй частцы поўначы: *тычко́вы боб* (паводле палкі (тычкі), якая ўтыкаецца ў зямлю для таго, каб па ёй віўся боб). У некаторых населеных пунктах паўднёвага захаду характэрна ***ацэначная*** матывацыя: *свійскі біб* (ужываецца для харчавання людзьмі).

Назва 'лісце цыбулі' матывуецца па-рознаму на поўначы і захадзе, з аднаго боку, і на паўднёвым усходзе, з другога боку. Матывацыйная прыкмета ***па функцыянальнасці*** характэрна для гаворак поўначы і захаду: *шчыпе́р /шчыпёр, шчып'ёр/*; матывацыйная прыкмета ***па вонкавым падабенстве да іншых рэалій*** – для гаворак паўднёвага ўсходу: *пе́р'е, пі́р'е*.

Для наймення 'падбярозавік' матывацыйная прыкмета ***паводле знешніх характарыстык*** уласціва гаворкам поўначы (заходняя яе частка): *апу́хлік,* а таксама некаторым гаворкам паўднёвага захаду: *пухла́й, пухля́к*. Для астатніх гаворак (за выключэннем гаворак захаду) характэрна матывацыйная прыкмета ***па месцы распаўсюджання***: *падбяро́завік, бэрэзня́к, бырызня́к, бэро́зовік, подбэро́зовік, подборо́зовы$^{і}$к, пудбэро́зовы$^{і}$к, падбяря́знік, подбэрэ́зны$^{і}$к, подбэрэзня́к, пудбэро́зны$^{і}$к*.

Для наймення 'махавік' матывацыйная прыкмета ***паводле знешніх характарыстык*** уласціва гаворкам поўначы: *сіняк*. У астатніх гаворках назва матывавана прыкметай ***па месцы распаўсюджання***: *імша́р /мшар, мша́рык, мыша́р, гомша́рык/* (паўднёвы ўсход); *мохові́к* (усход); *багно́вік* (захад і цэнтр); *багню́к* (паўднёвы захад).

Для назвы 'апалонік' характэрна матывацыйная прыкмета ***паводле знешніх характарыстык*** для некаторых гаворак поўначы: *галава́ч, галава́сцік*, а таксама паўднёвага захаду: *голова́сты$^{і}$к*.

Для назвы 'студзень (халадзец)' для гаворак поўначы (усходняй яе часткі) характэрна матывацыйная прыкмета ***па вонкавым падабенстве*** (акрамя афарбоўкі) ***да іншай рэаліі***: *дрыгва́*.

Для наймення 'капа сена' характэрна матывацыйная прыкмета ***па функцыянальнасці*** на паўднёвым усходзе: *насі́лка /носы́$^{і}$лка/*.

Для назвы 'баравікі' характэрна ***ацэначная*** матывацыя спарадычна на ўсёй тэрыторыі рэгіёна: *праўдзі́вікі /праўдзі́выя, праўдзі́вые, праўды́вые, правды́вые/, справэдлі́вые, спра́вэдные*.

Для наймення 'апалонік' матывацыйная прыкмета ***па функцыянальнасці*** характэрна спарадычна гаворкам па ўсёй даследуемай тэрыторыі: *чэрпа́к /чарпа́к, чэ$^{е}$рпа́к/*.

Такім чынам, матывацыйная прыкмета ***па асаблівасцях знешніх характарыстык*** уласціва ў найбольшай ступені гаворкам поўначы: *галава́ч*, *галава́сцік* ‘апалонік’, *сіня́к* ‘махавік’, *апу́хлік* ‘падбярозавік’, *тычко́вы боб* ‘боб’. На аснове асаблівасцей знешніх характарыстык матывуюцца часам найменні на паўднёвым захадзе, паўднёвым усходзе і ў цэнтры: *пухла́й*, *пухля́к* ‘падбярозавік’, *кі́шка* ‘крывяная каўбаса’.

Матывацыйная прыкмета ***па афарбоўцы*** характэрна ў аднолькавай ступені ўсім гаворкам даследуемага рэгіёна: *чо́рныя я́гады* /*чо́рные я́годы*/ ‘чарніцы’, *красноголо́вік* /*краснагало́вік*, *красноголо́вэц*, *красню́к*/ ‘падасінавік’, *чо́рная каўбаса́* ‘крывяная каўбаса’.

Матывацыйная прыкмета ***па вонкавым падабенстве прадмета*** (акрамя афарбоўкі) ***да іншых рэалій*** зафіксавана ў гаворках паўднёвага ўсходу, паўднёвага захаду, поўначы: *пе́р’е* /*пі́р’е*/ ‘лісце цыбулі’, *кало́да* ‘божая кароўка’, *шоўк* ‘мулінэ’, *дрыгва́* ‘студзень(халадзец)’.

Матывацыйная прыкмета ***на аснове функцыянальных характарыстык*** рэаліі характэрна ўсім даследуемым гаворкам: *налі́ванка* /*налі́вачка*, *налі́вайка*/ ‘крывяная каўбаса’, *шчыпе́р* /*шчыпёр*, *шчып’ёр*/ ‘лісце цыбулі’, *таўкані́ца* /*тоўкані́ца*, *товканы́ца*, *товканы́ця*/ ‘таўчоная бульба (пюрэ)’, *чэрпа́к* /*чарпа́к*, *чэ$^{е}$рпа́к*/ ‘апалонік’, *сяве́нька* /*сявэ́нька*, *севе́нька*, *севэ́нька*, *сэвэ́нька*, *сывэ́нька*/ ‘прыстасаванне для сяўбы’, *носі́лка* /*носы́$^{і}$лка*/ ‘капа сена’. Аднак у большай ступені дадзеная прыкмета ўласціва гаворкам цэнтра і паўднёвага ўсходу.

***Ацэначная матывацыя*** характэрна спарадычна ўсім гаворкам рэгіёна: *слепа́к* /*слі́па́к*/, *слепата́* /*слепота́*, *сліпота́*/ ‘дзьмухавец’, *праўдзі́вікі* /*праўдзі́выя*, *праўдзі́вые*, *праўды́вые*, *правды́вые*/, *справэдлі́вые*, *спра́вэдные* ‘баравікі’, *сві́йскі біб* ‘боб’.

На тэрыторыі Верхняга Над’ясельдзя сустракаюцца таксама намінацыі, аднолькава матываваныя. Так, найменне ‘падасінавік’ ва ўсіх даследуемых гаворках матывуецца прыкметай афарбоўкі адзначанай рэаліі: *краснагало́вік* /*красноголо́вік*/, *красноголо́вэц*, *краснoло́вэц*, *красню́к*. Як адзінкавая зафіксавана назва, што матывуецца іншай прыкметай, у прыватнасці прыкметай ***паводле месца распаўсюджання***: *подосы́$^{і}$нnык*.

## Літаратура


1. Атлас української мови. Волинь, Наддністрянщина, Закарпаття і суміжні землі. – Київ: Навукова думка, 1988. – Т.2. – 486 с.

2. Босак А., Клімчук Ф. Групы гаворак Верхняга Над’ясельдзя (Брэсцкая вобласць) // Діалектологічні студії. – Львів, 2003. – № 3. – С. 109-112.

3. Босак А.А. Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над’ясельдзя. – Дыс. … канд. філ. навук: 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі, 2006. – 257 с.

4. Босак А.А., Босак В.М. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Лексіка. – Мн., 2006. – 124 с.

5. Босак А.А., Босак В.М. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Фанетыка і марфалогія. – Мн.: УП "ІВЦ Мінфіна", 2005. – 94 с.

6. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Карты. – Мн.: Выд-ва АН БССР, 1963. – 338 с.

7. Дыялектны слоўнік Брэстчыны. – Мн.: Навука і тэхніка, 1989. – 296 с.

8. Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. – Мн.: Навука і тэхніка, 1983. – 127 с.

9. Леванцэвіч Л.В. Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна. – Дыс. ... канд. філ. навук: 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства АН Беларусі, 1996. – 291 с.

10. Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. – Wrocław / Warszawa, 1980-1999.

*Н.М. Бунько*

# МАТЫВАЦЫЙНЫЯ І ЛІНГВАГЕАГРАФІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ НАЗВАЎ КОНІКА І ЦВЫРКУНА Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Першасным паводле паходжання і агульным па маўленчай рэалізацыі для абазначэння цвыркуна і коніка – насякомых, падобных па саматычных прыкметах (па памеры, колеры, асаблівасцях будовы цельца) і здольных выдаваць тоесныя гукі, стала найменне *цвырку́н*. Матывацыйная прыкмета "ўласцівасць цвыркаць" – прыярытэтная для намінацыі абодвух насякомых. Так, "хатні запечны жыхар" і дробная жывая істота, якая сустракаецца на лугах і пожнях, у глыбокай старажытнасці, відаць, мелі аднолькавую, агульную назву *цвырку́н*. З цягам часу імкненне носьбітаў народнай мовы да выразнага і актуальнага адрознення гэтых істот справакавала ўзнікненне іншай, структурна адрознай назвы для вызначэння насякомага, якое прыжылося не ў сялянскай хаце, а ўпадабала навакольнае прыроднае асяроддзе. Падставай для ўтварэння "новага" наймення была яшчэ і тая акалічнасць, што палявое насякомае ў адрозненні ад "запечнага жыхара" мела ўласцівасць як *скакаць*, так і ўтвараць пры гэтым асаблівыя *гукі*. Вынікам чаго ў назватворчай плыні сталі магчымымі наступныя вызначэнні. Цвыркун – насякомае, якое трэннем крыл утварае строкат і *сустракаецца ў вясковым жыллі за печчу*, конік – насякомае, якое скача і стракоча крыламі, *знаходзіцца на лугах і сенажацях*. Такім чынам вылучаныя курсівам выразы ўдакладняюць азначэнні лексем *цвырку́н* і *конік*, прадстаўленыя ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы. У выніку намінацыйнага размежавання знешне і функцыянальна падобных паміж сабой дробных жывых істот у гаворках беларускай мовы для абазначэння прастакрылага насякомага Gryllus зафіксаваліся і сталі агульнавядомымі ў пераважнай большасці (каля 96% ад агульнай колькасці) назвы гукапераймальнага характару тыпу *цвырку́н*. Для найменняў прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima характэрны як анаматапеічныя, так і ўласна прэдыкатыўныя матывацыйныя адносіны. Назвы коніка ў беларускіх народных гаворках з'яўляюцца больш цікавымі ў аспекце анамасіялагічнага вывучэння і картаграфавання ў параўнанні з корпусам найменняў цвыркуна.

Матэрыялы аб назвах цвыркуна ў гаворках утрымліваюцца ў каментарыях да карты № 362 "Цвыркун" Лексічнага атласа, складзенай паводле пытання Інструкцыі "Я. н. цвыркун: цвурок, цвяркун, цыркун, свіркун, свярчок..." [1, с. 141]. У каментарыях да ўказанай карты таксама змешчаны найменні насякомага Gryllus, прыведзеныя па Апытальніку Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа [2, с. 82].

На аснове наяўных фактычных звестак аб беларускіх народных назвах цвыркуна можна засведчыць наступнае. Агульнапашыранымі на тэрыторыі беларускамоўнага дыялектнага ландшафту з'яўляюцца структурна-гукавыя адпаведнікі назвы *цвырку́н* (усяго каля 40 адзінак). Існаванне разнастайных варыянтаў у народным маўленні абумоўлена іх гукапераймальным паходжаннем.

Той факт, што асновай корпуса літаратурнай мовы сталі пераважна лексічныя адзінкі сярэднебеларускіх гаворак, відаць, і паўплываў на замацаванне ў якасці нарматыўнай рода-відавой назвы *цвыркун*. Гэта "тытульнае" найменне, пакідаючы астатнюю тэрыторыю гаворак для сваіх варыянтаў, паслядоўна рэалізуецца ў цэнтральнай частцы гаворак пераходнага тыпу. І толькі ў напрамку на поўнач – у межах паўночнай групы гаворак – назва *цвыркун* выступае побач са сваім фанетычным варыянтам *цвіркун*. Акрамя таго, у маўленні жыхароў асобных раёнаў Беларусі вядомы адзінкавыя фіксацыі: *цвыргун*, *цырыкун*, *цваркун*, *чвыркун*, *чвіркун*, *швыркун*. Назва *цыркун* (заўважым, што ўжываецца яна значна часцей у асобных беларускіх гаворках, чым назва *цвыркун*, і пашырана ў сумежных гаворках рускай мовы) лакалізуецца ў фанетычных адпаведніках *ціркун*, *цыргун*, *цуркун* на тэрыторыі гаворак віцебска-магілёўскай групы паўночна-ўсходняга дыялекту, у паўднёвай частцы сярэднебеларускіх гаворак, а таксама ў слуцка-мазырскай групе гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Спарадычны характар пашырэння ў гаворках асноўнага дыялектнага масіву мае найменне *свяркун*. Асаблівасці ўжывання назваў *цвыркун* і *сврчок* даюць магчымасць меркаваць аб тым, што найменне *свяркун* з'яўляецца кантамінаваным утварэннем. У выніку кантамінацыі назваў *свярчок* і *свершч* у гаворках заходняй групы паўднёва-заходняга дыялекту, відаць, узнікла і варыянтнае найменне *свяршчок*. Зафіксаваны таксама адрозныя па структуры і адзінкавыя па распаўсюджанні словаформы *свяркач* – у Гродзенскім раёне, *свіркала* – у Шумілінскім раёне, *цвурок* – у Быхаўскім і Расонскім раёнах. Акрамя таго, для абазначэння насякомага атрада прастакрылых Gryllus у гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны ўжываюцца, заснаваныя на гукаперайманні, назвы тыпу *турчок*. Да анаматапеічных дэрыватаў адзінкавай фіксацыі належаць таксама найменні, вядомыя ў Драгічынскім – *свісцёлык* і Маларыцкім раёнах – *свэрдлык*. Гэтыя адзінкавыя фіксацыі, відавочна, з'яўляюцца значна пазнейшымі па паходжанні.

Грунтоўна лексічныя і словаўтваральныя адрозненні назваў насякомага Tettigonia viridissima ў розных славянскіх мовах і іх гаворках прадстаўлены ў каментарыях да карты № 43 "Кузнечык" Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа [3, с. 170-171]. Што датычыць беларускіх гаворак, анамасіялагічны матэрыял па назвах коніка адлюстраваны ў гэтым атласе наступны: *конік*, *кузнечык* (*кузьнечык*, *кузьнечак*), *кузнец* (*кузьнец*), *ковалік*, *казёл*, *казялок* (*кэзялок*, *кызялок*), *казуля*, *казель*, *казельчык*, *скачок*, *скакун* (*скікун*), *скак*, *цвыркун* (*цвіркун*, *цыркун*, *свіргун*, *свыргун*, *свырстун*, *цвыркунчык*), *страказа* (*стрыказа*, *стрекоза*, *стрекозка*). Да таго ж, анамасіялагічнае забеспячэнне корпуса найменняў коніка адбылося за кошт назваў, засведчаных у розных лексікаграфічных выданнях: *кавалёк*, *козлік* (фанетычна *козлык*), *стрыкун* (*стрыкунчык*), *скачык*, *барадач*, *жытнік*. Для параўнальнай характарыстыкі ў лінгвагеаграфічным і анамасіялагічным аспектах беларускіх народных найменняў прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima з яго іншамоўнымі назвамі з'яўляюцца цікавымі і карыснымі матэрыялы каментарыяў да карт № 18, № 19, змешчаных у Лінгвістычным атласе Еўропы [4, с. 147-170].

Усе беларускія народныя назвы насякомага Tettigonia viridissima ўзніклі на аснове агульнай анамасіялагічнай дамінанты "характэрныя асаблівасці паводзін жывой істоты і спосаб існавання яе ў прасторы". На ўтварэнне корпуса найменняў коніка істотны ўплыў аказалі дзве асноўныя матывацыйныя прыкметы:

1) насякомае, якое мае ўласцівасць своеасабліва перамяшчацца ў прасторы – скакаць;

2) насякомае, якое можа выдаваць гукі тыпу "цвыр-, цвыр-", "цвір-, цвір-", "цыр-, цыр-", "свір-, свір-" і пад. [5, с. 146].

Такім чынам, мэтазгодна вылучыць два тыпы назваў коніка, якія рэалізуюцца ў маўленні носьбітаў гаворак беларускай мовы. У састаў найменняў кожнага з тыпаў уключаны назвы, адрозныя па структурнай рэалізацыі і тоесныя паводле матывацыйных крытэрыяў. Па-першае, – гэта прызнанае нарматыўным у сучаснай беларускай мове найменне *конік*, а таксама назвы *козлік* (*казёл*, *казялок* і пад.), *скачок* (*скакун* і пад.), што абазначаюць Tettigonia viridissima як насякомае, якое скача. Па-другое, – гэта назвы коніка як жывой істоты, што мае ўласцівасць утвараць пэўныя гукі, – *цвыркýн* (*стрыкун*, *свірстун*), *стараказá*, *кузнéчык* (*кузнец*) і *кавалёк* (*кавáлік*).

Фіксацыя ў гаворках адзначаных груп назваў, якія адрозніваюцца паводле матывацыйных прыкмет і лінгвагеаграфічных асаблівасцей, дазваляе акрэсліць на тэрыторыі беларускамоўнага ландшафту два асноўных, выразна аформленых, супрацьлеглых арэалы. Апошнія, як сведчыць карта, пададзеная ў артыкуле, супадаюць пэўным чынам па сваіх лакальных асаблівасцях з традыцыйным дыялектным падзелам беларускіх гаворак.

Першы – уласнабеларускі суцэльны арэал цесна звязаны з паўднёва-заходнім дыялектным масівам, а таксама ахоплівае больш познія па ўзнікненні так званыя "пераходныя" сярэднебеларускія гаворкі ў цэнтральнай іх частцы. Тут конік названы па асаблівасцях руху – на аснове ўласнапрэдыкатыўнага тыпу матывацыйных адносін.

Другі арэал назваў Tettigonia viridissima ў гаворках беларускай мовы характарызуецца паўночна-ўсходняй дыялектнай прыналежнасцю і з’яўляецца вельмі старажытным па сваім паходжанні. Найменні коніка ўказанага тыпу ўзніклі ў межах архаічных беларускіх гаворак, у прыватнасці віцебска-магілёўскай групы гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту, і маюць антрапаморфны характар утварэння. Неабходна засведчыць тую акалічнасць, што рэгіёнам спалучэння і пашырэння найменняў абодвух тыпаў з'яўляюцца гаворкі, якія паводле традыцыйнага дыялектнага падзелу не ўваходзяць у састаў гаворак асноўнага дыялектнага масіву, – гэта заходнепалескія гаворкі, а таксама сумежныя з імі гаворкі Тураўшчыны.

Звернемся да падрабязнага разгляду анамасіялагічнага матэрыялу па назвах насякомага, якое скача і стракоча крыламі, зафіксаваных ў гаворках беларускай мовы. Ілюстрацыйным "спадарожнікам" гэтага даследавання з’яўляецца змешчаная ў артыкуле карта, на якой акрэслены асаблівасці анамасіялагічнага ўжывання найменняў коніка.

Сярод народных назваў прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima першага тыпу, які ўключае лексічныя сродкі, заснаваныя на матывацыйнай прыкмеце "насякомае, якое мае ўласцівасць пэўным чынам перамяшчацца – скакаць", па сваёй лінгвагеаграфічнай прыналежнасці выразна вылучаюцца найменні тыпу *скачок*. Паводле даных лексіка- і лінгвагеаграфічных крыніц, назва *скачок* выступае ў гаворках побач са сваімі структурнымі варыянтамі *ска́чык*, *скак*, *скаку́н*. Адзначаныя лексічныя адзінкі "ўпэўнена" занялі ўсходнюю частку гаворак паўднёва-заходняга дыялектнага масіву з выхадам у межы гаворак пераходнага тыпу. У той жа час акрэслены арэал пашырэння назваў тыпу *скачок*, па сутнасці, супадае са значнай тэрыторыяй гаворак паўднёва-ўсходняй дыялектнай зоны беларускай мовы. Самай распаўсюджанай у гаворках беларускай мовы з'яўляецца назва *скачок*. Гэта найменне, як сведчаць матэрыялы Агульнаславянскага атласа, выступае таксама ў беларускіх гаворках Літвы (Ігналінскі раён) і Латвіі (Даўгаўпілскі раён) [3, с. 172]. Структурныя варыянты назвы *скачок* зафіксаваны толькі ў асобных гаворках на крайнім паўднёвым усходзе нашай краіны – акцэнталагічны варыянт *ска́чык* у Лоеўскім раёне і бязафікснае ўтварэнне *скак* у Хойніцкім раёне. Дэрыват *скаку́н* (фанетычна *скікун*) выступае на поўдні – у Лельчыцкім і Столінскім раёнах, а таксама на тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак у Чэрвеньскім раёне.

Назвы прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima тыпу *скачок*, *скаку́н* з'яўляюцца старажытнымі па паходжанні. Прыярытэтнасць прамой намінацыі і непасрэднага выражэння матывацыйнай прыкметы ў дадзеным выпадку відавочная. Дробная жывая істота названа на аснове характэрнай уласцівасці коніка перамяшчацца скокамі. Адбылося прагмацэнтрычнае (тэрмін з вуснага паведамлення А.А. Крывіцкага) абазначэнне насякомага. Увогуле каранёвыя фарманты тыпу *скач-* прыдатныя для намінацыі жывых істот (пераважна насякомых), асноўная асаблівасць якіх – здольнасць перамяшчацца скачкамі. Так, у беларускіх гаворках з коранем *скач-* выступаюць назвы цвыркуна (Чавускі раён), жука-дрывасека (Краснапольскі раён), ляснога клапа (Баранавіцкі раён) і блыхі (цэнтральная частка заходняй зоны). У гаворках іншых славянскіх моў – гэта назвы коніка: руск. *скачок*, укр. *скок*, *скакун*, *скачок*, польск. *skok*, *skoček*, *skočka*, луж. *skočk*, балг. *скакалец*, *скачок*, *скачка*, макед. *скокалец*, *скачка*, с.-х. *скакавац*, а таксама асобных насякомых: руск. *скачок* 'страказа', *скочка* 'блыха', польск. *skoczka* 'блыха', *skočk* 'цвыркун' [3, с. 171-172; 4, с. 148, 151, 162; 6, с. 69-71]. У якасці дадатковых звестак аб пашырэнні назваў тыпу *скачок* 'конік' адзначым, што гэтыя найменні, як сведчаць матэрыялы карт Лінгвістычнага атласа Еўропы, характэрны ў тым ліку для гаворак краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, а таксама Скандынавіі [4]. Такім ахопам моўных абшараў не можа "ганарыцца" найменне *конік*.

Паводле свайго паходжання назва *конік*, як адзначаюць этымалагічныя матэрыялы, з'яўляецца старажытнай агульнаславянскай словаформай: праславянскае **konikъ* 'насякомае конік' [7, т. 5, с. 96; 8, т. 2, с. 310]. Па матэрыялах каментарыяў да карт лінгвістычных атласаў, назва *конік*, а таксама двухслоўныя найменні тыпу *дзікі конік*, *польны конік* зафіксаваны толькі ў асобных гаворках усходне- і заходнеславянскіх моў. Акрамя таго, у адзначаных славянскіх мовах ужываюцца матывацыйныя варыянты наймення *конік* – гэта назвы тыпу *кабылка*,

*кабыліца* [3, с. 171-172; 4, с. 147-170; 8, с. 73]. Зыходзячы са сказанага, можна меркаваць, што назва *конік* з'яўляецца ўсё ж такі другаснай у адносінах да найменняў тыпу *скачок*. Намінацыйнае вызначэнне насякомага ў такім выпадку характарызуецца наступным чынам: "насякомае скача як конь/кабыла". Прызнаная нарматыўнай у сучаснай беларускай мове назва *конік* як найменне прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima мае выразна акрэсленую рэгіянальную лакалізацыю. Арэал распаўсюджання гэтай назвы ў гаворках беларускай мовы пашырыўся ў напрамку з усходняй на заходнюю частку гаворак паўднёва-заходняга дыялектнага масіву. У асобных гаворках адзначанай тэрыторыі найменне *конік* стала ўжывацца побач са сваім матывацыйна тоесным словам-папярэднікам *скачок*. Дарэчы, назва *конік* 'цвыркун' ужываецца паралельна з найменнямі тыпу *цвыркун, свіргун* для абазначэння цвыркуна ў гаворках гродзенска-баранавіцкай групы (цэнтральная і ўсходняя частка), а таксама засведчана ў асобных гаворках слуцка-мазырскай групы паўднёва-заходняга дыялекту па лініі Глуск – Любань – Салігорск, асобная дыстантная фіксацыя – у Вілейскім раёне. На мяжы сутыкнення назваў *конік* 'цвыркун' з боку гродзенска-баранавіцкіх і слуцка-мазырскіх гаворак пад уплывам назваў *цырку́н* і *конік* 'цвыркун' узнікла найменне *цырко́нік*.

Назвы коніка тыпу *казёл, козлік, казе́ль* можна лічыць больш позняй інавацыйнай з'явай у параўнанні з іх матывацыйнымі адпаведнікамі *скачок* і *конік*. Узнікненне і ўжыванне ў гаворках найменняў тыпу *казёл* здаецца зусім натуральным і заканамерным у шэрагу матывацыйна суадносных варыянтаў *скачок* і *конік*.

У беларускіх гаворках назвы з коранем *каз-* выступаюць у розных структурна-гукавых варыянтах: *казёл* – у паўночным рэгіёне, *казёлчык* – у Валожынскім і Воранаўскім раёнах, *козлік* – у заходнепалескім рэгіёне, *казялок* (*кызялок, кэзялок*) – у заходняй частцы паўночнага рэгіёну, *казу́ля* – у Стаўбцоўскім раёне, *казу́лька* – у Свіслацкім раёне, *казе́ль* – у Лёзненскім раёне, *казе́льчык* – у Валожынскім, Іўеўскім, Смаргонскім раёнах. Тэрыторыя пашырэння ўказаных назваў займае значны абшар у гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускай мовы і працягваецца за межамі яе перыферыі – у паўночнай групе гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту, дзе ўжываецца побач з матывацыйна адрознымі ўтварэннямі тыпу *кузне́чык*. Узнікненне найменняў коніка *казёл* і пад. адбылося ў працэсе сутыкнення мясцовых гаворак з балтыйскімі (параўн. літ. *ožys*, *ožiùkas*, *ožẽlis*, *kazlàitis*, *kazlãs* 'конік', а таксама польск. *kozeł*, *koziołek*, *koza* 'конік') [9, с. 160-161]. У выніку чаго гаворкі з назвамі тыпу *казёл* наслаіліся на гаворкі з найменнем *конік* і паступова пачалі выцясняць апошнія. Так на тэрыторыі гаворак Заходняга Палесся – у Драгічынскім, Бярозаўскім, Івацэвіцкім, Пінскім раёнах – апынулася назва *козлік* (фанетычна *козлык*). Назва *козлік* 'конік' у заходнепалескіх гаворках, тым больш, што яна сустракаецца тут побач з найменнем *конік*, відаць, узнікла як вынік кантамінацыі найменняў тыпу *казёл* і *конік*.

Анамасіялагічны матэрыял найменняў Tettigonia viridissima, утвораных на аснове матывацыйнай прыкметы "насякомае, якое можа выдаваць пэўныя гукі", складае другі паводле лінгвагеаграфічнай характарыстыкі паўночна-ўсходні тып назваў. На тэрыторыі архаічных гаворак беларускай мовы – усходнемагілёўскай падгрупы гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту – лакалізавалася найменне

*кузнечык*, а таксама сустракаецца яго адзінкавы па распаўсюджанні структурны адпаведнік *кузнец*. Намінацыя ў дадзеным выпадку з'яўляецца ўскоснай: конік названы ў выніку антрапаморфнага пераносу на аснове падабенства ўтвораных гукаў пры дзеянні чалавека (каваля) і насякомага (коніка). Пашырэнне назваў тыпу *кузнечык* у беларускіх гаворках, відаць, тлумачыцца непасрэдным уплывам з боку рускамоўнага дыялектнага ландшафту. Дарэчы, у рускай мове назва *кузнечик* мае статус нарматыўнай і з'яўляецца агульнавядомай у гаворках. У іншых славянскіх, а тым больш неславянскіх мовах, як сведчаць матэрыялы Агульнаславянскага атласа і Лінгвістычнага атласа Еўропы, гэта назва коніка не зафіксавана [3, с. 170-171; 4, с. 147-170].

Антрапаморфны характар узнікнення характэрны таксама для назваў тыпу *кавалёк*. Найменне *кавалёк* рэалізуецца ў межах пашырэння назваў тыпу *кузнечык* (Мёрскі раён). Адзінкавая фіксацыя назвы *кавалёк* – у гаворках Баранавіцкага раёна. Структурны варыянт *кавалік*, які сустракаецца побач з назвай *конік* і, відаць, з'явіўся пад уплывам апошняй, адзначаны ў асобных раёнах заходнепалескіх гаворак (Камянецкі, Пінскі раёны). Матывацыя пераносу тая ж, што і пры намінацыі *кузнечык*. Найменне *кавалік* з семантыкай 'конік' зафіксавана толькі ў асобных гаворках украінскай мовы, адзінкавы выпадак ужывання наймення *ковалёк* засведчаны на тэрыторыі гаворак Бранскага рэгіёну. Увогуле, назвы тыпу *кавалёк* вядомы ў гаворках некаторых славянскіх моў для абазначэння насякомых, якія маюць здольнасць выдаваць нейкія гукі: укр. *ковалик*, *коваль* 'жук, які пераварочваецца са спінкі на брушка, і выдае пры гэтым строкат; кавалік', укр. палеск. *ковалік*, польск. *kowal*, луж. *kowalik* 'клоп', балг. *ковач* 'жук-рагач' [4, с. 158; 6, с. 74].

Для назваў Tettigonia viridissima тыпу *цвыркун*, якія вызначаюць коніка непасрэдна як істоту, здольную выдаваць пэўныя гукі, характэрна прамая намінацыя. Заснаванае на гукаперайманні, найменне *цвыркун* з'яўляецца, відаць, самым матывацыйна празрыстым, а значыць простым для назватворчасці і маўленчай рэалізацыі ў адносінах да іншых назваў, якія складаюць увесь намінацыйны корпус Tettigonia viridissima. І як ужо адзначалася, ёсць падставы лічыць назву *цвыркун* першаснай і абагульняючай для насякомых, якія маюць агульную ўласцівасць выдаваць асаблівыя гукі, – коніка і цвыркуна. Нагадаем, што ў сучаснай беларускай літаратурнай мове замацавана назва *цвыркун* са значэннем 'насякомае атрада прастакрылых, якое трэннем крыл утварае строкат; цвыркун'. Разам са структурнымі адпаведнікамі пашырана гэта назва з той жа семантыкай у беларускіх гаворках. Па паходжанні назва *цвыркун* звязана з праславянскай формай **svьrčь* /**svьrčьkъ*/ гукапераймальнага характару [7, т. 3, с. 575].

Для абазначэння прастакрылага насякомага Tettigonia viridissima найменне *цвыркун* і яго структурна-фанетычныя варыянты *цвіркун*, *цыркун*, *свіргун*, *свыргун*, *свырстун* рэалізуюцца на тэрыторыі захавання архаічных гаворак беларускай мовы – на Тураўшчыне і Заходнім Палессі. Тоесныя па матывацыйным вызначэнні найменні: *стрыкун* ужываецца ў Глыбоцкім і Чашніцкім раёнах, *страказа* вядома ў Горацкім і Чэрыкаўскім раёнах. Тэрыторыя пералічаных раёнаў уваходзіць у гаворкі, якія зафіксавалі назвы коніка паўночна-

ўсходняга тыпу. Адзначаная ў Глыбоцкім раёне назва *стрыку́нчык*, відавочна, можа разглядацца як вынік кантамінацыі найменняў *стрыку́н* і *кузне́чык*. Падобныя па матывацыі назвы коніка адзначаны ў асобных гаворках славянскіх моў: руск. *сверкун*, *цуркун*, *циркун*, *чіркун*, укр. *свершок*, *свыргун*, *свіркун*, польск. *świercz*, *świerszczyk*, балг. *штурец*, *кречко*, а таксама літоўскае *čirkšlỹs*, *čirškùlis* [3, с. 171-172; 10, карта № 86, с. 160].

Такім чынам, даследаванне назваў прастакрылых насякомых Tettigonia viridissima і Gryllus дазволіла выявіць наступнае. У гаворках беларускай мовы найменні коніка і цвыркуна ўзніклі на аснове анамасіялагічнай дамінанты "характэрныя асаблівасці паводзін і спосаб існавання ў прасторы". Пад гэтай агульнай вылучальнай прыкметай аб'ядноўваюцца з аднаго боку назвы, заснаваныя на ўласнапрэдыкатыўных матывацыйных адносінах (тыпу *скачок*), з другога боку – гукаперамальныя найменні (тыпу *цвыркун*). Абедзве адзначаныя характарыстыкі ўласцівы для назваў коніка. Пераважна анаматапеічнымі паводле ўтварэння і агульнавядомымі ў гаворках з'яўляюцца амаль усе назвы цвыркуна. У корпусе назваў коніка адрозніваюцца два тыпы найменняў. Па-першае, гэта назвы коніка як істоты, здольнай скакаць (тыпу *скачок*, *конік*, *казёл*), па-другое, найменні коніка як істоты, што можа выдаваць пэўныя гукі (тыпу *цвыркун*, *кузнечык*, *кавалёк*). У адпаведнасці з вылучанымі тыпамі на тэрыторыі беларускамоўнага дыялектнага ландшафту выразна акрэсліваюцца два арэалы, якія характарызуюцца (1) паўднёва-заходняй і (2) паўночна-ўсходняй дыялектнай прыналежнасцю. Першы арэал уключае таксама сярэднебеларускія гаворкі. Тэрыторыяй пашырэння абодвух тыпаў сталі заходнепалескія гаворкі. Указаныя асаблівасці намінацыйнага вызначэння групы назваў коніка адлюстраваны на інтэрпрэтацыйнай карце, змешчанай у артыкуле.



Аўтар артыкула выказвае шчырую падзяку Аляксандру Антонавічу Крывіцкаму за карысныя парады ў напісанні гэтай публікацыі.

## Літаратура

1. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. У 5 т. Т. 1. Раслінны і жывёльны свет. Мінск, 1993.
2. Вопросник Общеславянского лингвистического атласа. М.: Наука, 1965. 270 с.
3. Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Серыя лексіка-словаўтваральная. Жывёльны свет. Вып. 1. М.: Наука, 1988.
4. Atlas linguarum Europae. Volume I premier fascicule. Cartes. Van Gorcum, 1983; Volume I. Commentaries. Van Gorcum – Assen, 1983.
5. Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. Мінск: Бел. навука, 1999. 239 с.
6. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 5. Мінск: Навука і тэхніка, 1989. 320 с.
7. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. 3-е изд., стер. / Пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачева. Т. 3, 5. С.-П.: Азбука, 1996.
8. Дзендзелівський Й.О. Із спостережень над слов'янською народною ентомологічною лексикою. Назви коника (Tettigonia viridissima) в говорах слов'янских мов / Festschrift zu Ehren von Josip Hamm. Verlag der ősterreichischen akademie der Wissenschaften. Wien, 1975. S. 69-82.
9. Budziszewska W. Słowiańskie słownictwo dotyązce przyrody żywej // Monografie Slawistyczne. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1965. S. 157-159.
10. Lietuvių kalbos atlasas. T. 1. Leksika. Vilnius: Mokslas, 1977. – 295 p., 120 žem.

*А.А. Крывіцкі*

# ПАШЫРЭННЕ НАЗВАЎ ТЫПУ ХВО́Я І ТЫПУ САСНА́ Ў ГАВОРКАХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ІХ ПАХОДЖАННЕ*

У беларускім літаратурным маўленні характэрнае для лясоў краіны дрэва, якое ўтварае і вызначае *бары́,* выступае пад назвамі *хво́я* і *сасна́.* Гэтыя назвы разам з вытворнымі ад іх варыянтамі абазначэння дрэва лічацца як бы роўнымі па сваіх анамасіялагічных правах. Назва *хво́я* ці назвы тыпу *хво́я* вылучаюцца толькі сваёй уяўнай большай беларускай самабытнасцю па структурна-семантычнай прыродзе, чым назвы тыпу *сасна́.*

Таму што такая ў літаратурнай мовы дыялектная спадчына. І літаратурнае маўленне, і адпаведныя слоўнікавыя моўныя ўстанаўленні лічацца з гэтым.

Назвы хвоі ў гаворках беларускай мовы па іх разнастайнасці і пашырэнні даследаваліся па праграме “Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак” (ЛАБНГ). Пракартаграфаваныя лінгвагеаграфічныя матэрыялы паказваюць, што для гаворак беларускай мовы характэрны як традыцыйныя мясцовыя два асноўныя тыпы назваў гэтага хваёвага дрэва [1]. Прынамсі, назвы тыпу *хво́я* і назвы тыпу *сасна́.* Але выступаюць яны ў мясцовым ужыванні не паралельна, як у літаратурнай мове. Кожны з іх належыць розным дыялектным групам гаворак беларускай мовы.

Назвы тыпу *хво́я* як традыцыйныя з’яўляюцца мясцовай прыналежнасцю або ўласнай анамасіялагічнай асаблівасцю гаворак паўднёва-заходняга дыялекту і наогул гаворак паўднёвага захаду Беларусі. Найбольш тэрытарыяльна вядомым у паўднёва-заходніх гаворках з’яўляецца найменне ў лексічнай выяве *хво́я.* Рэгіянальна абмежаванае ў межах назвы тыпу *хво́я* — моўны абшар Гродзеншчыны і заходняга Палесся — гэта перш за ўсё *хво́йка.* Найменне выступае тут не як памяншальная словаформа, а як звычайная намінацыйная адзінка (падобна як *е́лка, ёлка*). Гэта і мадыфікаванае суфіксальна ўтварэнне *хваíна,* якое характэрна для поўдня Міншчыны (Случчына і яе наваколле) і для гаворак заходняга Палесся (фанет. і *фаíна,* Брэсцкі р-н). Адзначаны таксама *хваіна́* (у гаворках на паўночным захадзе і спарадычна ў іншых месцах), *хвая́* (фанет. *хвъя́,* Мёрскі р-н), *хво́йна* (Чавускі р-н). У рэгіянальных слоўніках падаюцца яшчэ і такія формы з назвы тыпу *хво́я*, як *хвой, хвая́к* і *хвайня́* (Брэсцкі р-н) [2].

У адрозненне ад гаворак паўднёвага захаду Беларусі ў гаворках паўночнага ўсходу пануюць ва ўжыванні назвы тыпу *сасна́.* Амаль агульнапашыраным абазначэннем хвоі з’яўляецца тут лексема *сасна́* (фанет. *сысна́*). Толькі ў заходняй частцы гаворак паўночнага ўсходу ў межах паўночна-заходняй

*Да Тлумачальнага атласа мясцовай назватворчасці.

дыялектнай зоны назвы гэтага тыпу выступаюць у асаблівым паводле націску выглядзе *со́сна*, а таксама і ў мадыфікаваным афіксальна варыянце *сасо́нка*. Найменні са структурным аблiччам *сасо́нка* (фанет. *сосо́нка*) суіснуюць з больш шырока ўжывальнай назвай *хво́йка* і ў гаворках заходняга Палесся. У рэгіянальных слоўніках зафіксаваны таксама намінацыйныя адзінкі *сасні́на* (Гродзеншчына, заходняе Палессе, Віцебшчына), *сасніна́* (Гродзеншчына). Нарэшце, выяўлена ў гаворках і крыху дзіўная, але цікавая па паходжанні форма *падсасёнак* (Лоеўскі р-н) [3].

Назвы тыпу *хво́я* і тыпу *сасна́* ў сваім пашырэнні і адпаведных адносінах складаюць і вызначаюць ландшафт вылучальнага абазначэння хвоі ў гаворках беларускай мовы.

Прыкметнай і паказальнай асаблівасцю тэрытарыяльнага пашырэння гэтых двух тыпаў назваў хвоі ў нацыянальных гаворках з'яўляецца даволі выразнае паўднёва-заходняе вызначэнне іх у адносінах мяжы пашырэння ў напрамку на паўночны ўсход назваў тыпу *хво́я*. Інакш кажучы, гэта іх мяжа яўна адносіцца да групы сярэднебеларускіх ізаглос структурна-тэрытарыяльнага дыялектнага супрацьпастаўлення гаворак паўднёвага захаду Беларусі гаворкам паўночнага ўсходу. Што датычыць назваў тыпу *сасна́*, то яны характарызуюць па ўжыванні і пашырэнні не толькі паўночна-ўсходнія беларускія гаворкі. Найменні з зыходным базавым кампанентам *сасн-* (*сосн-*), як сведчаць матэрыялы ЛАБНГ, адзначаюцца спарадычна і ў паралельным ужыванні з назвамі тыпу *хво́я* таксама ў гаворках паўднёвага захаду краіны. Назвы тыпу *сасна́* — фактычна агульнапашыраныя ці агульнавядомыя ў Беларусі. Назвы ж тыпу *хво́я* выступаюць толькі характэрнай паўднёва-заходняй дыялектнай ці рэгіянальнай асаблівасцю гаворак, як бы мясцовым напластаваннем на тэрыторыі пашырэння назваў тыпу *сасна́*. Складваецца ўражанне, што назвы тыпу *хво́я* ў гаворках паўднёвага захаду Беларусі з'яўляюцца нібы другаснымі інавацыямі ў межах пашырэння назваў тыпу *сасна́*. Але аб гэтым ніжэй.

Адзначаны ў ЛАБНГ і лексікаграфічных крыніцах як абмежаваныя па лакалізацыі і іншыя назвы хвоі па базавай частцы іх утваральнай асновы. З іх ліку сапраўды асобным рэгіянальным вылучальным лексічным абазначэннем хвоі з'яўляецца відавочна назва *смалі́на* (фанет. *смолі́на*, Жыткавіцкі і Столінскі р-ны). Магчыма такая ж па намінацыйным статусе і назва *бары́на* (Мінскі р-н). Наогул, шэраг устаноўленых найменняў, адзінкавых па пашырэнні або ўжывальных разам з асноўнымі назвамі, трэба, відавочна, разглядаць як другасныя вызначальныя абазначэнні хвоі паводле тых ці іншых яе асаблівасцей: *асаха́рніца* (Мінскі р-н), *бар'я́к, бара́к* (Брэсцкі р-н), *бая́к* (Камянецкі р-н), *бо́рціна* (Магілёўскі р-н), *галава́ч* – вялікая хвоя ў полі, *дзі́да* – крывая хвоя, *жары́на* – драбнаслойная хвоя, *кром, укро́м* – барцявая хвоя, таксама *крэж, мяжу́ха* і інш.

Абазначэнні хвоі лексемамі тыпу *хво́я* і тыпу *сасна́* ў гаворках беларускай мовы лічацца агульнаславянскімі па паходжанні. У прыватнасці, па базе ці корані ўтваральнай асновы. Але аднастайнага пераканальнага тлумачэння дадзеныя тыпы назваў адносна сваёй базавай прыроды не маюць. Хоць яны на першы погляд не падаюцца вельмі загадкавымі.

Асабліва простай для тлумачэння здаецца зыходная каранёвая база назваў тыпу *хво́я.* Адзначаныя назвы па базе ўтваральнай асновы лічацца як бы бясспрэчнымі і зусім натуральнымі ўласнымі агульнаславянскімі ўтварэннямі са структурна-семантычнага боку. У славянскіх мовах пашыранымі і спрадвечнымі (праславянскімі) з'яўляюцца словы з базай (коранем), як і ў назвах тыпу *хво́я* са значэннем 'калючкі (іголкі)', 'галінкі', 'кусты' і інш. Зусім натуральным здаецца ў такіх умовах і стварэнне назвы *хво́я* з апорай на іх па базе для абазначэння хвоі (спачатку, скажам, *хваёвае дрэ́ва,* а потым і проста *хво́я*). Праславянскія вытокі назваў тыпу *хво́я* падтрымліваюцца як быццам тым, што падобная назва *skujà* характэрна для літоўскай мовы. Ды і знаходзяць назвы тыпу *хво́я* ў якасці абазначэнняў дрэва хвоі або ў якасці памятных знакаў пра гэта таксама амаль ва ўсіх славянскіх мовах. Аднак наяўныя звесткі не маюць агульнапрызнанага тлумачэння.

Выказана было меркаванне, што назвы тыпу *хво́я* па базе асновы з'яўляюцца не старажытнай агульнаславянскай спадчынай па паходжанні і ўтварэнні, а вынікам пазнейшай рэгіянальнай мясцовайназватворчасці. У прыватнасці, вынікам рэгіянальнай рускамоўнай словатворчасці. Але звязваецца гэты тып назваў па базе ўтваральнай асновы адносна прыроды яе структурна-семантычных асаблівасцей з загадкавым па мясцовай прыналежнасці і ўтварэнні наогул словам *хво́ять* (якое як быццам ёсць або павінна быць у рускіх ці ўсходнеславянскіх гаворках). Пры падобным поглядзе на паходжанне назваў тыпу *хво́я* па базе іх утваральнай асновы (калі б і адшукана было ў рускіх гаворках або беларускіх ці ўкраінскіх слова *хво́ять*) немагчыма было б растлумачыць пашырэнне такога тыпу назваў, у прыватнасці, у заходнеславянскіх мовах.

Таксама галоўным чынам як агульную для славянскіх моў спадчыну яшчэ праславянскага ці ўласнага сумеснага старажытнаславянскага словатворчага набыцця даследчыкі станаўлення лексікі славянскіх моў схільны разглядаць і назвы тыпу *сасна́.* Аднак у адносінах этымалогіі, або зыходнай прыроды базы ўтваральнай асновы, як адзначае І. Янышкава ў аглядзе іх адпаведнага тлумачэння, гэтыя назвы адносяцца "да слоў, паходжанне якіх застаецца няясным" [4].

Па базе ўтваральнай асновы назвы тыпу *сасна́* звязваюць з каранямі розных слоў агульнаславянскай прыналежнасці. Пашыраным быў погляд, што этымалагічнай, або зыходнай апорай базы ўтваральнай асновы ў гэтых назвах з'яўляецца (ці з'яўлялася) азначэнне праславянскай структурнай прыроды са значэннем 'шэры, сівы', што выступае і ў аснове назваў зайца ў індаеўрапейскіх

мовах (збліжаюць з і.-е. *k^asnos 'шэры', старажытнапрус. *sasins* 'заяц' і інш.). З фармальнага, ці структурнага боку пэўныя падставы для такога збліжэння назваў тыпу *сасна́* па прыродзе базы ўтваральнай асновы, як можна бачыць, ёсць. Але загадкавым ці неверагодным падаецца такое збліжэнне па выбары зыходнай апоры для базы ўтваральнай асновы гэтых назваў з семантычнага боку (*сасна́* ад слова са значэннем 'шэры'?). Падобным па верагоднасці меркаваннем з'яўляецца і збліжэнне назваў тыпу *сасна́* па базе ўтваральнай асновы з назвамі лучыны індаеўрапейскага кораня, а таксама з назвамі слізістых выдзяленняў, шашалю, з абазначэннем дзеяння 'калоць', 'калоцца' і інш. Гэтыя і іншыя тлумачэнні базавай прыроды асновы назваў тыпу *сасна́* ў славянскіх мовах не прыносяць поўнага задавальнення. Таму што адвольнымі і прыблізнымі з'яўляюцца яны ў адносінах структурна-семантычнага вывядзення ці атрымання адзначанага тыпу назваў па базе іх утваральнай асновы.

Найбольш прымальным зараз, як адзначае І. Янышкава, і адносна новым з'яўляецца тлумачэнне назваў тыпу *сасна́* ў славянскіх мовах па этымалогіі базы іх утваральнай асновы, якое было прапанавана А.М. Трубачовым [5]. Яно грунтуецца на адным сведчанні аб ужыванні і значэнні назвы *сасна́* ў гаворках беларускай мовы Палесся.

Гэта сведчанне належыць вядомаму даследчыку першай паловы XX ст. мясцовай культуры і гаворак Палесся К. Машыньскаму. Ён адзначыў, што ў палешукоў для абазначэння хвоі ўжываецца як слова *хво́я*, так і *сасна́.* Яны суіснуюць ва ўжыванні. І растлумачылі К. Машыньскаму ў адным месцы гэта суіснаванне назваў тым, што словы адрозніваюцца значэннем. Назва *хво́я* абазначае і вылучае адпаведнае дрэва наогул у адносінах да іншых дрэў ці ў адрозненне ад іх. Назва ж *сасна́* з'яўляецца абазначэннем хвоі, якая выкарыстоўваецца мясцовымі пчалярамі-бортнікамі. Гэта хвоя з борцю – з распрацаваным дуплём у ствале для сям'і пчол або са стаўным вуллём ці вуллямі на ёй [6]. Так бы мовячы, "пчаліная" хвоя.

Калі гэта сапраўды так, тады зусім натуральна шукаць тлумачэнне з'ўлення назвы *сасна́* па базе яе ўтваральнай асновы ў яе адпаведнай "пчалінай сувязі". А.М. Трубачовым была прапанавана даволі дасціпная этымалагічная гіпотэза аб роднасці назвы *сасна́* паводле яе паходжання па базе ўтваральнай асновы з гукапераймальным па ўтварэнні абазначэннем са сферы бортніцкага пчалярства, якім перадаецца шум пчалінага рою ў борці ці вуллі. "Здаецца прымальнай этымалогія Трубачова, які тлумачыў слав. *sosna/sosnь (*sop-sna/sop-snь)* ад слав. **sopěti* (рус. *сопеть*)". Гэты дзеяслоў у сваю чаргу "ўзыходзіць да анаматапеічнага і.-е. *kop(s)=kop(s)*", як прапанаваў Шустар-Шэйц. Тады першапачатковае значэнне рэканструяванага слова **sop-sna* (>**sosna*) – *'дуплістае дрэва, хваёвае дрэва з пчоламі' [7]. Інакш кажучы, "сапучае" дрэва.

Аднак не прынесла поўнага задавальнення таксама і гэта тлумачэнне паходжання назвы *сасна́* ці назваў тыпу *сасна́* па базе ўтваральнай асновы. Як можна бачыць, занадта адвольным з'яўляецца суаднясенне па адзначанай

роднасці назваў тыпу *сасна́* і слоў тыпу **sopěti* (бел. *сапці*). У прыватнасці, падобнае ўпадабненне іх са структурнага (фармальнага) ды і з семантычнага боку. Але самае галоўнае – усе адзначаныя і іншыя тлумачэнні як назваў тыпу *хвоя́*, так і назваў тыпу *сасна́* грунтуюцца на сцверджанні іх падабенства або роднасці з тымі словамі, з якімі яны суадносяцца, толькі па структурна-семантычных асаблівасцях. Недастатковымі былі звесткі аб асаблівасцях пашырэння адпаведных назваў і суаднесеных з імі па паходжанні слоў і адносінах па іх.

У сувязі з гэтым наяўныя анамасіялагічныя лінгвагеаграфічныя матэрыялы ЛАБНГ аб назвах хвоі ў гаворках Беларусі і асабліва адпаведныя матэрыялы АЛА [8] аб назвах гэтага дрэва ў гаворках славянскіх моў наогул адкрываюць, безумоўна, новыя перспектывы ў тлумачэнні іх з'яўлення і паходжання. Гэта дастаткова вызначальныя і верагодныя звесткі аб асноўных анамасіялагічных асаблівасцях ландшафту абазначэння хвоі ў гаворках беларускай і славянскіх моў. Адначасова гэта неабходны грунт для вызначэння верагоднасці існуючых тлумачэнняў выяўленых назваў і для новых інтэрпрэтацыйных пошукаў і гіпотэз.

Дастаткова выразнымі і адназначнымі з'яўляюцца матэрыялы ЛАБНГ і АЛА аб першапачатковай прыродзе назваў тыпу *хвоя́* і тыпу *сасна́* і іх зыходных вытоках і прыналежнасці.

Што датычыць назваў тыпу *хвоя́*, то ўжо матэрыялы ЛАБНГ яскрава сведчаць, што яны з'яўляюцца відавочнымі рэгіяналізмамі па паходжанні ў гаворках беларускай мовы. І рэгіяналізмамі паўднёва-заходняй дыялектнай прыналежнасці, калі мець на ўвазе яўна адпаведны гэтаму характар мяжы іх тэрытарыяльнага пашырэння ў гаворках беларускай мовы.

Устаноўленае паўднёва-заходняе, у тым ліку і дыялектнае, пашырэнне назваў тыпу *хвоя́* ў гаворках беларускай мовы тлумачаць матэрыялы АЛА. Яны сведчаць, што падобныя назвы – сумесна набытая асаблівасць гаворак паўднёвага захаду Беларусі з гаворкамі іншых славянскіх моў. Назвы тыпу *хвоя́* маюць пашырэнне ў гаворках палескай, або паўночнай групы ўкраінскай мовы, якія з'яўляюцца сумежнымі з гаворкамі паўднёвага захаду Беларусі. Далей на захад падобныя назвы характарызуюць у пэўнай ступені гаворкі польскай мовы на поўначы Польшчы. Нарэшце, падобныя па базе ўтваральнай асновы назвы – асаблівасць гаворак серба-лужыцкай мовы. Гэта ў цэлым поўнасцю адпаведныя паміж сабой па аснове назвы, якія характарызуюць пас гаворак розных славянскіх моў на сумежжы з літоўскай мовай. Назвы тыпу *хвоя́* належаць гаворкам пералічаных моў, відавочна, з даўніх часоў моўнай агульнасці славян. Гэта іх агульная анамасіялагічная спадчына супольнага рэгіянальнага старажытнаславянскага набыцця. У тым ліку і ў гаворках беларускай мовы. Менавіта толькі з такога пункту погляду можна зразумець паўднёва-заходнюю абмежаваную, да таго яшчэ дыялектную прыналежнасць назваў тыпу *хвоя́* ў гаворках беларускай мовы. Дадзеныя найменні з'явіліся і атрымалі пашырэнне на паўднёвым захадзе тэрыторыі Беларусі яшчэ разам з пашырэннем адпаведных гаворак як іх рэгіянальная старажытнаславянская моўная асаблівасць.

Значна больш вядомымі ў гаворках славянскіх моў з'яўляюцца назвы тыпу *сасна́*. Але, як перакanаўча сведчаць матэрыялы АЛА, яны таксама не агульнаславянскія, а рэгіянальныя "паўночнаславянскія словы" [9]. Лексемы характарызуюць па ўжыванні значны абшар гаворак славянскіх моў, у тым ліку гаворкі ўсходнеславянскіх моў, а таксама заходнеславянскіх польскай мовы і ўсходняй часткі славацкай мовы. Паводле матэрыялаў АЛА назвы такога тыпу ў паўднёваславянскіх мовах, а таксама ў гаворках чэшскай мовы і ў заходняй частцы гаворак славацкай мовы не выяўлены зусім. Гэта гаворкі славянскіх моў, у якіх пануюць назвы тыпу *бор*.

Назвы тыпу *сасна́* ў гаворках адзначаных славянскіх моў з'яўляюцца, безумоўна, рэгіянальнымі папярэднікамі больш вузкіх па пашырэнні ў іх рэгіёне або арэале назваў тыпу *хво́я*. Пра гэта сведчаць іх адносіны па пашырэнні. Назвы тыпу *сасна́* фіксуюцца і ў межах распаўсюджання назваў тыпу *хво́я*. Дадзеныя рэгіяналізмы выступаюць як бы на фоне назваў тыпу *сасна́*. Такімі папярэднікамі назваў тыпу *хво́я* з'яўляюцца назвы тыпу *сасна́* і ў гаворках паўднёвага захаду Беларусі.

Матэрыялы АЛА раскрываюць не толькі рэгіянальную прыроду назваў тыпу *хво́я* і тыпу *сасна́* ў гаворках славянскіх моў. Яны тым самым вызначаюць таксама і межы пошукаў тлумачэння і раскрыцця гэтых тыпаў назваў па базавых асаблівасцях іх утваральнай асновы.

Назвы тыпу *хво́я*, калі браць пад увагу іх пашырэнне, павінны тлумачыцца, як быццам, даволі адназначна і проста. У сувязі з тым, што па сваіх базавых асаблівасцях яны з'яўляюцца суадноснымі з назвай *skujà* ў літоўскай мове, гэтыя паўночнаславянскія рэгіяналізмы па ўстаноўленых асаблівасцях патрэбна лічыць "аславяненымі" запазычаннямі (калькамі) суседняга літоўскага моўнага паходжання.

Паўночнаславянскія назвы тыпу *хво́я* і літоўская назва *skujà* на самай справе блізкія, роднасныя паміж сабой. Вельмі тоесныя найменні па семантычнай прыродзе базы іх утваральнай асновы. Яны з гэтага боку, можна сказаць, назвы-блізнюкі. Так, назвы тыпу *хво́я* ў славянскіх мовах па іх зыходнай базе або стварэнні зусім правамерна звязваюць са словам *хво́я* са значэннем 'шыпулькі, ігліца, іголкі'. Гэта значэнне слова *хво́я* было, можна сказаць, кіруючым і рашаючым, інакш кажучы, зыходным матывацыйным пры ператварэнні і замацаванні яго ў якасці ўтваральнай базы для назваў тыпу *хво́я* [10]: *хво́я* 'шыпулькі, ігліца' > *хво́йнае* дрэва, дрэва з *хвояй* > дрэва *хво́я*, *хва́іна* і г.д.]. Таксама з аналагічным па значэнні словам *skujà* 'іголка, шып' звязваецца па прыродзе базы ўтваральнай асновы і падобная літоўскамоўная назва *skujà*. Блізкасць або роднасць славянскіх рэгіянальных назваў тыпу *хво́я* і назвы *skujà* ў суседняй літоўскай мове выразна адчуваецца і мае месца на самай справе таксама і ў іх структурным абліччы (слав. *x* = літ. *sk*).

Аднак лічыць у сувязі з гэтым паўночнаславянскія рэгіянальныя назвы тыпу *хвоя́* запазычаннямі па ўтваральнай аснове з суседняй літоўскай мовы (як дарэчы і наадварот) усё ж нельга. Не дазваляе іх адпаведнае моўнае разыходжанне па структуры. У гаворках адзначаных славянскіх моў, як і ў літоўскай мове, гэта ўласныя моўныя структурныя ўтварэнні. Што датычыць адпаведнасці паміж імі ці роднасных сувязей у структурна-семантычных адносінах па базе ўтваральнай асновы, то яны тлумачацца, безумоўна, "бацькоўскай" роднасцю або агульнасцю іх вытокаў. Назвы тыпу *хвоя́* і назва *skujà* маюць у якасці базавай адну і тую ж агульную зыходную папярэднюю ім намінацыйную адзінку. Ад яе ў гаворках славянскіх моў і ў літоўскай мове "нарадзіліся" свае моўныя назвы, якія атрымалі пашырэнне і featureзнае фанетычнае і мадыфікацыйнае "размнажэнне" па структурна-семантычнай рэалізацыі і развіцці.

Малаверагодным з'яўляецца тлумачэнне паўночнаславянскіх (у тым ліку і беларускіх) назваў тыпу *хвоя́* па базе ўтваральнай асновы як калькі літоўскай моўнай назвы *skujà*. Калькіраванне – адзін з прадуктыўных шляхоў і спосабаў назватворчага забеспячэння ў мовах пры іх узаемадзеянні ў працэсе развіцця. Але яно грунтуецца, як вядома, на выразным усведамленні структурна-семантычных вытокаў базы ўтваральнай асновы назваў, якія калькіруюцца, што ў гэтым выпадку наўрад ці магло мець месца.

Мясцовымі рэгіянальнымі інавацыйнымі ўтварэннямі па базе асновы з'яўляюцца таксама і паўночнаславянскія назвы тыпу *сасна́*. Ім уступілі тут месца, відавочна, сапраўды агульнаславянскія назвы тыпу *бор* [11]. Утварыліся яны такімі па базе асновы і атрымалі пашырэнне, як можна думаць, у сувязі з асаблівай сапраўды вылучальнай адметнай уласцівасцю хвоі вельмі важнага мясцовага гаспадарчага значэння.

Вядома і зразумела, што для мясцовага насельніцтва балтыйскага рэгіёна хвоя з'яўлялася не толькі надзвычай пашыраным, але і асабліва каштоўным дрэвам у многіх адносінах. Хвоя – гэта ў першую чаргу і цяпло, і святло, і лепшы будаўнічы, а таксама рамесны гаспадарчы матэрыял. Гэта, канечне, і самае лепшае борцевае дрэва. А ўзвышаныя "грудавыя" верасовыя, ягадныя, баравіковыя лішайнікавыя бары былі прывабнымі для ўсяго жывога. У тым ліку і для чалавека.

Але асабліва важнае значэнне хвоі ў адрозненне ад іншых дрэў для насельніцтва лясных прыбалтыйскіх абшараў у мінулым заключалася ў тым, што хвоя давала смалу-жывіцу. Гэта было неабходнае і незаменнае ў тыя часы па сваіх уласцівасцях рэчыва ў самых розных побытава-гаспадарчых адносінах. Як сродак гарачага, а таксама халоднага засцерагальнага "засмольвання" прылад працы, драўлянага гаспадарчага посуду, сродкаў воднага транспарту, каб захаваць ад вільгаці або ад выцякання вадкасцей. Як сродак атрымання дзёгцю ў лясных смалакурнях з багатых смалой хваёвых карчоў для наземнага транспарту. Нарэшце, смала-жывіца з'яўлялася запатрабаваным і каштоўным рэчывам

таварнага значэння ў балтыйскім рэгіёне і для буйнога рачнога і марскога суднабудаўніцтва.

У сувязі з гэтым адметным, нават спецыяльным заняткам мясцовага насельніцтва балтыйскага рэгіёна, з'яўлялася здабыча хваёвай смалы-жывіцы. У тым ліку і для аселых тут паўночных славян. Гэта і збіранне натуральных застылых наплываў ці нацёкаў смалы з пашкоджанняў на ствалах старых дрэваў, або "сосак" (параўн. *со́ска, сасу́лька, сысо́лка, сусо́лька* – 'лядзяш, намерзлы ў таўшчыню і ўдоўжкі капеж' [12]). І гэта спецыяльнае штучнае здабыванне смалы-жывіцы, вядомае і зараз як *падсо́чка*.

У сувязі з гэтым правамерна і верагодна ставіць назвы тыпу *сасна́* ў роднасную сувязь па назватворчых базавых асаблівасцях асновы з першапачатковым азначэннем хвоі паводле дзеяслова **sъsati* (ст.слав. *съсати*, руск. *сосать* [13], бел. *ссаць, саса́ць, со́сіць* [14]. Напачатку гэта адасабляльнае азначэнне такой хвоі з наплывам смалы або з "падсосам" – **со́сная* або **сасна́я смалі́на* ці *бары́на*. А потым зусім натуральнае згортванне такіх сінтаксічных назваў шляхам субстантывацыі прыметнікавага азначэння ў лексічныя назвы тыпу *сосна́* і іх генералізацыя па ўжыванні.

У заключэнне адзін даволі цікавы ў гэтых адносінах факт. У лексікаграфічных матэрыялах аб назвах хвоі ў гаворках Беларусі адзначана, як указвалася вышэй, своеасаблівая па ўтваральнай аснове назва *падсасо́нка* (Лоеўскі р-н). Магчыма, гэта крыху адвольная памяншальная лексічная форма назвы хвоі. А можа гэта мясцовае ўтварэнне, якое грунтуецца па своеасаблівасці ўтваральнай асновы якраз на азначэнні *падсо́сны?* Гэта значыць, на ўсведамленні яшчэ адпаведнай вылучальнай своеасаблівасці хвоі як зыходнай матывацыйнай установкі ў адносінах яе назватворчага словазабеспячэння?

# Карта ХВОЯ



ПАЎНОЧНАСЛАВЯНСКІЯ РЭГІЯНАЛІЗМЫ АД СТАРАЖЫТН. МЯСЦ. **SOSATI* 'ЗДАБЫВАЦЬ СМАЛУ ПАДСОЧВАННЕМ'



ПАЎНОЧНАСЛАВЯНСКІЯ РЭГІЯНАЛІЗМЫ АД СТАРАЖЫТН. ПРАСЛ. *XVOJA* 'ШЫПУЛЬКІ, ІГЛІЦА, ІГОЛКІ'

* АДЗІНКАВЫЯ РЭЛІКТАВЫЯ НАЗВЫ *БАРЫНА*, *СМАЛІНА*

## Літаратура


1. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у 5-ці т. Т. 1. Раслінны і жывёльны свет. Мінск, 1993. Карта № 138.
2. Тэматычны слоўнік. Раслінны свет. Мінск, 2001. С. 24-25.
3. Таксама, с. 25.
4. Янышкова И. Заметки по поводу слова **sosna* // Балканско езикознание. XVIII, 2-3, С. 307.
5. [Трубачев О.Н.] М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. III. Москва, 1971. С. 727.
6. Moszyński K. Kultura ludowa Słowian. Cz. 1. Kultura materijalna / Kraków, 1929. S. 133-134; таксама: Pierwotny zasiąg języka prasłowiańskiego. Wrocław, 1937. S. 284.
7. Янышкова И. Таксама, с. 311.
8. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Минск, 2000. Карта № 17.
9. [Трубачев О.Н.] М. Фасмер. Таксама.
10. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т. IV. Москва, 1973. С. 233.
11. Толстой Н.И. Славянская географическая терминология. Семасиологические этюды. Москва, 1969. С. 22-41; О славянских названиях деревьев: *сосна́ - хво́я - бор* // Избранные труды. Т.1. Славянская лексикология и семасиология. Москва, 1997. С. 115-127.
12. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у 5-ці т. Т. 2. Сельская гаспадарка. Мінск, 1994. Карта № 40.
13. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т. III. Москва. 1971. С. 725.
14. Тэматычны слоўнік. Жывёльны свет. Мінск, 1999. С. 158.

*Л.П. Кунцэвіч*

# ТЫПЫ НАЙМЕННЯЎ АДУВАНЧЫКА Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРКАХ

Даследаванне дыялектнай батанічнай тэрміналогіі і наменклатуры мае вельмі важнае значэнне па той прычыне, што гэтая група лексікі можа праліць святло не толькі на характар расліннасці даследуемага рэгіёна ў мінулым, але і садзейнічаць высвятленню шырокага кола ўяўленняў, якія суадносяцца адначасова з некалькімі аспектамі культуры. Расліннасць заўсёды аказвала вялікі ўплыў на жыццё людзей. Збіранне раслін, іх пладоў з'яўляецца адным са старажытнейшых заняткаў чалавека. Многія расліны ўжываліся і зараз ужываюцца ў ежу, некаторыя служаць лекамі пры хваробах людзей і жывёл і г.д. Усе яны маюць свае, часта акрамя літаратурнай, вельмі шматлікія рэгіянальныя назвы, якія ўтвараюць вялікія намінатыўныя рады. У склад гэтых радоў уваходзяць часам па дваццаць, трыццаць, а то і значна больш найменняў.

Высветліць значэнне назвы расліны бывае вельмі складана, таму што матыў, пакладзены ў аснову наймення, даўно забыты і неабходна высвятленне фальклорных, міфалагічных і рэлігійных вобразаў, легенд, экспрэсіўнай характарыстыкі асабовых імён і г.д., на аснове якіх была ўтворана намінацыя.

Параўнай назвы *свентыя́н, пятру́шка, мя́та Пятро́ва, мышы́ны гаро́х, ксяндзо́ў плеш, мядзве́дзікі, мядзве́джае ву́шка* і інш.

Неадназначнай з'яўляецца назва расліны і ў лінгвагеаграфічным плане. Ступень распаўсюджанасці слоў розная, побач са значным агульнаславянскім пластом лексікі кожная мова і кожная гаворка ствараюць вялікі працэнт новаўтварэнняў, многія з якіх з'яўляюцца вузкамясцовымі, лакальнымі. І такія суадносіны былі ва ўсе часы, таму высветліць матыў, пакладзены ў аснову некаторых найменняў, немагчыма і па той прычыне, што слова магло быць вузкамясцовым у старажытныя часы [1.С. 85].

Сярод раслін, якія распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі, адметнае месца займае *адува́нчык*. У дадзеным артыкуле мы пакажам тэрытарыяльнае распаўсюджанне ў беларускіх народных гаворках найменняў *адува́нчыка,* паспрабуем высветліць, па магчымасці, тып матывацыйных адносін паміж гэтымі назвамі і вызначыць прыкметы, пакладзеныя ў аснову шматлікіх намінацый гэтай расліны.

У беларускай літаратурнай мове для травяністай расліны сямейства складанакветных з жоўтымі кветкамі і насеннем на пушыстых валасінках, дзякуючы якім яно лёгка разносіцца ветрам (Taraxacum), існуюць дзве назвы – *адува́нчык* і *дзьмухаве́ц.*

На Беларусі вядома больш за 10 відаў адуванчыка (дзьмухаўца), самым пашыраным з якіх з'яўляецца адуванчык лекавы. Расце ён каля жылля, уздоўж дарог, на палях, агародах, лугах. Гэта шматгадовая травяністая расліна са стрыжнёвым коранем і бязлістымі, полымі ўнутры сцябламі і двухполымі, звычайна жоўтымі кветкамі, на зломе сцябла якіх выдзяляецца горкі малакападобны сок [2. С. 126].

Гэтая расліна сустракаецца на тэрыторыі практычна ўсіх славянскіх краін. Беларусь – адзін з галоўных раёнаў прамысловай нарыхтоўкі адуванчыка. Для атрымання натуральнага каўчуку раней вырошчвалі *адуванчык кок-сагыз.*

Як сведчаць анамасіялагічныя і лінгвагеаграфічныя матэрыялы АЛА і ЛАБНГ, у беларускіх народных гаворках зафіксавана звыш сарака найменняў (улічваючы словаўтваральныя, фанетычныя і граматычныя варыянты) гэтай травяністай расліны (гл. карту № 51 "Одуванчик" і матэрыялы да яе ў трэцім выпуску Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа [3. С.129], а таксама карту № 244 "Адуванчык" і матэрыялы да яе ў Лексічным атласе беларускіх народных гаворак [4. Карта № 244]). Вялікі матэрыял па назвах гэтай расліны падаюць дыялектныя слоўнікі і , у першую чаргу, тэматычны слоўнік "Раслінны свет"[5] і "Латино-русско-белорусский ботанический словарь" А.І.Кісялеўскага[6]. На пытанне "Інструкцыі па збіранню матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" № 1564 Як называецца адуванчык? і пытанне АЛА одуванчик – maslacak – mniszek lekarski – mlecz атрыманы ад інфармантаў наступныя адказы: *адуванчык, надуванчык, раздуванчык, дуванчык, абдуванчык, дзьмухавец, дмухель, дмухавец, малачай, молочэй, малач'як, малошнік, малачак, млечнік, пухоўка, пухар, пералётнік*; шматлікія адзінкавыя назвы тыпу *воўча малако, курача срака, знахорка, ксяндзоў плеш, божай мацеры сарочка, ячменькі, дзед, дзядок, баба, кульбаба, папок, пупок, каток, бабок, пупышы* і многія іншыя. Большасць рэгіянальных назваў не валодае дастатковай тэрміналагічнасцю, яны або тэрытарыяльна вельмі абмежаваныя, або шматсастаўныя. У іншых славянскіх мовах распаўсюджаны назвы адуванчыка з тымі ж каранямі, што і ў беларускіх народных гаворках: сербахарвацкае *маслачак,* македонскае *млечка,* лужыцкае *mlóč, mlac*, польскае *dmuchawiec, mniszek*, украінскае *кульбаба,* рускае *одуванчик,* славацкае *púpava* і інш.

Калі аб'ядноўваць дыялектныя намінацыі адуванчыка па тоеснасці тыпаў матывацыйных адносін, то ўсе іх можна падзяліць на некалькі груп [7. С.20]:

1. прэдыкатыўныя: *адуванчык, раздуванчык, дуванчык, дываньчык, надуванчык, дзьмухавец, дмухель, дмухавец, пералётнік*;
2. суб'ектныя: *баба, дзед, дзядок, дзед і баба, казачок, знахорка, жыдок, ксёндз, папок, казакі;*
3. аб'ектныя: *малачай, малач'як, малочнік, млечнік, пухар, пухоўка, зубнік;*
4. метафарычныя: *пупок, бабок, пупышы, каток, коцікі;*
5. складаныя найменні: *жоўтая цыкор'я* (атрыбутыўны і аб'ектны), *божай мацеры сарочка* (суб'ектны і метафарычны), *ксяндзоў плеш* (суб'ектны і метафарычны), *воўча малако* (суб'ектны і аб'ектны), *курача срака* (суб'ектны і метафарычны);
6. матывацыйна не зусім ясныя: *арлічык, кульбаба, ячменькі, багатка.*

Як паказаў аналіз матэрыялу, найбольш пашыранымі, асноўнымі ў гаворках беларускай мовы для абазначэння гэтай расліны з'яўляюцца найменні *адуванчык* і *малачай* і іх шматлікія варыянты.

Назвы з коранем *дув-* распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі паўднёва-ўсходняй зоны беларускіх народных гаворак, з'яўляюцца асноўнымі найменнямі гэтай расліны на ўсёй тэрыторыі рускіх народных гаворак, а таксама зафіксаваны вузкай паласой ва ўкраінскіх гаворках на мяжы з Беларуссю і Расіяй. Найменне *одуванчик* з'яўляецца

нарматыўным для рускай літаратурнай мовы. Намінацыя паходзіць ад о- і асновы дзеяслова *дуть* [8]. У аснову назваў пакладзена ўласцівасць расліны, семя якой разносіцца ад лёгкага подыху ветру. У слоўніку Даля падаецца форма без памяншальнага суфікса *одува́н*, утвораная з дапамогай суфікса *-ан* ад дзеяслоўнай асновы *одуть*. "Словарь русских народных говоров" падае для назвы адуванчыка найменні *одува́лка, одува́льник, одува́нник* (9.С.66). У беларускіх народных гаворках зафіксаваны фанетычныя і словаўтваральныя варыянты гэтай назвы: *дува́нчык, дыва́ньчык, надува́нчык, раздува́нчык* і пад.

У беларускіх гаворках зафіксавана яшчэ адна назва адуванчыка *дзьмухаве́ц (дмухаве́ц, дмухе́ль)* з падобнай матывацыйнай утваральнай асновай, што і ў назве *адува́нчык*. Яна лакалізуецца ў асноўным у Гродзенскім рэгіёне і як адзінкавая зафіксавана на Магілёўшчыне. Пры падачы назвы ў сваім слоўніку Кісялеўскі А.І. спасылаецца на працы Васількова, Верас, Краскоўскага і Чалоўскага, якія былі апублікаваны ў канцы 19-га – пачатку 20-га стагоддзя. З паметай *размоўнае* найменне падаецца і ў Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы, але не адзначана ў асноўных дыялектных лексікаграфічных даведніках, апублікаваных у другой палове 20-га стагоддзя, што можа сведчыць пра вельмі абмежаванае распаўсюджанне гэтай назвы, або нават пра тое, што ў сучасных гаворках беларускай мовы гэтая намінацыя практычна не ўжываецца. Гэта больш позняе ўтварэнне, якое паходзіць ад асновы дзеясловаў *дзьмуць, дзьму́хаць,* якія, у сваю чаргу, з'яўляюцца кантамінацыяй старых славянскіх форм *duti і *dǫti [10]. Намінацыя *дзьмухаве́ц* з'яўляецца літаратурнай назвай адуванчыка ў польскай мове. Хутчэй за ўсё, яна і пранікла ў беларускія гаворкі з польскай мовы. Хаця ў беларускіх гаворках гэта найменне ўжываецца вельмі абмежавана, яно даволі часта ўжываецца беларускімі пісьменнікамі ў мове мастацкай літаратуры: *На цёмнай ужо, сакавітай траве абочын камячкамі кволага пуху стаіць дзьмухавец* (Я.Брыль). *На белых галоўках дзьмухаўцу абапал дарогі густа туманіліся кроплі расы* (І.Мележ).

У Карэліцкім раёне зафіксавана найменне *пералётнік*. У аснове ўтварэння назваў *адува́нчык, дзьмухаве́ц, пералётнік* ляжыць адна і тая ж матывацыйная прыкмета: **апушанае насенне гэтай расліны (адуванчыка) лёгка абдуваецца ветрам і разносіцца (пералятае) на далёкія адлегласці**. Параўнай рус. *ветроду́йка* [3.С.128].

У Мёрскім раёне на Віцебшчыне адзначана адзінкавае найменне адуванчыка *а́рлічык*, якое не сустрэлася больш у гаворках іншых славянскіх моў. Матывацыю наймення высветліць цяжка. Вядома, што ў прыродзе ёсць папараць з назвай бел. *арля́к*, рус., укр. *орля́к*. Назвы папараці звязваюцца з паняццем птушак, крылляў паводле знешняга выгляду лісця, якое нагадвае крылле птушак [11]. Можна дапусціць, што ў аснове наймення адуванчыка *а́рлічык* ляжыць уласцівасць семя лёгка лятаць (як арол). Але гэта толькі меркаванне.

Даволі пашыранымі ў беларускіх гаворках для назвы адуванчыка з'яўляюцца найменні, у аснове якіх у якасці матывацыйнай прыкметы ляжыць паняцце "**малако**": *малача́й, малач'я́к, мало́чнік, мало́шнік, мле́чнік* і інш. У адрозненне ад назваў тыпу *адува́нчык* і *дзьмухаве́ц,* характэрных у першую чаргу для гаворак усходняй зоны,

назвы з коранем *малок-* пашыраны ў асноўным у гаворках паўночна-заходняй зоны і ў паўднёва-заходніх палескіх гаворках.

Вялікая колькасць раслін, непадобных знешне, якія адносяцца да розных сямействаў, аб'ядноўваюцца пад адной назвай *малачай.* Яны згрупаваны на аснове характэрнай для іх адзнакі – **выдзялення са сцябла белага малакападобнага соку** ( асот агародны – Sonchus, адуванчык – Taraxacum, чыстацел – Chelidonium і інш.). Назва *малачай* з'яўляецца тым вузлом, які звязвае ўсе гэтыя расліны, хаця па іншых прыкметах яны ўваходзяць у іншыя групы і маюць вялікую колькасць агульных і індывідуальных найменняў [12.С. 99-100].

Семантычная аснова найменняў гэтай групы раслін аднолькавая ва ўсіх славянскіх мовах: рус. *моло́чница, молоча́йник, молока́н, моло́чная трава́* і інш..; укр. *молоча́к, молоча́йка, молочня́к* і пад., мак. *млеч, млечка*, балг. *млечок, млечка*, чэш. *mlíč, mlíčí, mleč*, пол. *mlecz*, н.-луж. *mlac* і пад. Ва ўсіх гэтых найменнях вылучаецца агульнаславянская аснова *melkj- з розным суфіксальным афармленнем. Бяссуфіксныя формы характэрны для заходнеславянскіх моў, а суфіксальныя ўтварэнні зафіксаваны ў асноўным у гаворках усходнеславянскіх моў [13.С. 113].

У беларускай літаратурнай мове лексема *малача́й* ужываецца толькі са значэннем Sonchus L. – травяністая або кустовая расліна сямейства малачаевых з ядавітым белым сокам. У народных жа гаворках на адной і той жа тэрыторыі (гл. карту № 244 у ЛАБНГ т.1) гэта найменне ўласціва і *малачаю* і *адуванчыку.*

Якасць соку, які выдзяляецца са сцябла адуванчыка (ён мае востры непрыемны смак), паўплывала на тое, што пры назоўніку часта ўжываецца азначэнне, якое падкрэслівае ядавітасць гэтага соку: *воўча малако, сабача малако.* З гэтымі азначэннямі ў народных гаворках часта ўжываюцца найменні неядомых ягад і грыбоў: *воўчыя ягады, воўчыя грыбы.* Звычайна плады гэтых раслін з'яўляюцца малаядомымі, неядомымі, або проста лічацца неядомымі, хаця на самай справе іх можна выкарыстоўваць у ежу [13.С.127]. Гэта часткова тлумачыцца і ўласцівасцямі кветкі, якая служыць лекамі для жывёл.

Уласцівасць малачаю і адуванчыка выдзяляць белы горкі сок паўплывала на тое, што назвы гэтых раслін у некаторых мясцовасцях зусім не адрозніваюць. Калі параўнаць карты "Малачай" і "Адуванчык", змешчаныя ў Лексічным атласе беларускіх народных гаворак [4], то можна заўважыць, што ў паўночна-заходняй зоне для абедзвюх раслін выкарыстоўваюцца адны і тыя ж назвы: *малача́й, малачэ́й* і пад.

Назвы тыпу *малочная трава* ўказваюць толькі на тыповую прыкмету, характэрны для назваў раслін і вельмі прадуктыўны ў гаворках суфікс *-нік* дае больш эканомны спосаб выражэння: *мле́чнік, мало́чнік.* Форма *малача́й* уяўляе сабой архаічную словаўтваральную мадэль, а формы з узноўленай асновай несумненна з'яўляюцца больш познімі. Найменне шматкратна ўзнаўлялася па новых словаўтваральных мадэлях, захоўваючы семантычную мадэль нязменнай [12.С.100].

Спарадычна на Віцебшчыне, а таксама як адзінкавая ў Дзятлаўскім раёне зафіксаваны назвы *пухо́ўка, бе́лыя пухо́ўкі.* Намінацыі з коранем *пух-* адзначаны таксама ў рускіх народных гаворках: *пух, пу́хколка, пушо́к, пухо́вочка, бе́лый пух* [3. С. 128]. У аснову наймення пакладзены знешні від кветкі ў той час, як яна адцвітае. Семя пасля адцвітання кветкі становіцца белым, лёгкім, пушыстым (падобным на пух). Пух на кветкавых карзінках пасля цвіцення лёгка здуваецца і разносіцца ветрам

на вялікія адлегласці. Параўн.: *Надуваньчыкі жоўтым цвітуць, а перацвітуць – пухоўкі.* Дзятл. (СПЗБ).

У палескіх гаворках зафіксаваны найменні з базавым кампанентам утваральнай асновы *баб-*. Гэтыя найменні з'яўляюцца вузкалакальнымі, не адзначаны ў іншых месцах пашырэння беларускіх народных гаворак. Як сцвярджае Мяркулава, найменні з гэтым кампанентам адсутнічаюць у гаворках іншых моў, але пашыраны на тэрыторыі заходняй Украіны: *кульба́ба, кульбаба́ба, кульба́ха, кульба́ка, кульбабо́к, баба-куль* і пад. Яна ўслед за Фасмерам сцвярджае, што матывацыя слова не зусім ясная, асабліва яго першая частка. Аб матывацыі слова можна толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё меліся на ўвазе лекавыя ўласцівасці расліны, аднак не выключана, што назва адлюстроўвае шарападобны выгляд расліны пасля цвіцення. Ва ўсякім выпадку, сувязь назвы са словам *баба* – жанчына, бабуля – бясспрэчная. [14. С.65]. У Гомельскай вобласці зафіксавана адзінкавая назва *знахо́рка,* якая пацвярджае меркаванне этымолагаў пра лекавыя якасці расліны.

У Этымалагічным слоўніку ўкраінскай мовы [15. С.136)] падаецца меркаванне, што гэта другаснае ўтварэнне "на аснове пачатковага * *кульбава* з псл. *[kulьbava (kvetьka)], здольная да згінання. Украінскія этымолагі сцвярджаюць, што назва абумоўлена тым, што абарванае сцябло адуванчыка разрываецца ў канцы на тры або чатыры падоўжаныя часткі, якія закручваюцца (загінаюцца). Версіі пра сувязь назвы з лексемай *баба* лічацца неверагоднымі.

У гэтым жа рэгіёне лакалізуюцца найменні *ба́ба, дзед, дзед і ба́ба.* Мясцовыя жыхары тлумачаць гэту назву наступным чынам: *Калі кветкі кругленькія – ба́бачкі, калі плоскія – дзед.*

У Гродзенскім, Віцебскім і Віленскім рэгіёнах спарадычна ўжываецца назва *бага́тка (бага́ткі)* і яе варыянт *багаты́рка (багаты́ркі)* для абазначэння адуванчыка. Найменні з суфіксам *-ыр* з'яўляюцца ўсходнеславянскімі дыялектнымі найменнямі. Па азначэнню этымолагаў, гэтая назва хутчэй за ўсё перанесена па падабенству з іншай расліны – *багаткі* (рус. богатка) на адуванчык. Не выключаецца, што ў аснове назвы ляжыць уяўленне аб лячэбных або магічных (культавых) уласцівасцях расліны (ЭСБМ, т.1). Другая расліна, калі расцвітала ў доме на Іванаў дзень, лічылася прадвеснікам багацця (СРНГ, вып.3). Адсюль і пайшла назва – *багатка.* Параўн. *На багаты́ркі загадваюць на долю, шчасце, гора* (Глыб. СПЗБ). *Даўней на бага́ткі загадвалі дзяўчаты* (Віл. СПЗБ).

Для наймення адуванчыка ўжываюцца ў розных рэгіёнах намінацыі, якія ўтвораны на аснове падабенства расліны (**часцей за ўсё галоўкі адуванчыка**) да нейкіх прадметаў, жывёл, частак цела чалавека, птушак і інш.

Цікавымі з'яўляюцца найменні *ксёндз* і *ксяндзоў плеш,* зафіксаваныя ў Магілёўскім рэгіёне. Першаснай, на наш погляд, з'яўляецца намінацыя *ксяндзоў плеш,* у аснову якой пакладзена падабенства кветкі адуванчыка, з якой ветрам здула белае пушыстае семя, да галавы ксяндза. Пасля таго, як падзьме вецер, пушыстае семя застаецца толькі па баках, а пасярэдзіне застаецца голае месца круглай формы – плеш. У служыцеляў каталіцкай канфесіі на макаўцы галавы ёсць выбрытае месца – танзура, якое прыкрываецца спецыяльным галаўным уборам. Гэта падабенства і пакладзена ў аснову наймення адуванчыка *ксяндзо́ў плеш.* (Агульнае кветаложа адуванчыка голае, плоскае) . У другім выпадку слова плеш адпала і засталася

аднаслоўная намінацыя *ксёндз*. Для параўнання прывядзём назвы адуванчыка падобнага тыпу з іншых моў. Знешнія асацыяцыі прывялі да ўзнікнення лацінскай назвы *caput monachi,* ням. *Pfaffenblat*. Калькі гэтай назвы чэш. pleš, ст-чэш. pleška (Mach., 233) , укр. plešyveč, popove humence (Mak., 366-367). З украінскай мовы назва пранікла ў данскія гаворкі: *попово гуменцо.* Магчыма, што ў выніку другаснага пераасэнсавання з'явіліся назвы адуванчыка *попы́, по́пик* [12. С.101]. Найменні *напо́к, напкі́* ў беларускіх народных гаворках адзначаны на Палессі ў Гомельскім і Магілёўскім рэгіёнах, а таксама ў Смаленскім рэгіёне. Гэтыя найменні, відаць, даволі старажытныя, яны былі зафіксаваны яшчэ К. Чалоўскім [15]. На нашу думку, гэта назва магла ўзнікнуць такім жа чынам, як і намінацыя *ксёндз.*

У палескіх гаворках для назвы адуванчыка зафіксавана адзінкавая намінацыя *божай мацеры сарочка* (*Божья матерь сорочка по дорогах растёт, худобе дают, кто кровью мочица.* Лельчыцкі раён)[16. С.416], якая з'яўляецца, відаць, рэліктавым найменнем гэтай расліны. У народных гаворках даволі часта сустракаюцца назвы раслін, насякомых, прыродных з'яў, прадметаў і г.д., звязаныя з рэлігійнымі ўяўленнямі насельніцтва: напрыклад, вясёлка – *вянок святога Барнарда, пояс Марыі,* гваздзік-травянка – *слёзкі божай мацеры,* капытнік – *чортавы капыцікі,* божая кароўка – *андрэйка-бажок,* першацвет – *святога Пятра ключыкі* і пад. Магчыма, што ў аснове намінацыі *божай мацеры сарочка* ляжыць белы колер ужо апушанай расліны. Адбыўся метафарычны перанос з адной рэаліі на другую: галоўка адуванчыка такая ж беласнежная, як сарочка божай мацеры.

У Смаленскім рэгіёне зафіксавана найменне *пупо́к.* У аснове гэтай назвы ляжыць таксама метафарычны перанос: падабенства пазбаўленай пушыстых сямянак галоўкі адуванчыка да пупка.

На аснове знешніх асацыяцый узнікла і назва адуванчыка (у першую чаргу так называлася пазбаўленая пушыстага семя галоўка расліны) *кура́ча сра́ка,* зафіксаваная пры зборы матэрыялаў для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа ў Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці.

У Гомельскім і Жыткавіцкім раёнах адзначаны назвы *като́к, ко́цікі,* якія, відаць, таксама ўтвораны на аснове асацыяцый (пушыстая, мяккая галоўка адуванчыка падобна на коціка).

У палескіх гаворках для назвы адуванчыка ўжываюцца намінацыі *казачо́к, казачкі́* (*Козачок жоўтый, хорошы, але ўсе рукі од ёго потом чорны, нэ одмываюцца, і одэжа тожэ. У дэўчат малых усе плацця летом мараты од іх.* Бярозаўскі раён) (ДСБ). Як сцвярджаюць этымолагі, тут можна гаварыць аб пераносе, у аснове якога ляжыць уяўленне аб горкім смаку соку адуванчыка, аб бескарыснасці або шкоднасці расліны [17]. Гэта матывацыя часта ляжыць у аснове найменняў і іншых раслін, параўн. *шчаўе конскае, жабнік, гарох воўчы* і пад.

Намінацыя *зу́бнік,* як і большасць адзінкавых найменняў адуванчыка, зафіксавана ў палескіх гаворках. Хутчэй за ўсё, як і ў найменні *знахо́рка,* асноўным матывам для ўтварэння назвы паслужылі лекавыя ўласцівасці расліны, адварам якой лечаць зубны боль.

У Ашмянскім раёне ўжываецца намінацыя *ячме́нькі.* Мясцовыя жыхары так тлумачылі гэтую назву: *Калі зацвітае адуванчык – пара сеяць ячмень.* Час цвіцення адуванчыка звязваецца з часам пасеву ячменю.

На Тураўшчыне адзначана найменне *бабо́к.* Корань *боб-/ баб-* шырока прадстаўлены ў назвах раслін ва ўсіх славянскіх мовах, характарызуючы ў асноўным бутоны, асобныя кветкі. Параўн. рус. *ба́бочки, бо́бочки* –васількі, *бобки́, бобо́вник* – канюшына і інш. Гэты корань служыць для абазначэння дробных, круглых прадметаў. Так, *бо́бкамі* называюць круглыя галоўкі канюшыны [1.С.37]. З канюшыны гэтая назва была перанесена і на іншыя расліны, у даным выпадку на шарападобную кветку адуванчыка.

У Крычаўскім і Жыткавіцкім раёнах ужываецца намінацыя *жыдо́к* [3.С.128], назва тычыцца таксама ў першую чаргу кветкі адуванчыка, а не самой расліны. Матывацыя няясная.

У Пружанскім раёне зафіксавана назва *слепота́.* Найменні *кура́ча слепота́* і *слепота́* ўжываюцца таксама ва ўкраінскіх народных гаворках. Хутчэй за ўсё намінацыя перанесена з іншай расліны **кураслеп (анемона)** на адуванчык па жоўтаму колеру кветак. Той жа матыў ляжыць у аснове назвы *жо́ўтая цыко́р'я.* Падобны перанос назвы з адной расліны на другую па нейкай вызначальнай для іх прыкмеце ў народных гаворках вельмі пашыраны сярод назваў раслін, параўн. *крыва́ўнік – пі́жма, крыні́чнік – незабу́дка, малачай – асот, падбел – ло́пух, бяссмертнік* і многія іншыя.

Такім чынам, асноўнымі наменклатурнымі абазначэннямі расліны адуванчык у беларускіх народных гаворках ( як і ў літаратурнай мове) з'яўляюцца найменні ***адуванчык*** і ***дзьмухавец*** разам з вытворнымі ад іх ці адпаведнымі па базавым кампаненце назвамі (*надуванчык, раздуванчык, абдуванчык, дуванчык* і *дмухавец, дмухель* і пад.), у аснове ўтварэння якіх ляжыць адна і тая ж матывацыйная прыкмета: пушыстае семя гэтай расліны разлятаецца ад лёгкага подыху ветру. Найменні з коранем *дув-* характэрны для гаворак усходняй зоны. Гэтым найменням проціпастаўляюцца намінацыі з коранем *молок-* тыпу *малачай* і іншымі адпаведнымі па базавым кампаненце назвамі *млечнік, молочэй, малач'як, малочнік* і пад., якія пашыраны ў заходняй групе гаворак беларускай мовы, у тым ліку і на тэрыторыі палескіх гаворак. Абодва намінацыйныя тыпы маюць статус агульнаславянскіх.

Аналіз шматлікіх найменняў адуванчыка паказаў, што ў гаворках беларускай мовы асноўнымі па сутнасці пры ўтварэнні намінацый з'яўляюцца дзве вылучальныя (адрознівальныя) прыкметы. Гэта, з аднаго боку, лёгкае абдуванне ветрам апушаных сямянак расліны і, з другога боку, выдзяленне са сцябла горкага малакападобнага соку.

У межах пашырэння намінацый з коранем *молок-* зафіксаваны шматлікія вузкалакальныя або адзінкавыя найменні, якія часцей за ўсё называюць не саму расліну, а яе кветкі (звычайна пасля адцвітання). Большасць з іх не валодаюць дастатковай тэрміналагічнасцю, таму што з'яўляюцца шматсастаўнымі або тэрытарыяльна абмежаванымі, але не выключана, што многія з іх тыпу *божай мацеры сарочка, знахорка* і пад. з'яўяюцца больш раннімі па часе ўтварэннямі, чым *адуванчык* і *дзьмухавец.*

***

Інтэрпрэтацыйная карта, прысвечаная найменням адуванчыка ў гаворках беларускай мовы, адлюстроўвае рэальнае пашырэнне двух асноўных тыпаў назваў з каранямі *дув-* і *малок-*, а таксама найменняў з коранем *пух-*. Тэрыторыя пашырэння

назваў з коранем *дув-* адзначана на карце прамой гарызантальнай лінейнай штрыхоўкай, тэрыторыя пашырэння назваў з коранем *малок-* адзначана касой лінейнай штрыхоўкай, а тэрыторыя пашырэння найменняў з коранем *пух-* адзначана прамой вертыкальнай штрыхоўкай. Распаўсюджанне адзінкавых або малапашыраных найменняў адуванчыка на карце не абазначана.

## КАРТА № 1. НАЗВЫ АДУВАНЧЫКА ПАВОДЛЕ ТЫПАЎ БАЗАВЫХ АСНОЎ



**назвы з базавымі кампанентамі *дув-*, *дзьмух-***



**назвы з базавымі кампанентамі *малок-* (*молок-*), *млеч-***



**назвы з базавым кампанентам *пух-***

## Літаратура


1. Меркулова В.А. О некоторых принципах этимологии названий растений// Этимология. – М., 1964.
2. Беларуская энцыклапедыя. Т.6. – Мінск, 1998.
3. Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. – Мінск, 2000.
4. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т.1. Раслінны свет. – Мінск, 1993.
5. Раслінны свет. Тэматычны слоўнік. – Мінск, 2001.
6. Киселевский А.И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. – Мінск, 1967.
7. Шаблоўскі А.І. Лексічная анамасіялогія: тыпы матывацыйных адносін // Беларуская лінгвістыка. 2007. Вып. 59.
8. Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т.3. – М., 1971.
9. Словарь русских народных говоров. Вып.23. – Ленинград, 1987.
10. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.3. – Мінск, 1985.
11. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.1. – Мінск, 1978.
12. Меркулова В.А. Очерки по русской народной номенклатуре растений. – М., 1967.
13. Закревська Я.В. Нариси з діалектного словотвору в ареальному аспекті. Київ, 1976.
14. Краўчук Р.У. Гісторыка-этымалагічныя нататкі. Палеск. *баба* адуванчык // Беларуская лінгвістыка. 1974. Вып. 6.
15. Чоловский К. Опыт описания Могилевской губернии. По программе и под редакцией А.С.Дембовецкого, кн.1. Могилев, 1882.
16. Бейлина Д.А. Материалы для полесского ботанического словаря // Лексика Полесья. – М., 1968.
17. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.4. – Мінск, 1988.


## Прынятыя скарачэнні

АЛА – Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Серыя лексіка-словаўтваральная. Вып.3. Раслінны свет. – Мінск, 2000.

ЛАБНГ – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5-ці тамах. – Мінск, 1993 – 1998.

СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т.1 – 5. – Мінск, 1979 – 1986.

СРНГ – Словарь русских народных говоров. Вып 3. Ленинград, 1968.

ДСБ – Дыялектны слоўнік Брэстчыны. – Мінск, 1989.

ЭСБМ – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.1 – 11. – Мінск, 1978 – 2006.

*В.М. Курцова*

# АБ АДРОЗНЕННЯХ У ФАРМІРАВАННІ ДЫЯЛЕКТНАЙ НАМЕНКЛАТУРЫ НАЗВАЎ ТЫПУ БУЯКІ (ДУРНІЦЫ) І ІХ НАМІНАЦЫЯ

Для абазначэння спажыўных ягад кустовай нізкарослай расліны сямейства брусні́чных Vaccinium uliginosum L, якая расце ў сырых барах і па балоцістых купінах, але асабліва любіць тарфяныя мясціны, у беларускай літаратурнай мове выступаюць дзве назвы — *буякі́* і *дурні́цы*.

*Буякі́*, або *дурні́цы*, — тыповы прадстаўнік расліннага свету Беларусі (ЭПБ, т.1). Знешне ягады буякоў падобны на чарніцы: такія ж сіне-чорныя, з шызым налётам, аднак крыху, можа, большыя па памеры ў параўнанні са сваімі бліжэйшымі па батанічнаму роду сваякамі — чарніцамі і брусніцамі. Нязменным суседам буякоў па месцы росту з'яўляецца багун — вечназялёная расліна сямейства верасовых з рэзкім дурманлівым пахам, які асабліва актыўна вылучаецца ў цёплы час — ліпеньскія ці жнівеньскія летнія дні.

Анамасіялагічныя матэрыялы па назвах *буяко́ў* (*ду́рніц*) у гаворках беларускай мовы адлюстроўваюцца найперш у каментарыях ЛАБНГ да карты № 224 "Буякі". Яны сабраны на аснове тыповага для дадзенага корпусу лексічных звестак пытання: "Я. н. ягады буякоў?.." (ЛАБНГ, т.1, 96). На анамасіялагічнай карце № 224 "Буякі" ЛАБНГ падаюцца наступныя найменні буякоў у іх абагульненай фанетыка-марфалагічнай форме: *дурні́цы*, *дуры́ны*, *буякі́* (*буяхі́*), *буяны́*, *п'яні́цы* (*п'я́ніцы*), *лахачы́*, *лахі́ны*, *галубі́ка*, *галубо́ні* (і іх варыянты), *бугаі́*, *сіні́цы*, *круцялі́* (*кру́цікі*). А таксама адзінкавыя назвы: *сі́нія гало́вы*, *балабо́ны*, *суні́цы*, *бугаы́*, *калуны́*, *біцухі́*. Дапаўняюць гэтыя звесткі матэрыялы двух мікраатласаў, у якіх адлюстроўваюцца лексічныя сэнсава-вылучальныя адзінкі па моўным забеспячэнні гаворак заходнепалескага рэгіёна (Леванцэвіч; Босак). У адносінах да анамасіялагічнай, а таксама і тэрытарыяльнай варыянтнасці намінацыйнага вылучэння і абазначэння ягад *буякі́* (*дурні́цы*) цікавы матэрыял падаецца ў рэгіянальных слоўніках і іншых лексікаграфічных працах. Ён у асноўным абагульнены ў спецыяльным выданні па назвах ў сферы расліннага свету Беларусі "Раслінны свет: Тэматычны слоўнік" (РС). Звесткі розных інфармацыйных крыніц сведчаць: вылучальнымі па фармальных паказчыках і сэнсава-адрознівальнай структуры назвамі пладоў расліны Vaccinium uliginosum у большасці гаворак беларускай мовы з'яўляюцца найменні *дурні́цы* (і іх структурна-марфалагічныя варыянты) і найменне тыпу *буякі́*. Яны дамінуюць па прасторы распаўсюджання.

Дастаткова вядомыя рэгіянальна пашыраныя лексічныя сродкі тыпу *п'яні́цы* (*п'я́ніцы*) і *лахачы́* (*лахі́ны*). Група іншых намінацыйна-вылучальных і абазначальных адпаведнікаў назваў *буяко́ў* (*дурні́ц*) мае статус лакальна абмежаваных па пашырэнні словаформ. Гэта: *бугаі́*, *бугаы́* (*буга́ны*; *бугуны́*), *галабо́ні*, *галубо́ні*, *ганабо́бель*, *белякі́*, *белагало́вік*, *балабо́ны* і некаторыя інш. Усе

пералічаныя назвы складаюць сукупнасць сродкаў мясцовага намінацыйнага абазначэння *буякоў* (*дурніц*) у гаворках беларускай мовы і ўтвараюць адпаведны намінацыйны ландшафт у яго галоўных тэрытарыяльных асаблівасцях.

***Найменні тыпу буякі.*** Лексікаграфічныя крыніцы сведчаць, што плады кустовай расліны Vaccinium uliginosum абазначаюцца ў большасці беларускіх гаворак паўднёва-заходняга дыялекту назвай тыпу *буякі*. Акрамя яе, адзначаны тоесныя па корані *буяхі*, *буяны*, *буяніцы*, *буйкі* і інш. Гэтае найменне ягад па базавым кампаненце яго ўтваральнай асновы адносіцца да ліку загадкавых і таямнічых. Даследчыкі, прызнаючыся, што этымалогія "слова не вельмі ясная", разам з тым звязваюць яго па ўтварэнні з беларускім дзеясловам буяць 'буяніць, шалець'. Лексема з такім значэннем мае свой працяг у гаворках украінскай мовы (ЭСБМ, т.1, 429), інакш кажучы, яна належыць да супольных беларуска-украінскіх рэгіяналізмаў. Вылучаная сэнсавая асаблівасць паводле базавага кампанента дзеяслова *буяць* 'буяніць, шалець' грунтуецца на звестках аб здольнасці ягад "выклікаць ап'яненне, боль галавы і да т.п." (ЭСБМ, т.1). Гэта сапраўды адпавядае рэчаіснасці, за выключэннем заўвагі, што чадныя ўласцівасці належаць менавіта пладам расліны. Такая адметнасць — якасць сталага спадарожніка буячніку — расліны з сямейства верасовых багуну. Апошняе, дарэчы, і адзначаецца аўтарам артыкула "п'яніцы" (ЭСБМ, т.10). Устаноўленая ўласцівасць базавага структурна-семантычнага вызначэння ягад праз дзеяслоў *буяць* 'буяніць, шалець' дазволіла паставіць найменне па асаблівасцях яго матывацыі ў адзін шэраг з сэнсава агульнымі найменнямі тыпу *п'яніцы*, *галаваболь*, *дурнічнік*, *дурніцы* і да т.п. Дадзеная версія выглядае тым больш праўдападобна, што семантычна аднолькавыя ці структурна мадыфікаваныя варыянты наймення тыпу *буякі* маюць месца ў іншых славянскіх мовах, найперш суседніх да беларускіх (Ніканчук, карта №51).

Адначасова, выказваючы меркаванне пра аб'ектывацыю наймення адпаведна ачмуральным уласцівасцям багуну, беларускія даследчыкі не адмовіліся і ад магчымай сувязі назвы буякі па базе ўтваральнай асновы з дзеясловам *буяць* 'буйна расці, станавіцца буйнейшым'. Верагоднасць прапанаванай думкі падмацоўваецца вусным паведамленнем аб існаванні ў беларускіх гаворках абазначальнага сродку ягад у форме *буйніцы*, дзе дадзеная ўтваральная дзеяслоўная база мае сваё ўвасабленне (ЭСБМ, т.1, 430). Нарэшце, версія аб этымалагічнай сувязі наймення *буякі* з 'бык' уяўляецца аўтарам артыкула "буякі" зусім мала верыфікаванай.

Такім чынам, пры існаванні некалькіх прыведзеных варыянтаў абазначэння ягад кустовай расліны Vaccinium uliginosum словаформай *буякі* раскрыццё яе лексічнай аб'ектывацыі застаецца пакуль што не вельмі пераканальным.

Разам з тым, спрабуючы інтэрпрэтаваць базавы кампанент лексемы *буякі*, хацелася б звярнуць увагу на наступную акалічнасць. Як зазначана вышэй, назвы тыпу *буякі* ў сваім пашырэнні лакалізуюцца на тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, але суцэльны абшар падобнае найменне займае ва ўсходнепалескіх гаворках з канцэнтрацыяй яго на Тураўшчыне і далей на Жытоміршчыне (Ніканчук, карта № 51).

Беларускае Палессе, як вядома, гэта рэгіён, які характарызуецца выразнай адметнасцю мясцовага прыроднага ландшафту. Так, засведчана: "Уся прастора Тураўшчыны зараз (у 50-я гады мінулага стагоддзя — В.К.) — бязлесная раўніна, у той час як за яе рачнымі межамі пераважаюць яшчэ лясныя абшары". Але падобны выгляд Тураўскага Палесся быў такім не заўсёды. Тубыльцы помняць сваю зямлю іншай. "У мінулым палі *выступалі толькі прагалінамі між нізін і далін* (курсіў — В.К.), пастаянна запоўненых вадой, зарослых альхой, векавечнымі дубамі, непраходным лазняком" (ТС, т. 1, 9).

Удакладнім, у якой сувязі прыгадваецца цытаваны тэкст і якія адносіны мае гэта непасрэдна да буякоў.

Агульнавядома, што буякі — прадстаўнік ляснога расліннага свету. Звычайна буячнік туліцца на краях балот, дзе мясцовасць крыху вышэйшая ў параўнанні з самім балотам. Калі расліна і сустракаецца сярод балота, то займае яго ўзвышэнні — груды, купіны ці буі. *Буй* — лексічная адзінка, што ў беларускай літаратурнай мове, а таксама ў гаворках усходняй дыялектнай зоны (акрамя адзначанага, гаворкам вядомы і іншыя значэнні слова (ЭСБМ, т. 1) мае семантыку 'высокае, адкрытае з усіх бакоў для ветру месца' (ТСБМ, т. 1). У гэтым жа значэнні, а менавіта 'ўзвышанае, адкрытае месца', а таксама з семантыкай 'моцны вецер; месца, адкрытае для дзеяння ветру' была вядома словаформа раней на этнагенетычным абшары беларускіх гаворак. У межах вылучанай тэрыторыі, а таксама ў некаторых іншых рэгіёнах Расіі яна адзначаецца і сёння (ЭССМ, вып. 3). Як мовазабяспечвальны сродак са сферы найменняў па абазначэнні асаблівасцей рэльефу слова *буй* 'участак сушы, акружаны балотам' зафіксавана ў пскоўскіх пісьмовых помніках [1, 243], і разам з тым як назва тапанімічных аб'ектаў яно не адлюстроўваецца ў старабеларускіх пісьмовых крыніцах, не падаецца ў гістарычным слоўніку беларускай мовы. У іншых славянскіх мовах лексема *буй* з семантыкай 'узвышанае, адкрытае месца' не выяўлена. Аднак з семай месца, увасобленай у словаформе *bujak* 'нетры', назва адзначана ў македонскай мове, ва ўкраінскай засведчана як 'лясок у яры'. Сербахарвацкае *бујāк* абазначае 'струмені дажджавой ці талай вады' (ЭССМ, вып. 3).

У параўнанні з іншымі часткамі славянскага моўнага кантынууму найбольш разнастайна з боку семантыкі выглядае словаформа ў гаворках беларускай мовы. Гэта яе ўсходнепалескі, тураўскі рэгіён. Тут найменне *буя́к* ведаюць як назву абалоністага хваёвага лесу: "*Буяк — одна оболона, росце на песку́, ша́шэль его с ходу крамса́е*" (ТС, т.1, 100). Лексемы *буя́хі*, *буякі́* маюць таксама семантыку: 1. 'катахі на рагозе', 2. 'рагоз' (ТС, т.1, 101). Пры чым у мясцовых тураўскіх гаворках расліну *рагоз* (фанет. *рого́з*, *рого́ж*) адносяць да прадстаўнікоў балотнай флоры. Тут нават выдзяляюць яе некалькі асобных відаў: "*свойскі рогоз*. Від рагозу без катахоў. *Глухі рогоз, шо пушы́ло росце, а свойскі рого́з рвуць да едзяць*. Глухі рогоз. Від рагозу з чорным катахом. *Глухі рогоз з буяхо́м, буях такі чорны*." (ТС, т.4, 292). Як адпаведная назва воднай расліны функцыянуе *рагоз* у беларускай літаратурнай мове: "травяністая расліна сямейства рагозавых з тоўстым моцным чорна-белым катахом на высокім сцябле, якая *расце па берагах вадаёмаў* (курсіў — В.К.)" (ТСБМ, т.4, 552). Інакш кажучы, толькі як адзінае абазначэнне геаграфічнай прасторы (рэльефу), замацаванае ў базавым кампаненце

ўтваральнай асновы ў лексеме *буяк* у тураўскіх гаворках, як і ў большасці славянскіх моў, ужо страчана. Але зафіксаваныя мясцовыя назвы *буя́к* 'абалоністы хваёвы лес' (толькі той, што '*росце на песку*'), *буяхі́*, *буякі́* 'рагоз' сваёй зыходнай апорай для базавай утваральнай асновы, ці вылучальнай прыкметай, звязаны непасрэдна з месцам росту. Гэта прадстаўнікі мясцовай флоры, што растуць ля балота, на балоце, але не прама ў ім, а: абалоністы сасновы лес '*росце на песку*', рагоз — расце каля вады. Інакш кажучы, лексічная прырода пералічаных тураўскіх назваў сваім базавым коранем матывацыйна абумоўлена месцам росту. Таму відавочна, што і вытокі фармальна тоеснага ім наймення *буякі́*, *буяхі́* 'ягады буякоў (буячніку)' знаходзяцца таксама ў непасрэдных намінацыйных адносінах з гэтымі мясцовымі назвамі — праз зыходную матывацыйную прыкмету. Ды ўвогуле семантычная разнастайнасць слова *буякі́* (*буяхі́*), характэрная для ўсходнепалескага моўнага рэгіёна, дазваляе выказаць здагадку аб тым, што ў гаворках гэтага рэгіёна многае, што расло тут у асаблівых прыродных умовах, у тым ліку і на буях-купінах, абазначалася, відаць, словаформай з базавым абагульненым коранем **bujь*. З дастаткова шырокім спектрам значэнняў як намінацыйны сродак для назвы розных прадстаўнікоў мясцовага расліннага свету найменне захавалася ў тутэйшым маўленні і для ўласна расліны буякі і яе ягад.

З улікам гэтага прымальным падаецца меркаванне: праславянскае **bujь* са сваёй першаснай, архаічнай семантыкай і сёння функцыянуе ў гаворках сучасных беларускай і, відавочна, украінскай моў. Як вылучальныя абазначальныя сродкі ягад *буякі-буяхи* з аднолькавым характарам зыходнай каранёвай базы яны ўтвараюць агульны беларуска-ўкраінскі намінацыйны арэал. Праўда, пры статусе літаратурнага наймення ў сучасных гаворках беларускай мовы словаформа *буякі* 'ягады' мае выразна акрэсленую прастору пашырэння — усходнепалескі рэгіён, і тым самым яно з'яўляецца рэгіянальным па лакалізацыі ўтварэннем.

Думка аб тоеснасці вытокаў зыходнага базавага кампанента ўтваральнай асновы **bujь* і *буякі* '1. расліна. 2. ягады' тым больш здаецца праўдападобнай, калі памятаць пра спецыфіку палескага рэльефу — водную балоцістую прастору з выспамі сушы на ёй. У адпаведнасці з чым структурна-семантычнае вывядзенне назвы ягад *буякі* з **bujь* выглядае матываваным у адносінах да абазначэння назвы ягад адпаведнай словаформай, аб'ектывацыя якой мае прамое дачыненне да месца росту расліны — на буях.

Адносна структурнага кампанента *-як-* у складзе словаформы праблем з яго інтэрпрэтацыяй фактычна не ўзнікае. Выяўлена, што ўсе славянскія мовы выкарыстоўваюць гэты мадыфікацыйны афікс прыкладна ў тэматычна аднолькавых групах слоў. Так, пры ўтварэнні "імёнаў з прадметна-характарызавальным значэннем суфікс *-як-* ужываецца ў словах, што абазначаюць назвы прадметаў гаспадарча-побытавага прызначэння, зоа- і *securityбатанічныя назвы*, nomina instrumenti: падабенства ў семантычнай арыентацыі суф. -ак$_1$ пры ўтварэнні: а) імёнаў з агульным значэннем асобы...; б) *батанічных назваў* (выкарыстанне яго пераважна для ўтварэння *назваў траў і травяністых раслін* (курсіў — В.К.), выключэнне складае толькі славацкая мова, у якой суфікс

-ак$_1$ ужываецца часцей за ўсё пры ўтварэнні назваў грыбоў і агародніны..." [2, 161-162].

Пра іншыя структурна адрозныя варыянты, як напрыклад, *буяхí*, *буйкí*, *буяны́*, *буíны*, *буянíцы*, заўважым. Гэтыя назвы, за выключэннем, вядома, *буяхí* (фанетычная форма зыходнага *буякí* [3, 200]) варта, мабыць, разглядаць як найменні аднолькавыя па базе ўтваральнай асновы з лексемай *буякí*, але ўскладненыя, відавочна, другаснай матывацыяй і адпаведнымі мадыфікацыйнымі суфіксамі. Хоць падобнае тлумачэнне пярэчыць, натуральна, версіям, адлюстраваным у этымалагічных даведніках. У тэрытарыяльных адносінах мадыфікаваныя структурна і ўскладненыя семантычна формы слова *буякí* лакалізуюцца пераважна ў межах гаворак усходнепалескага тыпу ці ўсходняй дыялектнай зоны, але з выразнай паўднёвай лакалізацыяй. Найменні ягад з суфіксам *-ін-* у іх складзе тыпу беларускага *буíны* распаўсюджаны ў заходніх украінскіх гаворках, у гаворках чэшскай і польскай моў [4, 42]. Што дазваляе бачыць у гэтым уплыў больш прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі на мясцовыя ўтварэнні. Такім жа праўдападобным і прымальным можна лічыць і меркаванне аб утварэнні па аналогіі згодна з вядомай, але ў беларускіх гаворках сёння непрадуктыўнай праславянскай мадэллю на *-іна*, як у мясцовых дыялектных назвах *смуро́дзіна*, *малíны*, *ожы́ны*, *журавíны*, *брусленíна* (*брушленíна*) і інш.

Словаформа тыпу *буяны́* не характэрна для гаворак беларускай мовы, у тым ліку і паўднёва-заходняга дыялекту. Аналагічныя ёй па мадыфікацыйным кампаненце намінацыі, накшталт *земля́на*, *глубя́на*, *костя́на*, больш вядомыя гаворкам рускай мовы (ДАРМ, вып. III, карта №86). Адзінкавасць фіксацыі наймення, паралельнае ўжыванне з іншымі тыповымі для рэгіёна намінацыйнымі адзінкамі гэтых ягад, дазваляе меркаваць аб іх, мабыць, інавацыйным характары. Нарэшце таксама адзінкава выяўленае, лакальнае па тэрыторыі пашырэння (Лоеў. р-н) найменне *буянíцы* з'яўляецца відавочным лексічным гібрыдам. Яно ўтварылася ў выніку адаптацыі суфіксальных сродкаў назвы тыпу *дурнíцы* да другаснай (незыходнай) асновы слова *буякí*. Апошняе падмацоўваецца лінгвагеаграфічна. У комплексе абазначальных сродкаў ягад буякі словаформа *буянíцы* засведчана ў зоне сутыкнення розных намінацыйных арэалаў з адрознымі па базе ўтваральнымі асновамі (ЛАБНГ, т.1, карта № 224).

***Найменні тыпу дурніцы і іх тоесныя семантычныя адпаведнікі.*** Супрацьлеглым па базавым вылучэнні найменням тыпу *буякí* з'яўляюцца ў беларускіх гаворках назвы тыпу *дурнíцы*, якія займаюць значны абшар беларускамоўнай дыялектнай прасторы. Назвы гэтага тыпу вядомы на тэрыторыі гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту, за выключэннем ускраіннага рэгіёна Віцебшчыны, і вузкага паза гаворак уздоўж заходняга берага Беларусі, а таксама на пераважнай частцы абшару сярэднебеларускіх гаворак. Адзначаны тып таксама мае свой працяг на тэрыторыі лакалізацыі этнагенетычных асаблівасцей беларускіх гаворак і далей за яе межамі. Але пры гэтым канцэнтрацыя найменняў тыпу *дурнíцы* ў сучасных гаворках рускай мовы адзначаецца менавіта на прылеглай да Беларусі тэрыторыі — гэта гаворкі Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Браншчыны. Вылучаны намінацыйны арэал лакалізацыі абазначальнага сродку

тыпу *дурніцы* ў этнагенетычным плане ў разнастайных навуковых крыніцах досыць часта вызначаюць як адзіны старажытнамоўны арэал. Гаворкі яго адносяць да племянной мовы крывічоў, іх паўднёвай галіны [5]. За межамі гэтага рускамоўнага трохкутніка ў гаворках рускай мовы назвы з базавым складнікам утваральнай асновы *дур-* зафіксаваны ў сярэднеўральскіх гаворках, аднак ужываюцца яны пры наяўнасці паралельных словаформ *голубица, голубница* [6, 86]. Цікава, што якраз у межах паўднёва-заходняй зоны гаворак рускай мовы мае месца таксама і канцэнтрацыя найменняў множнага ліку, гэтак жа, як і ў беларускіх гаворках. Прычым, частата выкарыстання множналікавых форм змяншаецца з паўднёва-заходняга накірунку на паўночны захад [7, 87].

Ландшафтна анамасіялагічная група з сэнсава-вылучальным абазначэннем *дурніцы* ў межах гаворак беларускай мовы размяшчаецца супраць зоны найменняў з утваральнай базавай асновай *буй-*. Але формы тыпу *буякі* "саступаюць" тэрытарыяльна пад адчувальным лексічным ціскам канкурэнтным назвам тыпу *дурніцы*.

Паходжанне назваў тыпу *дурніцы* этымолагі звязваюць з архаічным коранем індаеўрапейскай прыналежнасці **dhou-r-o*. (ЭССМ, вып.5). У структурных адносінах абазначальны тып ягад словаформай *дурніцы* ўяўляе сабой сцягнутую форму прыметніка і адпаведнага апорнага назоўніка *ягада*. Падобныя субстантывы з "ягадным" суфіксам *-іц-* — найменні, утвораныя па прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі, якая выкарыстоўваецца для намінацыі адпаведных раслін і іх пладоў у многіх славянскіх мовах [8].

Адносна вылучальнай ці назвастваральнай асаблівасці, якая стала прычынай аб'ектывацыі ягад расліны лексемай у сэнсава-гукавым абліччы *дурніцы*, у навуковым асяроддзі лічыцца агульнапрынятым погляд, што першапачатковая апора назвы — лексема *дур* са значэннем 'адурманьванне; ачмурэнне'. Пры гэтым трэба, аднак, удакладніць, што негатыўнае ўздзеянне на арганізм чалавека аказваюць не ўласна самі ягады, а эфірныя рэчывы спадарожнай расліны багун. Аб чым, прынамсі, сведчаць дыялектныя тэкставыя запісы. Так, І.І. Насовіч, даючы азначэнне лексеме *дурница*, паведамляе: "Дурница. Ягода, очень похожая на чернику, но имеющая одуряющее, наркотическое свойство. *Она сама по себе безвредна, но, ростя между багуном, напитывается наркотическим его свойством* (курсіў — В.К.)" (Насовіч, 148). Дарэчы, зусім невыпадкова ў сувязі з засведчаным, што і расліна багун мае зафіксаваную аўтарам назву *дурец* 'багун, дурман' (Насовіч, 148). Асаблівасць "ягад" — аказваць апасродкаванае прысутнасцю багуну наркатычнае ўздзеянне на арганізм чалавека — адлюстроўваецца і ў іншых дыялектных лексікаграфічных запісах: "*Наесіса буяхоў богато, то будзеш блеваць*" (ТС, т.1, 101) або: "*П'яніцы збіраяш, **ад багуна ўчадзяш**; П'яніцы ядуць, але **ад багуна ап'янееш***" (СПЗБ, т. 4, 215-216).

Іншыя найменні з вылучальнага тыпу *дурніцы*, як *дурніца, дурніка, дурыны, дурава* — гэта рэгіянальныя мадыфікацыі па ўтваральных сродках і граматычных асаблівасцях базавага кораня *дур-*. Пералічаныя лексемы пераважна як адзінкавыя засведчаны ў сярэднебеларускіх гаворках у форме *дурыны* (Докш. і Віл. р-ны), спарадычна, не ўтвараючы суцэльных арэалаў пашырэння, выяўлены яны ў магілёўска-смаленскім рэгіёне. Адметнай формай сярод найменняў тыпу

*дурніцы*, з'яўляецца зафіксаваная ў Віцебскім рэгіёне лексема *дурнап'янкі*. Аднак інтэрпрэтацыя яе не выклікае ніякіх складанасцей як з боку матывацыі, так і з боку структуры. Назва *дурнап'янкі* паводле значэння — гэта відавочнае ўвасабленне агульнай базы *дур-* з семантыкай 'адурманьванне; ачмурэнне'. Толькі ў дадзенай форме яна проста прадубліравана, што адлюстроўваецца складам утваральных асноў і адпаведным кантамінацыйным структурным абліччам назвы.

Назвы тыпу *п'яніцы* (акцэнталагічна *п'яніцы*) у сучасных беларускіх гаворках выступаюць фактычна толькі ў адзінай лексіка-граматычнай форме. З аналагічным базавым коранем у форме *п'янішніца* найменне мае працяг на тэрыторыі Смаленшчыны, ці, адпаведна сучаснай дыялектнай стратыфікацыі, у паўднёва-заходняй зоне гаворак рускай мовы. Вытворныя па дадзенай каранёвай базе словаформы адзначаюцца ў гаворках рускай мовы і ў паўночнай дыялектнай зоне (ДАРМ, вып. III, карта №86). Мясцовыя варыянты назвы гэтага каранёвага тыпу фіксуюцца таксама ў дыялектах украінскай мовы [9, 37].

Найменне тыпу *п'яніцы* складае выразную лексічную асаблівасць гаворак паўночна-заходняй зоны беларускай мовы. Лексема, утвараючы кампактны арэал у віцебскіх гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту, у выглядзе вузкага тэрытарыяльнага паса мае працяг у межах гэтай жа зоны, але ва ўскраінных заходнебеларускіх гаворках. Для прасторавай лакалізацыі назвы дадзенага тыпу характэрна і наступная асаблівасць. У сваім пашырэнні на паўднёвы ўсход лексема мяжуе з анамасіялагічнай групай найменняў з каранёвай базай *дур-*. Але гэтыя розныя па абазначальных фармальных сродках назвы не заходзяць адна за адну і тым самым не ўтвараюць супольнага "размытага", ці дыфузнага, намінацыйнага сумежжа ў выніку іх натуральнага ўзаемадзеяння. Арэалы найменняў тыпу *п'яніцы* і тыпу *дурніцы* выразна адмяжоўваюцца адзін ад аднаго. Што, бясспрэчна, падаецца досыць загадкавым і лінгвістычна цікавым.

Тлумачэнне паходжання назвы *п'яніцы* згодна яе ўстаноўленаму агульнаславянскаму статусу ў гаворках беларускай мовы не выклікае цяжкасцей. Па базе ўтваральнай асновы лексему звязваюць з праславянскай зыходнай формай **pьjanъ(jь)*, **pijanъ(jь)* і адпаведнай ёй значэннем 'п'яны'. Сама праславянская форма мае яшчэ больш старажытныя вытокі (ЭСБМ, т. 10). Згодна з чым і назва *п'яніцы* лічыцца ўласнаславянскім намінацыйным утварэннем. Думка, выказаная А. Грынавецкене і ў наступным развітая асобнымі беларускімі даследчыкамі [10, 12] аб магчымым балцкім "следзе" ў структурна-семантычным абліччы наймення *п'яніцы* не знайшла падтрымкі сярод беларускіх этымолагаў. Прычына — наяўнасць найменняў з дадзеным базавым кампанентам не толькі ў паўднёва-заходняй, але і ў паўночнай зоне гаворак рускай мовы [11, 299].

Цікава, што першапачатковы праславянскі корань, маючы агульнаславянскае распаўсюджанне, пры абазначэнні ягад са значэннем 'адурманьвальны; які выклікае ачмурэнне' выступае, як указвалася, дастаткова абмежавана. З такім жа базавым каранёвым кампанентам лексема вядома ўкраінскай, польскай і лужыцкай мовам [12, 87-88]. Аднак у гаворках і літаратурных мовах паўднёваславянскага моўнага кантынуума яе не адзначаюць. Так, у славенскай літаратурнай мове расліну буякі ведаюць у форме наймення *močvirska borovnica* (РСС), у балгарскай як *синя боровинка* (РБлС), у македонска-рускім слоўніку

назва гэтай кустовай расліны наогул не падаецца (МРС). Як і ў паўднёваславянскім арэале, у заходнеславянскіх мовах вядомы назвы ягад буякоў з коранем *bor-* у іх складзе (ЧЭС). Разам з тым у суседняй літоўскай літаратурнай мове буякі абазначаюцца як *girtuõkles*, *girtuõkle*, што літаральна азначае 'які п'яніць, адурманьвае' (РЛС). Падобнае і ў латышскай мове [13, 12]. Такім чынам, анамасіялагічныя матэрыялы (яны, на жаль, недастатковыя, бо адпаведная карта ў АЛА адсутнічае) сведчаць, што найменне *п'яніцы* як назва ягад з вылучальнай для іх семантыкай, не з'яўляецца агульнаславянскім лексічным набыткам. Па тэрыторыі лакалізацыі яно — паўночнаславянскі рэгіяналізм. У сувязі з чым, ці нельга выказаць здагадку, што назва адносіцца да сумеснага балта-славянскага намінацыйнага фонду. Так, згодна лінгвагеаграфічнай карце, мясцовыя беларускія *п'яніцы* вельмі адасабляюцца тэрыторыяй распаўсюджання ад іншых намінацыйных тыпаў буякоў у гаворках беларускай мовы. Яны, акрамя таго, маюць тоеснае з літоўскай і латышскай мовамі значэнне. Дастаткова інфармацыйным падаецца і наступнае. Лексема ў беларускіх гаворках не мае адрозных па словаўтваральнай і марфалагічнай будове формаў. А таму, ці не магло атрымацца такім жа чынам, як гэта адбылося з найменнем *сініцы* ў значэнні 'чарніцы' [14, 116], а таксама з мясцовымі беларускімі назвамі ягад суніц у гукавым абліччы *сініцы* [15, 39-42]. Інакш кажучы, засвоіўшы балцкую першапачатковую семантыку, трансфармаваўшы зыходнае структурна-гукавое аблічча, многія па форме ўласнаславянскія назвы не заўсёды з'яўляюцца такімі па сваіх вытоках. Можа б верагодней было назву *п'яніцы* з яе вытворнымі па зыходнай базавай аб'ектывацыі варыянтамі разглядаць як старажытны супольны балта-славянскі або, мабыць, прабалта-славянскі паўночны рэгіяналізм. Але пры падобным падыходзе ўзнікае, зразумела, шмат пытанняў наконт аналагічных па каранёвай базе найменняў, выяўленых у паўночназанальным рускамоўным арэале. Выказаць нейкія больш-менш дакладныя меркаванні на гэты конт складана з-за адсутнасці дастатковых звестак з усіх славянскіх моў. Аднак, памятаючы аб асаблівасцях фарміравання расліннай наменклатуры ў гаворках паўночнай Расіі, можна схіляцца да думкі аб магчымых фінскіх вытоках у іх семантычным забеспячэнні [16, 228-229]. Хоць, бясспрэчна, надзвычай цяжка адмовіцца ад вызначэння назваў тыпу *п'яніцы* як уласнаславянскай спадчыны. Не толькі знешне, але і па сэнсе, семантычна, вельмі празрыстымі падаюцца яны і выглядаць выключна сваімі.

Экзатычным па базе асновы ўтварэннем, лакалізаваным у арэале распаўсюджвання назвы *п'яніцы*, выглядае найменне тыпу *ганабóбель* і яго ў рознай ступені трасфармаваныя фанетычныя варыянты: *ганабóні*, *галабóні*, *галубóні*. І нарэшце, змененая да непазнавальнасці ў параўнанні з *ганабóбель*, але з сучаснага п.гл. абсалютна празрыстая па семантыцы і структуры лексема *галавабóль*. Усе пералічаныя найменні ў гаворках беларускай мовы маюць выразнае рэгіянальнае пашырэнне. Яны адзначаны ў асобных гаворках віцебскага тыпу паўночна-ўсходняга дыялекту, дзе ўтвараюць асобны мікраарэал (Лепельшчына) ці выступаюць адзінкава. Найменне тыпу *ганабóбель* найбольш вядома гаворкам рускай мовы [СРНГ, вып. 7; 17, 230]. Улічваючы максімальную сканцэнтраванасць назваў з падобным базавым коранем у паўночнарускіх

занальных гаворках, можна меркаваць аб іх перыферыйным статусе на дыялектнай прасторы Беларусі.

Тлумачэнне наяўнасці і пашырэння назваў тыпу *ганабобель*, як і паходжання лексемы наогул, дагэтуль не атрымала ў лінгвістыцы адназначнай і цалкам прымальнай ацэнкі. Разам з тым лексема не адзін раз станавілася прадметам даследчыцкай цікавасці. Так, М. Фасмер бачыць у слове табуістычную адзінку, якая ўтварылася шляхам складання асноў, у выніку чаго назва расліны пачала функцыянаваць з семантыкай 'расліна, якая выклікае (гоніць) боль' (Фасмер, т.1, 437), М.М. Шанскі базавую аб'ектывацыю лічыць няяснай (Шанскі, т.1, вып.4, 121). Вядомы таксама і іншыя інтэрпрэтацыі наймення (ЭСБМ, т.3). Цікава пры гэтым наступнае. Большасць даследчыкаў, прапаноўваючы розныя версія аб паходжанні слова, яго значэнне звязваюць з 'болем галавы'. Дакладней, з адурманьвальным уздзеяннем на чалавека наркатычных рэчываў багуну, што прыводзіць да падобнага стану. У сувязі з чым усе фанетычныя працэсы, якія адбываюцца ў структуры слова, разглядаюцца з боку розных відаў трансфармацыі гукавога складу асновы *галава*. Такой жа думкі аб вытоках найменняў тыпу *ганабобель* па сутнасці трымаюцца і беларускія этымолагі пры інтэрпрэтацыі вытворнага па базе варыянта *ганаболі* (ЭСБМ, т.3). Абгрунтаваць структурна-семантычную своеасаблівасць мясцовага варыянта *ганаболі* праз пошукі яго зыходнай этымалагічнай апоры беларускім лінгвістам тым больш прасцей, што ў беларускіх паўночна-заходніх гаворках было адзінкава зафіксавана найменне *галаваболь* (РС).

Узяўшы за аснову прапанаваную версію, можна было б спыніцца і не ўлічваць іншыя вядомыя нататкі аб выніках пошукаў каранёвай базы ў лексеме тыпу *ганабобель*. Аднак у падтрыманай ЭСБМ, а таксама пашыранай у этымалагічнай літаратуры рэканструкцыі слова *ганаболі* (і іншых яго варыянтаў) праз першапачатковае *баліць галава* не вельмі пераканальным выглядае працэс шматступеннай гукавой трансфармацыі, што адбыўся ў лексеме *галава*. Не зусім аб'ектыўным падаецца накірунак змен: ад агульназразумелага, празрыстага да "цёмнага". У маўленчай рэальнасці змены адбываюцца, як вядома, якраз наадварот. Перастварающца ў структурна і семантычна празрыстыя словы з "зацемненым" сэнсавым зместам і не надта "чытэльным" гукавым аблічцам. Таму, ці нельга дапусціць, што ў тым самым накірунку адбывалася трансфармацыя ў беларускіх гаворках з лексемамі накшталт *ганаболі*? Можа таму і існуюць іх адрозныя гукавым складам назвы: ад словаформаў з больш-менш выразна матываванай сэнсава-марфалагічнай структурай па тыпу словаформы *галубоні* (з адным з каранёвых кампанентаў, як у наймення *голубика?*) да зусім зразумелых, як у абазначальным сродку *галаваболь*.

У сувязі з вышэйсказаным цалкам праўдападобнай, аргументаванай падаецца версія В.А. Мяркулавай. Згодна з ёй "у першай частцы слова *гоноболь* ляжыць элемент са значэннем 'адурманьваючы, ап'яняючы'. ... Можна меркаваць, што ў аснове руск. *гоноболь* ляжыць вепская назва тыпу *gön–bol*. На рускім грунце часткі складання сталі асацыіравацца са словамі *гон* і *боль*" [18, 224 – 225]. Інакш кажучы, беларускія *ганаболі* — гэта рэліктавая назва, архаізм, атрыманы як запазычанне славянскімі гаворкамі з фінскіх моў. І, як мяркуе даследчык,

"найбольш праўдападобна, што менавіта вепскія і карэльскія формы ляглі ў аснову наўгародска-пскоўскага дыялектызма" [19, 224 – 225]. Апошняе на беларускім матэрыяле цалкам падмацоўваецца лінгвагеаграфічна: мясцовыя беларускія *ганабо́лі* адзначаюцца ў Віцебскім рэгіёне, памежным з Пскоўшчынай, дзе найменне тыпу руск. *гоноболь* — тыповы намінацыйна-абазначальны сродак ягад расліны буякі (СРНГ, вып.7.). Толькі пры ўліку такіх акалічнасцей больш зразумелымі становяцца і наяўныя цяжка вытлумачальныя па абліччы беларускамоўныя варыянты адпаведніка найменню *буякі́*.

Такім чынам, значэнне слова *ганабо́лі* сапраўды абумоўлена ўздзеяннем на чалавека багуновага паху, які выклікае адурманьванне і праз яго галаўны боль. Аднак у аснове аб'ектывацыі — базавыя кампаненты *gön – bol*, звязаныя вытокамі з дыялектамі фінскай мовы. Гэтыя чужамоўныя карані, як і ў беларускіх назвах *дурніцы* і *п'яніцы*, маюць семантыку 'ап'яняльны', 'адурваньвальны'. Такое тлумачэнне выглядае, як здаецца, больш абгрунтаваным і рэалістычным. Таму невыпадкова, што, менавіта інтэрпрэтацыя, прапанаваная В.А. Мяркулавай, прымаецца зараз і іншымі расійскімі даследчыкамі [20, 92].

Да ліку назваў, аб'ектывацыя якіх палягае на вылучальнай асаблівасці ўздзейнічаць на стан чалавека праз "адурманьванне" яго пэўнымі рэчывамі, належыць найменне *кру́цікі*. Гэта тыповы мясцовы рэгіяналізм, засведчаны ў гаворках цэнтральнай дыялектнай зоны (Валож., Стаўб. р-ны). Ён адзначаны на фоне больш вядомага тут абазначальнага сродку тыпу *дурні́цы*. Падобная словаформа — хутчэй за ўсё вынік мясцовай назватворчасці ў сферы намінацыі ягадных кустоў і іх пладоў. Назва *кру́цікі* мае, зразумела, другасную матывацыю, аб'ектывацыя якой палягае на адурманьвальных уласцівасцях багуну 'закручваць чалавеку галаву', інакш кажучы прыводзіць яго да галавакружэння пад уплывам эфірных рэчываў багуну. Якраз выраз *галава круціцца* (*кружыцца, закружылася*) шырока вядомы ў гаворках беларускай мовы, у тым ліку і як адпаведны фразеалагічны сродак (ФСБМ, т. 1). Яго структурнае змяненне да выгляду ў форме *кру́цікі* з'яўляецца ўпадабленнем найменням аналагічнага тыпу, якія са словаўтваральным суфіксам *-ік* пашыраны ў мясцовых гаворках беларускай мовы.

Падобную прыроду аб'ектывацыі мае, як падаецца, і адзінкавае найменне *калуны́*. Ад іншых назваў з вылучальнай асаблівасцю ўздзейнічаць на чалавека, адурманьваючы яго, слова адрозніваецца пачатковай базай ўтваральнай асновы, якая выступала адпаведна ў выглядзе *расколваецца галава* 'баліць'.

***Найменні тыпу лахачы***. Сярод анамасіялагічных забяспечвальных сродкаў ягад буякоў таямнічымі і цяжка вытлумачальнымі па паходжанні з'яўляюцца назвы тыпу *лахачы́*. Назвы з базавым кампанентам утваральнай асновы *лах-* (*лох-*) вядомы пераважна ў заходнепалескім абшары гаворак беларускай мовы. Яны фіксуюцца таксама ў гродзенска-баранавіцкіх гаворках, але выразная, адмежавальная ад іншай дыялектнай прасторы іх тэрыторыя пашырэння — гэта заходнепалескі моўны рэгіён. Са структурным абліччам каранёвага кампанента *лох-* найменні як намінацыйныя абазначальныя адзінкі буякоў адзначаюцца ў заходнеславянскіх мовах — польскай, чэшскай, славацкай, кашубскай (ЭСБМ, т. 3). Ва ўкраінскай мове ў форме *лохина* (паралельна з *буяхи*) лексема мае

нарматыўны статус (БУС). Паходжанне назвы тыпу *лахачы* як у гаворках беларускай, так і ўкраінскай мовы даследчыкі звязваюць з яе запазычаннем з польскай мовы. У апошняй яна выступае ў форме *włochynie*, *(w)łochynie*, *włochinie*. Пры спробе вытлумачыць зыходную семантыку базавага кораня *лох-* у найменнях тыпу *лахачы* лінгвісты апелююць найчасцей да меркавання Ф. Слаўскага, згодна думцы якога *włochyni*, *(w)łochaciny* маюць значэнне *агрэст* (ЭСБМ, т.3). Прычынай лексічнай аб'ектывацыі ягад такой лексічнай формай з'явілася, як лічыць Ф. Слаўскі, тое, што "ягады агрэсту, як і галінкі маладых буякоў, касматыя" (ЭСБМ, т.3, 262). Версія польскага этымолага цалкам была падтрымана таксама і даследчыкамі ўкраінскай мовы. Для ўкраіністаў такая адсылка падалася мэтазгоднай і апраўданай, паколькі ў гаворках украінскай мовы абазначэнне ягад буякоў найменнем у форме *лохина* падтрымліваецца абсалютна празрыстай па структуры назвай *волохані*. Што быццам бы падмацоўвае лексічную аб'ектывацыю гэтай расліны такой іх вылучальнай асаблівасцю, як "касматасць" (ЕСУМ, т.1). Праўда, інтэпрэтуючы семантычныя вытокі наймення *лохина*, аўтары ЕСУМ спасылаюцца таксама на даведнік А. Брукнера. Апошняе ўскосна дазваляе лічыць, што А. Брукнер тлумачыў этымалогію лексем з базавым коранем *лох-* (*лах-*) у складзе адпаведных назваў буякоў як утварэнняў па вылучальнай прыкмеце "касматы". Так, у этымалагічным слоўніку А. Брукнера ў артыкуле, прысвечанаму лексеме ***włos***, падаецца: "Nasze odmianki z *ch* prastare, w nazwach roślinnych: *włochynie*, a z tego: *łochynie*, *włochaciny i włochacinki* (16. wiek), 'żyłki', 'kosmaciny'; *włochaciny* i *włosiny*, 'agrest', r. 1472" (Brückner, 627). Такім чынам, аманімічнасць каранёвых марфем у назвах ягад буякоў і суадноснага па абазначальных сродках наймення ягад агрэсту дазволіла многім даследчыкам разглядаць гэтыя лексемы як найменні з тоеснай матывацыяй.

Але ці ўсё так тут проста і вытлумачальна? Калі перанос назвы ягад з буякоў на агрэст цалкам прымальны як факт у сферы назвазабеспячэння і не выклікае пярэчанняў па прычыне тыповасці гэтай з'явы ў сферы намінацыі[1], то пагадзіцца з поўным супадзеннем знешніх, матывацыйных асаблівасцей як апоры назваўтварэння для зыходнай утваральнай асновы *лах-* (*лох-*), характэрных для ягад кустовай расліны агрэсту і ягаднага кустарнічка буякоў, цяжкавата. Прынамсі, ні ў навуковых энцыклапедычных даведніках па расліннаму свету (гл. для прыкладу: ЭПБ, т.1), ні ў творах мастацкай літаратуры [21, 41] адметнасць буякоў пакрывацца валаскамі 'касмачамі' чамусьці не адзначаецца. Звесткі з дыялекталагічных крыніц беларускай мовы таксама не адлюстроўваюць падобнай асаблівасці ягад. Як правіла, інфармацыя пра адрознівальныя прыкметы пладоў буякоў незалежна ад сродкаў яе структурна-семантычнага ўвасаблення ў гаворках мала чым адрозніваецца паміж сабой: "*Лаханэ* ***большыя***, ***дурэяш*** *ад іх. Лаханэ* ***рвалі на балоці***" (СПЗБ, т.2, 633); "*П'яніцы* ***па балотах растуць***. *П'яніцы* ***сіненькія***, *бальшыя, ат іх* ***п'яны будзіш***"(СПЗБ, т.4, 215); "*Дурніца* ***расьце ў балоцістым лясу***. *Наеўся дурніц, аж* ***кепска стала***" (Бялькевіч, 160) і да т.п.

---

[1] Яскравай ілюстрацыяй гэтай з'явы служаць, напрыклад, анамасіялагічныя карты АЛА (гл.: АЛА, вып. 3, карты № 41, № 43, № 45, № 47, матывацыйныя карты і каментарыі да іх з розных выпускаў ЛАЕ, а таксама спецыяльныя даследаванні па намінацыі ў галіне расліннага свету: гл., напрыклад, артыкул: Е. Гавлова "Названия калужницы (Caltha palustris) в славянских языках" [22] і інш.

Пра знешнія асаблівасці агрэсту дыялектныя лексікаграфічныя даведнікі беларускай мовы па сутнасці ніякага матэрыялу не даюць. Што натуральна. Гэты тып кустовай расліны папросту не характэрны для традыцыйнай флоры Беларусі. Агрэст з'яўляецца тут інтрадукцыйнай раслінай, досыць позна шырока асвоенай мясцовымі садаводамі. Адпаведна назва ў беларускіх гаворках мае аднастайнае лексічнае увасабленне, для яе не характэрна істотнае відазмяненне структуры, за выключэннем фанетычных змен. Між тым пра такія знешнія прыкметы агрэсту, як касматасць ягад або наяўнасць калючак на кусце, звычайна ведаюць добра. Адна з дадзеных асаблівасцей ягад агрэсту, як вылучальная, уласцівая ім атрыбутыўная рыса, мабыць і стала падставай для замацавання яе ў абліччы *włochaciny* ці *włosiny*. Такім чынам, прынятае без уліку анамасіялагічных падыходаў меркаванне многіх этымолагаў аб семантычнай тоеснасці матывацыі ў назве ягад буякаў і агрэсту не з'яўляецца дастаткова пераканальным, бо ў рэчаіснасці знешнія асаблівасці, уласцівасці гэтых дзвюх раслін істотна адрозніваюцца паміж сабой. Інакш кажучы, супадзенне базавых каранёвых кампанентаў у назвах ягад буякоў і агрэсту ў заходнеславянскіх мовах, украінскай мове і частцы беларускіх гаворак сведчыць выключна пра іх аманімічнае фармальнае падабенства. Пры ўліку вылучальных прыкмет расліны як першаснай апоры для складвання базы ўтваральнай асновы, ці пры анамасіялагічным поглядзе, этымалогію наймення буякоў у абліччы *лахачы́*, *лахі́ны*, *лаханы́* можна лічыць пакуль што адвольнай і слаба пераканальнай.

Прапанаваная этымалагічнымі даведнікамі версія аб паходжанні слова тыпу *лахачы́* не надта прымальнай выглядае не толькі з-за непраўдападобнасці матывацыі — "ягады агрэсту, як і галінкі маладых буякоў, касматыя" (ЭСБМ, т.3, 262).

Мяркулава В.А., аналізуючы асаблівасці складвання батанічнай наменклатуры ў гаворках рускай мовы, пісала: "Ужо ў праславянскую эпоху гэтыя назвы (ягад — В.К.) уяўлялі сабой абсалютна сфарміраваную групу, семантычнымі і словаўтваральнымі сувязямі спалучальную з той жа лексікай у балтыйскіх мовах". Акрамя таго, для тэматычнай групы найменняў ягад "агульнасць семантычных мадэляў адсутнічае, па сутнасці *кожная назва індывідуальная*, але *адлюстроўвае пэўную семантычную мадэль, характэрную для дадзенага віда ў многіх мовах* (курсіў — В.К.)" [23, 228].

У сувязі са сказаным не вельмі зразумелым падаецца, па-першае, характар аб'ектывацыі. Прааналізаваныя беларускамоўныя матэрыялы назваў буякоў сведчаць: пашыраным вылучальным тыпам аб'ектывацыі базавага кораня назвы ягад з'яўляецца пераважна месца росту расліны або адурманьвальны пах багуну, радзей у якасці зыходнай матывацыйнай прыкметы выступае колер ягад ці іх форма. Аднак у выпадку з назвамі тыпу *лахачы́* гэта мадэль не спрацоўвае. Сапраўды, можна цалкам лічыць лексему тыпу *лахі́ны* запазычаннем у беларускіх гаворках, прычым абгрунтаваным. Аднак і пры гэтым слова не трапляе ў тыповыя мадэлі назваствараэння, у тую з іх, якая "адлюстроўвае пэўную семантычную *мадэль, характэрную для дадзенага віда* ў многіх мовах". Непераканальнасць наяўнай інфармацыі адносна вывядзення сэнсава-структурнага аблічча формы *лахачы́* (і яе марфалагічных варыянтаў) з назвы, тоеснай па семантыцы лексеме

'агрэст', вымагае працягу пошукаў матывацыйнай прыкметы як зыходнай апоры для базавай утваральнай асновы. Найперш з прыцягненнем звестак рознага характару з усіх славянскіх моў.

Улічваючы складанасці па пошуку вылучальных прыкмет, што сталі падставай лексічнай аб'ектывацыі ягад, хацелася б заўважыць наступнае. У гаворках беларускай мовы для абазначэння мікратапанімічных аб'ектаў, якія адлюстроўваюць (галоўным чынам ускосна) асаблівасці рэльефу, зафіксаваны лексемы *лох* з наступнай семантыкай: *лох* 'сенажаць (цяпер агароды)' (Бярэз. р-н; Мікратапанімія, 142); *лох* 'сенажаць: нізкая трава там, бруснічнік, ядловец' (вуснае паведамленне ад Шчарбун М.Я., ураджэнкі Бял.р.); *лох* 'поле' (Навагр.р-н; Мікратапанімія, 142). Відаць, як роднасныя па каранёвай базе можна разглядаць таксама назвы населеных пунктаў, якія адзначаны на тэрыторыі Беларусі: *Лохніца* (Лельч.р-н; ННП: Гом. вобл.), *Лохаўшчына* (Валож.; ННП: Мін. вобл.). Апошняе магчыма, калі трымацца высновы, што вялікая колькасць назваў н.п. атрымала сваё лексічнае ўвасабленне згодна з іх месцазнаходжаннем.

Відавочна, не ўсе прыведзеныя намінацыйныя адзінкі можна аднесці да ліку бясспрэчных ілюстрацый з наяўнасцю адпаведнага кораня. У прыкладах з чыстай асновай можна ўбачыць пазіцыйнае аглушэнне *г* у складзе лексемы *лог*. Аднак назвы дадзенага тыпу, за выключэннем лексікалізаванай фіксацыі з Навагрудскага раёна, падаюцца з тэрыторыі, якая не ведае пазіцыйнай мены зычных (ДАБМ, карты №№ 45, 46).

Яшчэ больш багата выглядае мікратапанімічны рад з базавым коранем *лах-*: *ла́хаўка* 'дарога праз балота' (Брэсц.), 'урочышча' (тур.); *ла́хаўскае* 'сенажаць' (Лун.); *лахачы́* 'урочышча' (Ганц.); *ла́ховское о́зеро* 'возера'; *лахчакі́* 'равы і канавы вакол палянак' (Ганц.) (Мікратапанімія, 138). Істотна з боку вывядзення значэння ў корані *лах-*(*лох-*) тое, што ўсе гэтыя прыклады, за выключэннем тураўскага *ла́хаўка* 'урочышча', занатаваны ў заходнепалескім моўным рэгіёне — тэрыторыі канцэнтрацыя лексемы тыпу *лахачы́* ў беларускіх гаворках.

Як бачым, нават гэтыя небагатыя дадатковыя матэрыялы толькі гаворак беларускай мовы сведчаць пра пэўную замацаванасць кораня *лах-*(*лох-*) за назвамі, якія ў рознай ступені адлюстроўваюць адметнасці геаграфічнага ландшафту.

Меркаванне аб вытоках лексічнай аб'ектывацыі назвы тыпу *лахі́ны* з апорай на матывацыйную прыкмету па месцы росту падмацоўваецца таксама наступным. У адным з апошніх па часе выдання этымалагічных даведнікаў польскай мовы зафіксавана лексема *lacha*, вядомая ў польскамоўных крыніцах з чатырнаццатага стагоддзя. З улікам, што інфармацыя адносна значэнняў гэтага слова, яго распаўсюджання на тэрыторыі заходнеславянскага моўнага арэала вельмі важная пры ўстанаўленні апоры для зыходнай каранёвай базы, прывядзём артыкул цалкам. "**Łacha** od XIV w. 'odnoga rzeki lub dawne jej koryto', piaszczysta mielizna rzeki, daw. też *lacha*, kasz. *łaxa* 'kałuża'. Zapożyczenie ze śrwniem. *lache* 'kałuża, teren bagnisty (dziś niem. *Lache* 'kałuża, bajoro', daw. i dial. 'jezero', dniem. 'błotnista łąka; pas ziemi częto zalewany przez wodę; woda stojąca w dawnym korycie rzecznym lub na terenie zalewanym przez rzekę')" (Boryś, 293). Такім чынам, згодна вынятцы большасць значэнняў слова *łaxa* адлюстроўвае менавіта адметнасці рэльефу.

Беларускае *лах*-(*лох*-) як з'ява рэшткавага характару сему месца захавала таксама ў некаторых выяўленых мікратапонімах. Аддалена ці непасрэдна па абагульненым значэнні беларускія мясцовыя мікратапонімы звязаны з больш вядомымі і тэрытарыяльна распаўсюджанымі польска- і кашубскамоўнымі намінацыямі. Адпаведна чаму можна сцвярджаць, што расліны, ягадныя кусты, якія раслі ў такіх адметных прыродных умовах, таксама атрымалі сваю назву па месцы росту.

Улічваючы намінацыйны арэал пашырэння словаформы тыпу *лахачы́* ў межах дыялектнай прасторы Славіі, можна меркаваць, што назва *лахачы́* (*лахі́ны*, *лаханы́*) з'яўляецца вельмі адметным праславянскім рэгіяналізмам. Пры гэтым мясцовыя беларускія назвы тыпу *лахачы́* — гэта перыферыя славянскага арэала пашырэння намінацыі, тоеснай семантычна найменню *буякі́*. Яе, як і абазначэнне *буякі́*, вызначае тыповая матывацыя выбару сродку іх назвастваральнага забеспячэння — па месцы росту і характэрнага для такой групы слоў суфікса. Беручы пад увагу, што словаформы з афіксам *-ач-* у складзе намінацыйнага арэала *лахачы́* тэрытарыяльна пануючыя, што яны мяжуюць з рэгіёнам ужывання назвы тыпу *буякі́* (як бы працягваючы яго), можна гаварыць аб іх утварэнні па адной словаўтваральнай мадэлі.

Робячы некаторыя высновы, можна заўважыць наступнае. Дадзенае найменне належыць, відаць, да тых найстаражытнейшых лексічных адзінак у славянскіх мовах, якія з-за нематываванасці з сучаснага п.гл. базы ўтваральнай асновы, зведалі фанетычную (наяўнасць – адсутнасць w (v)) і семантычную трансфармацыю (упадабненне значэнню слова *агрэст*). Але анамасіялагічная спроба ўстанаўлення матывацыйнай прыкметы як назвастваральнага грунту для базавага кораня ў складзе назваў *лахачы́* (*лахі́ны*, *лаханы́*) паказала наступнае. Лексема *лахачы́* (і яе структурныя варыянты) — гэта абазначальны сродак кустовай расліны, назва пладоў якой не адрозніваецца фармальна ад назвы самой расліны. Вытокі лексічнай аб'ектывацыі апошняй абумоўліваюцца асаблівасцямі росту кусціка ў пэўных ландшафтных умовах.

***Найменні тыпу бугаі.*** Да групы лексічных абазначальных сродкаў з зацемненай семантыкай у беларускай мове адносяць назву ягад буякоў, увасобленую ў лексічную форму *бугаі́*. Намінацыйны арэал дадзенай назвы лакалізуецца пераважна ў цэнтральнай дыялектнай зоне гаворак беларускай мовы, але дастаткова абмежавана. Гэта галоўным чынам блізкае ці аддаленае дыялектнае наваколле Мінска — Чэрвеншчына, Міншчына, Дзяржынскі і Карэліцкі р-ны, а таксама Ашмяншчына. За межамі зоны найменнне як адзінкавае адзначана на тэрыторыі ўсходнепалескіх гаворак (Стол. р-н). Інакш кажучы, тэрыторыя пашырэння назвы *бугаі́* выглядае дастаткова своеасаблівай. У напрамку на поўнач ад месца ўжывання наймення ў абліччы *бугаі́* размяшчаецца буйны намінацыйны арэал, лексічным сродкам аб'ектывацыі якога выступае абагульненая лексіка-семантычная форма *дурні́цы*. З поўдня да яго ўшчыльную падыходзіць арэал назвы тыпу *буякі́*, характэрны для слуцка-мазырскіх гаворак. Але гаварыць пра тэрытарыяльную супрацьпастаўленасць намінацыйнага арэала *бугаі́* іншым найменням ягад буякоў, матывацыя якіх мае ў беларускіх гаворках розную ступень празрыстасці і замацавалася ў розных тыпах назваў з адпаведнай

формай лексічнай аб'ектывацыі, нельга. Пашырэнне абазначальнай адзінкі з базавай асновай магчымага выгляду *буг-а-і* абмежаванае. Найменне фактычна ўтварае замкнёны кампактны арэал. Праўда, адзінкава яно засведчана і ва ўсходнепалескіх гаворках. Назва, зафіксаваная на Ашмяншчыне, прымыкае да асноўнага намінацыйнага арэала *бугаí*, аднак выразна ўказвае на балцкі кірунак. Пры гэтым у межах усёй цэнтральнай дыялектнай зоны найменні не адзначаны. Інакш кажучы, у тэрытарыяльных адносінах гэта спецыфічны лексіка-намінацыйны анклаў. Але загадкавасць яго на нацыянальнай дыялектнай прасторы не толькі тэрытарыяльная. Вельмі незразумелай з'яўляецца фанетычнае аблічча базавай каранёвай часткі ў складзе самой лексіка-семантычнай формы.

Спробы даследчыкаў устанавіць вытокі і вызначыць значэнне каранёвай марфемы ў складзе лексемы *бугаí* пакуль што не далі станоўчага выніку (ЭСБМ, т.1). Адмаўляючы семантычную сувязь наймення "з *бугай* 'бык' і з *буяк* 'бык'" (ЭСБМ, т.1, 397-398), этымолагі схільны лічыць яго другасным метафарычным утварэннем або бачаць у ім "пераклад" слова буякі" (ЭСБМ, т.1, 432).

Сапраўды, з-за незразумеласці семантыкі, увасобленай у абазначальным сродку *бугаí*, спосабы "расчытання" незнаёмага слова могуць быць самыя розныя. Адной са спроб па ўстанаўленні значэння лексемы з анамасіялагічнага боку з'яўляецца спроба вызначыць матывацыйную прыкмету, якая магла стаць прычынай аб'ектывацыі ў форме *бугаí*. Разглядаць назву *бугаí* як прамы перанос абазначэння *буякí* засцерагае, з аднаго боку, ступень фанетычнай трансфармацыі слова, з другога — яе намінацыя шляхам метафарызацыі лексемы бугай 'бык' падаецца вельмі адвольнай. Хоць, сапраўды, гаворкам цэнтральнай зоны, ды і іншым, добра вядома слова бугай 'бык' (СПЗБ, т.1, ТС, т.1 і інш.). І, аднак, блытаніна гэтых двух паняццяў як факт рэчаіснасці з сучаснага п.гл. уяўляецца цяжкай. Разам з тым, вядома ж, аманімічнасць не выключаецца.

Пры падобных абставінах застаецца паспрабаваць выявіць значэнне базавай утваральнай асновы, грунтуючыся на ўліку тых тыпаў семантычных мадэлей, што з'яўляюцца найбольш распаўсюджанымі і тыповымі ў сферы намінацыі пры аб'ектывацыі назваў прадстаўнікоў расліннага свету ўвогуле, у тым ліку і для назваў ягад. Спасылкі на спецыяльныя працы па анамасіялогіі (гл. вышэй), а таксама наш матэрыял паказваюць: найбольш частотнай вылучальнай прыкметай для назвы буякоў з'яўляецца або прысутнасць расліны багуну, або месца росту ягаднай расліны. Пошукі базавага кораня ў прапанаваным кірунку здаюцца мэтазгоднымі.

Згодна інфармацыі ЭССМ асобным славянскім мовам, а таксама літоўскай і латышскай вядома словы ***buga*** і ***bugъrъ /*bugorъ***. Беларуская сучасная назва ягад тыпу *бугаí* падобна да іх фармальна складам каранёвай марфемы. Гэта заслугоўвае ўвагі і вымагае аналізу па ўстанаўленні магчымай сувязі наймення *бугаí* з кожным з наяўных этымонаў.

Праславянская прырода лексемы ***buga*** падцвярджаецца тым, што ў славянскім рэгіёне *бýга* зафіксавана ў значэннях 'сырое, топкае месца' (балг.), 'затаплялыны у час вясенняй паводкі берагавы лес і кустоўе'; у балцкіх: *bauga* 'топкае месца ля ракі; крутая дарога', 'кепская глеба' (лтш.), *buoga* 'каменістая мясціна ў полі, зарослая кустоўем', *banga* 'хваля' (літ.) (ЭССМ, вып.3, 78).

Блізкасць семантыкі каранёвага кампанента, выяўленага ў пералічаных славянскіх мовах, а таксама балцкіх, дазвола этымолагам зрабіць выснову аб магчымым існаванні "балгара – руска – балтыйскай лексічнай ізаглосы" (ЭССМ, вып. 3, 78). Заўважым, што са структурна-семантычнага боку праславянска-прабалцкае **buga* ў розных мовах у большасці з зафіксаваных значэнняў абазначае адметнасці рэльефу: гэта пераважна багністае месца або няўдобіца. Улічваючы, з аднаго боку, больш шырокі спектр значэнняў, характэрных для балцкіх моў, з другога, — наша непасрэднае моўнае суседства з гаворкамі балцкіх моў ды і гісторыю складвання беларускага этнасу ўвогуле, можна, відаць, дапусціць меркаванне аб балцкіх вытоках і ў беларускага рэгіянальнага наймення *бугаí* — назве, матывацыйнай прыкметай якой стала месца росту буячніку. Аднак пры арыентацыі на семантыку 'месца росту', увасобленую коранем **буга-* у складзе наймення *бугаí*, не вельмі пераканальнай і вытлумачальнай са структурнага боку ўяўляецца сучасная беларускамоўная форма *буга-í*. Большасць назваў ягад у гаворках беларускай мовы са структурнага боку ў дыяхранічным (часам і сінхранічным) аспекце характарызуецца наяўнасцю суфіксаў, як, да прыкладу, ***чарніцы***, ***дурніцы***, ***брусніцы***, ***касцяніцы*** і да т.п. У форме *бугаí* пры зыходным кораню **буга-* тыповы "ягадны" афікс не вылучаецца. Адпаведна і фармальна, і ў адносінах структурна-семантычных асаблівасцей, найменне *бугаí* застаецца загадкавым па мясцовай прыналежнасці абазначальным лексічным сродкам, хоць надзвычай прываблівым зыходнай прыродай базы ўтваральнай асновы.

Да ліку спрадвечна славянскіх (праславянскіх) моўных набыткаў належыць таксама форма ****bugъгъ /*bugorъ***. Слова паводле складу мае выразна падзельную структуру, дзе суфіксы -**ъr-/* -**or-* далучаюцца да базы ўтваральнай асновы **bug-*. Корань **bug-* мае значэнне 'узгорак, пагорак', яго структурна-семантычны адпаведнік у латышскай мове выступае ў абліччы *baũgurs* (ЭССМ, вып. 3, 79). Інакш кажучы, па вытоках гэта не толькі праславянскае моўнае набыцце, а агульнае прабалта-праславянскае. Спадчынныя сувязі з зыходнай каранёвай базай **bug-* выразна прасочваюцца ў беларускай мове. У тоесным па фармальным абліччы і сэнсавым значэнні балцкаму *baũgurs* як мовазабяспечвальны абазначальны сродак лексема *бугор* ужываецца не толькі ў беларускіх гаворках (ЭСБМ, т.1), але і літаратурнай мове. У ёй яна выступае ў значэнні 'невялікае ўзвышша, узгорачак на паверхні; 'няроўнасць, выпукласць на чым-небудзь' (ТСБМ, т.1, 413). Улічваючы сказанае, ці нельга выказаць меркаванне, што ў форме *бугаí* тая ж зыходная ўтваральная аснова, што і ў этымона **bug-*. Бо пры такім падыходзе таксама вытлумачальным з'яўляецца суфікс -aj-, суадносны з першасным -*ъr-/-or-*. А сама абазначальная адзінка фанетыка-марфалагічнай формай і сваім зместам звязана з балцкімі мовамі (лтш.), і ў іх яе беларускія вытокі.

На карысць такой думкі і інтэрпрэтацыя семантыкі лексемы *бугай*, праўда гіпатэтычная, прапанаваная Ф. Слаўскім: "bugaj: ... może i ***bugór***, ***bugórišče***, ***bugrišče*** 'każde puste wzniesienie, kurhah'" (Sławsky, т.1, 48).

Такім чынам, у аснове аб'ектывацыі ягад буякоў словаформай *бугаí* была, мабыць, вылучальная асаблівасць расліны расці на бугарку ці на купіне. Тады

гэта зыходная матывацыйная апора замацавалася ў каранёвай базе *буг-*. Яе абагульняльнае лексіка-семантычнае значэнне якраз і адлюстроўвае назву ўласна расліны і яе ягад адпаведна месцу іх росту. Аднак дадзеная версія не адмятае і адваротнага: магчымасці выбару ў якасці базавай утваральнай асновы **buga*. У любым выпадку вылучальная асаблівасць расліны, якая ўвасобілася ў формы **buga* ці **bug-*, адпавядае абагульненай семе паводле месца росту.

Непасрэдна да арэала пашырэння наймення *бугаі́* прымыкае тэрыторыя лакалізацыі словаформы *бугань́і* (акцэнталагічна *буга́ны*, *бугуны́*).

Найменне адносіцца да ліку рэдкіх у сістэме абазначальных сродкаў буякаў, вядомых беларускай мове. Па прасторы пашырэння — гэта лакальна ўжывальная лексічная адзінка ў мясцовых гаворках. Як вылучальная па адметным базавым кампаненце назва зафіксавана на тэрыторыі гаворак цэнтральнай дыялектнай зоны. Словаформа *бугань́і* (*буга́ны*; фанет. *бугуны́*) паводле матэрыялаў ЛАБНГ адзначана ў Бярэзінскім раёне, ці ў накірунку на ўсход Беларусі. Яе наяўнасць у мясцовых гаворках Бярэзінскага раёна была падмацавана таксама лексікаграфічнымі матэрыяламі (СЦБ, т.1; Мат. мін.-мал.).

Гэта намінацыйная адзінка як адпаведнік абазначэнню ягад лексемамі *буякі́* (*дурні́цы*) уласным паходжаннем абавязана на першы погляд суседству свайго сталага спадарожніка — кустовай расліны багуну. Пах, які вылучаецца раслінай, з'яўляўся, як указвалася, адной з дыферэнцыяльных асаблівасцей, што стаў зыходнай апорай для аб'ектывацыі пладоў расліны праз словаформы тыпу *дурні́цы*, *п'яні́цы*, *ганабо́лі*, *круцялі́*. Адпаведна сэнсава-структурнае ўвасабленне спажыўных ягад найменнем *бугань́і* па базе ўтваральнай асновы — гэта, як падаецца, перанос назвы спадарожнай расліны багун на ягады суседняга куста Vaccinium uliginosum. Такая версія можа лічыцца аргументаванай, калі прыгадаць, што і назва самой расліны багун на тэрыторыі лакалізацыі наймення *бугань́і* (*буга́ны*) існуе ў выглядзе *бага́н* (СЦБ, т.1). Тым самым ёсць пэўныя падставы найменне *бугань́і*, асабліва мясцовы акцэнталагічны варыянт *буга́ны*, разглядаць як назву, зыходная апора для базы ўтваральнай асновы якой, як і ў іншых сродкаў лексічнага ўвасаблення пладоў гэтай расліны, не абумоўлена асаблівасцямі самога аб'екта намінацыі. Але пры падобнай інтэрпрэтацыі ўзнікаюць некаторыя заўвагі. Лексіка-семантычнае адлюстраванне іншых назваў, як устаноўлена вышэй, грунтавалася на атрыбутыўных якасцях расліны *багун* — яго чаднага паху. Форма *бугань́і* — гэта нібы непасрэдны перанос самой назвы спадарожнай расліны *багун* на плады суседняга ягаднага куста. Імя апошняга сваім намінацыйным паходжаннем фармальна і лексіка-семантычна звязана непасрэдна з 'балотам' і ўвасабляе перанос лексічнага абазначэння рэльефу на назву расліны [24, 158].

Калі прыняць версію, што словаформа *бугань́і* (*буга́ны*, *бугуны́*) як намінацыя, утвораная ў выніку пераносу назвы расліны багун на назву ягаднай расліны буяк (буячнік) і яе пладоў, то адрозненні ў гукавым складзе слова можна лічыць фанетычна абумоўленымі. Замена *а* > *у*, ці лабіялізацыя гука *а*, — фанетычная з'ява, вядомая беларускім гаворкам. Звычайна яна выклікаецца кансанантным суседствам (часцей прысутнасцю губных) ці наяўнасцю галоснага *у*. Гэта асаблівасць — характэрная рыса гаворак не толькі віцебска-магілёўскага тыпу

[25, 158-159], але і полацка-мінскага [26, 184-185] паўночна-ўсходняга дыялекту. Акцэнтнае ўвасабленне слова *буга́ны* з галосным *а* пад націскам можна было б разглядаць, як форму, што адлюстроўвае націскную спецыфіку ўтваральнай асновы *бага́н* (*буга́н*).

Такім чынам, вылучальны сэнсава адпаведнік назвам ягад *буякі́ — буганы́* (*буга́ны*) — падаецца на першы погляд як дастаткова празрыстае па вытлумачэнні найменне і як бы досыць старое па зыходнай утваральнай базе.

Але ў такой версіі не надта пераканальным уяўляецца непасрэдная сувязь назвы ягад буякоў з месцам росту буячніку на багне. Лексема *багна* і яе разнастайныя структурныя варыянты ў беларускіх гаворках вядома найперш са значэннем 'дрыгва', 'непраходнае балота', 'топкае балота' і да т.п. семантычна (ЛАБНГ, т.2., карта 354; СПЗБ, т.1 і інш.). У такім выпадку этымалагічная гіпотэза выглядае непрывабліва з боку жывога розуму: у дрыгвяністым, топкім балоце буячнік не расце.

Зрэшты, некаторыя сумненні застаюцца таксама і пры ўмове, калі браць у якасці зыходнага наступныя значэнні слова *багон* 'лясістае балоцістае месца'; 'тарфяное балота' [27, 154-159]. Падобнае тлумачэнне выбару апоры зыходнай базы ўтваральнай асновы і яе ўвасабленне ў лексічным абазначальным сродку выглядае больш праўдападобна: яе матывацыйная прыкмета — месца росту расліны. Аднак і тут не вельмі зразумелым становіцца статус лексемы. Дужа загадкава выглядае яна па тэрыторыі лакалізацыі — адзінкавае ўтварэнне на беларускамоўным абшары. І гэта пры тым, што найменне багна 'топкае, балоцістае месца', за выключэннем паўднёва-славянскіх моў, наогул добра вядомае ў балта-славянскім рэгіёне. Аднак назвы ягад буякоў, суадносныя па базе ўтваральнай асновы з праславянскім **bagno* або **bagъno*, праз абазначэнне іх адпаведнай формай не выяўлены (ЭСБМ, т.1).

Улічваючы сказанае, мяркуецца, што пошукі тлумачэння і раскрыцця значэння назвы буякоў у форме *буганы́* (*буга́ны*, *бугуны́*) варта ставіць у прамую сувязь з найменнем *бугаі́*. Гэта сувязь выразна выяўляецца праз структурнае аблічча слоў. Лексемы адрозніваюцца толькі санорнымі *j/н*. У тэрытарыяльных адносінах адзінкавая назва *буганы́* (*буга́ны*; *бугуны́*) уваходзіць у склад намінацыйнага арэала *бугаі́* ў гаворках цэнтральнай дыялектнай зоны. Таму можна меркаваць і аб іх семантычнай сувязі па базе ўтваральнай асновы і гаварыць, адпаведна, аб агульнасці іх вытокаў. Абсалютная незразумеласць, нематываванасць з пазіцый сучаснасці базы ўтваральнай асновы *буг-*, страта зыходнай апоры для яе — вылучальнай асаблівасці па месцы росту — сталі прычынай фанетычнай адаптацыі назвы *бугаі́* да лексемы *буганы́* (*буга́ны*). Умовы для гэтага былі цалкам прыдатныя. У мясцовых гаворках слова *бага́н* (*буга́н*) ужываецца як абазначальны сродак назвы расліны багун. Тут таксама добра ведаюць назву ягад *бугаі́* ў форме *дурні́цы*. Зыходная прырода базы ўтваральнай асновы слова *дурні́цы* досыць празрыстая і лёгка вытлумачальная — 'ягады, якія адурманьваюць, выклікаюць боль у галаве, слабасць, кружэнне'. Відаць, і мясцовае ўтварэнне *буганы́* (*буга́ны*) запазычыла семантыку назвы дурніцы, прыстасаваўшы яе да свайго адпаведніка расліны багун у форме *бага́н* (*буга́н*). Але гэта збліжэнне інавацыйнага тыпу. Этымалагічна лексіка-

семантычнае аблічча абазначальнай адзінкі ягад *буякі* рэгіянальным мясцовым адпаведнікам *буганы* (*буганы*) узыходзіць, мабыць, да агульнага прабалта-праславянскага ***bugъrъ* /**bugorъ*** або ***buga***. Ва ўсялякім выпадку роднасныя сувязі ў адносінах базы ўтваральнай асновы трэба шукаць у гэтым кірунку.

Калі так, то вылучальная матывацыйная прыкмета, што замацавалася лексічна ў базе ўтваральнай асновы слоў *бугаі, буганы* (*буганы*), з'яўляецца агульнай з найбольш вядомымі ў беларускіх гаворках назвамі тыпу *буякі, лахачы*. Па назватворчых асаблівасцях усе яны звязаны паміж сабой месцам росту. Адпаведна і па часе ўзнікнення найменні *бугаі, буганы* (*буганы*) — гэта старажытныя намінацыйныя адзінкі рэліктавага тыпу з "цёмным" на сёння каранёвым базавым кампанентам. У сувязі з чым і ўзнікла другаснасць у асэнсаванні семантыкі і прыраўнівання яе да *бугай* 'бык' і з *буяк* 'бык'.

***Вузкапашыраныя найменні буякоў рознай семантыкі***. З ліку вузкапашыраных найменняў адзінкавай фіксацыі цікавай па базе ўтваральнай асновы з'яўляецца словаформа *балабоны*, адзначаная ў гаворках цэнтральнай дыялектнай зоны, у паўночна-заходнім накірунку ад Мінска. Найменне *балабоны* — гэта мясцовы эквівалент агульнапашыранага на дадзенай тэрыторыі вылучальнага абазначэння *дурніцы*. Пра тыповасць лексемы ў сістэме мясцовых мовазабяспечвальных сродкаў сведчыць адпаведная група слоў з такой жа вытворнай асновай: *балабайка* (фанетыч. *балабейка, барабайка, балабашка*) '*званок*', '*балабон*' (СПЗБ, т.1; Верхнядзв., Глыб., Чэрв., Віл., Ганц. р-ны); *балабон* 'тое, што і балабайка' (СПЗБ, т.1). Падмацоўвае лексічны статус наймення склад і характар словаформаў, вытворных ад *балабон*: *балабаніць, балабоніць* 'звінець', *балабоннік* 'буячнік'.

Этымалагічна назва ўзыходзіць да т.зв. гукапераймальных каранёў *bob-/pop-bamb-/balp-* і яго варыянтаў (ЭССМ, вып. 1). Словы з падобнымі каранямі, вылучальнай прыкметай якіх стала шарападобная форма ягад, — тыповыя ў сістэме намінацый розных прадстаўнікоў расліннага свету (так, напрыклад, у бел. мове: *балбуткі, болбаткі* 'гарлачыкі' (кветка); *булбушка* 'лотаць', ***пумпурына*** 'лотаць' (з літ.: СПЗБ, т. 4,) і інш.; укр. *вив-* 'ягады ажыны' (АЛА вып.3, карта № 41) і інш.

Тэрытарыяльная "распыленасць", варыянтнасць ужывання словаформы на "фоне" пераважнага *дурніцы* дазваляе меркаваць пра магчымае досыць позняе метафарычнае ўтварэнне падобнага тыпу наймення і яго пэўную балцкую падтрымку.

***Назвы тыпу галубіцы***. Сярод вузкалакальных назваў *буякоў* (*дурніц*), вылучальных па адметнай базе словаўтваральнай асновы, выступаюць лексемы *галубіца, галубіка, галубікі, галубіцы* (фанет. *голубыцы*), *галубніцы, галубы*. Структурная своеасаблівасць назваў па базавай аб'ектывацыі звязана з прыметнікам *галубы* '*сіні*'. І ў гэтым сэнсе ўстанаўленне матывацыйнай прыкметы як зыходнай пры абазначэнні ягад навідавоку: у аснове намінацыі — колер плода (*галубы* '*сіні*'). Падобная вылучальная рыса як зыходная ў базавым забеспячэнні словаўтваральнай асновы — тыповая асаблівасць, якая выкарыстоўваецца пры намінацыі кустовых ягадных і іншых раслін [28, 212].

Большую цікавасць маюць пералічаныя словаформы назвы тыпу *галубíка* па размяшчэнні і па размежаванні ў пашырэнні. Найменне ў структурна-сэнсавай выяве *галубíка* і варыянтнае *галубíца* з'яўляецца лакальнай фіксацыяй на тэрыторыі ўсходняй зоны гаворак беларускай мовы. Як адзінкавае на фоне тыповых для вылучанай тэрыторыі назваў *дурнíцы* (усходнемагілёўскі рэгіён) і *п'янíцы* (паўночнавіцебскі) яно выяўлена адпаведна ў Мсціслаўскім, а таксама Шумілінскім і Гарадоцкім раёнах. У гэтым жа сэнсава-структурным увасабленні словаформа мае свой працяг у прылеглых тэрытарыяльна сучасных гаворках рускай мовы (ДАРМ 1997, вып. III, карта №86). Акрамя лакальнага распаўсюджання ў віцебска-магілёўскім рэгіёне, у такім жа абліччы адзінкава лексема засведчана на тэрыторыі заходнепалескіх гаворак беларускай мовы. Разам з тым, нягледзячы на адзінкавасць пашырэння ў беларускіх дыялектных гаворках, назву ў прынцыпе можна лічыць агульнавядомай у Беларусі. Вядомасць лексемы *голубика* забяспечваецца шырокім камунікатыўна-інфармацыйным функцыянаваннем рускай мовы ў рэспубліцы ў адпаведнасці з яе статусам дзяржаўнай. Фактычная адзінкавасць ужывання наймення *галубíка* (*галубíца*) у беларускіх гаворках дазваляе лічыць дадзеную лексічную адзінку познім запазычаннем. І гэта літаратурнамоўнае запазычанне. Паколькі ў суседніх смаленскіх і пскоўскіх гаворках, якія ўваходзяць адпаведна ў склад заходняй і паўднёва-заходняй дыялектных зон рускай мовы, тыповымі сродкамі лексічнага абазначэння ягад расліны Vaccinium uliginosum з'яўляюцца найменні *дурнíцы* (*дурнíца*), а таксама *п'янíцы* (*п'янíца*) (ДАРМ, вып. III, карта №86), то яе інавацыйны, асаблівы намінацыйны статус падтрымліваецца таксама і структурна-граматычнай формай, у першую чаргу для назваў на *-іка*. Лексема, як і шматлікія іншыя назвы пладоў спажыўных раслін і кустарнікаў у рускай мове, выступае ў форме адзіночнага ліку, якая ўвасабляе адначасова і яе зборнасць.

Іншыя намінацыйныя абазначэнні назваў *буякí* (*дурнíцы*) з вызначальным базавым кампанентам словаўтваральнай асновы прыметніка *галуб-*: *галубíкі*, *галубíцы* (фанет. *голубы́цы*) таксама лакальныя па тэрыторыі размяшчэння і адзінкавыя па фіксацыі. Найменне ў форме *галубíкі* выяўлена ў слуцкіх гаворках паўднёва-заходняга дыялекту. У засведчаным выглядзе яно выкарыстоўваецца ў рэгіёне функцыянавання тыповага і пашыранага ў слуцкім, як і ўсходнепалескім арэале наогул, вылучальнага абазначэння *буякí*. Чым, відаць, і можна вытлумачыць спецыфічнасць множналікавай формы *галубíкі*. Суіснаванне дзвюх ужывальных у гаворцы лексем *галубíкі* і *буякí* дазваляе меркаваць пра другасны характар граматычнай формы *галубíкі*. Гэта рэгіянальнае мясцовае новаўтварэнне, што ўзнікла на аснове літаратурнага рускамоўнага *голубика*.

Такой жа па размяшчэнні і намінацыйным статусе варта вызначаць словаформу *галубíцы* (фанет. *голубы́цы*). Гэта адзінкавае найменне, выяўленае на тэрыторыі беларускіх гаворак заходнепалескага тыпу. Яно адзначана ў намінацыйным арэале тыповых тут абазначальных сродкаў *лахачы́* (і іх фанетыка-марфалагічныя формы). У напрамку на паўднёвы ўсход арэал назвы тыпу *лахачы́* мяжуе з тэрыторыяй лакалізацыі наймення *буякí*. Плюратыўную форму на *-іцы* як абазначальную адзінку мясцовага рэгіянальнага ўтварэння можна вытлумачыць найперш уплывам наймення *дурнíцы*. Якраз яго ведаюць на

значнай частцы нацыянальна-дыялектнага намінацыйнага ландшафту. Акрамя таго, назва з'яўляецца таксама адным з нарматыўных варыянтаў наймення пладоў расліны Vaccinium uliginosum у беларускай літаратурнай мове. Вядомасць тут формы *голубика* — гэта бясспрэчнае выкарыстанне сродкаў рускамоўнай намінацыі, паколькі ў бліжэйшым іншамоўным атачэнні з захаду, у польскіх гаворках, падобныя назвы ягад *буякоў* (*дурніц*) не засведчаны. У гаворках украінскай мовы яны адзначаны на ўкраінска-рускім памежжы. Адпаведна можна думаць пра рэгіянальнасць і інавацыйнасць словаформы *галубі́цы* ў намінацыйным комплексе абазначэнняў пладоў расліны *буякі́* (*дурні́цы*). Толькі пры ўліку пералічаных фактараў можна неяк ўсвядоміць і вытлумачыць характар і прысутнасць назвы ў арэале распаўсюджання найменняў *лахачы́*, (*лахі́ны*).

Словаформа *галубніцы* зафіксавана як варыянтная ва ўжыванні разам з *галубі́цы* на прасторы заходнепалескіх гаворак у раёне возера Белае. Кантамінацыйны характар яе структуры *дурні́цы* + *галубі́цы* (*галубі́ка*?) падкрэслівае ў першую чаргу вядомасць, а магчыма, і існаванне на гэтай тэрыторыі даўней наймення з пачатковай базай утваральнай асновы *дурн-*. Не выключаецца, аднак, і інавацыйнасць, зыходзячы з характару мясцовага намінацыйнага ландшафту па абазначэнні спажыўных ягад расліны Vaccinium uliginosum.

Структурнае ўвасабленне формай назоўніка множнага ліку *галубы́* (фанет. *галубэ́*) у складзе лексічных абазначэнняў са словаўтваральнай асновай *галуб-* з'яўляецца цяжка вытлумачальным. Яго адносяць да другасных па вытоках утварэнняў у беларускай мове (ЭСБМ, т. 3, 33). Адзінкавасць фіксацыі назвы на фоне вядомай у гродзенска-баранавіцкіх гаворках намінацыі *буякі́* дазваляе сумнявацца ў яе існаванні тут як агульнапрынятага мясцовага абазначальнага сродку.

***Белякі*.** Назва *белякі́* як адзінкавае сэнсава-вылучальнае найменне зафіксавана на тэрыторыі заходняй дыялектнай зоны гаворак беларускай мовы. Яна выяўлена ў межах найбольш вядомай тут лексічнай абазначальнай адзінкі *дурні́цы*. У засведчаным лексіка-фанетычным абліччы ў іншых рэгіёнах нацыянальнага дыялектнага ландшафту словаформа больш не адзначаецца. Не фіксуецца яна ў такой сэнсава-структурнай выяве таксама ў рускай і ўкраінскай мовах (з ліку найбольш вядомых нам інфармацыйных крыніц). Акрамя таго, семантычна вылучальная ў адносінах усяго намінацыйнага корпусу ягад Vaccinium uliginosum назва *белякі́* як адпаведнае найменне іншых ягадных пладоў, што маюць шызаватае адценне колеру з белаватым налётам на іх (напрыклад, чарніцы, ажыны (РС)), у беларускіх гаворках не падаецца. Такім чынам, яе можна разглядаць як рэгіянальнае новаўтварэнне. Не выключана, што адзінкава зафіксаваная словаформа як адпаведная лексіка-абазначальная адзінка можа мець і іншую інтэрпрэтацыю.

На першы погляд выглядае цалкам натуральна і праўдападобна, што па матывацыйнай прыкмеце 'белы колер', дакладней, 'ягады з белаватым налётам' плады маглі атрымаць сваё лексічнае абазначэнне *белякі́*. Гэтае адценне шызага колеру на ягадах хутчэй за ўсё было прыроўнена да белага. Згодна з чым за ягадамі і замацавалася — *белякі́* 'ягады белага колеру'. Са структурнага боку

ўтварэнне нічым не адрозніваецца ад тыповай і пашыранай у гэтых гаворках словаформы *буякі́* (фанет. *буяке́*). Так, як і назва *буякі́*, лексема мае аналагічны афікс і ўвасабляе аднолькавыя граматычныя асаблівасці, належачы да адной і той жа ўтваральнай мадэлі. Таму і падаецца, што назва вызначаецца не толькі празрыстай семантыкай: яна як бы "свеціцца" сваімі сэнсава вылучальнымі асаблівасцямі ці назватворчай прыкметай. Вытлумачальнай пры ўліку аналогіі з лексіка-граматычнай формай *буякі́* з'яўляецца і яе структура. Аднак ці адпавядае наяўнасць наймення *белякі́* статусу сапраўды шырокаўжывальнай намінацыйнай адзінкі на адзначанай тэрыторыі — пытанне праблематычнае.

Акрамя вылучальнай асаблівасці па колеры, што стала зыходнай для базы ўтваральнай асновы ў назве *белякі́*, у навуковай літаратуры часам прапаноўваецца версія ўтварэння наймення, матывацыйнай прыкметай якой магло быць *месца росту* расліны. Гэта прыкмета, як вядома, лягла ў аснову намінацыі многіх відаў раслін, у тым ліку і раслін са спажыўнымі ягадамі. Матывацыйная база тут як бы навідавоку. Расліна *буякі́* (*дурні́цы*) — тыповы прадстаўнік лясной флоры, які расце і каля балот, і на балотах. У беларускіх гаворках адной з пашыраных назваў балота выступае найменне *бель* (ЭСБМ, т.1). Таму нібы ёсць некаторыя падставы паходжанне назвы *белякі́* як вылучальнай намінацыйнай адзінкі ў корпусе найменняў ягад *буякі́* (*дурні́цы*) звязваць з базай утваральнай асновы *бель* 'балота'. Аднак пры такім падыходзе застаецца не надта зразумелым, як характарызаваць найменне ў адносінах і да тэрыторыі лакалізацыі, і да яго паходжання з-за адсутнасці фіксацыі *белякі* 'буяк, буячнік'.

***Белагаловік***. Відавочнай з першага погляду здаецца вытворнасць па базах асноў ад словаформ *белы* + *галава* наймення *белагало́вік*. Як адпаведнік найбольш вядомых і пашыраных у віленска-гродзенскім рэгіёне назваў *дурні́цы*, *буякі́*, гэтая лексема зафіксавана тут у якасці адзінкавага ўтварэння. Са структурнага боку яе варта разглядаць як вынік зліцця базавых каранёвых кампанентаў у адну форму. Пры гэтым, вытворнае ад назоўніка *галава* найменне *галав-ік-*, ускладнена марфемна суфіксам *-ік-*. Гэты суфікс у беларускай мове характарызуецца надзвычай высокай прадуктыўнасцю, але ўжыванне слоў з мадыфікацыйным афіксам *-ік-* (*- ык-*) у іх складзе з'яўляецца стылёва дыферэнцыяваным, а самі вытворныя лексемы маюць адпаведна розныя экспрэсіўныя ці ацэначныя значэнні [29, 265–266]. Звычайна ацэначныя назвы з суфіксам *-ік-* (*-ык-*) як адпаведныя вылучальныя адзінкі для намінацыі асобы ўзыходзяць да словазлучэння *прыметнік + найменне* асобы: *кірпацік*, *лысік*, *нячысцік*, *курносік* і інш. Лексемы, утвораныя па падобнай словаўтваральнай мадэлі, — досыць прадуктыўны тып абазначальных лексічных адзінак таксама ў рускай, украінскай і інш. славянскіх мовах. Утварэнне наменклатурных назваў прадстаўнікоў расліннага свету паводле засведчанай мадэлі не з'яўляецца настолькі прадуктыўным [30, 178-183]. Разам з тым выпадкі тоесных па суфіксу ўтварэнняў зафіксаваны і ў беларускай мове: *белакапы́тнік* 'капытнік', *белагало́вік* 'крываўнік', *чорнагало́вік* 'гарлянка', *краснагало́вік* 'падасінавік' і інш. (адпаведна: ЛАБНГ, т.1, карты №№277, 241, 237, 282) Згодна з чым можна меркаваць: сэнсава-вылучальная лексічная адзінка *белагало́вік* як назва ягад буякоў, з'яўляецца, натуральна, метафарычным утварэннем. Аб'ектывацыя ягад

гэтай расліны была абумоўлена яе ўласнымі атрыбутыўнымі асаблівасцямі: ягады шарападобнай ці круглай формы, якая атаясамліваецца з формай галавы і пакрыта белаватым налётам.

Толькі пры ўліку такіх матывацыйных адметнасцей магчыма інтэрпрэтацыя граматычнай формы назоўніка *белагало́вік* — яго мужчынскі род. Бо, як сведчаць матэрыялы АЛА (АЛА, вып.3, карты №№ 42 - 48) і больш дэталізаваныя і поўныя па звестках дыялектныя нацыянальныя лексічныя атласы ўсходнеславянскіх моў (ДАРМ, вып. III, карта №86; ЛАБНГ 1993, т.1, карты №222 - 226), дадзеныя іншых крыніц [30], граматычны род у большасці назваў розных спажыўных ягад не толькі на тэрыторыі ўсходнеславянскіх моў, але і ва ўсіх славянскіх — жаночы. Ён абумоўлены родам назоўніка як апорнага базавага кампанента ў складзе ўтваральнага атрыбутыўнага словазлучэння "*прыметнік + ягада*".

***Сінія галовы***. Двухслоўнае найменне *сі́нія гало́вы* — адзінкавая назва ягад *буякоў* (*дурніц*). Яно адзначана на тэрыторыі гаворак паўночна-заходняга занальнага тыпу (Валож. р-н). Якраз у межах гэтай зоны ў накірунку на паўднёвы захад засведчаны назвы буякоў тыпу *сіні́цы*, *сіні́ца*. У арэале пашырэння словаформы *сіні́цы* выступае таксама і сэнсава-вылучальнае абазначэнне ягад буякоў *сі́нія гало́вы*. У адрозненні ад дэад'ектыўных назваў *сіні́цы*, *сіні́ца*, якія ўвасабляюць семантычна сцягнутую словаформу "прыметнік *сіні + ягада*", найменне захавала структуру словазлучэння. У такім выглядзе яго можна было б рызыкнуць аднесці да ліку ізаляваных рэліктавых утварэнняў, калі браць пад увагу семантыку вызначэння ягад чарніц у гаворках літоўскай, а таксама латышскай моў прыметнікам *melinas* у значэнні 'сінія ягады' [31]. Апошняе азначае, што адпаведнікам беларускай назвы ў структурна-семантычнай выяве *чарні́цы* ў літоўскай мове з'яўляецца лексема *сіні́цы*. Намінацыйнае абазначэнне ягад чарніцы лексемай *сіні́цы* ў гаворках беларускай мовы тэрытарыяльна лакалізуецца ў межах распаўсюджання буякоў пад назвай *сіні́цы*. Такім чынам, не выключана перанясенне назвы ягад чарніцы на назву іншых, вельмі падобных да іх ягад, да таго ж батанічных "сваякоў" — з'яве тыповай і пашыранай у еўрапейскіх мовах [32, 113-120]. Таму, улічваючы лінгвагеаграфічны фактар, і можна меркаваць аб рэліктавым характары наймення *сі́нія гало́вы* наогул, а не толькі яго атрыбутыўнага кампанента *сі́нія* ў складзе гэтай сінтаксічнай канструкцыі. Гэта думка прымальная толькі пры ўмове, што атрыбутыўныя словазлучэнні папярэднічаюць іх сцягнутым, семантычна тоесным адпаведнікам. Мабыць, у нашых далёкіх продкаў была назва ягад буякаў па вылучальнай для іх матывацыйнай прыкмеце *сіні*. Магчыма, яна існавала першапачаткова як агульная на значнай частцы еўрапейскага кантынента, у тым ліку і ў балцка-беларускім арэале [33, 116]. Аднак затым на абшары беларускіх гаворак намінацыя была заменена іншымі, пашыранымі зараз лексічнымі забяспечвальнымі сродкамі. Думаць так дазваляе наяўнасць сцягнутых форм *сіні́цы*, *сіні́ца* для наймення ягад буякоў. У любым выпадку можна гаварыць пра дапушчальнасць вылучэння матывацыйнай прыкметы *сіні* пры намінацыі ягад *буяко́ў* (*дурні́ц*) як агульнай балта-славянскай рысе. Пры гэтым, праўда, не выключаецца і семантычнае, а таму дастаткова ранняе, калькіраванне з балцкіх моў.

З другога боку, адзінкавасць па фіксацыі наймення *сінія галовы*, спецыфічнае знаходжанне ў межах тэрыторыі пашырэння лексічнай назвы тыпу *сініца*, і, акрамя таго, ускладненасць дадатковым метафарычным кампанентам *галава* (перанос на аснове антрапаморфнага падабенства) стрымліваюць ад вызначэння гэтага атрыбутыўнага словазлучэння як рэліктавага і старажытнага. Мабыць, назва *сінія галовы* з'яўляецца хутчэй за ўсё інавацыйным перыферыйным утварэннем. Хоць суседства назвы *сінія галовы* з словаформамі тыпу *сініцы*, *сініца* пярэчыць безапеляцыйнаму вызначэнню яе як позняй намінацыйнай адзінкі.

***Біцухі.*** Да ліку загадкавых па ўнутранай форме і адзінкавых па ўжыванні належыць у беларускіх усходнепалескіх гаворках найменне *біцухі* (фанет. *бэйцухі*). У дадзенай лексіка-семантычнай форме як адпаведнік абазначальным сродкам ягад *буякоў* (*дурніц*) лексема вядома таксама ў гаворках украінскай мовы (на Житоміршчыне, у яе цэнтры; Ніканчук, карта № 51) У сувязі з чым можна дазволіць думку, што назва належыць да ліку рэгіянальных супольных беларуска-украінскіх (палескіх) утварэнняў. Аднак гэта словаформа як назваабазначальны сродак буякоў не ўтварае агульнага тэрытарыяльнага масіву, канцэнтрацыя назваў тыпу *біцухі* больш характэрна для житомірскіх гаворак. Па гэтай прычыне цяжка таксама вызначыць статус наймення адносна часу яго паходжання. Лексему можна разглядаць як інавацыю экпрэсіўнага тыпу, не выключана і адваротнае — рэгіянальны старажытны дыялектызм. Праўда, апошняя версія пакуль што выглядае непераканальна і адвольна з-за недастатковасці намінацыйнага матэрыялу. Магчыма, сваім утварэннем нейкім чынам, асацыятыўна, слова звязана з *бабухі* 'вантробы, трыбухі' або *бэбахі* 'ўнутранасці, вантробы, кішкі' (ЭСБМ, т.1, 258, 433). У такім выпадку і словаформа *біцухі* (фанет. *бэйцухі*) будзе характарызавацца як адаптацыйная да іх адзінка.

***Баравіца.*** Назва *баравіца* для абазначэння Vaccinium uliginosum з'яўляецца адзінкавай фіксацыяй. Яе нельга лічыць уласна дыялектным найменнем. У такім намінацыйным абліччы яна была прапанавана ў якасці аднаго (разам з *чарніца*) з перакладных эквівалентаў для рускамоўнага адпаведніка гэтай расліны ў "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" В. Ластоўскага. Прыняць найменне *баравіца* як дакладны адпаведнік сучаснага беларускага літаратурнамоўнага *буякі* (*дурніцы*) цяжкавата, найперш зыходзячы з тэрыторыі пашырэння прапанаванай назвы. У беларускіх гаворках у такой структурна-семантычнай выяве расліна не існуе. Не адзначана яна ў засведчанай форме ў лексікаграфічных рэгіянальных выданнях — краёвых слоўніках — 20-ых гадоў мінулага стагоддзя. Так, у слоўніку дыялектных матэрыялаў І.К. Бялькевіча, што былі сабраны на паўночна-ўсходнім рэгіёне Беларусі ў той час, падаецца *дурьніца* 'ягада, галубіца'. У даведніку дыялектных матэрыялаў з цэнтральнай Беларусі, Чэрвеньшчыны, М.В. Шатэрніка — *буякі*, у корпусе дыялектных звестак з паўночна-заходніх беларускамоўных абшараў, Віцебшчыны, М.І. Каспяровіча — *дурніцы*. Падобнай інфармацыяй аб вышэйпрыведзеных, як і іншых намінацыйных вызначэннях расліны Vaccinium uliginosum, В. Ластоўскі, зразумела, валодаў. Знаёмы яму былі і тагачасныя прынцыпы ўкладання слоўніка беларускай мовы, распрацаваныя С.М. Некрашэвічам і прынятыя моваведамі часу

ўсталявання нацыянальна-літаратурнай беларускай мовы, а таксама метадалагічныя падыходы, якімі кіравалася філалагічная эліта тарашкевічаўскай пары пры ўгрунтаванні нарматыўных слоўнікаў беларускай мовы. І разам з тым такі спецыфічны, як бы не зусім матываваны ўласна вылучальнымі асаблівасцямі расліны пераклад. Так, у гэтым зноў можна ўгледзець змешванне назваў розных раслін і перанос наймення адной на другую. Але, прыгадваючы падыходы В. Ластоўскага да слова як да "мастацкага вобраза", які трэба шукаць у нетрах свайго народа; памятаючы пра яго негатыўныя адносіны да запазычанняў увогуле: "...трэба высьцярагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але істнуюць ў здаровай нашай народнай стыхіі" [34, V] — у намінацыі *баравіца* да рускамоўнага *голубика* якраз і трэба бачыць пошукі "самаіснага" беларускага слова. Разам з тым, пры разуменні слова як вынікован адзінкі з гісторыі нацыянальна-культурнага развіцця народа, В. Ластоўскі грунтаваўся на пэўную намінацыйную традыцыю. Назвы ягад кустарнічка буякоў (гл. вышэй) у асобных паўднёваславянскіх мовах маюць двухчленную будову, адпаведную мадэлі *атрыбутыўнае імя + найменне* з базавым коранем *бор-* у яго складзе: *синя боровинка* (балг.), *močvirska borovnic* (славен.), у заходнеславянскім намінацыйным арэале пераважае аднаслоўнае імя з тым жа тыпам зыходнай утваральнай асновы, якая часта выступае пры намінацыі пладоў розных лясных ягад (ЧЭС).

І ўсё ж, прызнаць словы *баравіца, чарніца,* грунтуючыся на характары прасторавай дыферэнцыяцыі нацыянальнага дыялектнага ландшафту, удалымі беларускамоўнымі адпаведнікамі да лексемы *голубика* не выпадае. Такая форма наймення не мае падтрымкі ў мясцовых гаворках беларускай мовы. Падобныя намінацыйныя адзінкі былі б дарэчы пры абазначэнні менавіта чарніц. Так, матэрыялы АЛА (АЛА, вып.3, карта № 43) сведчаць, што найменне *баравіца* ў яе разнастайных фанетыка-словаўтваральных варыянтах як назва расліны-кустарнічка чарніц (Vaccinium murtillus) і яе ягад — тыповая намінатыўна-вызначальная адзінка ягад чарніц адпаведна іх месцу росту ў бары ў многіх славянскіх мовах і іх дыялектах. Відаць, у адносінах да гэтага кустарнічка і яго ягад прапанаваныя В.Ластоўскім назвы сапраўды будуць дарэчы. І з улікам тэрыторыі пашырэння, і з улікам матывацыйных прыкмет.

***

Такім чынам, аналіз засведчанага ў розных навуковых крыніцах корпусу абазначальных сродкаў спажыўных ягад *буякоў* (*дурніц*) выявіў, што ў мясцовых гаворках беларускай мовы асновай іх лексічнай аб'ектывацыі паслужылі па сутнасці два тыпы вылучальных, назваствaральных прыкмет. Гэта, з аднаго боку, месца росту расліны, з другога — уздзеянне расліны на стан чалавека (праз апасродкаваны ўплыў спадарожнай расліны багун). У адпаведнасці з чым назвы набылі ўвасабленне пераважна ў двух тыпах базавых каранёў, з характэрным для іх значэннем. Гэта комплекс лексем з вылучальным базавым кампанентам кораня *буй-*, і, відаць (паколькі меркаванне патрабуе дадатковых лінгвістычных фактаў), тоесны яму па характары аб'ектывацыі тып назваў з першасным *лах-* (*лох-*), а таксама назвы з зыходнай каранёвай часткай *буг-* у складзе наймення *бугаі́*

(*буганы́*). Адзначаныя тыпы найменняў займаюць паўднёвы абшар гаворак на тэрыторыі Беларусі, а таксама цэнтральную частку сярэднебеларускіх гаворак. Паводле пашырэння і ў адносінах да вытокаў вылучаныя тыпы назваў — старажытныя славянскія і балцкія (балта-славянскія) рэгіяналізмы. З боку словаўтваральнай структуры найменні характарызуюцца наяўнасцю розных мадыфікацыйных сродкаў.

Другі тып назваў, замацаваных на беларускамоўным абшары ў якасці абазначальных сродкаў ягад буякоў, — гэта лексічныя найменні, у аснове матывацыі якіх — уласцівасць адурманьваць, ап'яняць чалавека, выклікаючы гэтым голавакружэнне, галаўны боль. У гаворках беларускай мовы адзначаны ***тып*** увасабляюць словаформы з базавым каранёвым кампанентам *дур-* і найменні тыпу *п'яні́цы*. Абодва тыпы лексічных абазначальных сродкаў маюць статус агульнаславянскіх. Аднак, зважаючы на тэрытарыяльныя адносіны паміж найменнямі *п'яні́цы* да назваў тыпу *дурні́цы*, абазначальную адзінку *п'яні́цы* мэтазгодна разглядаць як супольную старажытную балта-славянскую форму. З боку мадыфікацыі ўтваральнай асновы суфіксальнымі сродкамі на этнагенетычнай прасторы гаворак беларускай мовы лексемы выглядаюць фактычна аднастайна: яны маюць у сваім складзе пераважна суфікс *-іц-*. Па ландшафтным размяшчэнні найменні дадзенага сэнсава-вылучальнага тыпу — тыповыя сродкі мовазабеспячэння гаворак на тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту, а таксама захадніх і ўсходніх рэгіёнаў у адносінах да сярэднебеларускіх гаворак. На фоне ўсяго корпусу назваў спажыўных ягад буякоў у беларускіх гаворках зараз гэты абазначальна-вылучальны тып з'яўляецца пануючым. У межах яго ўжываюцца таксама асобныя лексічныя намінацыі, тоесныя па семантыцы тэрытарыяльна дамінантным найменням, як: *ганабо́лі* (і іх мадыфікацыйныя варыянты), *круцялі́* (*кру́цікі*) і адзінкавае *калуны́*. Апошнія — розныя па характары моватворчасці і па вытоках утварэнні. Так, назвы тыпу *ганабо́лі* належаць да архаізмаў фінскага паходжання. Іншыя абазначальныя лексічныя сродкі — мясцовыя ўтварэнні з другаснай метафарычнай матывацыяй. Іх пашырэнне абмежавана гаворкамі цэнтральнай зоны і мае рэгіянальны характар.

На тэрыторыі намінацыйнага арэала з абагульненым тыпам значэння 'адурманьваць, ап'яняць, выклікаючы гэтым самым голавакружэнне, галаўны боль' зафіксаваны таксама ўтварэнні, лексічным увасабленнем якіх стаў колер ягад ці іх форма. Яны або абмежаваныя ў сваім распаўсюджанні, або адзначаюцца спарадычна. Гэта найменні тыпу *сіні́цы* — семантычная старажытнейшая калька з балцкіх моў, назвы тыпу *балабо́ны*, *белякі́* — мясцовыя інавацыйныя ўтварэнні рэгіянальнага характару.

## КАРТА № 1. ТЫПЫ НАЙМЕННЯЎ БУЯКОЎ ПА ІХ ВЫЛУЧАЛЬНАЙ ПРЫКМЕЦЕ



паўночнаслав. рэгіяналізмы ад праслав. **bujь*;**lach* або **lacha*, старараж. балта-слав. **bugъrъ* /**bugorъ* ці **buga* з вылучальнай прыкметай 'месца росту'

паўночнаслав. рэгіяналізмы ад праслав. **durь*; старараж. балта-слав. **pьjanъ(jь)*, **pijanъ(jь)*; архаіч. *gön–bol*, мясц. рэгіяналізмы *круцялі́* (*кру́цікі*) *калуны́* з вылучальнай прыкметай 'адурманьваць; ап'яняць'

назвы з вылучальнай прыкметай колеру (+адзінк.

▲ форма): 1. у значэнні 'сіні': старaж. балцкае *сініцы*; *галубіцы*, *сінія галовы*; 2. у значэнні 'белы': *белякі*, *белагаловік*

● назвы з вылучальнай прыкметай па форме: 1. у значэнні 'шарападобны' мясц. *балабоны*

✱ адзінкавыя назвы

***

Інтэрпрэтацыйная карта, прысвечаная абазначэнню ягад *буякоў* (*дурніц*) у гаворках беларускай мовы, адлюстроўвае асаблівасці ў дыферэнцыяцыі нацыянальнага ладшафту паводле семантычных тыпаў базавай утваральнай асновы і тэрытарыяльных адносінаў паміж імі. З аднаго боку, гэта найменні каранёвай групы *буякі* (*буяхі, буяны, буйкі і інш.*), назвы тыпу *лахачы* (*лахіны*, *лаханы*) і назва *бугаі* (*буганы*), лексічная аб'ектывацыя якіх угрунтавана паводле назваштваральнай прыкметы *месца росту*. Пералічаныя групы назваў па значэнні і прасторава супрацьпастаўлены найменням тыпу *дурніцы* (*п'яніцы*, *ганабобель*, *круцялі*) з вылучальнай асаблівасцю *адурманьваць*, *ап'яняць*, ***выклікаючы тым самым голавакружэнне***, *галаўны боль*, замацаванай у адпаведных фармальна-структурных лексічных сродках. Тэрыторыя распаўсюджвання ў гаворках беларускай мовы семантычна абагульненых назваў з тыпам зыходнай утваральнай асновы '*месца росту*' адзначаецца на карце прамой гарызантальнай штрыхоўкай. Лакалізацыя найменняў тыпу *дурніцы* і тоесных яму па значэнні ўсіх іншых словаформаў паказана адваротнай вертыкальнай лінейнай штрыхоўкай. Фігурныя знакі на фоне адлюстраваных па семантычнай базе тыпаў назваў указваюць на гаворкі, у якіх ужываюцца найменні тыпу *сініцы*, *белякі* (трохвугольнік) і *балабоны* (круг). Месца лакалізацыі іншых адзінкавых абазначэнняў, якія вылучаюцца базавай утваральнай асновай, падаюцца адсылачным знакам *.

## Літаратура

1. Строгова В.П. Значения и семантические связи слов *зень*, *буй*, *буйвище* в северо-западных говорах // Системность русского языка: Сб. науч. работ / Ленингр. пед. ин-т. Новгород, 1973. С. 237 - 257.
2. Вендина Т.И. К вопросу о типологическом сходстве и различии славянских языков на уровне словообразования // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1984. М., 1988. С. 158 – 175.
3. Крывіцкі А.А. Дыялекталогія беларускай мовы. Мн., 2003.
4. Закревская Я.В. О структуре народных названий ягод (по материалам говоров украинского языка в сравнении с другими славянскими) // Общеславянский

лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1985 - 1987. М., 1989. С. 37 – 46.
5. Толстой Н.И. О соотношении центрального и маргинального ареалов в современной Славии // Ареальные исследования в языкознании и этнографии. — Л., 1977. — С. 50; Седов В.В. Восточнославянская языковая общность // ВЯ. 1994. №4; Николаев С.Л. Следы особенностей восточнославянских племенных диалектов в современных великорусских говорах. 1. Кривичи // Балто-славянские исследования. 1986. — М., 1988; *ён жа*: Кривичи (окончание) // Балто-славянские исследования. 1987. М., 1989; *ён жа*: Раннее диалектное членение и внешние связи восточнославянских диалектов // ВЯ. 1994. №3 *і інш*.
6. Азарх Ю.С. Русское именное словообразование в лингвогеографическом аспекте. М., 2000. 178 с.
7. Азарх Ю.С. Там жа.
8. Меркулова В.А. Очерк по русской народной номенклатуре растений. М., 1967. С. 203 – 235; Закревская Я.В. О структуре народных названий ягод (по материалам говоров украинского языка в сравнении с другими славянскими). С. 43 - 44.
9. Закревская Я.В. Там жа.
10. Астрэйка В.Д. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў жывой прыроды (лінгвагеаграфіі і паходжанне): Аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук. Мн., 1997. 20 с.
11. Меркулова В.А. Там жа.
12. Сабадош І.В. Формування української ботанічної номенклатури. Ужгород, 1996. 192 с.
13. Астрэйка В.Д. Там жа.
14. Васильева А.О. Названия черники в европейских языках // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1985 - 1987. М., 1989. С. 113 - 120.
15. Крывіцкі А.А. Такая далікатная *назва суніцы* // Роднае слова. 2002. № 8. С. 39 - 42.
16. Меркулова В.А. Там жа.
17. Там жа.
18. Там жа.
19. Там жа.
20. Азарх Ю.С. Русское именное словообразование в лингвогеографическом аспекте. Там жа.
21. Ягоўдзік У. Выбранае: Кніга першая. Апавяданні і мініяцюры: Для мал. і сярэд. шк. узросту. Мн., 2005. — 352 с.
22. Васильева А.О., Кожина Н.А. Карты "Ежевика ягода" и "Ежевика-растение" в Лингвистическом атласе Европы // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1984. М., 1988. С. 117 - 133; Гавлова Е. Название калужницы (Caltha palustris) в славянских языках // Ad fontes VerRBOrum: Исследования по этимологии и исторической семантике. К 70-летию Жанны Жановны Варбот. М., 2006. С. 85 – 102; Нефедова Е.А. Диалектные лексические микросистемы в ареальном аспекте // Аванесовский сборник. М., 2003. С. 94 – 103 і інш.

23. Меркулова В.А. Там жа.
24. Толстой Н.И. Славянская географическая терминология. М, 1969. 262 с.
25.Крывіцкі А.А. Паўночна-ўсходняе дыялектнае вымаўленне // Крывіцкі А.А., Падлужны А.І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984. С. 150 - 192.
26. Крывіцкі А.А. Там жа.
27. Толстой Н.И. Там жа.
28. Меркулова В.А. Там жа.
29. Беларуская граматыка. Ч.1. Фаналогія. Арфаэпія. марфалогія. Словаўтварэнне. націск. Мн., 1985. 431 с.
30. Вендина Т.И. Дифференциация восточнославянских языков по данным словообразования // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1985 - 1987. М., 1989. С. 168 - 183.
31. Васильева А.О. Названия черники в европейских языках // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1985 - 1987. М., 1989. С. 113 - 120; Крывіцкі А.А. Такая далікатная *назва суніцы* // Роднае слова. 2002. № 8. С. 39 - 42; В.Д. Астрейко. О лингвогеографической дифференциации балтизмов белорусского языка // Исследования по славянской диалектологии. 6. Славянская диалектология и история языка. М., 2005. С. 138 – 156.
32. Васильева А.О. Там жа.
33. Там жа.
34. Ластоўскі В. Прадмова // Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. 832 с.

## СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

АЛА — Общеславянский лингвистический атлас. Сер. лексико-словообразовательная. Вып. 3. Растительный мир. Мн., 2000.
Босак — Босак Алёна, Босак Віктар. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Лексіка. — Мн., 2006.
БУС — Півторак Г.П., Скопненко О.І. Білорусько-український словник / За ред. Г.П. Півторака. Київ, 2006.
Бялькевіч — Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.
ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Карты. Мн., 1963.
ДАРМ — Диалектологический атлас русского языка (Центр европейской части России). Вып. 3 (часть 2). Синтаксис. Лексика. М., 2004.
ЕСУМ — Етимологичний словник української мови. Т. 1 — 4. Київ, 1982 — 2003.
ЛАБНГ — Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Т. 1. Раслінны і жывёльны свет. Мн., 1993; т. 2. Сельская гаспадарка. Мн., 1994; т. 3. Чалавек. Мн., 1995; т. 4. Побыт. Мн., 1997; т. 5. Семантыка. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1998.
Леванцэвіч — Леванцэвіч Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Лексіка. — Брэст, 2001.
Мікратапанімія — Мікратапанімія Беларусі: Матэрыялы / Рэд. М.В. Бірыла, Ю.Ф. Мацкевіч. Мн., 1974.

МРС — Македонско-русский словарь / Под общей ред. Р.Л. Усиковой и Е.В. Верижниковой. М., 2003.
Насовіч — Насовіч І.І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983.
Ніканчук — Никончук Микола. Лексичний атлас Правобережного Полісся. Київ – Житомир, 1994.
ННП: Гом. вобл. — Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомельская вобласць: нарматыўны даведнік. Мн., 2006.
ННП: Мін. вобл. — Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомельская вобласць: нарматыўны даведнік. Мн., 2003.
РБлС — Русско-болгарский словарь / Составил С.К. Чукалов. М., 1962 г.
РЛС — Русско-литовский словарь. 1 — 4. Вильнюс, 1982 — 1985.
РСС — Претнар Янко С. Русско-словенский словарь — Ljubljana: DZS, 1973.
РС — Раслінны свет. Тэматычны слоўнік. Мн., 2001.
СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Т. 1. Мн., 1979; т. 2. Мн., 1980; т. 3. Мн., 1982; т. 4. Мн., 1984; т. 5. Мн., 1986.
СРНГ — Словарь русских народных говоров. Вып. 1 — 40 / сост. Ф.П. Филин и др. Л., 1965 — 2006.
СЦБ — Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. Т. 1. Мн., 1990.
ТС — Тураўскі слоўнік: У 5 т. Т. 1. Мн., 1982; т. 2. Мн., 1982; т. 3. Мн., 1984; т. 4; Мн., 1985; т. 5. Мн., 1987.
ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 тамах. Т. 1. Мн., 1977; т. 2. Мн., 1978, т. 3. Мн., 1979; т. 4. Мн., 1980; т. 5, кн. 1. Мн., 1983; т. 5, кн. 2. Мн., 1984.
Фасмер — Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т. 1 – 4. М., 1964 — 1973.
ФСБМ — Лепешаў І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: У 2 т. Т. 1. Мн., 1993.
ЧЭС — Jiří Rejzek. Český etymologický slovník. Leda, 2001.
Шанскі — Шанский Н.М. Этимологический словарь русского языка. М., 1963 —
ЭПБ — Энцыклапедыя прыроды Беларусі: У 5 т. Т. 1. Мн., 1993.
ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1 — 11. Мн., 1978 — 2006.
ЭССМ — Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. Вып. 1 — 33 / Под ред. чл.-кор. АН СССР О.Н. Трубчёва. М., 1974 – 2007.
Brückner — Brückner Aleksander. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957.
Boryś — Boryś Wieslaw. Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 2005.
Sławsky — Sławsky Franciszek. Słownik etymologiczny języka polskiego. 1 — 5. Kraków, 1952 — 1982.

## НАЗВЫ РАЁНАЎ

Брэсц. – Брэсцкі
Бярэз. – Бярэзінскі

Валож. – Валожынскі
Верхнядзв. – Верхнядзвінскі
Віл. – Вілейскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Глыб. – Глыбоцкі
Докш. – Докшыцкі
Лельч. – Лельчыцкі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ, РЭГІЁНЫ

балг.— балгарскае
літ. — літоўскае
лтш. — латышскае
укр. — украінскае
тур. – тураўскае

*Ю.В. Маліцкі*

# ЗНАЧЭННЕ ДЭФЕКТНАСЦІ ДЗЕЯННЯ ЯК ПАДСТАВА ДЛЯ ЎЗНІКНЕННЯ ЭМАЦЫЯНАЛЬНА-АЦЭНАЧНАГА ЗМЕСТУ ДЗЕЯСЛОВАЎ

Чалавечы фактар з'яўляецца вызначальным для працэсу маўлення. Яго роля найбольш ярка праяўляецца, калі ў цэнтры працэсу назватворчасці аказваецца сам чалавек. Інакш кажучы, калі сам чалавек становіцца аб'ектам намінацыі з пункту погляду яго знешніх рыс і характарыстык паводзін. Апошняе выражаецца і ў дзеяслоўнай лексіцы. Узнікненне ацэначна адмоўнай афарбоўкі дзеяслоўнага значэння звязана, па нашым меркаванні, з тым, што паводзіны чалавека па тых ці іншых прычынах не адпавядаюць пэўнай "норме". Гэтая норма хоць і не з'яўляецца моўным фактарам, але адпаведнасць/неадпаведнасць ёй аб'ектывуецца ў намінатыўных адзінках. Анамасіялагічнай дамінантай (тое, дзеля чаго ствараецца дадзеная намінатыўная адзінка) выступае ўяўленне аб дадатковых намаганнях/складанасцях, якія прыкладае або пераадольвае чалавек для ажыццяўлення таго ці іншага дзеяння. На ўзроўні слоўнікавых дэфініцый такое ўяўленне перадаецца праз указанне на неадпаведнасць дзеяння норме ці сітуацыі. Гэтая неадпаведнасць і **правакуе эмацыянальную ацэнку дзеяння**. Пры гэтым ацэначны змест дзеяслова ў першую чаргу адбіваецца на яго фармальных характарыстыках.

На матэрыяле дыялектных слоўнікаў [1] розных рэгіёнаў Беларусі нам удалося вылучыць болей за 200 дзеяслоўных адзінак згаданага тыпу. Як паказалі назіранні, асноўным носьбітам і паказчыкам наяўнасці эмацыянальна-ацэначнага зместу дзеяслова з'яўляецца каранёвая марфема. Афіксы ў дзеясловах, у адрозненне ад назоўнікаў, амаль не выконваюць прагматыкаўтваральную функцыю: *аб-галган-іцца* 'няўдала пастрыгчыся', ***балабэдз-іць*** 'гаварыць без толку', ***калдыбас-іць*** 'ісці няўклюдна' і інш. На асаблівае становішча адносна іншых дыялектных лексем, дарэчы, указваюць і шматлікія сэнсава-стылістычныя паметы тыпу *асудж.*, *груб.*, *жарт.*, *зневаж.*, *іран.*, *неадабр.*, *эмац.*, *экспр.* і інш., што атрымалі згаданыя словы ў дыялектных лексікаграфічных крыніцах.

Назіранні за семантыкай эмацыянальных лексічных адзінак паказваюць, што яркая знешняя форма запатрабавана ў дыялектным маўленні для рэалізацыі перш за ўсё адмоўнага прагматычнага значэння дзеясловаў. На негатыўную ацэначнасць указваюць або слоўнікавыя дэфініцыі, якія самі даволі часта ўключаюць эмацыянальна афарбаваныя лексічныя адзінкі, або ілюстрацыйныя прыклады: ***надалдо́ніць*** 'набалбатаць' – *Я ні́ прідумыю, хто мог такую чуш ныдалдоніць, нехта харошня пыстыряўся*; ***убу́хаць*** 'многа, дарэмна патраціць' – *Убухыў еткія грошы, а мылыка німа.* Адмоўная прагматычнасць дзеясловаў змястоўна дасягаецца праз усведамленне дэфектнасці (бессэнсоўнасці, безвыніковасці дзеяння): ***бі́баць*** 'хадзіць з цяжкасцю', ***збры́нкацца*** 'скасіцца абы-як', ***пакалдыба́сіць*** 'пайсці няўклюдна', ***пакулды́чыць*** 'пагаварыць неразборліва',

***пацалпо́ніць*** ‘зрабіць абы-як’ і г.д. Такім чынам, пад дэфектнасцю дзеяння мы разумеем рознага кшталту цяжкасці, звязаныя з выкананнем дзеяння, разнастайныя адхіленні ад звычайнага, эфектыўнага, спосабу яго выканання або выкананне дзеяння неадпаведным чынам. Згаданыя зместавыя паказчыкі можна лічыць семантычным дыферэнцыйным крытэрыем эмацыянальна-ацэначных дзеясловаў у параўнанні з адпаведнымі прагматычна нейтральнымі лексемамі.

Аналіз дыялектных дзеясловаў са значэннем бессэнсоўнага, безвыніковага, неадпаведнага сітуацыі дзеяння паказаў, што ў стварэнні прагматычнай (эмацыянальна-ацэначнай) намінацыі ўдзельнічаюць каранёвыя марфемы трох відаў.

1. **Матывацыйна няясныя дзеяслоўныя карані**. Такія карані мы называем дзеяслоўнымі унірадыксоідамі (унікальнымі дзеяслоўнымі каранямі). Унікальнасць такіх каранёў заключаецца ў тым, што ў словах іншых часцін мовы па-за сувяззю з семантыкай дзеяслова яны не прадстаўлены. Так, напрыклад, ёсць дзеяслоў *вазголіцца* ‘поркацца, кешкацца’ і ёсць назоўнік *вазголя* ‘той, хто поркаецца’ – носьбіт дзеяння. Слоў іншых часцін мовы з такім жа коранем, але працэсуальна не арыентаваным значэннем у гаворках не сустракаецца. Зусім верагодна, што многія з іх з’яўляюцца гукаперайманнямі. Але пацвердзіць гэта з апорай на аўтарытэтныя крыніцы нам не ўдалося. Да гэтага тыпу намі былі аднесены наступныя каранёвыя марфемы: **балабэдз-** (***балабэ́дзіць*** ‘гаварыць абы-што’), **барантэс-** (***барантэ́сіць*** ‘гаварыць пустое’), **-бухт-** (***збухтава́ць*** ‘няроўна пакшляпаць’), **-былдак-** (***адбылда́кыць*** ‘паспешна, невыразна адказаць, выказацца’), **бэнд-** (***бэ́ндаць*** ‘гаварыць абы-што’), **вэнд-** (***вэ́ндацца*** ‘жыць так-сяк’), **вэрг-** (***вэ́ргаць*** ‘гаварыць абы-што’), **-галган-** (***абгалга́ніцца*** ‘няўдала падстрыгчыся’), **вэрз-** (***вэ́рзаць*** ‘дрэнна што-небудзь рабіць’), **-геп-** (***згепаны*** ‘зроблены абы-як’), **гламазд-/глымызд-** (***гламазда́ць/глымызда́ць*** ‘няўмела рабіць (плесці, шыць)’), **-гомт-** (***згомтаны*** ‘сабраны абы-як’), **-грамаздз-/грамазд-** (***зграмаздзі́ць/зграмазда́ць*** ‘пабудаваць нязграбна’), **дарабан-** (***дараба́ніць*** ‘няўмела іграць на музычным інструменце’), **джург-** (***джу́ргаць*** ‘пілаваць тупой пілой’), **-драбат-** (***падрабаце́ць*** ‘пайсці няўклюдна, з шорганнем’), **-дурд-** (***раздурдаць*** ‘разбудзіць не ў час’), **кавярз-** (***кавя́рзыць*** ‘няўмела плесці лапці’), **-калдыбас-** (***пакалдыба́сіць*** ‘пайсці няўклюдна’), **калдык-** (***калды́каць*** ‘ісці нязграбна, кульгаючы’), **карак-** (***кара́каць*** ‘пісаць няўмела’), **-керз-** (***накерзаць*** ‘зрабіць абы-як’), **-крэйз-** (***пакрэ́йзаць*** ‘пафарбаваць абы-як’), **-крэмс-** (***крэ́мсаць*** ‘рэзаць тупым нажом або абы-як’), **кулдыч-** (***кулды́чыць*** ‘гаварыць неразборліва’), **рахамуд-** (***рахаму́дзіць*** ‘рабіць неакуратна’), **скрыг-/рыг-** (***скры́гаць/ры́гаць*** ‘іграць няўмела і гучна’), **-сусол-** (***рассусо́ліваць*** ‘размаўляць абы пра што, гаварыць не па справе’), **тарабар-** (***тараба́рыцца*** ‘бязладна, шумна размаўляць’), **флюндр-** (***флю́ндраць*** ‘хадзіць без справы’), **чэп-** (***чэ́пацца*** ‘хадзіць няўклюдна, рабіць нескладна’), **швэнд-** (***швэ́ндаты*** ‘хадзіць без мэты’), **шлынд-** (***шлы́ндаць*** ‘хадзіць сюды-туды без патрэбы’), **шмул-** (***шмуля́ць*** ‘пілаваць з цяжкасцю, тупой пілою’) і інш.

2. **<u>Анаматапеічныя карані</u>** – каранёвыя марфемы, што ўзніклі ў выніку прамой гукаперадачы, гукапераймання ці гукасімвалізму. Такія карані матываваны тым, як працэс успрымаецца на слых. Адзначым, што анаматапеічны характар кораня канстатаваўся толькі ў тых выпадках, калі ён пацвярджаўся са спасылкай на аўтарытэтную крыніцу – "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" [2] і "Этымалагічны слоўнік рускай мовы" [3]. Да гэтага віду былі аднесены наступныя каранёвыя адзінкі: **-бах-** (***збáхываць*** 'складваць абы-як'), **-білябен-** (***пабілябéніцца*** 'пабалбатаць'), **бом-** (***бóмкаць*** 'невыразна гаварыць'), **брузд-** (***бруздáцца*** 'абліваццa ў час яды, неахайна есці'), **брынк-** (***брынкыць*** 'няўмела іграць на музычным інструменце'), **гугняв-** (***гугнявіць*** 'невыразна гаварыць'), **жвял-** (***жвяліць*** 'есці, бяззуба комкаючы'), **ляп-** (***ляпаць*** 'гаварыць абы-што'), **мумл-** (***мýмліць*** 'есці бяззубым ротам'), **-мямл-** (***памямліць*** 'пагаварыць нясмела, нязвязна'), **топ-** (***тóпаць*** 'танцаваць няўмела'), **трынк-/дрынк-** (***трынкаць*** 'іграць няўмела (на струнным інструменце)'), **турлыч-** (***турлычыць*** 'неразборліва гаварыць'), **чап-** (***чапкаць*** 'ісці, хадзіць павольна, з цяжкасцю'), -**шлёп-** (***сашлёпаць***'схадзіць з цяжкасцю') і інш.

3. **<u>Субстантыўныя карані</u>** – тыя, якія маюць прамыя ці паранімічна атракцыйныя адпаведнікі ў стылістычна нейтральных назоўніках. Пры гэтым паміж дзеясловам і адпаведным назоўнікам не ўзнікаюць матывавальныя адносіны (напрыклад, каранёвыя марфемы **-хвост-**, **-цвік-** у дыялектных дзеясловах тыпу *адхвастаць, адцвічыць*). Можна меркаваць, што дзеясловы ў такіх выпадках паходзяць ад гэтых назоўнікаў. Але на самой справе тут сітуацыя іншая. Так, нельга ўявіць матывацыйны кантэкст, які б звязваў значэнне дзеяслова *адхвастаць* 'адлупцаваць' і назоўніка *хвост* 'рухомы прыдатак на задняй частцы цела або значна звужаная задняя частка цела (у рыб, паўзуноў і пад.)'. Магчыма, сувязь паміж імі ёсць, але яна носіць няяўны, умоўны, канататыўна-метафарычны характар. Да гэтага віду мы аднеслі наступныя карані: **-бугор-** (***збугóрываць*** 'узводзіць, будаваць з цяжкасцю'), **каблуч-** (***каблýчыць*** 'танцаваць з выкрутасамі'), **-казл-** (***паказліцца*** 'патанцаваць няўмела'), **-калбас-** (***закалбáсіць*** 'пайсці хістаючыся'), **-мароз-** (***змарóзіць*** 'сказаць што-небудзь недарэчнае'), -**пасуд-** (***распасýджываць*** 'марнатравіць, траціць попусту'), **-хім-** (***схімічыць*** 'зрабіць нетак, як трэба'), **-ярмол-** (***заярмóліць*** 'завязаць абы-як') і інш.

Што да вылучанай катэгорыі дзеяслоўных унірадыксоідаў, дарэчы, самай вялікай па колькасці каранёвых адзінак, то яе існаванне ні ў якім выпадку нельга ўспрымаць як выключна маўленчую з'яву. Наадварот, наяўнасць каранёў такога тыпу ў эмацыянальна-ацэначных дзеясловах выклікана моўнымі фактарамі. Як адзначае Л.П. Якубінскі, "у катэгорыі выразных і вобразастваральных слоў ... пастаянна маюць тэндэнцыю ўзнікаць новыя словы, якія ці больш энергічна задавальваюць выразныя эмацыянальныя патрэбы маўлення, ці па-новаму адлюстроўваюць дадзенае прадстаўленне" [4, с. 67]. Больш таго, "у галіне прагматычнай лексікі назіраецца моцная тэндэнцыя да ўтварэння прынцыпова новых, нестандартных у дэрывацыйным плане лексічных форм. Адсюль больш актыўнае засвойванне іншамоўных каранёў, больш інтэнсіўныя, чым сярод

нейтральных адзінак, фармальныя зрухі” [5, с. 123]. Сапраўды, акрамя вялікага масіву лексіка-фармальных новаўтварэнняў, у склад вылучанай намі катэгорыі унірадыксоідаў уваходзіць таксама значная колькасць запазычаных каранёвых марфем. Як сведчаць матэрыялы “Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы”, “Словаря балтизмов в славянских языках” Ю.А. Лаучутэ, самую вялікую частку складаюць балтызмы (часцей, літуанізмы). Напрыклад, ***клып-аць*** ‘хадзіць з цяжкасцю, кульгаючы’ ад літ. klypinti ‘ісці няўпэўнена’, klypti ‘скрыўляцца; кавыляць, храмаць’; ***па-блынд-аць*** ‘пабадзяцца, пашвэндацца’ ад лтш. blindeties ‘бадзяцца’, blinda ‘валацуга, бадзяга’, літ. blandotis, blandytis ‘бадзяцца’ [6] і г.д. Значную па колькасці групу каранёвых запазычанняў складаюць паланізмы.

Такім чынам, з пункту погляду логікі значэнне дэфектнага дзеяння выступае ў якасці падставы для ацэнкі. Яно рэпрэзентуецца ў ролі анамасіялагічнай дамінанты ўзнікнення эмацыянальна-ацэначнага зместу дзеяслова. Згаданае значэнне фармальна рэалізуецца праз унікальныя дзеяслоўныя карані, а таксама каранёвыя марфемы анаматапеічнага і субстантыўнага харктару. Такая сувязь (наяўнасць канкрэтных моўных форм, што паказваюць на спецыфіку ўнутранага зместу слова), на нашу думку, з’яўляецца яскравым доказам лінгвістычнай прыроды эмацыянальна-ацэначнага значэння лексічных адзінак.

**Літаратура**


1. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / Склад. М.М. Аляхновіч і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.; Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / Пад рэд. М.А. Жыдовіч. – Мінск: БДУ, 1974. – 192 с.; Сцяшковіч Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск: Навука і тэхіка, 1983. – 671 с.; Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 1 – 3.

2. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск: Навука і тэхніка, 1978 – 2004. Т. 1 – 4.

3. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. / Пер. с нем. О.Н. Трубачёва; под. ред. и с предисл. Б.А. Ларина. – СПб: Тера – Азбука, 1996. Т. 1 – 4.

4. Якубинский Л.П. Язык и его функционирование: Избранные работы. – М.: Наука, 1986. – 205 с.

5. Шаблоўскі А.І. Сістэмны аналіз экспрэсіўнай лексікі // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. – 1998. – №3. – С. 118 – 123.

6. Лаучюте Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л.: Наука, 1982. – 150 с.

*С.У. Палашкевіч*

# ЗАРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ТАПАНІМІЧНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

Пачатак зацікаўленасці анамастычнымі, у тым ліку гістарычна-геаграфічнымі праблемамі ў Беларусі, Расіі і Украіне прыпадае на першую палову XIX ст. і звязаны з навуковай дзейнасцю А.Х. Вастокава, З.Я. Даленгі-Хадакоўскага, М.А. Максімовіча, М.І. Надзеждзіна, А.Л. Пагодзіна, М.П. Пагодзіна, а пазней Я.К. Грота, Ю.Ю. Трусмана, А.І. Сабалеўскага, І.Я. Франко і інш. [6, с.11]. Зараджэнне ж беларускай лексікаграфічнай традыцыі ў галіне тапанімікі звычайна звязваюць з выданнем у 1897 годзе слоўніка "Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи" Ю.Ю. Трусмана [2, с. 108; 5, с. 209]. Але, на наш погляд, у якасці першых спроб сістэматызаванай апрацоўкі беларускай онімнай лексікі варта разглядаць выданне прафесара Варшаўскага універсітэта М.П.Барсава "Географический словарь русской земли" [1] і працу архіварыуса Віленскага Цэнтральнага Архіва І.Я. Спрогіса "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія" [3].

Пры ўкладанні "Географического словаря русской земли" М.П.Барсаў паставіў перад сабою мэту стварыць гістарычна-геаграфічны слоўнік Расіі да 1350 года, "въ котором собраны были-бы изъ лѣтописей и актовъ географическія данныя, относящіяся къ извѣстному періоду нашей исторіи" [1, с. VI]. Крыніцамі матэрыялу паслужылі наступныя летапісы: "Лаврентьевская (Нестора) Лѣтопись", "Троицкая Лѣтопись", "Ипатьевская Лѣтопись", "Новогородская Лѣтопись" (чатыры спісы), "Псковская Лѣтопись" (два спісы), "Софійскій временникъ", "Воскресная Лѣтопись", "Никоновская Лѣтопись", а таксама гістарычныя і юрыдычныя акты тагачаснай Расіі, граматы і навукова-папулярныя брашуры.

У мегаструктуру слоўніка ўваходзяць аўтарская прадмова, корпус онімаў, які ўключае 1423 артыкулы (з іх каля 10% – апісанне беларускіх астыонімаў, камонімаў, патамонімаў).

Макраструктура выдання наступная. М.П.Барсаў выкарыстоўвае алфавітны прынцып размяшчэння слоўнікавых артыкулаў, які называе храналагічным.

Мікраструктура выдання вызначаецца складанасцю.

Намінатыўная зона ўключае лему і алонімы (варыянты тапоніма):

**Въсвятъ** (**Вьсвять, Въсвячъ, Воевято**) ...[1, с. 44];

**Судомирь** (**Судимирь, Судмѣрь, Судмирь, Судимь, Судомь**)... [1, с. 192].

Наяўнасць варыянтаў тлумачыцца тым, што М.П. Барсаў падае ў слоўніку храналагічна назвы, якія належаць да аднаго дэнатата, але фіксаваліся ў крыніцах матэрыялу ў розныя часы. Храналагічныя варыянты прыводзяцца непаслядоўна: некаторыя алонімы М.П. Барсаў выносіць у асобныя слоўнікавыя артыкулы з адсылкай да галоўнага артыкула, у якім тапонім апісваецца, а некаторыя ўключаюцца ў структуру асноўнага артыкула. Часам варыянты аднаго тапоніма аўтар поўнасцю апісвае ў розных артыкулах. Так, напрыклад, як розныя тапонімы

М.П. Барсаў падае алонімы Городець, Городно, Городенъ, Городна, Городня, якія, відавочна, адносяцца да аднаго дэнатата, што пацвярджаецца адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам.

У зону тлумачэння ўваходзяць дэтэрмінатывы і звесткі пра лакалізацыю тапонімаў.

**Еменецъ** сел. въ Полоцкой обл. …[1, с. 72];

**Копыль** гор. въ Волынской обл. …[1, с. 103].

Часта з-за недахопу фактычных дадзеных М.П. Барсаў у слоўнікавых артыкулах падае інфармацыю толькі часткова: адсутнічае ўказанне на лакалізацыю, не вызначаны клас аб'екта:

**Бобруескъ** гор. … [1, с. 8];

**Вороницѣ** (?) ... [1, с. 41].

Важнай часткай слоўнікавага артыкула з'яўляецца зона ілюстрацыі, у якую ўваходзяць цытата з крыніц матэрыялу і год яе фіксацыі. Калі тапонім сустракаецца ў некалькіх крыніцах, то цытаты з кожнай падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Асобныя цытаты прыводзіцца і да ўсіх храналагічных варыянтаў тапоніма:

**Пинегъ (Пинескъ)** гор. въ Волынской обл.

1097. Псл. I. 110. V. 150. – 1132. И даша братоничю своему Изяславу Мьстиславичу Туровъ, Дрогевъ, Пинескъ къ Менску. Псл. IX. 157. – 1150. Тое же осени да Гюргій Андрееви, сынови своему, Туровъ, Пинегъ и Пересопницю…[1, с. 162].

Да тапонімаў, якія сустракаюцца ў пераліках населеных пунктаў, а не ў тэкстах летапісаў, аўтар падае тлумачэнні, дзе яны былі знойдзены:

**Вороново** гор.

– Въ списке городовъ показанъ въ числѣ Кіевских городовъ, расположенныхъ на Сулѣ ... [1, с. 41].

Зона крыніц матэрыялу ўключае ўказанне на крыніцу: скарачэнне назвы крыніцы, яе нумар і старонку, адкуль была ўзята адпаведная ілюстрацыя:

**Мерецъ** гор. … Псл. VII. 241 [1, с. 123];

***Жидчичи*** сел. … грам. смол. Еписк. Д. къ А.И. I. 6 [1, с. 74].

У далейшым такую інфармацыю мы будзем пазначаць абрэвіятурай **КМ** – крыніца матэрыялу.

Апошні структурны складнік слоўнікавага артыкула – інфармацыя пра дэнатат або, па словах аўтара, "казанья на соотвѣтствующія мѣстности теперешней Россіи" [1, с. VII]:

**Каменецъ Литовскій** гор. въ Волынской обл. …

Каменецъ Литовскій м. Гроденской губ. на р. Льстнѣ (Лѣснѣ) [1, с. 87].

Часта гэтая інфармацыя карысная тым, што ў ёй М.П. Барсаў выпраўляе памылкі летапісаў, у якіх недакладна вызначаецца прыналежнасць гарадоў да пэўнай тэрыторыі. Многія беларускія астыонімы фіксаваліся ў летапісных спісах літоўскіх і кіеўскіх гарадоў.

Для гідронімаў у дадзенай зоне артыкула падаецца інфармацыя пра вытокі рэк і тэрыторыю, па якой яны працякаюць.

Нягледзячы на некаторыя лексікаграфічныя і факталагічныя недахопы, "Географический словарь русской земли" М.П. Барсава з'яўляецца адным з выданняў, дзе ўпершыню была навукова апісана значная частка беларускай онімнай лексікі, якая фіксавалася ў старажытных дакументах.

“Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія” І.Я. Спрогіса складзены на аснове матэрыялаў 40 актавых кніг Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губерній. Большасць прапанаваных І.Я. Спрогісам тапонімаў – літоўскія назвы, што ўваходзілі ў склад 48 воласцяў Ковенскай губерні. Разам з тым, у ім змешчана і значная колькасць беларускіх тапонімаў: “Кроме географическихъ названій, составляющихъ, въ строгомъ смыслѣ, принадлежность Жомойцкой земли, въ *Словарь* мой вошло много другихъ названій, лежащихъ за ея чертою, но не выходящихъ за предѣлы литовскаго поселенія вообще, какъ-то въ повѣтахъ Браславскомъ, Виленскомъ, Ошмянскомъ, Ковенскомъ и др…” [3, с. VI]

Мегаструктуру слоўніка складаюць прадмова, слоўнікавы корпус, які ўключае 9742 артыкулы, спіс памылак друку і “Прибавленіе” пад назваю “Географическія названія, не имѣющія отношенія къ раіону Литовскаго поселенія”, у якое ўваходзяць 237 тапонімаў, што ўжываліся па-за межамі Літвы, але, на думку аўтара, “при извѣстныхъ обстоятельствахъ могутъ оказать вообще пользу людямъ науки” [3, с. XVI]. Для беларускіх даследчыкаў “Прибавленіе” асабліва важнае, паколькі большасць зведзеных у ім назваў – менавіта беларускія тапонімы. Нявысветленымі застаюцца толькі прычыны, згодна з якімі аўтар змяшчае частку беларускіх тапонімаў ў слоўнікавы корпус, калі сам жа і зазначае, што ў адборы тапонімаў кіруецца тэрытарыяльнымі прыметамі.

Макраструктура выдання – тыповая для анамастычных слоўнікаў другой паловы XIX ст. Сам І.Я. Спрогіс называе выкарыстаны прынцып размяшчэння артыкулаў алфавітным: “по изготовленным описямъ составлялъ … въ алфавитной послѣдовательности” [3, с. IV]. Але з аўтарам нельга пагадзіцца. У большасці выпадкаў у адзін слоўнікавы артыкул зведзены некалькі розных найменняў, што парушаюць прадэклараваны алфавітны парадак:

**Деревная**, дворъ съ городомъ въ Менском пов., II, 334; III, 145; IV, 170, **Деревня**, дворецъ “зъ местечкомъ и зъ дворами”, 246 [3, с. 357].

**Опусина**, речка въ Видуклев. в., I, 127, 134, чр. им. Видукли, 137, 138, 140, чр. им. Путри, 187; XII, **Епусинъ**, речка подле нивы Антепусиновеюсь, въ им. Билевичахъ, Росен. В., 202; XVII, чр. Им. Конопини, 424; XXXVII, **Апусинъ** чр. им. Пекайни, 433 [3, с. 214].

Разам з тым, макраструктуру выдання нельга назваць і сістэматычнай (пабудаванай згодна з алфавітна-гнездавым прынцыпам), таму што тапонімы, змешчаныя ў адзін артыкул, часта не вытворныя ад адной тапаасновы, аднакаранёвыя, а толькі падобныя па форме і належаць да розных дэнататаў.

Мікраструктура слоўніка наступная. Намінатыўная зона складаецца з лемы. Аўтар паслядоўна падае алонімы, якія называе“варіаціи”:

**Алька** и **Алькупъ** [3, с. 4];

**Полѣсье** и **Подлѣсье**[3, с. 359].

Храналагічныя варыянты Спрогіс падае асобна:

**Новогородокъ** (по употреблению въ настоящее время – **Новогрудокъ**), городъ, **КМ** [3, с. 359].

Зона тлумачэння ўключае звесткі пра прыналежнасць аб’екта да пэўнага класа: “слѣдуетъ его опредѣленіе, взятое прямо изъ акта (по возможности въ полном его объемѣ, какъ оно значится в данномъ актѣ), т.е. что оно такое –

імѣніе, село, нива, река, урочище и проч." [3, с. XII]. Таксама ў зону тлумачэння ўваходзяць звесткі пра лакалізацыю аб'екта: "где лежитъ (въ какой волости, округѣ, поветѣ, воеводствѣ и пр.)" [3, с. XII], з якімі найбольш вядомымі для дадзенай мясцовасці геаграфічнымі аб'ектамі мяжуе, які мае памер.

**Алькія**, нива (на 1/4 бог. с. ж.) въ им. Драбукштахъ, Повонден. в… [3, с. 4];

**Миколаишки**, им. (11 ув. 17 мор. И 9 пр.) въ Видуклев. в., между речками Ольсою и Ольсойтемъ… [3, с. 106].

Спарадычна пры апісанні тапонімаў І.Я. Спрогіс выкарыстоўвае цытаты з актавых кніг:

**Воболя**, рѣчка въ Корлян. в., чр. нее "гостинецъ великій, новый, отъ посады Корлянское до места Крожского", IV, 202… [3, с. 57].

У зону крыніц матэрыялу аўтарам уключаны рымскія лічбы, што указваюць на актавыя кнігі, і арабскія, што ўказваюць на адпаведныя акты.

**Войненскій дворецъ**, въ им. Вишневѣ, Ошмян. повета, VI, 93 [3, с. 41].

Аманімічныя тапонімы І.Я. Спрогіс падае ў адным артыкуле пад агульнай лемай:

**Кибортишки**, село въ Вилен. в., надъ р. Равданою, въ им. Понѣемоне, II, 140; лѣсъ на границѣ именій Велены и Равданъ, 27, 91 [3, с. 133].

Як ужо адзначалася вышэй, "Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія" І.Я. Спрогіса становіцца не толькі важнай напрацоўкай для літоўскай лексікаграфіі, але і адной з крыніц, на аснове якіх Ю.Ю. Трусман стварае першы выключна беларускі тапанімічны слоўнік "Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи" [4]. У прадмове да слоўніка аўтар піша: "Мѣстныя названія въ Литвѣ заимствованы мною исключительно изъ труда Спрогиса…" [4., с. 1].

"Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи" ўтрымлівае назвы населеных пунктаў Віцебскай губерні, сабраныя з трох крыніц: "Писцовыхъ книг VI в.", "Списка населенныхъ мѣстъ Витебской губерніи" и "Карты Генеральнаго Штаба". Праца Ю.Ю. Трусмана ўключае выключна астыонімы, камонімы, лімнонімы і патамонімы. Мікратапонімы ў ёй адсутнічаюць: "За неімѣніем источниковъ, названія большинства ненаселенныхъ пунктовъ (которыя впрочемъ нерѣдко тожественны съ названіями населенныхъ мѣст), каковы: сѣножати, грунты, нивы, поля, земли, пустоши и тому подобныя урочища, отсутствуютъ въ немъ" [4, с. 1]. Мэтай сваёй працы Ю.Ю. Трусман паставіў вызначэнне этымалогіі беларускіх тапонімаў і як вынік – складанне "дагістарычнай" этнаграфічнай карты.

Мегаструктура слоўніка – аўтарскае "Предисловіе", "Сокращеніе названій уѣздовъ" і слоўнікавы корпус, які ўключае больш за 6500 слоўнікавых артыкулаў.

Макраструктура выдання – стандартная. Слоўнікавыя артыкулы размяшчаюцца ў алфавітным парадку. У адрозненне ад ранейшых лексікаграфічных прац па анамастыцы, алфавітны прынцып паслядоўна вытрымліваецца ва ўсім выданні.

Мікраструктура слоўніка ўключае намінатыўную і этымалагічную зоны, а таксама зону тлумачэння.

Намінатыўная зона складаецца з лемы і алонімаў:

**Васили (Васильво, Васильки)...** [4, с. 43];

**Дѣвники (Девятники)**... [4, с. 88].

У зону тлумачэння ўваходзяць дэтэрмінатыў і інфармацыя пра лакалізацыю аб'екта:

**Цеслево** д. Др... [4, с. 303].

Толькі ў асобных выпадках Ю.Ю. Трусман прыводзіць канкрэтныя даты ўжывання тапонімаў.

Зона этымалогіі ўключае мовы, з якіх, на думку аўтара, тапонім мог быць запазычаны, адпаведныя назвы ў мяркуемых мовах-донарах і іх пераклады. Пры падборы адпаведніка з іншай мовы аўтар арыентуецца выключна на фармальнае падабенства слоў:

**Лесина**, д. Втб. лит. lyse = леха – гряда = ф. lisu полоса, лоскутъ. Возможны и лат. leesa – селезенка и lehsa – зыбкое мѣсто = ф. эст. liha – мясо; ф. liiha – зыбкое состоянiе; вѣтрогонъ; leijas – трясина, зыбь [4, с. 171].

Часта ў слоўнікавых артыкулах Ю.Ю. Трусман прыводзіць не толькі падобныя па гучанні словы, але і проста іншамоўныя адпаведнікі:

**Беды**, д. лат. behda, лит. bieda, beda = бѣда, печаль, забота, страдание = ф. pinne (вм. pinte), эст. pinj – жомъ, гнеть, тѣснота, бѣда, ф. pinnehti, pinnistaa, pintää... [4, с. 7].

Так, многія беларускія тапонімы ў слоўніку маюць памылковую этымалогію. Гэта прызнае і сам аўтар працы: “Главный недостатокъ предлежащего труда – двойственность толкованiй многихъ названiй – обусловливается отчасти неизвѣстностью ихъ первичной формы, отчасти ихъ звуковымъ сходствомъ съ различными по происхожденiю словами ” [4, с. 1].

Істотным лексікаграфічным недахопам працы, на наш погляд, з'яўляецца і тое, што ў паасобных слоўнікавых артыкулах Ю.Ю. Трусман замест этымалагічнай інфармацыі дае адсылку да яшчэ аднаго свайго выдання – “Чудско-Литовскiе элементы въ Новгородскихъ пятинахъ. Ч. I.”:

**Семигоръ** оз. Полоц. XVI в. См. оз. Семгеръ (въ Чудск. элем. I.) [4, с. 255].

Такім чынам, першыя лексікаграфічныя выданні па тапаніміцы, у якія ўключаўся беларускі анамастычны матэрыял, вызначаліся, у пэўным сэнсе, бессістэмнасцю і суб'ектыўным падыходам аўтараў як да стварэння наменклатуры, так і да апісання онімнай лексікі. Тым не менш, важна адзначыць той факт, што ў гэтых выданнях была сабрана і ўведзена ў навуковы ўжытак значная колькасць беларускіх тапонімаў, якія да гэтага часу не былі сістэматызаваны і апрацаваны.

## Літаратура:

1. Барсовъ, Н.П. Географический словарь русской земли / Н.П.Барсовъ. – Вильна: Типографiя А.Сыркина, 1865.

2. Лемцюгова, В.П. Дасягненні і перспектывы / В.П.Лемтюгова // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы II Междунар. науч. конфер. “Славянская ономастика в ареальном, этимологическом и хронологическом

аспектах (г. Гомель, 11 – 12 ноября 2004 г.) / Гом. гос. ун-т им. Ф. Скорины. – Гомель, 2004. – С. 107 – 115.
3. Спрогисъ, І.Я. Географическій словарь Жомойтской земли XVI столѣтія / І.Я.Спрогисъ. – Вильна, 1888.

4. Трусманъ, Ю.Ю. Этимологія мѣстныхъ названій Витебской губерніи / Ю.Ю.Трусманъ. – Ревель, 1897.

5. Шакун, Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства: вучэб. дапам. / Л.М. Шакун. – Мінск: Універсітэцкае, 1995.
6. Kondratiuk, M. Bibliografia onomastyki wschodnioslowianskiej do roku 1965 wlacznie / M.Kondratiuk. – Bialystok: Wyd-wo Filii Uniwersytetu Warszawskiego, 1997.

*В.В. Урбан*

# СУФІКСАЛЬНАЕ ЎТВАРЭННЕ АЦЭНАЧНЫХ СУБСТАНТЫВАЎ-ХАРАКТАРЫСТЫК АСОБЫ Ў ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Дыялектная лексіка – гэта вялікі пласт нацыянальнай мовы і культуры беларусаў, які патрабуе дэталёвага даследавання і манаграфічнага адлюстравання ў лінгвістычнай навуцы. Зыходзячы з таго, што "ў апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай дыялектнай мове развіваюцца значныя дэструктыўныя працэсы, калі разбураюцца межы паміж групамі мясцовых гаворак, нівеліруюцца і страчваюцца іх асаблівасці, выпадаюць з ужытку і знікаюць з памяці людзей мясцовыя словы і выразы" [2, с.193], то надзвычай актуальным з'яўляецца зварот да асаблівасцей дэрывацыі дыялектнай лексікі (у тым ліку і ацэначных характарыстычных назваў асобы).

У беларускай дыялектнай мове ўтварэнне ацэначных адзінак-характарыстык чалавека адбываецца пры дапамозе вялікай колькасці дэрывацыйных сродкаў. Самым прадуктыўным і ўжывальным з'яўляецца суфіксальны спосаб дэрывацыі. У артыкуле разглядаецца толькі частка словаўтваральных тыпаў і падтыпаў, паводле якіх адбываецца дэрывацыя ацэначнай лексікі ў дыялектнай мове.

Зыходнай адзінкай, пакладзенай у аснову суфіксальнага ўтварэння ацэначнай лексікі, выступае словаўтваральны тып, у які ўключаюцца структурна і семантычна падобныя лексічныя адзінкі. Апісанне кожнага словаўтваральнага тыпу вядзецца па асобных суфіксах, варыянты суфіксаў разглядаюцца ў межах аднаго фарманта.

Такім чынам, дэрывацыя ацэначных субстантываў-характарыстык асобы адбываецца пры дапамозе наступных суфіксаў:

**-авень.** Утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб паводле ўласцівага ім дзеяння або працэсуальнай прыкметы, ужываюцца з адценнямі грубасці, неадабрэння. У якасці матывавальных выступаюць асновы дзеясловаў: гахаць (гахнуць) – *гахаве́нь* 'здаровая, мажная асоба', раўці – *рагаве́нь* 'крыкса' – чарг. ў//г. Тып рэгіянальны (віц., гом.). Націск на ўтваральным фарманце.

**-аг-а(-яг-а).** Вытворныя назоўнікі агульнага роду складаюць два тыпы, для якіх характэрна марфаналагічна абумоўленае чаргаванне парных цвёрдых зычных асновы з мяккімі, а таксама націск на суфіксе:

1. Аддзеяслоўныя субстантывы характарызуюць асоб паводле ўласцівага ім дзеяння і маюць ацэначныя адценні неадабрэння, асуджэння, знявагі: *блудзя́га*, *валача́га*, *дахадзя́га* 'каму да ўсяго ёсць справа' і 'худы і слабы чалавек', *завидзя́га*, *круця́га*, *сідзя́га*, *соромня́га*, спагады: бедаваць – *бедала́га* 'небарака' – чарг. в//л; работаць – *роботя́га* 'шчыры працаўнік', трудзіцца – *труця́га* 'тс' – чарг. дз//ц'. Тып рэгіянальны (брэсц., віц., гом., маг.).

2. Адпрыметнікавыя субстантывы абазначаюць асоб па іх унутраных якасцях, фізічным стане, знешніх прыкметах, у маўленні ўжываюцца з адценнямі спачування або неадабрэння: *бідняга*, *здаровяга*, *скупяга*, *спрытняга*, *урэдняга*, *хітряга*. Тып рэгіянальны (гом., маг.).

**-ай(-яй).** Матывавальнымі для ацэначных субстантываў выступаюць асновы дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў:

1. Асабовыя назоўнікі мужчынскага роду гэтага тыпу характарызуюць чалавека па схільнасці да адпаведнага дзеяння і суправаджаюцца экспрэсіяй асуджэння, неадабрэння і зняваги. Націск заўсёды на словаўтваральным фарманце; можа адбывацца чаргаванне с'//ш: мысліць – *мышляй* 'цямлівы, разумны', адсячэнне канцавой часткі інфінітыва: *валачáй* 'валацуга', *калдыбáй* 'кульгавы', *ляжáй*, *падкапáй* 'скрытная асоба', *сылапáй* 'балбатун', *талалáй* 'балбатун' ад талалахаць 'балбатаць', *цягáй* 'валацуга'; могуць узнікаць устаўныя зычныя *н* і *л*: валачыцца – *валанцáй*, цягацца – *цягляй*. Тып рэгіянальны (брэсц., гродз., маг.).

2. Дэрываты абазначаюць асоб па асаблівасцях характару і выразных прыкметах знешнасці і маюць адценні неадабрэння, абразлівасці: *белáй* 'светлавалосы і белатвары', *галáй*, *даўгáй*, калашматы (фіналь -ат- адсякаецца) – *калашмáй*, нягожы – *негаджáй* – чарг. ж//дж. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (брэсц., гом., гродз., маг.).

3. Субстантывы, матываваныя назоўнікамі, ужываюцца з адценнямі грубасці, абражальнасці і складаюць два падтыпы:

а) пейратывы з мадыфікацыйным значэннем 'асоба мужчынскага полу', якія характарызуюць чалавека па ўнутраных, маральных асаблівасцях і ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў мужчынскага і агульнага роду: *біндзюгáй* 'гультай', *дурманáй* 'дурань', *расцяпáй* 'расцяпа', *скупярдзяй* 'скупы', *цюхцяй* 'ляны'. Націск на суфіксе. Падтып рэгіянальны (віц., гом., гродз., маг., мін.);

б) назоўнікі мужчынскага роду, якія характарызуюць асоб паводле выразнай знешняй прыкметы. Утваральныя – назвы частак цела: *чубáй*, *лапáй*. Націск на суфіксе. Падтып рэгіянальны (маг., мін.).

**-aj-a(-ej-a, -эj-a).** Утвораныя пры дапамозе гэтага суфікса аддзеяслоўныя ацэначныя назоўнікі абазначаюць асоб па схільнасці да адпаведнага негатыўнага дзеяння або стану і маюць адценні неадабрэння, пагардлівасці: вярзці – *верзяя* і *вірзія* 'пустамеля; пляткарка', малоць – *меляя* 'пустамеля', туляцца – *туляя* 'гультай, туляка'. Націск на канчатку. Тып рэгіянальны (маг., мін.).

**-айк-а (-айк-о).** Дэрываты, утвораныя пры дапамозе суфікса *-айк-а*, называюць асоб паводле характэрнага для іх дзеяння, ужываюцца з адценнем зняваги, іроніі або гумару, не маюць памяншальна-ласкальнага або ласкальнага адценняў: *задзірáйко* 'хто задзірае галаву ўверх без патрэбы', *памагáйка* 'памочнік', *салапáйка* 'разява', 'нязграбны чалавек', торочыць – *торотáйка* 'балбатуха' – чарг. ч//т. Пры дэрывацыі магчыма ўсячэнне матывавальнай асновы: тарабаніць – *тарабáйка* 'балаболка'. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (брэсц., гом., гродз., мін.).

**-ак(-як).** Ацэначныя субстантывы з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, дзеясловаў і назоўнікаў:

1. Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб, для якіх характэрна прыкмета, названая ўтваральным словам, і суправаджаюцца ацэначнымі адценнямі асуджэння, грубасці, зневажальнасці, радзей спагадлівасці. Цвёрдыя (акрамя губных) зычныя перад суфіксам чаргуюцца з мяккімі, заднеязычныя – з шыпячымі. У якасці матывавальных выступаюць як невытворныя (слабы, белы, тупы, сівы і інш.), так і вытворныя (нядошлы, непрылюдны і інш.) асновы прыметнікаў. Паводле значэнняў вылучаюць чатыры падтыпы субстантываў:

а) назвы асоб паводле колеру вачэй, скуры, валасоў: *бiля́к*, *жаўтля́к* і *жаўця́к*, *руда́к*, *сiва́к*; паводле знешніх прыкмет, фізічнага стану: *брузля́к*, *здыхля́к*, *касма́к* 'касма́ты', *крапча́к*, *лыса́к*, *пухля́к*, *худзя́к* і інш. Націск на словаўтваральным фарманце, выключэнне – *падсле́пак* 'чалавек з фізічнымі недахопамі, няўклюдны'. Падтып агульнабеларускі;

б) характарыстыкі асоб паводле ўнутраных, маральных якасцей: *байча́к* 'задзіра', *вужля́к* 'рухавы', *лаўча́к*, *ляда́чак*, *недашля́к*, *пры́тырак* 'дурны', *спрытня́к*, *трусля́к*, *хiжа́к* 'злы, люты', *шустра́к* і інш. Націск на суфіксе або на перадапошнім складзе слова. Падтып агульнабеларускі;

в) назвы асоб па сацыяльным і маёмасным становішчы: *бася́к* 'нядбайны гаспадар', *галя́к*, *мiзарня́к* 'бядняк'. Націск на суфіксе. Падтып агульнабеларускі;

г) назвы асоб па выніку дзеяння, названага дзеепрыметнікамі з суфіксамі -л-, -ен-, -ан-, -н-; націск заўсёды на перадсуфіксальным складзе: *абабо́як* 'абабіты', *асмалёнак* 'чарнявы', *асмо́лак* 'брудны, запэцканы', *астрыжо́нак*, *забры́ндак*, *нiдаро́бак* 'неразумны чалавек', *раздзу́рак* 'свавольнік'. Націск на аснове. Падтып рэгіянальны (віц., гродз., маг., мін.).

2. Пры дэрывацыі аддзеяслоўных назоўнікаў у якасці матывавальных выступаюць поўныя (піць – *пiя́к* 'п'яніца') або ўсечаныя асновы дзеясловаў на галосны (агрызацца, вылупіцца, сядзець і інш.). У працэсе словаўтварэння адбываецца марфаналагічна абумоўленае чаргаванне мяккіх зычных асновы з цвёрдымі. Пеяратывы характарызуюць асоб па схільнасці да пэўнага дзеяння і маюць ацэначныя адценні асуджэння, іроніі, зневажальнасці; націск на суфіксе, радзей на корані: *агры́зак* 'хто агрызаецца', *вы́лупак* 'зіркаты', *craся́дак* 'векавуха', *зiва́к* 'разява', *махла́к* 'ашуканец', *прайда́к* 'прайдоха', *райда́к* 'балбатун', *шлапа́к* 'валацуга' і інш. Тып агульнабеларускі.

3. Адназоўнікавыя субстантывы складаюць два падтыпы:

а) назоўнікі–маскулінатывы, утвораныя ад субстантываў жаночага, агульнага і ніякага роду. У маўленні набываюць адценні спачування або грубасці. Націск на корані або на суфіксе: біржа – *бiржа́к* 'высокі, сухі', ляля – *ляля́к* 'бесклапотны, збалаваны', пуздыр – *пуздэ́рак* 'таўстун', хірлё – *хiрля́к* і *харля́к* 'слабы, нядужы', язус – *язу́сак* 'франт'. Падтып рэгіянальны (гом., гродз., маг., мін.);

б) субстантывы-характарыстыкі асоб паводле паняццяў, абазначаных утваральным словам, ужываюцца з адценнямі неадабрэння, пагардлівасці: дыбы (ногі) – *дыба́к*, корч – *карча́к*, лоб – *лабя́к* 'абібок, няўклюда', лапа – *лапша́к* 'чалавек з вялікімі нагамі', *ш* – нарашчэнне, сіла – *сiла́к*. Націск на суфіксе, выключэнне – *кама́рак* 'нізкарослы'. Падтып агульнабеларускі.

**-ак-а(-як-а).** Ацэначныя субстантывы з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў:

1. Асабовыя назоўнікі агульнага роду, матываваныя дзеясловамі, характарызуюць чалавека паводле непрафесійнага дзеяння і маюць экспрэсію неадабрэння, зневажальнасці, асуджэння, іроніі. Апошні галосны ўтваральнай асновы адсякаецца; націск на суфіксе: *апіва́ка, бурля́ка* 'пераборлівы', *вабража́ка, выхваля́ка, вярця́ка, гуля́ка, задава́ка, заспа́ка, піса́ка, туля́ка* і інш. Тып агульнабеларускі.

2. Адпрыметнікавыя назоўнікі характарызуюць асоб паводле знешніх прыкмет і фізічна-пачуццёвых асаблівасцей, ужываюцца з экспрэсіяй асуджэння, іроніі або спагады. Націск на словаўтваральным фарманце; цвёрдыя зычныя асновы чаргуюцца з мяккімі. Базавыя – вытворныя і невытворныя асновы якасных прыметнікаў: ацілы – *аціля́ка* 'чалавек, якога цяжка разварушыць', *здаравя́ка* 'моцны чалавек, волат', разумны (-н- адсякаецца) – *разумя́ка, смяля́ка, спакайня́ка, спрытня́ка.* Тып рэгіянальны (брэсц., віц., гом., маг.).

3. Адназоўнікавыя ўтварэнні, матываваныя пеяратывамі агульнага роду з фармантамі *-ендж-а, -яндз-я, -ярдз-я, -ірдз-я*, ужываюцца з экспрэсіяй неадабрэння: скупенджа – *скупенджа́ка*, скупяндзя – *скупяндзя́ка*, скупірдзя – *скупірдзя́ка*, скупярдзя – *скупярдзя́ка.* Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (віц., гом., маг.).

**-ал/-ел.** Утвараюцца маскулінатывы з націскам на аснове, абазначаюць асоб па выразнай знешняй прыкмеце і маюць адценні непахвальнасці, іроніі: цыбаты – *цы́мбал* і *цы́мбел* 'вялікі даўганогі чалавек', *м* – нарашчэнне. Тып рэгіянальны (брэсц.).

**-ал-а(-ял-а,-ал-о,-ял-о)/-айл-а(-эйл-а).** Пеяратывы складаюць два тыпы:

1. Адпрыметнікавыя і аддзеепрыметнікавыя субстантывы агульнага роду характарызуюць асоб па выразнай знешняй прыкмеце. Ужыванне дэрыватаў суправаджаецца экспрэсіяй грубасці, асуджэння. Фіналі ўтваральных асноў -ат-, -н-, -ан- адсякаюцца, пры дэрывацыі могуць узнікаць устаўныя зычныя *б, н, м*; націск на фарманце або на перадсуфіксальным складзе: доўгі – *даўгя́ла, даўга́йла*, дурны – *ду́рбало*, нязграбны – *нізграбэ́йла*, патрапаны – *патро́пала*, растрапаны – *растрапа́йла* і *растрапэйла*, цыбаты – *цы́бала, цы́мбала, цы́нбало.* Тып рэгіянальны (брэсц., віц., гродз.).

2. Адназоўнікавыя субстантывы складаюць два падтыпы:

а) базавымі для назоўнікаў мужчынскага роду выступаюць вытворныя асабовыя пеяратывы. Дэрываты абазначаюць асоб паводле рысаў характару, асаблівасцей паводзінаў, заняткаў, маюць экспрэсію асуджэння, неадабрэння; націск на суфіксе: біндзюга – *біндзюга́йла* 'гультай', вісус – *вісуса́йла* 'здаравяка', свінтух – *свінтуха́йла.* Падтып рэгіянальны (брэсц., гом., маг.);

б) матывавальнымі для назоўнікаў агульнага роду выступаюць ацэначныя субстантывы таго ж роду. Суфікс *-ал-а(-ял-а)* надае ўзмацняльнае адценне пагарджальнасці, неадабрэння: апэнча – *апэ́нчала* 'няўдалы', плюта – *плю́тала* 'хто гаворыць не да месца', пукта – *пу́ктала* 'буркун', хлында – *хлы́ндала* і шлында – *шлы́ндала* 'хто ходзіць без справы', шкрома – *шкро́мала* 'хто ходзіць

шаркаючы', цюхця – *цю́хцяло* 'маруда', шалапут – *шалапу́тала* 'бесталковы чалавек'. Націск на аснове. Падтып рэгіянальны (брэсц., віц., гом., гродз.).

**-аль.** Назоўнікі ўтвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў:

1. Аддзеяслоўныя субстантывы называюць асоб-суб'ектаў дзеяння з ацэначнымі адценнямі грубасці, абражальнасці, асуджэння. Пры дэрывацыі фінальны галосны -а- матывавальнай асновы адсякаецца. Націск на корані, радзей на суфіксе: гіцаць – *гі́цаль* і *гі́ццаль* 'гарэза', гойсаць– *гэ́саль* 'тс', *ды́баль* 'нямоглы', *ды́ндаль* 'гультай', *зу́ндаль* 'маўчун; гультай', ляжаць – *ле́галь* (ж//г – чарг.) 'гультай', *снаўда́ль* 'хто ходзіць без справы', *тэ́пталь* 'хто марудзіць'. Тып агульнабеларускі.

2. Матывавальнымі для адпрыметнікавых назоўнікаў выступаюць асновы прыметнікаў, якія характарызуюць асоб па выразнай знешняй прыкмеце. Утваральнымі могуць быць як невытворныя, так і вытворныя прыметнікі (у гэтым выпадку фіналь асновы -ат- адсякаецца). Націск на суфіксе або на корані: *бруха́ль*, *даўга́ль* 'худы, даўганогі', *ку́ндаль* 'кудлаты', *но́саль* і *но́халь* (с//х – чарг.) 'насаты', *танка́ль* 'танканогі высокі чалавек'. Тып рэгіянальны (віц., гродз., мін.). Некаторыя адпрыметнікавыя назоўнікі могуць суадносіцца як з утваральнымі прыметнікамі, так і з назоўнікамі: *нос – но́саль*, *бруха – бруха́ль*.

3. Ад назоўнікаў утвараюцца адзінкавыя словы. Базавымі выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць часткі цела чалавека: *чырыва́ль* 'пузаты', *но́саль* і *бруха́ль* (гл. вышэй); тып агульнабеларускі. Дэрываты ўжываюцца з экспрэсіяй непахвальнасці. Націск свабодны.

**-ан(-ян).** Ацэначная лексіка прадстаўлена аддзеяслоўнымі, адпрыметнікавымі і адназоўнікавымі субстантывамі мужчынскага роду з націскам на суфіксе або на корані:

1. Аддзеяслоўныя ўтварэнні абазначаюць асобу як суб'ект ці вынік дзеяння і маюць адценні асуджэння і абражальнасці. Адбываецца ўсячэнне матывавальнай асновы, чаргуюцца мяккія і цвёрдыя зычныя. Магчыма ўзнікненне ўстаўных зычных, а таксама перастаноўка гукаў: *жула́н* 'свавольнік', *каўга́н* 'няўмека', кацпаць 'рабіць неахайна, няўмела' – *кацпа́н*, *капца́н*, лазіць – *ладзга́н* 'пра малога, які лазіць куды не трэба', *лупа́н* 'маргун', маладзіцца – *маладзя́н*, *салапа́н* 'салапяка', *хвата́н* 'зух', *шалдаба́н* 'неразумны, ганарлівец'. Тып рэгіянальны (віц., гом., гродз., маг., мін.).

2. Адпрыметнікавыя дэрываты характарызуюць асоб па негатыўнай знешняй прыкмеце, таму маюць ацэначныя адценні асуджэння, абражальнасці, іроніі. Пры ўтварэнні субстантываў фіналі вытворных матывавальных асноў -ат-, -іст-, -аст- адсякаюцца, у некаторых выпадках асновы могуць ўскладняцца зычнымі і галоснымі: *бруха́н* і *бруша́н* 'пузаты', *гола́н* 'галяк', *голова́н, горла́н* 'крыкун', *губа́н* 'губаты', *дурба́н, косця́н, кося́н* 'касавокі', *лаба́н* і *ло́бан*, *лупа́н*, *грыба́н* 'губаты', *мурла́н* 'паўнатвары', *калашма́н*, *пуза́н* і *пузга́н*, *сухая́н* 'сухарэбрык', *трыбуха́н*. Тып рэгіянальны (брэсц., віц., гом., маг., мін.).

Пытанне аб утварэнні некаторых дэрыватаў гэтага тыпу (*горла́н*, *лаба́н*, *пуза́н* і інш.) застаецца адкрытым. П.У.Сцяцко адносіць іх да адпрыметнікавых утварэнняў і лічыць, што яны "непасрэдна суадносяцца з прыметнікамі і тлумачацца імі" [5, с.95]. В.А.Ляшчынская разглядае назоўнікі *велiча́н*, *пуза́н* у

абедзвюх групах – як адпрыметнікавыя, так і адназоўнікавыя субстантывы [4, с.9]. І.А.Далгоў адносіць словы *губáн*, *пузáн*, *лобáн* да словаўтваральнага тыпу "назоўнік + -ан" [3, с.15]. Найбольш аб'ектыўны, на нашу думку, падыход да вырашэння пытання адлюстраваны ў "Беларускай граматыцы" – падкрэсліваецца суаднесенасць такіх назоўнікаў у роўнай ступені і з назоўнікамі, і з прыметнікамі [1, с.227]. Такім чынам, субстантывы *брухáн*, *брушáн*, *горлáн*, *губáн*, *лабáн*, *пузáн*, *трыбухáн* і інш. маюць адносіны вытворнасці не толькі з прыметнікамі, але і з назоўнікамі.

3. Пеяратывы, што характарызуюць асоб па выразных знешніх прыкметах або ўнутраных якасцях, утвараюцца ад:

а) неадушаўлёных назоўнікаў (у тым ліку назваў частак цела чалавека, гл. вышэй): *вагáн* 'здаровы, мажны', *дзюбáн* 'чалавек з вялікім гарбатым носам', *рылáн* 'у каго поўны чырвоны твар', *сталбáн* 'дурань'; падтып агульнабеларускі;

б) адушаўлёных назоўнікаў, якія ўжо маюць зніжаную ацэначную афарбоўку: скліф – *скліфáн* 'худы', шалыга – *шалыгáн* 'гультай'; падтып рэгіянальны (гродз.).

**-андр-а(-яндр-а)/-ендр-а/-індр-а/-ондр-а**. У дыялектнай мове ёсць непрадуктыўныя рэгіянальныя словаўтваральныя тыпы, прадстаўленыя адзінкавымі ацэначнымі лексемамі з фармантамі *-андр-а* (*-яндр-а*) /*-ондр-а* / -*ендр-а*/*-індр-а*. Базавымі для гэтых назоўнікаў выступаюць асновы прыметнікаў і дзеясловаў. Матываваныя субстантывы агульнага роду называюць асоб па негатыўнай прыкмеце, маюць адценні грубасці, асуджэння; націск на словаўтваральным фарманце або на канчатку; магчыма чаргаванне цвёрдых і мяккіх зычных:

а) скупы – *скупяндрá*, сляпы – *слепендрá*, *сліпóндра*, *сляпíндра*, *сляпýндра*, *сляпундрá*, сухі – *сухандрá*, *сухíндра* 'худы'; падтып рэгіянальны (брэсц., гродз., маг., мін.);

б) *чыпчылíндра* 'хто не хоча і не любіць працаваць', *шлю́ндра* 'бадзяга'; падтып рэгіянальны (брэсц., гродз.).

**-анец/-енец/-онец.** Утвараюцца асабовыя назоўнікі мужчынскага роду са значэннем 'асоба–суб'ект дзеяння' ад асноў дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання і маюць ацэначныя адценні грубасці, асуджэння, неадабрэння. Фінальная частка матывавальнай асновы адсякаецца; націск на суфіксе: *абувáнец* 'падманшчык', *выцягáнец* 'хабарнік', *замазáнец* 'пэцкаль', *лашчóнец* 'падхалім', *патшывáнец* 'свавольнік', *разувáнец* 'грабежнік', *рашшывáнец* 'неэканомны, безгаспадарлівы', *совáнец* 'бадзяга', *ужывáнец* 'аматар смачна паесці', *хітравáнец*. Тып рэгіянальны (брэсц., віц., гом., маг.).

**-анк-а(-янк-а).** Пеяратывы ўтвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў:

1. Матывавальнымі для аддзеяслоўных назоўнікаў агульнага і жаночага роду выступаюць дзеяслоўныя асновы, у якіх фіналі -а-, -ва-, -і-, -ну- адсякаюцца. Субстантывы ўжываюцца з экспрэсіяй зневажальнасці і неадабрэння. Пеяратывы называюць асоб па іх занятку або стане: *баловáнка*, *лёпанка* 'пустазвон', *мáзанка* 'запэцканы', *муця́нка* 'падманшчыца', *насякáнка* 'настырная, языкастая асоба', *сóванка* 'гультай', *пацягáнка* 'валацуга' і інш. Націск свабодны. Тып агульнабеларускі.

2. Адпрыметнікавыя назоўнікі з адценнямі непахвальнасці, абражальнасці прадстаўлены адзінкавымі ўтварэннямі: белы – *білянка* 'светлавалосы чалавек', тухлы – *тухлянка* 'хто смярдзіць'. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (віц., маг.).

**-ант.** Пеяратывы-маскулінатывы абазначаюць асоб паводле схільнасці да дзеяння, якое асуджаецца грамадствам. Фіналі ўтваральных асноў адсякаюцца; націск свабодны: манкіру́таць – *манкіра́нт* 'гультай', урваць – *у́рвант* 'урвіцель'. Тып рэгіянальны (гродз.).

**-аньк-а(-еньк-а, -оньк-а, -ыньк-а).** У беларускай дыялектнай мове для ацэначных утварэнняў з гэтымі суфіксамі матывавальнымі з'яўляюцца вытворныя асновы прыметнікаў на -ат-ы (фіналь асновы адсякаецца): гарбаты – *гэ́рбанька*, кірпаты – *кірпо́нька*. Дэрываты агульнага роду маюць адценні ласкальнасці, спагадлівасці. Націск свабодны. Тып рэгіянальны (гом., віц.).

**-ар(-яр).** Утвараюцца асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з ацэначнымі адценнямі зневажальнасці, асуджэння і складаюць тры тыпы:

1. Матывавальныя – асновы дзеясловаў, фіналі якіх пры дэрывацыі адсякаюцца; магчыма чаргаванне ц'//т, з'яўленне ўстаўнога *т*; націск свабодны: *блі́ндар* 'валацуга', *лаба́хтар* 'падманшчык', *лга́р* 'тс', *мута́р* і *муця́р* 'тс', *памага́тар, чы́тар* 'чытака', *шлэ́пар* 'хто цягне ногі, шлэпае', *шлэ́птар* 'валацуга' і інш. Тып агульнабеларускі.

2. Адпрыметнікавыя субстантывы характарызуюць асоб па прыкметах знешнасці, фізічным стане або ўнутраных якасцях. Фіналі матывавальных асноў адсякаюцца; націск на суфіксе, радзей на корані: *галава́р* 'галавасты', *глуха́р*, *гу́бар* 'губаты', *даліка́тар*, *дзіка́р* і *дыча́р*, *ліхвя́р* 'задзіра', *в* – устаўны, *лю́тар*, *но́хар* і *но́сар* 'насаты'. Тып агульнабеларускі.

3. Адназоўнікавыя дэрываты з суфіксам *-ар(-яр)* складаюць два падтыпы:

а) дэрываты матывуюцца ацэначнымі адушаўлёнымі назоўнікамі мужчынскага, жаночага і агульнага роду: бандзюга – *бандзюга́р*, дачка – *до́чар* (з адценнем ласкальнасці), зызма – *зызма́р* 'скупы', сабака – *сабака́р* 'дураслівец', шмуль – *шму́ляр* 'чалавек у падраным адзенні'. Націск свабодны. Падтып рэгіянальны (віц., гом., гродз., маг.);

б) субстантывы мужчынскага роду ўтвараюцца ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў, абазначаюць асоб па тым, што названа матывавальным словам, і суправаджаюцца адценнямі непахвальнасці, абразлівасці: кішка – *кішка́р*, кленда – *кле́ндар* 'клышаногі', плётка – *пляткáр*, шклянка – *шкля́р* 'з вялікімі вачыма'. Націск на суфіксе. Падтып агульнабеларускі.

**-арк-а.** Аддзеяслоўныя ўтварэнні жаночага роду з гэтым суфіксам са значэннем 'асоба–суб'ект дзеяння' маюць адценне зневажальнасці і прадстаўлены ў дыялектнай мове адзінкавымі словамі: гнюсіць 'сварыцца' – *гнуса́рка* 'сварлівая жанчына', смаліць – *смалі́тарка* 'бессаромніца'. Націск свабодны. Тып рэгіянальны (маг., мін.).

**-асць.** Субстантывы з фармантам *-асць* звычайна называюць прадметы, з'явы са значэннем адцягненай прыкметы або дзеяння, з лакальным або зборнарэчыўным значэннем. Аднак сустракаюцца адпрыметнікавыя ўтварэнні (назоўнікі агульнага роду), якія характарызуюць асоб па выразнай знешняй прыкмеце, маральных якасцях і якія маюць ацэначнае адценне непахвальнасці.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральным слове: бяспутны – *бяспу́тнасць* 'няўдалы', нягеглы – *нягéгласць* 'няўклюда'. Тып рэгіянальны (маг.).

**-аўк-а(-оўк-а, -яўк-а)**. Суфіксальныя ацэначныя дэрываты з гэтым фармантам складаюць некалькі тыпаў:

1. Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле схільнасці да пэўнай дзейнасці або паводле працэсуальнай прыкметы. Фінальная галосная ўтваральнай асновы адсякаецца, магчыма чаргаванне зычных ц'//т (калаціць – *калато́ўка* 'сварлівая жанчына'). Націск свабодны: *бадзя́ўка* 'валацуга', *глыта́ўка* 'крыкуха', *жа́гаўка* 'вострая на язык жанчына', *звя́каўка* 'пляткарка', *ко́псаўка* 'маруда', *лéхаўка* 'крыкуха', *лэ́паўка* 'паспешніца', *ля́паўка* 'пляткарка', *мудзя́ўка* 'слабы, кволы', *плёхаўка* 'няўмека', *шалéпаўка* 'расцяпа', *шло́хаўка* 'брында'. Дэрываты маюць ацэначныя адценні асуджэння, грубасці, абразлівасці, зневажальнасці. Тып агульнабеларускі.

2. Пеяратывы, утвораныя ад прыметнікаў, маюць экспрэсію неадабрэння. Утваральныя – асновы якасных прыметнікаў: нічогі 'дрэнны, кепскі' – *нічого́ўка* 'вельмі дрэнны чалавек', ласы – *ласо́ўка*. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (гом., маг.).

3. Адназоўнікавыя ўтварэнні з адценнямі абразлівасці, зневажальнасці складаюць два падтыпы:

а) фемінатывы матывуюцца асабовымі ацэначнымі назоўнікамі: гад – *га́даўка* 'злосніца', забягайла – *забяга́йлаўка* 'пляткарка', зляб – *злябо́ўка* 'мізэрная жанчына'. Націск свабодны. Падтып рэгіянальны (брэсц., гом., маг.);

б) субстантывы, якія ўтвараюцца ад асноў неасабовых назоўнікаў. Пеяратывы абазначаюць асоб паводле падабенства да таго, што названа ўтваральным словам: гніда – *гні́даўка* 'малая ростам', порах – *по́рохоўка* 'рыхлы, тоўсты'. Націск на аснове. Падтып рэгіянальны (гом.).

4. Ацэначныя дэрываты матывуюцца лічэбнікамі і маюць розныя ацэначныя адценні: *пятнасто́ўка*, *шаснасто́ўка*, *семнасто́ўка* – з адценнем жартаўлівасці – 'вельмі маладая дзяўчына (год 15, год 16, год 17)'; з адценнем пагардлівасці – 'немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца'. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (гродз.).

**-ач.** Назоўнікі з суфіксам *-ач* прадстаўлены трыма тыпамі:

1. Субстантывы з гэтым фармантам матывуюцца прыметнікамі і называюць асоб мужчынскага полу паводле характэрных знешніх прыкмет або ўнутраных якасцей, маюць адценні асуджальнасці, абражальнасці, іроніі, грубасці. Утваральнымі могуць выступаць асновы прыметнікаў на -к- з яго захаваннем (гляўкі – *гляўка́ч* 'тоўсты'; лоўкі – *лаўка́ч*) і вытворныя асновы прыметнікаў на -ат-ы, -ів-ы, -аст-ы, -ав-ы, -ават-ы, якія адсякаюцца: *бруха́ч*, *валаса́ч*, вугнівы – *вугна́ч* 'бурклівы', *зуба́ч*, клышавы – *клыша́ч* 'касалапы'. Націск у матываваных словах на суфіксе: *вуса́ч*, *грыба́ч* 'губаты', *патла́ч* і інш. Тып агульнабеларускі. Некаторыя назоўнікі (*барада́ч*, *вуса́ч*, *галава́ч*, *трыбуха́ч*, *наса́ч* і інш.) могуць суадносіцца і з назоўнікамі. Аднак семантычная сувязь прыметніка і вытворнага назоўніка больш цесная, чым назоўніка з утвораным назоўнікам [4, с.14].

2. Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле характэрнага дзеяння або схільнасці да дзеяння, маюць адценні асуджэння, зневажальнасці,

неадабральнасці: *бубна́ч* 'буркліва', *лаха́ч* 'пляткар; бадзяга', *манта́ч* 'ілгун', *раўба́ч* і *раўга́ч* 'крыкун', *трапа́ч* 'балбатун', *цяга́ч* 'валацуга' і інш. Націск на суфіксе; фіналі -а-, -е-, -я-, -і-, -ава- матывавальнай асновы адсякаюцца; магчыма чаргаванне парных цвёрдых асновы з мяккімі, а таксама з'яўленне ўстаўных зычных (*дзярка́ч*, *раўба́ч*, *раўга́ч*). Тып агульнабеларускі.

3. Адназоўнікавыя субстантывы мужчынскага роду характарызуюць асоб з адмоўнага боку па розных прыкметах, названых утваральным словам. Матывавальнымі выступаюць асновы неадушаўлёных назоўнікаў: дзюба – *дзюба́ч* 'даўганосы', клынды – *клында́ч* 'клышаногі', клюка – *клюка́ч* 'насаты', пейсы – *пейса́ч* і *пейсма́ч* 'хлопец з доўгімі валасамі', *м* – нарашчэнне, порткі – *порта́ч* 'бядняк' і інш. Націск на суфіксе. Тып агульнабеларускі.

**-ачк-а(-ечк-а, -ічк-а, -ячк-а).** Назоўнікі з гэтым суфіксам ў дыялектнай мове ўтвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў, прыметнікаў і дзеепрыметнікаў:

1. Аддзеяслоўныя ўтварэнні называюць асоб па характэрным негатыўным дзеянні і маюць экспрэсію непахвальнасці, асуджэння. Матывавальныя – асновы дзеясловаў на галосныя -а-, -е-, якія пры дэрывацыі адсякаюцца. Націск на суфіксе: *браха́чка* 'манюка, пляткар', *верта́чка* 'гарэза; легкадумны чалавек' – чарг. ц'//т, *зява́чка* 'той, хто пазяхае'. Тып рэгіянальны (гом., гродз., маг.).

2. Адпрыметнікавыя і аддзеепрыметнікавыя назоўнікі характарызуюць асоб жаночага полу па выразнай знешняй прыкмеце або ўнутраных якасцях. Суфікс -*ачк-а* надае субстантывам ласкальнасць. Фіналі асноў дзеепрыметнікаў -н- і прыметнікаў -ав- адсякаюцца. Націск свабодны: *жада́начка* 'жаданая да́чка', *ла́сачка* 'ласкавая жанчына', *праму́драчка* 'кемлівая дзяўчына', *стры́жачка* 'стрыжаная жанчына', *спрытня́чка* 'лоўкая ў працы жанчына'. Тып рэгіянальны (гом., гродз., маг., мін.).

3. Адушаўлёныя назоўнікі з суфіксам *-ачк-а(-ячк-а, -ечк-а, -ічк-а)*, утвораныя ад назоўнікаў мужчынскага, жаночага і агульнага роду, набываюць ацэначнае ласкальнае або памяншальна-ласкальнае адценне: *бабу́січка*, *глума́чка* ад глума 'недалёкая жанчына', *дарагу́сечка* 'каханая', *дзяду́лічка*, *дзяці́начка* 'малады хлапец', *худо́бачка* 'схуднелая асоба'. Націск свабодны. Тып рэгіянальны (віц., маг., мін.).

**-аш(-яш).** Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараецца невялікая колькасць лексічных адзінак ад дзеясловаў і назоўнікаў:

1. Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб па схільнасці да пэўнай дзейнасці, якая не адабраецца грамадствам, таму маюць адценні асуджэння і непахвальнасці. Частка матывавальнай асновы дзеясловаў адсякаецца; націск свабодны: *гнева́ш*, *збро́дняш* 'гультай', *звадыя́ш* 'зводнік, падбухторшчык' і *зведзі́яш* 'пляткар', *лама́ш* 'гультай', *тарга́ш*. Тып агульнабеларускі.

2. Асабовыя назоўнікі, утвораныя ад субстантываў, характарызуюць асоб па выразных прыкметах, названых утваральным словам: кудры – *кудра́ш*, юда – *ю́даш* 'помслівы, злы чалавек'. Націск свабодны. Тып рэгіянальны (гродз., маг., мін.).

**-ашак/-ішак.** Гэты суфікс надае ацэначным субстантывам, утвораным ад назоўнікаў, адценні зневажальнасці (брат – *браці́шак*), памяншальна-ласкальнае (вуй 'дзядзька' – *вуя́шак*). Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (гродз.).

**-ашк-а.** Ацэначная лексіка беларускай дыялектнай мовы з гэтым суфіксам прадстаўлена толькі аддзеяслоўнымі ўтварэннямі. Назоўнікі агульнага роду маюць адценні асуджэння, неадабрэння і называюць асоб па непрафесійным негатыўным дзеянні: *выціра́шка* 'неахайніца', *замара́шка* 'тс', *мянта́шка* 'хто многа і без толку гаворыць', *паграба́шка* 'хапуга', *пупіха́шка* 'чалавек, якім камандуюць', *ціга́шка* 'валацуга'. Націск на суфіксе. Тып рэгіянальны (віц., маг., мін.).

**-ашнік.** Адназоўнікавыя субстантывы мужчынскага роду ўтвараюцца ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў і абазначаюць асоб па прыхільнасці да таго, што названа ўтваральным словам, маюць экспрэсіўнае адценне непахвальнасці: *вечары́нашнік* 'хто любіць пагуляць на вечарынах', *гарэ́лашнік* 'ахвотнік да гарэлкі'. Націск на перадсуфіксальным складзе. Тып рэгіянальны (маг.).

**-ашніц-а.** Асабовыя назоўнікі жаночага роду ўтвараюцца ад назоўнікаў і абазначаюць асоб па прыхільнасці да таго, што названа ўтваральным словам; маюць ацэначнае адценне неадабрэння. Націск на перадсуфіксальным складзе. Базавыя – асновы неадушаўлёных назоўнікаў: *гарэ́лашніца* 'ахвотніца да гарэлкі', *вечары́нашніца* 'ахвотніца да вечарыны'. Тып рэгіянальны (маг.). Назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-ашніц-а* суадносяцца таксама з назвамі асоб мужчынскага полу на *-ашнік* і могуць разглядацца як вытворныя ад іх пры дапамозе суфікса *-ніц-а* (фіналь утваральнага слова -нік адсякаецца): *гарэ́лашнік – гарэ́лашніца.*

Паколькі на сёння яшчэ нераўнамерна і не ў поўным аб'ёме сабраны і лексікаграфічна апрацаваны моўны матэрыял з усіх рэгіёнаў Беларусі, пры далейшым вывучэнні ацэначных адзінак дыялектнай мовы магчыма дапаўненне і ўдакладненне прапанаванай дэрывацыйнай сістэмы.

## Літаратура


1. Беларуская граматыка: У 2 ч. / Акад. навук БССР. Ін-т мовазн. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / Рэд.: М.В. Бірыла, П.П. Шуба. – 1985. – 431 с.
2. Беларуская мова: Энцыклапедыя / Пад рэд. А.Я. Міхневіча. – Мінск: Бел. энцыкл., 1994. – 655 с.
3. Долгов И.А. Образование суффиксальных эмоционально-оценочных наименований лица в современном русском языке: Автореф. дис. ... канд. филолог. наук: 10.02.01 / Киевский гос. ун-т им. Т.Г. Шевченко. – Киев, 1984.– 23 с.
4. Лещинская О.А. Суффиксальное словообразование атрибутивных существительных в современном белорусском языке: Автореф. дис. ... канд. филолог. наук: 10.02.02 / Акад. наук БССР. Ин-т языкозн. им. Я.Колоса. – Минск, 1974. – 21 с.
5. Сцяцко П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.

*С.І. Фацеева*

# НАЗВЫ СВЯТ У ТРАДЫЦЫЙНЫМ НАРОДНЫМ КАЛЕНДАРЫ УСХОДНЯГА І ЗАХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

Традыцыйны народны каляндар – неад'емная частка духоўнай спадчыны народа. Ён вызначае не толькі сістэму звычаяў і абрадаў, гаспадарчую і бытавую дзейнасць нашых продкаў, але і акрэслівае пэўныя формы існавання фальклору. Таму збор назваў і складанне агульнага народнага календара, агляд яго асаблівасцей, даследаванне семантыкі назваў свят і звязаных з імі традыцый маюць важнае значэнне як у галіне фальклору, этнаграфіі, так і лінгвістыкі. Найпаўнейшы запіс свят, прысвяткаў, звычаяў, гульняў, прыкмет і іншых структурных адзінак каляндарнай абраднасці дае магчымасць выразна ўявіць беларускі народны каляндар як цэласную сістэму. Моўныя адзінкі народнага календара адлюстроўваюць дыялектныя асаблівасці і спалучаюць у сабе царкоўныя па паходжанні і народныя (часам язычніцкія) назвы.

Даследчыкамі славянскай традыцыйнай культуры (этнографамі, фалькларыстамі, дыялектолагамі) назапашаны багаты фактычны і аналітычны матэрыял па праблеме функцыянавання назваў свят, іх абраднасці і распаўсюджанасці на пэўнай тэрыторыі. У апошні час з'явіўся шэраг публікацый у выглядзе артыкулаў, слоўнікаў, што сведчыць пра распрацаванасць факталагічнай базы народнага календара. Разам з тым гэты матэрыял застаецца амаль не вывучаным з семантычнага пункту гледжання, г. зн. з боку не проста яго абрадавага зместу, але і заключаных у календары сэнсаў, адлюстраваных у ім уяўленняў пра свет і чалавека. Практычна невядомым застаецца і моўны аспект вывучэння календара. Таму ўзнікае неабходнасць комплекснага этналінгвістычнага апісання матэрыялу, якое ўключала б моўную (дыялектную) характарыстыку каляндарнай лексікі, семантычныя і граматычныя асаблівасці назваў свят, а таксама заканамернасці іх тэрытарыяльнага размяшчэння.

Крыніцамі фактычнага матэрыялу для дадзенага артыкула сталі працы: «Беларускі народны каляндар» А. Лозкі, «Тураўскі слоўнік», «Полесский народный календарь» С. М. Толстой, а таксама запісы, узятыя з дыялекталагічнага архіва кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка.

Лексічны аспект вывучэння назваў традыцыйных народных свят раскрывае іх семантыку, варыянтнасць значэнняў, ужывальнасць, суадноснасць з канкрэтным днём. Пры значным агульным фондзе палескіх назваў свят могуць быць вылучаны найменні, якія замацаваны за пэўнымі тэрыторыямі ўнутры Палесся і супрацьпастаўленыя іншым назвам з тым жа значэннем. Народны каляндар, сістэма звычаяў і забарон могуць мець шэраг варыянтаў, таму межы распаўсюджанасці той ці іншай назвы з'яўляюцца адноснымі.

Для аднаго і таго ж свята існуюць некалькі назваў, кожная з якіх стала традыцыйнай у народных гаворках на асобных тэрыторыях або ў пэўных вёсках. У агульным значэнні "свята" на Палессі ўжываюцца дзве лексемы: *празнік* і *свята*. Яны могуць выступаць як паралельныя, аднак у некаторых мясцовых традыцыях іх

значэнні нятоесныя: за празнікам замацавалася значэнне “вялікае свята”, а за святам—“дробнае свята”: *Празнік—то вялікі празнік, нічога не робляць, а свято – ужэ шось робляць* (в. Хільчыцы Жыткавіцкі раён); *С'ято – гэта малэ, а вяліке – гэто празнік* (в. Лутuкі Столінскі раён). Да вялікіх святаў адносяць так званыя гадавыя тыя, што бываюць адзін раз у год, часта вялікімі лічаць самыя буйныя святы, якія святкуюцца тры дні: Раство, Вялікдзень і Троіца. Лексема “празнік” з апісаным вышэй значэннем ужываецца даволі часта як у гаворках на тэрыторыі Усходняга, так і Заходняга Палесся. Што да назваў “малых” свят, то тут існуюць наступныя варыянты: *празьнічок*, *празнічек*, *прысвята*, *святце*, *святок*. Сярод прыведзеных найменняў першыя два (*празьнічок*, *празнічек*) найбольш ужывальныя на тэрыторыі Усходняга Палесся, у той час як у гаворках Заходняга Палесся пераважаюць назвы з коранем *-свят.*

Звернемся да назваў канкрэтных свят комплексу каляднага, велікоднага і траецкага цыклаў у гаворках Усходняга і Заходняга Палесся.

Даследчыкі народнага календара не раз звярталі ўвагу на асаблівае значэнне, асаблівую рытуальнасць і моўную разнастайнасць пярэдадняў свят. Назавём тры самыя важныя пярэдадні каляднага цыкла — перад Раством, Новым годам і Вадохрышчам. Трэба адзначыць, што менавіта пералічаныя дні з'яўляюццам непараўнальна больш значнымі ў народным календары, чым адпаведныя святы. У вечар перад адным з трох вялікіх свят гатавалася куцця— рытуальная вячэра. Паколькі куццёй можа называцца сама страва, вячэра або вечар, калі яна ўжывалася, то гэтыя тры значэнні не заўсёды проста размежаваць. Звычайна назва “куцця” бытуе ў маўленні разам з азначэннем, напрыклад, *бедная куцця, вадзяная куцця, шчодрая куцця.* Выбар прыметніка абумоўлены тым, ці дазвалялася ў гэты вечар есці скаромнае. Аднак, як зазначае С. М. Талстая, “термин кутья без уточняющего определения может относиться только к рождественскому сочельнику”. [12, с. 133]. Назва “куцця” можа выступаць паралельна з найменнем “каляда” ў абазначэнні названых вышэй пярэдадней. Аднак гэта адносіцца ў большасці выпадкаў да вечароў перад Раством і Вадохрышчам. Ф. Д. Клімчук прыводзіць прыклад ужывання гэтага наймення ў адносінах да трох пярэдадней у варажбе: *Каляда — одна на врожяй, друга — на прыплыдок, трэця — на здоровье. Як ужэ яснішчэ чы хмурнішэ нэбо* (в. Сіманавічы Драгічынскага раёна) [10, с. 25]. Абазначэнне каляднага і вадохрышчанскага пярэдадней-вечароў адной назвай “каляда” звязана з народным уяўленнем аб іх як аб пачатку святочнага перыяду — Раство, калі Каляда павінна прыехаць на палі, і як аб канцы —Вадохрышча — провады Каляды.

Разгледзім спачатку пярэдадзень Новага года, для якога традыцыйнай з'яўляецца багатая, скаромная вячэра, ці шчодрая куцця. Адпаведна і назвы па семантыцы будуць з пэўным адценнем: *Тоўста куцця, Шчодрая (Шчдроўная, Шчодрава) куцця, Шчадрэц (Шчадруха, Шчадрухо, Шчэдруйкі), Багатая каляда (куцця), Скаромная куцця, Середня куцця, Друга куцця.*

Самымі распаўсюджанымі найменнямі на тэрыторыі Палесся можна лічыць наступныя*: Багатая каляда (куцця), Шчодрая куцця (Шчадруха, Шчадрэц),* прычым першае найбольш ужывальнае на захадзе (гаворкі Брэсцкага, Пінскага, Маларыцкага, Лунінецкага раёнаў), а другое — на ўсходзе Палесся (гаворкі Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Лоеўскага раёнаў). Найменні *Середня*

*куцця, Друга куцця,* якія абазначаюць прамежкавае становішча паміж прыездам і ад'ездам Каляды (па старым стылі), сустракаюцца ў дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі Палесся (гаворкі Мазырскага, Петрыкаўскага, Столінскага і іншых раёнаў). Цікавая назва навагодняга пярэдадня зафіксавана ў гаворках Заходняга Палесся і звязана з мясцовым абрадам кідаць у калодзеж кашу і крычаць у яго "ку-гу-гу", што ўказвае на захаванне старажытнага культу вады. Адсуль паходзіць найменне свята *Куготы* (в. Олтуш Маларыцкі раён), якое мае шэраг варыянтных аднакаранёвых форм — *Гоготы* (в. Мухавец Брэсцкі раён), *Оготуха* (Камянецкі раён).

Пярэдадзень Раства вызначаецца строгім постам, таму куцця ў гэты дзень складалася з посных страў, пра што сведчаць наступныя назвы: *Посная коляда (куцця), Бедна(я) куцця,* якія маюць аднолькавую ступень распаўсюджанасці ў дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі Палесся. У народных гаворках на тэрыторыі Заходняга Палесся назва свята прадстаўлена іншымі найменнямі: *Старая Коляда, Роздвяная коляда* (в. Олтуш Маларыцкі раён).

Разгледзім апошні важны пярэдадзень, які завяршае калядны цыкл свят, — пярэдадзень Вадохрышча. На Палессі існуе шмат назваў, прымеркаваных да гэтага дня. Сэнс кожнага наймення паходзіць з абрадаў і забарон, характэрных для свята. Напрыклад, напярэдадні Вадохрышча існаваў звычай на сценках будынкаў маляваць ("пісаць") крыж, што азначала заканчэнне калядных свят, адсюль і назва *Пісана Коляда* (в. Велута Лунінецкі раён). Гэты дзень лічыўся апошнім днём Шчодрага тыдня, аднак быў посным: вечарам на стол падаваліся нескаромныя стравы. Таму ў народным календары Палесся сустракаем такія назвы — *Галодна куцья, Посна(я) куцця, Голодныця, Холодна куцья, Посна(я) куцця, Нікчэмная куцья, Церпека, Тэрплячка, Бедная куцця*. Найменні тыпу *Паследня куцця, Третья куцця* сведчаць аб апошнім месцы свята сярод трох пярэдадней. Паколькі свята папярэднічала Вадохрышчу (Крашчэнню), то яно атрымала вытворныя назвы: *Кряшченская куцця*, а таксама *Водзяная куцця, Водзянка, Водопосце, Водопосная куцья*, якія матывуюцца звычаем строгага посту. У гэты дзень акраплялі вадой будынкі. У традыцыі свята адчуваецца моцнае перапляценне хрысціянскіх і язычніцкіх абрадаў (провады Каляды, "пісанне" хрэста і інш.). Пры супастаўленні фактычнага матэрыялу выявілася, што больш распаўсюджанымі назвамі вышэйзгаданага свята з'яўляюцца *Вадзяная* (*Вадапосная) куцця (каляда), (Вадапосце)* і *Галодна(я) куцця (каляда), (Голодныця*). Першае найменне ўласціва ў большай ступені гаворкам заходнепалескага рэгіёна, хоць адзінкавыя варыянты сустракаюцца і на тэрыторыі, памежнай з Усходнім Палессем (Жыткавіцкі раён), а ў гаворках усходнепалескіх (на Гомельшчыне) распаўсюджаны найменні *Паследняя куцця, Третья кутья* і *Писана коледа*.

Велікодны перыяд найбольш поўна распрацаваны ў тэрміналагічных адносінах. Вялікдзень — галоўнае свята года. Лексема *Вялікдзень* ўжываецца паралельна з распаўсюджанай на Палессі — *Пасха*. Назвы адносяцца або да трох першых дзён (нядзеля, панядзелак, аўторак), або да ўсяго тыдня.

Найменне *Вялікдзень* (як і фанетычны варыянт *Вяліканне*) сустракаецца ў гаворках Кобрынскага, Столінскага, Пінскага, Бярозаўскага, Драгічынскага раёнаў Брэсцкай вобласці і Мазырскага, Веткаўскага, Лельчыцкага раёнаў Гомельскай

вобласці. Лексема *Паска* сустракаецца радзей і распаўсюджана пераважна ў гаворках Усходняга Палесся (Жыткавіцкі, Лельчыцкі, Петрыкаўскі раёны). Аднак сцвярджаць аб рэзкім адрозненні назваў у гаворках Усходняга і Заходняга Палесся нельга, бо на тэрыторыі ўсходняй часткі Брэсцкай вобласці сустракаецца таксама паралельна з назвай Вялікдзень найменне *Пасха.*

На тэрыторыі Усходняга і Заходняга Палесся вядомы дзве назвы Вербнай нядзелі — *Вербіч* і *Вербніца* (*Верба*, *Вербнічка*). Найбольшае распаўсюджанне мае назва жаночага роду *Вербніца, Верба*, *Вербнічка* і сустракаецца яна ў гаворках Столінскага, Маларыцкага, Пінскага, Кобрынскага, Брэсцкага і іншых раёнаў. Найменне *Вербіч* менш ужывальнае, яно адзінкава зафіксавана ў гаворках Маларыцкага, Столінскага і Жыткавіцкага раёнаў: *Вербіч не пройшоў, то кожуха не кідай* (в. Вялікае Малешава Столінскі раён); *Прыдзе Вербіч  кожуха торбіч* (в. Верасніца Жыткавіцкі раён).

Гаворачы пра Вялікдзень, нельга абысці і тыя прамежкі часу, якія папярэднічалі святу або ішлі пасля яго, мелі свае забароны і святыя дні. Такім прамежкам часу выступаюць *Страсны тыдзень і Фомін тыдзень.*

*Страсны тыдзень (нядзеля)* у гаворках Беларускага Палесся мае наступныя дыялектныя назвы: *Белая нядзеля* (Мазырскі, Ельскі, Веткаўскі раёны); *Белы тыждзень* (гаворкі Лельчыцкага і Столінскага раёнаў); *Святая нядзеля* (гаворкі Калінкавіцкага раёна); *Красная нядзеля* (гаворкі Жыткавіцкага раёна); *Страсенная нядзеля* (гаворкі Пінскага раёна). Аднак рэзкіх апазіцый паміж найменнямі ў гаворках і Заходняга і Усходняга Палесся не назіраецца, паколькі кожная назва магла мець мясцовую матывацыю ўтварэння. Напрыклад, хранонім *Белы тыдзень*, магчыма, паходзіць са звычаю бяліць хату і печ да Страснога чацвера; *Красная нядзеля* — са звычаю фарбаваць яйкі на гэтым тыдні.

*Страсны чацвер* амаль на ўсёй тэрыторыі Палесся мае назву "чысты" і ўбірае ў сябе значную колькасць ачышчальных рытуалаў ранневеснавой абраднасці, аб'ектамі якіх былі як чалавек, так і яго бліжэйшае акружэнне. Таму гэтая назва шматварыянтная: у гаворках на захадзе Брэсцкай вобласці зафіксаваны найменні *Жыльнік* (Брэсцкі, Жабінкаўскі, Маларыцкі раёны); *Вялікі чацвер* (Кобрынскі, Іванаўскі раёны). Назва *Страстны (Страсць, Страшный, Страсці)* сустракаецца ў гаворках не толькі на захадзе Палесся, але і на ўсходзе (Веткаўскі раён). Даследчыца Т. А. Агапкіна адзначае, што "на западе и востоке Полесья все названные хрононимы могут сосуществовать в рамках одной местной традиции" [2, с.57].

Асаблівасці ўтварэння прыметнікаў у назвах свят можна прасачыць, прааналізаваўшы найменне *Хрэсна недзіля* (4-ы тыдзень Вялікага посту). Прыметнікі *хросны*, *кросны*, *хрэсны* маюць не толькі фанетычныя, але і словаўтваральныя, формаўтваральныя адрозненні. Да апошніх можна аднесці ўжыванне кароткіх і поўных прыметнікаў, напрыклад, пятніца на Страсным тыдні можа мець назву *Кросная пятніца* і адпаведна *Кросна пятніца.* Тое самае можна сказаць і пра найменне *Кросная субота* (субота на Страсным тыдні). Сустракаюцца таксама прыметнікі, якія ўжываюцца толькі ў кароткай форме: *Хрестапаклонна нядзеля, Хрэстна*, *Хрэсна*, *Хросна нядзеля.* У большасці выпадкаў, як паказвае фактычны матэрыял, кароткая форма прыметнікаў у назвах свят характэрная для гаворак Палесся. Сярод словаўтваральных варыянтаў дадзеных назваў свят можна

вылучыць наступныя: *Крестовая недзеля*; *Хрысцёвы тыждзень*; *Хрaшчатая нядзеля*; *Хрэстна (Хрэсна, Хросна) нядзеля*; *Перэкрэсна нядзеля*.

Назва пасляпасхальнага тыдня таксама мае некалькі варыянтаў. На тэрыторыі Палесся асноўнай лексемай, якая адносіцца да першых дзён гэтага тыдня, з'яўляюцца *Провады, Праводная нядзеля, Правадной тыждзень*. У раёне брэсцка-гомельскага памежжа, як сцвярджаюць даследчыкі, выдзяляецца невялікі арэал, дзе адсутнічае тэрміналагічнае абазначэнне тыдня пасля Вялікадня, а таксама сама назва *Провады*. [2, с. 83].

Тыповымі для Палесся, асабліва для гаворак заходняй Брэстчыны, сталі назвы, вытворныя ад уласнага імя Фама (*Фаміна нядзеля, Хамінaя нядзеля*). У тых мясцовых традыцыях, дзе сустракаецца гэты тэрмін, этымалогія паходзіць ад апакрыфічных апавяданняў аб Фаме няверуючым: *Хомава Пасха. Хома такі, кажуць буў, шо нэ віруў, шо Пасха, а як ўжэ павіруў, тады ўжэ стаў празноваць собі пасху* (в. Радзеж, Маларыцкі раён). За межамі Палесся найменне *Фоміна нядзеля* вядомае практычна на ўсёй рускамоўнай тэрыторыі, на тэрыторыі ўкраінскага левабярэжжа, а таксама адзінкава на ўсходзе Беларусі.

На Усходнім жа Палессі найбольшае распаўсюджанне атрымалі лексемы: *Мёртвая нядзеля* (в. Барбараў Мазырскі раён,), *Дзедавая нядзеля* (гаворкі Мазырскага, Касцюковіцкага, Лоеўскага раёнаў), што тлумачыцца распаўсюджаннем вялікай колькасці памінальных рытуалаў; *Аркушная, Аркушовая нядзеля* (в. Грабоўка Гомельскі раён; в. Ручаёўка Лоеўскі раён; в. Вялікі Бор Хойніцкі раён); *Дарная, Дарніковая, Даровая нядзеля* (в. Верхнія Шары Брагінскі раён). Апошнія хранонімы з'яўляюцца вытворнымі ад назвы хлеба (аркуш), які раздаецца ў царкве ў нядзелю (дар).

Нядзеля на Фоміным тыдні ў гаворках Усходняга Палесся мае назвы: *Радаўніца, Мёртвая радаўніца, Мертвы дзень;* радзей — *Хаміна пасха, Фоміна нядзеля.* Памінальны характар рытуалаў, якія здзяйсняюцца ў гэты перыяд, тлумачыць значэнне першых трох лексем. На тэрыторыі заходнепалескага рэгіёну, дзе найбольш распаўсюджана традыцыя провадаў зімы і Пасхі, нядзеля называецца *Праводнай* (гаворкі Бярозаўскага, Столінскага, Пінскага раёнаў). Але гэта не азначае, што абрад памінання зусім не ўласцівы дадзенаму рэгіёну. Паралельна з названай вышэй лексемай ужываецца яшчэ адна — *Прабудная нядзеля.* Назва свята стасуецца з вераваннем, нібы памерлыя продкі наведваюць свае дамы і спраўляюць Вялікдзень.

Пры разглядзе траецкага кола свят спынімся на наступных днях гэтага цыкла: субота перад Троіцай, Троіца, чацвер перад Троіцай, панядзелак пасля Троіцы, наступны тыдзень пасля Троіцы і абрад "куста".

*Троіца (Сёмуха)* – язычніцкае свята, у якім прасочваецца культ продкаў і расліннасці, прымеркаванае пазней царквою да хрысціянскай Пяцідзесятніцы (50-ы дзень пасля Вялікадня). Назва свята адносіцца часцей за ўсё да трох дзён: нядзелі, панядзелка і аўторка, але можа прымяркоўвацца і толькі да аднаго дня – нядзелі ці панядзелка, а таксама да ўсяго траецкага тыдня: *Трі дні празнуем Троіцу. Трі дні правілі колісь. Перэд Троіцэю ў пятніцу на сёмай нядзелі дзяды, а назаўтра – бабу.* (в. Барбароў Мазырскі раён); *Труйца – ніділя, понеделок, уторак* (в. Кочышчы Ельскі раён). Зазначым, што на тэрыторыі беларускага Палесся гэта свята мае толькі

адну назву з адпаведнымі фанетычнымі варыянтамі – *Троіца (Тройца, Труйца)*. Адзінкавы выпадак абазначэння Троіцы найменнем *Зялёныя святкі* зафіксаваны ў гаворках на тэрыторыі Лельчыцкага раёна (Усходняе Палессе). Лексема *Сёмуха* ўвогуле не мае распаўсюджання на Палессі, акрамя асобных гаворак цэнтральнай і паўночнай часткі Палесся. Гэта найменне тут прымеркавана не да трох святых дзён, а да суботы перад Троіцай. Увогуле, гэты дзень звязаны з абрадам памінання продкаў і таму ён называецца яшчэ *Траецкія (Сёмушныя) дзяды*. У "Палескім народным календары" С. М. Талстой падаецца некалькі найменняў згаданай вышэй суботы ў асноўным у межах Усходняга Палесся: *Зялёна субота, Кленова субота, Духавая субота, Духовная субота.*

З траецкім цыклам свят звязана назва серады перад Троіцай, якая характарызуецца забаронамі працаваць у полі, каб засцерагчы пасевы ад граду. Адсюль паходзіць і найменне *Градавая серада (Грозовая), Градабойная серада: І есека пэрэд Троіцэю Градова середа; кажуць, трэба ахраняцца, штоб град не пабіў* (в. Стадолічы Лельчыцкі раён); *Когда-то говорылы, шо нэльзя в Градовую сэрэду работать у поле* (в. Спорава Бярозаўскі раён); *Цепер не трэ полоць, цепер Градова сердэа* (в. Семурадцы Жыткавіцкага раёна). Сустркаецца гэта назва і ў форме мужчынскага роду — *Градабой* (в. Залатуха Калінкавіцкі раён). Разглядаючы кампанент "*градавая*" ў структуры назваў свят траецкага або велікоднага цыклаў, можна і тут заўважыць варыянтныя формы прыметнікаў: *Градова сердэа, Грамова середа, Градобойна середа і Градовая, Гразавая серада.* Адным з асаблівых словаўтваральных варыянтаў гэтай назвы варта адзначыць лексемы *Градабойна середа* і *Градабой*, зафіксаваныя на тэрыторыі Усходняга Палесся і ўтвораныя ад дзеяслоўнага словазлучэння "біць градам".

Абраднасць тыдня, які ішоў пасля свята Троіцы, найперш звязана з русальнай традыцыяй, пра што сведчыць і яго назва — *Русальная нядзеля, Русальніца (Росальніца), Граная нядзеля.* Прыведзеныя назвы бяруць пачатак ад язычніцкага свята руж rosālia, да якога царква прымеркавала дзень св. Пяцідзесятніцы. Як адзначае М.А. Ісачанкава, "на ўсходнеславянскіх землях святкаваннне русалій супала з шанаваннем духаў раслінасці, якія пад уплывам хранoніма атрымалі назву русалка" [4, с. 213]. Адначасова вобраз русалак, заўважае даследчыца, асацыіруецца з душамі людзей, памерлых не сваёй смерцю, якіх трэба сцерагчыся: "станоўчае ў вобразе русалак пачалі ацэньваць як спрадвечнае, а негатыўнае звязвалі з уплывам хрысціянства" [4, с. 212].

Як сведчыць фактычны матэрыял, сярод прыведзеных назваў тыдня на Палессі пераважае найменне *русальны (тыдзень)*. Арэал пашырэння наймення *граны (тыдзень)* распаўсюджваецца на паўднёвы ўсход Палесся і мае працяг у гаворках на тэрыторыі Расіі і на Украіне. Семантыка назвы страчана, аднак можна меркаваць, што слова *граны* асацыіруецца з гульнямі (граннем) русалак. Сярод сакральных рытуалаў *Гранага тыдня* існуе так званы абрад "праводзін русалкі". Шырокае распаўсюджанне ён мае ў абраднасці і народных гаворках на тэрыторыі Расіі, а на Беларусі прадстаўлены толькі на Усходнім Палессі. Пачынаецца Русальны тыдзень у панядзелак, мае адпаведныя назвы: *Русалка, Русалны дэнь, Русальны панядзелак, Русалныя розыгры, Розыгры (Розгулі).* Такія найменні пераважаюць у народных гаворках на Гомельшчыне, дзе русальная традыцыя

выражана найярчэй, а ў гаворках Заходняга Палесся паралельна з ужываннем вышэйапісаных назваў сустракаецца *Светый Дух*.

На Палессі захаваліся дні, калі памінаюць нябожчыкаў, якія памерлі не сваёй смерцю. Па царкоўных канонах іх нельга хаваць на могілках, адпяваць. Чацвер на Русальным тыдні стаў днём памінання такіх памерлых. Гэты дзень на захадзе Палесся мае найменнне *Наўскі чацвер, Наўскі вялікдзень, Наўская Троіца* і супрацьпастаўлены чацвяргу пасля Вялікдня, калі памінали дзядоў. "*От у чацвэр ужэ по Тройцы, ну у нас называюць Навска Труйца. Гэто ўмэрлых. І ў гэтых умэрлых вжэ тыйі дівчята ідуть, девкы, которы поуміралы дівкы. Вжэ ідуть гуляты воны по жытовы. А потом уже ідуть воны на кладбішча і с сэбэ одэжу пэрэтрушвають*" (в. Спорава Бярозаўскага раёна). Траецкі цыкл святаў вельмі багаты на рытуалы і звычаі, якія па-рознаму прадстаўлены ў асобных рэгіёнах Палесся, адпаведна канкрэтныя назвы ўзнікаюць у выніку распаўсюджання гэтых рытуалаў на абмежаванай тэрыторыі.

Як паказаў аналіз фактычнага матэрыялу, шматварыянтнымі выступаюць назвы свят траецкага і велікоднага цыклаў, а таксама пярэдадні трох галоўных свят Раства, Новага года і Вадохрышча. Гэтыя найменні маюць значную колькасць уласналексічных дыялектных адрозненняў і найбольш поўна прадстаўлены ў гаворках Усходняга і Заходняга Палесся. Такая акалічнасць тлумачыцца разнастайнасцю звычаяў, абрадаў, атрыбутыкі і рытуальных дзействаў у гонар таго ці іншага свята. Словаўтваральных варыянтаў у палескіх гаворках таксама налічваецца нямала, што звязана з тэрытарыяльнай блізкасцю дыялектаў, а таксама з непаслядоўным ужываннем пэўных форм слоў. Аднак рэзкага кантрасту словаўтваральных мадэлей паміж гаворкамі Заходняга і Усходняга Палесся не назіраецца. Адрозненні ў назвах свят закранаюць у першую чаргу формы прыметнікаў. Усе словаўтваральныя варыянты назваў свят знаходзяцца ў пастаянным руху да змянення і могуць трасфармавацца ў працэсе жывога маўлення. Некаторыя назвы свят адрозніваюцца граматычнымі катэгорыямі ліку і роду. Гэта самая малаколькасная група найменняў. Такім чынам, традыцыйны народны каляндар беларусаў уяўляе сабой шырокае поле для навуковых даследаванняў у галіне лінгвістыкі.

## Літаратура

1. Агапкина Т. А. Очерки весенней обрядности Полесья // Славянский и балканский фольклор: этнолингвистическое изучение Полесья. Москва, 1995. – С. 21-107.
2. Агапкина Т. А. Мифопоэтические основы славянского народного календаря: весеннее-летний период. Москва, 2002.
3. Дыялектны слоўнік Брэсчыны. / Склад. Аляхновіч М.М. і інш. Мінск, 1989.
4. Ісачанкава М. А. Семантыка русальнай традыцыі / Скарбы народнай мовы: Дыялекталагічны зборнік: НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа / Рэд. Л. П. Кунцэвіч. Мінск, 2005. – С. 213-218.
5. Катовіч А., Крук Я. Веснавыя святы: Нарысы. У 2 кнігах. Кніга 1. Мінск, 2005.

6. Клімчук Ф. Д. Словы з-пад Белавежскай Пушчы / Жывое наша слова.— Мінск, 2001. – С. 63-78.
7. Коваль У., Новак В. Беларускія народныя святы і звычаі. Гомель, 1993.
8. Крук І. Следам за сонцам: Беларускі народны каляндар: святы, абрады, звычаі. Мінск, 1998.
9. Лозка А. Беларускі народны каляндар. Мінск, 2002.
10. Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря. Москва, 1968.
11. Толстой Н. И. Троицкая зелень / Славянский и балканский фольклор: духовная культура Полесья на общеславянском фоне. Москва, 1986. – С. 14-18.
12. Толстая С. М. Полесский народный календарь. Москва, 2005.
13. Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мінск, 1982 – 1987.

*А.І. Шаблоўскі*

# КАНЦЭПЦЫЯ "АКТАНТНАГА" АРТЫКУЛА ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА ТЭМАТЫЧНАГА СЛОЎНІКА

## 0 Пастаноўка праблемы[1]

Сучасны стан і далейшае развіццё беларускай дыялектнай лексікалогіі непарыўна звязаны з укладаннем тэрміналагічных слоўнікаў беларускіх народных гаворак. Істотная асаблівасць гэтых слоўнікаў заключаецца ў анамасіялагічным прынцыпе групіравання намінацыйных адзінак. Тут неабходна адзначыць, што (1) у спіс апошніх трапляюць не толькі словы, але і спалучэнні слоў і што (2) сам спосаб сукупнай падачы намінацыйнага матэрыялу павінен адлюстроўваць асаблівасці актуальнага светаўспрымання. Маючы на ўвазе прыярытэтныя матывацыйныя аспекты члянення рэчаіснасці і найбольш пашыраныя анамасіялагічныя спосабы фармальнай фіксацыі лексічнага зместу. Гэтым тлумачыцца неабходнасць распрацоўкі адэкватнай *анамасіялагічнай* мадэлі слоўнікавага артыкула.

## 1 Тэматычная група і семантычнае поле: сутнасць адрознення

Ідэаграфічны прынцып размеркавання слоў у слоўніку мае адну істотную перавагу перад простым алфавітным парадкам: тэматычнае групіраванне дазваляе адлюстроўваць лексікаграфічнымі сродкамі ў межах моўнай, а не маўленчай структуры кантэкстны, сітуацыйны план ужывання слова. Гэта садзейнічае больш глыбокаму разуменню семантыкі слова за кошт актуалізацыі логіка-прадметнага, канатацыйнага, а таксама і прагматычнага аспектаў значэння.

Праблема ж аднак заключаецца ў тым, што прадметна-тэматычная група сама па сабе не з'яўляецца структурным утварэннем. Элементы парадку ў такім з'яднанні слоў можна знайсці, але на ўзроўні семантычных палёў. А гэта значыць, што і межы прадметна-тэматычнай групы больш-менш выразна можна акрэсліць толькі апасродкавана, праз спасылку на лексіка-семантычныя палі, паміж якімі існуюць адносіны логіка-прадметнай супастаўляльнасці. Гэтая акалічнасць і вымушае нас звярнуцца да прыроды адрознення паміж прадметна-тэматычнымі групамі і лексіка-семантычнымі палямі.

Як вядома, асновы парадыгматычнай тэорыі поля ў семантыцы былі распрацаваны Й. Трырам і Л. Вайсбергерам у 60-х гадах нашага стагоддзя. З таго часу агульны падыход да пабудавання семантычных палёў прынцыпова не змяніўся, хаця наконт самога паняцця поля выказваліся самыя розныя меркаванні. Для нас важна адзначыць наступныя моманты.

---

[1] Гэты артыкул напісаны пад уплывам і на матэрыяле апошняга на сённяшні дзень у беларускай дыялектнай лексікаграфіі і вельмі своеасаблівага (з шэрагу многіх падобных вопытаў) выдання "Лексіка апрацоўкі льну: тэматычны слоўнік, лексічны атлас"// Т.М. Трухан, Ф.Д. Клімчук. Лексіка апрацоўкі льну: тэматычны слоўнік, лексічны атлас. – Мінск: ВТАА "Права і эканоміка. – 2006 г.

Паміж прадметна-тэматычнай групай і семантычным полем існуюць істотныя адрозненні. Першая прадстаўляе сабой факт экстралінгвістычнай прыроды, інакш кажучы, такое аб'яднанне слоў, на падставе якога нельга выпрацаваць уяўленне пра адзіную семантычную прыкмету, што ў роўнай ступені прысутнічае ў значэннях лексічных адзінак, уваходзячых у гэтае аб'яднанне. Прадметна-тэматычная група рэалізуе ўласцівасць чалавека да сукупнага ўспрымання акаляючага яго свету. Вырашальную ролю тут адыгрывае выражанасць прасторавых, часавых і шматлікіх функцыянальных сувязей, гэта значыць сітуатыўная (а таму экстралінгвістычная) аднароднасць, а лепей, сумяшчальнасць аб'ектаў па адрозных паказчыках.

Напрыклад, для "вытворчай" лексікі (маецца на ўвазе сфера традыцыйных заняткаў) аб'ядноўваючым фактарам з'яўляюцца адносіны да штучнага асяроддзя, якое чалавек фарміруе з прадуктаў уласнай працы, і накіраванасць гэтага асяроддзя на рэалізацыю істотных патрэб чалавека. Адсюль выбягаюць тры важныя характарыстыкі: 1) наяўнасць функцыянальнага кампанента сэнсу ў значэннях слоў з-за прынцыповай функцыянальнасці рэалій, якія гэтымі словамі абазначаны; 2) замкнёнасць семантычных палёў; 3) актуальнасць паняццевых адносін часткі і цэлага, таму што гэтыя адносіны якраз і характарызуюць працэс стварэння прадмета, іншымі словамі, непасрэдна вытворчы аспект.

Адносіны ўнутры семантычнага поля характарызуюцца рода-відавымі сувязямі і, такім чынам, прынцыповай вылучальнасцю родавага наймення, няважна ў якой форме – сінтагматычнай ці ўласна лексічнай. За кошт гэтага лексіка-семантычная група (як канкрэтная рэалізацыя семантычнага поля) валодае рэальнай структурнасцю. Гэта выражаецца ў магчымасці, адмаўляючы катэгарыяльную прыкмету, паслядоўна вылучаць больш вузкія групы лексем, якія апісваюць адпаведна больш вузкія паняццевыя сферы. На канчатковым этапе такога члянення мы атрымаем ці **(1)** строгі тэрміналагічны рад (назвы дрэў, траў, грыбоў), ці **(2)** сінанімічную мікраструктуру. Так, напрыклад, у межах семантычнага поля, якое ўключае дзеясловы, што абазначаюць розныя спосабы перасоўвання, можна вылучыць групу слоў, адпавядаючых паняццю "перасоўвацца пры дапамозе ног", і атрымаць сінанімічны рад <u>ісці</u> - <u>крочыць</u> - <u>ступаць</u>.

Каб пераадолець межы семантычнага групіравання лексікі, дастаткова разам з гіпа-гіперанімічнымі і сінанімічнымі адносінамі рэалізаваць яшчэ і партытыўныя. Сутнасць у тым, што адносіны частка-цэлае ў чыстым выглядзе рэалізуюць прынцып менавіта прадметна-тэматычнага групіравання лексікі. Сапраўды, уяўленне аб частцы ўзнікае толькі ў сувязі з фармальнай і функцыянальнай індывідуальнасцю гэтай часткі ў адносінах да іншых у межах цэлага. Тут праяўляецца сітуатыўная зададзенасць падобнага спосабу арганізацыі лексікі, таму што ў кожным асобным выпадку мы маем знакавы злепак пэўнага аб'екта рэчаіснасці па-за ўсякімі фармальнымі і функцыянальнымі аналогіямі. Такая дыскрэтнасць ніколі не прыводзіць да адэкватнага ўспрымання рэаліі і мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі ўяўленне аб аб'екце ўжо нейкім чынам аформілася.

Перавага супастаўлення як спосаба ўспрымання аб'екта, які падлягае знакавай інтэрпрэтацыі, у тым, што яно абапіраецца на прынцыповую віртуальнасць сэнсавай структуры слова. Пад гэтым трэба разумець тую акалічнасць, што любы семантычны кампанент, які фарміруе значэнне слова, прысутнічае ў значэннях шэрагу лексічных адзінак, складаючых няпэўную множнасць. На прыкладзе семантычных палёў, якія заўсёды будуюцца па адзінай базавай прыкмеце, гэта ілюструецца вельмі пераканаўча. Інакш і быць не можа. Бо абстракцыя (а семантычны кампанент заўсёды абстрактны, прычым у большай ступені, чым семема) нараджаецца ў выніку адцягненага бачання канкрэтнага адзінкавага аб'екта. Яно можа адбыцца, калі сярод акаляючых нас рэчаў мы зможам знайсці аб'екты, супадаючыя з даным па нейкай істотнай для нас прыкмеце ці прыкметах. Менавіта віртуальнасць семы абумоўлівае развіццё значэння слова праз метафару і перанос па функцыі.

Калі звярнуцца да геаметрычных аб'ектаў, поле можна прадставіць у выглядзе радыяльнай структуры з множнасцю сувязей, накіраваных ад цэнтра да перыферыі. На ўзроўні прадметна-тэматычных груп такі тып структурнасці адмаўляецца. Важна адзначыць, што СП, якія выдзяляюцца ў межах асобнай тэматычнай групы, не абавязкова павінны перасякацца. Яны могуць сумяшчацца, запаўняючы адрознымі семантычнымі тоеснасцямі некаторую сітуатыўную галіну. Таму ідэнтыфікаваць ядро прадметна-тэматычнай групы можна шляхам пералічэння менавіта такіх неперасякаючыхся СП, арганізаваных па катэгарыяльна-семантычных адзнаках.

Семантычныя палі інтэгрыруюцца ў межах самых шырокіх прадметна-тэматычных груп лексікі. Гэта значыць, што мы маем справу з двума суіснуючымі ў моўным асяроддзі спосабамі макраструктурнай арганізацыі слоўніка. Яны не адмаўляюць адзін аднаго і, проціпастаўляючыся па шэрагу характарыстык, актыўна паміж сабой узаемадзейнічаюць, што ў канчатковым выніку абумоўлівае іх антынамічнасць.

Такім чынам, можна прапанаваць наступныя апазітыўныя прыкметы для семантычнага поля і прадметна-тэматычнай групы:

| ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНАЯ ГРУПА | СЕМАНТЫЧНАЕ ПОЛЕ |
|---|---|
| 1. Прынцып агульнасці | |
| сітуатыўны (метанімічны), які характарызуецца прасторавай і суб'ектна-аб'ектнай замкнёнасцю | уласна семантычны, паняццевы, які ўзнікае на аснове метафарычных і функцыянальных тоеснасцей |
| 2. Прынцып арганізацыі | |
| агульналагічны, які прадугледжвае множнасць вылучальных прыкмет па прычыне ўсебаковага адлюстравання | агульнасемантычны, які патрабуе адзінай паняццевай прыкметы |

пэўнага фрагмента рэчаіснасці

3. Прынцып структурнасці

| | |
|---|---|
| пачаткова аморфнае ўтварэнне | радыяльна-лінейная макраструктура |

Своеасаблівым фактычным доказам несупярэчлівага суіснавання семантычнага поля і прадметна-тэматычнай групы, а таксама і даволі неадназначных стасункаў паміж імі з'яўляецца строгі тэрміналагічны рад (напрыклад, назвы розных відаў рыб). Па спосабу арганізацыі – гэта палявая структура. А вось па спосабу існавання – тэматычная існасць.

Справа ў тым, што такі тэрміналагічны рад не пераадольвае аднайменнай тэматычнай групы. Больш таго, мяжа паміж строгім тэрміналагічным радам і тэматычнай групай вельмі пранікальная. Дастаткова да сукупнасці відавых найменняў дадаць партытыўныя назвы (у выпадку з рыбамі гэта *хвост, плаўнік, луска* і г.д.) і мы атрымаем прадметна-тэматычнае аб'яднанне слоў. Адсюль вынікае, што сцвярджаць пачатковую аморфнасць тэматычнай групы трэба вельмі асцярожна. Асабліва ў дачыненні да лексікі, звязанай з нейкай вытворчай дзейнасцю.

**2 Алгарытм пабудавання і аналізу "актантнай" тэматычнай групы**

Мы зыходзім з таго, што групіраванне матэрыялу ў тэматычным слоўніку павінна адпавядаць тром патрабаванням: 1) адлюстроўваць спецыфіку рэальных сітуатыўных сувязяў, 2) выразна паказваць на структурна-семантычныя адносіны паміж словамі, 3) рабіць акцэнт на найбольш пашыраных матывацыйных і фармальных структурах. Дасягнуць гэтага, на наш погляд, можна толькі ў тым выпадку, калі ў аснову класіфікацыі пакласці **актантную рамку дзеяслова**. Праўда, такі "разварот" магчымы толькі ў тым выпадку, калі мы маем справу ў большай ступені з пэўным відам дзейнасці і ў меншай ступені – з аб'ектамі, якія ў гэтую дзейнасць уключаны. І ўсе ж, калі такі падыход ажыццявіць, то мы атрымаем з большага ўпарадкаваную тэматычную групоўку слоў з сінтаксічным, прэдыкатыўна арыентаваным прынцыпам структурнасці. Актантная рамка дзеяслова будзе выконваць тут функцыю ўнутранага каркаса, і рабіць гэта не горш, чым рода-відавая сувязь.

На наш погляд, лексіка апрацоўкі льну дае нам магчымасць правесці падобнае тэматычнае групіраванне.

У выніку несупярэчліва вылучаюцца наступныя класіфікацыйныя групы.

1. Базавая – назвы тытульнага аб'екта (у структуры тэматычнай групы гэтыя назвы выконваюць ролю "дзейніка"; у нашым выпадку гэта словы, якія прадстаўляюць і характарызуюць лен: *лён, доўжык, даўгунец, велічок, нізкарослы* і г.д.) і назвы дзеянняў/працэсаў, што маюць месца пры апрацоўцы льну: *браць, вязаць, абіваць, слаць, вылежвацца, падымаць, сушыць, мяць/церці, трапаць, часаць, прасці*. Як бачым, рад атрымоўваецца не вельмі вялікі. Менавіта гэтыя намінацыі павінны стаць тытульнымі ў адпаведных слоўнікавых артыкулах. Уся

астатняя ад'ектыўная і субстантыўная лексіка (прылады, аб'екты, вынікі дзеянняў, у тым ліку якасныя характарыстыкі) размяркоўваецца, за выключэннем партытыўных намінацый, па гэтых артыкулах.

2. Аб'ектная. Сюды ўваходзяць назвы апрацаванага льну, адыходаў пасля апрацоўкі (*па́чассе*, *па́кулле, ку́кла, кужо́лка, поло́йка* і г.д.)

3. Інструментальная – назвы прылад і прыстасаванняў (*мя́ліца, трапа́шка, грэ́бень, ёўня* і г.д.).

4. Суб'ектная – назвы асоб па роду іх дзейнасці (*трапач* 'мужчына, які апрацоўвае лён трапашкай' *пралля* 'жанчына, якая прадзе').

5. Прасторава-часавая – назвы месца і часу дзеяння (*мачулішча* 'месца, дзе вымочваюць лён', *сцелішча* 'месца, дзе вылежваўся лён', *вячо́ркі/на́начкі/насу́прадкі/папраду́хі* 'зборы вясковых жанчын і дзяўчат, у час якіх прадуць кудзелю' і г.д.

Каб паказаць анамасіялагічныя стасункі паміж лексічнымі адзінкамі, ёсць сэнс будаваць слоўнікавы артыкул па гнездавым прынцыпе. Гэта дасць магчымасць адлюстраваць адну сутнастную акалічнасць, звязаную са структурай вывучаемай тэрміналагічнай групы. Справа заключаецца ў тым, што лексіка ткацтва, з назватворчага пункту гледжання, мае пераважную прэдыкатыўную матываванасць. Намінацыйную базу, такім чынам, складае група невытворных дзеясловаў, якія вычарпальна прадстаўляюць усе працэсы, звязаныя з апрацоўкай льну і ткацтвам. Большая частка субстантыўнай лексікі утворана ад базавых дзеясловаў па рэгулярных афіксальных мадэлях, што абумоўлівае шырокую словаўтваральную варыянтнасць такіх назоўнікаў. Пры гэтым неаддзеяслоўныя ўтварэнні, а таксама тыя, што страцілі актуальную прэдыкатыўную матывацыю, з'яўляюцца найбольш цікавымі прыватнымі выпадкамі для анамасіялагічнага і лінгвагеаграфічнага аналізу. Цікавымі ў тым аспекце, што менавіта яны адлюстроўваюць ступені далейшай свабоды ў назватворчым выбары. Гэтая акалічнасць абумоўлівае іх асобнае палажэнне ў межах гнездавога слоўнікавага артыкула – у выглядзе рэзюмаваных радкоў "Іншыя назвы".

Прынцыповы момант: партытыўныя найменні (часткі чаго-небудзь) застаюцца па-за межамі актантнага корпусу і складаюць асобныя рэферэнтныя групы.

## 3 Прыклад слоўнікавага артыкула на базе актантнай рамкі дзеяслова

### МЯЦЬ

Пераціраць, рабіць лён мякчэйшым

***мяць*** незак. – паўн.-усх.д., сярэдн. – бел. г., Кобр., Стол., Нара́ўл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ХБД, Мат. апыт.) **на**-*мя́ць*, зак. – Краснап. (Бялькевіч); **вы**-*мяць*, зак. – Астр., Вілен. р. (СПЗБ); **вы**-*міна́ць*, незак. – Маладз. (СЦБ); *мя́ліць*, незак. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), **на**- *мя́ліць*, зак. – Мядз. (СЦБ); *мя́ндліць*, незак. – Гродз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ); ***це́рці*** незак. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., зах.-пал. г., Паст., Клім. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ХБД, Мат. апыт.), **вы**- *ціра́ць* незак. – Дзярж. (СЦБ), **па-вы-***ціраць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ).

Пра лён: пазбаўлены пругкасці, цвёрдых пругкіх частак

*мя-т-ы* прым. – паўн.-усх.д., сярэд.-бел. г., Кобр., Жытк. (ЛАБНГ), **з-***мя-т-ы* прым. – Глыб., Віл., Раг. (ЛАБНГ), *цёр-т-ы* прым. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., паўднёвы захад Брэстчыны (ЛАБНГ, СПЗБ), **с-***цёр-т-ы* прым. – Карэл., Ваўк., Кобр. (ЛАБНГ), **вы**-*цяр-т-ы* прым. – Іўеў., Бераст. (ЛАБНГ), **па–***цёрты* прым. – зах.-пал. г., Маз. (ЛАБНГ).

Прылада, якой ***мнуць/труць*** лён, каноплі

*мял-к-а* ж., *мял-ачк-а* ж. памянш. – паўн.-усх. д., Драг., Жытк., Ельск., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ХБД, ЛП, Мат. Гом., Бялькевіч, Мат. апыт.), *мял-**іц-а***, ж. - паўн.-усх.д., сярэдн. – бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЖНСл., Сл. Гродз., Бялькевіч, Каспяровіч, Сцяцко, Мат. апыт.); *мялл – **іц** –а*, ж. – Краснап., Касц. (ЛАБНГ, Бялькевіч); *мяль-**ніц**-а*, ж. паўн.-зах. з., Мін., Краснап., Лельч., Ельск, Нараўл. (ЛАБНГ, ЛБ, ЖС, Мат. Гом.,Бялькевіч); *мядл –**іц**-а*, ж. – Беластоц. р. (СПЗБ); *мял – **к**- а*, ж. – паўн. – усх. д., Драг., Жытк., Ельск., Вілен. р; *цер-ніц-а* ж. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ТС, ЖНСл., Шатэрнік, Кучук).

Іншыя назвы для **мяць/церці**:

*дзерці* незак. – Барыс. (СЦБ), *лужджыць* незак. – Воран. (СПЗБ), *дарыняць* незак., *дарняць* незак. – Воран. (СПЗБ), *клешчыць*, незак. – Зэльв. (Сцяцко), *чаўкаць*, незак. – Мёр. (СПЗБ), *ламаць*, незак. – Гродз., Навагр., Лаг. (СЦБ, Мат.Гродз.), *жвакаць*, незак. адм. – Лаг. (СЦБ).

Іншыя назвы для **мяліца**:

*ляшчотка*, ж. – Чав. (ЛАБНГ), *кляшчотка*, ж. – Карм., Ветк. (Мат. Гом.), *трашчотка,* м. – Клім. (ЛАБНГ), *тынёнка*, ж. – Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *скрабатуха*, ж. – Гом. (Мат. Гом), *двохбёлка* ж.– Карм. (ЛАБНГ), *стаўбец* м. – Маст. (Сл. Гродз.).

**4 Вывады**

Першая задача, якая на наш погляд вырашаецца такім спосабам групіравання слоўнікавага матэрыялу, — акцэнтаваць увагу на разнастайнасць матывацыйных варыянтаў, што адмаўляюць базавую анамасіялагічную мадэль. Анамасіялагічныя варыянты – рознакаранёвыя словы, якія па гэтай прычыне, як правіла, адлюстроўваюць адрозныя матывацыйныя прыкметы, напрыклад: ‘скрутак лёну, апрацаванага на грэбені’ *кукла – скрутак – павесма – бунт* ці *жменя – павесма,* ці *жменя – ручэйка,* ці *кукла – бунт*.

Наяўнасць падобных апазіцыйных утварэнняў у ткацкай лексіцы мае істотную лінгвагеаграфічную асаблівасць. Яны адлюстроўваюць дынаміку ўнутрыдыялектнага руху і паказваюць на межы і агульныя асаблівасці тэрытарыяльнага падзелу беларускіх народных гаворак. Найбольш відавочна гэта люструецца дзеясловамі. Так, напрыклад, пашырэнне *трасіць* ‘звіваць (пра ніткі)’ адзначаецца ў межах асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы, *дваіць* – характарызуе Палескую групу гаворак; *спушчаць* замест *віць* ‘пра

вяроўкі' маркіруе заходнюю групу гаворак, *абдзіраць* замест *часаць* 'пра лён' – паўднёвую групу. У паўночна-заходняй зоне ў значэнні 'вярцець кудзелю на прадзіва' ўжываецца *чыніць*, ва ўсходняй зоне – *вярцець*.

Задача другая – стварыць передумовы для стратыфікацыі працэсаў па іх сітуацыйнай значнасці. Сітуацыйная значнасць складаецца з комплексу тэматычна арыентаваных характарыстык: працаёмкасць, нетрывіяльныя ўменні, працягласць у часе, інструментальная суправаджальнасць. На ўласна моўным узроўні сітуацыйная значнасць адбіваецца на развітасці актантнай рамкі дзеяслова. Сузалежнасць тут прамая: больш значнае дзеянне/працэс фарміруе больш развітую актантную рамку.

Задача трэцяя – правесці дыферэнцыяцыю намінацыйных актантных падгруп па ступені разнастайнасці матывацыйных мадэляў, у тым ліку і па значнасці матывацыйных прыкмет працэсуальнага тыпу.

*А.А. Босак*

## НЮРА

*Дадзеная замалёўка прыводзяцца на верхняясельдскай гаворцы, якая адносіцца да сярэднябрэсцкіх гаворак, пашыраных на сумежжы заходнепалескіх гаворак і гаворак асноўнага масіву беларускай мовы. Верхняясельдскія гаворкі бытуюць ў цэнтральнай, усходняй і паўднёва-усходняй частках Пружанскага раёна, а таксама ў цэнтральнай і паўночна-заходняй частках Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці Беларусі* [1–5].

Ра́досная ўбе́гла Нюра ў ха́ту. Сэ́рцэ ее́ мо́цно бі́лосо, ёй так хоце́лосо хучэ́й росказа́ці ўсэ́ ма́мі.

– Ма́мо, ма́мо, – закрыча́ла вона́. Але́ ніхто́ нэ одзыва́ўса. Вона́ вы́бэгла на двор, але́ і там ніко́го нэ нашла́. “Мо́жэ ма́ма пошла́ до суседкі”, поду́мала Нюра і зайняла́са своі́мі ўро́камі. Ішо́ў час, ужэ́ надыхо́дзіла ноч. А ма́мы ўсэ́ нэ было́. Нюры ста́ло стра́шно, у ее́ покоці́ліса слёзы. Вона́ нэ зна́ла, шо ёй робі́ці. До ко́го ёй іці́?

Нюра вы́глянула ў окно́, у ніко́го ў хата́х нэ было́ све́ту. Усе́ людзі леглі́ ўжэ́ спа́ці. А вона́ так і просэдзе́ла ўсю ноч, жду́чы ма́му. Але́ ма́ма нэ прышла́.

Ра́нэнько ўсі́х дэтэ́й матэрэ́ отпра́вілі ў шко́лу, а Нюра оста́ласа до́ма. З но́чное зме́ны до́лжэн быў прые́хаці та́то. Мо́жэ та́то зна́е, дзе ма́ма. Нюра сэдзе́ла ко́ло окна́ і нэ спуска́ла очу́ з доро́гі.

Чэ́рэз нэкото́ры час ко́ло ха́ты ста́ла машы́на. З машы́ны вылез та́то, але́ як ча́сто быва́е – п’я́ны. Вон зашо́ў у ха́ту, звалі́ўса на дзіва́н і засну́ў. Нюры ста́ло го́рко і обі́дно, вона́ запла́кала і вы́бэгла з ха́ты. Побе́гла до суседоў з сво́ею бэдо́ю. Оббе́гаўшы ўсэ́ сэло́, Нюра ўсё ж такі́ вы́ясніла, дзе была́ ее́ ма́ма. Од того́, шо вона́ почу́ла, у ее́ подкосі́ліса но́гі. Нюра бе́гла додо́му, ніко́го і нічо́го круго́м сэбэ́ нэ ба́чыла, вона́ оно́ чу́ла однэ́: “Ва́ша ма́ці покі́нула вас і пошла́ жы́ці до друго́го дзя́дзька”. Нюра прыбе́гла додо́му, упа́ла на ло́жок і го́рко запла́кала.

З гэ́того ча́су Нюры прышло́са вэ́льмі ця́жко. Усэ́ легло́ на ее́ пле́чы. Ра́но вона́ ўстава́ла, упраўля́ла скоці́ну, вары́ла е́сці і ішла́ ў шко́лу. Прышэ́ўшы со шко́лы, у ее́ было́ то́жэ мно́го робо́ты. Нюру хоце́лі забра́ці ў інтэрна́т, але вона́ одказа́ласа. Так і жыла́ тры го́ды, бу́дучы сама́ собе́ господы́нею. Нюра і ў учо́бі до́брэ спраўля́ласа, а по́слі шко́лы вона́ поступі́ла ў інсціту́т. Тут почала́са для ее́ зусі́м друга́я жызнь. Але́ ўсё ро́ўно свой дом і та́ту вона́ нэ забыва́ласа, прыезджа́ла на выходны́е.

Одзі́н раз вона́ е́хала додо́му і … уба́чыла ма́му. Нюры хоце́лоса кры́кнуці “ма́мо”, але́ не́шо ее́ нэ пуска́ло, ёй каза́лосо, шо ў ее́ одняло́ мо́ву. Нюры хоце́лоса, коб ма́ма оба́чыла ее́, подышла́ і попыта́ла, як вона́ жывэ́. Ёй хоце́лосо так мно́го попыта́ці ў ее́ і так мно́го росказа́ці ёй. Не́шо подштурхну́ло ее́ і вона́ подбе́гла до ма́мы. Воны́ до́ўго стоялі, гле́дзячы одна́ на одну́, і нэ вы́мовілі ні сло́ва. Пото́м ма́ма одва́жыласа і обняла́ Нюру, воны́ обо́е го́рко запла́калі…

## Літаратура


1. Босак А.А. Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над’ясельдзя: дыс. … канд. філ. навук (рукапіс): 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі, 2006. – 257 с.
2. Босак А.А., Босак В.М. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над’ясельдзя). Фанетыка і марфалогія. – Мн.: УП “ІВЦ Мінфіна”, 2005. – 94 с.
3. Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. – Мн.: Навука і тэхніка, 1983. – 127 с.
4. Крывіцкі А.А. Дыялекталогія беларускай мовы. – Мн.: Выш. шк., 2003. – 294 с.
5. Леванцэвіч Л.В. Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна: дыс. … канд. філ. навук (рукапіс): 10.02.01. – Мн.: Інстытут мовазнаўства АН Беларусі, 1996. – 291 с.

*Н.М. Бунько, Ю.В. Маліцкі*

# ВАКОЛ СЯЛЯНСКАЙ СЯДЗІБЫ: З ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗВЯГІ ГАРАДОЦКАГА РАЁНА

*Тэкст запісаны ад Качанавай Валянціны Антонаўны 1932 г.н. – карэннай жыхаркі вёскі Звягі Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Матэрыял, запісаны з яе слоў, падаецца нам вельмі цікавым і самабытным. Ён выразна адлюстроўвае асаблівасці добра арганізаванага, змястоўнага вуснага маўлення. Неапошнюю ролю ў выбары менавіта гэтага матэрыялу адыгрывае тая акалічнасць, што ён прысвечаны асноўным відам "хатняй вясковай вытворчасці".*

*Вёска Звягі знаходзіцца ў 30 км на паўночны ўсход ад Гарадка. На адміністрацыйнай карце яна не абазначана, бо спачатку ўваходзіла ў склад вялікай вёскі Рамні (Ремні). З цягам часу жыхары гэтай часткі Рамнёў пачалі жыць асобна, узнікла і назва новай вёскі – Звягі.*

## Лён

Я ўме́ю лён се́яць. Че́ряз плячо́ – вядро́, насы́пліш сюды́ з мішка́ і пашо́ў се́іць. Мы ляшы́лі. Ляшы́ць ета што. Вот іду́т тры, чаты́рі, пяць старіко́ў рядко́м, у плячо́. На́да ў дзве жме́ні: раз во сюды́ кі́ніш, раз во сюды́. І сле́дуюшчій так. А кала́ пасле́дняга, што б знаць даку́да пасе́яна, прыме́рна іду́ я – дзяўчо́нка там ці мальчы́шка каке́й. Ідзе́ць ря́дам, ідзе́ць і нагу́ вот так ця́ніць, штоб смуга́ была́, штоб было́ віда́ць. Тады́ е́тат ряд ко́нчылі, пасе́ілі, яшчо́ вот так захо́дзюць, абра́тна так стано́вюцца – вот так і се́юць. По́тым узы́дзіць, вы́расціць. Барану́юць апяць на лю́дзях. Пало́лі, ідзём у каке́й фарту́х траву́ е́ту, а тады́ аднесе́ш дзе-нібу́дзь кі́ніш, мо́жа дзе пусто́е, мо́жа дзе кусто́к там, дзе ка́мень – туды́ траву́ сабіра́ім. Тады́ лён брацць і́лі ціребі́ць. Лён ціре́бюць і́лі збіра́юць. Набіре́ш-набіре́ш, а тады́ свя́жыш ільно́м-звязка́й. Закру́ціш, і во сюды́ паддзе́ніш і заця́ніш. І называ́лася е́та ручэ́шка, ручэ́шачка – звя́зана акура́тненька, тут усё ро́ўненька і кладзе́ш, і кладзе́ш, і кладзе́ш. А пато́м ідзе́ш – накла́дзен ряд – і вот так адна́ к аднэй, адна́ к аднэй, з е́тай сто́раны ста́віш і з е́тай ста́віш. Тады́ со́хніць, вы́сахніць. Быва́ла, што і дожч захва́ціць – нічо́га, высах – убіра́юць. Дзе-нібу́дзь зва́жываюць, калі́ како́е памішчэ́ніе. А тады́ пра́йнік з дравіны. Драві́ну вы́цешыш і дзе́лыіш пра́йнік. Яе́ вот так прарэ́жыш і дзе́лыіш, штоб ру́чка была́, а тады́ ее апціре́біш, абдзе́лыіш – ну ру́чка така́я, харашо́ ўзя́цца руко́й. А е́та, штоб пло́ская была́, нападо́бе даска́, но таўсце́й, даско́й не малаці́лі. І вот тады́ кладу́ць на даску́ е́ту ручэ́шачку. Даску́ – на што-небу́дзь, хоць на палу́. І мало́ціш. Патресе́ш – се́мя вы́саплецца на пол і́лі разгрябу́ць, здзе́лаюць таке́й, как называ́ўся, ток, плашча́дку таку́ю. Здзе́лаюць чысценька і заталке́ш ее нага́м, штоб было́ пло́тна. Тады́ сабіра́юць, дыля́ць, штоб яно́ было́ чысценькае, на ве́цер: ачышча́юць, ве́трацць. Мякі́на е́та адліта́іць, яно́ цяжо́лінькае, сы́плецца сі́льна харашо́ прыме́рна ва што-небу́дзь. Се́мя е́та берягу́ць, штоб на сле́дуюшчій

нехта нараіў туда з'ездзіць к ім, што чужым трудом не эксплуаціраваў. Бацька кавалём рабіў, малацілка была, пылам душыўся, ён памёр у шэйсят два гады, малады. Паехаў ён туда ў Мінск, там яму наралі напісаць заяўленне, і каб дзевяноста чалавек падпісалася, што дзіствіцельна ты чужым трудом не эксплуаціруеш. Бацька пахадзіў, напісалі яму заяўленне, ён няграматны быў. Пахадзіў, падпісаліся людзі ўсе. Падалі тое заяўленне туда ў Мінск, і знялі з бацькі ўсё гэта. А былі ўжо давялі да таго, што даже заціркі не было з чаго [зварыць]. З сельсавета прышлюць бумажку, ты должан столькі і толькі таго здаць – як мучылі людзей тады.

У нас не параскулачвалі. Быў во тут у Вайнілаве калхоз. Вось яны пашлі ў той калхоз. А наш бацька ні пашоў у калхоз. Тры гады ў нас ні было калхоза, а там быў калхоз. Вот сёлета тут сеялі ўсе жыта пад адно поле, узаралі людзі, навоза панавозілі, усё падгатовілі. Калхоз прыяжжае, засее ўсё гэта поле, а тады дае дзе-та на полі другое гэтым калхознікам. А людзі плачуць, а людзі клянуць. А бацька мой сказаў: лепей паеду на выселку, а не пайду ў калхоз первы, вот у калхоз хай запішацца тры чалавекі, я чацвёрты пішуся. А ў нас у бацькі хата была бальшая, новая. Калі які сход, сабранне, ні пыталі, ці ты пусціш сабраніе эта. Прыходзяць, у акно стукаюць, а тады ш свету не было, самі лампу палюць, усё сяло людзей збіраюць. Вот я малая была, усё запаміналa. А патом запісалася [у калгас] нескулькі чалавек і бацька пашоў. У нас была кабыла і жарабё было, двое коней, дык у калхоз пааддавалі А сколькі людзі плакалі па конях...

***

Было мне васемнаццаць год, паехала ў Смалявічы на торфзавод. Тады ш ні было ў што прыбрацца, дык які я яшчэ была чалавек у васемнаццаць год, Два гады ў Чэрвені на торфзаводзе рабіла, а патом перакінулі ў лес падразаць во гэтыя жалабкі, і вайна застала. У мяне быў хлопец, абешчалі адно аднаму, што ждаць буду яго. Вайна стала, ён пагіб. Я тады ў дзярэўні пайшла ў вайну за другога, гэты быў тожа харошы. Вот прышлі красныя, пашоў – і гэты пагіб. А патом я была тут чатыры гады ў свякрухі. Брат у міне пагіб на фронце, братаву жонку разарвала міна, асталося двое дзяцей, аднаму тры гады, другому – пяць. Тыя дзеткі гадавалі мы два гады. Яны паўміралі абое, адно за адным. Тады ж дахтароў ні было ў вайну, шкарляціна, ці адзёр, быў, шмат дзяцей у дзярэўні паўмірала. Ездзіла я далёка карову купляць у вайну. Гэта было ў Маладзечына, Шмяны дзярэўня, вон там. І ў Піліпаўку зімой у лапцях, не было ш чаго на ногі абуць. Я радзі гэтых дзяцей паехала карову купляць. У міне дзяцей не было. Ну патом гэтыя дзеці дзве нядзелі пабылі і паўміралі. Свёкар памёр, бацька яго. Засталася адна са свякрухаю, яна прасіла, каб яе ня кідала, адна была, я пашкадавала. У яе адзін сын быў у пляну, нявестка жыла ў Захараўцы, яна і ціпер тут жыве, і што я пашла, чатыры гады прарабіла, зямля свая была, ніхто снапка ні нажаў. Я пашла адтуль абіджаная.

Як адтуль я пашла, загадалі мне судзіцца за тую карову, я судзілася, са свякрухаю. Ну што, пашлі на суд, іх папрыходзіла шмат, а я ш яе купляла за сваё за ўсё, яны захацелі тэя каровы. Быў Малевіч суддзём, мы з брацікай пасядзелі ў калідоры, мяне даже суддзя ня вызваў, дзе я купляла, што я аддавала. Патом после суда прыехаў брат, ён быў яшчэ ў арміі. Я хацела іцці з ім узяць рашэнне суда, каб мне хоць зямлі далі, сотак трыццаць якіх. Як жа жыць, прышла к брату назад. Ён,

брат, мяне не пусціў іцці, кажа: ты там будзеш брахаць, не́рвіцца. Брат у штабе рабіў, ён прыехаў у водпуск, у яго наган быў з сабою, недзе ля граніцы быў. Ён пашоў адзін узяць рашэнне суда. Ну што гэты суддзя сказаў. Ён кажа: зачэм ты так судзіў, чаму ты ня вызваў? Тады ён [суддзя] так сказаў: падавайце ў Мінск на перасуджэнне, вы сваё адсудзіце ўсё. Яны мне, тады голад быў, прывезлі шэсць пудоў хлеба, каб я ім усё прысудзіў, а ціпер вы, кажа, адсудзіця. А брат сказаў так: што наш бацька век не судзіўся і нам не вялеў. А тады кажа: свінец у лоб даць, я б не атвячаў за такое. Ужо ім захацелася чужыя слёзы піць, чужое есці. Мне цялё прысудзілі, а ім карову.

А тут шчэ была кума ў мяне адна, яна ў мяне семера дзяцей хрысціла, а во тут саседка была, дваюрадная сястра і я ў яе чацвёра. Мне далі трыццаць дзве соткі, а з трыццаці дзвёх асталося дваццаць сем. Я б то з імі ругалася, што кожны год о па столькі зямлі ўзаруць, і асталося дваццаць сем сотак. Кажу брату, Іван, ну ты б пагаманіў, ну чаго яны лезуць, усё ш такі і града трэба. Ну а мне сястра давала грады рабіць ў сваім гародзі, тут ня было дзе. Ён кажа: хай хоць да самага парога ўзаруць, за зямлю я ругацца ня буду і табе не разрашаю, штоб ты не слова. І дружылі, з гэтай добра гаманілі, а эта яшчэ і кума была, ні ругаліся, ні з кім я ні ругалася. Так мірна жы́лі, што нас звалі “жыды”, што дружылі, ніколі ні ругаліся, а жыды, кажуць, ня ругаюцца. Дзержановіч фамілія была, Дзержаны – гэта жыды, кажуць.

***

На Каляды нейкае выдумлялі. “Грышча” тады казалі. Маладзёж збіралася, хлопцы гарэлку збіралі, а дзеўкі – закускі. Вот такія танцы бы́лі! Ну вечарынкі кажны дзень былі, былі музыканты, многа было́ маладзёжы. Сёння табе вочарадзь найці хату, лажыся, а штоб было гуляць. Усё сяло пройдзеш просячы. Хадзілі так па хатах, у каго свая вялікая. А нас было трыццаць дзевак, такіх як я, усіх. Кавалераў у міне было вышай галавы. Ну я з імі не займала, не патхадзі дажа, з вічарынкі чуствую, што будзе вайна ля варот: яны збяруцца і тады адзін з адным водзяцца. А тады было часта ў адных гулялі, у тую хату пабягу, папрашу таго хазяіна аткрыць мне вакно, ён аткрые, я ўцяку з вічарынкі.

Я ўжо ўдавой асталася і на Новы год гадалі. Вот сабраліся к адной, напяклі аладак, паклалі на парог і сабаку звалі, чыю ладку ўперад возьме – тая ўперад замуж пойдзе. Во якое гаданне было. А патом пад кружкі, пад стаканы клалі там, што дзе хто возьме. І палажылі ляльку, я ўдавою была і трэба было падняць тую кружку. Гэта кажуць, бэ́нсю родзіш, дык я за галаву хапілася ды кажу: дзеўкі, такога ня будзе, не. Бэ́нся – гэта дзеўка, калі не замужам забярэмняе і родзіць, гэтак бансю́к называлі, байстру́к. Тады ўсе ў ладкі запляскалі, зарагаталі: Ганачка, не радзіла дзеўкаю, удавою родзіш. Кажу, такога ня будзе, а тады, як салдаты, стаяў на кварціры Сімане́нка эты, дык во, эта дзіствіцельна праўда.

***

Тады ўжо прыехалі салдаты тут. Гэты самы Сімане́нка быў, старшы быў, ён хадзіў па сялу, расстаўляў іх дзе на кварціру. А к нам зайшоў у хату, мы з брацііхаю былі ўдзвёх, мамы дома не было. Ён крутануўся, улыбнуўся і пашоў, я – кажа, патом прыду к вам. Ну добра, прыдзеш, прыдзеш. Тады прыходзе з чамаданчыкам і другога яшчэ салдата прыводзіць і кажа, мы будам у вас на кварціры. І што вы думаеце ў кварціры этай дзелалі?.. Дваццаць фтарога януара – дзевачка, а ён яшчэ

год служыў у арміі. Прыехаў, а тады думалі на Украіну ехаць, а там ездзіў, паглядзеў, голад быў, не было дзе. Ён тут прыехаў, сеў на трактар рабіць, нам купілі старэнькую хатку, тут во паставілі на вуліцы і мы жылі. А патом адбудаваліся як, і семера дзяцей. І карову дзяржала і свіння, усю скаціну дзяржала, я была мала́я, ну крэпкая. На дзяцей абіды німа, харошыя ўсе, не скажу, што плахія. А ўнукаў наскіда́лі былі, усе хлопцы і зяць паехалі ў Сібір на заработкі: адзін двое прывёз, другі – двое, адзін тожа аднаго прывёз, адзін сын у Га́нцавічах жыве – і той прывёз. Семера дзяцей, так я вам кажу. Я і шыць умела, я і вязаць. Авечкі дзяржала, прала, вязала платкі, вязала шарфы, насіла на базар прадаваць, бо трудна было дзяцей гадаваць.

Дзе во пойдам на работу ў калхоз, ну ўсе бабы, што паасталіся ўдовамі, мужыкоў пабілі. Толькі адна прымака ўзяла сабе, дык усе мне завідавалі. Ён на матацыкле ездзіў, матацыкал з каляскай у яго быў. Мне куда трэба, у Чэрвень, ён паедзе, нарад раздасць, мяне ў Чэрвень завязе. Тады прыедзе, у ягады нас завязе з суседкай, а ўвечары скажа, у сколькі прыедзе, нас прывязе. Быў очань харошы. Ну завідавалі ўсе, што мне павязло. Ён быў малады, красівы.

Вот калі дачку замуж аддавалі большую, папрыяжжалі дзяцька і свякруха, маці яго, сёстра, дваюрадныя браты, сем чалавек прыяжжала з Украіны. Ну і мы зрабілі тут стол, а мы сядзелі пелі, бывала збяромся бабы і пачынаем пець. Дзяцька яго тады кажа: папрасі Аню, хай яна нам папяе, мне очань панравілася. Ну што, мне стыдна было, а што мне пець. А маці тады яго казала, што ўдаву не нада браць. Памрэш, на том свеце адзін будзеш, яна пойдзе к мужыку. Во так свякруха казала, гэта ён мне расказываў, ён кажа, гэта твае бабушкіны сказкі. А я ім якую песню:

Па-за логам зеляненькім
Брала ўдова лён драбненькі.
А набрала, выбірала,
Тонкі голас падавала.
Там Васілёк сена косіць,
Тонкі голас пераносіць.
Кінуў косу на травінку,
А сам пайшоў да даменьку.
Выйшла маці з комнаты,
Давай Васіля пытаці,
Чаго Васька зажурыўся,
На дубовы стол схіліўся,
Чаму, Васька, ні п’еш, ні гуляеш.
Пазволь, маці, удову браці,
Тады буду пець, гуляці.
Не пазволю ўдову браці,
Удова ўмее чараваці.
Счаравала мужа свайго
І счаруе сына майго.
А я чараў не баюся
І на ўдове ажанюся.

Вот я ім эту песню спела, а болей прасілі, я заплакала і пашла.

***

Яно як лечыш на вадзе, еслі тая балезня не даецца табе прагаварыць (той, хто лечыць, хаўкае, пазяхае), усё, знай, дзіствіцельна эта хвароба.

Вот ад пужання:

Шла найсвенча матачка Госпада Бога прасіць (на імя) пужання лячыць. Выгаварывала з галавы, з плячэй, з грудзей, з рук, з жывата, з ног. Дзярное, начное, земляное, прыпадное. Выгавару чорну воласу, рудава воласу, чорнага воласу, рудага воласу. Прашу гадавога празнічка, ні гадавога, вялікага і малога, пужанне лячыць, прашу рэк і рэчак, вялікіх і малых, пужанне выгаварыць, прашу балот і балота, вялікага і малога, пужанне выгаварыць. Госпад Бог на помач, найсенча матка. Гэта трэба трэйчы.

Ад залатніка:

Шла найсвенча матачка з залатым кіёчкам, з апосталам Госпада Бога прасіць (імя) залатнічок лячыць.Выгаварывала з галавы, з плячэй, з грудзей, з рук, з жывата, з ног. Дзярное, начное, земляное, прыпадное. Выгавару чорну воласу, рудава воласу, чорнага воласу, рудага воласу. Прашу гадавога празнічка, ні гадавога, вялікага і малога. Шла найсвенча матачка з залатым кіёчкам Госпада Бога прасіць Залатнічок лячыць. Найсвенча матачка раджала, кроў разлíвала, залатнічкі састаўляла. Залатнічок, святы ражок, састаўляю я цябе на сваё ме́сцечку, на залатым крэслечку, Госпад Бог на помач найсвенчай маткай удзвюх.

Шла найсвенча матачка Госпада Бога прасіць (імя) увярок лячыць. Увярок – прашу Бога ўпярод. Шла найсвенча матачка белы камень падняці, госпада Бога на помач паслаці. Трэйчы.

*Л.П. Кунцэвіч, Т.М. Трухан*

# ТЭКСТЫ СА СМАЛЯВІЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Шагойка Лідзія Аляксандраўна,*** *1914 г.н.; запіс зроблены ў 2005 г. у г. Смалявічы.*

Я тут радзілася з чатырнаццатага году. Тут маі радзіцелі жылі, ацец і маць. Ацец мой з Каменкі, ён быў у прымах. Раньша ж земля была, а патом калхоз у трыццатым годзе. Было многа дзяцей у нас, сем дзяцей было ў нас. Усе паўміралі, а я засталася. Дзесяцін дзесяць была зямля, наверна, у трыццаці кусках, у такіх палосках. Усюды палосачкі былі. Раньша ў нас тут участак быў трыццаць сотак, патом атрэзалі, а патом там адну баню зрабілі, патом каналізацыю, ой, цяжка жылося.

Мае бацькі дзяржалі каня, карову, авец і свінні. Як была зямля, усё рабілі на зямлі: і жалі, і грэблі – усё на свеце. А патом у школу хадзіла. Я кончыла сем класаў і патом яшчэ год вучылася педагогам. Прывыкла нек тут к Смалявічам, а там была такая дзіч, глуш. Ні захацела. Ну а патом пашла на пошту работала і ўборшчыцай, і санітаркай у бальніцы. Былі двое дзяцей. Яны ў Мінске.

***

У вайну я была ў дзярэўні. Ой, не дай Бог, каб не відзець этай вайны. Пазабіралі мужыкоў на вайну, дык у плуга ўпрагаліся самі і аралі. У мяне ятроўка была – усе разам жылі. Усіх мужыкоў пабралі. Залоўка пашла была замуж дальшо, сем кілометраў, мужыка не было, тожа к мацеры вярнулася. Адны ўдовы бабы.

Прыйшлі немцы, а немцы недалёка, вот Бярозавец, вы знаеце, тут астаноўка, тут быў дзот нямецкі. Яны прышлі і с сабакамі там іскаць чагосьці. Сабака нашоў тут кофтачку, што на смерць, – не забралі. Страшна была, сколька раз выводзілі нас.

У іх быў сарай, а ў маіх гумна такога не было. Мы як сеялі, так салому свякруха ў свайго брата складвала. І вот аднажды наехалі етыя немцы, але гэта дажа не немцы, а хахлы, гэтыя, як іх, – бандэры. Мая свякруха гаворыць:"Ідзі, дзетачка, адкрый дзверы". Там нічога няма, снапы гэтыя, салома. Рыліся яны, рыліся. Ніхто там ні начаваў. А, парцізаны тут хаваліся! Да мяне на вуліцу стрэляць. Сколька раз мы пад кулямі стаялі.

Немца аднажды схвацілі. Прышоў немец мяняць. Баяліся, прыйдзе с сабакам: "Можна памяняць?" Хоча там яйцо яму дай ці што. Бывала прыйдзе ў хату, мы скарэй старую на краваць ложам, ой пан, – ціф! А патом зімой прышоў, схвацілі таго немца. Зімой, снег. Куды дзець? Зараз нас тут усіх папаляць і падушаць. Давалі каня там нейкага ўжэ дохлага па нядзеле ці па дзве. Адзін накорміць, а чым яго карміць? Там якую-то палоску пахаць. Якраз у ту-то нядзелю той конь быў у нас. Там мяшок нейкай быў ржы. І дзяцей мы ўсіх пасадзілі. Паехалі ў Калюшкі, хаваць далей. Прыехалі ў Калюшкі, а ў Калюшках гэтых тожа ўцякаюць. Тут жа блізка. З Калюжак – у Ліку, там тожа паніка. Хто паўцікаў, дзе хто астаўся. Старуха асталася дома. Немцы прышлі, дык не спалілі хату. Яны спрашываюць – дзе? Яна гаворыць, хто мо ў бальніцы, нявестка к мацеры пашла, туды-сюды расказала. А чаму адна?

Ну, я адна, усе парасхадзіліся – там на работу, туды-сюды. Хто быў дома, тых не спалілі, а каго не было – палілі, не дай Божа, што страшна было.

***

Лушпейны сушылі картафляныя. Сушым, а тады ў ступе таўчом. А тады ад грэчкі гэтыя шалупінні. У там сасед есць – дзед стары, так ён гавора: “Мае бабачкі, есці дык яшчэ нічога, прасціце за выражэніе, але як за хлеў, дык баішся, каб жопа не патрэскалася”.

***

Смаленскія ў нас бежанцы, тожа прыехалі. Так вы знаеце, елі гэты ўсе грыбы, не было гэтых воўчых, сабіралі, але доўга варылі, елі, усё елі. Картошка гнілая. Выкапаем гнілой картошкі, дый не было ж у чым хадзіць, у лапцях ужо надзяваліся і пойдзем на поле, а ногі астаюцца ў гразі. Пасушым, патром, бліны такія пячом. Саўсім крахмал. Крапіву рвалі, а то такое нейкае шчаўе, у лес хадзілі, такая кісліца, усё варылі. Буракі нейкія шчэ і садзілі, яны тады не растуць, без нічога. На тарку надзяруць абы-чаго, чыгун у печ усунуць, каб трохі смажылася – так і елі. А прысмакаў не было.

***

Адна карова была. І сыр рабілі, і масла. Я яшчэ помню, дзяўчынёхай была, у школу хадзіла, карову на вяроўку летам у лес павядзеш, пасеш, дык і маселца будзе. Адна карова, конь быў. І авечкі былі, а патом адно врэмя нейкая балезнь, какей-та матылі, дый парэзалі. Авечкі і свінні дзяржалі.

Знаеце, тады так ня елі сала, мяса. Ацец ўжо хадзіў на работу, пашоў, хадзіў, памагаў людзям дамы строіць. Яму там ужо заскварацць. А натта, каб раз’ядаць – не раз’ядаліся. Ну, але ж не галадалі. Помню, лён сеялі, канаплянае, дзе каноплі, масла рабілі. Лён пасушаць, абмалоцяць, а тады мякіну адзельна з лёна галоўкі трапаюць, вот сушылі гэта валакно. Ой, такія мяліцы былі, трапалі, снавалі, ткалі, усё было, усё ж сваё. Масла поснае рабілі. Каноплі, гэта зярно таке, у ступе натаўкуць і картошкі звараць, каноплі гэтыя стаўкуць з лукам.

***

Раньша ж тут у нас возера было, высушылі ў дваццаць васьмом гаду. Было тут у канцы, ягер такі пахучы, пойдзім, нажнём, у хаце навысцелем. Убіралі кветкамі разнымі. У Купалле хадзілі, купалачкі такія рвалі, тыркалі, каторыя распусціцца нанач – значыць замуж пойдзеш. Трыпутнік рвалі, дык нада на крыжовых дарогах, ні рукамі, сагнуцца ды зубамі вырваць. А тады шчэ прынясці, і каб нікога ня ўстрэціць, і каб не загаварыць. І зь гэтаю травой пад галаву, каб спаць. Залоўка гаварыла, мой мужык сасніў мяне. Ён хадзіў у школу тут, хадзіў праз наш двор, тут была сцежка. Гаварыла, ён лёг спаць, а я ўзяла кружку з вадой, палачку палажыла – пад ложак. Тады ён устаў. Ты сніў што? Ой, знаеш, што мне прыснілася! Я там хаджу цераз двор, там рыжая Ліда. І прыснілася мне гэтая рыжая Ліда. І ён ёй сказаў, што сніў мяне. Эта ж не то, што там згаварыліся. Эта ж ён яшчэ быў хлопцам. І залоўка мне ўжо после, мы ўжо жылі, тады ўжо сказала.

У Каляды хадзілі, аладкі пяклі, сабаку пазавом у хату. Усе аладкі пякуць, кладуць аладкі ўсе: былі цёткі і дзеўкі ўжо старыя, былі і сталыя такія, мы шчэ былі маладыя. Мы тожа свае пячом. А яны: ідзіце, дзеўкі, вам яшчэ не нада. А мы

паложам. І вот сабаку пазавуць у хату, вылажаць, і чыю аладку будзе хватаць – той першы замуж пойдзе.

***

А раньша на Каляды стол бальшы. Сена прыложуць на кут. На стол сена паложаць, скацерцю засцелець, эта посная – з пярлоўкі. А назаўтра ўсяго было: і каўбасы, і мачанку – усё такое харошае. Багатая Куцця. Мы шчэ падросткі былі. Цэркавь такая бальшушчая-бальшушчая і званіца была, такі пагост, ліпы і ўсё. Утрачкам як інцірэсна помню. А раньша ў нас двор бальшы быў, людзі з дзярэўні прыязжалі. І папрыносяць цэлыя лубкі: і парася, і кабан, там цэлыя окаркі, усё гэта вылажаць, ого! Бацюшка ідзе і свеціць. У нас два бацюшкі былі: Зубковіч і Зянюк. Цяпер гэтага няма.

***

А раньша, хто іх знае, тут жа вайна была, калісьці даўней, можа японская. Мы яшчэ меншыя былі, усе гавораць, вайна была. Бывала, дзе мы капалі двор, я дажа ў хаце сваёй выкапала, у вайну зрабіла такую ямку, бульба ў нас там, выкапала чалавечы чэрап, настаяшчэ. І відна, што гроб, таму што етыя сучкі былі смольныя такія. І дзе мы не капалі – усюды косці. Гаварылі, што ў японскую вайну тут можа яшчэ кладбішча было.

***

Дзежкі дзеравяныя былі. Зачынеш там у цёпленькай вадзічкі. Ханач пастроім. А назаўтра ўжэ хлеб падойдзе, яго падмешваюць. Пяклі хлеб і ўкусна было. Шчэ дажа картошачкі, хто хоча, зварыць, стаўкуць, тады падмяшаюць немножка, і ён прыятны такі. І на дубовых лісціках, і на капусных. У печ на лапату. І мяккі хлеб, укусны і тады нячорствы быў. Напякуць цэлую лаву, і не кажань жа дзень, буханак сем, можа, пяць паложаць, вадзічкай пальюць. Накрокоць скацеркай, ды мякенькі, укусненькі. Усё сваё, усё здаровае.

***

Цёрлі мак у цёрніцах, у ступках білі. Такія перапечачкі напякуць і патом макаюць, сахару туда – і такое ўкуснае блюда. А канаплю гэту натаўкуць, такія занікі-бліны. Эта аб'ядзенне было, палезнае і ўсё такое здаровае.

***

У нас, як помню, бубянцы, асобенна лошадзь была харошая на выездзе. Бывала, як свадзьба, мой брат первы шафер на ўсе Смалявічы, яго на расхват бралі. Лошадзь – во! Была красівая, павозка была прылічная. Дугу – цвятамі. Садзілі на салому, падсцілалі кажух уверх поўсцю. Пасцелюць, атпраўляюць да вянца. Да вянца едуць, нявеста адзельна, а ад вянца страчаюць радзіцелі.

***Разказвае Дзяткоўская Яніна Іосіфаўна,*** *1930 г.н.; запіс зроблены ў 2005 г. у г. Смалявічы.*

Да вайны мы жылі ўмесце, с маім бацькам, с мацер'ю. А ва ўрэмя вайны бацька быў дзяжурны па станцыі. А мама была дома, ні работала нідзе. Ва ўрэмя вайны, бацька ўлюбіўся ў сваю, эту самую, брата жонку, што на цэнтры жылі. Ну там трохі палюбіліс, палюбіліс, і бацька нас аставіў. Расціла адна, ён паехаў у Васточную Прусію, ну там і яна пераехала, там яны і жылі. З новай жонкай быў

адзін сын, ну а мама нас гадавала. Ну і вот я ўжо расла, вырасла, вучыцца мне не прышлось многа, таму што пяць дзяцей было. Я пашла на работу, вучылася на целеграфістку. Тут былі курсы масцерей. Яны былі ў Мінску, ну ў Мінске быў рамонт этага вучылішча, перакінуты быў к нам у школу механізацыі. Вот ён астаўся ў нас на кварціры і прыглядзеў мяне, што жалко была яму, што ў мамы многа дзяцей, шчэ двухлетні быў, астаўся. Прывязе там пітання якога, дык мама жжарэ яму яйцо. Ён глядзіць у вочы і гавора, тое яйцо – брату меншаму аставе. Ну вот так і прыглядзіў, і я вышла за яго замуж, павёў за руку, забраў на Палессе. Там мы жылі мала, тры месяцы. Я як малая была, шчэ мне шаснаццаць гадоў не было. Дык дамой, дамой, да мамы і да мамы. Прыехалі да мамы, тут вот ён ужэ устроіўся на работу, сталі жыць. Бабушка ў нас была, прадала дом там, таму што не было чым дзяцей карміць, бацька не прыслаў первае ўрэмя, а прышлось карміць, дык нада было купіць на нядзелю пуд мукі і асьміну картошкі. А эта стоіла тысяча. А бабушка за хату ўзяла трыццаць восем тысяч. Бабушка глядзіць, што тыя дзеньгі таюць, таюць і зараз кончацца, і нідзе вугла ня будзе. Там усё-такі ў мамы чацьвера дзяцей. І вот яна рашыла: пайдзём сюда, вот пастроім эту халупу. Вот яна нам пастроіла, мы такія работнікі, што ўсю жызнь і пражылі ў гэтай халупе. Ну вот і жывём з дзедам шэйсят восім гадоў. Трое дзяцей у нас, сынавей, дочак нету, помачы нету. Эта ўнучка прыхадзіла з праўнукам, эта срэдняя.

***

У цэркавь я стала хадзіць, знаеце што, мама ўмірла ў міне. Ну на столька яна мучылася, гадавала, столька мне яе было жалка, ні знала, чым памоч, і я стала хадзіць у цэркву памінаць яе. І старалася ў кажду цэркву, не толька ў нас тут. У нас у Смалявічах не было, эта была шчэ у Забалацці, у Мінск ездзіла, я і ў Лагойск, я і ў Жодзіна, і ў Барысаў, і мне яе везде хацелася памінуць. І вот эта время, пака я эта сорак дней везде маталась, памінала, і мне прыцянула, стала цяга к цэркві, што мне ўжо хочацца іцці, я там аддушыну чую. І вот па сей дзень я хажу ўжэ. У нас служба бывае і ў празнечныя дні, і ў суботу, і ў васкрэсенье кажды раз у нас служба. Ну вот стараюся не прапусціць, пока дзед не ругаецца, пускае.

Я очэнь балела, после як сына (втары па шчоту ў мяне сын) атправіла ў армію, думала, што ў мяне ўвесь свет ужо. Усе дзеці ходзяць, а толька майго забралі, такое было. Перажывала, і да таго дапераживалася, што адкрыліся галаўныя болі, і з галаўных болей палажылі ў бальніцу. І я стала плоха хадзіць, паляжала тут месец, нічога рады не далі, паслалі мяне ў абласную. Ва абласной там была паўтара месяца, і здзвігу ўжо нікакова нету. Ні магу атарваць нагу ад зямлі і не знаю куды, у якую старану мне стаць. Патом у рэспубліканскую паслалі, там ляжала, в обшчэй сложнасці я праляжала сем месяцаў, так я і не пашла, поўзала. У туалет нада было іцці, я сціснялася ў палаце, мне прыхадзілася паўсці ў туалет, дліны калідор, і вот мяне хто-небудзь дзяржыць вот так, суправаджае, таму што я кулялась. Да туалета давядуць мяне, там мне памогуць ужо падняцца. І каб чалавек пашоў, каб мне ніхто не мяшаў, каб была спакойна і цішына, тады я магу схадзіць у туалет. Вот так я правяла сем месяцаў. Прыехаў брат і з ім забралі мяне нехадзячую, ну сказалі, што купляйце каляску і ўжо вы хадзіць ня будзеце. Ну а ў мяне трое дзяцей, і ўсе ў школу ходзяць. Мне і пашыць нада, пака я была дома, дык яны і чыстыя былі, і наетыя, а як стала бальная, ну што мушчына, ну стараўся, памагаў, скока мог. Стала сама поўзаць, таму

таз прынясі, тут пасцірала, а той панёс вынес. А ў таулет тожа сціснялась хадзіць, поўзала, паўзком аж да туалета. І вот так пасцепенна, к сценке то так, то так – разышлася.

Навоз такі, каторы так ужо згарыць, цёплы такі, у навоз да пояс закапывалі міне, і лісцямі з бярозы парылі, і хто што ні гаварыў – усё дзелалі. Ад чаго прайшло, я й сама ні знаю. Я разышлася, сначала я станавілася к сценке задам і пробавала нагу так вот пераставляць адну, у другі бок – другую, а патом дзвігацца так корпусам, панемножку, панемножку разышлась. Ну і ўрачы даже ціпер і не веручы, што як эта я магла так пайці. Проста бальшая сіла волі, таму што я знала, што мне нада ім памыць, ім заўтра нада ісці ў школу, ім нада зварыць, я паўзком, патом дзе падымацца стала. Ну і вот разышлася, ну а з божай помашчу і стала хадзіць, і сэрца бальное, і парок сэрца. І сказалі, што трэцяга сына ражаць нільзя. А я яго радзіла, і ўжо майму сыну сорак сем. Вот жыву.

***

Вот заўтра ў нас празнік. Сёння ў нас будзе вячэрняя, а заўтра будзе служэнне. У нас ціпер два бацюшкі. Стары бацюшка доўга ў нас правіў, як токі мы ў доміку службу начыналі весці. Ну а ціпер ён ужэ цэркву бальшую адстроіў, ужэ паставілі мы і красты, і вот сталярку заказалі. Эта была міліцыя, а раньша тут была бальшая цэрква, ні сабор, а цэркавь шчыталася. Я раньша ў школу хадзіла, я помню, што яна была галубая. І помню, як брат паменшы шчэ за руку вадзіў, мамін брат. Чэрэз двор цэркві, там яшчэ папоўскі бераг, там лавілі рыбу. І вот помню, злавілі такога вьюна, такая рыба дарагая, такая мяккая, чорная такая. Я помню нёс эту рыбу дзядзя мой, усе натта глядзелі на яго. Эта рэчка была наша. Вот такі эпізод я помню, і помню, як бегалі тут.

***

Ва ўрэмя вайны я была шчэ мала, я толькі кончыла чатыры класы. А бацька тады, як прышлі ўжо немцы, астаўся тут у немцах. На жалезную дарогу яго не прынялі, таму што там ужо свае немцы былі. Ён пайшоў на пекарню, у нас тут пікарня была. Ну, на пікарні там хлеб эты мясіў, ну, што немцы гаварылі, то ўсё дзелаў. Ну а былі там трое пленных. Этыя пленныя былі звязаны з парцізанамі. Работалі этыя пленныя ў іх. Быў Арнольд і Вільям, этыя два немцы, і яны так злаўчыліся, што прыяжала з парцізан машына, яны загружалі эты хлеб там сколька і вязлі. А бацька ўжо знаў этыя іхныя сікрэты, ну памагаў, і мама памагала, вынасіла хлеб туды, вродзе бы там далёка за рэчку, аж туды за футар, набірала білля туды і туды несла, а там ужо несла і сахар, і сахарын, і што можна было. А міне тожэ снабжалі с этай стараны, прыходзілі. Дык от сахарын, косы ў міне бальшые, дык яны мне распусцяць косы, тут вот наложуць сахарыну ў трапачку і валасы мне заўюць, закруцюць у гульку, платок завяжуць. Яй і пашла туды да Сілічовага лесу. А там жэньшчына прыходзіла, эта забяруць у міне, я аттуль і прыхадзіла вот так.

***

У нас тут балотца было. Туды часта насілі і хлеб, і сахарын. Насілі туда, што можна было. Асобенна соль нада была і сахарын бальшынство. Ну вот канешне я была малая, а пенсія ціпер, я балела, у міне маленькая, я вот хадзіла і гавару, ну я ж усё-ткі памагала і хадзіла пад страхам, і не раз эта было, а многа разоў, як толькі саабшчаць, што там нада, так і іду. А соль мянялі. Куры ў нас былі, соль памяняем, немцам яйцы ім дадзім, а соль нам дадуць, а тады ўжо эту соль аддавалі па

парцізанам, я насіла, ілі сахарын. І хоць бы мне вот зашчыталі гады, каторые вот эта я хадзіла дзецем малая, баялася. І мне ніхто нічога.

***

А гэта ў нас было ўвесь гэты раён ад цэнтра і да рэчкі, усё эта было абгароджана, і сюды сагналі ўсіх нас, вот дзе мы жывём, эта тожа места геты. І загналі сюды ўсіх этых яўрэеў. Як йіх велі, я эта не відзела, я не магу сказаць. Яны ўсе тут жылі, йіх патом, такі прыказ быў, сарганізавалі і вялі, дзе ў нас за Смалявічамі была такая горка, там раньша была цэрква. Там толькі на Спаса яблыкі асвяшчалі, ну патом эта цэрква ўжо разбурана, пры нашай памяці ўжэ яе не было, ну асталась такая горка, і на гэтай горкі іх растрэльвалі, этых яўрэеў. Яўрэеў нескалька запрагалі ў воз, трое, і йім узы, ад каня ўздзечкі, у рот давалі і вялі іх, і яны цянулі эты воз. І во ту-то за кладбішчам была такая яма, бралі кар'ер, і ў гэтым кар'еры іх там растрэльвалі.

***

У нас тут была саседка, тожа пашла ў парцізаны, дык тожа яна памагала парцізанам. І яе тожа во тут во, дзе ў нас ціпер цэрква, яма такая была, у гэтай яме іх і растрэльвалі. Вот не панравіўся чалавек, значыць яны хваталі яго, дапрашывалі і ўбівалі. Быў такі начальнік гестапа, што ён заўтракаць ня мог садзіцца, пака аднаго-двух чалавек не застрэле. Ну во такія дзела.

***

Ну вайна кончылася, мы пабылі дома. І бацька быў. У нас склеп на гародзе. Брат з жаной і з дзецьмі нахадзіліся ў тым склепе, а мы ў нас у доме. Ну такая яма бальшая, пограб быў, і мы туды спусціліся, ну й запалілі там лампу, ну а як было ўжо куча этых дзяцей, і там шчэй чужыя былі, саседнія ў этым пограбе. Ну эта лампа стала, воздуху што німа, стала хлыпаць ды захліпацца, а дзеці малыя, яны плачуць, а маці ета, мусіць, Юлю карміла грудзю. Што йена дасць, пасмокча-пасмокча – да німа нічога. Яму хочацца на воздух, цёмна, воздуху яму не хватае. А там бухуюць і бухуюць. А тут у нас кладбішча было, дом наш быў радам з кладбішчам стаяў, ён і ціпер стаіць, эты дом там. Цэрква, гаворыць, гарыць, трашчыць усё, а ў нас сарай быў, яшчэ саломенная крыша была, тут гэты агонь перакінуўся на гэты сарай. Мы давай уцікаць ужэ ў кладбішча, а з кладбішча там немцы этыя адступаюць, яны за нас: парцізаны, парцізаны. Пасабіралі нас і вядуць, і гаворац, што на плошчы нас нада "шышан-шышан" – што страляць ужэ, дык у кустах паразбігаемся мы. Тады мы малыя болей зналі слоў этых па-нямецку, чым цяпер. Ну паразбягаемся, што нада вывесці на плошчадзь і растралящь. А бабушка мая нікуды ўжо не пашла, асталася дома, і тут мы ідзём, плачам ужо. Яны ўжо тры сям'і і нас вядуць страляць. А бабушка ўжэ: "Сыночкі вы мае, дзеткі, гэта не парцізаны, эта мае дзеці. Вы палядзіце ў міне вунь немцы аставілі вунь і каробкі, і яшчыкі. Хадзіце, дзеткі, палядзіце, эта не парцізаны." Пака эта бабушка йіх за руку завела ў хату, і віно там нейка было ілі ні віно, а такая нейкая як ром, сладкае такое нешта было. Яны як паглядзелі гэта, што там у хатах стаіць: і гарошак гэты, і там нейкія шчэ прадукты. Яны сталі хватаць і ўсё. А мама бацьку ў склеп усадзіла, туды ўніз і палавіком накрыла, і гэтае малое дзіця пасадзіла навярху. А той брат, там на гародзе склеп быў, туды схаваліся ў склеп. Гэтыя тожа разбегліся ў то ўрэмя, так што бабушка пака немцаў гэтых загаварыла (бабушка па-нямецку гаварыла харашо),

так што гэтыя нашы мушчыны ўдралі. Іх трое ці чэцвера было. Быкаў і этат дзядзька наш, і шчэ адзін, і бацька наш – чэцвера іх было. Ну і яны тады ўжо панахапаліся гэтага віна кругом, што ім трэба панабіраліся, як толька маглі ў торбы панабірацъ, а тады ўздумалі, што а дзе ж “ман”, нас ужэ кінулі. Матка, хай дзеці ўжо будуць, толькі нам “ман” нада – мушчыны нада. А бабушка гавора: “Ваш жа “камрад” павялі іх.” Да, о гуд, гуд, матка, раз павялі, харашо, харашо. А іх ніхто не павёў, яны асталіся ў нас. Такое было адступленне. Адступілі, яны прыйшлі, стала ціха. Стала цішэй, цішэй. Тады бацька вылез з гэтага пограба і нехта сказаў, што тут будзе перастрэлка, нада з гэтага месца ўцякаць. Рэшылі мы чэрэз гэты новы ба$^{ы}$зар пад рэчку туды, а там у нас былі сваты. І мы туды к этым сватам, а сватоў ў хаце не было, рэшылі там у горадзе выкапаць землянку. Выкапалі там на скорую руку землянку, мы ужэ сваей сям’ёй: пяць гэтых дзяцей і брат са сваймі траймі дзяцьмі, і шчэ суседзі. Выка$^{о}$палі землянку, ну землянка малая, ну палажылі гэтых двух-трох мужыкоў на пол і бабы селі на гэтых мужыкоў, а нам места нідзе німа. Мы такія, я і шчэ там быў, як яго звалі, во ўжо забылася, падруга мая такая Ліпа была – нас выкінулі, ідзіце, дзе хочаце і хавайцеся. Мы пашлі ў балота, там сажалка, і вот у эту сажалку прыселі і вродзе бы з міліцэйскага пасёлка выстрэ$^{а}$лы ідуць – бахаюць і бахаюць. І мы паляглі. І чуем, толькі затворамі – шах, шах, шах – немец шагае, і мы прытаіліся ў гэтым балоце, ужэ траіх нас – Антон, Ліпа і я. І патом чую, немец у сапагах у вялікіх шлёпае па гэтай лужы і чуем затворам – бах. І я юк-юк і да Ліпы, бах – і я ўжо да Антона. Чую, бах – раніў, а ён мяне нічога не раніў, эта я ўжо ад страху – раніў. І маё сэрца – ах, ах, я о так о, дзе што баліць, нічога не баліць. І я так доўга лежала, лежала, тыя ўжо пападніменліся – уставай, ты жывая ці нежывая, а я ад страху нежывая. Яму не да нас, ён пераступіў нас і пашоў дальша, туды адстрэліваццa на міліцэйскі пасёлак гэты. І нас этых трое дзяцей, як мы ляжалі, ён нас не зачапіў, усе цэлыя асталіся. А тады ўжэ павырасталі, вот так врэмя прашло.

***

У апенькі, у ягады хадзілі, што маглі, то сабіралі. Ну карова была, сена насілі на плечах, цэлы лета рабілі, як пчолкі, не было часу, як загараюць ды едуць, а насілі сена ды сушылі. Насушыць, каб карове была на зіму, таму што бацькі не было. Сена жалі сярпамі, вот там нажнеш мяшочак, там кашэль нажнёш. Тут саўхоз быў. У саўхоз у дырку ўлезіш, там трава бальшая, нажнеш, а тут эты аб’ешчык увідзя, ляціць за намі, куляесся, прытоесся. Нясем карове травы, а што астанецца – сушым. Хватала, на каляске вазілі траву. Тады ўжэ ён (муж) памагаў, быў і за каня, і памагаў касіць. Так і піталіся, так і жылі.

***Расказвае Дзяткоўскі Аляксандр,*** *1918 г.н.; запіс зроблены ў 2005 г. у г. Смалявічы.*

Прызван у трыццаць васьмом гаду в армію. Дземібілізаваўся ў сорак шэстом гаду. Восім лет как адзін дзень. Участвоваў у Халкінгол, гэта аказвалі манголам помач з Японіі, там участвавал два с палавінай месяцы. Ну, кагда мы сагласілісь, паднялі руку – банзай, банзай. І тада за мяне, у цяплушкі аттуда (тада не была этых паяздоў харошых) і ў Ленінград. У Ленінградзе я акончыў палкавую школу курсантам, участваваў у баях с Фінляндзіяй на Карэйскам перашэйкі. Эта самы

сільны быў участак, Карэйскі перашэек – мароз дасягаў да пяцідзесяці трох градусаў. У Беларусі, гавораць, усё даўно памёрзла дзярэўе.

У Фінляндзіі я ранен, у мяне есь награждзеніе – медалька за Фінляндзію. После фінскіх баёў там мы асталісь ужэ па нашу зону, дзе фіны сагласіліс. Наша граніца – втарое места занімаў у Еўропе цэлозны камбінат Эрзо. Там рака, там залатыя прыіскі на этай рэке. Сам відзеў, как эты хазяін этаво камбіната станкі па пріказу прывазіў, і паследні станок прывёз, сеў і плача. І эта на маіх глазах была. Я акурат тада дзяжурыў. Я старшына роты быў. Мне прышлось там бісєдаваць. Яны па-рускі разгаварываюць, яны палова фінаў па-рускі разгаварывалі. Я, чаго ты плачаш? Да, как мне ні плакаць, такой камбінат, столько дзенег было, а цяпер паследні станочак вот прывёз вам. За што, я ж ні вінават, што вайна, я ж работаю. Ну, што вы думаеце? Паплакаў ён, у мяне там была эта іхняе віно, мы па чарке з ім зрабілі, папрашчаліс, уехаў стары, ужэ у гадах быў, гадоў пад шэсцьдзесят яму. Как ён уехаў, чэрэз дзве нядзелі адзін цэх згарэў, ну не глаўны, а ўспамагацельны цэх згарэў. Ну там я пражыў месяц.

***

Там наш набор стаў фтарой палкавой школай. Мяне як учасніка вайны – замкамандзіра взвода. І аставілі на фтарой сезон абучаць салдат. Ну там арганізаваліс і с этымі салдатамі, с этым усем с Фінляндзіі прама ў Эстонію горад Тарта. Там я атслужыў дзевяць месяцаў. Выпусціў палкавую школу, і далі мне седьмую стралковую роту. Вайна. Кагда кончыў палкавую школу – раз'ехаліс. Мне старшыной, атправілі нас у летнія лагера. У мяне была павозка і два станкавыя пулямёты, а астальныя там былі ў другіх. І атправілі на Васточную Прусію – эта ў летнія лагеря. Нас прывезлі туда, і я старшына, камандзір взвода быў Глаголеў, старшы лейцінант, он быў очэнь сер'ёзны, а быў харошы.

Як толька началась вайна, наша рота – нам далі дзот – канчаць яго. Мы там пражылі нескалькі, я ўжэ с эстонкамі, латышкамі пазнакоміўсь. І я старшына хадзіў свабодна, прычом ужэ чацвёрты год службы. Прывезлі нам кінакарціну "Арынка" і "Свінарка і пастух". Летам сіянне такое відно. Нам у час ейту ленту ўключылі, палядзелі, я эту латышку праўеў. А ў нас паходняя кухня, нам далі точку, і ў маём распаражэнні паходняя кухня. У нас сто дваццаць чалавек у році. Камандзір роты гаворыць, гатоўце заўтрык к дзесяці часам. Пачаму? Заўтра нас нікуда не трогаюць, будуць усе на ўчэніі, а нашую роту асвабадзілі. Началась вайна ў тры часа па-іхняму, па-нашаму ў чатыры. А мы сябе сьпім дай сьпім. Самалёты лётаюць, а мы как-будта ні ў чом не бывала. Я ўстаў у восім часоў, дзевяты час. Што такое? Да гаворыць, эта ўчэнні, камандзір сказаў учэнія. А яны с крэстамі самалёты лётаюць у тылу ў нас. Я кажу, старшы лейцінант, што такое на небі ніяснае? А он, кухня гатова? Я гавару, чэраз полчаса. Накорміш, тада паднімеш. А вайна ідзёт, а мы кухню спраўляем. А са мной у роту паступіў Харламаў Сяргей Захаравіч, ён украінец, но нам у роту далі яго новага, саўсім са школы. Мы з ім здружыліс. Я гавару, Сярога, што такое? Да гаворыць, чорць яго знае. А ў нас шэсцьдзесят тамоў энцыклапедзіі. Не патроны, а кнігі – вот начала нашай вайны. Вот какая начала вайны. Ну нічога, эта яшчэ ўсё ў парадку. Камандзіра роты ўсё жэ паднялі, салдат ужэ пакарміў. Таварыш старшына! Я кажу, што такое? Тавырыша лейтынанта нэту. Убілі не рускія, нашыя. А пачаму яго ўбілі? Як дзяжурыць наша рота, так абезацельна самастрэл этых чорных. Яны ўжэ ў нарад, і эта яны

атамсці́лі. Яшчэ́ і ў вайну́ не былі́. І вот ро́та аста́лась безь нічаво́. Вот так мы і шлі, я дашо́ў да Эсто́ніі, да Шаўля́й-аэрадро́м. Мяне́ папа́лі не́мцы, ужэ́ ў тылу́ ішлі́. На́шу ро́ту ў Шаўля́і ўсю разагна́лі. Не адзі́н я такі́ папа́ў, чалаве́к с дзесятак нас было́. Мы там дзень, два, тры. Пато́м я гавару́, э́то ж ка́жацца, уро́дзе й не не́мец. А вы адку́да? Я гавару́, я з Беларусі́. О, мае дзе́ткі, а я ў Расі́і быў у плену́. Стары́ – яго́ пастаўі́лі ахраня́ць э́тыя лагера́, а прызва́лі ў а́рмію ўсё ра́ўно. Нічаво́, дзе́ткі, я там два с по[а]лаві́най сь лі́шнім го́да пабы́ў. Не́мцу не віда́ць Расі́і. І э́та ішчэ́ нача́ла вайны́, ён сказа́ў. Ну, не віда́ць, не віда́ць, так і быць. А вы как? Ну, вот сіво́дня я дзяжу́ру там, я ў сле́душчы раз бу́ду, вы тут бу́дзьце, навяшча́йце мяне́, я вам акажу́сь. Ну на сле́душчую ноч ён то́жа прышо́ў, нам кі́нуў по[а]ўбуха́нкі хле́ба, а ён сам паля́к, да йшчэ ў Расі́і пабы́ў. Гаво́рыць, а цяпе́р вы гато́ўцесь, сябе кама́нду прыгато́ўце, бу́ду дзяжу́рыць я прыме́рна ў тры часа́, ні ў два часа́, я вас вы́пушчу. Я разве́даю даро́гу вам, напішу́, нарысу́ю і вы па маршру́ту уйдзёце – раскажу́ я вам. Ну так і быць, ждзём. Э́та я там чуць не дзве нядзе́лі бы́ў. Ну на сле́душчую ноч я ўжэ усё э́та міну́ў, што э́та там. А там э́та ж сінаго́га-царква́, там ужо́ на́шых по́ўная яна́, по́ўная зага́раць была́. Вот ён гаво́рыць, ско́лька вас? Я, ну чалаве́к дзеся́так. Ну ла́дна, вы чалаве́к пяць, а пато́м шчэ вы́пушчу, усе́х нільзя́. Ты падбяры́ сваі́х пяць, а то яны́ мо́гуць с табо́й не папа́сць. Ну до́бра, ён вы́пусціў усіх, каго́ падгато́вілі. Ён даў нам напраўле́ніе ў аэрапо́рт Шаўля́й. Там бамбі́лі, там варо́нкі, вы да ўтра́ туды́ да варо́нак зайдзе́це. Е́слі бу́дуць бе́гаць, дак вам бу́дзе ме́сца спра́тацца. А да аэрадро́ма ме́траў сто пяцьдзеся́т - дзве́сце – куста́рнік. Перадню́еце жывы́я, дак но́ччу ўцячо́це. Вот так мая́ начала́сь вайна́. Начала́сь мая́ хаджэ́нія па му́кам. Так я ішоў пяшко́м, пяшко́м, но́ччу ішо́ў, а днём ва ўгаро́дзе капа́ем, там дзе і паджа́рым, так мы пяць чалаве́к. Ну ў нас адзі́н адста́ў ілі заблудзі́ўсь, пашо́ў па карто́шку і не вярну́ўсь. Дак нас чатыро́х ішло́. Ну дашо́ў да Пско́ва, у Пско́ве там лагера́ цэ́лыя рускі́х пле́нных, а э́та ўжэ́ ме́сяца чэ́раз паўтара́ было́, вайна́ ўжэ, а мы ішлі́ ўсё урэ́мя ў тылу́. На́да было́ перайсці́ раку́ На́рва, ай, а там жа жале́зная даро́га, пайдзём па даро́ге, не́мца ўжэ німа́. Кагда́ ста́лі перахадзі́ць – ха́нда хох! Хай ты праваlі́сь. А ў іх нара́д на́нач быў, днём не было́, а но́ччу. Прывялі́ нас, а там гавары́лі, што ко́ло дзесяці́ ты́сяч пле́нных у Пско́ве. Ад Пско́ва кі́ламе́траў во́сем-дзе́сяць там агаро́жаная про́валкай плашча́дка, круго́м лес, там чаты́рі вы́шкі, наця́нута па две про́валачкі калю́чых і на ка́ждым сталбу́. Ну нас, как сільне́йшых, а яны́ ўжэ гало́дныя там, не́мец прыхо́дзіць хлеб вазі́ць пле́нным. Я гавару́, хло́пцы пашлі́, а зампалі́т – асцерага́йцесь, то мо́гуць... Нічаво́, а я няме́цкі язык знаў, я па-няме́цку магу́ гавары́ць, я гавару́, дагавару́сь как-ні́буць. А пачаму́ я знаў йе́ты язы́к? Я з дзе́цьмі да чатыро́х кла́саў учы́ўся. Яны́ былі́ няме́цкія, паво́лжскія не́мцы, дык я знаў тро́ха балта́ць чуць-чуць. Вот мы там пяць-шэсць дней вазі́лі хлеб, а э́тыя салда́ты зака́чваюць рука́вы, а по́сле тада́ нас у ваго́нку, у прыцэ́пы, нагружа́ем куско́ў хле́ба і застаўля́юць чэ́раз про́валку кіда́ць. А яны́ то́лька, о, ру́ская шва́йна. А ў Пско́ве нам не лёгчэ было, хоць мы ішлі́ па бало́там, мы ма́ла ішлі́ сухадо́ллю, прабіра́лісь тако́й мясці́най, каб не папа́сць. До́ўга ішлі́, клю́квай піта́лісь, клю́ква та так ачарце́ла. У дзярэ́ўні за́йдзем, дык хле́ба дзе даду́ць, а марадзёрнічаць няўдо́бна. Вот і прышлі́, дзе сяло́ Пу́шкіно – Пецярго́ф, як яго́ называ́лі, я ўжэ забы́ў назва́нія э́ці. Балаці́на бальша́я сенако́са і ўсту́пам з бало́та ідзе мыс бало́та. Мы ў э́ты са́мы мыс і ўле́злі. Паглядзі́м – тут не́мцы, а там – ру́скія. Э́та ме́траў дзве́сце-трыста, ра́зніца сенако́са э́таго. Там і варо́нкі, таму што не́мцы бі́лі, ру́скія бі́лі, хто біў – не паймёш,

білі ўсе. Начуем ноч, паднімемсь – да рускіх страляюць. Рассвіло, ноч відная, нільзя, асталісь на фтарую ноч. Кушаць, то мо хоць клюква, а там у варонкі і клюквы німа. Ну што, хлопцы, будзем рабіць? Быць ня быць, как толька ноч чуць сцямнее , то ідзём да рускіх. Будуць страляць – не важна, хай стрэляюць, ну ўб'юць, чорт яго бяры. А рускія выстаўлялі засаду, шпіянаж каб паймаць. Нас чатырох і паймалі. І контрразведка на дапрос. Цэлыя дзве нядзелі дапросы, бацька, маці, как папалі. Эта ж ужэ пад Ленінградам, нашага палка німа, ужэ полк увесь разбіты, дзівізія то ўшла, а палка німа. Дапросы прашлі дзве нядзелі, нас па аднаму каО куда, што не была с намі связі. Так ўчатырох мы папалі ў Ленінград у блакаду. І так усю блакаду прабыў і не знаю сваіх, і яны мяне не знаюць. Пісаў я после вайны, я знаў адраса іхнія, пісьма я ні аднаво не палучыў, жывыя ілі не жывыя. Я прабыў у блакадзе больша года, год і тры месяцы. Мяне два разы кантузіло, у Ленінградзе мне звезду далі – ордзен. І када ранілі, как-то пошчаслівіла. Ляжаў я там, акурат самалёт, і мала людзей было, а ў мяне ногі... і глухой стаў. Я і січас не магу варочаць шыю, прастрэлена навылёт. Тут відна. Я і січас мучаюсь. Самалёт – Волагда ілі Архангельск, там дзе-то сбросілі, мяне вылячылі. Я стаў хадзіць, но я стаў глухой, не чую. Я там пабыў, вылечыўсь. С адной часці ў адну часць вот мне толька скажуць, ну, на перадавую не атпраўлялі, падсобным ужэ, арудзі, снарады, салдат абучаў. Дадуць нанава часць, а іх папаўненія было, во так я пражыў больша года ў разных часцях. Я быў у Чарнышэўскага камандуючага, а патом мяне перавялі ўжэ. А патом мне далі запасной батальён – папаўненіе гатовіць для фронта, абучаць іх. Я так с аўгуста да февраля, а патом февраль – мне ў свой полк. У свой полк прывезлі, апяць палка, апяць стройбатальён, далі чалавека не таго, што нада, ілі ўбілі яго, ні знаю, дзе дзеўся. І пойдзем на сваё места, і так я дабыў у этым батальёні да канца вайны. У дзвесце чацвёртуй стралковай роце чысліўсь, і мне што далі – пра медалі не гавару. "Слава" далі – ордзен Славы і "Ацечэственную вайну". Ну медалі этыя "За пабеду над Германіяй" – іх усем давалі. Цэлы чамадан, шкатулка. "Звязда" – харошы ордзен. У мяне дома нікаго не была, маці ў лясах дзе-та была, мне не было куда варочацца. Так даслужыў і дэмібілізаваўся ў сорак шастом гаду.

***

У Ленінградзе я быў старшына, мне далі шэсць машын, шаферей, і я саправаджаюшчы быў. Зімою чэраз Ладагу за хлебам ездіў. За время я пяць раз ездіў, пяць машын патанула. Кажды раз машына с хлебам, са ўсем тоне. Ну што зробіш, вайна есць вайна. Ішчэ такое сабыціе, мяне тада знялі с хлебам, я раскажу за што. У Ленінградзе дзвесце грам хлеба, а то і саўсім не давалі, а салдатам па дзвесце пійсят, чатыраста, трыста. Людзі ленінградскія ішлі проста ў бой без усяго, без усякіх прыказаў. Людзей ленінградскіх хапала, тры мільёны населеніе ўсё ўжэ. Адзін што рашыў, ну пачаму ж мне буханачку не ўзяць. Я хлеб ні браў, я сам старшына, куды я буду браць яго. А там аднаму ленінградцу далі, а ён заявіў. Камандзір палка пастроіў, хто ездзіў за хлебам такога-та чысла, шаг вперот. Ну што, я езьдзіў. Пяць чалавек у міне было. А астальные пяць? Вышлі пяць. А этава ленінграцца сюды прівезлі, заставілі, пазнавай, каму даў ты сапагі, і хто цебе даў кусок хлеба. А эты абашоў раз, два, тры. На аднаго – этай. Так той і ўпаў – салдат, знаў, што эта будзе. Астальные ўсе – у лінію. Яго атвялі, і там адзінаццаць чалавек с вінтоўкамі – бац! За кусок хлеба расстралялі. А ўсех нас сняў, кажнага пеpатрусілі, у мі$^{е}$не мяшочкі ўсе пеpатрусілі. Эціх усіх, хто ездзіў са мною, так усіх пеpатрусілі, ні

ў кога нічога не найшлі. Усе так і асталісь. Міне больш за хлебам не пускалі. Патом мі[е]не кантузіло, а патом раніло, і мі[е]не звезлі.

***

У бой ішлі, ну просто ні шчыталісь, мы ні шчыталісь са сваей жызняй. Ішлі мы на што – на смерць ішлі. У рукапашную, гранатамі, а то і ў кулакі ішлі. Перадавая ў нас тут была підзісят метраў самая кароткая, а так да ста метраў прымерна, а то підзісят метраў. Гранатамі кідалісь дажа. Акопы былі, нашыя акопы, а ў траншэі дзелаюць возьле нашых акоп. Яны зблізілісь, што б бліжэ, яны ж наступаюць, мы абаранялісь. Такіх чуць не каждую ноч былі баі, чуць не каждую ноч былі раненыя, бальные новые.

***

У мае адзяленіе далі с ленінградцкага учылішча трохкурсніка Кандрацьева. Ён кала месяцаў двух-трох быў і мі[е]не ў аддзяленіі, а патом камандзір батальёна спрашывая, у ка[о]го есць страіцелі с абразаваніем? Да вот нейкі есць граматны студэнт. Ён пераначаваў ноч, другую, на трэцюю ноч прыйшла запіска, атпраўце ў штаб палка этава Кандрацьева. Я гавару, вас у штаб палка. А пачаму я так ад вас уцякаю, мне ж інці[е]ресна пастраляць. На этам усё.

Я ўжо ажаніўсь, весь дзень у Смалявічах, на прапітке. У нас дзіректара треста падбіла машына і он умер. Вместа этаго дзіректара треста далі этава самава Кандрацьева, а ён быў белэнерго. Ён быў у другой камандзі. Ну, што вы думаеце? А ў нас быў начальнік Скарабагатый, "р" не выгаварываў. Я прыехаў с атчотам, здаю атчот. Ну, на рабоце ўсякіе ж непріятнасці. Німа мне время, каб я с табою разабраўсь. А эты Кандрацьеў сядзіць, но я ні знаў, што эта Кандрацьеў. Мала чаго, сядзіць і ўсё. Ну, добра, ідзі атчот сдавай. Ідзі сягонні сдавай, нада на ўчастак, у міне шэсць раёнаў электрафікацыі сельскай меснасці калхозаў і саўхозаў: Смалявічы, Лагойск, Барысаў, Крупкі, Чэрвень, Березіно. Мне ці[е]жолая работа, дзесяць лет я ноччу не спаў.

Валя была машыністка. Валя, Дзяткоўскага к Скарабагатаму. Я гавару, апяць взмычка, апяць што-та неладна. Я прыхажу, я думаў, ужэ с работы снімаюць. Прышоў я сюда. Ты этаво чалавека знаеш? Я гавару, первы раз віжу. Нет, ты ево ўжэ відзеў, ты прыгледзься добрэ – Скарабагаты дапрос відзець. Дзяткоўскі, вы дзе ўчаствавалі ў баі? Я гавару, у блакадзі. У вас быў такой студзент Кандрацьеў? Вот тагда мне ў голаву дайшло. Студзент-то быў, а Кандрацьеў, не Кандрацьеў – не помню. Так от я той самы Кандрацьеў, каторы ў цябе тры месяцы прабыў, і ты міне атправіў у штаб. Вот тада мы паздаровалісь. Кандрацьеў садзіць міне, Скарабагатага, паехалі да яго, да Кандрацьева. Жонка яго – детврач, дзецкі врач. Харошая жэншчына, спакойная такая, справядлівая, ну, красівая. Жэньшчына есць жэньшчына. Прыехалі мы да яго. Там пір на ўсю, ужэ гатово было. Ён пазваніў, відно. Прыехалі ўжэ за стол. Гаворыць, а вы не абедалі –шчас паабедаем. Как паабедалі, так міне ў тры часа ночы прывезлі да дома. Тада мне стала прыволле, тада мне Скарабагаты не ругаў. Да, што здзелаў Кандрацьеў? Усем маім рабочым, каму нада быў шыфер – даў. Яго замміністрам ужэ ў Маскву ўзялі, у глаўк – Кандрацьева, ні знаю, дзе ён ціпер.

*І.І. Лучыц-Федарэц*

# КОЛІШНЯЕ ВЯСЕЛЛЕ НА ДРАГІЧЫНШЧЫНЕ

Ніжэйпададзены матэрыял быў запісаны ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя ад маёй маці Лучыц-Федарэц Алены Тарасаўны, якая нарадзілася ў 1909 годзе ў вёсцы Сычы, выйшла замуж у в. Акропна (6 км ад Сычоў) і стала размаўляць па-акроплянску – на гэтай гаворцы падаецца матэрыял, большую частку якога складаюць фальклорныя вясельныя песні. У іх сустракаюцца словы, якія звычайна не ўжываюцца ў штодзённым жыцці. Некаторыя з песень увайшлі ў выданне "Вяселле. Песні" у шасці кнігах, складзенае Л.А. Малаш, якое пабачыла свет у 80-х гадах мінулага стагоддзя ў серыі "Беларуская народная творчасць". Там яны перададзены літаратурным варыянтам беларускай мовы. Мы ж падаем іх на акроплянскай гаворцы.

Найбольш характэрнымі для в. Акропна (цяпер яна ўваходзіць у в. Нямержа) фанетычнымі рысамі з'яўляюцца: дыфтонг [ⁱэ], які мы перадаём як <u>é</u>, паўмяккія зычныя – пасля іх мы гэты гук, сярэдні паміж [і] і [ы], абазначаем рускай літарай <u>и</u> (ці як ɩ), параўн. <u>ніс</u> 'нёс' – <u>нис</u> 'нос', <u>ниж</u> 'нож'), часам закрытае <u>ô</u> <u>(пудвинкэ)</u>, якое ў некаторых выпадках перадаецца як <u>у</u>. У дужках у аднакоссі падаюцца значэнні незразумелых слоў.

Зразумела, што сённяшнія вяселлі спраўляюцца інакш, як колішнія. Іншая эпоха, іншыя магчымасці!.. Чытачу прапануецца невялікі сцэнарый вяселля на Драгічыншчыне ў 20 – 30 гады ХХ стагоддзя.

Вяселле на Беларусі складаецца з трох частак: давясельны перыяд, само вяселле і паслявясельны перыяд.

У давясельны перыяд уваходзяць:

<u>пырыпэ́ткэ</u> – жыву́ть ('адбываюцца') шэ ('яшчэ') до сватúў, до запóін. Тíтка дíўчынэ чы хлопца, або вéймэ ('вельмі') добра йийí сусíдка з дру́гого сылá прэ́дуть і кáжуть, шо ў йíхому сылí éсьця такáя й такáя дíўка. "То тэ прыдэ́ подывэ́тысь на йийí, мóжэ вонá тобí понарáвыца". Чы молодэ́йі можуть дэсь познакóмытыся, ек одвíдують тíтку чы <u>дé</u>дька ў дру́гому сылí. Ну, <u>é</u>к молодэ́йі однэ́ однóму понарáўляца,то дэсь там ў ныдíлю прэ́дуть, або <u>é</u>к прэ́дуть на сьвятóк ('фэст'), то там і побáчацца.

А <u>é</u>к жыву́ть у однóму сылí, то вíдае однэ́ однóго змáлку, і любляца; бáчацца на мызы́ках, або ўвэ́чырэ, оно коб лю́дэ ны бачылэ. А <u>é</u>к тáнцу ('скокаў') нымá, то збыраюца ў хáтэ, дэ жывэ́ бáба быз хазя́йіна, а дóчкэ йийí ўжэ хочуть зáмуж. Мóлодёж збырáйіца ўдэнь і ўвэ́чырэ. Грáють ў йíгрэ:

• <u>У сусíда</u> – у хлопца про ёгó дíўку пытаюца: "Чы нарáвыца тобí сусíдка?"– "Не".–"Чому́?" – "Бо вонá там тóе й тóе нычóго ('кепска') зробэ́ла"...

• У каравóда – Пáра стойíть сырúд хатэ, а ўсі сыдéть і спувáють: "У каравóді булэ́ мэ, там пáрочку водэ́лэ. Стань, пáрочка, пудбодрэ́сь, кого любыш – поклонэ́сь". Тодí дíўчына клáняйіца хлóпцовэ, а хлóпыц – другíй дíўцэ. Йім спувáють тóе сáмэ...

• Або шэ нóва гра: Дíўчына кáжэ: "Прыйíхаў мій мылэ́нькі спознá. Він роскéнуў, він разбрóсіў подýшычке розвá ('раз-два!'). Сьцілю́ я посьцíль пуховýю, когó вірно люблю́, того поцылýю". Путхóдыть і цылýе, хто йій (або ёмý) нарáвыца.

Посыдéть, посмыю́цца, поспувáють, да й росхóдяца – гэто éк буў піст, éк танцу ны було́. Хто когó лю́быть, той тогó додóму провóдыть. По дорóзэ цылýюца. Колэ́сь тáнцэ булэ́ онó на Пáску – трэ дні і на Кóлядэ – цíли тэ́ждинь. Гэ́нчі раз і на Трíйцу, алэ тодí нúчка малéнька, то з вэ́чора погрáють, да й росхóдяца.

Батьке́ ны знáють, шо дíтэ лю́бляца. Потóм сэн і кáжэ батькáм, шо хочэ жынэ́тысь, шо хóчэ тýю і тýю брáтэ. Алэ́ ўсéк було: гэ́нчі раз і батьке́ кáжуть, когó брáтэ.

Батьке́ соглáснэ. Тодí ўвэ́чырэ котóрогось там днé бáтько, мáтэ, сэн і шэ́ кого з родні́ позовýть і йдуть у сватэ́. Захóдять. Посыдéть каля столá. Бáтько дíўкэ й пытáйіца, чогó вонэ́ прышлэ́. А вонэ́ кáжуть, шо хóчуть тёлку (чы корóву) купэ́тэ. Éк скажуть батьке́ дíўкэ, шо нымá продáжныйі, то сватэ́ скажуть, шо хóчуть бысхвóсту. Пытаюца, чы дiўка соглáсна. Éк котóра гонорэ́цца, то зразу нэ́бысьто соглáсна, і вэ́п'е нáвить, а потóм, кыриз дён кíлькэ нысэ́ йійі тітка чы дéдына грошэ за тóе, шо горíлку дíўка вэ́пыла, а зáмуж за сэна йтэ́ ны хóчэ.

На запóйінах ны спувáлэ. Алэ́ ў когó родне́ вылíка, той рóбыть вылíке запóйінэ, то тогдí, колэ́ мужыке́ поўпывáюца, спувáють бисíднэ пісні́.

Сватэ́ зáўшэ ('заўсёды') прынóсылэ с собóю горíлку, хлíба бýлочку. А котóра попрáўдэ соглáсна, то зрáзу тодí ж йійі зап'ють – більшу чéсьць ('з большага') гэ́то робэ́лэ ў суботу, а потóм – у чытвэ́р – прыйіжджéють на зумóвынэ: батьке́ молодэ́х договáруюца, на колэ́ робэ́тэ высíльле – чыриз тэ́ждынь, чыриз дві ныдíлі чы чыриз місяц.

Оглéдынэ. Éк батьке́ богáтэ, то бáтько молодэ́йі, йійі брат кырúз два-трэ дні прыйíдуть і подэ́ўляца на господáрку молодóго, бо ў запóйінах мóжуть нахвалэтыся, шо ў йіх éсьця тóе й другóе, то трэ́га ('трэба') повíдатэ, шо молодэ́й мáе, бо то на ўсю жызь – гэ́то ж ны ў кáртэ грáтэ.

Колэ́сь мужыке́ горíлкэ ны гнáлэ, а пойíдуть у місто і кýплять у жыдúў. А тылé зарíжуть, сáла накрáють, да й высíльле (закýска) готóвэ. Шэ квáшылну ('халадзец') вáрать, мэд подаю́ть у блю́дычках, сэ́рэ (а là сыр "Нарач"), капýсту

стáўлять на стил, гурке́. А ў Спóровэ (35 км ад Драгічына на поўнач) на висíльлі мýсыть бýтэ лóкша.

Шэ на висíльлі жывýть кубáсэ: заколять выпрукá (Е́к гóсыню висíльле, то кáжни кóлыть, хоч і худóе поросе́).

За тэ́ждынь до висíльля трэба було́ нашыхувáтэ (‘нарыхтаваць’) посьцíль. Бабэ́ збирáюца пíр’е дрáтэ. Спувáють пíсьню:

“Ой, рáно-рáно пíр’е ны дрáно,<br>
на чорта дрáтэ, бо нымá с кэм спáтэ”, а таксама іншыя вясельныя песні.

Висíльле почынáлэ робэ́тэ ў ныдíлю. А ў суботу вэ́лёна збырáють. Зáрэ (‘цяпер’) на вэ́лёна кáжуть валь – вáля збирáють. Гэ́той вэ́чур зовэ́цца вынке́ – ідýть пуд вынке́. Дыўче́та шэ́ють вáля.

Дыўче́т-товарышóк збирае самá молодáя – у суботу ўдэнь хóдыть і збирáе на вэ́чур. А хлóпцэ сáмэ прыходять тодí, е́к вынка в’ють: з бумáгэ квиткэ́ і кутасí (‘стужкі’) вíшалэ, а пóсля 1930 года стáлэ купле́тэ выночке́ ў мíстэ. А тыпэ́р мáло й купле́ють – онó до валя прычэ́пить вазона шпарáґуса, дай винче́юца. Винке́ в’е тáя товáрышка, шо жывэ́ за дрýжку. А колэ́сь робэ́лэ мнэ́го квитóк – і на винкá, і на коровáя.

Насáмпырідж, е́к збырýцца, саде́цца за стил, і однá, устаючэ́, кáжэ:

– Пэ́ршым рáзом божым роскáзом прóсымо гэ́тыйі молодэ́йі бáтька й мáтыра, братúў і сёстри, дядькíў і тётóк, сусíду звáных, гостэ́й прохáных, чы выле́ть, чы благослоўле́ть высíльле́ спывáтэ?

– (бáтько й мáтэ): Мэ дíвоньку годувáлэ, гóспода-Бога прохáлэ, тыпэ́р вылимó і благословымó – спывáйтэ здорóвэ!

Тодí спывáють дыўче́та:

“Высёли вэ́чур субота збирáла дівоньке́ пуд винке́,<br>
Садэ́ла дивочóк гре́д-у-ре́д (‘на лаве ў рад’) йíх,<br>
Ганýла загáдку ліпш усіх:<br>
Хто ў мойíм садóчку рáно буў, рáньню росэ́цу отранýў (‘расу збіў’),<br>
Кóником барвíнок огранýў?<br>
Одозвáўся жынишóк ......(імя маладога).<br>
„Я ў твойíм садочку рáно буў, рáньнюю росэ́цу отранýў...”

А е́к дíўка – сиротá, то спувáлэ сыріцке пісьні і ўсе́кэ гэ́нче:

“Ой, на дворí ныпогóдонька, дымлянó,<br>
Ныгдэ́, дíвонька, твогó бáтынька ны виднó.<br>
Пойдэ́, дíвонько, по подвíр’йічку походэ́,<br>
Свогó бáтынька на висíльлічко позовэ́.<br>
“Ужэ́ ж бо я чытэ́рэ рáзэ обийшлá,<br>
Ныдэ́ свогó бáтынька ны нашлá.<br>
Нашлá ж бо я ў шчэ́рому бору долэ́ну,<br>
А тó ж ны долэ́нка – мого бáтька могэ́лка.

Ста́ла я ба́тынька просэ́тэ:
Ходэ́, ходэ́, мій ба́тыньку, зо мно́ю,
Чы ны повыду́ я лі́пшого ладу́ с тобо́ю?
"Ой, ны пойду́, мое́ ді́тятко, ны пойду́ –
Зробэ́лэ мыні́ тёмну хатку нывидну́:
Ой, ны протялэ́ ны окэ́нычка, ны двырцэ́й,
То ны промо́ўлю, мое ді́тятко, ны слоўце́".

Нысирі́тна ('несіроцкая') пісьня:

"У поныді́лочок рано ўсі́ столэ́ круго́м ста́лэ,
Помыз тэ́мэ стола́мэ жынишо́к між свата́мэ.
Доро́гу ўбыра́ють, свого́ батька пыта́йіца:
"Ой, мій ба́тыньку рі́дни, чы вылэ́ш ночува́тэ,
Чы додо́му йіха́тэ?
"Мое́ ді́тятко рі́днэ, ны вылю́ ночува́тэ,
Трэ додо́му йі́хатэ – чы ўночі́, опіўно́чэ
Чы ў бі́лому сві́тэ ниві́сту прывизі́тэ,
Вылі́ку, е́к ялэ́ну, чырвону, е́к калэ́ну".

По́сля 1930 года ста́лэ вэ́лёна (/ва́ля) збыра́тэ на нэ́тку– на нэ́тку збыра́е і прымире́е на голові́; брэ́лікэ ('брылікі','зборачкі') ро́быть на ло́бовэ і повэ́рх винка́ шэ одэн брэ́лік. Ля гэ́тото трэ́га то́нынька го́лочка, і ны ка́жна ді́ўка мо́жэ ўсу́нутэ нэ́тку, а хло́пцэ дэ́ўляца, кото́ра здракува́та ('блізарукая'), то позна́ють, коб ны помылэ́тыся і слипу́ю ді́ўку ны ўзе́тэ.

Пырыд тэ́м, е́к збыра́тэ ва́ля, то такса́мо пыта́юца батька: "Пэ́ршым ра́зом божым роска́зом...", ти́лько за́місь "висі́льле спыва́тэ" ка́жуть "вэ́лёна збира́тэ".

Зоўю́ть винка́, збыру́ть ва́ля, поло́жать ёго́ на столі́ і спува́ють:

"Зылёни барві́ночку, учо́ра буў у горі́дцэ, а тыпэ́р на тарі́лцэ,
А ўза́ўтра бу́дыш на голи́ўцэ"

А е́к збыру́ть, то спыва́ють пі́сьню про то́е, коб молодэ́й вэ́купыў ва́ля = заплатэ́ў за робо́ту: "Пудступэ́, жынишок, пудступэ́, гэто́й винок іскупэ́, е́к ны вэ́купыш, то продамо́, а тобі́ й покушта́тэ ны дамо́".

І жынэ́х пудхо́дыть, становэ́ть лі́тыр во́дкэ і забирае ва́ля. Вэ́нысуть валя ў комо́ру, а пото́м вычэ́рають, шэ й тэсьць прыно́сыть пару пле́шок ('бутэлек'). Ба́ло ('бывала'), на два́ццыть ді́ўчын – два лі́трэ, то ўжэ́ поўпыва́юцца бигві́дь е́к.

Молодэ́й ідэ́ додо́му.

Бі́лэ пла́тьте ўжэ пошэ́тэ даўно́. Панчо́хэ бі́лэ ку́плянэ.

На дру́гі дэнь – у ныді́лю– пока́ молодэ́й ны прыйі́дэ, диўке́ молоду́ю ны ўбыра́ють.

Прыйіжджéе молодэ́й, ёгó брат і шэ шмат людэй – п'éть чы шісьць чоловíк,– усí, хто мáйица ('павінен') йíхатэ до цэ́рквэ.

Éк кóсу молодýхэ рошчэ́шують, колэ́ ўбырáють, то нэц ны спувáють. Прыхóдыть молодэ́й. Садéть молодýю на дыжý і ўбырáють (фактычна, толькі кладуць вэлюм, бо ў белай сукенцы яна ўжо апранута) – вэ́лёна кладýть. А до тогó шэ молодэ́й пудхóдыть, опэ́туйіца ('здароўкаецца') з ею насáмыпырідж, у руці ў його платóк ('хусцінка') наслáни, і ў йийí тóжэ. Так с платкáмэ й опэ́туюца. Хто ў когó вэ́рвэ платка, тогó бýдэ вэрх у йíхій жэ́зьні. А ў цэ́рквэ, éк на рушникóвэ молодáя стáнэ, то йийí росплíтае дрýжка, і йíдучэ с цэ́рквэ, то кóсэ ў молодэ́йі вíсять.

Убырáють вáля, а сватэ́ собí вэ́п'ють по пóрцыйі. Молодэ́йі до винчéньня нэц ('нічога') ны п'ють і ны йідéть. Йíдуть у цэркву винчéтысь: молодэ́й з братáмэ (йийí і свойíмэ) йíдэ ўпырóд на своёму вóзовэ, а молодýха – з дрýжкамэ іззáду на своёму вóзовэ. По дорóзэ, éк йíдуть у цэ́ркву, то ны спывáють, éк когó судóсять ('сустрэнуць') по дорóзэ, чы éк хто стойíть по бокáх гýлыцэ, то онó клáняюца – кáжному інтірéсно побáчытэ, éк молодэ́йі йíдуть.

Коровáя пычýть у ныдíлю, éк дíўка і молодэ́й пойíдуть у цэ́ркву, – тоді пычýть і ў ёгó, і ў йийí. Квиткé ўжэ нарóблянэ шэ ў суботу. А ў молодóго – удэ́нь: там коровáйныцэ рáзом рóблять квиткé і пычýть коровáя.

Коровáя рóблять коровáйныцэ –диўкэ́ і мододыцí (бабэ молодэ́йі), алэ шоб онó баба ны булá тóўста ('цяжарная') і коб у йийí ны булó на одэ́жэ ('менструацыя'). Рошчэ́нять ёгó шэ ўдóсвіта (самá мáтэ чы хто гэ́нчі, чужэ́й. А éк мíсять тíсто, то спывáють:

"Ой, бэ́страя рíчынька-дунаёк, прыбэ́ бóчку водэ́ до крáю,
Ек ('і к') нáшому дэ́ўному коровáю,
Прыбэ́ бóчку мукэ́ до крáю і к нáшому дэ́ўному коровáю".

Éк ёгó гыбáють і садéть у піч, то спывáють:

"Чыриз нóвыйі сíнэ два ганёлэ лытíлэ.
Ой, лытáлэ, пытáлэ, чы коровáя гыбáлэ,
Шэ мэ ны гыбáлэ, ганёла дожыдáлэ"

Коровай спычэ́цца. Вэ́ймуть ёгó с пэ́чэ. Убырáють і спывáють:

"Ой, мій бáтыньку рíдни, ны ўсядáйся ў лавочкэ́,
Ны ўглядáйся ў чарочкэ́, та возьмэ́ штычкэ́ ў ручкэ́,
Походэ́ коло пшíночкэ, погонэ́ пырипíлочкэ,
Шоб ны йíлэ пшíночкэ. Нам пшанэ́ца згодэ́цца".

А éк коровáя ўбырýть, то спувáють:

"Жыдовынá ў окэ́нычко торкáе, у дíвонькэ коровáя пытáе.
Ой, торгýйтэ – ны торгýйтэ, коровáя ны продáм.
Ой, éк прэ́дэ мій бáтынько, дáром дам".

Пóкэ бáтько прэ́дэ, то шэ спувáють: /до батька/

"Ой, мыдвíдю кошлáти ('калматы'), господáру богáти,

Ой, вэ́коть ('выкаці') тýю бочку, шо ў свэ́рнэ ў куточку,

Шо ў лíто ны окэ́снэ, а ў зэ́му ны замэ́рзнэ"

/до мáтыра/:

"Ой, мидьвíдыха кошлáта, господэ́ня богáта,

Ой, вэ́коть тую бочку, ..."

Éк оно повинчéюца, то пуд цэ́рквию обíдають. Насáмпырідж, éк обíдають, молодэ́йі одэ́н однóму даю́ть грýдочку цýкру, коб булó солóдко ў жэ́зьні. А éк йíдуть з винчéньня, тодí ўжэ спывáють – ны по дорóзэ, а ўжэ́ на подвíрйі, алэ éк котóра дрýжка ўп'éцца, то мóже й по дорóзэ поспувáтэ.

А тымчéсом коровáйныцэ ('якія пяклі каравай') одбирáють од свашóк коровáйца ('маленькі каравай'), з якéм свашкэ́ йíдуть до молодэ́йі. У йіх с коровáйцом éсьця кубасá, сэр, бутэ́лка горíлкэ. Коровáйныцэ пісьнéмэ одбырáють ёгó од свашóк:

"Свáнычко молодáя, дай сэ́ра, коровáя,

Шэ й тýю бутэ́лочку і свáшчыну цыцэ́лочку ('?'),

а свашкé одспíвують:

"Дывочкэ́-коровáйночкэ, нам дорóга вылíка,

Мэ ны йíхалэ, да котэ́лыся, нáшэ вóзэ поломэ́лыся

Мэ майстри́ў прынаймáлэ і гэ́тэ ўсё росчаступáлэ".

А коровáйныцэ:

"Свáнычко, моўчэ́, моўчэ́, бо застáвым воду тоўчэ́

Жылíзнымэ тоўкачéмэ".

А свашкé одспíвують:

"Дывочкэ́-коровáйночкэ, мэ водэ́ ны бойімóся,

Подáйтэ, нап'éмося".

А дыўкé: "Свáнычко, ны лáй, ны лáй, нам нáшэ оддáй, оддáй!

Éк свашкé мнэ́го вíдають пісэ́нь, то дóўго спувáють, одспíвуюца, а éк ны вíдають, то прóсяца:

"Дывочкэ́-коровáйночкэ, прóсым вас дохíд узéтэ,

бо нам тéжко дыржéтэ",

і оддаю́ть бутэ́лку, коровáйца, сэ́ра.

Бáтько прынóсить горíлку, становэ́ть йийí на стил і забырáе коровáя. А коровáйныцэ ідýть у кôмóру і п'ють, обíдають, бо éк прыйíдуть мододэ́йі с цэ́рквэ, то йіх – у стóрону, коб ны мишéлэ.

С цэ́рквэ высíлныкэ прыйіжджéють до молодэ́йі. Прыйíхаўшэ, спувáють:

"Ой гулá ('гудзела') пчíлка, гулá коло крýглого сылá, коло нóвого дворá.

То ны пчíлонька гулá, то дíвонька плáкала,

З винчéньня прыйíхаўшэ, бáтыньку до ниг упáўшэ:
“Ой, мій бáтыньку рíдни, розвинчéй тыпэр мынэ́,
Роз’яжэ́ білэ рýчкэ, розминéй прысьцёночкэ“.
“Мое дíтятко рíднэ, ліпш могý тэ́сён (‘тысячу’) дáтэ,
Ныж тыбэ́ розвинчáтэ, білэ рýчкэ роз’язáтэ”.

Бáтько з мáтырию выхóдять і витáють йіх іс хлібом і сíльлю. Прóсять у хáту тодí ўсіх, хто йіхаў до цэ́рквэ. Обíдають. Потóм молодэ́й йідэ по сватэ́ (він, дружкó, братэ́, шо ў цэ́ркву йіздылэ), побирýть свашóк, сватúў – чоловíк з двáццыть, бырýть своѓо коровáя (молодóго) і йідуть до молодýхэ. Прыйіжджéють. Спывáють на дворі, éк онó прыйідуть:

“Ой, у гóрдого тэ́сьця стойíть зéть за ворíтьмэ,
Стойíть він, ныдíлюе, ныхтó ёгó ны вíдае.
Довідалась дíвонька; од вітру заступáе, од дошчý прыкрывáе:
Од вітру шýбонькію, од дошчý хýстонькію”.

А éк дóўго сватэ́ стоéть, а тэсьць ны выхóдыть, то спувáють:

“Шоб я вíдала, да мій брáтыку, шо то тáк,
То ны йíхала б за свáнычку ныéк:
Напáлэ снігэ́-морóзэ ў дорóзэ,
Заморóзылэ мынэ́, свáнычку, на вóзэ.
Позамітало кóнюм грыўкэ́, а нам – гочкэ́”.

Тодí бáтько й мáтэ молодэ́йі с хлібом і сíльлю выхóдять і налывáють пóрцыю (‘чарку’) собí і молодэ́м і благослоўлéють, Бога прóсять, коб Біг даў шчéсьце... Бáтько з мáтырыю ідýть у хáту, і ўсí, хто прыйíхаў, частýюца і ідýть у хáту. Вонэ́ занóсять своѓо коровáя ў комóру.

А тымчéсом, éк молодэ́й судошéе (‘сустракае’) сватúў, молодýю схавáють і посáдять другýю (дíўку, бáбу чы мужчэ́ну), убрáну за молодýю. Éк молодэ́й прэ́дэ ў хáту, то дружкó спувáе:

“Дэ́ наша дíвонька: чы ў пóлэ за волáмэ, чы ў лíсэ за грыбáмэ,
Чы ў бабэ́й за сракáмэ?
Éк у лíсэ, то судосíтэ, éк у пóлэ, то пырийміте,
А éк у баб за сракáмэ, то покажíтэ”.

Молодэ́й сплáчуе тúй, шо булá ўбрáна за молодýю. Прывóдять настоéшчу молодýю (‘сапраўдную‘). Обíдають: садéцца за стил, п’ють, йідéть. Спувáють пісьні (“Лытíлэ гýсонькэ кыриз сáд, клэ́калэ /Манічку/ на посáд” і шмат іншых. Дэсь посырэ́дынэ висíльля для сыротэ́ спувáють:

“Вэ́йдэ, дíвонька с хáтэ: чы ны йдэ́ твоя мáтэ,
Чы нисэ́ квитóк винóк?
“Дывнэ́йі витэ́ (‘вы’), лю́дэ, мэ́йі мáтёнке ны бýдэ.
Моя́ мáтёнка рíдна на зáход сóнца лижэ́ть,
До Бóга ручкэ́ дыржэ́ть”.

“Ой, Бо́жэ мій ядэ́ни, пустэ́ мынэ додо́му поба́чытэ ді́тятка,

Чы воно́ хорошэ́ ўбра́нэ, чы на поса́д посажо́нэ”.

“Убра́ное, е́к либі́дка, на посадэ, е́к сыры́тка”.

А е́к найідэ́цца, то почына́ють пырипыва́тэ молоду́ю. Кричэ́ть: “Хто ў сі́нюх, хто ў ха́тэ, хто на лопа́тэ! Прошу́ на спомога́ньне, на дарова́ньне”. Дружко́ крычэ́ть: “Прошу́ на спомога́ньне, на дарова́ньне, на дар вилі́кі, на тэ́сячу зло́тих, на тэсячу чырво́них, доля́руў бэ́тих!”

Выно́сять с комо́рэ обэ́два корова́йі – молоду́шыного і жынихо́вого. Нысу́ть йіх, пырыкру́чуючыся, а корова́я дыржэ́ть упыро́д сыбэ́. Спува́ють:

“Ой, булэ́ ж бо мэ ў клэ́тэ ў тэ́сьця на бынкэ́тэ”, – дай більш нэ́ц на поспува́ють: ха́та мала́я була́ – онё кумо́ра, а тут ужэ й ха́та.

Поста́вылэ корова́йі на столі́.

Калі маладая – сірата, пры перапіванні ёй спяваюць:

“Зна́тэ, ді́вонька, шо сырота́:

Ныма́ ба́тынька /а другі раз спяваюць: ма́тынькэ/ до пырипо́ю.

Ні́кому дарува́тэ, шчэ́сьця-до́лі проха́тэ –

Ны дарэ́ть долярамэ, а дарэ́ть шылягамэ (‘пісягамі’)

Почына́ють пырипыва́тэ. Пэ́рші ба́тько – про́сить шчэ́сьця, долі харо́шийі, пото́м ма́тэ. За йі́мэ – роднэ́йі. Ка́жни кладэ́ гро́шэ, а ба́тько – гро́шэ і жэ́та тарі́лочку, коб жэ́тьте було́ лі́пшэ. Диўке́, шо булэ́ пудвинка́мэ, сусі́дэ, – хто хо́чэ, то йдэ і пырипыва́е.

Е́к молоду́ху забира́ють до молодо́го, то з молоду́хію йі́дэ пырызо́ў. У прыда́нэ йі́дэ: сыстра́, братэ́ха, ті́тка,– вонэ́ стэ́лють молодэ́м посьці́ль у пэ́ршу нич. Е́к розбыра́ють ва́ля, то трэ́га, коб мужэ́к накладаў соро́чку на молоду́ю: молода́я ўсё скенэ (сыдэ́ть оно́ ў спуднэ́цэ – у га́льцэ), а молодэ́й наке́нэ на йійі́ соро́чку, – таку́ю, е́к усі́ сорочке́, алэ кро́хэ то́нчу.

Прыйі́хаўшэ до жыниха́, свашке́ спува́ють:

“На порі́г наступа́ю, о́усиком обсыпа́ю,

О́усиком і жэ́тичком, коб було́ лі́пшэ жэ́тьті́чко”,

а молода́я сэ́плэ жэ́то. Йіх садэ́ть за стил. Пото́м пырипыва́ють, спува́ють пырипі́йнэ пісні.

Заўтра, паўставаўшы, садзяцца за сталы. П’юць, ядуць, што засталося і яшчэ могуць гатаваць тушаную капусту з мясам.

Потым пачынаюцца вясельныя гульні, у прыватнасці “цыганы”. Пасля “цыганоў” ді́лять корова́я і іду́ть по дома́х. Звычайна, “цыганы” з пераапрананнем адбываюцца на другі дзень вяселля.

*К.Ф. Руц*

# ДЫЯЛЕКТНЫ МАТЭРЫЯЛ З ВЁСКІ БЕЛАВУША СТОЛІНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Вёска Белавуша – цэнтр сельсавета. Знаходзіцца яна за 8 км ад г. Століна, на левым беразе р. Гарынь. За 2,5 км на ўсход ад вёскі размешчана старадаўняе гарадзішча Хотамель. У мінулым вёска Белавуша, як і большасць суседніх вёсак (Беражное, Манькавічы, Харомск і інш.), знаходзілася на правым беразе р. Гарынь. Потым яны перасяліліся на левы бераг. Мясцовыя жыхары тлумачаць гэта наступным чынам. У час веснавых паводак р. Гарынь затапляла вёскі. Вада стаяла прыкладна да сярэдзіны мая, што вельмі перашкаджала правядзенню земляробчых работ, у тым ліку і на прысядзібных участках. Левы ж бераг ракі быў высокі, і людзі перабраліся туды.

Першае ўпамінанне пра вёску Белавуша адносіцца да 1536 года. У перыяд Вялікага княства Літоўскага ў XVI-м стагоддзі вёска была ўжо адзначана на геаграфічнай карце як Белагуша. Зараз таксама яе так называюць мясцовыя жыхары і жыхары суседніх вёсак. З 1569 г. вёска ў складзе Рэчы Паспалітай, з 1795 г. – у складзе Расіі. У розныя часы вёска належала магнатам Ранцэвічам, Апанасевічам, Радзівілам, Тышкевічам.

Вёска даволі вялікая: паводле перапісу 1959 г. у ёй налічваўся 2831 жыхар, у 1980 г. – 3317 жыхароў, а на 01.01.2002 г. – 1007 двароў і 2951 жыхар.

Матэрыял, які публікуецца, запісаны на магнітафонную стужку ў жніўні 2007 г. Расшыфраваў тэкст аўтар.

***Эксплуататары***:
РКФ – Руц Канстанцін Фёдаравіч;
САК – Савіцкая Алена Кірылаўна.
***Інфарматары***:
МКФ – Мельнік Кірыл Фёдаравіч (83 гады);
ММР – Мельнік Марыя Рыгораўна (58 гадоў);
ПНА – Пінчук Наталля Андрэеўна (34 гады);
СГК – Сенькавец Ганна Кірылаўна (58 гадоў).

[РКФ] *Добры дзень, Кірыл Фёдаравіч. Раскажыце, калі ласка, пра сябе: калі нарадзіліся, пра свой жыццёвы шлях.*

[МКФ] [*Нарадзіўся*] Тысяча дз$^{д}$·евэцсо́т два́ццэц$^{т}$ь чэцвёртого го́да, двацца́тога фэвраля.

[РКФ] *А як вы трапілі на вайну?*

[МКФ] Я е́хаў у Росе́ю, ў со́рок пэрвом году́, ў ма́і ме́сяцы, і рабо́тав, зае́хав там, на вое́нном заво́дз$^{д}$і, роб·ів снара́ды і мі́ны. А пото́м там случа́й буў. Ішлі́ мы з заво́да. Й начала́с война́. І попа́в я ў а́рмію. І там пошо́ў ужэ́ ў а́рміі на фронт;

[*пайшоў у армію*] ў Го́ркоўской о́бласці. Отту́да ішо́ў на фронт. На фро́нц[т]і, коне́шно, са́мі зна́ец[т]е, як харашо́. Быва́е, не́мцы напада́юц[т]ь – одбіва́есса, на йі́х напада́еш. Ну й пошлі́ ж. Пройшо́ў усю́ Росе́ю, ў Бэрлі́н прышо́ў. В Бэрлі́ні буў две недз[д]е́лі. З Бэрлі́на в·и́йшоў на Дрэ́здын. У Дрэ́здыні там ко́нчылі. І чэ́рэз чэты́рнаццэц[т]ь дней око́нчылас война́. І попа́в я в Чэхослова́кію. Ну там м·и, кане́шно, зама́чвалі побе́ду, о-о. І отту́да попа́в ешчо́ в Ве́нгрыю. З Ве́нгрыі – ў А́ўстрыю. З А́ўстрыі -- ў Рум·и́нію. А отту́да зноў у Росе́ю, ў Д[з]ержы́нск. А отту́да вжэ домо́й, ў ты́сяча дз[д]евэцсо́т шо́остому го́дз[д]·і (году́) прые́хаў домо́й, попа́ў, шэсьць лет пробу́ў. Прышо́ў отту́да з а́рміі і пошо́ў у колхо́с[3]. У колхо́зі робо́тав строі́ц[т]елем. О. Все стро́йкі стро́ілі. Поку́да пошо́ў на пе́нсію. І на пе́нсіі шчас ужэ, дожыва́ю. Ужэ́ во́сімьсят чэцвёрты год[т].

[РКФ] *А можа вам запаматаўся які выпадак цікавы?*

[МКФ] Ну, война́, то ж... Стоі́ш, ждз[д]еш, стрэля́еш. Кома́нду пода́сьць тобе́ – я стрэля́ю. Я сам буў наво́ччыком, рабо́тав – стрэляў з пу́шкі.

[РКФ] *А якое ў вас было званне?*

[МКФ] Ефрэ́йтор, ста́ршы сержа́нт, ц·і э́то, ста́ршы салда́т.

[РКФ] *А колькі вы закончылі класаў?*

[МКФ] Чъты́ры, чъты́ры ў школі класы.

[РКФ] *А можа памятаеце, якая раней школа была, як вы вучыліся?*

[МКФ] А яка́ шко́ла була́... – сем кла́соў – і ўсё.

[РКФ] *А вы адразу пасля школы ў армію трапілі?*

[МКФ] Не..., шчэ ў Сто́ліні вучы́ўса

[РКФ] *А на каго вучыліся ў Століне?*

[МКФ] На э́того..., на строі́ц[т]еля. А пото́м с ту́дова, с Сто́ліна, забра́лі ў Росе́ю, ў ты́сяча дз[д]·ев·эцсо́т со́рок пэ́рвом году́.

[РКФ] *А вось вы яшчэ расказвалі, былі ў Венгрыі.*

[МКФ] Там жэ слу́жыш у а́рміі. У го́род е́зьдз[д]іў, у Будапэ́шт. У А́ўстрыі – у Ве́ну.

[РКФ] *А можа раскажаце што пра тых людзей, як яны адносіліся да вас?*

[МКФ] У Ве́нгрыі нева́жно. У А́ўстрыі лу́чшэ. А ў Чэхослова́кіі са́мо лу́чшэ. Ты́е лю́дз[д]і до́брэ одно́сіліс: кіда́лі цвэта́мі, канфе́тамі, як м·и прые́халі до йіх. А не́мцоў вэлі́, то плюю́ц[т]ь на йіх, пле́нных не́мцов.

Пасля размовы з Кірылам Фёдаравічам да нас далучыліся яшчэ тры жанчыны.

[САК] *Раскажыце, калі ласка, пра вашу царкву: колькі ёй гадоў, калі была пабудавана?*

[ПНА] Сто год ёй, нав·э́рно.

[СГК] Сто год ўжэ було́ тры го́ды наза́т.

[ММР] Не чоты́ры, а годо́ў тры нав·э́рно.

[ПНА] Годо́ў тры: я ўжэ жыла́ ў гэ́той ха́т[ц]і.

[САК] *Нядаўна было свята Купалле. Раскажыце, калі ласка, як яго святкавалі ў вашай вёсцы і пры вашай маладосці?*

[СГК] Ў мо́лодост[ц]і не святкова́лі.

[ПНА] А пры на́шой [*маладосці*]: пока́ “рэ́йсы” (абярэмкі дроў) не ўзно́сім, то нема́ костра́ й не пу́ст$^{ц}$ят$^{ц}$ь хлопцы нас, пока́ не наволо́чым, то не пу́ст$^{ц}$ят$^{ц}$ь до костра́.

[САК] *А раскажыце трохі пра вясельныя абрады.*

[ПНА] У п’я́тніцу начына́лос васе́льле: подушкі́ шлі выкупля́т$^{ц}$ь.

[СГК] То ўсе роска́звайтце. <…> А шо, вон пі́шэ?

[ПНА] Пі́шэ!..

[СГК] Во́-о-!.. <…>

[ПНА] Т$^{ц}$ётка Га́ля, роска́звайт$^{ц}$е про себэ́.

<…>

[СГК] Во́с·ім кла́соў ко́нчыла, пошла́ ў лесхо́с, ў чо́ботах рыба́цкіх ход$^{з}$·і́ла ў лесхо́с. А пото́м пошла́ ў Лу́н·інец вучы́цца за шва́чку.

[ПНА] О́-о, то вы шва́чка!..

<…>

[СГК] А пото́м в·и́шла за́муж, у полево́дах робі́ла. Народ$^{з}$і́ла однэ́ д$^{з}$іт$^{ц}$я́, пото́м друг·э́ д$^{з}$іт$^{ц}$я́. А пото́м чолове́к покі́нуў, пошо́ў до другóйі, чэ́рэз д$^{з}$ве ха́ты. А за́рэ жыву́ прыпева́ючы, дэй до́брэ. А шчэ ў бор ход$^{з}$і́ла, дро́ва т$^{ц}$ерэбі́т$^{ц}$ь, чолове́ка ма́ючы. От мое́ жыт$^{ц}$ьт$^{ц}$ё. А ў шко́лу ход$^{з}$і́ла ў чо..., ў постола́х, то́рбу носі́ла полотня́ну

[ММР] О-о! До́бра полотня́на, здоро́ва!

[ПНА] Полотня́на то́рба до́бра. М·и, як булі́ малы́е, з го́ркі спуска́ліса на ёй. А гэ́тты во́-о, зна́ет$^{ц}$е д$^{з}$е, , там д$^{з}$е ко́ліся ба́т$^{ц}$юшко жыў.

[СГК] А д$^{з}$е ба́т$^{ц}$юшко?

[ПНА] А там, д$^{з}$е Мары́я жыла́: гэ́та ха́та... Ранцэ́віч…

[СГК] А-а-а...

[САК] *А як у вас вяселле спраўлялі?*

[СГК] На ко́н·ях е́хала. Тоды́ машы́н не було́, да на ко́нях е́зьд$^{з}$ілі.

[ПНА] На ко́нях!?

[ММР] Машы́ны хот$^{ц}$ь йэ, але́ ўсе^раўно́ на ко́нях булі́.

[СГК] На ко́н·ях мэне́ вэ́злі.

[ПНА] А ма́т$^{ц}$і моя́ ка́жэ, шо спэ́рэд$^{з}$і тра́ктор е́хаў, прочышча́ў доро́гу, бо сне́гу було́ бага́то.

[СГК] Снача́ла було́ подушкі́ ў субо́ту забіра́лі...

[ММР] У п’я́тніцу.

[СГК] У субо́ту.

[ММР] А-а-, то́чно.

[СГК] У нед$^{з}$е́лю васе́лье, другі́ д$^{з}$ень то́жэ.

[ММР] А ў сватáх каза́лі: “У вас т$^{ц}$елу́шка, а ў нас жэрэбэ́ц”.

[СГК] Позо́в·іны булі́.

[ММР] Ну, два дня ў молодо́го.

[СГК] А два дня ў молодо́й позо́віны.

[ПНА] Цэ́ла нед$^{з}$е́ля васе́льля.

[ММР] Ну-у-у!

[ПНА] А да́ле ў молодо́го позо́віны.

[ММР] Не-е, снача́ла корова́й д$^{з}$елі́лі.

[СГК] Ну, то коровáй, і булí позóвіны. Огó гуля́лі.

[ПНА] Не то, шо зáрэ: посед$^{з}$я́т$^{ц}$ь, да й кáжэ, шо васéльле зробíла. У рэсторáні поседзя́т$^{ц}$, да й васéьлле вона зробíла.

[РКФ] *Раскажыце, паважаныя, як у вас святкуюцца дажынкі?*

[ПНА] Дóжынкі?... А як: понапівáюцца комбайнёры, да й дóжынкі.

[СГК] Да спэвáют$^{ц}$ь, танцýют$^{ц}$ъ

<...>

[РКФ] А гуля́лі?

[ММР] Чомý не гуля́лі, о-ой, такá гуля́нка булá; сноп жы́та такóго, да хлéба с^сóльлю, да концэ́рт які́, да ў бэрэ́зні́чок шлі гулят$^{ц}$ь на Шля́хт$^{ц}$і. Ó гуля́лі, буд$^{з}$ь здорóў. <...>

<...>

[СГК] Кажý, в Манькóўскі парк попохóд$^{з}$імо!

[ПНА] От, кóліся Д$^{з}$ень молод$^{з}$ёжы буў. От гэ́то шо булó. Да рáншэ як сповáлі!..

[СГК] А ц·епэ́р попрóбуй засповáй, то скáжут$^{ц}$ь – понапівáліса.

[ПНА] А отýта во, хто шоў на пéнсію, да як сповáлі. Во ў гэ́тых во в·э́рбах. Я пóмню, малá булá, як м·ы слýхалі ты́е спéвы.

<...>

*Н.В. Сівіцкая*

# З ГАВОРКІ ВЁСКІ КАШТАЛЯНАЎШЧЫНА

***Расказвае Долгая Станіслава Антонаўна**, 1921 г.н.; запіс зроблены ў 2005 г. у Глыбоцкім р-не.*

Яно і быліó, му́сіць, фтарóга пастаянна [фэст у Будславе]. І, казала [бабуля расказчыцы], гэ́дак з'ізжáліся ліцьвякí – яна ўсё казала — і дýжа крáлі рабя́т. Ну, літóўцы. Ну, дык казáла, гэ́ткія благíя гэ́тыя літóўцы былí, гэ́дак крáлі рабя́т, на гэтым жа ж, як з'ізжáліся. Казала, дужа вялікія сьéзды былí, прыізжáлі із вýткамі, прадавалі там, і ружáнцы, і кнíшкі, ну, словам, усякае касьцéльнае, і пячэ́нне там прадавáлі, як панаізжáюць, і, кáжыць, кралі рабят. Што яны з рабя́тамі рабілі? Рабілі на калéк. Выпáлівалі вóчы, сьляпы́я. А тады вазілі па гэткіх кірмашáх, панімáіш? І, кáжыць, як выйдзіш с касьцёла, тык многа-многа рабят сядзіць, той там абы-які рабёнак – гэ́дак дары́лі іх, гэдак надáрывалі гэтых рабят людзі, каторыя на сьéзды прыязжáлі. Вот, кáжыць, укра́лі яны́ дзéвачку. Гэта ужо йіна, казала, відзіла, як білі йіх. А як папрыйізжáюць жа ш на кірмáш – тóка ш на кóнях, панастаўля́юць коней і гэтыя аглóблі, аглóблі. І вот, кажыць, дары́ла бáба дзéвачку і кажыць : «А што табе?». А йіна кажыць: «Мяне укрáлі і вóчкі мне вы́палілі і ат мамы ат маéй і атвязлí і вóзюць мяне па кірмашáх». Дык казáла бáба, як сабрáліся мушчы́ны, як пахватáлі гэ́тыя аглóблі – скóлька іх там было бýдак, аднаго, кáжыць, на сьмерць забілі. А гэ́дак паламáлі, усё ім пабілі, гэтым ліцьвікáм. Бо толька ліцьвякí гэ́дак прыізжáлі у Бýдслаў і гэдак во рабя́т крáлі… А тады ш вот былі кірмáшы – і у Бýдславе, тады і ў Глыбóкім быў сьест – кірмáш, і гэткіх во калéк панавóзюць і гэдак нажывáюцца – грошы ім скíдывалі, ну і ўсяго ім скíдывалі – ну усю́ды, усю́ды – і у Вíльні, і тут, скрозь во гэтых калéк вазíлі. Дык вот гэ́дак Бýдслаў аддáўна слáвіўся, дык йінá казала, так білі, так білі. Ну, мýсіць, яны тут нідалёка жылí, што на кóні, ві'ш, прыізжáлі ў гэ́ты Бýдслаў.

***

Аш у Вíльню хадзíлі пяшком. Пяшком хадзілі туды і назáт. Не, я ні хадзіла. А хадзíла Амíлькі гэта мáтка, хадзíла пяшком. Гэ́дак ногі было ў яе атня́ўшы, саўсём. Ні магла́ хадзíць, нічога рабіць ні магла. Ішлі бáбы ў Вільну на гэтат сьест і йіна пашлá. Кáжуць: «Як жа ж ты зайдзіш?» А йіна кáжыць: «Я ішла. Дзень ішлі. А тады ноч атдыхáлі, а тады яны, кажыць, спáлі, на сéне там недзе ў пýні, а я, казала, ні заснула. А тады ішлí, дýшна было, лéтам, ішлі цéраз рэ́чку, яны, кажыць, паляглі, а я улéзла ў гэту рэчку, стая́ла-стая́ла, у ваду ногі нагрэ́тыя, а тады -- вазьму ды я крапíвай яшчэ па нагáм. Нарвáла гэтай крапíвы і па нагáх, па нагáх сасьцібáла. Як вы́шла, кажыць, так пякло мяне, так пякло, і

перастáлі ногі балець, і дайшла у Вільну, і з Вільны прыйшла». І перастáлі ў яе ногі балець – вот як Бох даў.

***

Як уцікáлі – ні аднýі ш янýі уцікáлі – ужо яны ў Глыбокім тут во жылí. Алі усе чýіста маладыя – наступáлі бальшавікí, дык гэ́дак бая́ліся бальшавікóў – запраглí каня́, прывізáлі кабýілу і гэ́дак усé éхалі тудýі, у Пóльшч. Яны заéхалі аш у Пазнáнь, эта крэ́пка далёка яны заéхалі. Я у Пазнáнь éхала с Ольштына шэсь часоў экспрэ́сам – ні прыстанáўліваючыся. А яны на кані заéхалі. Бáцькава сістрá вучýіла рабя́т па-пóльску – як йіна там вучýіла – кап чытáць умéлі па-пóльску у кнізе, у касьцёл схóдзючы, цíха, бо бальшавікí ні давáлі па-польску [вучыць]. Цяпéр во пíшуць, што паля́кі ні давáлі па-ру́ску, тадýі і ру́скія ні давáлі. Алі ш дурнýія былí, паéхалі. Паéхалі на канí, і карóву забрáлі, а гэта ш дзьвé карóвы былí, тадýі я́шчур пашоў, вýікапалі я́му, пастраля́лі ўсіх кароў у я́му ў гэ́ту. І на пóлі ш там убірáлі – і дзéда забрáлі, каня́ і дзéда – акóпы капáць, гэта бальшавікí наступáлі. І як паéхалі, і паéхалі, і тáмка вот бáцька затóе і ў Польш вýійіхаў, у яго было пóдданства пóльскае. Ня гэ́та, што ён тут пóльскім пісáўся, а былó ў яго пóдданства пóльскае. Яго там паля́кі зграблí, і акóпы капáць. І ён там і зіму́ акóпы капáў, і вяснóй, і чуць вярну́ўся. А карóву у палавíны дарóгі кінулі. Карóву гэ́дак вялí. Казáлі, падóім, малакó скóка нáда зьядзём, а гэ́та пат плóтам вýілійім, і далéй, і далéй. Дык яны ш там абóзамі, стрáшнымі абóзамі éхалі. А сістрá дóўга былá. Казáла, прыéхалі лéтам там ікрáс увóсінь я́блакі абірáлі, фру́кты, дык у пáні ў такóй былá, я́блакі сушýіла, памагáла рабóту рабíць, бая́лася, што гэ́та яе бальшавікí схвáцюць, за гэ́та, што йінá па-пóльску вучýіла. А тадýі вярну́ліся. І конь там астáўся. А дзя́цька і астáўся у паля́каў, áрмію там адбýіў. Алі ён вярну́ўся. Во бáцька прывёс дакумéнты, што ў яго пóльскае пóдданства, а дзя́цька вярну́ўся, нічóга ў яго на рукáх ні было. Тады гэтыя, катóрыя паварáчваліся, ім давáлі зямéль мнóга, па дзéсяць гактáраў, па дванáццаць гактáраў зямлí, асáднікі яны звáліся. Мы яшчэ сядзéлі во дзе Пáўла сядзíць – гэта асáдніцкія хáты, гэта афіцарóў польскіх, афіцарáм сваім давáлі гэтыя яшчэ хаты. А дзя́цька вярну́ўся – нічóга ні было ўжо. Бáцьку адрáзу далí зямлí, а дзя́цьку вязьлí цíха, граніцу паравазíлі, дык у сéна, у цюкí укруцíлі. А там тады, я ш ні паéхала, скока нас чалавéк, ужо яго там прапісáлі.

А там у Польшч як заéхалі, нашы як заéхалі, дык атрáзу дáлі дом – за тое, што яны пастрадáлі былí, там Амéрыка ім памаглá. А нéкатарыя вот прыéхалі былí, дáлі ім дом, а варóчаліся – нямéцкая ш тэрытóрыя былá -- варóчаліся нéмцы, яны выганя́лі с сваіх дамоў. Дык із йімі яшчэ, із бáцькам, жылá бáбушка стáрэнькая, сын яе быў врачóм, аднагó забíлі, а другí врачóм на тым баку́ Гірмáніі быў, яна былá, паку́ль разрашýілі, што мóжна забірáць, дык яна і жылá. Прáма скруцíлі сьвет! А кап яны і тут былí, пагаравáлі-пагаравáлі п.

Брат у Амэ́рыцы як ачуці́ўся? Яму было́ васімна́ццаць гадо́ў. Бра́лі не́мцы у СД – стра́шны кара́цільны атра́т у Глыбо́кім. І бра́лі яны два́ццаць чацьвёрты – два́ццаць пя́ты гот. І мабілізава́лі яго. І пашло́ тут с Кашталя́наўшчыны 'шчэ адзі́н ма́ліц і быў ма́ліц з Галу́бчыкаў, там яго брат і цяпе́р яшчэ́ жыве́ць. І яны́ забра́лі іх, змабілізава́лі, і былі́ ту́тка у Глыбо́кім. Былі́ яны́ – уво́сінь забра́лі, а тады́ вязьлі́ у Мі́нск. А тут жа ш во лясы́ скрось. Дык ён ужо каза́ў гэ́дак, што яны́ ш ім ніякіх дакуме́нтаў ні да́лі, то́ка аўсвэ́йсы – эта як па́спарт, гэты аусвэ́йс. А што яны вязьлі́ іх – ге́ты э́тыя разьбіра́ць. Ну дык тады́ як вязьлі́, і у ле́се тут як былі́ і но́ччы вязьлі́, яны вы́скачылі, многа іх вы́скачыла. Яны утро́х – с Лу́жак адзі́н ма́ліц быў, з Галу́бчыкаў і наш. А йішчэ́ засталі́ся два на́шых ма́льцы, тут яны скока-та чалаве́к набра́лі, павязьлі́, а гэ́тыя як засталі́ся – і засталі́ся. Ну і там як вы́скачылі у ле́се яны́ уціка́ць, іх іс саба́камі злаві́лі. І злаві́лі, і тут жа ш яны́ іх у Мі́нску дзіржа́лі. Ён тады́ ўжо піса́ў, ён мно́га піса́ў іс Амэ́рыкі, што так зьбіва́лі, так зьбіва́лі, і павязьлі́. Ён як е́хаў це́рас Польшч – у Фра́нцыю, у ла́гер вязьлі́ – як е́хаў це́рас Польшч, дык ён быў сем клас ко́нчыўшы, даўне́й бо́лі ні вучы́ліся, а тады́ ґімна́зія была, ён быў до́сыць адукава́ны, як ён там, хто яму вы́кінуў, пісьмо́, гэ́тат рагачо́к такі́ – даўне́й жа ш гэ́тыя ні́ былі́ канвэ́рты, а такі складаннік – і ён вы́кінуў. Ён то́ка напіса́ў – ён бая́ўся – напіса́ў, што мы е́дзім на По́льшу, е́дзім, ні зна́ім, куды́ мы е́дзім, куды́ нас… Ну і пасля́ таго́ пісьма́ і ні было́. Тады́ пашлі́ мы з гэ́ным бра́там, с Сіро́жам гэ́тым (братам ма́льца з Галубчыкаў) дабіва́цца адзе́жу, яны у адзе́жы забра́лі іх, і там афіцэ́рскую адзе́жу надзе́лі – ён высо́кі быў, красі́вы – кап адзе́жы [аддалі] – ды яны так нас збадзя́лі і збадзя́лі, і сказа́лі, то́ка ім ка́ра – сьме́рць. Ну ўсё, і прапа́ў. Прапа́ў, мы і ніч́ога ні зна́лі, і ня ве́далі праз яго́. Ма́ма пла́кала, ўсё пла́кала, што забі́лі не́йдзе, алі мы ні зна́лі, што яны ўціка́лі, мы гэ́тага ні зна́лі. А тады́ вайна́ ко́нчылася, і адзі́н вярну́ўся по́сьля вайны́ – с Галу́бчыкаў ма́ліц, гэ́тат, като́ры с маі́м бра́там быў. І ка́жуць, што прышо́ў Вало́дзя, прышо́ў Вало́дзя. Ён, ка́жуць, нідзе́ ня быў, ён, ка́жуць, тут хава́ўся, то́ка мані́лі, што там іх забра́лі, там пасла́лі, ён, ка́жуць, тут хава́ўся. Ну і злаві́лі э́тага Вало́дзю. Тут ужо гэ́ткія во падлёткі, сы́шчыкі ж былі́. Прышо́ў з вайны, і се́лі яны ра́ніцай сьне́даць, і тут яны дагле́дзілі і злаві́лі. Тады́ гэ́тат ма́ліц – злаві́лі, дапрасі́лі і пусьці́лі да су́ду – тады ён прышо́ў да мяне́. Стаў мне раска́зваць, што я, ка́жыць, Янака ва́шага ві́дзіў. Мяне́, ка́жыць, у пе́рвы ваго́н пасадзі́лі, а яго гна́лі ў аста́тні ваго́н. І я яго ўві́дзіў, як яго садзі́лі ў ваго́н. – А як ты вярну́ўся? – А я, ка́жыць, нам тады́ у Фра́нцыі, як ко́нчылася вайна́, нікіх дакуме́нтаў німа́, зна́чыцца, ідзі́це дамо́ў. А дома вам там дакуме́нты зро́бяць. Но гэ́нан быў чаторыхкла́снік, а наш – наш спужа́ўся гэ́тага. Ён аста́ўся там, або́з не́йкіх сакраёўцаў быў, там аста́ўся. Дык ён мне ка́жыць, гэ́тат Вало́дзя, што ты зна́еш, я Янака ві́дзіў, гна́лі нас на рабо́ту, а ён з лапа́тай стая́ў, дык каза́ў во гэ́ткая во барада́ ў яго была́, гэ́дакі страшны́, абро́сшы, абарва́ны, гэ́та ён у пляне́ быў. А тады́ як пусьці́лі гэ́тых пле́нных дамоў, ён тады пада́ўся на той бок у Гірма́нію, і там ён пабы́ў, і гэ́дак ён быў – піса́ў ён нам с Амэ́рыкі – што гэ́ткі быў, што до́бры пяту́х бо́лі ва́жыў, як я

цяпе́р. І паламáў нагу́, і атнялі па калéна нагу́. Ну і там, тады́ ж дзіўчáт гэ́тых ні было́, ён ажаніўся там, алі нам яшчэ́ нéяк было пісаць. Ажаніўся і тады́ – у яе, у дзяўчы́ны ў гэ́тай – ну, ён жа ш там ужо крэ́пка до́брую дзяўчы́ну ні ўзяў – у гэтай дзяўчы́ны былá й хáта, матка астаўля́ла, кап яны жылі́. А ён падáўся аш у Амэ́рыку. А ў Амэ́рыцэ быў наш дзя́цька, тáтаў ро́дны брат, паéхаўшы, йішчэ́ мáма зáмужам ні былá. Ужо ён як прыéхаў, яму быў васьмідзіся́ты гот. І вот ён як прыéхаў, мáліц быў грáматны, ён зайшо́ў у стол-бюро́ і знашо́ў дзя́цьку. Акáзываіцца, што, як я, кáжыць, прыéхаў, дык мы у аднэ́й стало́вай éлі, алі адзі́н аднаго́ ні пазнáлі. Ну і знашо́ў ён э́тага дзя́цьку, і паехаў да э́тага дзя́цькі. А як спаткáліся із дзя́цькам, як стаў ён раскáзаваць, ну і тады ш як стáлі яны жыць і ён устро́іўся у Дэтро́йце на сáмы бальшы́ аўтамабі́льны заво́т рабо́тать, а бáбы ш у іх ня ро́біюць. Тады адзі́н мáльчык радзі́ўся.. Ён доўга жыў, ужо бо́льшы мáліц яго быў ко́нчыўшы інсьціту́т, за настáўніка. Вéрна ён памёр, бо ні стáла [пісем]. Тады ужо вы́шаў такі укáс, што ўжо бы́тта бáцька за сы́на ні атвічáіць, а сын за бáцьку, тáды ён пéршае пісьмо́ праслáў. Быў сельсавéт у Літо́ўшчыне, на сельсавéт. Напісáў гэ́дак, што хто палу́чыць маё пісьмо́ (яны́ там ужо знáлі, што выізжáлі, вывазі́лі), хто палу́чыць маё пісьмо́, бу́цьце до́брыя, атпішы́це мне, дзе маé бацькі́. А тады ш нáшы дурны́я былі́, ён напісáў гэ́дак, як і цяпéр пішуць: імёна, фамі́лію і тады́ дзярэ́ўню. А ацéчаства ш у іх нет. Ну так як прышло́ гэ́та пісьмо́, там па сельсавéту кідáлі-кідáлі -- якóе, і каму́, і чорт яго вéдаіць, ня гэ́дак у нас áдрасы пішуць: ён увярху́ напісáў свой áдрас. Алі былá Яцы́ны гэ́тага Вацюкá сістрá ро́дная, на по́чте рабіла. То́ка напісáў, што Кашталя́наўшчына. Дык йінá прынісла́ мне гэ́та пісьмо́ ціха. Ня мне – пашо́ў бáцька [муж расказчыцы] на пераучо́т (ужо́ яны́ хацéлі яго атаслáць назáт), пашо́ў бáцька на пераучо́т у Літо́ўшчыну, а йінá кáжыць: Івáн, мо́жа гэ́та вам, вáша пісьмо́? – яны́ знáлі, што нáшага мáльца німá – нéйкае во пісьмо́, але як ён мог пісáць, чорт яго вéдаіць. Тады́ бáцька прынёс пісьмо́, бая́ліся, кап ніхто́ ні знаў, кап ніко́му ні паказáць – гот, мо́жа со́рак пя́ты, со́рак васьмы́, тады мы яго ні атпі́сывалі. Тады́ стáлі с По́льшчы прысылáць пісьмо́ і тáды я паслáла у Польшч да Вэ́рці і Вэ́рця напісáла яму́ у Амэ́рыку і тады́ ён с Амэ́рыкі прыслáў.

А гэ́тага мáльца, што вярну́ўся, дáлі пітнáццаць гадо́ў, пасадзі́лі яго бальшавікі́, саслáлі. Як ужо яго атпусьці́лі, а тады́ другі́ рас на дапро́с узя́лі, я пашлá на сут, алі пабая́лася, думаю, ай, яшчэ́ мянé тут уцю́каюць. Але ён раскáзаваў, ён ві́дзіў, як яго гнáлі, дык я напісáла: ці прáўда ты гаво́рыш, што ты там яго ві́дзіў? Аш Янак прыслáў пісьмо́ і кáжыць: прáвільна, ён мяне ві́дзіў, Вало́дзя там быў, рáзам са мной. Расказáў, як сказáлі нам, што ідзі́ця, éдзьця дамо́ў, ні нáда ні гро́шай, нічо́га, куды́ твой по́іст ідзéць, туды́ éдзьця, усе раз'іжжáліся, то я знаў, што нас тут ні памі́луюць. Я крану́ўся у Гірмáнію, а тады́ ў Амэ́рыку. Вот які́м спо́сабам ён дабі́ўся у Амэ́рыку. Быў ён доўга. Ужо Аліна у школу хадзіла, у во́сьмы клас, як ён пісьмо́ прыслáў. Івáнаў бáцька прыслáўшы быў пісьмо́, яго́ бáцька быў у Аргенці́не, а наш [брат] – у Саедзінённых Шатáтах. Ён пісáў, мо́жа, я да яго зьéжжу, машы́ны ш там дзéшава былі́, а ён с аднэ́й нагой выяжжáў на машы́не на заво́т рабо́тать, до́бра

зарабля́ў. Мне ён нічо́га не прысыла́ў, а туды ім у Польш прысыла́ў, бацька́м гро́шы прысыла́ў. Вэ́рця вы́шла за́муш, дык ён прысла́ў цьвяты́, вэ́люм і суке́нку. А тады ра́птам ні ста́ла пі́сем. Жо́нка не́мка, дык, ве́рна, пае́хала да бацько́ў.

А гэ́ты адзсе́дзеў сто́лька гадо́ў, прые́хаў дамо́ў ужо, на прыма́кі прыста́ў. Што ты ду́маеш, у Глыбо́кім устро́іўся на рабо́ту, і тады́ абарва́лася была лі́нія, е́хаў на ро́вары і на драці́ну на гэ́ту уз’е́хаў.

*Т.М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Трухан Вольга Георгіеўна,** 1934 г.н. запіс зроблены ў 2007 г.*

Яшчэ мы ні ражжыліса, як той кажа, яшчэ ў первых гадах. Ні было яшчэ ні свіней сваіх, кароўка, то малако ўжэ было. Мы выгадавалі с цяляці кароўку, бо ведаю тое: у Марусенькі тые годы па шаснаццаць галоў, значыць, дзве свінаматкі і парасят па восім. Яны ж ганялі на мох пасвіць. Мы ў яе купілі свіначку, купілі свіначку і сталі карміць. Нек брат нябойшчык ехаў к нам і купіў там у магазіне ў Новых Цярушках літровую крушку, вот як у нас гэтые белые, толькі чорны берах. Так я так, як пачала эта парасятко зразу патрошку малака, патрошку малака, а патом ужэ ж яно стало падрастаць, дак я ў картошкі мукі і літрову крушку малака за рас етай свінцы. І свіначка ж была. Цяпер так, прышлосо ўкарміла гэту свіначку, яна была нідоўга, вот сорт есць доўгіх свіней, а ў яе былі кароткіе, нідагледжаные. Кармлю, кармлю тую свінку ўсе лето. Закалолі тую свінку, дак тая свінка наша як удоўж, так упоперак. Закалолі, засмалілі, бацько выпусціў гэтые ўсе патрахі, гэтые бакі абычно, як ні тоўстэ сало, ты ж бачыла і ўсякіх пападала ў нас, дак яны ш трохі ападаюць, а ето стаяць бакі, што карыто, як вулей які, толькі што жывот разрэзаны, а бакі трэба абгінаць. Дак такое сало было, як брусы ўпоперак мыла, такое сало было ат мукі і ат малака. А еслі камбікормам корміш, то сало мякке не будзе.

***

Як аўгуст патходзіць, то абязацельно буры біваюць, вятры, грозы сільные, эта не толькі цяпер, а скрозь, і перат Тройцаю, эта ўсегда перат этымі празнікамі. На Лью ідзе дож, дак ён спакойны, ціхі, не такіе вятры сільные.

Раньша была бура такая, што яблыны паабварочвала ў саду, рогам яно як-то ішло да Дарасіно, да паўкручвало воду ў калодзежах, там і хаты паўваляло ў Дарасіно. Ведаю, што ляГрадак разбівалі навоз, развозілі, на машынках вазілі атсюль, а барты там аткрываюць і з машын мы скідалі, разбівалі і бачылі, як пыл еты ішоў страшно і на Дарасіно. Дак тады трохі канюшню нашу пазрывало і сат – паўварочвала яблыны, і на Дарасіно. А ў Дарасін дак крышы пазрывало, папорціло вобшчэм хаты. Ты ж знала Валодзю Шарманку, ён вучыўса с табою, дак ім наверно фінскі домік далі, хату папорціло ім, а мы пазіралі , як шыфер лятаў. Відно было, што буран, бо бело і як туман які. Это ўсягда-ўсягда, вот як тут такое ўрэмя. Вот кажуць, рабінава ноч. Это цэленечку ноч бывае грыміць і бліскае, і канца німа, аткуль яно ідзе, і цэлу ноч. Часцяком это бывае. І цёмно-цёмно, тады вельмо бліскае, што свіціцца ўсе, найдзе хмара такая і стаіць. Якое ўдзіўленне о, як у Крыжонка хлеў згарэў. Як аттуль, як с Урэчча, ішла хмара, і з Дарасіно, ты падумай, бачылі людзі, што граза была і бліскало і як клубок які ляцеў, і к ім на хлеў, і спаліло хлеў. У хляве засек зрабілі, запасы жыта і ўсяго на свеце. А зямлі ш панабіралі яны да і маці, зямлі много сеялі, сеялі жыто много,

хоць худо́бу дзяржа́лі. Засе́к жы́та згарэ́ло на ўвесь хлеў, выво́зілі ў Бадуно́вые. А бык быў, мо два быкі́ было́ да дзве каро́вы, апара́тамі даі́лі каро́вы, дак мо яко́е прыцяжэ́нне было́ сі́льнэ, як е́тые апара́ты ці што е́то там. Трэ́ба э́то ляце́ць і якра́з у і́хні хлеў. Яны́ тады́ ні зна́лі, што рабі́ць.

***

Алёшка як до́брэ, так пры́йдзе, а як што яко́е, дак ён ужэ́ ні зна́е, дзе дзе́цца. Ён кажа, што ж я са аднае́ю ру́кою лі́чы, ні памы́ць, ні зва́рыць – ні́чого на све́це, карто́плі ні ачы́сціш, дак што ты. Ва-фтары́х, каза́ў, што і е́та рука́ балі́ць, усе́ ш бо́льша напо́ра на пра́вую ру́ку. Ён з малады́х гадо́ў папагуля́ў, е́тые ко́ні дагляда́ў, ён жа то́жа лі́чы ў ба́цькавум ва ўсём жыве́. Ён жа як ажані́ўса, узяў Тама́ру, да с Усты́нкаю (яго ма́ці) ве́льмо сварыліса. Дак ён жа быў у той ха́це вы́разаў, о то як акно́, у само́й вы́разаў дзве́ры, зрабі́ў, паста́віў. І тудэ́ю хадзі́лі яны́, у той ха́це жылі́, а палі́ць, то ўжэ ра́зам палі́лі ш у пе́чы. У іх там бальшава́та ха́та. Зямлі-то по́ўно бра́лі, ма́ці Тама́рына ш жыла́ адзе́льно, жыла́, дзе Ко́ля Канёвых. Е́то ж яна́ была́, наве́рно, за бра́там Ко́лі Канёвых, ма́ці Тама́рына. А яго́ ў во́йну забі́лі ш, у э́ту, наве́рно. Дак яны́ там, як у камо́рцэ жылі, у Ко́лі Канёвых у ха́ці . Ха́та, тады́ се́нцы, тады́ ў камо́рцы мо яко́е акно́ зрабі́лі, яны́ там і жылі́. А да́ле купі́лі ха́ту э́ту, ту́ю ля Аляксе́я Джумано́вых. Купі́лі ту́ю ха́цінку, а я не ве́даю, хто там жыў і што ў той ха́цінцэ. Там жэ ха́цінка і се́нцы, і тады́ трохсце́нек прыкі́нуты, як хляве́ц. Купі́лі ту́ю ха́ту і ўжэ жыла́ ба́ба там, дак то́жэ со́ткі се́ялі. І ге́тые со́ткі се́ялі, дык у іх то́жэ скрозь папаара́ў. А дале́й зямлі́ нахапа́ў, ён то́лькі ля зямлі мно́го рабі́ў, а так ён ні будава́ўса, е́то то́лькі дроў які́х прывясці, ну ашалява́ў ха́ту, перакры́ў.

Яшчэ́ жыла́ ма́церына сястра́, яна́ ў Во́ршы жыла́, яна́ так бы як нежана́та мо была́ ці што, а да́лей не́йкі мо на дзе́ці ўзя́ў яе, дак пастарэ́ла, дак у яе́ то́жэ ні ве́льмо. Каму́ ўжэ стары́? Па́сынкі тые, мо хлопцы, мо што. Дак яны́ ўжэ му́сілі яе́ забра́ць сюды́ к сабе́, дак та́я то́жэ адна́ была, дак е́таго тканаго ў яе да ўсяго́. Та́я рабаця́шча была. Дак яна́ така́я была́, што яна́ ўсё ля хазя́йства, яна́ ўсе хазя́йство пыні́ла ў іх.

Ма́ці паме́рла яго́, дак яны́ ўжэ забра́лі і Тама́рыну ма́церу сюды́, дзве ш пе́чы трэ́ба палі́ць, да вары́ць адзе́льно, дак яны́ ўжэ ра́зам, а ва-фтары́х, дзе́ці ш, дак Тама́ра рабі́ла ш, ні было́ на каго́ дзяце́й пакі́даць. Радзі́ўса Ко́ля, тады́ Са́ша, а тады́ дваяня́та – Таі́са і То́лік – чэцьвяро дзяце́й, худо́бу гадава́лі то́жэ, дак што ш ты, ма́церу забра́лі к сабе́, дак ма́ці ўжэ дзе́ці глядзе́ла да е́сці гато́віла ім. Яны́ як з ня́нькамі пражылі́, яны́ зна́лі рабо́ту. Гэ́тую ўжэ дво́йню, то ба́ба гадава́ла. Яны́ забра́лі ўжэ ці як радзі́ласа дво́йня, ці мо паку́ль радзі́ласа. Забра́лі ту́ю ба́бу, перавязлі к сабе́. Ужэ гэ́та ба́ба так: каля́ску, чараду́ сві́ней на мох – э́та яе была́ рабо́та. А ўжэ Тама́рына ма́ці – дак яна́ по́нчыкі, ве́даю, усе пякла́, і так е́сці гато́віла. Дак яны́ к гато́ваму пры́йдуць, панаяда́юцца і пайшлі́, а далей, як прышлоса, пастарэ́ла та́я ба́ба, да нева́ртна была́ во то, дак чуць яе не згры́злі, Ту́тачку, што казалі. Ужэ́ еслі б не Алёшка, то яны́ вы́гналі б яе. Ужэ́ да́жэй е́та Га́нна сястра́ была́ на яе. Я е́то сама́ ве́даю тое, што я не́як да́жа была́ ў Пе́карыхі, шчэ яна́ як і жыла́ небо́йшчыца, дак яна́ прышла́ і раска́звала і ве́льмо пла́кала. На печ зале́зла да грэ́ласа на пе́чы, дай каза́ла, што Тама́ра і Га́нна ўжэ на яе́ былі́ ве́льмо, каб не Алёшка, дак яе б і вы́гналі. А ўжэ Алёшка сказа́ў так: “Да́жа ні

шы́кніце, е́то то́лькі дзе́ці гадава́ць, дак до́брэ была́, сёння яна́ вам не трэ́ба”. Дай ён іх прысёк. Яна́ лі́чно сама́ раска́звала і прасі́ла ве́льмо, што ні ка́жэце, хаця́ нідзе́ не ка́жэце. Яны́ рабіць-то рабі́лі, Тамара ш на цяля́тніку ўсе врэ́мя і сяна́ш, але́ хло́пцы ўжэ пападро́сталі, дак хло́пцы памага́лі сяна́ш вазі́ць. А ён ізноў на канюшні на е́той, дак што ш яны́, ко́ням прывязе́ там паўво́за се́на ці само́лы, падсце́ле і ён слабо́дны. Дак яны́ Тама́ры ўсе памага́лі. А пры́йдзе з рабо́ты, усе́ вышыва́ла, э́та яе́ рабо́та была́. У яе́ бе́ленькe не́йке ве́льмо ж э́ты парка́ль. Мно́го яна́ наўшыва́ла. Ма́ці была́ ніжэ́йша тро́шкі і як паўне́йша тро́хі, гладзе́йша, а ба́ба худзе́нька. Яна́ скрозь, яна́ і прыйшла́ худа́я. Но трудя́шча была́, о́чэнь трудя́шча. І яны ўсе і е́та Га́нна была́ трудя́шча, Тама́ра – аго́нь на рабо́ту, е́так і Алёшка. Вот і зямлі́ ж набра́лі на гары́, было́ шэ́йсят со́так. Дак ён узяў шэ́йсят, а да́ле Каро́ль мо со́так два́ццаць пакі́нуў, дык у яго́ мо пасці́ гекта́р быў зямлі́, ат са́мае ву́ліцы і туда́, да тае́ даро́гі, што так о со́ткі і́дуць. Я пало́ла свой заго́нчык, дак ба́чыла, ну на гары́ дак відно́. Вот ужэ́ пасе́юць карто́пляў, удабра́лі до́бро ж: і каро́ва, і бык, і конь свой быў, і сві́ння, дак гно́ю было́. Яны́ зі́мачку падсці́ла́лі до́брэ. Яны́ зі́ма́чку гно́ю цяга́юць, штаблі́ панаво́жваюць, тады́ развязу́ць. Удабра́лі, удабрэ́нне дастава́ў. Калі ж на кані́ е́дзе, дзе ро́бяць, усе́ ўдабрэ́нне дастава́ў, насыпле. Картапля́нік, як у нас цяпе́р, харо́шы быў, такі́ невысо́кі да то́ўсты-тоўсты. Удваі́х з матыкаю про́йдуць, е́то дзе ўжэ зе́лле бо́льшае ссяку́ць, перабяру́ць, а тады́ ўжэ вы́йдуць, як заго́на ко́нчуць, пастануць і пазіра́юць на заго́н. Алёшка не вы́йдзе, як паро́біць усе, тады́ вы́йдзе. У іх так, у іх жэ ні ву́зкі агаро́т, у іх жэ так шыракава́то, дак заго́н бурако́ў, заго́н карто́шкі. Е́слі на следушчы гот, ужэ так, там дзе карто́шка – буракі́, а сюды́ – карто́шка. А жы́то ля Ту́тачкі, ля ма́церы се́ялі ўсе со́ткі жы́та, і тут палаві́ну. Яны́ ш шэ́йсят ні засе́юць карто́шкі. Заго́н тут карто́шкі і там палаві́ну, со́так тры́ццаць. Шэ́йсят со́так, дак тры́ццаць жы́та, тры́ццаць карто́шкі. І збяру́цца ўсе дзе́ці во. За дзень паса́дзяць карто́шку, за дзень буракі́. За адзі́н дзень усе́ зро́бяць. І так зра́нку, мо на́нач панагатаўля́лі ўсяго́: яды́, піты́, а зра́нку ўстаю́ць і пашлі́ ара́ць, за дзень усё паро́бяць. О́бшчым, як у ка́рты гуля́ў Алёшка с Тама́раю.

***

Ве́даю, адзін рас Алёшка і сам раска́зваў, і ба́цько раска́зваў, ніхто́ ш ні зна́ў бы. Вы́піў до́брэ, на каню́шні ш было́, да прышо́ў дадо́му, дак на гэ́тых ужэ мо ста́лі на яго́, мо што сказа́лі ці зачапі́лі яго, што во прышо́ў, ну мо рабо́та яка́я. Но ён рабо́ты ні ве́льмо пакіда́ў, ён ні п’я́ніца. Ну, зна́еш, гурт – сабра́ліса там, мо брыгадзі́р да ба́цько, да ён. Мо прышо́ў вы́піўшы, дак мо што сказа́лі, ну ён дак на іх ма́там, сказа́ў Ту́тачкі да ўсяк. Наза́ўтрэ прасі́ўса, ізвіня́ўса, дак, мабіць жэ, чалаве́к. Ка́жэ: “Прасце́це, ба́бачкі, прасце́це, я п’я́ны быў ці вы́піўшы, дак прасце́це мне.” Ён не тро́не нíко́га, ён харо́шы-расхаро́шы, я яго́ адабра́ю. І гла́ўно, што ён знаў то́е, хай сяды-тады́ вы́п’е, вот папаю́ць там із ба́цькам, но факт той, што ён знаў се́м’ю і рабо́ту. Ён ні кі́не, як другі́, што паро́біць жэ. Каб на друго́га жо́нка, це́шча і цётка – тры ба́бы. Это другі́ паглядзе́ў бы б, што ў вас есць, а ён ні кі́не, абяспе́чыў усі́м на све́це. То́е ку́піць, то́е прывязе́, то́е прынясе́ – э́то хазя́ін і харо́шы хазя́ін, но дало́ па хвасту́. І не паду́маў, як ён ка́жа. Е́то, кажэ, я ду́маў, што я каро́ву збу́ду, э́то ш лю́дзі рэ́жуць каро́ву да ўсе́, дак я, ка́жа, ду́маю, як е́то зарэ́заць каро́ву пасле́дню, як е́то бес каро́вы. Вот і на нас, як е́то,

што ні мо́жна е́сці жы́рнаго, еш усё ўпадрат, а да́ле як прышлосо, як дало́ па хвасту́ ёй, дак ён спужа́ўса. Падзяржаў, падзяржа́ў каро́ўку ты́дзень, дзве ня́дзе́лі, Таіса паездзіла с Салі́горска. Пры́едзе, падо́іць, што ж яна́, кажэ, я ж гэтак не вы́цягну. Са зме́ны, но́чы рабі́лі, са зме́ны ляці́ць сюды́ каро́ву даіць або зяць Мі́ша із Дарасі́н ляці́ць каро́ву даіць яму́, ён жа ні падо́іць аднае́ю руко́ю. Сядно́ ж трэ́ба хоць даёнку паста́віць, а то аднаею паста́ў даёнку, а яна́ і му́хі і ўсе. Яна́ ш ні стаі́ць, каро́ва, а як трэ́ба перамя́ніць даёнку, у дру́гое ме́сто паста́віць – не мо́жно даіць і ўсё. А працадзі́ць, трэ́ба ш цадзі́лку пала́жыць, трэ́ба паддзе́ржаць. Таі́са кажа: “Усё, ба́цько, больш я каро́ву ні бу́ду даі́ць. Я ні магу, я сама́ ўжэ прыстаю́, і ма́ці ніварт, і ско́рэ ля́гу. Яна́ е́так, збыва́й каро́ву.” Пазвані́ў зяць, прые́халі камярса́нты. То і цяпе́р ні зна́е, ён спужа́ўса, што Тама́ра забале́ла, як ён ка́жа: “Я ні думаў, што яна́ ато́йдзе”. Цяпе́р, зна́чыць, худо́ба гэта, дак аддаў камярса́нтам каро́ву, да́жа мільёна мо во ні было́. Перажываў, што дзе́шаво, свае́ ш цаны́ ні ўста́віш. Как хаці́це, палядзе́лі, яго́ каро́ва харо́ша была́, жы́рна. Цяпе́р два каба́нчыка аддаў ізра́зу камярса́нтам. Як каро́ву зарэ́заў, так і каба́нчыкі адда́ў і то́жэ нідо́раго. Да э́то ўжэ Таі́са свае́ папрыво́зіла з Дарасі́н, е́то ўжэ карміў адзін, дак то́жэ падзяржаў тро́хі, дай забі́ў аднаго́, ка́жэ: “Аднаго́ То́ліку і Таі́се, а аднаго́ Са́шы і Ко́лі”. Ужэ ні пыта́й калі́, ка́жэ, нам кусо́к-два са́ла пакі́ньце і хва́ціць. То каза́ў ты́е ра́зы на ба́цька: “Это ты са́ла ні ясі́, а я, ско́вараду напячэ́, с карто́шкаю пае́м і дбаць ні дба́ю.” Ён гэтак. Я, ка́жэ, дасю́ль ні ве́рыў, цяпе́р ужэ́ я ве́ру.

***

Е́слі карто́шка разо́рваецца, зна́чыць – на бакі́, а е́слі яе́ ара́ць уска́д усядно́, тако́ о, то што б баразёнкі ўверх стая́лі.

Уво́сень абы́чно, е́слі арэ́ш усклад і се́еш, но а е́слі ты жы́тнішчэ арэ́ш, то арэ́ш уро́скідку. А е́слі вы́берэш карто́шку і се́яць хо́чаш пашню́, то абы́чно арэ́цца ўро́скідку. Ну яшчэ́ сматра́ які́е і заго́ны, но склад абы́чно тро́хі вы́шэй, дык уска́д жэ арэ́цца, дык яно́ сюды́ ўваро́чваецца, да сама́й разо́ры ўсе ўверх баразёнкі ло́жацца, зна́чыць, е́то ўсклад арэ́цца, а ўро́скідку – на бакі́, ужэ́ палуча́ецца пасрадзі́не разо́рка.

***

Ко́ля ж ара́ў сам, то жы́тнішчэ ара́ў, то́жэ не́йкіе самашэ́дшчые не́рвы, тады́ прасі́ла яго́: “Ко́ля (ну е́та ш ле́тась жы́тнішчэ было́), Ко́ля, дава́й зара́ць картафля́нішчэ. Пасе́ем жы́то за дзень. Коней во́зьмеш у любы́ дзень. Прые́дзеш і по́сле рабо́ты і во́зьмеш до́брые ко́ні”. Тады́ ж ніхто́ не арэ́. Тады́ кажу́: “Гэ́ты заго́нчык разарэ́ш уро́скідку і нарма́льно, ні трэ́ба ш стара́цца”. А ён мо́кры, страх пазіра́ць, я яго́ абціра́ла. Етые сыро́гі цяку́ць па ём, і мо́кра ўся й саро́чка. Ні мо́жно ўгавары́ць ці пасто́й, ці што ты. Да суні́му ко́ней – злу́е, псіху́е, а мо́кры ўвесь на све́це. Ты зна́еш ператамле́нне што зна́чыць, е́то ж вялі́ко дзе́ло ні рабі́ўшы, ве́даю, е́то як уця́нуты чалаве́к, дак ён хоць і пастара́ецца, дак яшчэ́ не так. А яму́ што́ хо́чаш, і за дзе́нь жэ паара́ў усё на све́це. І ў той дзень, ма́біць, і жы́то пасе́ялі, пабаранава́ў.

***

Еслі суферфасфат, значыць можна ўвосень пасеяць на зіму, ён бабачкамі такімі, можна на зіму сеяць пад картошку, но еслі салітра, значыць пад баранаванне. Як барануеш картошку, зразу падсеяць, можна па разу прайсці, бо барануецца картошка па два разы, а можна ізразу, еслі грудак вялікіх німа, можна ізразу пасеяць. Мякко, можна ізразу пасеяць, а тады баранаваць. Пад баранаванне салітра. Толькі яе сеяць не густо, а просто, як жыто, яшчэ тако о рэдко, памаленьку трэба ісці, патрошку браць у жменю і, як жыто, тако о, і кругом хадзіць. Яна быстро і растае эта салітра. А еслі суферфасфат увосенню, ён жа такі больш як рубчыкі, ён так ні растае, яно і відно, дзе пасыплеш. Яго можно і гусцей.

***

Дзе цяпер картошка, стаяў стажок, жнеўнік быў, саломы стаяў стажок, нідалеко так ат хлявушніка. Ён паехаў, рулон, катушку эту прывёз, растраслі, яшчэ тые разы ж, так бы як украў, цяпер то хватае саломы, а тые ж годы ні было гэтак. Цяпер жа ўдабрэнне, большэ ўражаі, а тады ската калхознаго много было: і цялята і адкормы, і быкі, і каровы.

Ну, стох стаіць саломы. Пачаў жнеўнік араць, аборваць еты стажок. Узяў пугу, как узяў... А ведаю, ці ето картоплю ўбіралі Юркавых ці ето нешто Пашка забыла што, рабілі на загоне, дак толькі пазіралі людзі, стаялі. А ён пугу як узяў, дык як трактара вядзе. Вот яно і дало тое, я шчытаю, па сэрцу. Рас, што гарэлка, ва-фтарых, што ён як самашэдшы гарцаў, мабіць, ужэ апешаў быў. Я ўжэ крычала на яго: "Ні лятай, ні круціса, самашэдшы, кажу, на цябе людзі ўсе пазіраюць". Дак ён стаў, да к стажку прытуліўса плячамі, пастаяў, дай зноў за плух, дай зноў пап'ёр. А доўго ж было хадзіць, да загон, як ні шчытай, які, дак як папалетаў, дак ён скора тады і сеў.

***

У нас летась жыто чыстэ было, але залеташне, што было, дак там і салома, ён жа ні выкіне. Як здалі з ячменем жыто ў калхоз, ізразу як далі мукі каровам, прынёс малако бацько (мы ў калхозе бяром), да я кажу: "Коля (я нек з віду выпусціла, што тое жыто аддавалі), Коля, хіба ад другое каровы малако табе наліла Ніна." Дак я наліла паўлітровы слоік цэленькі і яшчэ смятана. Акраз як тые разы. Як вот і цяпер падоіцца карова, іс-пад каровы малако, ні скажаш што-то набрала смятаны, малако такое. Я тады масла збіла, а далей, як з'елі тое жыто калхозные каровы, і смятаны ні было.

***

Купляные куры аддзяляюцца і Каралёвые, і пятух аддзельно. Пойдзе пятух і куры пабягуць туды, а гетые пяць ядзяць ля карыта. Глядзі, якое ўдзіўленне, ніяк не можно злучыць, што б ето разам елі. І тые такіе, яны нейкіе, як летуны. Во то бягом і атлятаюць. Бачу, што хочуць есці, падайдуць туды, а разам ні клююць. І каторэ врэм'я, як ізразу, так і цяпер. Дзіва што это сям'я разойдзецца: і родные, і ўсякіе, кожны ўжэ сам сабе стараецца, таксамо і етэ. Пяць клююць, а тые стаяць набаку. У мяне ні было, у мяне тые разы і свае куры, то яны ну там дзень-два, тады пашлі-пашлі разам есці, а ето ўдзіўленне, каторы месяц, падумай ты. А нясуцца як дзе, у карыццы ў том, а то тут адна дак пад жалязяку залезла тут у

этуй будаццэ гняздо зрабіла, як дзе. Але вот і добрэ, учора пяць яічак. Но я і ні лянуюса, я іх кармлю і кармлю, нашу і нашу, у іх ні выходзіць. А бывае ў карыце зляжацца, ведамо, як і нагамі становяцца, дак у мяне такая палачка востра, папатпорваю ўсе, перамяшаю, пайду камбікорму вазьму падсыплю, як радкаватэ трохі бывае дожджык сербане, што б выялі, у мяне карыто ўсягда сухое нанач. Глаўнае, што б ні закісало нічого, каждаму нада догляд. Но ні можно ніяк саядзініць, што б разам елі. І пасыплю ячмень, пшаніцы – нікагда не клююць разам, ужэ тые пад'ядзяць, атойдуць, тады тые прыбягаюць. Ну гэтых пяць штук, большы гурт, яны сільнейшые, яны ш пабяждаюць тых дзьвох. І цяпер як галаднаватые, дай есці, калі б тая хацела з'есці, дай гета за дзюбу яе.

***

У сушу доўго ні было жукоў. А далей ужэ на цвет пазакладаліса (тые годы дак казалі, ой, картошка ўжэ як зацвіце, дак ні страшные і жукі). А цяпер яны тады лічынкі гетые і паявіліса. Стало ўжэ трохі сырасць была і дожджык мо прайшоў, а тады ўжэ само пачыналі цвісці, і пашлі жукі ж, лічынкі етые. Шчэ ш прахадзіла ўсе с пляшкаю з этаю, раз жэ тожэ, дак угледзела адсюль ад капусты на той палавіне ад Пашкі. Бачу, што это вродзе нідалеко, як чарнейшы, як жаўцейшы рад – кусочак. Я якраз жа травіла, мо то другі раз, да неяк прапусціла, мабіць, первы рас кусочак, дак ціхо было. Я крапіла пад вечар і ціхо было. Крапіла так: два рады займала так і на геты бок радок. І па тры радкі ўсе. І знаеш, як ні шчытай тры рады, дак вот жэ недзе не замеціла кусочак, і, кажацца, так смольно і так прыглядаласа. Пагляджу, як тут ці есць лічынкі ці што, дак я вот ат капусты пагляджу, нічого ні відно, нармально, а дале бачу, што-то адзін вродзе бы як грязны, жоўты, атлічаецца. Я ш туды пайшла, як зірнула, дак там ужэ столькі лісцікаў аб'едзенаго, кусочак, мо па метру. Так нідоўго, тады ўжэ радзей пракідаюцца. Я баржэй за пляшку, пашла, крапіла і ўжэ перайшла ўвесь загон, а тады ўжэ другі рас. Это знаеш, это ш каб бачыў, што як саседзі крэпяць, да тады і крапіў. Дак яны не так. А еслі пакрэпяць, а ў цябе яшчэ ні крэплено другі рас, дак іх ужэ свет тут. Таму што, я думаю, Пеця то пакрапіў, казала Хвеня, а я праз Пашчыных ні ведаю, ці яны крапілі да Пеці, ці яны не. Паглядзела я, усё ля капусты пароласа, эй, бачу, ужэ і тут лічынкі ў нас есць ад Пашкі, ат разоры ат тае. Я січас прыходжу, раблю раствор, а вецер мо мало менш, як во і сёдня. Гэты картаплянік просто кладзе, кладзе, кладзе. І думаю, еслі я сёдня не пакраплю, бронь Божэ вецер такі, хай дошч пойдзе, то іх жукі з'ядзяць. І я крапіла ўсе картоплі ў дошч ці бо ў еты вецер, так гадко ш было хадзіць. Ужэ прэбувала і па дзве баразне і ўсяк. А тады ўжэ после гэтаго пракрапіла, а вецер, дак знаеш, я вот первы рас акрапіла, так я етым насосам, дак трошкі знізу лісты паткрэпліваю, дак нармально так было, дзе-нідзе месцінкі былі. А ўжэ другі рас, як вецер во, дак я ўжэ сама думаю, нінармально точно будуць пакрэпленые, патаму што вецер вялікі быў. Яны ат ветру могуць пападаць дзе й так ні крапіўшы. А тады с пляшкаю абратна перабірала ўвесь загон, дак я добра выхадзіла на этум загоне.

*В.М. Філосаф*

# ТЭКСТЫ З КАМЯНЕЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Гук Вера Карнілаўна,** 1932 г.н.; запіс зроблены ў 2007 г. у в. Крыўляны*

## Вясельны абрад

Ве́чэр пе́рэд сва́дьбою, в субо́ту, жыні́х іде́ ду нывéсты, мае з субо́ю удну́го хло́пця, які́й называ́іцце дружко́. В нывéсты ро́бат курува́я і спыва́ют пі́сню:

Ой, ішлі́-ішлі́ курува́йныці гуро́ю,
Ой, ныслі́-ныслі́ пу мы́сці [місцы] мукі́ з субо́ю;
Ой, ішлі́-ішлі́ курува́йныці гуро́ю,
Ой, ныслі́-ныслі́ копу́ [60 штук] яе́ць з субо́ю.

Дывча́та мі́сят курува́й, нывéста стуі́т кулу де́жкі з сві́чкую. По́сле курува́й ро́бат на стулі́, дывча́та ро́бат гускі́ [фігу́ркі – упрыгожанні для каравая]. Спыва́ют пі́сню:

На дубо́вым сто́ліку дуругі́ тува́р мі́сят,
Ге́тэ [імя нявесгы] курува́й,
Ге́тэ ií заслу́жэнька.
Заслужы́ла, маты́, ны за ручо́к [годзік],
Ны за два, ны за дві гуды́нонькі [гадзіны],
А з мале́і дыты́нонькі.

По́сле туго́, як замысы́лі курува́й, стула́ мы́ют руко́ю і поліва́ют вудо́ю.
Дывча́тём тре́ба вы́нысты во́ду і выли́ты іі на квіткі́, в садо́к, на то́е мі́сце, дэ ныхто́ ны хо́дыт. Але кулу́ пуро́га стуя́т хло́пці і хо́чут ублі́ты дывча́т те́ю вудо́ю.
Дывча́та, вылі́ваючы воду, спыва́ют пі́сню:

Вы́ліім вуды́цю на хмылі́цю,
Хай вуды́ця ліе́цця.,
А на́шым мулуды́м до́брый быт выде́ццял.

У той час, як дывча́та ро́бат квыткі́, спыва́ют такса́мо пі́сню:

Ой за гуро́дом зы́мная [халодная] ро́са,
Ой там худы́ла [імя нявесгы] бо́са,
А за е́ю [імя жаніха] хо́дыт,

Хурушэ́нькі чырывы́чкі но́сыт,
Вуна́ мулудэ́нька ны гардува́ла [грэбавала],
Ты́і чэрэвы́чкі бра́ла.

Вэ́чыром прыі́жа́е ду нівэ́сты жыні́х су́ сва́том. І дывча́та удбыра́ют у сва́та ша́пку, коб пуві́сыты на іі́ кві́тку і мі́ты вы́куп. Сват пувы́дён тургува́тыся. На ра́нок, як і і́хаты ду вынцю́, дывча́та спыва́ют ля ніве́сты пі́сню і во́дят іі́ кулу́ стола́:

Хо́дыт [імя нявесты],
У Бо́га до́лі про́сыт,
Як ты нышчаслі́ва, то плывы́ з вудо́ю,
Як ты шчаслі́ва, то йі́дьмо [паехалі] зу мно́ю.

Як прыі́халі з вынцю́, то пырыставля́ют стула́, про́сят вы́куп; але тут вла́зят пырыдя́гняны [пераапранутыя] бабы́, як бы жыні́х і ніве́ста, і про́сят вы́куп.

Як ды́лят курува́й, то спыва́ют пі́сню:

Клі́чмо руды́ну ду пырыпо́ю,
Ныха́й бува́е, пырыпыва́е,
Срэ́бро, золо́то на да́ры да́е,
Дрі́бну моне́ту субі́ хава́е.
Хоть із-за мо́ра пэрэплыва́йтэ,
А на́шу дывчы́нуньку пырыпыва́йтэ,
Срэ́бро, золо́то на да́ры да́йтэ.

Як ды́лят курува́й, то спыва́ют сва́товы пі́сню:

Дружко́ курува́й кра́е,
Зулуты́й но́жык ма́е,
То в рот, то в кішэ́ню,
То жы́нці [жонцы] на вычэ́ру.

По́сле туго́, як пудылі́лі курува́й, ныве́ста хо́дыт круго́м стула́, а дывча́та спыва́ют:

Хо́дыт Ма́нечка круго́м сто́ліка,
Россыпа́е урі́шкі [арэшкі],
Вжэ мына́юцця, забува́юцця
Дыво́цкіі смі́шкі.

На той час, як ныве́ста ідэ́ ду жэніха́, то в матэры́ньскуй ха́ты юй спыва́ют пі́сню:

Ужэ Ма́нечка услужы́ла,
У кумо́ры сэ́рпа пулужы́ла.
А хто ж тым сэрпо́чком бу́дэ жа́ты?
Будэ ма́тюнка найма́ты,
По тры ру́блікі дава́ты.
Худі́м, ма́мучко, пусні́даім [паснедаем] з тубо́ю,
А пусні́давшы, пу́йдым на руздыл з тубо́ю,
Тубі́, ма́мочко, ха́та, са́нкі і кумо́ра,
А мні, мулуду́й, удна́ скры́ня.
Тубі́, ма́мочко, пшыны́ця і грэ́чка,
А мні, мулуду́й, гу́ска, ку́ручка й овэ́чка.

Вэ́чэром батькі́ ніве́сты йі́дут [едуць] ду жыніха́ і спыва́ют таку́ю пі́сню:

Русхіля́йся, бі́лы бэро́зы,
Шчо б було́ вы́дно пу всюй дуро́зы [дарозе],
Шчо б було́ вы́дно, шчо ма́тюнка ро́быт,
Чы спыт, чы лі́жыт, чы пу мні ту́жыт.

**Расказвае Андрайчук Ніна Піліпаўна,** *1929 г.н.; запіс зроблены ў 2007 г. у в. Мельнікі.*

**Вясельная песня і народная казка**

Гэту пісню спывае батько нівесты ка пырэзвах, як мулудую прывызут ду жыніха:

Русхіля́йтэся, бі́лы быро́зы,
Куб було́ вы́дно пу всій дуро́зы [дарозе],
Куб було́ вы́дно, шчо [імя нявесты] ро́быт,
Чы спыт, чы ле́жыт, чы пу мні ту́жыт.
Пу ха́ты хо́дыт, ручэ́нькі ло́мыт:
"Ой, Бо́жэ, Бо́жэ, зроблёна шко́да,
В моём садо́чку сурва́на ро́жа [ружа].
Гудува́в я еі ны рочо́к [годзік], ны два,
Ны дві ныды́люнькі [тыдні],
Вырвалі еі за дві гуды́нонькі".

**Байка "Коптюшка"**

В удного́ чулуві́ка умэрла́ жі́нка, і він прыві́ў субі́ дру́гу. У гэ́туго мужыка́ була́ свуя́ дучка́, а ма́чуха шчэй свую́ прывыла́. Чулуві́кува дучка́ ро́быт, а ба́бына ту́лько малю́іцце і гуля́ты хо́дыт. Заста́выла удён раз ма́чуха бі́дну сіро́ту таку́ю рубо́ту рубы́ты: змыша́ла мак і золу́ в удну́ ку́чу і сказа́ла ля па́сыныці пырыбра́ты. А Ко́птюшка (так сіроту́ ста́лі зва́ты, бо вуна́ завжды́ гря́зна худы́ла) рузу́мна була́, ста́ла бра́ты пу кра́плі [патроху] змесь ту́ю і ду́ты на ії́. Золу́ вітром і знысло́. А мак так і уста́вся.

Удён раз пушла́ пуголо́ска, шчо буга́тый пан хо́чэ жыны́ты сы́на. І ма́чуха схуті́ла свую́ дучку́ за юго́ удда́ты. Пушы́ла ля е́і пла́тте хуро́шэ і пувызла́ на бал. А Ко́птюшку заста́выла в ха́ты прыбыра́ты А пы́рыд гэ́тым ля ді́вчыны прысны́лось, шчо в е́і удку́льсь [аднекуль] хуро́ша уді́жа [адзенне] во́зьмэцце. Так і вы́шло. Як ма́чуха пуі́хала з дучко́ю ду пала́цу, ля бі́дныі сіро́ты пуда́рок злі́ты́в: вэ́льмэ пла́тте хуро́шэ і ту́флі. І Ко́птюшка пуі́хала на бал. Па́нскюму сы́нувы вэ́льмэ де́вочка гэ́та пунра́вылася і вун гуля́в ці́лый вэ́чор з е́ю. После Коптюшка втыкла́ і згубы́ла ту́фліка.

Свуе́ пла́тте хуро́шэ схава́ла, а налужы́ла гря́зну уді́жу. А ма́чуха прыі́хала і ка́жэ, шчо на ба́лі була вэ́льмэ хуро́ша де́вочка. А сірота́ сміе́цце.

Па́нскі сын хо́чэ найті́ ту́ю ды́вчыну, куто́ра на ба́лі була́. Взяв він згубляного ту́фэлька і поі́хав шука́ты ді́вчіну. Ма́чуха вэ́льмэ хо́чэ свую́ дучку́ удда́ты за па́нского сы́на. Дучка́ умі́рала – ту́фэлёк вылі́кій. Ма́ты ка́жэ: “Удруба́й па́льця, то влі́зыш в ту́фылька”. Дучка́ так і зрубы́ла. Але ту́лько кро́ві нарубы́ла, нычо́го ны вы́йшло. А кавале́р кажэ: “Мо́жэ в вас шчэ яка́я ді́вчына е?” А ма́чуха і ка́жэ: “У мэнэ́ е му́рза ко́птюшка, але вуна́ в кумо́ры сыды́т”. Ко́птюшка пучу́ла, ху́тэнько пырыдягла́ся [пераапранулася] і вы́йшла. Пан уба́чыв, шчо то та́я са́ма, шчо на ба́лі була́, і забра́в е́і в каре́ту. А ма́тэрна дучка уста́лася быз па́льця.

**Духоўная культура, павер'і, звычаі**

Адказы на апытальнік. Запіс зроблены па ўспамінах Філосаф Антаніны Ільінічны, 1935 г. нараджэння, ураджэнкі вескі Старышова, зараз пражывае ў г. Камянец.

1. Курува́й був высо́кі, шыро́кі, пі́кся в рэ́шэтовы (юго́ зма́звали ма́слом). Каза́ли, чым бу́льшый курува́й, тым липш. Убыра́ли юго́ кві́ткамы, гулубо́чкамы, пусыпа́ли кулиро́вую бума́гую [каляровай паперай]. [Пра каравай.]
2. Вісі́льного дэ́рэва в нас ны було́. [Пра вясельнае дрэўца.]
3. Як шов дошч, то каза́ли – жы́ття ны бу́дэ. У мэ́і ма́тыра ішоў дошч на вісі́лли – муго́ батька на вуйні́ забы́ли. У мэнэ́ ішо́в дошч – муй чулуві́к ра́но вмэр. [Пра дождж на вяселлі.]
4. Ді́тём каза́ли, шчо іх бо́цюн прыню́с. Дэ мулуда́я сім'я́, туды́ і нысэ́ малу́ю дыты́ну. [Адкуль дзеці бяруцца?]
5. Куло́дку ны кла́ли. [Пра надмагільны помнік у выглядзе калоды.]
6. У нас відьмару́в ны було. Просто каза́ли, як ныдо́бры чулуві́к тяжко вмыра́е, то трэба стыль зрыва́ты [столю]. [Пра смерць ведзьмяроў.]
7. Як дыты́нка шчэ ныхры́шчана, то хава́ли кулу крыжа, які́й стуя́в за сыло́м. [Пра няхрышчаных дзяцей.]
8. Коб пуко́йнік ны прыхо́дыв, дава́ли на пумына́нне в цэ́ркві, дары́ли бі́дных. [Што рабілі, каб нябожчык “не прыходзіў”?]
9. На Рузд́во [Божае Нараджэнне] убвя́зывали шчі́пкі [маладыя дрэўцы], куб іх зайці́ ны гры́зли. [Пра абвязванне садовых дрэў на Каляды.]

10. На куттю́ (на Руздво) кли́кали ні́шчых, пубыру́шок. [Каго запрашалі на куццю?]

11. Нико́ли ны гадали на Руздво́. [Пра гаданне на Каляды.]

12. На Руздво́ в нас худы́ли з бітле́ём [батлейка], нусы́ли звызду́, спыва́ли пуд о́кнамы. [Пра калядныя звычаі.]

13. Пыснí на Руздво́ начына́лися сло́вамі: Хрыстос руды́вся, Бог вуплуты́вся. [Пра калядныя песні.]

14. Усо́бу свíчку рубы́ли на Грумны́ці. Гэта свíчка называлася Грумны́чка. Іí ставыли на укно́, як начыналася грымо́та [навальніца]. [Пра грамнічную свечку.]

15. Кулодку в нас ныколи ны вуды́ли. [Пра цяганне калодкі.]

16. На вэ́рбныцю 3 разы были чулувíка вырбо́ю пу пле́чух, пу гулувí – каза́ли: Ны я б'ю, вырба́ б'е, за ты́ждынь – выли́кдынь. [Пра звычаі ў вербную нядзелю.]

17. Кустры́ в нас ны кла́ли. [Пра абрадавыя вогнішчы.]

18. Каза́ли, шчо на Іва́на купа́тыся ны мо́жна. Уде́н чулувíк з сусíднюго сыла́ ны пуслу́хав, пушов з сыном купа́тыся, убодва путупы́лися. [Ці можна купацца на Купалле?]

19. Пырыд Стары́м Новым годом хло́пці вузы́ на стрэхí затяга́ли, кумыны́ [коміны] затыка́ли, плуты́ зныма́ли. [Пра бясчынствы.]

20. Со́нце ігра́ло на пэ́ршы дэнь Па́скі і на Іва́на. [Пра "гульню" сонца.]

21. Кача́лися на Юр'я пу зымли́, куб спына́ ны були́ла. [Пра кулянне па зямлі.]

22. Ты́і кулусы́, шчо, вставалися в поли после жныва́, называ́лися пырыпíлка. Іх убырали квыткамы, кла́ли 3 кускі хлиба, пуло́ли стэ́рню. [Пра апошнія не зжатыя каласы збожжа на полі.]

23. Кулусы́ святы́ли на Спли́нне [Успенне]. Іх звя́зували буке́том і называ́ли квíткую. [Пра асвячэнне.]

24. Як було запу́тано жы́то, то просто каза́ли, шчо то хтось на зло зрубы́в. [Пра зблытанае збожжа на полі.]

25. Гуспуда́ра убвя́зували пэрэвэ́слом, коб вун частува́в. [Пра абвязванне гаспадара перавяслам.]

26. Тая гуспуды́ня, шчо ке́псько рубы́ла, называлася ныздатно́та, гультя́йка. [Праэнную жняю.]

27. Куро́в з хлива́ выгуня́ли свынцо́ную [асвячанай у царкве] вырбо́ю, кла́ли хлиб. [Як выганялі першы раз жывёлу з хлява ў поле?]

28. Куб скуты́на ны мíла ныя́кіі быды́, на стыну́ вíшали сэрп. [Як уберагалі скаціну ад бяды?]

29. У нас лён ны рус, то такого ны було. [Аб звычаях пра лён.]

30. У нас прали і в пятныцю. [Пра прадзенне ў пятніцу.]

31. Каза́ли, шчо чорт будэ прасты, то основу ны кы́дали. [Чаму нельга астаўляць аснову на ноч?]

32. Хлиб назывався бу́лка – бу́лка хли́ба. [Пра звычайны хлеб.]

33. Раній, казали як був путоп, то ны було хлиба. Але ж куты і субáкі стáли выты, крычáты, так Буг змылувався [злітаваўся] і даў людям хлиб. Тумý субáк і кутýв трэба любыты і нықóли ны быты. [Пра сабачы і кацiны хлеб.]

34. Дэжку мыли пырыд Пáскую, после сушыли. [Калі мылі дзежку?]

35. Вінык в нас ны сэкли. [Ці секлі венік?]

36. У нас на крэсьбінах катáли на буруні бабýлю, якая купáла дытыну ду хрыстý. [Пра звычай катаць бабулю.]

37. Русалкі у нас ны вудылися. [Пра русалак.]

38. Тыждынь после Трýйці назывався маёвы. [Пра тыдзень пасля Тройцы.]

39. Казали, шчо чулувíка можна пуврóчыты. Куб тугó ны было, як дывылися на дытыну, то 3 разы плювáли чырыз ливэ пличкó. Врóкі знымали: выливáли вóсок з свічкі на вóду. Казáли, шчо на воді выявляіцце той чулувік, якій пуврóчыв. [Пра сурокі (урокі).]

40. На зоркі казали сытычко [адно з сузор'яў]. [Пра сузор'і.]

41. Плямы на місяцювы – то казали, Каін і Авэль, 2 браты, якіі ýднэ удногó пузабывáли. [Пра плямы на месяцы.]

42. Дошч разом з сóнцём – то дошч рáдужный. [Пра дождж, які ідзе, калі свеціць сонца.]

43. Як крутыв віхор, то казáли, шчо то чорт, туды ны можна ступáты, бо чорт вхóпыт. [Пра віхор.]

44. В зáсуху в кулудязы [калодзежы] сыпали мак, куб дошч пуйшов. [Пра выкліканне дажджу.]

45. В нас ны спывáли пісні на дошч. [Пра выкліканне дажджу дзецьмію]

46. На пэршы гром хрыстылися і на ýкно стáвыли грумнычку [свечку грамнічную]. [Пра першы гром.]

47. На Трýйцю в хаты вішали плишнык [аер] і клён. Гэта зэлень называлася май. [Упрыгожванне хаты на Сёмуху (Тройцу).]

48. Куб добра капýста була, той, хто садыв іі, убвязував гóлуву чымныбýдь, куб гулувкі капýсты такіі вылыкі були. [Пра пасадку капусты.]

49. Вувкулáкув в нас ны булó. [Пра ваўкалакаў.]

50. Рыба снылася на дошч, курова – на хвуробу, кунь – на убмáн. [Пра сны.]

51. Куб вовк ны вхупыв, кустры палыли. [Пра абарону ад ваўкоў.]

52. Казáли, як жáбу заб'еш, ту бурóдавкі будут. [Пра жабу.]

53. Кукушка кувала, ду Пэтра, як убáчыт снуп, то втыкае. [Пра зязюлю.]

54. Як бачыли бóцюна [бусла], то высна хутко будэ. [Пра бусла.]

55. Як заб'еш ластувку, то выскочыт ластувынне [рабацінне]. [Пра ластаўку.]

56. Куб в хаты ны жыли блýзкі [клапы], іх пуливáли кіпятком. [Пра "хатніх" насякомых.]

57. Як кумары тувчýцця, то казали, шчо то кумарí куттю тувчýт. Значыт, бýдэ добра пугода. [Пра камароў.]

58. На Руздвó вішали на стуль паука з бумагі і суломы. [Пра "павука" з саломы.]

59. Пру дурновáтого чулувíка кажут “пыльным мышком вы́тятый”. [Пра чалавека з дзівацтвамі.]

60. Бурóдавкі звóдыли мулучкóм [чыстацелам]. [Пра бародаўкі.]

61. Пру курову зага́док в нас ны казали, а пру свынню́: Вíся вíсыт, хóда хóдыт, віся впала, хода ззы́ла (свыння і груша). [Пра загадкі.]

62. “Аныкі-бэныкі, з’іли варэнікі”. [Пра лічылкі.]

63. У нас такую пісню ны спывáли. [Пра песню, у якой гаворыцца, як свякроў загубіла нявестку.]

64. Вішальнукув в нас на моглицях ныкóли ны хавали. [Пра самазабойцаў.]

65. На всякое свя́то хутíли, куб прыйшóв мужы́к, бо бáба нысли́ быдý. Усобенно дывы́лися после Нóвуго года. [Пра першага наведвальніка.]

*А.А. Крывіцкі, В.М. Курцова*

# ПРАГРАМА ПА ВЫВУЧЭННЮ НАЗВАЎ ПРАЦЭСАЎ І ДЗЕЯННЯЎ У ГАВОРКАХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Сучасная сацыялінгвістычная сітуацыя ў сельскай мясцовасці Беларусі характарызуецца пастаянным змяншэннем колькасці носьбітаў традыцыйнай дыялектнай гаворкі і інтэнсіўным разбурэннем яе структуры. Разам з няўхільным скарачэннем колькасці вясковых жыхароў, імклівым змяненнем традыцыйнага ўкладу сельскага жыцця, побыту, зрэшты, звычайным старэннем вёскі, абумоўленым урбаністычнымі прычынамі, адыходзяць у нябыт найбагацейшыя скарбы духоўнай культуры беларусаў – моўныя набыткі. Усцешна, што вельмі многае з дыялектных мовазабяспечвальных сродкаў, найперш лексічных, сабрана і вывучана беларускімі дыялектолагамі, звычайнымі збіральнікамі-аматарамі, руплівцамі за лёс нацыянальнай мовы. Аднак далёка не ўсё. Ды і не ўсім структурным узроўням дыялектнай мовы "пашанцавала" ў аднолькавай ступені. Найбольш вывучанымі з'яўляюцца ў беларускім мовазнаўстве намінацыйныя лексічныя сродкі. У значна меншай меры – словы, што абазначаюць разнастайныя працэсы, дзеянні, уздзеянні і г.д., ці папросту такія лексічныя адзінкі, якія складаюць у мове клас дзеясловаў. Для даследавання гэтага адметнага пласта слоў быў распрацаваны спецыяльны апытальнік, які прапаноўваецца мовазнаўцам, літаратарам, настаўнікам, прыхільнікам нацыянальнай мовы, збіральнікам духоўных скарбаў беларускага народа.

Спадзяёмся, што гэты праграмны мовазнаўчы дакумент будзе запатрабаваны ў першую чаргу спецыялістамі і дзякуючы іх зацікаўленасці стане папаўняцца як новымі пытаннямі, так і словамі.

## І. УЗДЗЕЯННІ

### а) *Накіроўваць у валоданне*

1. Накіроўваць у валоданне ці распараджэнне звычайна: *даваць...*
2. Даваць урачыста або афіцыйна: *уручаць, падносіць...*
3. Даваць бясплатна назусім: *дарыць...*
4. Даваць са злосцю, груба: *саваць, тнуць, кідаць...*
5. Даваць для прыліку: *торкаць, саваць...*
6. Даваць скаціне, птушкам: *даваць, класці, сыпаць, кідаць...*
7. Даваць са зваротам: *пазычаць, аддалжаць, даваць у доўг...*
8 Даваць за плату: *прадаваць...*
9. Даваць грошы пры куплі або за падатак: *плаціць...*
10. Даваць праз пасрэдніка: *слаць, пасылаць...*
11. Даваць вызначанымі часткамі: *выдаткоўваць, выдаваць...*

12. Даваць для азнаямлення: *паказваць...*
13. Прапаноўваць аплату: *суліць...*

**б) *Надаваць месца***

1. Надаваць месца звычайна: *мясціць,*
2. Мясціць гарызантальна: *класці, лажыць...*
3 Мясціць, распасціраючы: *слаць, пасцілаць, прастаць...*
4. Мясціць вертыкальна: *ставіць, стаўляць, станавіць...*
5. Мясціць нізам: *садзіць, саджаць...*
6. Мясціць у цесную шчыліну: *шчаміць...*
7. Мясціць у дзірку, адтуліну: *торкаць, пхатаць...*
8. Мясціць унутр поўнасцю: *саваць...*
9. Мясціць у кішэнь: *класці, лажыць, саваць...*
10. Мясціць на воз груз: *класці, лажыць, грузіць...*
11. Класці нязграбна і многа: *грувасціць, грамаздзіць...*
12. Мясціць сена ў копы (стагі), у хлеў: *класці, стагаваць...*
13. Размяшчаць расліны або насенне на зямлі: *саджаць, садзіць, торкаць, утыркаць...*
14. Памяшчаць курыцу для наседжвання яек: *садзіць, саджаць...*
15. Памяшчаць жывёлу ў хлеў: *заганяць, упусціць...*
16. Памяшчаць коней у хлеў: *ставіць...*
17. Размяшчаць дровы ў печы: *класці, лажыць...*
18. Памяшчаць хлеб у печ для выпечкі: *садзіць, кідаць, стаўляць...*
19. Памяшчаць у печ посуд з варывам: *ставіць, стаўляць, станавіць...*
20. Памяшчаць пчол у вуллё: *саджаць, садзіць...*
21. Памяшчаць у турму: *саджаць, садзіць...*
22. Памяшчаць занаджаныя пасткі для лову: *ставіць...*
23. Памяшчаць нітку ў іголку: *класці, торкаць, удзяваць, уцягваць...*
24. Класці ніткі ў бёрда, ніты: *кідаць...*
25. Памяшчаць унутр мяккае рэчыва сілаю: *пхаць, ткаць...*
26. Пхаць унутр многа, шчыльна: *пакаваць...*
27. Мясціць празмерна ўнутр або на верх (на воз): *перці, кратаць...*
28. Размяшчаць на крукі, на шасток: *вешаць, весіць...*
29. Памяшчаць у кватэру, у хату: *сяліць...*
30. Памяшчаць у непрыкметным месцы ці часова дзе збоку: *туліць, хінуць...*
31. Размяшчаць у належным парадку: *ладкаваць, парадчыць...*
32. Памяшчаць у патаемнае месца: *хаваць, хараніць, пратаць...*
33. Памяшчаць нябожчыка ў магілку: *хаваць, хараніць...*
34. Размяшчаць збудаванне: *ставіць, стаўляць...*
35. Мясціць дзе наогул: *дзяваць...*
36. Ставіць лодку да берага: *чаліць...*
37. Мясціць вадкасць у пасудзіну: *ліць, леяць...*
38. Мясціць дробнае рэчыва (зерне) у тару ці сховішча: *сыпаць...*

в) ***Рабіць перамяшчэнне***

1. Перамяшчаць на сабе: *несці...*
2. Займацца перамяшчэннем на сабе працягла: *насіць...*
3. Перамяшчаць на транспарце: *везці...*
4. Займацца перамяшчэннем на транспарце працягла: *вазіць...*
5. Перамяшчаць круглае па паверхні: *каціць...*
6. Займацца гэтым працягла: *качаць, катаць...*
7. Каціць, перакідваючы: *куляць, перакідаць...*
8. Перамяшчаць цяжкое па паверхні або ўверх з намаганнем: *цягнуць, цегці, валачы...*
9. Займацца гэтым працягла: *цягаць...*
10. Несці на сабе або везці груваасткае, цяжкое: *перці...*
11. Перамяшчаць цяжкое за сабой з намаганнем: *валачы, валоч, валакці...*
12. Займацца гэтым працягла: *валачыць, валоч...*
13. Валачы за сабой жывёлу сваім ходам на повадзе ці асобу па запрашэнню (дзіця за руку): *весці...*
14. Займацца гэтым працягла: *вадзіць...*
15. Перамяшчаць жывых істот пад прымусам сваім ходам перад сабою: *гнаць, турыць...*
16. Займацца гэтым працягла: *ганяць, ганіць...*
17. Гнаць хутка: *турыць...*
18. Займацца гэтым працягла: *тураць, ганяць...*
19. Везці хутка з ляскатаннем: *тарабаніць, барабаніць, дарабаніць, ляскатаць...*
20. Вазіць для забавы: *катаць, катацца...*
21. Вазіць на прычэпе (баржу па рацэ): *буксіраваць...*
22. Перамяшчаць з сілаю на адлегласць: *кідаць, шыбаць...*
23. Кідаць з размахам: *махаць...*
24. Кідаць з размахам энергічна дробны прадмет: *шпурляць...*
25. Перамяшчаць на восі (кола): *круціць...*
26. Круціць на адным месцы: *вярцець...*
27. Круціць шрубу: *вінціць...*
28. Надаваць энергію для перамяшчэння: *рухаць, дзвігаць, зрушыць...*

г) ***Ушчуваць фізічна***

1. Ушчуваць фізічна звычайна: *біць...*
2. Біць моцна рукою: *праць, перыць, петаваць...*
3. Біць палкаю: *дубасіць, лупіць...*
4. Біць моцна палкаю: *пратаць, лупіць, лупцаваць...*
5. Біць цяжкою палкаю, кулаком: *гвaздаць, гнесці...*
6. Біць цяжкімі ўдарамі працягла: *гнясці, грымнуць у спіну*

7. Біць гнуткім (дубцом, пугаю, рамянём): *секчы, сеч...*
8. Біць гнуткім злёгку: *сцябаць...*
9. Біць гнуткім моцна: *джгаць, джыгаць, жгаць, жагаць, піляць, рэзаць...*
10. Біць гнуткім моцна і гучна: *хлястаць...*
11. Біць моцна, многа: *лупцаваць, лупіць, дубасіць...*
12. Біць хварасцінаю: *хвастаць...*
13. Біць бізуном: *бічаваць...*
14. Біць важка кулаком па спіне: *гракаць, гакаць, грокаці...*
15. Біць кулаком мякка: *жмякаць, шмякаць...*
16. Біць дубцом (рамянём) працягла: *парыць...*
17. Біць злёгку далоняй: *шлёпаць...*
18. Біць далоняй небалюча, гучна: *хлопаць, ляпаць...*
19. Біць далоняй моцна і рэзка: *пляскаць...*
20. Біць палкай моцна, гучна: *трахаць...*
21. Ушчуваць наогул за праступкі: *караць, наказваць...*
22. Біць балюча, едучы ў сядле: *шпорыць...*
23. Біць пстрычкай: *пстрыкаць, шчаўкаць, шчоўкаць, стрычку (пстрычку) даць...*
24. Ушчуваць за валасы: *чубіць, чубасіць, драць, цягнуць за валасы...*
25. Ушчуваць балюча за вуха: *драць, цягнуць за вуха...*
26. Ушчуваць адзін аднаго тумакамі: *тузіць, валтузіць, цягаць за грудкі...*
27. Ушчуваць тузанінай: *валтузіць...*
28. Ушчуваць невыноснай тузанінай: *мардаваць...*
29. Ушчуваць рознымі сродкамі невыносна: *мучыць...*
30. Біць жорстка і бязлітасна: *катаваць...*
31. Ушчуваць бесчалавечна і працягла: *тыраніць...*
32. Хвастаць венікам у бані: *парыць...*
33. Біць нагою (пра каня): *брыкаць, свістаць, лягаць...*
34. Біць да галаве гучна: *трэскаць, ляпаць...*
35. Ушчуваць балюча за скуру: *шчыпаць...*

д) ***Дакранацца або прыкладаць сілу***

1. Закранаць звычайна злёгку: *кратаць, трогаць, кранаць...*
2. Закранаць прыкметна, адчувальна: *трывожыць, рушыць...*
3. Трывожыць балючае месца (рану): *вярэдзіць, верадзіць...*
4. Кратаць для высвятлення асаблівасцей або стану прадмета: *мацаць, шчупаць...*
5. Мацаць груба, рэзка: *лапаць, лэпаць...*
6. Закранаць без дазволу, патрэбы, з намерам: *чапаць, чапляць...*
7. Кратаць адчувальна кулаком (локцем): *таўхаць, таўкаць...*
8. Таўхаць моцна: *штурхаць...*
9. Таўхаць з сілаю: *штурхаць, піхаць...*

10. Таўхнуць моцна нагою (кулаком): *пінаць, тнаць. піхаць...*
11. Закранаць канцом палкі, кія: *торкаць...*
12. Торкаць груба, адчувальна: *тыкаць, тыцкаць...*
13. Торкаць завостраным канцом рэчы балюча: *калоць, пароць...*
14. Калоць рагамі (пра жывёлу): *калоць, пароць, басці, бадаць...*
15. Кратаць, пацягваючы за што-небудзь: *торгаць, доргаць...*
16. Торгаць за повад (вожкі) каня: *шморгаць, шмаргаць, сморгаць...*
17. Кратаць за цела, даводзячы да смеху: *казытаць, лазкатаць, шчакатаць, шчыкаціць...*
18. Дакранацца зубамі з пяшчотаю: *цалаваць...*
19. Прыкладаць сілу збоку ці зверху: *ціснуць...*
20. Ціснуць вельмі моцна: *давіць...*
21. Ціснуць вялікай вагою: *гнясці, прыгнятаць...*
22. Ціснуць жартоўна: *ціскаць...*
23. Ціснуць руку пры сустрэчы: *ціскаць, ціснуць...*
24. Ціснуць з бакоў пастаянна (пра цеснае): *жаць, жмуць, ціснуць...*
25. Ціснуць воск, сыр: *давіць, біць...*
26. Абхопліваць рукамі: *абдымаць, абнімаць, анімаць, абшчаперыць...*
27. Абдымаць за шыю: *абшчапляць, абшчэпліваць...*
28. Абдымаць груба: *абшчаперыць, аблапіць...*

**е)** ***Закранаць паверхню***

1. Праводзіць рукою па паверхні асцярожна, з ласкаю: *гладзіць...*
2. Закранаць паверхню з сілаю: *церці...*
3. Церці балюча выступам (пра абутак, вупраж): *муліць, муляць, церці...*
4. Церці з шумам: *шоргаць, шорхаць...*
5. Церці па нягладкай паверхні: *шархаць, шорхаць...*
6. Церці паверхню працягла для ачышчэння: *шараваць...*
7. Закранаць паверхню чым-небудзь вострым, пакідаючы сляды: *драпаць, царапаць...*
8. Закранаць паверхню пазногцямі або чым-небудзь зазубраным: *шкрабаць, скрабаць...*
9. Шкрабаць для ачышчэння паверхні: *шкрэсці, шкрэбці, скрэсці...*
10. Шкрэсці бульбу: *скабліць, скрэсці, чысціць...*
11. Шкрэсці рыбу: *чысціць...*
12. Ачышчаць трэннем аб крук новую вяроўку: *шмуляць...*
13. Праводзіць грэбенем па валасах: *часаць...*
14. Ачышчаць поўсць у жывёлы грабёнкай: *часаць, чысціць...*
15. Ачышчаць воўну на машыне: *часаць, чысціць...*
16. Закранаць цела пры свербе: *чухаць, часаць...*
17. Часаць цела з сілаю пазногцямі: *драць, драпаць...*
18. Праводзіць языком па паверхні: *лізаць...*
19. Праводзіць лязом нажа па паверхні: *чыкаць...*
20. Праводзіць зазубраным па паверхні (пілой): *шархаць, шахаць...*

ж) ***Надаваць вагальны рух***

1. Надаваць лёгкі рух прадмету на месцы: *варушыць...*
2. Варушыць сена: *варашыць, варушыць...*
3. Варушыць пальцамі: *шавяліць, шаваліць...*
4. Варушыць дробнае рэчыва: *капашыць, капяшыць...*
5. Паварушваць рэзкім рухам на сябе: *шоргаць, торгаць, дзергануць...*
6. Торгаць лейцамі каня пацiху: *сморгаць, смаргаць, дзёргаць...*
7. Торгаць туды-сюды энергічна: *тармасіць, тармашыць, тамасіць, трэсці...*
8. Тармасіць моцна: *трэсці, трусіць...*
9. Тармасіць вельмі моцна: *калаціць...*
10. Надаваць рух з боку на бок: *ківаць...*
11. Ківаць стаячы прадмет, зварушваючы да асновы: *шаматаць...*
12. Шатаць з вялікім размахам: *хістаць...*
13. Хістаць беспарадкава: *матляць...*
14. Матляць намерана, з выкрунтасамі: *віхляць, віхаць...*
15. Надаваць рух уверх-уніз: *вагаць, качаць...*
16. Вагаць значна, з размахам: *гойдаць, гутаць, качаць...*
17. Вагаць падвешаную калыску: *люляць, зыбаць, гутаць, гутатаць, гушкаць, калыхаць...*
18. Вагаць з размахам вісячы прадмет, зварушваючы каля асновы: *баўтаць...*
19. Вагаць з боку на бок ляжачы прадмет: *качаць...*
20. Вагаць стаячую люльку: *качаць, калыхаць...*
21. Вагаць спакойна, павольна: *зыбаць, гушкаць...*

з) ***Забяспечваць абслугоўваннем***

1. Даваць усё неабходнае для жыцця ці дзейнасці: *забяспечваць, абяспечваць, забяспечаць...*
2. Запяспечваць поўнасцю, да канца: *задавальняць, задавольваць, даволіць...*
3. Забяспечваць спажываннем, прыгатаванай ежаю: *карміць....*
4. Карміць па ўмове або дамоўленасці чалавека: *харчаваць, сталаваць, харчыць, пітаць...*
5. Забяспечваць пастаянны прыток (вады): *жывіць...*
6. Забяспечваць палівам работу рухавіка: *сілкаваць, пітаць...*
7. Забяспечваць спажыванне вады і іншых вадкасцей: *паіць...*
8. Карміць і паіць спецыяльна нагатаваным гасцей: *частаваць, угашчаць, прывячаць, пачаствае...*
9. Карміць смашным (дзіця): *ласаваць...*
10. Забяспечваць спажываннем і ўвагай да патрэб пастаянна: *даглядаць, хаджаць...*

11. Дагдядаць з маленства да сталасці: *гадаваць...*
12. Гадаваць да пэўнай велічыні, памераў: *расціць...*
13. Забяспечваць жаданні і патрэбы іншага ў побыце: *слугаваць, паслугаваць...*
14. Забяспечваць патрэбы, падладжваючыся пад жаданні, патвараючы ім: *гадзіць, дагаджаць, выстанчаць, выстранчаць...*
15. Забяспечваць уздзеянне на хваробу: *лячыць...*
16. Лячыць моваю: *загаворваць, вымаўляць, шаптаць...*
17. Лячыць дзіця ад вогніка: *адкідаць...*
18. Лячыць ад перапуду: *качаць...*
19. Лячыць рознымі мясцовымі зёлкамі: *карыстаць, пользаваць...*
20. Забяспечваць абслугоўваннем пастаянна малое дзіця: *няньчыць...*
21. Забяспечваць дзіця цікавым заняткам: *бавіць, забаўляць...*
22. Забяспечваць уручэнне ганаровай адзнакі (ордэна, граматы): *награждаць, узнагароджваць...*
23. Узнагароджваць грашовай або рэчыўнай адзнакай: *прэміяваць, прэміраваць, праміраваць...*
24. Забяспечваць афіцыйна пасадай: *назначаць, ставіць...*
25. Забяспечваць выхад на волю або жаданне ўвайсці: *пушчаць, пускаць...*
26. Забяспечваць найменнем: *называць...*
27. Называць мянушкай: *дражніць, клікаць...*
28. Называць поўным тытулам паважна: *велічаць...*
29. Забяспечваць святлом: *свяціць...*
30. Рабіць адваротнае: *цямніць...*
31. Забяспечваць патрэбу ў сродках абароны і нападу: *узбройваць, аружаць, варужаць...*
32. Забяспечваць разуменне гаворкі на незразумелай мове: *тлумачыць, талмачыць...*

**і) *Выклікаць змены ў псіхічным стане***

1. Выклікаць душэўны неспакой: *хваляваць, ваднаваць, валнаваць, вярэдзіць, вадзіць...*
2. Выклікаць непрыемную душэўную разладжанасць і ўзбуджанасць: *нерваваць, нервіць, нярвіць....*
3. Выклікаць незвычайнае хваляванне: *узрушаць, узбуджаць...*
4. Выклікаць неспакой у многіх нечакана: *бударажыць...*
5. Выклікаць невялікую занепакоенасць: *трывожыць, непакоіць...*
6. Выклікаць клопат справамі: *турбаваць, беспакоіць...*
7. Выклікаць раздражнёнасць: *злаваць, зліць...*
8. Зліць з намерам: *цвяліць, дражніць...*
9. Зліць да крайнасці: *гнявіць, гневаць...*
10. Зліць да шаленства: *раз'юшваць, бясіць...*
11. Выклікаць нездаволенасць несправядлівасцю: *крыўдзіць, абіжаць...*

12. Крыўдзіць да злосці: *абураць...*
13. Выклікаць жвавасць, энергічнасць: *бадзёрыць, бадрыць...*
14. Выклікаць добры настрой прыемнай навіной: *радаваць...*
15. Выклікаць святочны настрой музыкай, песняй, смехам: *весяліць...*
16. Весяліць да хохату: *смяшыць...*
17. Весяліць забаўна, міла: *цешыць...*
18. Выклікаць душэўную раўнавагу пасля хвалявання: *супакойваць, успакойваць...*
19. Супакойваць ад плачу ці ад празмернага гарэзавання: *сунімаць, унімаць...*
20. Супакойваць раззлаванага: *лагодзіць, лашчыць...*
21. Выклікаць страх: *палохаць, пужаць, пугаць...*
22. Палохаць папярэдне небяспекай: *страшыць...*
23. Палохаць раптоўным з'яўленнем: *пудзіць...*
24. Палохаць смяртэльнай небяспекай: *жагнаць, жахаць, ужасняць...*
25. Выклікаць цяжкі псіхічны і нават фізічны стан поглядам, словам: *уракаць, улякаць, сурочыць...*
26. Выклікаць узрушанасць незвычайнасцю: *здзіўляць, удзіўляць, дзівіць...*
27. Здзіўляць да крайнасці: *уражваць...*
28. Выклікаць разгубленасць: *бянтэжыць, смушчаць...*
29. Выклікаць невясёлы настрой: *смуціць, засмучаць...*
30. Выклікаць цяжкі душэўны і фізічны боль: *мучыць...*
31. Выклікаць шум у галаве балбатнёй, крыкам: *тлуміць, клуміць...*
32. Выклікаць бяздумнасць у галаве гаворкай, крыкам: *дурыць...*
33. Дурыць да страты разумення: *дурманіць, дурачыць...*
34. Выклікаць непатрэбную ўсхваляванасць, узрушанасць у многіх: *баламуціць...*
35. Выклікаць поўнае давер'е да паведамлення: *уvяраць, завяраць...*
36. Выклікаць пераконанасць: *запэўніваць, упэўніваць, убяждаць...*

**к) *Паказваць псіхічныя адносіны***

1. Паказваць свае пачуцці знешне: *выяўляць, выражаць, выстаўляць...*
2. Выяўляць пачуццё вялікай прыхільнасці: *любіць...*
3. Любіць асобу супрацілеглага полу: *кахаць, любіць...*
4. Выяўляць увагу да годнасці, становішча, заслуг асобы: *паважаць, уважаць...*
5. Выяўляць выключную ўвагу да годнасці асобы або беражлівасць да прадмета: *шанаваць...*
6. Выяўляць пачуццё беражлівасці: *шкадаваць, жалець...*
7. Выяўляць выключную ўвагу да дзіцяці: *пеставаць, песціць, балаваць...*
8. Выяўляць выключную ласку да дзіцяці: *галубіць...*
9. Выяўляць выключную прыхільнасць да дзіцяці: *мілаваць...*

10. Выяўляць пачуццё варожасці, нецярпімасці: *ненавідзець...*

11. Выяўляць пачуццё ўзрушанасці за прахільнасць да іншага: *раўнаваць...*

12. Выяўляць увагу падкрэслена, ганарыста, афіцыйна: *удастойваць...*

13. Выяўляць стрыманасць пры непрыемнасцях, болю: *цярпець...*

14. Цярпець стойка: *трываць...*

15. Выяўляць упэўненасць у здзяйсненні: *верыць...*

16. Выяўляць няпэўнае адчуванне магчымасці іншага: *падазраваць...*

17. Выяўляць свае адносіны ў словах: *выказваць, высказваць, выражаць, выбражацца...*

18. Выказваць свае пажаданні асобе на будучае: *жадаць, зычыць, бажаць, бажаволіць, жалаць...*

19. Выказваць адзнакі ганаровай увагі да асобы пры сустрэчы: *вітаць, прывячаць...*

20. Вітаць з падзеяй, поспехам, святам: *віншаваць, паздраўляць...*

21. Вітаць велічна, хвалебна, узвышана: *славіць, праслаўляць, узносіць...*

22. Выказваць думку пра значную вартасць, каштоўнасць асобы (прадмета): *цаніць...*

23. Выказваць вельмі добрую ацэнку вартасцям: *хваліць...*

24. Выказваць дадатную ацэнку паводзінам, дзейнасці асобы, калектыву: *адабраць...*

25. Выказваць на аснове закона адмоўную ацэнку дзеянням або праступкам асобы (у афіцыйнай установе): *судзіць...*

26. Выказваць дрэнную ацэнку вартасцям асобы (прадмета): *ганьбіць, ганьбаваць, ганіць...*

27. Ганьбіць апошнімі словамі: *хаяць, паносіць...*

28. Выказваць думку аб адказнасці асобы за праступак: *століць, вінавацінь...*

29. Выказваць нездаволенасць непрыстойнымі паводзінамі: *сароміць, сарамаціць, стыдзіць...*

30. Выказваць вялікую нездаволенасць непрыстойнымі ўчынкамі: *сарамаціць, страміць...*

31. Выказваць нездаволенасць у парушэнні ўмовы, парадку: *папракаць, упракаць, упікаць...*

32. Папракаць працягла, моцна: *карыць, дакараць...*

33. Папракаць непрыемным злосным напамінам: *папікаць, упікаць...*

34. Выказваць пачуццё абурэння: *лаяць, ругаць...*

35. Лаяць грубымі словамі: *мацюкаць, спавядаць, хрысціць...*

36. Лаяць апошнімі словамі (працягла): *бэсціць, верзці...*

37. Лаяць, жадаючы ўсяго самага горшага: *клясці, праклінаць...*

38. Выказваць грубыя словы непавагі да годнасці асобы: *абражаць, аскарбляць...*

39. Знеслаўляць годнасць асобы без падстаў, намерана: *шальмаваць...*

40. Выказваць знявагу з насмешлівай іроніяй: *кпіць, высмейваць, змушчаць...*

41. Выказваць увагу спецыяльным прыходам да асобы: *адведваць, навяшчаць, прыходзіць у госці (адведкі)...*

**л) *Накіроўваць адзнакі ўвагі да прадмета і яго становішча* (*або выпускаць з-пад увагі*)**

1. Захоўваць пастаянна пры сабе як уласнасць: *мець, маць...*
2. Мець пры сабе скрытна: *таіць...*
3. Мець пад уладай: *валодаць, уладаць...*
4. Мець ва ўжытку: *карыстацца, пользавацца...*
5. Мець у памяці: *помніць...*
6. Мець у пачуццях: *адчуваць, чуствававаць...*
7 Мець у руках, пад увагай, у гаспадарцы (пра жывёлу): *трымаць, дзяржаць...*
8. Трымаць пад пастаянным назіраннем статак: *пасвіць, пасціць...*
9. Трымаць пад наглядам на месцы без карпеці: *марнаваць...*
10. Трымаць пад спецыяльным назіраннем аб'ект, дабро: *сцерагчы, старажыць, вартаваць...*
11. Сцерагчы коней на начлезе: *вартаваць...*
12. Сцерагчы вельмі ўважліва: *пільнаваць...*
13. Сцерагчы ад небяспекі: *ахоўваць...*
14. Сцерагчы ад страты, дачаснага зношвання: *берагчы...*
15. Трымаць перад вачымі: *глядзець, наглядаць, назіраць...*
16. Трымаць пад пільным наглядам: *сачыць, слядзіць, пільнаваць...*
17. Трымаць пад пільным наглядам скрытна, таямніча: *цікаваць, віжаваць...*
18. Выказваць думку аб пагрозе: *папярэджваць, прадупраждаць...*
19. Выказваць згоду на задавальненне жадання ці патрэбы: *дазваляць, разрашаць...*
20. Выказваць катэгарычна нязгоду: *забараняць, запрашчаць...*
21. Даваць дапамогу або пазыку тэрмінова: *выручаць...*
22. Даваць дапамогу тэрмінова пры небяспецы: *ратаваць, спасаць...*
23. Даваць паблажку: *патворыць, патвараць...*
24. Даваць паблажку капрызам: *балаваць...*
25. Даваць паблажку з заахвочваннем да дрэнных паводзін: *патураць...*
26. Даваць адно замест другога: *мяняць...*
27. Даваць мажлівасць зайсці, увайсці, пайсці: *пускаць, пушчаць...*
28. Адмяняць прысуд: *мілаваць, памілаваць...*
29. Адмяняць наказанне: *літаваць...*
30. Выпускаць з-пад увагі: *губіць, цяраць...*
31. Губіць каштоўнае: *траціць...*
32. Губіць выпадкова (з рук): *раняць, выпускаць, упускаць...*
33. Выпускаць з-пад увагі магчымасць: *зяваць...*
34. Зяваць па дурасці: *вароніць, праваронiць...*
35. Зяваць па няўважлівасці: *маргаць* (*прамаргаць*)...

**м)** ***Устанаўліваць уласцівасці і сутнасць***

1. Устанаўліваць вагу: *важыць, весіць...*
2. Устанаўліваць велічыню, аб'ём: *мераць...*
3. Устанаўліваць колькасць: *лічыць, шчытаць...*
4. Устанаўліваць якасць на смак: *каштаваць, пробаваць, спытваць...*
5. Устанаўліваць пах: *нюхаць...*
6. Устанаўліваць сутнасць рукою: *мацаць, шчупаць, лапаць...*
7. Устанаўліваць на слых: *слухаць, ветрыць...*
8. Устанаўліваць малапрыкметнае, скрытнае зрокам: *заўважаць, замячаць, прыкмячаць...*
9. Устанаўліваць дробязнае зрокам: *прыкмячаць, прымячаць...*
10. Устанаўліваць патаемнае: *выведваць, выпытваць...*
11. Устанаўліваць скрытнае: *выяўляць...*
12. Устанаўліваць асобу чалавека па знешнасці: *пазнаваць...*
13. Устанаўліваць асобу чалавека па твары: *улічаць, распазнаваць...*
14. Устанаўліваць асобнасць або неаднолькавасць па якасці або сутнасці: *адрозніваць, атлічаць...*
15. Устанаўліваць сутнасць выказвання ў думках: *разумець, панімаць...*

**н)** ***Завалодваць у распараджэнне або спажываць***

1. Ажыццяўляць завалодванне: *браць...*
2. Закончыць завалодванне: *узяць, заняць...*
3. Браць са зваротам: *пазычаць, аддалжаць, займаць...*
4. Браць з аплатай вартасці: *купляць, купаваць...*
5. Браць паспешліва: *хапаць, хватаць...*
6. Браць рэзка рукою: *цапаць...*
7. Браць раскіданае асобнымі адзінкамі: *збіраць, сабіраць...*
8. Браць патаемна чужое: *красці...*
9. Браць патаемна чужое (назвы з рознымі адценнямі асуджэння): *цібрыць, мэнціць, бондзіць, лямзіць, мантачыць...*
10. Браць чужое адкрыта, сілаю: *рабаваць, грабіць...*
11. Браць месца: *займаць, занімаць...*
12. Браць на службу ў войска: *прызываць, браць...*
13. Браць у войска сілаю (у мінулым): *забрываць...*
14. Браць чужое за сваё: *прысвойваць...*
15. Прысвойваць чужое з-за прагнасці: *зажыльваць...*
16. Браць за сына: *усынаўляць...*
17. Браць за дачку: *удачараць...*
18. Браць за жонку: *браць...*
19. Браць за прымака: *прымаць, прынімаць...*
20. Браць за работніка за аплату: *наймаць, нанімаць...*
21. Браць у кампанію, калектыў, арганізацыю: *прымаць, прынімаць...*

22. Браць тое, што выдаюць: *атрымліваць, палучаць...*
23. Атрымліваць тое, што дораць: *прымаць, прынімаць...*
24. Атрымліваць у спадчыну: *наследаваць, спадкаваць, узяць ад бацькоў, пераняць ад бацькоў...*
25. Атрымліваць тое, што было загублена: *знаходзіць, знахадзіць...*
26. Браць, абступаючы з усіх бакоў: *акружаць, акаляць, аточваць, абступляць...*
27. Акружаць натоўпам: *абступаць, абступляць...*
28. Акружаць шумнай зграяй: *апаноўваць, апантаць, абантаць...*
29. Браць з пазбаўленнем свабоды: *няволіць...*
30. Браць у няволю варожых салдат на вайне: *палоніць, паланіць...*
31. Браць пад узброеную ахову: *арыштоўваць, арыстоўваць...*
32. Браць цяжкія перашкоды: *пакараць...*
33. Браць з разлікам на будучае: *запасаць, запасіць...*
34. Браць у памяць: *запамінаць, запамятаць...*
35. Браць у памяць веды: *засвойваць, засваяць...*
36. Браць вадкае прыладай (кружкай, лыжкай): *чэрпаць, чарпаць...*
37. Браць на слых: *чуць, чуваць...*
38. Браць на зрок: *бачыць, відзець...*
39. Карыстацца для патрэбы: *ужываць, упатрабляць, спользаваць...*
40. Ужываць лекі: *прымаць...*
41. Ужываць страву: *есці...*
42. Есці прагна, папоўніцы: *аплятаць, уплятаць...*
43. Есці прагна, груба: *жраць...*
44. Есці прагна, хутка: *лопаць, трэскаць...*
45. Есці вадкае: *хлябаць, сёрбаць...*
46. Есці вадкае з лыжкі: *сёрбаць, сярбаць...*
47. Есці раніцою: *заўтракаць, снедаць...*
48. Есці ў сярэдзіне дня: *абедаць...*
49. Есці ў канцы дня: *вячэраць...*
50. Есці перад абедам: *палуднаваць, палуднаць...*
51. Есці пасля выпіўкі: *закусваць...*
52. Есці дзюбаю зерне (пра птушку): *кляваць, дзяўбаць...*
53. Ужываць вадкасць: *піць...*
54. Піць многа, прагна: *жмурыць, жлукціць...*
55. Піць па-сабачаму: *хлябтаць...*
56. Піць з бутэлькі: *лыкаць...*
57. Ужываць папяросы, табаку: *курыць, паліць...*

**о) *Дабівацца атрымання або завалодання***

1. Дабівацца атрымання без патрабавання: *прасіць...*
2. Прасіць слязліва: *кленчыць, клянчыць...*
3. Прасіць неадступна, дакучліва: *канькаць, канкаць, канючыць, канаць...*

4. Прасіць наведацца ў госці, у кампанію: *запрашаць, прыглашаць...*
5. Дабівацца атрымання рашуча: *патрабаваць, трэбаваць...*
6. Дабівацца атрымання пагрозамі, нахабствам: *вымагаць...*
7. Дабівацца атрымання працаю: *зарабляць...*
8. Дабівацца атрымання цяжкімі намаганнямі: *дабываць, здабываць...*
9. Дабівацца атрымання складаным шляхам: *даставаць...*
10. Дабівацца атрымання рознымі шляхамі паступова: *набываць...*
11. Дабівацца атрымання загубленага, схаванага ці скрытага: *шукаць, іскаць...*
12. Шукаць старанна, таямніча: *шнарыць, шнырыць, шныпарыць...*
13. Дабівацца атрымання падсцераганнем, заманьваннем, захопам знянацку: *лавіць, лаваць, імаць...*
14. Лавіць рыбу вудай: *вудзіць...*
15. Лавіць ракаў спецыяльнай вудаю: *лібіць...*
16. Дабівацца запамінання тэксту (урока): *вучыць...*
17. Вучыць механічна, адны словы: *зубрыць...*
18. Дабівацца прыходу звяртаннем: *зваць, клікаць, гукаць...*
19. Клікаць голасна: *гукаць...*
20. Клікаць жывёлу, птушак: *маніць...*
21. Клікаць птушку, звера на паляванні: *вабіць...*
22. Вабіць рыбу падкормкай: *надзіць, занаджваць...*
23. Вабіць самоў спецыяльнай прыладай: *клопаць, брохаць...*
24. Вабіць дзікіх пчаліных раёў у вулле: *надзіць...*
25. Дабівацца па звычаю атрымання згоды на руку дзяўчыны: *сватаць...*
26. Дабівацца згоды на выкананне прапановы: *дамаўляць, загаворваць...*
27. Дабівацца згоды настойліва, не зважаючы на адмаўленні: *угаворваць...*
28. Дамаўляць на выкананне за аплату асобнай справы: *падраджаць...*
29. Дабівацца спаткання, знаходзячыся на месцы: *чакаць, ждаць...*
30. Чакаць у сувязі з затрымкай у атрыманні: *гадзіць...*
31. Дабівацца спаткання з кім-небудзь да яго адыходу: *заспяваць, заставаць...*
32. Дабівацца спаткання, выходзячы насустрач: *сустракаць, спатыкаць, страчаць...*
33. Дабівацца атрымання першаму, абыходзячы іншых: *апярэджаць, перадзіць...*
34. Дабівацца вяртання доўгу: *сысківаць, спаганяць...*
35. Дабівацца перамогі ў дужанні: *бораць, бароць, дужаць...*
36. Дабівацца перамогі з працяглымі намаганнямі: *адольваць, адаляць, пабораць...*
37. Уцягваць у рот вадкасць з напружаннем (праз невялікую адтуліну): *ссаць, сасаць...*
38. Ссаць прагна, гучна: *смактаць, цмактаць...*
39. Ссаць падманку (пра дзіця): *сусліць, смактаць суслу...*

40. Ссаць праз трубачку: *дудліць...*
41. Выціскаць з вымя каровы, казы малако: *даіць...*
42. Даіць пакрысе: *цыркаць...*

**п)** ***Ажыццяўляць вырабніцтва або стварэнне***

1. Ствараць фізічнай працай: *рабіць, дзелаць...*
2. Рабіць хату, хлеў: *будаваць, строіць, ставіць...*
3. Рабіць сцены будынка з бярвення: *рубіць...*
4. Рабіць будынак (скляпенне) з цэглы, каменняў: *мураваць, класці...*
5. Рабіць печ, комін: *класці, лажыць...*
6. Рабіць дарогу: *класці, пракладваць...*
7. Рабіць падлогу ў хаце: *масціць, слаць, сцяліць...*
8. Рабіць столь у хаце: *сталіць...*
9. Рабіць цэлае з частак: *складаць, састаўляць...*
10. Рабіць кубло (пра птушак): *віць...*
11. Рабіць грэблю: *гаціць...*
12. Рабіць плот: *гарадзіць...*
13. Рабіць плот з лазы: *плесці, вязаць, віць...*
14. Рабіць кошыкі з лазы: *плесці...*
15. Рабіць панчохі, рукавіцы, карункі спіцай ці на прутках: *вязаць, плесці...*
16. Рабіць палатно з нітак для рыбалоўных прылад: *вязаць, плесці...*
17. Рабіць вяроўку: *віць...*
18. Рабіць ніткі з валакна, воўны: *прасці...*
19. Рабіць звітыя са столак ніткі: *сукаць...*
20. Рабіць палатно з нітак на ставах: *ткаць...*
21. Рабіць аснову: *снаваць...*
22. Рабіць адзенне: *шыць...*
23. Рабіць з матэрыялу часткі для адзення: *кроіць...*
24. Рабіць валёнкі: *валіць, біць...*
25. Рабіць скруткі роўнага адборнага валакна, счэсваючы яго на грэбені: *мыкаць...*
26. Рабіць цеста для хлеба, бліноў: *тварыць, учыняць, рашчыняць...*
27. Рабіць страву: *гатаваць, гатовіць...*
28. Рабіць алей: *біць, ціснуць...*
29. Рабіць каўбасы: *чыніць, начыняць...*
30. Рабіць масла: *біць, калаціць...*
31. Рабіць крупы ў млыне: *драць...*
32. Рабіць крупы ў ступе: *таўчы...*
33. Рабіць брагу: *рашчыняць, калаціць...*
34. Рабіць самагонку з брагі: *гнаць...*
35. Рабіць з металу ў кузні: *каваць, куць...*
36. Рабіць з металу адмысловыя спражкі, упрыгожанні для збруі: *чаканіць...*

37. Рабіць з гумы абутак: *клеіць...*
38. Рабіць з бляхі посуд: *паяць...*
39. Рабіць невялікія рэчы: *майстраваць, масцярыць, майстрыць...*
40. Рабіць дзіркі: *свідраваць, свердліць, круціць...*
41. Рабіць неглыбокія ямачкі: *калупаць, карпаць, корпаць, кавыраць...*
42. Рабіць яму (сажалку): *капаць...*
43. Рабіць ходы пад зямлёй або раўкі на паверхні: *рыць...*
44. Рабіць стог, мэндлікі, бабку, стос: *класці, складаць...*
45. Рабіць дрэнныя ўчынкі: *тварыць, утвараць...*
46. Паведамляць вусна, голасам думкі: *казаць...*
47. Казаць казкі: *баіць, казаць, расказаць...*
48. Казаць лухту: *чаўпці, верзці, плесці...*
49. Казаць непрыстойнасці: *плявузгаць, ругацца...*
50. Казаць нудна: *кнэціць...*
51. Казаць глупствы: *глуздзіць...*
52. Паведамляць пісьмова: *пісаць...*
53. Пісаць хутка: *страчыць....*

**р)** ***Расчляняць на часткі або кавалкі***

1. Расчляняць на часткі або кавалкі для кожнага паасобку: *дзяліць...*
2. Расчляняць на часткі нажом: *кроіць, рэзаць...*
3. Расчляняць на палоскі нажом: *кроіць...*
4. Расчляняць матэрыю, лісты бляхі, скуры нажніцамі: *кроіць...*
5. Расчляняць на дробныя частачкі: *крышыць...*
6. Расчляняць на часткі тупым нажом: *крэмсаць, крамсаць...*
7. Рэзаць на частачкі качаны капусты на спецыяльным прыстасаванні: *шаткаваць, шатраваць...*
8. Расчляняць на часткі ўдарам: *біць...*
9. Расчляняць на часткі палена: *калоць, біць, сячы, секчы...*
10. Расчляняць палена па трэшчыне або на трэскі: *шчапаць, сляпаць...*
11. Расчляняць на часткі ўдарамі сякеры ці якога-набудзь іншага прадмета з завостранай плоскасцю: *сячы, секчы...*
12. Расчляняць на часткі пілою: *піліць, пілаваць, рэзаць...*
13. Расчляняць лісты шкла на часткі алмазам: *рэзаць...*
14. Расчляняць на часткі пругкае сілаю: *ламаць...*
15. Расчляняць на часткі матэрыю, паперу сілаю: *драць, рваць...*
16. Драць гучна: *шарпаць...*
17. Расчляняць сілаю на часткі вяроўку, нітку: *рваць...*
18. Расчляняць па шву: *пароць...*
19. Расчляняць на дробныя кавалачкі ўдарамі: *драбіць...*
20. Расчляняць на дробныя кавалачкі сцісканнем: *трушчыць...*
21. Расчляняць на парахню сухое: *церці...*
22. Расчляняць на дробныя частачкі на тарцы: *церці, драць...*
23. Расчляняць зерне на муку: *малоць...*

24. Малоць тонка пасля абдзіркі: *пытляваць, вальцаваць...*
25. Расчляняць на часткі зубамі: *кусаць...*
26. Аддзяляць палову: *палавініць...*
27. Аддзяляць асобна: *адасабляць, раздзяляць...*

**с) *Рабіць апрацоўку***

1. Апрацоўваць глебу плугам: *араць, пахаць...*
2. Араць паўторна: *мяшаць, дваіць...*
3. Араць дзірван, ляда: *драць...*
4. Апрацоўваць ворыва: *баранаваць, скарадзіць, скародзіць...*
5. Баранаваць пасля засеву: *валачыць, пахаць...*
6. Баранаваць у некалькі слядоў: *траіць...*
7. Апрацоўваць радкі бульбы: *акучваць, ганяць...*
8. Апрацоўваць уручную зацвярдзелую глебу на градах, каб была мяккай: *рыхліць...*
9. Апрацоўваць пасевы, ачышчаючы іх ад зелля: *палоць...*
10. Апрацоўваць гліну, каб была вязкай і густой, цеста на хлеб: *мясіць, мяшаць...*
11. Апрацоўваць гразкае ў вадзе: *мыць...*
12. Мыць дзіця: *купаць, мыць...*
13. Мыць бялізну: *мыць, сціраць...*
14. Мыць пасля сціркі ў чыстай вадзе: *паласкаць...*
15. Мыць бялізну на рэчцы з пранікам: *праць, перыць...*
16. Апрацоўваць бялізну ў шчолаку: *жлукціць, заліць...*
17. Апрацоўваць бялізну ў растворы крухмалу: *крухмаліць, лашчаніць...*
18. Апрацоўваць бялізну на круглай палцы зубчатым прэсам: *качаць, магляваць...*
19. Апрацоўваць гарачым прэсам: *прасаваць, гладзіць, уцюжыць...*
20. Апрацоўваць гразнае механічна (шчоткай, скраблом, наждачнай паперай): *чысціць...*
21. Чысціць моцна, для бляску: *драіць...*
22. Чысціць воўну на машыне: *часаць...*
23. Чысціць валакно ад кастры (лён, пянька): *трапаць...*
24. Чысціць салому на кулі: *трэсці...*
25. Чысціць малако праз марлю: *цадзіць...*
26. Чысціць зерне ад мякіны на машыне: *арфаваць, веяць...*
27. Веяць уручную лапаткай: *веяць, лапаціць...*
28. Веяць зерне або крупы у начоўках: *палаць...*
29. Веяць на ветры: *ветрыць...*
30. Чысціць боб, фасолю, арэхі ад шалухі: *лузаць, лускаць, лузгаць...*
31. Чысціць маладую бульбу: *чысціць, скабліць, лупіць...*
32. Чысціць моркву, брукву, рэдзьку і г.д.: *чысціць...*
33. Чысціць старую бульбу: *лупіць, скабліць...*
34. Чысціць кару з бервяна: *карыць, акорваць...*

35. Чысціць дрэва ад галін або поле, луг ад хмызу: *церабіць...*
36. Чысціць новую вяроўку ад кастры на круку: *шмуляць, смурыжыць, шмульгаць...*
37. Чысціць аўчыну: *скабліць...*
38. Чысціць семкі сланечніка, гарбузоў ад шалухі: *лушчыць, лускаць...*
39. Чысціць рыбу: *срэбсці, чысціць, скабліць, карыць...*
40. Апрацоўваць бервяно сякерай: *цясаць, часаць, карыць...*
41. Апрацоўваць палку нажом: *стругаць...*
42. Апрацоўваць рубанкам, гэблем: *габляваць, стругаць...*
43. Апрацоўваць вялікім гэблем: *фугаваць...*
44. Апрацоўваць клёпкі: *стружыць...*
45. Апрацоўваць да гладкасці: *шліфаваць...*
46. Апрацоўваць жала касы малатком на бабцы: *кляпаць...*
47. Апрацоўваць снапы са збожжам: *малаціць...*
48. Малаціць уручную аб церніцу ці ўслон: *біць, аббіваць...*
49. Малаціць лён пранікам: *біць...*
50. Апрацоўваць валакно лёну на грэбень: *часаць, мыкаць...*
51. Апрацоўваць да стану мяккасці: *мяць...*
52. Мяць і раскусваць зубамі: *жаваць, жваць...*
53. Рабіць вострым: *тачыць, вастрыць, гастрыць...*
54. Вастрыць касу на лузе: *мянціць, мантачыць, лапаціць, трапаць...*
55. Вастрыць серп: *зубіць...*
56. Прышываць нашыўку на край матэрыі ў адзенні: *лямаваць...*
57. Апрацоўваць агнём паверхню: *смаліць, паліць...*
58. Аббіраць патаемна плады на дрэве: *латашыць...*

т) ***Пакрываць звонку***

1. Пакрываць хату страхою: *крыць...*
2. Крыць самы верх страхі: *вільчыць...*
3. Пакрываць кроквы латамі: *рашэціць, лаціць...*
4. Пакрываць сцены звонку ў хаце цёсам: *шаляваць...*
5. Пакрываць сцены глінаю: *тынкаваць, каліць, штукатурыць...*
6. Пакрываць пол, мост дошкамі або гразную дарогу лесам: *слаць, масціць...*
7. Пакрываць стол, пасцель: *слаць...*
8. Пакрываць спецыяльна дарогу каменнем: *брукаваць...*
9. Пакрываць рану: *завязваць, заверчваць, бінтаваць...*
10. Пакрываць дзірку новым кавалкам матэрыялу: *латаць, лапіць...*
11. Латаць ніткамі (панчохі, рукавіцы і г.д.): *цыраваць, лапіць...*
12. Пакрываць шклом: *шкліць, сцякліць...*
13. Пакрываць упрыгожваннямі: *аздабляць, украшаць...*
14. Пакрываць каня сядлом: *сядлаць...*
15. Пакрываць сцены ці дошкі паперай, шпалерамі: *клеіць, ляпіць...*
16. Пакрываць густым зверху: *мазаць...*

17. Мазаць алеем: *masліць...*
18. Мазаць тлушчам: *масціць...*
19. Мазаць гуталінам боты, бацінкі: *ваксаваць, чысціць...*
20. Мазаць кітам вокны: *кітаваць...*
21. Мазаць дзёгцем: *квацаць, квэцаць, кваклiць...*
22. Пакрываць фарбаю: *фарбаваць, красiць...*
23. Пакрываць пакостам: *алiфiць, пакосцiць...*
24. Пакрываць чырвонаю фарбаю шчокi: *румянiць, красiць ...*
25. Пакрываць фарбаю вусы: *фабрыць, красiць...*
26. Пакрываць фарбаю скуру (аўчыны): *красiць...*
27. Пакрываць белым: *бялiць...*
28. Пакрываць чырвоным: *чырванiць...*
29. Пакрываць жоўтым: *жаўцiць...*
30. Пакрываць зялёным: *зелянiць...*
31. Пакрываць сiнiм: *сiнiць...*
32. Пакрываць чорным: *чарнiць...*
33. Пакрываць золатам: *залацiць...*
34. Пакрываць серабром: *серабрыць...*
35. Пакрываць воскам: *вашчыць...*
36. Пакрываць пудраю: *пудрыць...*
37. Пакрываць слiнаю: *слiнiць, слюнявiць...*
38. Пакрываць гаршкi палiваю: *палiваць, аблiваць...*
39. Пакрываць палiваю чыгуны ўнутры: *лудзiць...*
40. Пакрываць мылам зверху: *мылiць...*
41. Пакрываць гарачаю смалою (пiкам) дно лодкi, бочкi: *смалiць...*
42. Пакрываць густою замазкаю перад афарбоўкай: *грунтаваць...*
43. Закрываць дзiркi чым-небудзь шчыльна: *затыкаць...*
44. Затыкаць шчыльна атрэп'ем: *канапацiць...*
45. Канапацiць мохам: *мшыць...*
46. Замазваць шчылiны: *шпакляваць...*
47. Пакрываць гразёю: *гразнiць, гразiць, брудзiць, брудніць...*
48. Пакрываць вадкай стравай адзенне: *вадзгаць, вадзекаць...*
49. Пакрываць адзенне тлустым да бляску: *шмальцаваць...*
50. Пакрываць брудам твар: *мурзаць, гразiць...*
51. Пакрываць крывёю: *крывянiць, крывавiць...*
52. Пакрываць брудам цi фарбаю адзенне ў асобных месцах: *плямiць...*
53. Пакрываць густымi плямамi: *пэцкаць...*
54. Пакрываць плямамi да стракатасцi: *пярэсцiць, рабiць стракатым...*
55. Пакрываць узорамi матэрыю пры дапамозе iголкi i нiтак: *вышываць...*
56. Пакрываць паперу лiтарамi: *пiсаць...*
57. Пакрываць паперу лiтарамi на машыне: *друкаваць, пячатаць...*
58. Пакрываць паперу (тканiну) вобразамi: *маляваць, рысаваць...*
59. Пакрываць паперу роўнымi рыскамi: *лiнеiць, крэслiць...*
60. Пакрываць рыскай напiсанае: *крэслiць, чыркаць, касаваць...*

61. Пакрываць знакамі: *меціць, пазначаць, ставіць меткі...*
62. Меціць за сейбітам: *ляшыць...*
63. Меціць лес: *біць...*
64. Меціць скаціну: *кляйміць, клеймаваць...*
65. Меціць пашу: *заторкваць, вешыць...*
66. Пакрываць смеццем: *сурыць, смеціць, смецціць, гразіць...*
67. Засмечваць вока: *запарушаць, засураць...*
68. Пакрываць насеннем палетак: *сеяць...*

**ф) *Змяняць па становішчы***

1. Убіраць верх: *здымаць, знімаць, сымаць...*
2. Здымаць расліны, зразаючы сярпом: *жаць...*
3. Здымаць расліны, зразаючы касою: *касіць...*
4. Здымаць расліны з коранем уручную: *рваць...*
5. Рваць лён, каноплі: *рваць, браць, церабіць...*
6. Здымаць ураджай бульбы: *капаць, рыць...*
7. Здымаць кару, скуру: *лупіць, бяліць...*
8. Лупіць лазу, ліпу: *драць...*
9. Здымаць валасы (поўсць) машынкай, нажніцамі: *стрыгчы...*
10. Здымаць валасы брытваю: *галіць, брыць, стрыгчы...*
11. Здымаць пер'е з забітай птушкі: *скусці, скубсці...*
12. Здымаць верх з расліны рэзкім ударам нажа (ці кулі): *ссякаць, сцінаць...*
13. Прыводзіць дзіця: *раджаць, радзіць...*
14. Прыводзіць мёртвае дзіця: *скідаць, абарціраваць...*
15. Прыводзіць цяля: *цяліць...*
16. Прыводзіць жарабя: *жарабіць...*
17. Прыводзіць парася: *парасіць...*
18. Прыводзіць ягня: *ягніць, каціць...*
19. Прыводзіць казяня: *казіць, казляніць...*
20. Прыводзіць шчаня: *шчаніць...*
21. Прыводзіць кацяня: *кацяніць...*
22. Прыводзіць куранят: *выводзіць...*
23. Прыводзіць шмат патомства: *пладзіць, плоіць...*
24. Выпускаць ікру: *мятаць...*
25. Класці яечкі: *несці, класці...*
26. Прыводзіць стаячае ў ляжачае становішча: *валіць...*
27. Валіць вялікае: *бурыць...*
28. Валіць праз верх: *куляць, абарочваць, пераварочваць...*
29. Перакочваць на другі бок: *варочаць...*
30. Варочаць старонкі ў кнізе: *гартаць, лістаць...*
31. Дасягаць поўнага знікнення: *нішчыць...*
32. Нішчыць пад корань: *караніць...*
33. Нішчыць да пустаты: *пустошыць...*

34. Нішчыць без карысці і патрэбы: *глуміць...*
35. Нішчыць агнём: *паліць...*
36. Паліць да поўнага знішчэння: *папяліць...*
37. Нішчыць ядамі: *травіць...*
38. Нішчыць у вадзе: *тапіць...*
39. Нішчыць жывое: *губіць...*
40. Нішчыць жывёлу, людзей голадам: *марыць...*
41. Нішчыць без паветра: *душыць...*
42. Нішчыць агонь: *тушыць...*
43. Тушыць подыхам: *гасіць...*
44. Нішчыць збудаванне сілаю: *бурыць...*
45. Пазбаўляць дзіця бацькоў: *сіраціць...*
46. Пазбаўляць чалавека свабоды: *арыштоўваць, садзіць...*
47. Пазбаўляць чалавека волі: *няволіць...*
48. Няволіць за даўгі (у мінулым): *кабаліць...*
49. Пазбаўляць свабоды рухаў, звязваючы ногі (пра каня): *путаць...*
50. Путаць, прывязваючы адначасова да пута повад аброці: *трыножыць...*
51. Закладаць каню цуглі: *кілзаць, муздаць...*
52. Пазбаўляць сябе незнарок і без намеру таго, што было: *губіць, губляць, траціць, цяраць...*
53. Рабіць супругамі: *жаніць...*
54. Жаніць у царкве: *вянчаць...*
55. Рабіць разрозненае адзіным цэлым: *яднаць, злучаць...*
56. Яднаць у асобныя невялікія аб'яднанні: *групаваць...*
57. Збіраць у валкі сена граблямі: *грэсці, грэбці, грабіць, грэсці ў вал...*
58. Рабіць граблямі пласты сена: *пластаваць...*
59. Складаць высокія горкі паперы, кніг: *стасаваць...*
60. Рабіць спрасаваныя звязкі сена, саломы: *цюкаваць...*
61. Насаджваць адно наверх на другое (на нітку каралі): *нізаць...*
62. Нізаць на зубец, рыбу: *мятаць...*
63. Нізаць грыбы для сушкі: *саджаць...*
64. Насаджваць на кручок прыманку: *нажыўляць, накладаць...*
65. Рабіць перамяшчэнне ежы ў горле: *глытаць...*
66. Аддаваць узятае: *вяртаць, аддаваць...*
67. Рабіць асобу членам сям'і, групы, калектыву, кампаніі: *прымаць...*
68. Выводзіць асобу з групы, калектыву: *выключаць, выганяць, выкідаць, вычышчаць, вытураць...*
69. Адводзіць убок палец: *тапырыць...*
70. Адстаўляць убок локаць: *дубырыць...*

**х) *Надаваць новую якасць***

1. Ператвараць вялікае ў малое: *меншыць, меніць, змяншаць...*
2. Ператвараць наадварот: *большыць, боліць, павялічваць...*

3.Ператвараць буйное ў малое: *драбніць, драбіць...*
4.Ператвараць наадварот: *буйніць...*
5.Ператвараць высокае ў малое: *нізіць, ніжыць...*
6.Ператвараць наадварот: *высіць, вышыць...*
7.Ператвараць шырокае ў меншае па шырыні: *вузіць, вужыць...*
8.Ператвараць наадварот: *шырыць...*
9.Ператвараць доўгае ў меншае па даўжыні: *караціць...*
10.Ператвараць наадварот: *даўжыць...*
11.Ператвараць далёкае ў менш далёкае: *блізіць...*
12. Рабіць наадварот: *даліць, аддаляць...*
13. Аддаляць у часе: *даўніць...*
14.Ператвараць тоўстае ў меншае па аб'ёму: *таніць...*
15.Ператвараць наадварот: *таўсціць, грубіць...*
16.Ператвараць прамое ў нявроўнае: *крывіць...*
17.Ператвараць наадварот: *праміць, раўняць, правіць...*
18. Крывіць у дугу: *гнуць...*
19. Гнуць на бок: *хіліць, хінуць, кланіць...*
20. Хіліць на бок пасудзіну: *гнуць, гбаць...*
21.Ператвараць слабое ў моцнае, устойлівае: *крапіць, мацаваць...*
22. Рабіць наадварот: *слабіць...*
23.Ператвараць старое ў нестарое: *маладзіць...*
24. Рабіць наадварот: *старыць...*
25.Ператвараць густое ў менш густое: *рэдзіць, радзіць...*
26.Ператвараць наадварот: *гусціць...*
27. Меншыць па хуткасці: *цішыць, ціхаміраць...*
28. Рабіць наадварот: *скорыць...*
29.Ператвараць у падобнае на шар: *кругліць...*
30. Рабіць кіслым: *кісліць...*
31. Рабіць салодкім: *саладзіць...*
32. Рабіць горкім: *гарчыць, гарэніць...*
33. Рабіць салёным: *саліць, саланіць...*
34. Рабіць прэсным: *прэсніць, прасніць...*
35. Рабіць нехалодным: *цяпліць...*
36. Рабіць наадварот: *халадзіць, халадніць...*
37. Рабіць замерзлым: *маразіць, марозіць...*
38. Рабіць няцвёрдым: *мякчыць...*
39. Рабіць няпосным: *тлусніць, жырніць...*
40. Рабіць поўнае пустым (пасуду): *парожніць, паражніць...*
41. Рабіць наадварот: *поўніць...*
42. Рабіць непразрыстай (ваду): *муціць, каламуціць...*
43. Рабіць нявострым: *тупіць...*
44. Рабіць на вострым насечкі: *зубіць...*
45. Рабіць на вострым значныя пашкоджанні: *шчарбіць...*
46. Рабіць мяккі метал цвёрдым: *каліць, гартаваць...*
47. Рабіць чыстае грязным: *брудзіць, грязніць...*

48. Гразніць чым-небудзь вельмі дрэнным: *паганіць*, *гадзіць*, *гнюсіць*, *паскудзіць*...
49. Рабіць менш складаным: *прасціць*...
50. Рабіць насцярожаным і нацягнутым: *напружваць*...
51. Рабіць спелым: *спеліць*...
52. Даводзіць да страты адчувальнасці: *мярцвіць*...
53. Рабіць інвалідам: *калечыць*...
54. Рабіць сляпым: *сляпіць*...
55. Рабіць глухім: *глушыць*...
56. Рабіць нічога не разумеючым і не адчувальным: *бязвечыць*...
57. Рабіць вадкасць пакрытай пухіркамі: *пеніць*...
58. Ператвараць дрэнныя адносіны паміж ворагамі ў добрыя: *мірыць*...
59. Рабіць наадварот: *сварыць*...
60. Ператвараць незнаёмых у знаёмых: *знаёміць*, *знакоміць*...
61. Ператвараць чужых у сваіх блізкіх: *радніць*...
62. Рабіць пастку пастаўленай для лову: *спудзіць*...
63. Рабіць з адтулінай: *дзіравіць*...
64. Даводзіць да зажыўлення: *гаіць*...
65. Даводзіць забітую жывёлу да сканання: *свяжыць*...
66. Даводзіць п'янага да стану няп'янага чалавека: *цверазіць*, *цвярозіць*...
67. Рабіць калматым: *калмаціць*, *лахмаціць*...
68. Рабіць валасы збітымі ў касмыкі: *кудлаціць*...

у) ***Перарабляць стан або выгляд***

1. Гатаваць страву на агні: *варыць*...
2. Гатаваць на агні на скавародзе: *жарыць*, *пражыць*, *пячы*, *печ*, *прэгчы* *(прэжч)*...
3. Прэгчы сала: *скварыць*, *прэгчы*, *прэжч*...
4. Гатаваць у прысаку бульбу: *пячы*, *печ*...
5. Гатаваць каласкі жыта на агні: *прэгчы*, *пражыць*, *смажыць*...
6. Гатаваць гародніну, бульбу на агні ў пасудзе з невялікім дадаткам вады: *парыць*, *варыць*...
7. Надаваць цяплынь: *грэць*...
8. Грэць ваду да булькацення: *кіпяціць*, *варыць*...
9. Грэць цвёрдае рэчыва да ператварэння ў вадкае: *тапіць*, *плавіць*, *распускаць*...
10. Гатаваць кіслае: *квасіць*...
11. Гатаваць рыбу высушваннем: *вяліць*...
12. Гатаваць мяса ў дыме: *вэндзіць*, *капціць*...
13. Рабіць гнілым: *гнаіць*...
14. Рабіць непрыгодным, няспраўным: *порціць*, *псаваць*...
15. Рабіць памятым: *мяць*, *камячыць*, *камечыць*...
16. Мяць у камяк: *камячыць*, *камкаць*...

17. Рабіць няроўнай, уздутай паверхню ліста: *каробіць, карабаціць...*
18. Рабіць няроўным гладкае: *моршчыць...*
19. Апускаць бровы (ад нездавальнення): *хмурыць, супіць...*
20. Сціскаць павекі ад сонца: *жмурыць...*
21. Рабіць расціснутым: *давіць...*
22. Давіць да плоскага стану: *плюшчыць...*
23. Давіць груба, з сілай на кавалкі: *мяжджэрыць, мяжджуліць...*
24. Давіць і ламаць нагамі: *таптаць...*
25. Таптаць дашчэнту: *драсаваць, пляжыць, дратаваць...*
26. Рабіць роўным: *раўняць, праміць, прастаць...*
27. Скручваць ніткі ў клубок: *матаць...*
28. Перамешваць беспарадкава: *блытаць, плутаць...*
29. Рабіць сапсаванае (зношанае) прыгодным: *ладзіць, правіць, рамантаваць...*
30. Аддзяляць вострым частачкі ад цэлага: *калупаць, длубаць...*
31. Калупаць вострым з размаху: *дзяўбаць, даўбаць, дзяўбсці...*
32. Аддзяляць зубамі частачкі ад цэлага: *грызці...*
33. Пашкоджваць або гразніць адзенне знізу: *абдрапваць...*
34. Рабіць свойскім: *прыручаць...*

## II. ДЗЕЙНАСЦЬ

### а) *Выяўляць характар заняткаў*

1. Займацца пастаяннай карыснай дзейнасцю: *працаваць, рабіць, работаць...*
2. Выконваць абавязкі ва ўстанове або ў арміі: *служыць, работаць, працаваць...*
3. Працаваць у магазіне: *гандляваць, таргаваць...*
4. Займацца вызначэннем для іншых іх напрамку дзейнасці: *кіраваць, рукавадзіць, правіць, упраўляць...*
5. Кіраваць пры дапамозе загадаў: *камандаваць...*
6. Займацца промыслам дзікіх звяроў: *паляваць, ахоціцца, палясаваць...*
7. Займацца ловам рыбы: *рыбачыць, рыбакаваць...*
8. Выконваць абавязкі на вайне: *ваяваць...*
9. Займацца папрашайніцтвам па хатах: *жабраваць, старкаваць, жабрачыць...*
10. Выконваць абавязкі неадлучнага назіральніка або вартаўніка: *дзяжурыць...*
11. Працаваць на іншага за ўтрыманне: *парабкаваць...*
12. Прымаць актыўныя захады па ажыццяўленні намераў: *дзейнічаць, дзействаваць...*
13. Займацца пастаянным уважлівым назіраннем: *сачыць, слядзіць...*
14. Займацца правядзеннем чырвоных каляндарных дзён: *святкаваць, празнаваць...*

15. Праводзіць па-святочнаму час у блізкіх: *гасцяваць, гасціць...*
16. Праводзіць час у размовах: *бавіць, барыць...*
17. Праводзіць час без справы: *гуляць...*
18. Гуляць на рабоце: *лайдачыць, лайдакаваць, лодырнічаць, гультаяваць...*
19. Гуляць у карты: *карцёжнічаць...*
20. Гуляць з песнямі і танцамі: *танкі віць, карагоднічаць, калядаваць...*
21. Займацца піццём гарэлкі: *п'янстваваць...*
22. П'янстваваць шумна, буйна: *бусаць, бусаваць, буяніць, буяць...*
23. Займацца выкананнем мелодый на музычным інструменце: *іграць...*
24. Іграць на гармоніку: *пілікаць, піліць, іграць...*
25. Іграць няўмела на струнным інструменце: *дрынкаць, брынкаць, брынчэць...*
26. Займацца выкананнем мелодый голасам: *пець, пяяць, спяваць...*
27. Займацца рытмічнымі рухамі пад музыку: *танцаваць, скакаць, плясаць, гуляць...*
28. Займацца распусканнем здагадак, чутак: *пляткарнічаць, сплетнічаць...*
29. Займацца гуллівай беганінай: *гарэзаваць, балавацца...*
30. Займацца залішне шумнай беганінай і валтузнёй: *дурэць...*
31. Выяўляць пакрыўджанасць паводзінамі: *капрызнічаць, блазнаваць...*
32. Паднімаць крык, бойку, гвалт: *буяніць...*
33. Буяніць моцна: *вар'яваць, шалець, верадаваць...*
34. Паднімаць крык, лаянку: *скандаліць, сварыцца...*
35. Наводзіць у напрамку таго, куды трэба папасці: *цэліць, цаляць...*
36. Рабіць выбухі са зброі: *страляць...*
37. Выказвацца вусна: *гаварыць...*
38. Гаварыць адзін з другім: *гаманіць, размаўляць, разгаварваць, бяседаць...*
39. Гаманіць паціху: *зюкаць, жупіць...*
40. Гаварыць паважна глупства: *гавэндзіць, мямліць...*
41. Гаварыць крыкліва глупства: *вякаць...*
42. Гаварыць меркавальна: *дзейкаць...*
43. Гаварыць глупствы, нікчэмнасць: *плявузгаць, чаўпсці, трындзіць...*
44. Гаварыць з'едліва, насмешліва: *кпіць, насміхацца, змушчацца...*
45. Гаварыць няпраўдзіва: *маніць, хлусіць, лгаць, лыгаць, брахаць...*
46. Гаварыць помсліва: *гразіць, пагражаць...*
47. Гаварыць удзячна: *дзякаваць, благадарыць, спасібкаць...*
48. Гаварыць непаважныя, нядобрыя словы старэйшаму чалавеку: *грубіць, грубіяніць, хаміць...*
49. Гаварыць ускосны напамін: *намякаць...*
50. Гаварыць жалобы, крыўды на лёс, на чалавека: *наракаць, скардзіцца, жаліцца...*
51. Гаварыць абы-што: *базыкаць, бзыкаць...*
52. Гаварыць непрыстойнасці: *блюзніць...*

53. Гаварыць бесталкова: *буроіць, далдоніць, талдоніць, талдычыць...*
54. Гаварыць скрозь сон: *трызніць...*
55. Гаварыць адзін другому ўразрэз, даказваць адзін аднаму: *спрачацца, спорыць...*
56. Займацца прадказаннем на картах: *варажыць, гадаць...*
57. Прадказваць вельмі правільна: *праўдзіць...*
58. Выклікаць смех, вяселле дасціпнымі словамі, гуллівымі дзеяннямі: *жартаваць, шуткаваць...*
59. Займацца абдурваннем, аблічваннем: *махляваць, махлярыць...*
60. Займацца вырашэннем задач сваім розумам: *думаць, маракаваць...*
61. Думаць услых: *разважаць, рассуждаць...*
62. Думаць не зусім пэўна: *меркаваць...*
63. Думаць пра нязбытнае: *марыць...*
64. Думаць як у сне, ярка, вобразна: *роіць, мроіць, мрожыць, грэзіць...*
65. Выказвацца на паперы: *пісаць...*
66. Пісаць хутка: *страчыць...*
67. Пісаць зацята: *шрайболіць...*
68. Пісаць з цяжкасцямі, павольна: *слібізаваць...*
69. Займацца дробнай, тонкай справай неадрыўна, не разгінаючыся: *карпець, гнібець, гірбець...*
70. Займацца справай з ашуканствам і падманам: *хітраваць, хітрыць...*
71. Займацца незвычайнымі ўскладненнямі: *мудрагеліць, мудраваць, мудрыць...*
72. Займацца адмысловымі хітрыкамі: *пракудзіць...*
73. Запавольваць са справай: *марудзіць...*
74. Блытацца пад рукамі, умешвацца без патрэбы ў выкананне справы: *замінаць, мяшаць, перашкаджаць...*
75. Мяшаць, збіваючы з парадку: *бунтаваць...*
76. Займацца нанясеннем урону грамадству, асобе: *шкодзіць, урадзіць...*
77. Выяўляць асобе разуменне яе гора, няшчасця: *спачуваць, сачуствоваць...*
78. Займацца патураннем капрызаў: *гадзіць, дагаджаць...*
79. Гадзіць з падхалімствам: *угоднічаць...*
80. Праяўляць прыязнасць да асобы і асаблівую ўвагу да яе патрэб: *прыяці, спрыяць...*
81. Праяўляць актыўную ўвагу па забеспячэнню патрэб у будучым: *дбаць, рупіцца...*
82. Выказваць нязгоду на задавальненне просьбы: *адмаўляць, адказваць...*
83. Выяўляць упірлівасць у адносінах да выканання загаду: *супаратаваць, тупяніцца, натурыцца, упірыцца...*
84. Выяўляць гора слязамі: *плакаць...*
85. Плакаць моцна: *рыдаць...*
86. Плакаць уголас: *выць...*
87. Плакаць надакучліва, цягуча: *румзаць, скверціся...*

88. Рабіць дрэнны пах: *смуродзіць, ванець...*
89. Выпукваць дым: *дыміць, дымець...*
90. Дыміць чорным дымам пры гарэнні: *капціць, капцець...*
91. Дыміць без агню: *курэць...*
92. Дыміць порцыямі: *пыхкаць, пыхцець...*
93. Узнімаць сухую зямлю ў паветра: *паліць...*
94. Рабіць відна: *свяціць, асвятляць...*
95. Рабіць кароткія яркія ўспышкі: *бліскаць...*
96. Бліскаць моцна: *зяхаць, палыхаць...*
97. Бліскаць слаба, здалёку: *мігаць, міргаць, мігцець...*
98. Закрываць свет: *цяніць, засезіць, засезяняць, засціць...*
99. Рабіць цёмна навокал: *цямніць...*
100. Скакаць у ваду галавою ўніз: *ныраць...*

**б) *Рабіць рухі***

1. Уцягваць у лёгкія паветра і выпускаць: *дыхаць...*
2. Адкрываць і закрываць рот без дыхання: *зяваць...*
3. Выпускаць моцным струменем паветра: *дуць, дмуць, дзьмуць, дзьмухаць, дмухаць...*
4. Вызваляцца ад сліны ў роце: *пляваць...*
5. Уцягваць у рот страву з лыжкі: *сёрбаць, сярбаць...*
6. Разяваць рот ад жадання спаць: *зяваць, пазяхаць, пазяваць...*
7. Вызваляцца канвульсіўна праз рот ад ужытай стравы, пітва: *ванітаваць, рваць, рычаць...*
8. Рабіць рэзкія рухі (нагою, рукою): *дрыгаць...*
9. Падкідваць заднія ногі (пра цяля, карову): *брыкаць...*
10. Прыпадаць на нагу праз руку: *кульгаць, храмаць, чыкільгаць...*
11. Рабіць рухі пальцамі: *шавяліць, шаваліць...*
12. Рабіць рухі рукамі пры гаворцы: *махаць, жэстыкуляваць...*
13. Рабіць дробныя рухі ўсім целам (ад холаду, страху): *дрыжаць, дрымцець, дрыгацець...*
14. Рабіць рухі хвастом (пра сабаку): *віляць, віхаць, віхляць...*
15. Рабіць рухі хвастом (пра каня): *махаць, матляць, круціць...*
16. Рабіць рухі галавою: *ківаць, матляць...*
17. Рабіць рухі вушамі пры прыслухоўванні (пра каня): *стрыгчы...*
18. Рабіць хуткія рухі поглядам: *зіркаць...*
19. Рабіць рухі вейкамі: *міргаць, моргаць...*
20. Рабіць рухі вейкамі пры неразуменні (*неадабральна*): *лыпаць, лупаць...*
21. Рабіць рухі галлём (пра дрэвы): *шугаць...*
22. Рабіць шумныя рухі (пра ваду): *бушаваць...*
23. Рабіць рухі на лёдзе: *слізгаць, коўзаць...*
24. Рабіць рухі крыламі: *махаць...*
25. Махаць крыламі хутка: *трапятаць...*

в) ***Падаваць голас***

1. Падаваць голас (пра сабак): *гаўкаць...*
2. Гаўкаць зацята: *брахаць, лаяць...*
3. Гаўкаць, ідучы па следу звера: *яхкаць, вяхкаць, яхаць, вяхаць...*
4. Гаўкаць надаедліва, навязліва: *звягаць...*
5. Гаўкаць рэдка, нягучна: *цяўкаць, вяхаць, вякаць...*
6. Падаваць голас папрасліва (пра сабаку): *скавытаць, скуголіць...*
7. Падаваць голас (брахаць) высока, рэзка: *яўкаць, якатаць...*
8. Падаваць голас працягла, сумна (пра сабак, ваўкоў): *выць...*
9. Падаваць папераджальна нізкі гарлавы гук: *гырчаць, гурчаць, гуркаць, гыркаць, гуркатаць, гаркатаць, буркаць, рычаць, гаркаць, гаргатаць...*
10. Падаваць голас (пра ката): *яўкаць, мяўкаць, каўкаць, каўчыць...*
11. Каўкаць запрашальна, заклікальна: *курняўкаць...*
12. Каўкаць папрасліва: *канькаць, канаць...*
13. Падаваць нізкі злосны гук (пра ката): *вурчаць, вуркаць, вуркацець, вуркатаць...*
14. Падаваць нізкі галодны гук (пра ката): *мурчаць, муркаць, муркацець, мурлыкаць...*
15. Падаваць голас (пра каня): *ржаць, рзаць...*
16. Ржаць моцна: *рагатаць...*
17. Падаваць голас (пра карову): *мукаць, мыкаць, мычэць, рыкаць...*
18. Мукаць моцна: *раўці, рычаць, рыкаць...*
19. Мукаць (пра цяля): *мэкаць...*
20. Мукаць нізка бесперапынна (пра быка): *бомкаць...*
21. Падаваць голас (пра авечку): *бляяць, бэкаць, мэкаць, мекаць...*
22. Падаваць голас (пра казу): *бэкаць, мэкаць...*
23. Падаваць голас (пра свінню): *рохкаць, рухаць, хрукаць...*
24. Падаваць голас пры ўзбуджанасці (пра свінню): *клякатаць...*
25. Падаваць голас працягла, высока: *пішчаць, вішчаць, квічаць, скуголіць...*
26. Падаваць голас тужліва, прызыўна (пра свінню): *гудзець...*
27. Рохкаць спалохана: *вухкаць, вухаць...*
28. Падаваць голас (пра курыцу): *сакатаць...*
29. Сакатаць спалохана: *кудахтаць...*
30. Сакатаць, водзячы куранят: *кохаць, квактаць...*
31. Сакатаць перад пасадкай на яйкі: *квахтаць, квактаць...*
32. Падаваць голас (пра пеўня): *кукарэкаць, пець...*
33. Падаваць засцерагальны голас (пра пеўня): *кыркаць...*
34. Падаваць роспачны голас (пра курэй): *крычаць...*
35. Падаваць голас (пра куранят): *ціўкаць, пішчаць...*
36. Падаваць голас (пра гусей): *сегаць, гагаць, гагатаць, гаргатаць, грагаць, тэркаць...*

37. Падаваць голас (пра качак): *кракаць, крэкаць, крахаць, гракаць...*
38. Падаваць голас (пра мыш): *пішчаць, піскаць...*
39. Падаваць голас (пра вераб'я): *ціўкаць, ціліўкаць, цвінькаць...*
40. Падаваць голас (пра сароку): *стракатаць, сакатаць, шчабятаць, трашчаць, скігітаць, чычыкаць, чэкаць, чырыкаць...*
41. Падаваць голас (пра голуба): *варкаваць...*
42. Падаваць голас (пра малых птушак): *шчабятаць...*
43. Шчабятаць меладычна: *пець, спяваць...*
44. Пець (пра салаўя): *цёхкаць, шчоўкаць...*
45. Пець (пра шпака): *свістаць...*
46. Пець (пра івалгу): *свістаць, крычаць...*
47. Падаваць голас (пра варону): *кракаць, каркаць...*
48. Падаваць голас (пра крука): *крумкаць...*
49. Падаваць голас (пра зязюлю): *кукаваць, куваць, кукаць...*
50. Падаваць голас (пра галак): *крычаць...*
51. Падаваць голас (пра цецерукоў): *балбатаць...*
52. Падаваць голас (пра жаб): *квакаць, крумкаць, кумкаць, крактаць...*
53. Падаваць голас (пра мышэй): *пішчаць...*
54. Падаваць голас (пра цвыркуна): *цвыркаць, цыркаць...*
55. Падаваць моцна голас (пра чалавека, людзей): *крычаць...*
56. Крычаць ад болю: *лямантаваць...*
57. Крычаць з плачам: *выць, галасіць...*
58. Крычаць дзіка, нізка: *раўці...*
59. Крычаць моцна без прычыны і патрэбы: *гарлапаніць, гарланіць...*
60. Падаваць голас ад нясцерпнага болю: *енчыць, кленчыць, якатаць...*
61. Падаваць голас ад пакутлівага болю: *стагнаць, вохкаць...*
62. Падаваць голас ад нечаканага болю: *войкаць, охкаць, вохкаць, ахкаць, ахаць...*
63. Падаваць голас невыразна, ціха пры гаворцы: *мармытаць...*
64. Падаваць голас у нос (пры размове): *гугнявіць, вугнявіць...*
65. Падаваць голас ад смеху: *рагатаць, хахатаць...*
66. Падаваць голас ад смеху ціха: *хіхікаць...*
67. Падаваць голас на ўвесь лес, на ўсю вёску: *галёкаць, аукаць...*
68. Падаваць гукі пры размове адным паветрам без голасу: *шаптаць...*

**г) *Утвараць гук***

1. Мець гучанне: *гучаць, гучэць, звучаць...*
2. Утвараць працяглы высокі гук, прапускаючы паветра скрозь сціснутыя губы: *свістаць, свісцець...*
3. Утвараць нізкі гук нездавальнення губамі: *фыркаць, фуркаць...*
4. Утвараць гук, выдыхаючы рыўком паветра: *хукаць, фукаць...*
5. Утвараць гук, дыхаючы моцна праз нос: *сапці...*
6. Утвараць моцныя нізкія гукі ў час сну носам або горлам: *храпці, храпець...*

7. Утвараць гук рэзкімі пацяжкамі паветра носам: *шмыгаць, шморгаць...*
8. Шмыгаць "мокрым" носам: *хлюпаць, хліпаць...*
9. Утвараць гук рэзкімі выдыхамі паветра праз нос: *чмыхаць...*
10. Утвараць дрыжачы гук носам (пра каня): *сарпаць, фыркаць...*
11. Утвараць гук рэзкім выштурхваннем слізі з носа пры дапамозе паветра: *сморгаць, смаркаць, сякаць...*
12. Утвараць гук рэзкім выдыхам паветра пры раздражненні ў носе (насмарку): *чхаць, чыхаць...*
13. Утвараць гук пры плачы праз нос: *хныкаць, хмыкаць...*
14. Утвараць гук, часта і моцна дыхаючы праз рот: *хакаць, хаўкаць...*
15. Утвараць гук рэзкім штуршком паветра пры раздражненні ў горле: *кашляць...*
16. Кашляць і чхаць разам: *пярхаць, кырхаць...*
17. Утвараць дрыжачы гук пры дыханні: *храпець...*
18. Утвараць гук пры выштурхванні слізі з горла: *харкаць, кархаць...*
19. Утвараць гукі пры выпусканні паветра са страўніка праз горла: *рычаць, адрыгваць...*
20. Утвараць высокі, захліпваючы гук пры рэзкіх спазмах у горле: *ікаць, гікаць, шчыкаць, шчоўкаць...*
21. Утвараць рэзкія шчоўкаючыя гукі пры ўдзеле языка: *цокаць, цмокаць...*
22. Цокаць з удзелам губ: *цмокаць...*
23. Утвараць гукі пры выдыханні з напружваннем: *крахтаць, кректаць...*
24. Утвараць пры ўдзеле языка свісцячы гук: *сыкаць, цыкаць...*
25. Утвараць пры ўдзеле языка шыпячыя гукі: *шыпець, шыкаць...*
26. Утвараць гук ударамі па металу: *званіць, балабоніць...*
27. Званіць ў вялікі звон: *бомкаць, баўкаць, блямкаць...*
28. Адзывацца звонам пры ўдары: *звінець...*
29. Званіць асобнымі рэдкімі гукамі: *дзвінкаць, звянькаць, блямкаць, бомкаць...*
30. Утвараць гук праз трубу: *трубіць...*
31. Трубіць парам у спецыяльную трубку (на параходзе, на заводзе): *гусці, гудзець, трубіць...*
32. Трубіць у сігнал на аўтамашыне: *пікаць, піпікаць, сігналіць...*
33. Утвараць гук парам, прапускаючы яго пад ціскам праз адтуліну: *сіпець, шыпець...*
34. Утвараць гук трубы падэшвамі абутку па нягладкай паверхні: *шаркаць, шархаць...*
35. Утвараць гук пры чыстцы наждачнай паперай: *шоргаць...*
36. Утвараць гук нямазанымі praколамі, варотамі, новымі ботамі: *рыпець, скрыпець...*
37. Рыпець моцна, прарэзліва і раздражняльна: *рыгаць, скрыгаць, скрыгатаць, скрыгітаць...*

38. Утвараць ціхі нізкі гук сухім лісцем, сенам, паперай: *шамаць, шаматаць, шамацець, шапацець...*
39. Шамацець зялёным лісцем на дрэвах: *шалясцець, шапацець, шумець...*
40. Шалясцець аднастайна, густа і моцна: *шумець...*
41. Утвараць раскацісты цяжкі магутны і нізкі гук: *грымець...*
42. Грымець з моцнымі раскатамі: *грахатаць, грукатаць, грукацець...*
43. Утвараць адрывістыя звонкія гукі пры ламанні сухога дрэва: *трашчаць, трэскаць, траскатаць, траскацець...*
44. Утвараць булькаючы гук (пры падаванні струменяў вады): *цурчаць, цюрчаць, турчаць...*
45. Цурчаць, бегучы між каменьчыкаў (пра ручай): *журчаць, зурчаць, гурчаць...*
46. Утвараць булькаючы гук бурным ручаём вады: *бурлець, булькацець, булькаць...*
47. Утвараць нізкі гук голаса пры выкананні хорам песень: *басаваць...*
48. Утвараць моцны цяжкі гук узрывам: *бахаць, вухаць, бухаць, грохаць...*
49. Утвараць адрывістыя гукі ціхімі ўдарамі: *стукаць, стучаць...*
50. Стукаць моцна: *грукаць, гручаць, грукацець, грукатаць, грокаць...*
51. Стукаць звонка: ляпаць, ляскаць, ляскатаць, ляскацець, тахкаць...
52. Стукаць моцна цяжкім: *бухаць...*
53. Стукаць металічным: *бразкаць, бразчэць, бразкатаць, бразкацець, бразчаць...*
54. Стукаць нагамі: *тупаць, тупацець, топаць, тапацець, тэпаць, гоцаць...*
55. Стукаць ціха металам аб метал: *звякаць...*
56. Стукаць далонню: *пляскаць...*
57. Стукаць крыламі: *лопаць, хлопаць, лапатаць...*
58. Стукаць плашмя па вадзе: *плёскаць, пялёскаць, плёхаць, плюхаць...*
59. Стукаць цяжка па мяккаму: *чмякаць, шмякаць...*
60. Стукаць злёгку і звонка (у акно): *барабаніць...*
61. Стукаць у бубен: *бубнець, барабаніць...*
62. Утвараць нізкі гук пры перажоўванні сена (пра жывёлу): *хрумстаць, хрускаць...*
63. Утвараць нізкі гук пры перажоўванні пладоў: *храбусцець, храбустаць, храпацець, храпаць...*
64. Утвараць звонкі адрывісты гук губамі для падганяння каня: *цмокаць...*
65. Утвараць булькатлівы гук нагамі, ідучы па мокрай траве, па балоце: *чвякаць...*
66. Утвараць гук нутром пры бегу (пра жарабца): *ёкаць...*

## III. СТАН

***а) Праяўляць стан***

1. Знаходзіцца (праяўляцца) у рэчаіснасці: *быць...*
2. Быць у вертыкальным становішчы: *стаяць...*
3. Быць у гарызантальным становішчы: *ляжаць, валяцца...*
4. Быць, размяшчаючыся нізам тулава, нізам ствала: *сядзець...*
5. Стаяць, высоўваючыся ўверх: *тырчаць, тарчэць...*
6. Быць прычэпленым за верх: *вісець...*
7. Быць жывым і дзейсным: *жыць...*
8. Жыць неактыўна, слаба: *існаваць, ліпець, мадзець...*
9. Жыць зіму: *зімаваць...*
10. Жыць лета: *летаваць...*
11. Быць дзень: *дняваць...*
12. Быць ноч: *начаваць...*
13. Начаваць на варце каля коней: *начлежнічаць...*
14. Быць у стане сну: *спаць...*
15. Спаць неглыбока, седзячы: *драмаць...*
16. Быць вольным пасля работы: *адпачываць, аддыхаць...*
17. Быць у стане паступовага натуральнага павелічэння: *расці, росць, рэсць...*
18. Быць пакрытым кветкамі: *цвісці, квітнець, красаваць...*
19. Быць у стане выкідання каласоў: *каласаваць, выплываць, высыпацца...*
20. Быць пахучым: *пахнуць, ванець...*
21. Пахнуць моцна, дрэнна: *ваняць, ванець...*
22. Пахнуць вельмі моцна, рэзка: *смярдзець, смуродзець...*
23. Быць успрымальным на слых: *гучаць, звучаць...*
24. Быць у нездаровым стане: *хварэць, балець...*
25. Балець (пра косці): *ныць, ламіць, ламаць...*
26. Балець нямоцна, востра (пра рану): *шчымець, ныць...*
27. Балець са свербам: *зудзець, свярбець, часацца, ятрыцца...*
28. Балець паціху (пра зуб): *знібець, ныць...*
29. Балець да рвоты (пра жывот): *нудзіць, ташніць, вадзіць, блажыць...*
30. Быць пакрытым агнём: *гарэць...*
31. Гарэць без агню, паціху: *тлець, цмець...*
32. Гарэць вялікім агнём: *палаць...*
33. Гарэць ледзь-ледзь (пра малую лямпу): *зарыць...*
34. Быць яркім: *бліцчаць, бліщчэць...*
35. Бліщчаць як сонца: *ззяць, сіяць...*
36. Бліщчаць на сонцы ярка: *зіхацець, мігцець, мільгацець, мігацець...*
37. Быць нагрэтым да булькацення: *кіпець...*
38. Не падаваць гуку, не даваць адказу: *маўчаць, маўчэць...*
39. Быць намерана сур'ёзным, паважным: *важнічаць, вашакеміцца...*
40. Быць у вельмі добрых і блізкіх адносінах: *сябраваць, дружыць, таварышавацца...*
41. Быць без ежы: *галадаць...*

42. Быць у цяжкім стане жыцця: *гараваць...*
43. Гараваць моцна: пакутаваць...
44. Гараваць пры недахопах: *бедаваць, бедстваваць...*
45. Быць у стане нездавальнення за адмову ці абразу: *крыўдаваць, абіжацца, крыўдзіцца...*
46. Быць у стане раздражнення: *злаваць, зліцца...*
47. Быць у дрэнным настроі ад адзіноты, незанятасці: *сумаваць, нудзіцца, скучаць...*
48. Сумаваць па страце: *смуткаваць, тужыць, нудзіцца...*
49. Быць поўным уладаром: *панаваць...*
50. Быць у стане цечкі (пра карову): *паляваць, бегаць, гуляць...*
51. Паляваць (пра авечку): *меркетаць...*
52. Паляваць (пра кабылу): *паліць...*
53. Паляваць (пра свінню): *шляхатаць, гудзець...*
54. Паляваць (пра катоў): *марцаваць...*
55. Паляваць (пра сабак): *гуляць, бегаць...*
56. Быць у прыкметнай цяжарнасці (пра жывёлу): *значыць, значыцца...*
57. Быць у наяўнасці (пра дождж, снег): *ісці, падаць...*
58. Ісці рэдкімі кроплямі: *пырскаць, брызкаць, крапаць, кропаць...*
59. Ісці дробным густым туманам: *імжаць, імгліць...*
60. Ісці паціху, аднастайна (пра дождж): *церусіць, сыпаць, трусіць...*
61. Ісці моцна (пра дождж): *ліць...*
62. Ісці моцна (пра снег): *валіць...*
63. Ісці моцна з ветрам: *сячы...*
64. Быць у стане скідвання поўсці, пер'яў: *лінаць, ліняць...*
65. Скідваць скуру: *аблазіць, аблязаць...*

**б) *Знаходзіцца ў набыцці стану***

1. Рабіцца (станавіцца) гатовым для ўборкі (пра плады, зерне раслін): *спець...*
2. Рабіцца з абвіслым лісцем пры недахопе вады і спякоце: *вянуць, вяць...*
3. Рабіцца слабым, недаразвітым ад недахопу спажыўных рэчываў: *чахнуць, чэзнуць, ніцець...*
4. Рабіцца слабым, з апушчаным голлем: *нікнуць...*
5. Рабіцца абязводжаным, мёртвым (пра расліну): *сохнуць, сохці...*
6. Рабіцца крыху падсохлым, цвёрдым (пра зямлю): *чаўраць, чаўрэць, каўрэць...*
7. Рабіцца сухімі (пра губы): *смагнуць, смягнуць, сохнуць...*
8. Рабіцца нежывым (пра чалавека): *мерці, паміраць...*
9. Рабіцца нежывым (пра жывёл): *дохнуць, здыхаць, канаць, падаць...*
10. Паміраць ад няшчаснага выпадку: *гінуць, гібнуць...*
11. Рабіцца амаль непрытомным, бяссільным зрабіць рух: *млець, абміраць...*

12. Рабіцца бяссільным: *слабнуць...*
13. Рабіцца часова без свядомасці: *непрытомнець, абмерці...*
14. Рабіцца слабым (пра свет): *меркнуць...*
15. Рабіцца знікаючым (пра агонь): *гаснуць, тухнуць...*
16. Рабіцца зусім нячутным (пра чалавека): *моўкнуць...*
17. Рабіцца нячутным, заспакоеным: *ціхнуць...*
18. Рабіцца без слыху або рабіцца непраходным (пра лес): *глухнуць, глохнуць...*
19. Заставацца без бацькоў: *сірацець...*
20. Заставацца без мужа (жонкі): *удавець...*
21. Рабіцца са шчылінай (пра пасуду, паверхню): *трэскацца...*
22. Трэскацца ад нацяжэння: *лопаць, лопацца, покаць, покацца...*
23. Трэскацца (пра скуру ног, рук): *рэпацца, трэскацца, лопацца, шчапацца, скіпацца...*
24. Рабіцца пакрытым белым налётам (ад сырасці): *плеснець, браснець, броснець...*
25. Набірацца вільгаці: *мокнуць, мякнуць...*
26. Рабіцца вельмі мокрым і цяжкім ад вады: *бракнуць, брыняць...*
27. Рабіцца мокрым ад выдзяленняў скуры пры гарачыні (на працы): *пацець, урэць...*
28. Рабіцца вельмі мокрым і разлезлым ад вады: *плюхнуць...*
29. Рабіцца пакрытым слізzю: *слізнуць, склізнуць...*
30. Распадацца ад раскладання: *гнісці, гніць...*
31. Рабіцца ад раскладання мяккім (пра драўніну): *трухнуць, трупехнуць...*
32. Гнісці ад сырасці зверху: *прэць...*
33. Рабіцца пры гніенні з дрэнным пахам: *тухнуць...*
34. Рабіцца на смак з квасам: *кіснуць...*
35. Рабіцца на смак з горыччу: *горкнуць, гарэніць...*
36. Горкнуць (пра масла): *ёлкнуць, гарэніць...*
37. Рабіцца на смак саладкаватым: *саладжаць...*
38. Рабіцца на смак (на нюх) непрыемным: *брыднуць...*
39. Рабіцца раздутым ад захворвання: *пухнуць, похнуць...*
40. Рабіцца пакрытым гразёю: *гразнуць...*
41. Рабіцца пакрытым засохлай гразёю: *карэць...*
42. Рабіцца заселым у гразь: *грузнуць, вязнуць...*
43. Рабіцца тонучым у вадзе, гразі: *топнуць...*
44. Рабіцца не зусім цёплым: *халадаць...*
45. Рабіцца халодным і студзяністым: *стыць, стынуць...*
46. Рабіцца здранцвелым на холадзе: *калець...*
47. Калець на марозе: *мерзнуць...*
48. Калець да пасінення на ветры з марозам: *зызнуць...*
49. Калець да страты рухомасці: *зябнуць...*
50. Рабіцца моцным: *дужаць, крэпнуць, мацнець...*
51. Рабіцца без голаса: *сіпнуць...*

52. Рабіцца з дрыжачым голасам ад прастуды: *хрыпнуць...*
53. Рабіцца няжыдкім: *гуснуць, гусцець...*
54. Рабіцца пакрытым шэранню: *інець, шарэць, шаранець...*
55. Рабіцца пакрытым воблакамі: *хмурнуць, хмарнуць, хмарнець, хмурнець...*
56. Рабіцца зусім жоўтым: *жоўкнуць...*
57. Рабіцца чырвоным (пра неба на ўсходзе): *зараць...*
58. Рабіцца неаплоджанай: *ялавець...*
59. Рабіцца пакрытым усходамі (пра поле): *рунець...*

**в)** ***Знаходзіцца ва ўзмацняльным стане***

1. Рабіцца (станавіцца) усё менш і менш цёмным або больш празрыстым: *святлець...*
2. Рабіцца ўсё святлей і святлей на дварэ: *віднець...*
3. Рабіцца ўсё святлей і святлей пасля ночы: *днець, віднець...*
4. Рабіцца ўсё цямней на дварэ пасля заходу сонца: *вечарэць, сутонець...*
5. Рабіцца ўсё больш падобным на ноч: *цямнець...*
6. Рабіцца ўсё больш і больш цёмным на колеры: *чарнець...*
7. Рабіцца па колеры ўсё больш падобным да снегу: *бялець...*
8. Рабіцца па колеры васількоў усё больш густым: *сінець...*
9. Рабіцца па колеры неба ўсё больш густым: *галубець, блакітнець...*
10. Набываць усё больш густую афарбаванасць па колеры травы: *зелянець...*
11. Набываць усё больш густую афарбаванасць па колеры спелых памідораў: *чырванець, краснець...*
12. Рабіцца ўсё больш яркім і свежым па чырвані (пра губы, шчокі): *пунсавець, пунцавець, ружавець, краснець...*
13. Набываць усё большую яркасць (пра лісце на дрэвах увосень): *жаўцець...*
14. Рабіцца ўсё больш яркім у бок чырвонага колеру (пра валасы): *рыжэць, рудзець...*
15. Рабіцца ўсё больш белым пад старасць па колеры валасоў: *сівець, бялець...*
16. Рабіцца ўсё больш ні светлым, ні цёмным: *шарэць, сярэць...*
17. Рабіцца ўсё больш шэрым на твар ад перажыванняў, траціць паступова фарбу: *бляднець...*
18. Рабіцца ўсё больш чырванавата-сінім па колеры пры распуханні ці нарыванні: *бруснець...*
19. Рабіцца ўсё больш хмарным, шэрым, змрочным (пра надвор'е): *хмурнець, пахмурнець...*
20. Рабіцца ўсё большым па аб'ёму: *таўсцець, грубець...*
21. Таўсцець у сувязі з ростам плода (пра самку): *грубець...*
22. Рабіцца ўсё больш запоўненым: *паўнець...*

23. Таўсцець ад тлушчу: *тлусцець, жырнець, сыцець...*
24. Рабіцца ўсё больш важкім: *грузнець, цяжэць, цяжалець, ямчэць...*
25. Рабіцца ўсё больш поўным і сытым (пра каня): *спраўнець...*
26. Рабіцца ўсё больш падобным да шара: *круглець...*
27. Набываць усё больш і больш сілы: *дужэць, крапчэць, мацнець...*
28. Рабіцца ўсё больш і больш падобным да дарослага мужчыны: *мужнець, мажнець...*
29. Набываць усё больш сілы пасля хваробы: *здаравець...*
30. Пастулова пераставаць балець: *лепшаць, луччэць, луччаць...*
31. Рабіцца ўсё больш працяглым: *даўжэць, дліннець...*
32. Цягнуцца ўсё больш і больш уверх: *вышэць, вісачэць, высачэць...*
33. Рабіцца ўсё менш і менш далёкім: *бліжэць...*
34. Рабіцца ўсё менш і менш блізкім: *далець, далячэць...*
35. Павялічвацца па памеры (пра плады): *буйнець...*
36. Павялічвацца па глыбіні: *глыбець, глыбачэць...*
37. Павялічвацца па колькасці, росту, вазе: *большаць, болець...*
38. Змяншацца па колькасці, росту: *меншаць, менець...*
39. Змяншацца па вышыні: *ніжэць, нізець...*
40. Змяншацца па даўжыні: *карацець, карачэць...*
41. Змяншацца па таўшчыні: *танець, танчэць...*
42. Змяншацца па аб'ёму (пра плады): *драбнець, мялчэць, мяльчэць, меншаць...*
43. Змяншацца па глыбіні: *мялець, мялчэць, мяльчэць...*
44. Траціць паступова паўнату і сытасць: *худзець, худнець...*
45. Рабіцца ўсё больш і больш слабым, малым, бяссільным: *мізарнець, блажэць...*
46. Мізарнець (пра парася): *кажанець...*
47. Рабіцца ўсё больш бяссільным, нямоцным: *слабець...*
48. Рабіцца ўсё больш і больш дрэнным: *горшаць, гораць, хужэць, хужаць, драннець...*
49. Рабіцца ўсё больш немаладым па ўзросту: *старэць...*
50. Старэць вельмі: *псець...*
51. Рабіцца на выгляд менш старым: *маладзець, малажавець...*
52. Рабіцца ўсё менш і менш мяккім: *цвярдзець...*
53. Рабіцца ўсё больш цвёрдым і сухім (пра хлеб): *чэрствець, чарствець, цвярствець, цвярдзець...*
54. Рабіцца ўсё больш падобным па цвёрдасці і неадчувальнасці да каменя: *камянець...*
55. Рабіцца ўсё больш падобным па цвёрдасці да косці: *касцянець, кастнець, касцявець...*
56. Рабіцца ўсё больш падобным па цвёрдасці да драўніны: *дзеравянець, дзервянець...*
57. Рабіцца сагнутым і скручаным ад холаду, сушы: *карчанець, курчанець...*

58. Рабіцца цвёрдым і нягнуткім (пра скураны абутак, кажух): *лубянець, лубець...*
59. Паступова выцягвацца ў дубец і застываць: *пруцянець, дранцвець, драцянець...*
60. Рабіцца нерухомым і непрытомным (ад страху): *мярцвець...*
61. Рабіцца ўсё менш і менш цёплым: *халаднець...*
62. Рабіцца менш цвёрдым: *мякчэць...*
63. Паступова пакрывацца карычневым налётам (пра жалезнае): *ржавець...*
64. Рабіцца з усё больш прыкметным плешам на галаве: *лысець...*
65. Рабіцца ўсё больш мяккім ад гніення (пра драўніну): *трухлець, трухлявець, трухнець, трупехнуць, парахнець...*
66. Рабіцца яшчэ больш трухлявым: *парахнець...*
67. Рабіцца ўсё больш несухім: *сырэць...*
68. Сырэць яшчэ больш: *макрэць...*
69. Сырэць (пра паветра): *вільгатнець, улажнець...*
70. Рабіцца ўсё больш падобным да вады: *вадзянець...*
71. Рабіцца ўсё менш і менш чыстым: *гразнець, гразець, брудзець, брудзянець, бруднець...*
72. Гразнець (пра адзенне): *бруднець, гразіцца...*
73. Рабіцца ўсё больш дрэнна пахнучым ад гніення: *тухлець...*
74. Рабіцца ўсё больш падобным на смак да кары асіны: *гарчэць...*
75. Гарчэць (пра масла): *ялчэць...*
76. Рабіцца ўсё больш падобным на смак да цукру: *саладзець, саладчэць...*
77. Рабіцца ўсё больш падобным на смак да квасу: *кіслець...*
78. Рабіцца ўсё больш прыемным на смак: *смачнець...*
79. Рабіцца ўсё менш частым: *радзець...*
80. Рабіцца ўсё больш чыстым: *чысцець...*
81. Рабіцца ўсё менш рэдкім: *гусцець...*
82. Рабіцца ўсё больш заглушаным зеллем: *травянець, травець...*
83. Рабіцца пакрытым усё больш шчыльна густою травою: *дзірванець...*
84. Рабіцца ўсё больш спакойным: *цішэць, спакайнець...*
85. Рабіцца ўсё больш тугім на вуха: *глушэць, глухнуць, глохнуць...*
86. Рабіцца ўсё больш маўклівым: *нямець...*
87. Рабіцца ўсё больш крывым на вочы: *касець, крывець...*
88. Рабіцца ўсё больш крывым у спіне (плячах): *гарбець, гарбацець...*
89. Рабіцца ўсё больш не прамым: *крывець...*
90. Рабіцца ўсё больш пакладзістым: *дабрэць...*
91. Рабіцца ўсё больш радасным: *весялець...*
92. Рабіцца ўсё менш радасным: *сумнець, скучнець...*
93. Рабіцца ўсё менш баязлівым: *смялець...*
94. Рабіцца менш свойскім: *дзічэць...*
95. Рабіцца ўсё больш безразважным, апантаным: *шалець, вар'яцець, бязумець, чмурэць...*

96. Рабіцца ўсё больш разважным: *разумнець...*
97. Рабіцца ўсё менш разумным: *дурнець...*
98. Рабіцца ўсё больш ненармальным ад выпітай гарэлкі: *п'янець, хмялець...*
99. Дасягаць усё большага і большага дастатку: *багацець...*
100. Рабіцца ўсё больш небагатым: *бяднець...*
101. Рабіцца ўсё больш небагатым на адзенне: *галець...*
102. Падымацца ўсё больш і больш у цане: *даражэць...*
103. Рабіцца ўсё больш недарагім: *дзешавець, таннець...*

## IV. ПЕРАМЯШЧЭННЕ

### а) *Займацца перамяшчэннем у прасторы*

1. Займацца самаперамяшчэннем на нагах звычайна: *хадзіць...*
2. Хадзіць заклапочана каля гаспадаркі: *тупаць, топаць, таптацца...*
3. Хадзіць без дарог па полі, па лесе: *блукаць, брадзіць, бадзяцца...*
4. Хадзіць, страціўшы арыенціроўку: *блудзіць, блутаць, плутаць...*
5. Хадзіць павольна і асцярожна або паважна: *ступаць...*
6. Хадзіць асцярожна на пальцах ног: *дыбаць...*
7. Хадзіць без мэты: *брындаць, шлындаць, швэндаць, шляцца, басцяцца, валэндацца, бадзяцца...*
8. Хадзіць узад-уперад па пакоі: *шпацыраваць...*
9. Хадзіць услед: *цягацца, валачыцца, швэндацца...*
10. Хадзіць працягла па краіне з мэтай азнаямлення: *вандраваць, падарожнічаць...*
11. Хадзіць, туляючыся, вышукваючы: *шпарыць, шныраць, шнырыць, шныпарыць...*
12. Займацца хуткім самаперамяшчэннем на нагах: *бегаць...*
13. Бегаць з тупатам і крыкам (*неадабральна*): *гойсаць, гайсаць, гарцаць...*
14. Бегаць хутка: *насіцца, лётаць...*
15. Бегаць з хаты ў хату: *лахаць...*
16. Бегаць ад мух, аваднёў (пра кароў): *зыкаць, гізаваць, гіляваць, страчацца, бзыкаць...*
17. Бегаць шмат па справах: *матацца, мітусіцца...*
18. Займацца перамяшчэннем сябе на транспарце: *ездзіць...*
19. Ездзіць хутка (галопам) верхам на добрым кані: *гарцаваць, скакаць...*
20. Займацца перамяшчэннем з месца на месца з усёй маёмасцю вялікім табарам: *качаваць...*
21. Ездзіць або бегаць хутка кругом па наваколлі: *калясіць...*
22. Ездзіць для прагулкі: *катацца...*
23. Ездзіць на каньках, саначках з гары: *коўзацца, каўзацца, слізгацца, катацца...*

24. Займацца перамяшчэннем вялікай масай: *рухацца, дзвігацца...*
25. Займацца перамяшчэннем сябе па вадзе: *плаваць...*
26. Займацца перамяшчэннем на чацвярэньках (уверх па дрэвах): *лазіць...*
27. Займацца самаперамяшчэннем на брусе (пра чарвей, гадзюк, насякомых і пад.): *поўзаць...*
28. Займацца самаперамяшчэннем у паветры: *лятаць, лётаць...*
29. Лятаць без узмахаў крыламі: *лунаць...*
30. Займацца перамяшчэннем лётам, перыядычна адштурхваючыся рэзка ад зямлі: *скакаць, пырхаць, прыгаць...*
31. Самаперамяшчацца ўверх: *падымацца, паднімацца...*
32. Самаперамяшчацца ўніз: *апускацца, апушчацца...*
33. Апускацца ўніз хутка і свабодна: *падаць, валіцца...*
34. Падаць з плескам на зямлю: *шмякаць, шлякаць, пякаць, шмякацца...*
35. Падаць на ваду: *пляскацца...*
36. Падаць з вялікім шумам: *грохаць, грохацца...*
37. Самаперамяшчацца струменем або ручаём (пра вадкасць): *цячы, ліцца...*
38. Займацца самаперамяшчэннем па замкнутай лініі: *кружыць, круціцца, кругляць...*

**б) *Накіроўвацца ў асобным напрамку***

1. Накіроўвацца шагам: *ісці, іціць...*
2. Ісці энергічна: *шагаць, крочыць, сігаць...*
3. Ісці павольна, стомлена: *клыпаць...*
4. Ісці ўвесь час (усю дарогу) пехатою: *трапаць...*
5. Накіроўвацца трухам: *бегчы...*
6. Бегчы энергічна: *шпарыць...*
7. Бегчы на ўсю моц: *імчаць, несціся...*
8. Бегчы птушкаю: *ляцець...*
9. Бегчы паціху, адным вагам (пра каня): *трухаць, трусіць...*
10. Бегчы галопам: *скакаць...*
11. Накіроўвацца, перамяшчаючыся на брусе: *паўсці...*
12. Накіроўвацца, перамяшчаючыся па вадзе: *плыць, плысці...*
13. Накіроўвацца, перамяшчаючыся па паветры: *ляцець...*
14. Накіроўвацца, перамяшчаючыся транспартам: *ехаць...*
15. Ехаць з форсам, хутка: *каціць...*
16. Пачаць рух: *рушыць, дзвінуцца, сунуцца...*
17. Накіроўвацца на чацвярэньках (уверх або ў вузкі ход): *паўзці...*
18. Накіроўвацца няспешна ўслед: *цягнуцца...*
19. Цягнуцца праз сілу: *валачыся, валочца, валоцца...*
20. Накіроўвацца напралом, немаведама куды: *перці...*

## V. АДНОСІНЫ

а) ***Паказваць адносіны да ўласнай дзейнасці***

1. Мець намер дзейнічаць: *намервацца*, *намярацца*, *надумвацца* (я намерваюся (намяраўся), надумаўся з'ездзіць)...
2. Намервацца дзейнічаць яшчэ толькі ў галаве: *думаць*, *мысліць* (я думаю (мыслю), што так добра будзе)...
3. Намервацца дзейнічаць у выніку няпэўных разваг: *меркаваць*, *думаць*, *прадпалагаць* (я меркаваў (думаў, прадпалагаў зрабіць да света)...
4. Мець канчатковую думку дзейнічаць: *рашыць* (я рашыў пераехаць)...
5. Рашыць, праяўляючы смеласць: *рашыцца*, *адважвацца* (мы не рашыліся сказаць)...
6. Мець неажыццявімую думку пра дзейнасць: *марыць*, *мрыяць*, *мрожыць*, *мячтаць* (ён марыў (мрожыў, мячтаў) пабудавацца не тут)...
7. Прыступіць да пачатку дзейнасці: *спрабаваць*, *пробаваць*, *пытацца* (ці спрабаваў (пробаваў, пытаўся) ты тут прайсці?)...
8. Мець жаданне дзейнічаць: *хацець* (мы хацелі прыйсці заўтра)...
9. Мець настойлівае жаданне дабіцца мэты: *імкнуцца*, *страміцца* (ён імкнуўся (страміўся) выбіцца ў людзі)...
10. Мець настойлівасць і прыналежнасць у дасягненні мэты: *старацца* (ён так стараўся вучыцца)...
11. Мець намер выкарыстаць зручны момант для дзейнасці: *цаляць*, *цэліцца* (ты даўно цаляў (цэліўся) сцягнуць)...
12. Мець клопат, турботу ад жадання дзейнічаць: *рупіць*, *карціць*, *не церпіцца* (яму рупіць (карціць, не церпіцца) пагуляць)...
13. Мець пачуццё жалю да прадмета ўздзеяння: *шкадаваць*, *жалець* (шкадую (жалею) адзяваць)...
14. Мець рашэнне дзейнічаць пры небяспецы: *рызыкаваць*, *рыскаваць* (мы рызыкнулі (рыскнулі) праскочыць)...
15. Мець жаданне дзейнічаць заўсёды па-свойму: *наравіць* (ён усё наравіць па-свойму зрабіць)...
16. Мець жаданне закончыць дзейнасць хутчэй: *спяшыць*, *спяшацца*, *паспяшаць*, *рвацца* (трэба спяшыць (спяшацца, паспяшаць, рвацца) дагнаць яго)...
17. Мець вялікую прыхільнасць да дзейнасці: *любіць* (ён так любіць рыбу лавіць)...
18. Мець магчымасць дзейнічаць: *магчы*, *магці* (я магла б паехаць заўтра)...
19. Мець дасведчанасць пра дзеянне: *ведаць*, *знаць* (я ведаю (знаю), што рабіць)...
20. Мець навыкі дзейнічаць: *умець* (ён умеў добра пець)...
21. Мець паняцце пра дзейнасць: *разумець*, *панімаць* (разумее (панімае), што сказаць)...

22. Мець здольнасць добра разумець пра дзейнасць: *кеміць*, *цяміць* (ты добра кеміш (цяміш), што трэба рабіць?)...
23. Мець звычай упускаць з памяці тое, што трэба зрабіць: *забываць*, *пазабываць*, *забывацца* (я забыў (пазабыў, забыўся) сказаць табе навасць)...
24. Мець неадменны абавязак дзейнічаць: *мусіць быць павінным*, *абавязаным*, *должным* (ты мусіш (павінен, абавязан, должан) узяць)...
25. Збіраць усё неабходнае для дзейнасці: *рыхтавацца*, *гатовіцца*, *збірацца* (ці ты рыхтуеш (гатовішся, збіраешся) святкаваць?)...
26. Даводзіць да парадку ўсё неабходнае для дзейнасці: *ладзіць*, *строіцца* (ён ладзіць, строіцца ехаць у госці)...
27. Мець выпадковыя абставіны для ажыццяўлення дзейнасці: *трапляць*, *пападаць* (будзе трапляць (пападаць) табе купіць дык купі)...
28. Прыступаць да дзейнасці: *пачынаць*, начынаць, зачынаць (нада пачынаць (начынаць, зачынаць) касіць)...
29. Завяршаць дзейнасць: *канчаць*, *заканчваць* (нада канчаць (заканчваць) работу)...

**б) *Паказваць адносіны да чужой дзейнасці***

1. Выказваць думку наконт дзейнасці: *гаварыць* (я гаварыў, што пара касіць)...
2. Выказвацца каротка наконт дзейнасці: *казаць* (я казаў не браць)...
3. Гаварыць тую ж прапанову яшчэ раз: *напамінаць*, *нагадваць* (напомні (нагадай) яму прысլаць мне доўг)...
4. Гаварыць запрашэнне да дзейнасці: *прасіць* (цябе просяць устаць)...
5. Прасіць ветліва наведацца або заняць ганаровае становішча: *запрашаць*, *зваць*, *прыглашаць* (запрасілі (пазвалі, прыгласілі) мяне зайсці да іх у госці)...
6. Гаварыць сваю думку адносна неабходнасці дзейнасці: *раіць*, *радзіць*, *саветаваць* (раіў (радзіў, саветаваў) мне купіць)...
7. Гаварыць рашэнне адносна далейшай дзейнасці: *паведамляць*, *ізвяшчаць* (паведамі ўсім сабрацца тут заўтра)...
8. Паведамляць каротка ўстаноўку адносна дзейнасці: *аб'яўляць* (аб'яві ўсім ісці дамоў)...
9. Гаварыць настойліва, голасна пра важнасць і наабходнасць удзелу ў дзейнасці: *заклікаць*, *прызываць* (я вас заклікаю (прызываю) да парадку)...
10. Выказваць канчатковую думку адносна далейшай дзейнасці: *прапаноўваць*, *прадлагаць* (ты што прапаноўваеш (прадлагаеш) рабіць зараз?)...
11. Гаварыць адносна згоды ў будучым на дзейнасць: *абяцаць*, *абяшчаць*, *дакляраваць* (ты ж абяцаў (абяшчаў, дакляраваў) напісаць)...

12. Гаварыць тое, што хацелася б, каб сустрэў чалавек у сваёй дзейнасці: *жадаць*, *зычыць*, *жалаць* (я табе жадаю (зычу, жалаю) правесці добра час)...

13. Паказваць (расказваць), як трэба разумець, жыць, дзейнічаць: *вучыць* (вас трэба вучыць жыць)...

14. Расказваць, як трэба разумець, рашаць: *тлумачыць*, *аб'ясняць* (увесь вечар тлумачыў (аб'ясняў) яму задачы)...

15. Не даваць дзейнічаць рознымі шляхамі: *мяшаць*, *перашкаджаць*, *замінаць* (не мяшай (перашкаджай, замінай) мне спаць)...

16. Прасіць прыняць удзел у дзейнасці: *зваць* (заві яго есці)...

17. Зваць жывёлу, птушак: *маніць*...

18. Угаворваць на дзейнасць рознымі заахвочваннямі: *падбіваць*, *падбухторваць* (падбівалі (падбухторвалі) мяне паругацца з ім)...

19. Падштурхоўваць на дзейнасць нацкоўваннем: *падсыкаць*, *падвухраць*, *падджыгаць* (падсыкнулі (падвухрылі, падджыгнулі) яго выступіць)...

# ІНДЭКС

В

## Г

Д

О



П

У



Ф



Х

Ц



Ч



Ш

Ю



Я

## ЗМЕСТ



## З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК



## ФРАЗЕАЛОГІЯ

## НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ



## ТЭКСТЫ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

}

Навуковае выданне

# НАРОДНЫЯ СКАРБЫ

**Дыялекталагічны зборнік**

**Да 80-годдзя А.А. Крывіцкага**

Тэхнічны рэдактар *Гаўрыленка В.Р.*

Подписано в печать 12.05.2008. Формат 60x84 1/16 Бумага офсетная. Гарнитура Roman.
Печать цифровая. Усл.печ.л. 24,2. Уч.изд.л. 24,5. Тираж 100 экз. Заказ № 565
ИООО «Право и экономика» Лицензия ЛИ № 02330/0056831 от 01.04.2004.
220072 Минск Сурганова 1, корп. 2. Тел. 284 18 66, 8 029 684 18 66.
Отпечатано на настольно-издательской системе XEROX в ИООО «Право и экономика».

ISBN 978-985-442-543-6

